КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

*Юбілейны нумар*

# Часопісу “Культура. Нацыя” – 10 год

*заснаваны ў снежні 2012 года*



*“Атава”, малюнак Алёны Ляпко*

*Выданьне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе*

*Атава, Канада*

- **Пра часопіс!**

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

*Часопіс заснаваны ў 2012 годзе і напачатку меў назву “САКАВІК” (пад гэтай назвай выйшлі першыя шэсць нумароў). З 2018 года выходзіць два разы на год, да гэтага час выходзіў раз на квартал. З кастрычніка 2020 года часопіс набыў статус выданьня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ, Канада). Часопіс* ***“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”*** *публікуецца на вэб-старонцы* www.sakavik.net

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі і нацыянальнага будаўніцтва. Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах. Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.



*Атава, Канада*

# Зьмест 30-га нумара часопіса

*Прыемнага чытаньня*

*Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса*

*5 сьнежня 2022 года, Атава*

***Рэдакцыя віншуе сваіх чытачоў з Калядамі і Новым годам!***
***Зычым вам быць здаровымі, шчаслівымі і пасьпяховымі!***

## *Аб'ява:*

***часопіс запрашае дзяцей дасылаць свае малюнкі, вершы, расказы – пра Беларусь і па беларуску***

*Наступны 31-мы нумар часопіса выйдзе ў красавіку 2023 года*

*Слова рэдактара*

**Пётра Мурзёнак: ЧТО ДЕЛАТЬ? або ШТО РАБІЦЬ?**

*Гэтыя матэрыялы былі дасланы на канферэнцыю дэмакратычных сіл "Новая Беларусь", скліканай сп. С. Ціханоўскай (8-9 жніўня 2022 года, Вільнюс); змешчаны як прапановы для канферэнцыі на сайце www.sakavik.net ад 8 жніўня 2022 года.*

Анатацыя. Напісаньне гэтага артыкула было звязана з правядзеннем канферэнцыі "Новая Беларусь", арганізаванай камандай Святланы Ціханоўскай у Вільні, 8-9 жніўня 2022 года. Назва артыкула выбрана ў гонар і ў знак салідарнасці з праф. Уладзімірам Міцкевічам. У артыкуле абмяркоўваюцца два пытанні, вынесеныя на канферэнцыю: "Якімі павінны быць стратэгічныя прыярытэты нашай працы?" і "Як рэарганізаваць дэмакратычныя сілы?" Прапанавана: а) выказаць падзяку і падтрымку сп. С. Ціханоўскай і прасіць яе працягваць сваю дзейнасць у якасьці Нацыянальнага лідэра ў далейшым; б) правесьці структурную рэарганізацыю нацыянальна-сьвядомых сіл (абнаўленьне Прэзідыума Каардынацыйнага савета праз дэмакратычную працэдуру абраньня; правядзеньне паседжаньняў Прэзідыума ў пашыраным складзе; далучэньне пад крыло Нацыянальнага лідэра і Прзідыума іншых структур, рухаў, фондаў, якія працуюць паралельна на беларускую справу); в) стварэньне пры Прэзідыуме дарадчага органа, з прадстаўнікоў арганізаваных беларускіх груп, г) стварэньне агульнага сеціва нацыянальна-свядомых сіл; д) утварыць рэдакцыйную калегію для стварэньня "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі". Прыняць да ведама, што рэалізацыя гэтай Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, дзяржаўны пераварот, агрэсія ці іншае); ж) прыняць "Кодэкс гонару" і прытрымлівацца яго ў сваіх узаемаадносінах у беларускім грамадстве.

**Уступ**

Напісаньне гэтага артыкула было звязана з правядзеннем канферэнцыі "Новая Беларусь", арганізаванай камандай Святланы Ціханоўскай у Вільні, 8-9 жніўня 2022 года. Назва артыкула выбрана ў гонар і ў знак салідарнасці з праф. Уладзімірам Міцкевічам, філосафам, які ў 2019-2020гг. публікаваў свае артыкулы, прысвечаныя нацыянальна-дэмакратычнай перабудове Беларусі, пад назвай "Что делать ...", і які за свае пагляды кінуты дыктатарам Беларусі ў турму на 5 гадоў.

Паводле апублікаванай праграмы канферэнцыі, вырашыў спыніцца на двух уключаных у яе пунктах: **"Якімі павінны быць стратэгічныя прыярытэты нашай працы?"** *(паседжаньне ад 8 жніўня з 12.15 да 13.15);* і **"Як рэарганізаваць дэмакратычныя сілы?"** *(9 жніўня, 16:15-17:15).*

Мэтай артыкула ёсць правядзеньне аналіза сітуацыі па ўказаных пытаньнях з унясеньнем канкрэтных прапаноў на канферэнцыю - з той надзеяй, што яны будуць

улічаны пры выпрацоўцы адпаведных рашэньняў. Шмат чаго па гэтых пытаньнях было ўжо апублікавана і вынесена на публічнае абмеркаваньне раней[1,2,3]: у прыватнасці, *25 сакавіка 2016 года была апублікавана* ***«СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ»****, "Культура, Нацыя", №13, сакавік 2016, с. 27-34. Аўтары: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская; 29 кастрычніка 2021 года на 2-м Сусветным кангрэсе беларусаў, які адбыўся ў віртуальным фармаце,* былі прадстаўлены **"Тэзісы да тактыкі і стратэгіі нацыянальнага будаўніцтва ў сучасных умовах",** якія *апублікаваны ў часопісе "Культура. Нацыя", №28, лістапад 2021, с.5-13;* ***www.sakavik.net*****,** і перададзены праз сп. В.Кавалеўскага сп. С. Ціханоўскай разам з кнігай "Шляхі да беларускай нацыі".[4] Хацелася б давесці свае думкі да такой прадстаўнічай аўдыторыі ў Вільні з улікам сучаснай сітуацыі. Многія з вынесеных для абмеркаваньня прапаноў прадстаўлены ў выглядзе тэзісаў, што адкрывае магчымасць для падключэньня іншых людзей да дыскусіі.

**I. "Якімі павінны быць стратэгічныя прыярытэты нашай працы?"**

На мой погляд галоўнымі прыярытэтамі мусяць быць нацыянальныя прыярытэты, з улікам таго, што іх неабходна будзе ажыцьцяўляць паралельна з дэмакратычным будаўніцтвам грамадства, якое, так падаецца, поўнасьцю прыпынена дыктатарскім рэжымам. Менавіта нацыянальнае будаўніцтва застаецца адным з найактуальнейшых пытаньняў для нацыянальна-свядомай часткі беларускага грамадства, нягледзячы на тое, што мы жывём у эпоху глабалізацыі і ў дадатак у сітуацыі вайны, у якую уцягнуў беларусаў дыктатар Лукашэнка, у сітуацыі тэрора, які ён арганізаваў супраць палітычна-актыўных, нацыянальна-свядомых лідэраў, саджаючы іх у турмы, і супраць грамадзянскай супольнасці, якую ён фактычна знішчыў.

---

[1] Праект «СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ» (па стану на 25 сакавіка 2016 года). "Культура, Нацыя", №13, сакавік 2016, с. 27-34. Аўтары: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская.

[2] П. Мурзёнак Выступ на 2-м Сусветным кангрэсе беларусаў, які адбыўся ў віртуальным фармаце на секцыі"29 кастрычніка 2021 года "Тэзісы да тактыкі і стратэгіі нацыянальнага будаўніцтва", "Культура. Нацыя", №28, лістапад 2021, с.5-13; www.sakavik.net

[3] Piotra Murzionak "Belarus: Prospects of a Middle Power", "Lexington Press", Lanham, Boulder, New York, London, 2022, 346 p.

[4] Пётра Мурзёнак "Шляхі да беларускай нацыі". Мінск, «Кнігазбор» (2016).

Я не буду пералічваць усе злачынныя дзеяньні рэжыма, пералічу толькі некаторыя, якія ёсць важнымі для ацэнкі і правільнай арыентацыі для ўкладаньня стратэгічных планаў:

- Лукашэнкаўскі рэжым будуе рускамоўную цывільную дзяржаву;
- амаль 30 год яго кіраваньня можна разглядаць як этнацыд беларускага народа;
- нацыянальна-дэмакратычная Рэвалюцыя надзеі-2020 часова падаўлена, мірныя пратэсты загнаны ў пад’езды, у краіне больш за 1000 палітычных вязьняў;
- за мяжу ў апошні год выехала звыш 400.000 беларусаў, уключаючы і значную колькасць актывістаў;
- толькі беларусы дыяспары маюць свабоду.

З улікам гэтых фактаў, і з улікам тых умоў у якіх працуе нацыянальная эліта, вымушаная змагацца за падняцьце на адпаведны ўзровень самасьвядомасьці беларусаў - падмурка нацыі – і, адначасова, за ўсталяваньне дэмакратычных інстытутаў, мы мусім думаць аб стратэгічных планах нацыянальнага будаўніцтва.

**Прынцыпы працы нацыянальна-свьвядомых сіл у сучасных умовах**

Думаецца, што перш чым пачаць будаваць планы, трэба дамовіцца аб прынцыпах працы, якія, пажадана, будуць прыняты, усімі існуючымі групамі нацыянальна-дэмакратычных сіл. І адным з такіх прынцыпаў, які на сёняшні момант можа з'явіцца і адной з ключавых стратэгій гэтых сіл – ёсць іх **Кансалідацыя – Яднаньне**. Ніжэй прыводзяцца аргументы аб неабходнасці прыняцця Стратэгіі Яднаньня.

1. Як паказвае гістарычны аналіз бяз моцнага з'яднанага штаба лідэраў нацыянальна-дэмакратычных сіл немагчыма асягнуць беларускае нацыянальнае адраджэньне. Разрозненасць існуючых сіл пры пабудове БНР і напрыканцы 20-га стагоддзя падчас новай хвалі нацыянальнага Адраджэньня – яскравыя прыклады адмоўнага выніка нацыянальнага будаўніцтва.
2. Гэта не мусіць быць аб’яднаньне дзеля аб’яднаньня. Прыкладаў такіх дэкларатыўных няўдалых аб’яднаньяў было ў мінулым шмат (Мінскія дэкларацыі дэмакратычных сіл 2005 і 2009 года, Мемарандум з паседжаньня дэмакратычных сіл, праведзенага ў Вільні пад эгідай Рады БНР у 2012 годзе).
3. Аб’яднаньне мусіць ісці вакол сп. Святланы Ціханоўскай – Нацыянальнага лідэра:
- Сп. С. Ціханоўская мужная і цудоўная жанчына;
- Яна мае істотную падтрымку сярод насельніцтва Беларусі, што паказалі прэзідэнцкія выбары 2020 года і сацыялагічныя даследаваньні апошняга часу;
- Сп. С. Ціханоўская ўзяла на сябе высакародную адказнасць быць Нацыянальным лідарам.

- Яе праграма ясная і адкрытая – вызваленьне палітзняволеных і правядзеньне дэмакратычных выбараў у краіне.
4. Амбіцыі і спрэчкі палітыкаў розных напрамкаў і поглядаў павінны быць часова адкладзены на пазнейшы час. Было б станоўчым крокам далучэньне да платформы сп. С. Ціханоўскай многіх лідэраў, якія па тактычных меркаваньнях яшчэ гэтага не зрабілі.
5. Добравядомыя ўсім людзі, якія прапаведуюць шпіёнаманію і дапускаюць непрыстойныя заўвагі да сваіх апанентаў, мусілі б прыпыніць такую дзейнасць – у свой час яны «тапілі» дастойнага чалавека сп. Мілінкевіча, цяпер узяліся за сп. С. Ціханоўскую. А часу няма – для рэалізацыі нацыянальнай ідэі застаецца вельмі кароткі перыяд – працягам у адно пакаленьне. Радзіма ў небяспецы.
6. Прыняцьце “Кодэксу гонару” было добрым крокам, які б спрыяў кансалідацыі нацыянальна-свядомых сіл.[5]

**Прыняць ясную “Стратэгію развіцця беларускай нацыі”**

Пытаньні будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы асьвятляліся ў мінулых праграмах: у прыватнасьці, у праграме Беларускага Народнага Фронта (90-я гады); гэта ж праграма была адноўлена нядаўна сп. З. Пазьняком і яго камандай пад назвай “Вольная Беларусь”; у праграме У. Мацкевіча і яго каманды “Свежы вецер”. З улікам іншых прапаноў па стварэньню Агульнай Стратэгіі і не прэтэндуючы на асобную і выключную роль, мы прапануем узяць у якасьці асновы “Стратэгію развіцця беларускай нацыі”, распрацаваную групай аўтараў і зьмешчанай на старонках часопіса “Культура. Нацыя”. У распрацоўцы праекта прымалі ўдзел: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская.[6]

Праект “Стратэгія развіцця беларускай нацыі” быў апублікаваны ў газезе “Новы час”, на вэб-сайтах ЗБС “Бацькаўшчына”, Таварыства беларускай мовы, “Мы – нацыя”, “Наша зямля”, “Пагоня” (Чэхія), Belarus News і абмяркоўваўся беларускай

---

[5] Там жа. “Тэзісы да тактыкі і стратэгіі нацыянальнага будаўніцтва”, “Культура. Нацыя”, №28, лістапад 2021, с.5-13; www.sakavik.net

[6] *Дыскусія: “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасць. 2015” “Культура. Нацыя”, №12, сьнежань 2015, 23-68;*

*Працяг дыскусіі: “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасць. 2015” “Культура. Нацыя”, №13, сакавік 2016, 27-65.*

*Дапоўнены праект «СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ» (па стану на 25 сакавіка 2016 года). “Культура, Нацыя”, №13, сакавік 2016, с. 27-34.*

рэдакцыяй Польскага радыё (27.02.2016) і на “Белсаце” (12.03.2016), быў прадстаўлены удзельнікам 7-га з’езда беларусаў сьвету, арганізаванага ЗБС» Бацькаўшчына” (15-16.07.2017) і распаўсюджаны сярод удзельнікаў XIII-га з’езда Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ).

Рэалізацыя прапанаванай “Стратэгіі” разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, дзяржаўны пераварот, агрэсія ці іншае).

**Мэтай Стратэгіі з’яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў і прадстаўнікі нацыяўтваральнага этнаса – беларусы.**

**Асноўныя задачы прапанаванай Стратэгіі** (якая можа быць прынята за аснову):

Першыя тры задачы вызначаюць адносіны да Расіі.

Лічыць ідэю аб трыадзінстве усходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе і шкоднай, пакідаючы ў сіле ідэю мірнага супрацоўніцтва з блізкімі суседнямі і далёкімі краінамі.

Падтрымліваць і прапагандаваць, абапіраючыся на гістарычныя факты, ідэю аб этнічнай гістарычнай унікальнасці беларускай народа, развіцьцё якога істотна адрозніваецца ад развіцця народаў Расіі.

Супрацьстаяць ідэалогіі “русского мира” і н’юеўразізма, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага расійскага шавінізму.

Дабівацца сусветнага прызнаньня выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцці Вялікага Княства Літоўскага.

Распаўсюджваць ідэю аб атрыманні краінай нейтральнага стану праз правядзенне рэферэндума і замацаваньні гэтага палажэньня ў Канстытуцыі РБ.

Не падтрымліваць будаўніцтва рускамоўнай цывільнай дзяржавы, якое ажыцьцяўляе дыктатарскі рэжым.

На сучасным этапе праводзіць асветніцкую дзейнасць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, культуры і традыцый беларускага народа, не збаўляючы высілкаў па вызваленні беларускай мовы з прыгнечанага стану.

**II. “Як рэарганізаваць дэмакратычныя сілы?”** *(тэзісы)*

Прапановы для ўнясеньня ў рашэньні канферэнцыі:

1. Выказаць падзяку і падтрымку Нацыянальнаму лідару сп. С. Ціханоўскай і прасіць яе працягваць сваю дзейнасць у якасьці Нацыянальнага лідэра ў далейшым.
2. На працягу бліжэйшых двух месяцаў правесьці структурную рэарганізацыю нацыянальна-сьвядомых сіл пад началам Нацыянальнага лідэра, прадугледзеўшы:

- абнаўленьне\папаўненьне Прэзідыума Каардынацыйнага савета да 7-12 чалавек (можна назваць яго урадам) праз дэмакратычную працэдуру абраньня і зацверджаньня Нацыянальным лідэрам; больш шырокае інфармаваньне аб дзейнасці Каардынацыйнага савета\урада;

- правядзеньне паседжаньняў Прэзідыума ў пашыраным складзе з запрашэньнем лідэраў палітычных партый, рухаў, аб’яднаньняў, іншых асоб у якасьці дарадцаў;

- далучэньне пад крыло Нацыянальнага лідэра і Прэзідыума іншых структур, рухаў, фондаў, якія працуюць паралельна на беларускую справу;

- для сувязі і сумеснай працы стварэньне пры Прэзідыуме дарадчага органа, з прадстаўнікоў арганізаваных беларускіх груп, прыняўшых рашэньне патрымліваць дзейнасць Нацыянальнага лідэра (можа складацца з асоб дэлегаваных арганізаванымі беларускімі групамі (нп., з прадстаўніцтвам адна асоба ад групы не меншай 20 чалавек – гэта значыць, павінна быць выбарнасць дэлегатаў).

3. Першым і важным кароткатэрміновым праектам з’яўляецца – стварэньне агульнага сеціва нацыянальна-свядомых сіл, якога да гэтага часу няма. На гэтых старонках размяшчаць важнейшую інфармацыю і рашэньні Нацыянальнага лідэра і Прэзідыума Каардынацыйнага савета, ініцыятывы беларускіх груп з мэтай даводзіць іх да максімальнай колькасці грамадзян Рэспублікі Беларусь. На такі агульны нацыянальны інфармацыйны канал не змогуць ўплываць і цісnуць ідэалагічныя структуры аўтарытарнага рэжыму.

Прапаноўваецца просты падыход - стварэньне старонкі пад адной назвай, нп. “Жыве Беларусь”, выкарыстоўваючы існуючыя электронныя СМІ (газеты, блогі, сайты партый, недзяржаўных грамадскіх арганізацый). Схема стварэньня падобнага сеціва прапаноўвалася раней для рэалізацыі Адукацыйнага праекта «РАЗАМ».[7] У гэтай

[7] *Пётра Мурзёнак Адукацыйны праект «РАЗАМ» Часопіс САКАВІК, №2, чэрвень 2013 (46-51)*

сувязі прасіць кіраўніцтва такіх СМІ як “Хартыя 97”, Радыё “Свабода”, “Наша Ніва”, іншыя электронныя рэсурсы, уключаючы рэсурсы “Беларусаў замежжа”, блогераў, адміністратараў вэб-сайтаў далучыцца да гэтай ініцыятывы.

4. Утварыць рэдакцыйную калегію для стварэньня “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі”, узяўшы за аснову існуючую версію (*прыкладаецца*), прадставіць яе да канца года для зацверджаньня на Прэзідыуме Каардынацыйнага Савета, і на пачатку наступнага 2023 года прадставіць для азнаямленьня беларускаму грамадству праз створанае інфармацыйнае сеціва. Прыняць да ведама, што рэалізацыя гэтай Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, дзяржаўны пераварот, агрэсія ці іншае). Аналіз паказвае, што нам для рэалізацыі нацыянальнай ідэі застаецца вельмі карокі час – працягам у адно пакаленьне.

5. Прыняць “Кодэкс гонару” (*праект прыкладаецца*) і прытрымлівацца яго ў сваіх узаемаадносінах у беларускім грамадстве. Трэба часова адкінуць амбіцыі і тактычныя разыходжаньні сярод лідэраў, часу для іх вырашэньня няма. Радзіма ў небяспецы.

**Piotra Murzionak: What Has to be Done?**

***(webzine “Kultura. Natsyja”, issue 30, November 2022, 6-13, www.sakavik.net)***

*Abstract*: The writing of this article is in reference to the conference entitled “New Belarus” which was organized by the staff of Sviatlana Tsikhanouskaya and took place in Vilnius on August 8 and 9, 2022. The title of the article was chosen as a sign of solidarity with Professor Uladzimir Mitskievich. The article raises two issues that were featured during the conference: “What Should be the Strategic Priorities of our Work?” and “How Should Democratic Forces by Reorganized?” The following are proposals. 1) Express thanks and support to S. Tsikhanouskaya and ask her to continue her activities as Belarusian national leader. 2) Proceed with structural reorganization of nationally conscious forces through the renewal of the Presidium of the Coordinating Committee using the democratic process of voting; holding Presidium meetings with wider personnel participation; under the umbrella of the national leader and Presidium bring into the discussion other structures, movements and funds which will work towards the furtherance of the Belarusian cause. 3) Under the guidance of the Presidium create a consulting group with representatives from present organized Belarusian groups. 4) Create a general network of nationally conscious forces. 5) Create a collective editorial committee to devise a “Strategy for the Development of the Belarusian Nation.” It should be kept in mind that the working out of such a strategy must be implemented during two upcoming decades with the possibilities of changes taking place along the way, both internal and external (such as revolution, state changes, aggression and other occurrences). 5) Put into place and accept a Code of Honour and adhere to in our dealings with Belarusian society.

**Пётра Мурзёнак: ЧТО ДЕЛАТЬ?**

***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 6-13, www.sakavik.net***

*Резюме:* Написание данной статьи было связано с проведением конференции «Новая Беларусь», организованной командой Светланы Тихановской в Вильнюсе 8-9 августа 2022 года. Название статьи было выбрано в честь и в знак солидарности с проф. Владимиром Мицкевичем. В статье рассматриваются два вопроса, поднятые на конференции: «Каковы должны быть стратегические приоритеты нашей работы?» и «Как реорганизовать демократические силы?» Предлагается: а) выразить признательность и поддержку г. С. Тихановской и просить её продолжать деятельность в качестве общенационального лидера в будущем; б) провести структурную реорганизацию национально-сознательных сил (обновление Президиума Координационного Совета путем демократической избирательной процедуры; проведение заседаний Президиума в расширенном составе; включение под крыло Общенационального Лидера и Президиума других структур, движений, фондов, работающих параллельно на белорусское дело); в) создание совещательного органа при Президиуме из представителей организованных беларусских групп, г) создание общей информационной сети национально сознательных сил; д) сформировать редакционную коллегию для создания «Стратегии развития беларусской нации». Принять к сведению, что реализация настоящей Стратегии рассчитана на ближайшие два десятилетия вне зависимости от возможных изменений внутреннего или внешнего характера (революция, государственный переворот, агрессия и др.); ж) принять «Кодекс чести» и придерживаться его во взаимоотношениях в белорусском обществе.

***Матэрыялы***

***канферэнцыі "Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыннікаў",***

***12 лістапада 2022 года***

12 лістапада 2022 года прайшла канферэнцыя "Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыннікаў". Канферэнцыя была арганізавана Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Канада) і вэб-часопісам "Культура. Нацыя" і праходзіла ў віртуальным фармаце. Яна была прымеркавана да 55-годдзя інстытута і 10-годдзя часопіса. На двух секцыях канферэнцыі і падчас круглага стала разглядаліся пытанні нацыянальнай свядомасці, гісторыі і культуры беларусаў на радзіме і ў замежжы ў сучасны перыяд. На канферэнцыі выступілі даследчыкі з шасці краін, у праграму было ўключана 15 дакладаў. Ніжэй публікуюцца матэрыялы канферэнцыі. Усю канферэнцыю можна прагледзець на Youtube https://youtube.com/@binimcanada.

**Праграма канферэнцыі**

**“Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыньнікаў”**

Канферэнцыя Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, Канада
*(у віртуальным фармаце)*
Канферэнцыя будзе трансляваацца у Youtube https://youtube.com/@binimcanada

12 лістапада 2022 года

*Да 55-годдзя БІНІМ, Канада і 10-годдзя часопіса “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”*
*To the 55th anniversary of BINIM, Canada and the 10th anniversary of the magazine "CULTURE. NATION"*

**“The Belarusian Nation through the Eyes of Diaspora and Fellow Compatriots”**

Conference by Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada
*(in virtual format)*
Youtube: https://youtube.com/@binimcanada

November 12, 2022

**9:30 - 12:00. Секцыя A, Section A:**
**“Фактары пазітыўнага ўплыву на нацыянальную свядомасць».** Вядучы – Пётра Мурзёнак; **“Influence of Positive Factors on National Consciousness”.** Moderator – Piotra Murzionak

- **Сяргей Панізьнік** (*Кінкардзін, Канада*): “Загудзі ў павазе голас вечавы!” Янка Купала (7.07.1882-28.06.1942)
**Siarhey Paniznik** (*Kincardine, Canada*): “In Due Respect Sound Forth an Eternal Voice!” Yanka Kupala (July 7, 1882 – June 28, 1942)

- **Вадзім Шышко** (*Паставы - Лодзь*): "Вытокі з’яўленьня нацыянальнай сьвядомасьці як феномену чалавека і аналіз фактараў, каторыя тым ці іншым чынам могуць паўплываць на беларускую нацыянальную сьвядомасьць"
**Vadzim Shyshko** (*Pastavy - Lodz*): “Streams of Revealed National Consciousness as a Human Phenomenon and an Analysis of Factors Which Can in Some Form Influence Belarusian National Consciousness”

- **Лявон Карповіч** (*Луна-Воля, Беларусь*): “Нацыянальная самасьвядомасьць у сьвятле маралі, міласэрднасьці і любові”
**Liavon Karpovich** (*Luna-Volja, Belarus*): “National Self-Consciousness in the Light of Morality, Mercy and Love”

- **Віктар Корбут** (*Варшава, Польшча*): “Фарміраванне мадэлі нацыянальнай гісторыі і нацыянальнага пантэона на старонках газеты «Наша Ніва» ў 1906–1907 гг.”
**Viktar Korbut** (*Warsaw, Poland*): “The Formation of a Model of National History and National Pantheon on the Pages of *Nasha Niva* Newspaper from 1906-1907”

- **Алена Лявончанка** (*Таронта, Канада*): "Практычны досвед развіцця арганізацый беларускай дыяспары"
**Alena Liavonchanka** (*Toronto, Canada*): “Practical Experience in Developing Organizations for Belarusian Diaspora”

- **Вольга Ермалаева Франко** (*Саўвадор - Баія, Бразілія*): “Беларуская дыяспара ў Бразіліі: Трансфармацыя 2020”
**Volha Yermalayeva Franco** (*Salvador - Bahia, Brazil*): “Belarusian Diaspora in Brazil: Transformation 2020”

- **Пётра Мурзёнак** (*Атава, Канада*): “Дынаміка фактараў спрыяльнага ўплыву на нацыянальную свядомасць у пачатку XXI стагоддзя”
**Piotra Murzionak** (*Ottawa, Canada*): “Dynamics of Factors Offering Positive Influence on National Consciousness at the Beginning of the Twenty First Century”

*Працягласць дакладаў – да 15 мінут плюс 5 мінут на пытанні і адказы на іх.*

*The duration of presentations is up to 15 minutes plus 5 minutes for questions and answers.*

*12:00 -12:30, перапынак / break*

**12:30 -15:15. Секцыя Б, Section B: “Культура і гісторыя беларусаў на радзіме і ў замежжы ў сучасны перыяд”.** Вядучы – Наталія Баркар
**“Present-day Culture and History of Belarusians in Their Homeland and Abroad”.**
Moderator – Natalia Barkar

- **Ўладыка Сьвятаслаў Логін** (*Таронта, Канада*): “Роля Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ва ўмацаваньні нацыянальнай свядомасці”
**Uladyka Sviataslau Lohin** (*Toronto, Canada*): “Role of the Belarusian Autocephalic Orthodox Church in Strengthening National Consciousness”

- **Дэвід Марплз** (*Эдмантан, Канада*): “Амбівалентная роля ‘Вялікай Айчыннай вайны’ ў фармаванні гістарычнай памяці і нацыянальнай ідэнтычнасці ў сучаснай Беларусі”
**David Marples** (*Edmonton, Canada*): "The Ambivalent Role of the 'Great Patriotic War' in shaping historical memory and national identity in contemporary Belarus"

- **Алесь Сімакоў** (*Гомель, Беларусь*): “Беларуска-індзейская кампаратывістыка: найважнейшыя неэтнаграфічныя рубрыкі»
**Ales Simakou** (*Gomel, Belarus*): “Study of Belarusian-First Nations’ Relationship: Most Significant Non-Ethnographic Categories”

- **Віталь Зайка** (*Н’ю-Ёрк, ЗША*): "Янка Запруднік як гісторык і беларускі грамадскі дзеяч у Эўропе і ЗША"
**Vital Zajka** (*New York, USA*): “Yanka Zaprudnik as a Historian and Belarusian Public Activist in Europe and USA”

- **Радаслаў Калета** (*Варшава, Польшча*): "Беларуская мова, літаратура і культура ў найнавейшых падручніках для дзяцей беларусаў Падляшша (Польшча), выдадзеных Аб'яднаннем "АБ-БА"
**Radaslau Kaleta** (*Warsaw, Poland*): “The Belarusian Language, Literature and Culture in Latest Textbooks for Belarusian Children of Padliasha (Poland) Published by the AB-BA Coalition”

- **Патэрсан Франко Коста** (*Саўвадор - Баія, Бразілія*): “Беларускія даследаванні ў Бразіліі: выклікі і перспектывы”
**Paterson Franco Costa** (*Salvador - Bahia, Brazil*): “Belarusian Studies in Brazil: Challenges and Perspectives”

- **Юрась Мурог** (*Кіеў, Украіна*): “Аб праекце "Прашчуры" - Украіна - Вялікая Скіфія - гарант ідэнтычнасці беларусаў"
**Yuras Muroh** (*Kyiv, Ukraine*): “About the Project ‘Forefathers’: Ukraine – Great Scythia – Guarantor of Belarusian Identity”

- **Наталія Баркар** (*Атава, Канада*): "Дзесяць свядомых крокаў часопіса "КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ" *(да дзесяцігоддзя з дня заснаваньня - 2012-2022)*"
**Natalia Barkar** (*Ottawa, Canada*): "Ten Conscious Steps for "Kultura. Natsyja" Journal *(in honour of its Decade-long Existence Since its Inauguration: 2012 – 2022)*"

*Працягласць дакладаў – да 15 мінут плюс 5 мінут на пытанні і адказы на іх.*

*The duration of reports is up to 15 minutes plus 5 minutes for questions and answers.*

*15:15 -15:30, перапынак / break*

**15:30 -17:00.** Круглы стол: "ШТО РАБІЦЬ"
Round table: "WHAT TO DO"

Працягваць рабіць тое, што робім ...
Continue what we are doing …

Расказваем суседу, што ведаем ...
Tell a neighbor what we know …

Што можа зрабіць дыяспара ...
What may diaspora do …

*Пра некаторыя вынікі круглага стала глядзіце ст. 439-440.*

*Аргкамітэт канферэнцыі (the organizing committee): Наталія Баркар, Алёна Лявончанка, Аляксандр Каралькевіч, Юрась Рапецкі, Пётра Мурзёнак*

*Даклады на Секцыі А:* **"Фактары пазітыўнага ўплыву на нацыянальную свядомасць» -** вядучы Пётра Мурзёнак - *чытайце на старонках 18-103 (даклад сп. С. Панізьніка на канферэнцыі не адбыўся ў сувязі з хваробай аўтара).*

**Вадзім Шышко** *(Паставы - Лодзь)*: **"Вытокі з'яўленьня нацыянальнай сьвядомасьці як феномену чалавека і аналіз фактараў, каторыя тым ці іншым чынам могуць паўплываць на беларускую нацыянальную сьвядомасьць"**



*Пра аўтара: Вадзім Шышко скончыў гістарычны факультэт БДУ у 2003 г. Навуковыя інтарэсы: гісторыя, антрапалогія, эвалюцыя жыцьця на планеце Зямля.*

*About the author: Vadzim Shyshko graduated from the Faculty of History of Belarusian State University (2003). His scientific interests are: history, anthropology, evolution of life on planet Earth.*

Анатацыя. У дакладзе ў сьціслым аб'ёме разглядаюцца агульныя пытаньні з'яўленьня такой унікальнай чалавечай з'явы як "нацыя" і яе сувязі з абстрактным мысьленьнем чалавека. Вызначаюцца два галоўныя фактары, каторыя пазітыўна ўплываюць на фарміраваньне нацыянальнай сьвядомасьці: адукацыя і мова. І аналізуюцца два ўскосныя фактары, каторыя непасрэдным чынам уплываюць на рэалізацыю двух галоўных фактараў у справе фарміраваньня нацыянальнай сьвядомасьці: нацыянальна арыентаваная дзяржаўная ўлада і магчымасьць насельніцтва краіны ствараць такога кшталту ўладу. У канцы даклада канстатуецца сітуацыя, у каторай на сёньняшні дзень знаходзіцца працэс фарміраваньня беларусаў як нацыі.

Адносна нацыянальнага генэзісу павінен сказаць, што да гэтага часу ў цэлым пакуль што застаецца актуальным мой артыкул "Фізіялогія нацыяналізму" у часопісе "Культура. Нацыя", №8, снежань 2014. Так, безумоўна там можна знайсьці розныя недакладнасьці, але галоўны тэзіс таго артыкулу застаецца актуальным: "нацыяналізм – гэта барацьба за выжываньне, заснаваная на жывёльным інстынкце самазахаваньня і падмацаваная тэхналагічным прагрэсам чалавечага розуму". Адзіная толькі істотная праўка, каторую я сам зраблю адносна таго артыкулу, я там часта выкарыстоўваў слова "духоўнасьць", што вельмі неўласьціва для майго матэрыялістычнага сьветапогляду. Цяпер я магу троху канкрэтызаваць, чым з'яўляецца тая "духоўнасьць": гэта увесь той комплекс інфармацыі, каторы ствараецца нашым абстрактным мысьленьнем.

Праўда, тут мы зноў упіраемся ў ня надта зразумелыя рэчы, таму што да гэтага часу не зусім ясна, якім чынам у жывых істотаў з'яўляецца гэтае самае абстрактнае мысьленьне (бо біёлагі ведаюць, што некаторыя іншыя прыматы, акрамя чалавека,

таксама ў некаторай ступені валодаюць абстрактным мысьленьнем). І гэтаксама пад пытаньнем застаецца вызначэньне таго, што такое тая інфармацыя, каторая генэруецца нашым абстрактным мысьленьнем. Тут вельмі прыгожа выглядае гіпотэза Рычарда Докінза пра тое, што інфармацыя – гэта яшчэ адна форма жыцьця, каторая існуе на базе нашага мозгу. Але так як гэта ўсяго толькі недаказаная гіпотэза, то доўга на ёй затрымлівацца ня будзем, а проста выкарыстаем замест ужо анахранічнага слова "духоўнасьць" больш набліжанае да рэчаіснасьці разуменьне нейкай інфармацыі, створанай нашым абстрактным мысьленьнем. Тым больш, як калісьці вызначаў сам тэарэтык нацыягенэзу Бенэдыкт Андэрсан, нацыя – гэта ўяўленая супольнасьць. Ключавое слова: "уяўленая". То бок, іншымі словамі, нашае абстрактнае мысьленьне само ў сабе стварыла новую абстрактную катэгорыю: "нацыя". Катэгорыя сапраўды вельмі абстрактная, таму што даць ёй нейкае вызначэньне можам вельмі і вельмі ўмоўна, бо калі мы ад нейкіх агульных характарыстак супольнасьці пачнём набліжацца да асобных канкрэтных людзей, з каторых складаецца дадзеная нацыя, то мы пачнём сустракаць столькі выключэньняў з гэтай фармуліроўкі, што пры блізкім разгляданьні дадзеную супольнасьць аднароднай як бы і не назавеш. Але калі глядзець на адлегласьці, то яна выглядае як маналітная нацыя. А ўсё таму, што гэта сапраўды ўяўленая супольнасьць, ўяўленая ў абстрактным розуме кожнага асобнага чалавека. Але зноў-такі, паглыбляцца ў гэтае пытаньне няма сэнсу, бо лёгка сасьлізнуць у сярэднявечныя схаластычныя дыскусіі наконт таго, колькі анёлаў можа зьмесьціцца на кончыку адной іголкі.

На дадзены момант нам патрэбна адказаць на пытаньне таго, якія існуюць фактары пазітыўнага ўплыву на нацыянальную сьвядомасьць. Спачатку вызначымся, што ўвогуле такое – нацыянальная сьвядомасьць? Гэта і ёсьць тое самае ўяўленьне ў нашым абстрактным розуме, каторае менавіта ў нашым асабістым абстрактным розуме (але зусім не абавязкова ў нашых суседзяў ці нават сваякоў) аб'ядноўвае нейкую вызначаную чалавечую супольнасьць у так званую нацыю. А як мы ўжо ведаем па выпадках рэальных "маўглі", калі ў чалавека зь дзяцінства не пачаць закладваць усю тую інфармацыю, каторай мы ўжо валодаем, то "рухавічок" абстрактнага мысьленьня чалавека сам па сабе не заводзіцца, і чалавек назаўсёды застаецца толькі са сваім звычайным жывёльным лагічным мысьленьнем. Значыць, робім выснову: для таго, каб у нашым абстрактным розуме стварылася нейкае ўяўленьне, спачатку ў яго трэба закласьці адпаведную інфармацыю, з каторай дадзенае ўяўленьне магло б згенэравацца.

У тым, як закладваць адпаведную інфармацыю, нанова "вынаходзіць ровар" ня трэба. Гэта старая добрая адукацыя. Можна спрачацца толькі пра метады адукацыі, бо новыя часы патрабуюць новых падыходаў, але сам прынцып застаецца тым самым: метадычнае закладваньне ў чалавечы розум патрэбнай для нас інфармацыі з

мэтай таго, каб у будучым гэты самы розум ужо самастойна стварыў сам у сабе ўяўленьне пра нейкую аб'яднаную супольнасьць – нацыю. У нашым выпадку, беларускую нацыю. Гэта першы фактар пазітыўнага ўплыву на нацыянальную сьвядомасьць.

І другі фактар – мова. У канкрэтна нашым выпадку трэба ў абавязковым парадку вярнуцца ў стан 1994 г., калі ў Беларусі была толькі адна дзяржаўная мова – беларуская. Зноў-такі, можна доўга дыскутаваць пра тое, што існуюць нацыі, каторыя карыстаюцца мовамі сваіх суседзяў. Але пры гэтым трэба разглядаць кожны канкрэтны выпадак асобна. Калі б расейскай мовай карысталіся толькі ў расейскай дзяржаве, а сама расейская дзяржава займала толькі тэрыторыю сучаснай Маскоўскай вобласьці, у такім выпадку можна было б не пераймацца з-за таго, што большасьць беларусаў карыстаюцца расейскай мовай. Але калі вы размаўляеце на мове вашага суседа, які ў шмат разоў большы за вас і лічыць вашу краіну сваёй тэрыторыяй, то гэта ўжо зусім іншая гісторыя. У такім выпадку свая нацыянальная мова ператвараецца ў дадатковы і вельмі эфектыўны сродак абароны ад экспансіі вашага суседа.

Гэта канкрэтна ў нашым, беларускім выпадку. А ва ўніверсальным значэньні мова – гэта той асаблівы інфармацыйны кадыфікатар культуры, каторы стварае ў нашым абстрактным розуме дадатковае ўяўленьне пра тое, што дадзеная супольнасьць, каторая карыстаецца менавіта гэтым кадыфікатарам, а ня іншым, з'яўляецца асобнай нацыяй. Такім чынам, я вызначаю два галоўныя фактары пазітыўнага ўплыву на нацыянальную сьвядомасьць: адукацыя і мова.

Вызначаючы, што гэта галоўныя фактары, я тым самым разумею пад гэтым тое, што існуюць яшчэ нейкія іншыя. Астатнія фактары больш ускосныя, але ня менш важныя, чым гэтыя два галоўныя. Таму што гэтыя два галоўныя фактары можна задзейнічаць толькі ў тым выпадку, калі ўлада ў Беларусі будзе накіравана на стварэньне беларускай нацыі. У такім выпадку моўная сітуацыя ў Беларусі будзе вернутая да стану 1994 г., а адукацыя будзе накіравана на спазнаньне і інтэрпрэтацыю навакольнага сьвету адштурхоўваючыся ад сваёй нацыі (як калісьці казаў Ф. Ніцшэ: “Ніколі ня выжыве той народ, які ўспрымае трактоўку сваёй гісторыі вачыма суседа”).

Але на сёньняшні дзень мы маем антынацыянальную ўладу, каторая клапоціцца толькі сама пра сябе, для чаго выкарыстоўвае беларускую нацыянальную ідэнтычнасьць як разьменную манету. Значыць, перш чым абмяркоўваць механізмы рэалізацыі галоўных фактараў пазітыўнага ўплыву, спачатку трэба абмеркаваць магчымасьць дэлегаваньня беларусамі дзяржаўнай ўлады ў Беларусі нацыянальна арыентаваным сілам. А вось тут мы адразу сутыкаемся з самымі разнастайнымі і вялікімі праблемамі.

У звычных для нас дэмакратычных краінах зьмена рэжыму ўлады адбываецца падчас працэдуры выбараў з дапамогай усеагульнага галасаваньня. У Беларусі па зразумелых прычынах такая магчымасьць выключана. Яшчэ як варыянт, калі механізм выбараў па нейкіх прычынах дае збоі, то можа быць выкарыстаны механізм масавых пратэстаў, калі ўлады могуць наглядна бачыць, чаго менавіта патрабуе насельніцтва і нейкім чынам імкнуцца выканаць гэтыя патрабаваньні. Але зноў-такі, гэты механізм уплыву насельніцтва на ўладу, як і выбары, дзейсны толькі ў краінах з разьвітымі дэмакратычнымі інстытутамі. У Беларусі, як паказала практыка 2020 г., нічога з вышэй пералічанага не працуе, ані выбары, ані масавыя пратэсты.

Такім чынам, адзінай магчымасьцю для зьмены рэжыму ўлады ў Беларусі застаецца толькі ўзброеннае паўстаньне. Але тут мы ўпіраемся у новы шэраг складаных пытаньняў. Калі мы абмяжуемся толькі выключна тэрыторыяй Беларусі, то галоўныя пытаньні заключаюцца ў тым: 1) дзе знайсьці людзей гатовых да ўзброеннага паўстаньня (гэта азначае – людзей, патэнцыйна гатовых загінуць падчас паўстаньня)? 2) дзе ў Беларусі знайсьці дастатковую колькасьць неабходнага забесьпячэньня для паўстаньня, і ў першую чаргу зброі? Баюся, што адказ на гэтыя пытаньні ў межах непасрэдна Беларусі наўрад ці хто знойдзе. То бок мы ўсё-роўна вымушаныя выходзіць за межы Беларусі. А выйшаўшы за межы Беларусі ў гэтую гульню адразу ўступаюць іншыя розныя гульцы, узьдзеяньне каторых мы абавязаныя ўлічваць.

Напрыклад, дапусьцім, што з ліку з’ехаўшых ад рэжыму беларусаў удасца набраць неабходную колькасьць чалавек, дастатковую для зьвяржэньня цяперашняга рэжыму Лукашэнкі А. (і тое, гэта яшчэ зусім ня факт, гледзячы як вельмі марудна зьбіраюцца беларусы ў полк Каліноўскага, а часам і разьбягаюцца зь яго). Нават калі Украіна прадаставіць нам сваю тэрыторыю для збору неабходнай колькасьці людзей, усё-роўна застаецца пытаньне: дзе знайсьці дастатковае вайсковае забесьпячэньне для гэтых людзей? У тым выпадку, калі паўстаньне пачынаецца не знутры краіны, а звонку, то гэта больш падобна на зьнешнюю вайсковую інвазію. А той, хто хаця б троху паглыбляўся ў сутнасьць любога вайсковага канфлікту, выдатна ведае, што любы падобны канфлікт – гэта вельмі і вельмі дарагі занятак (цяперашнія кіраўніцтвы Украіны і Расеі не дадуць мне зманіць). Такім чынам, калі нам нават удасца сабраць з беларускіх эмігрантаў нейкае ініцыятыўнае ядро для паўстаньня, а Украіна нам прадаставіць для гэтага сваю тэрыторыю (што таксама яшчэ далёка ня факт), то застаецца пытаньне: адкуль нам узяць грошы для яго забесьпячэньня? Шмат грошай.

З беларускай эміграцыі? Няма сэнсу. Масавая беларуская эміграцыя пачалася толькі 2 гады таму. Гэта людзі, каторыя літаральна “ўчора” выехалі з Беларусі і толькі пачынаюць неяк стабілізавацца ў тых краінах, куды яны выехалі. Яны ня тое, што ня

могуць спансаваць беларускае ўзброеннае паўстаньне, яны самі яшчэ шмат у чым патрабуюць дапамогі. Няма сэнсу спадзявацца на эміграваўшую беларускую IT-сферу. Так, гэта катэгорыя беларусаў больш заможная, але спецыфіка іх працы такая, што ім увогуле няма разьніцы, у якой краіне жыць, бо іх праца ў абсалютнай большасьці не зьвязаная зь Беларусьсю. У такім выпадку, які сэнс ім выдаткоўваць шмат сваіх грошай на нейкае рызыкоўнае мерапрыемства, каторае ніякім чынам не закранае іх асабістае жыцьцё? Пра іншы беларускі бізнэс па-за межамі Беларусі таксама не даводзіцца размаўляць, бо яго амаль што не існуе.

Такім чынам, пытаньне ня вырашана: дзе ўзяць грошы? Шмат грошай. Застаецца толькі прасіць у замежных буйных гульцоў. Так, грошай на сьвеце хапае, каб спансаваць беларускае ўзброеннае паўстаньне. Але тут мы ўпіраемся ў яшчэ адно пытаньне: а навошта гэта камусьці трэба? Можна зразумець, навошта Расея фінансава падтрымлівае рэжым Лукашэнкі: гэта імперыя, каторая клапоціцца толькі пра набыцьцё новых земляў, і якую вельмі мала хвалюе пытаньне свайго іміджу, або дабрабыту сваіх жыхароў. Іншыя ж буйныя гульцы, каторыя маглі б выдаткаваць вялікія грошы на беларускае ўзброеннае паўстаньне – гэта альбо заможныя краіны так званага калектыўнага Захаду, альбо асобна ўзятыя бізнэс-імперыі рознага кшталту .

З дзяржавамі Захаду, як паказвае вайна ва Украіне, надта “кашы ня зварыш”. Нават ва ўмовах адкрытай агрэсіі Расейскай імперыі супраць суверэнай краіны, у дадатак з усімі тым зьверствамі, каторыя акупанты ўчыняюць на захопленых тэрыторыях, рэакцыя заходніх краін надзвычай павольная і няўклюдная, каторая часьцей за ўсё заканчваецца самым “найглыбейшым заклапочаньнем”. Псіхалагічна зразумець Захад можна. Там грамадства дасягнула дастатковага матэрыяльнага дабрабыту і цяпер імкнецца толькі да спакою і камфорту. А тушэньне пажару, нават калі гэта гарыць хата ў твайго суседа, зусім не ўваходзіць у праграму спакою і камфорту. Што тады ўжо казаць пра нашу, па-сутнасьці, унутраную беларускую праблему? Навошта Захаду дурыць сабе гэтым галаву, і тым больш выдаткоўваць свае грошы, каб мы, беларусы, маглі паміж сабой вырашыць свае ўнутраныя праблемы?

Справа з living рознымі бізнэс-імперыямі выглядае троху інакш, але гэтаксама ня надта аптымістычна. Галоўная іх задача, як і любога іншага прадпрымальніка – гэта павелічэньне свайго капіталу. Так, яны могуць інвеставаць свае грошы ў нейкія праекты. Але канечная мэта любой такой інвестыцы – гэта атрыманьне прыбытку. А які прыбытак яны атрымаюць, калі інвестуюць свае грошы ў беларускае вызвольнае паўстаньне? Відавочнага адказу я ня бачу.

Такім чынам, я магу падвесьці наступныя вынікі:

1) Двума найбольш эфектыўнымі фактарамі пазітыўнага ўплыву на нацыянальную сьвядомасьць з’яўляюцца адукацыя і свая, нацыянальная мова, і яны абодва ў нас на сёньняшні дзень адсутнічаюць.
2) Іншымі, не такімі відавочнымі, але ня менш важнымі фактарамі з’яўляюцца нацыянальна арыентаваны ўрад у Беларусі (каторы актывізаваў бы першыя два найбольш эфектыўныя фактары) і магчымасьць беларускага насельніцтва ставіць на чале беларускай дзяржавы гэты самы нацыянальна арыентаваны ўрад. І як мы бачым, на сёньняшні дзень гэтыя фактары ў нас таксама адсутнічаюць.

Выснова з усяго вышэй сказанага наступная: працэс з’яўленьня беларускай нацыі знаходзіцца пад сур’ёзнай пагрозай. У нас на сёньняшні дзень адсутнічаюць усе магчымыя фактары пазітыўнага ўплыву на нацыянальную сьвядомасьць, як прамыя, так і ўскосныя.

Так, калі ўжо быць вельмі педантычным, то ў ролі дадатковага фактару можна назваць наяўнасьць сваёй этнічнай тэрыторыі (краіны), але гэты фактар усяго толькі дадатковы, а не вырашальны. Афіцыйна мы маем сваю краіну з часоў стварэньня БССР, але як мы бачым гэта ня здолела паўплываць на беларусаў настолькі, каб у іх з’явілася свая нацыянальная сьвядомасьць і яны сталі нацыяй. І гісторыя з пост-БССРаўскай РБ дакладна такая ж самая. Ці азначае ўсё гэта, што беларуская нацыянальная сьвядомасьць, адпаведна і нацыя, урэшце ня здолеюць сфарміравацца? Ня ведаю. На дадзены момант вельмі складана сказаць штосьці дакладнае на гэты конт. Магу толькі меркаваць, што пройгрыш Расейскай імперыі ў вайне супраць Украіны можа спрыяльна паўплываць на рэалізацыю беларусамі ўсіх вышэй названых фактараў пазітыўнага ўплыву на беларускую нацыянальную сьвядомасьць. Але гэта ўсё вельмі і вельмі недакладна, таму што, як гэта часта бывае ў гісторыі, пакуль мы канцэнтруем сваю ўвагу на адных фактарах, нечакана могуць спрацаваць нейкія абсалютна іншыя фактары з зусім непрадказальным для ўсіх нас вынікам.

*Паставы – Лодзь. 2022*

**Vadzim Shyshko** (*Pastavy - Lodz*): **“Streams of Revealed National Consciousness as a Human Phenomenon and an Analysis of Factors Which Can in Some Form Influence Belarusian National Consciousness”** ***(webzine “Kultura. Natsyja”, issue 30, November 2022, 18-24, www.sakavik.net )***

Abstract. The report examines the general issues of the emergence of such a unique human phenomenon as the "nation" and its connection with the abstract human thinking. Two main factors that positively influence the formation of national consciousness are identified as education and language. And two indirect factors are analyzed, which directly affect the implementation of two main factors in the formation of national consciousness: nationally oriented state power and the ability of the country's population to create this kind of power. In conclusion, the author shows situation in which the process of formation of Belarusians as a nation is currently taking place.

**Вадим Шышко** (Поставы-Лодзь): “**Истоки возникновения национального самосознания как человеческого феномена и анализ факторов, которые так или иначе могут повлиять на белорусское национальное самосознание»**

***(веб-журнал “Культура. Нация”, вып. 30, ноябрь 2022, 18-24, www.sakavik.net )***

*Резюме*. В докладе рассматриваются общие вопросы возникновения такого уникального человеческого феномена, как «нация», и его связь с абстрактным человеческим мышлением. Выделяются два основных фактора, положительно влияющих на формирование национального самосознания: образование и язык. И анализируются два косвенных фактора, которые напрямую влияют на реализацию двух основных факторов формирования национального самосознания: национально- ориентированная государственная власть и способность населения страны создать такую власть. В заключении автор показывает ситуацию, в которой в настоящее время происходит процесс формирования белорусов как нации.

**Лявон Карповіч** *(Луна-Воля, Беларусь)*: **“Нацыянальная самасьвядомасьць у сьвятле маралі, міласэрднасьці і любові”**



*Пра аўтара*: Лявон Карповіч (1944) — краязнаўца і філятэліст, былы настаўнік матэматыкі. Нарадзіўся ў Ваўкавыску, жыве ў мястэчку Луна. Аўтар кніг "Маё мястэчка Луна-Воля" (2016), "Беларускія паштовыя маркі: ад пачатку да эміграцыі і Незалежнасьці" (2017), "Біблейскія гісторыі Новага Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі" (2019), "Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі" (2021) і артыкулаў па краязнаўству і філятэліі. Удзельнічае ў філятэлістычных выставах з калекцыямі: "Біблейскія гісторыі", “Гісторыя маёй краіны”, “Абняла мяне Беларусь”, "Біблія ў мастацтве".

*About the author*: Ljavon Karpovich (1944) is a local historian and philatelist, a former mathematics teacher. He was born in Vaukavysk, lives in the town of Luna near Hrodna. Author of the books "My Town Luna Volya" (2016), "Belarusian Postage Stamps: From the Beginning to Emigration and Independence" (2017), "Biblical Stories of the New Testament Illustrated with Postage Stamps" (2019), "Biblical Stories of the Old Testament Illustrated with postage stamps" (2021) and articles on local history and philately. Participates in philatelic exhibitions with collections: "Bible stories", "History of my country", "Belarus embraced me", "Bible in art".

Анатацыя. У артыкуле аўтар выказвае думку, што нацыянальная сьвядомасьць павінна базавацца на фундамэнце маралі, міласэрнасьці і любові, бо гэта гарантуе дэмакратычны характар будуемага грамадзтва. Сьцьвярджаецца, што нацыянальная сьвядомасьць не ўзьнікае сама па сабе, а фармуецца ў выніку плённай і ахвярнай працы ўсіх зацікаўленых асоб і структур, але найбольш ад працы эліты і лідараў. Таму так важна, каб лідэр быў стваральнік, а не разбуральнік. Прыводзяцца прыклады, як адмоўнай, так і плённай працы, якая праявілася ў рэвалюцыі 2020. Уплыў апазыцыі ў эміграцыі ў накірунку фарміраваньня нацыянальнай сьвядомасьці і самасьвядомасьці разглядаецца на прыкладзе дзейнасьці ў галіне філятэліі. Ілюструецца гэта дзейнасьць відарысамі створаных філятэлістычных матэрыялаў розных гадоў у Дадатку да артыкула.

*Калі маю дар прароцтва, і ведаю ўсе таямніцы, і маю ўсякія веды і ўсю веру, так што магу і горы перастаўляць, а ня маю любові, – дык я нішто.*
*(Першае да Карынфянаў 13:2)*

Не зьяўляюся навукоўцам, таму для мяне вельмі важна, перш чым гаварыць пра фарміраваньне нацыянальнай сьвядомасьці, вызначыцца як мага проста і зразумела з зыходнымі паняцьцямі, такімі як "нацыянальная сьвядомасьць" і "нацыянальная самасьвядомасьць". Я пагаджаюся з разуменьнем нацыянальнай сьвядомасьці, "як сукупнасьці перакананьняў аб прыналежнасьці да пэўнай нацыі, успрыманьне і разуменьне яе "карэнных вартасьцяў", сукупнасьць уяўленьняў пра яе мінулае, сучаснасьць і будучыню, пачуцьцё сувязі з прадстаўнікамі гэтай нацыі". Але яшчэ, як уяўленьне аб унівэрсальных маральных вартасьцях, міласэрнасьці і любові. Я доўга вагаўся, ці не напісаць замест "любові" "добразычлівасьці", але палічыў, што плянку зьніжаць нельга. Любові. Бо, *"Калі маю дар прароцтва, і ведаю ўсе таямніцы, і маю ўсякія веды і ўсю веру, так што магу і горы перастаўляць, а ня маю любові, – дык я нішто" (Першае да Карынфянаў 13:2).*

Каб унікнуць папрокаў наконт любові, асабліва любові да ворагаў *("А Я кажу вам: любеце ворагаў вашых…" (Паводле Мацьвея 5:44))* павінен дадаць, што ў маім разуменьні найбольшая праява любові да ворага, гэта з ворага зрабіць сябра. Але, калі ты на гэта ня здольны або гэта немагчыма, то праявай любові будзе зрабіць немагчымым ворагу тварыць зло.
Нацыянальная самасьвядомасьць далучае да нацыянальнай сьвядомасьці поўнае разуменьне сябе, свайго значэньня, сваёй ролі ў жыцьці і грамадзтве, абавязку перадачы з пакаленьня ў пакаленьне адных і тых жа імкненьняў, зьвязаных з нацыянальна-дзяржаўнай ідэяй, свайго маральнага выбару, сваёй здольнасьці на міласэрнасьць і любоў.

Праблема нацыянальнай сьвядомасьці востра ўзьнікае тады, калі паўстае пытаньне нацыянальнага Адраджэньня, бо асноўным фактарам існаваньня нацыі зьяўляецца нацыянальная сьвядомасьць. Само ўзьнікненьне гэтай праблемы гаворыць аб тым, што нацыянальная сьвядомасьць не зьяўляецца прыроднай якасьцю чалавека, але ў залежнасьці ад аб'ектыўных і суб’ектыўных абставін яна альбо ёсьць, альбо яе няма. Чалавек ад нараджэньня знаходзіцца ў бясконцым мностве элемэнтаў выбару. Гэтага бясконцага мноства і неабходнасьці выбару немагчыма ўнікнуць. Нават бязьдзейнасьць зьяўляецца выбарам. Склалася так, што нават першы свой выбар Адам і Эва зрабілі памылкова, што прывяло да нэгатыўнага ўплыву на ўвесь далейшы лёс чалавецтва. Таму настолькі важным зьяўляецца беспамылковасьць выбару. На думку сьвятога Ігнація Лаёлы, працэс выбару настолькі важны, што трэба

сумленна і аддана задзейнічаць усе свае здольнасьці і рэсурсы, каб знайсьці найлепшае рашэньне, адпаведнае Божай волі.

На той ці іншы выбар уплывае мноства фактараў, якія залежаць як ад якасьцяў самога чалавека, так і ад асяродзьдзя, у якім ён знаходзіцца. Значыць вырашэньне праблемы нацыянальнай сьвядомасьці залежыць ад дзейнасьці зацікаўленых у гэтым асобаў і структураў. Таму не выпадкова ў 1991 у Камісію Вярхоўнага Савета Беларусі па "Адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны" зьвярнуліся беларускія сацыёлягі з прапановай правесьці работу сярод студэнтаў розных ВНУ краіны па тэме "Фарміраваньне нацыянальнай сьвядомасьці вучнёўскай моладзі".

Праграма гэтых дасьледаваньняў была складзена і яе падтрымаў кіраўнік Камісіі Ніл Гілевіч, 29.XI.1993. Але ў дакумэнце адразу залажылі шлях скіраваны на паразу. Аўтары задаюцца пытаньнем: "Вось яны, аб’ектыўныя ўмовы, якія садзейнічаюць разьвіцьцю на Беларусі не беларускай самасьвядомасьці, а расейскай, пярэчаць адраджэньню беларускай самабытнасьці, культуры, мовы. Адсюль усплывае многа пытаньняў: ці можа фарміравацца нацыянальная самасьвядомасьць у вучнёўскай моладзі, калі ўся сыстэма адукацыі і выхаваньня ў асноўным на расейскай мове, ці можа фарміравацца нацыянальная самасьвядомасьць у вучнёўскай моладзі, калі гэтай самасьвядомасьці няма ў яе бацькоў, ці можа фарміравацца нацыянальная самасьвядомасьць у вучнёўскай моладзі, калі ўсе падручнікі, кнігі, часопісы надрукаваны на расейскай мове? І яшчэ: ці можа фарміравацца нацыянальная самасьвядомасьць у вучнёўскай моладзі, калі ўсе людзі, якія яе акружаюць: выкладчыкі, бібліятэкары, афіцыянты, буфэтчыкі, кандуктары, касіры, прадаўцы і гэтак далей – гавораць на чужой, расейскай мове?" І прыходзяць да наступнага вываду: "Усё вышэйпададзенае дае магчымасьць зрабіць выснову, што нацыянальная самасьвядомасьць да беларускага народа будзе ісьці вельмі марудна. Найменш прыкметным будзе гэты працэс, пакуль будзе жыць старэйшае і сярэдняе пакаленьне, пакуль не адыдуць ад нас беларусы-манкурты. Гадоў праз 20 зьявіцца новае працоўнае пакаленьне, якое будзе мець нацыянальную самасьвядомасьць, але яна будзе далёка не сапраўдная беларуская самасьвядомасьць. Гадоў праз 30-40 зьявіцца пакаленьне маладых працоўных беларусаў, якія ўжо добра будуць знаць гісторыю сваёй Радзімы, багацьце яе культуры, прыгажосьць роднай беларускай мовы, беларускую багатую прыроду, якая накладвае свой адбітак на побыт, культуру і мову нашага народа. Па нацыянальнай самасьвядомасьці яны будуць падобны трохі на нашых продкаў XV-XVI стагодзьдзяў, калі мы мелі "залаты век" нацыянальнай культуры".

У высновах закладзена разуменьне, што нацыянальная сьвядомасьць можа быць сапраўдная і несапраўдная, што лічу памылковым. Як казаў вышэй, я лічу, што

нацыянальная сьвядомасьць або ёсьць, або яе няма. Але найбольш памылкова, на мой погляд, тое, што высновы скіраваныя на бязьдзейнасьць. Няма адказу на пытаньне, як зьвіцца адкладзеная на 30-40 гадоў гэтая нацыянальная сьвядомасьць у новага пакаленьня. Адмаўляецца роля зацікаўленых грамадзкіх інстытутаў, палітычных партый, лідэраў і нацыянальнай эліты. Фактычна сьцьвярджаецца, што нацыянальная сьвядомасьць не зьяўляецца вынікам плянавай пасьлядоўнай мэтанакіраванай клапатлівай штодзённай працы, а ўзьнікае сама па сабе. Гэты пасыл зь невядомых прычын быў успрыняты большасьцю нацыянальнай эліты як ісьціна і прывёў да вельмі дрэнных вынікаў.

Камісія прапанавала ПРАГРАМУ дасьледаваньня па тэме: "Фарміраваньне нацыянальнай самасьвядомасьці вучнёўскай моладзі" з тэрмінам выкананьня 1993 – 1995. Пачынаецца яна словамі: "Будзем высьвятляць, ад якога з бакоў навакольнага асяродзьдзя перш за ўсё залежыць гэтая складаная ўнутраная вытворчасьць сэнсабудуючых дамінантаў". І далей: "Паняцьце "нацыянальная беларуская самасьвядомасьць" мае такую эмпірычную сутнасьць:
1) гаварыць, пісаць, думаць на роднай беларускай мове;
2) жыць традыцыямі, звычаямі беларускага народа;
3) ведаць і любіць прыроду Беларусі;
4) ведаць гісторыю роднага края ад VII стагодзьдзя да нашых дзён, асабліва "залаты век Беларусі" (XIV-XVI стст.);
5) ведаць вялікіх людзей беларускай нацыі (вучоных, пісьменьнікаў, дзеячаў культуры і палітыкі);
6) быць талерантным чалавекам;
7) валодаць усімі якасьцямі беларускасьці".

Гэты пералік насамрэч характарызуе не нацыянальную САМАсьдомасьць, і нават не нацыянальную сьвядомасьць. Бо ў гэтым пераліку, на мой погляд, няма галоўнага. Асоба з такой нацыянальнай сьвядомасьцю можа быць патрыётам, нацыяналістам, нацыстам, фашыстам і расістам. Прыкладаў гэтаму мноства. Ці грамадзянін Паўночнай Карэі не гаворыць на роднай карэйскай мове, ці не жыве традыцыямі, ці ня любіць прыроду, ці ня ведае гісторыю, ці ня ведае вялікіх людзей карэйскай нацыі, ці не талерантны, ці не валодае якасьцямі карэйца? Тое самае можна казаць і пра грамадзяніна Паўднёвай Карэі. І гэта дазваляе адной краіне быць дыктатарскай, нялюдзкай, а другой-дэмакратычнай.

Пададзены пералік зьяўляецца неабходным, але недастатковым для таго, каб быць сьвядомым у поўным значэньні гэтага слова. *У наш час, калі штучны інтэлект наступае нам на пяты і пагражае поўнай заменай чалавека інтэлектуальнай, але машынай, толькі мараль, міласэрнасьць і любоў могуць нас уратаваць.*

Дарэчы, пасьля рэфэрэндуму 1995 дзейнасьць Вярхоўнага Савета Беларусі і адпаведна Камісіі была згорнутая.

Ці нацыянальная сьвядомасьць зьяўляецца самамэтай? Напэўна не. Напэўна наша мэта – пабудаваць нацыянальную эўрапейскага тыпу дзяржаву вольных самасьвядомых грамадзян. Менавіта, нацыянальная сьвядомасьць ёсьць натхняльнай, стваральнай і рухальнай сілай на шляху рэалізацыі духоўнага досьведу нацыі ў агульным дзяржаватворчым працэсе. *Выпеставаць самасьвядомых чальцоў грамадзтва і пабудаваць такую дзяржаву магчыма толькі пры наяўнасьці і ахвярнай працы маральна якаснай эліты і прыярытэту нацыянальнай ідэі. Гэта эліты праз розныя формы дзейнасьці фармуюць нацыянальную сьвядомасьць.*

Калі ў 1991 адбылася *мутацыя* СССР і на БССР нечакана звалілася Незалежнасьць, нацыянальная эліта была да гэтай падзей абсалютна не гатова. Змаганьне за лідэрства прывяло да таго, што Лідэр вылучаўся сярод кандыдатаў дрэнных, непадрыхтаваных і слабых. У такіх умовах мог перамагчы толькі самы дрэнны. Так і адбылося. На чале краіны стаў самы дрэнны, самы агрэсіўны, самы непадрыхтаваны, самы неадукаваны, але затое самы ваяўнічы, самы амаральны, той, хто найбольш хацеў Улады і для якога Ўлада была найбольшай каштоўнасьцю. Наступствы былі жахлівыя, бо прайграўшыя Лідэры былі слабыя і няздольныя. Як паказала жыцьцё, для найпапулярнейшых зь іх, якія ачолілі галоўныя рухаючыя сілы Адраджэньня, таксама галоўным аказалася пасада, становішча, а не змагарная барацьба. Спачатку мнагатысячны Рух быў звужаны да Партыі, калі на партыйным зьезьдзе абралі іншага старшыню, былы тут жа правёў раскол, стварыўшы паралельную Партыю. Партыя дэградавала на вачах, нарэшце, практычна зьнікла, але старшыня нязьменна ачольвае па цяперашні час Партыю без сябраў Партыі. Калі ў Беларусі зачышчанае ўсё, акрамя дзяржаўных структур, Партыя нязьменнага старшыні не забаронена і не ліквідавана.

Віктар Сазонаў піша: "Зразумела, Лідэры бываюць розных роўняў: дробныя і вялікія, палітычныя і далёкія ад палітыкі, абраныя ўсеагульным галасаваньнем і прызначаныя звыш. Нехта становіцца Лідэрам з патрабаваньня часу, бо не можа існаваць без змаганьня за свае ідэалы, а нехта проста не можа не быць Лідэрам. Не ўсе прыходзяць у час, і не ўсе могуць у час зысьці. Некаторыя трымаюцца за сваё месца да апошняга. Для многіх Лідэрства – гэта наркотык. Нават калі яно не прыносіць ужо аніякай выгады, многія проста – у наркатычнай залежнасьці ад улады".

Арганізацыя, якая мела суполкі ў кожнай школе, у кожным раёне і амаль у кожным сельсавеце, пад кіраваньнем яе Лідэра аказалася зусім без суполак. Але Лідэр сышоў з пасады старшыні толькі тады, калі за офіс трэба было плаціць з сваёй кішэні, бо складак плаціць не было каму. Калі пачаліся масавыя вобыскі, арышты, пасадкі пасьля падзей 2020, людзі кінуліся шукаць парады, як сябе паводзіць, як адстойваць граматна свае правы, як не рабіць памылковых крокаў, бо ўсе аказаліся непадрыхтаванымі. Праслаўленая праваабарончая арганізацыя ніколі за ўсе гады існаваньня не праводзіла трэнінгаў, не рыхтавала людзей да крытычных сытуацый. На сайце арганізацыі не было ніводнай рэкамэндацыі, як сябе паводзіць пры вобшуку, пры затрыманьні, у судзе, ніводнага ўзору дакумэнтаў для абароны і абскарджаньня… Нічога. Каб праводзіліся трэнінгі, былі рэкамэндацыі і ўзоры дакумэнтаў, то лёс соцень, а мо і тысяч людзей, мог быць другім.

Ваяўнічы Лідэр-папуліст гэта Лідэр-разбуральнік. Ён абавязкова знаходзіць ворага і ўся яго "дзейнасьць" накіравана супраць гэтага сапраўднага, ці штучна створанага ўяўнага ворага. Ён не валодае трыядай Думка-Слова-Справа. Да Справы справа не даходзіць. Таму так часта ў нас можна пачуць: "Мы зрабілі галоўнае", "Мы заваявалі Незалежнасьць", "Мы паказалі дарогу", "Павінна стацца"... У той час, як Лідэры суседніх краін казалі: "Гэта толькі пачатак, галоўнае трэба зрабіць". Такі лідэр-разбуральнік мае "сваю" мараль без міласэрнасьці і любові.

Асобная размова пра Народны Гімн.
З кнігі Сяргея Навумчыка "Дзевяноста першы": "Быкаў перадаў мне ліст, якім, паводле ягоных словаў, я мог распарадзіцца па ўласным меркаваньні. [...] Гаворка ішла пра гімн новаўтворанай Беларускай дзяржавы:
"Агульнавядома, што без нацыянальнай сымболікі немагчыма пасьпяховае ажыцьцяўленьне высакароднай ідэі самавызначэньня народу. Выдатна, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь нарэшце зразумеў важнасьць у гэтай справе нацыянальна-гістарычнага падыходу, і народу вернуты ягоны гістарычны сьцяг і старажытны герб. Застаецца гімн. Цяпер аб’яўлены конкурс на тэкст гімну і ягоную музыку. Але ці трэба нам новы, сьвежаствораны, не ахрышчаны часам і гісторыяй каньюнктурны гімн? Ці хутка ён стане адной з найважнейшых сьвятыняў нацыі? Асабліва калі ў гістарычнай народнай памяці яшчэ велічна гучыць колішні, ахрышчаны нешчасьлівым лёсам (дарэчы, тым, які хрысьціў беларускі народ і саму Рэспубліку Беларусь) гімн на словы Макара Краўцова. А між тым, гэта велічная мэлёдыя і выдатны тэкст. І ня так важна, што некаторыя моманты яго не адэкватныя сучаснай палітыцы Беларусі, што яны, можа, палітычна састарэлыя. Гэта зусім ня той выпадак, калі патрэбная злабадзённасьць. Тэксты гімнаў цывілізаваных краінаў звычайна архаічныя, але яны нязьменна кананічныя, ахрышчаныя крывавай гісторыяй, і ў гэтым іх мастацкая і духоўная сіла. Мы прапануем узаконіць гімн на

словы М. Краўцова, ажыцьцявіўшы тым надзвычай важны дзяржаўны акт на шляху да сапраўднай сувэрэннасьці Рэспублікі Беларусь. Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, 13 лістапада 1991 г."

Між іншым, у сьвеце ёсьць прыклады суіснаваньня двух гімнаў – дзяржаўнага і духоўнага. Самы вядомы – у Злучаных Штатах Амэрыкі. Там Дзяржаўным Гімнам зьяўляецца The Star-Spangled Banner ("Зорны сьцяг"), а "другім", неафіцыйным – God Bless America ("Божа, блаславі Амэрыку". Музыку да яго, дарэчы, напісаў народжаны ў Магілёве Ірвінг Бэрлін).

Мара Васіля Быкава не зьдзейсьнілася…

Гімн – крыніца патрыятычных пачуцьцяў. Ён дапамагае падтрымліваць нацыянальную самасьвядомасьць, дапамагае змагацца за аднаўленьне ўласнай дзяржаўнасьці. Яскрава і пераканаўча ролю Народнага Гімну падае Адам Міцкевіч у "Пане Тадэвушу". Гімн ня толькі мабілізаваў на барацьбу і вяртаў героям надзею на аднаўленьне Незалежнасьці, але і сьціраў сацыяльныя бар'еры. Яго сьпяваў цэлы народ: сяляне і паны, каталікі і эвангелісты, праваслаўныя і яўрэі, гараджане, рамесьнікі, плебс, ваяры, паэты, добрыя і злыя людзі, героі і баязьліўцы, сьвятыя і злодзеі. Гімн, як Лідэр-змагар, Лідэр-працаўнік, аб’ядноўваў усіх і вёў да перамогі. На вялізны жаль, у Беларусі з Народным Гімнам сапраўдная катастрофа, якая доўжыцца да сёньня. Народнага Гімну фактычна няма, бо яго не сьпявае Народ, бо яго не пачуеш На Белсаце, ці на Радыё Рацыя, ён не гучыць на зьездах, канфэрэнцыях, сэмінарах, сходах…, нідзе. Яго няма. Ці ёсьць яшчэ ў сьвеце краіна, якая не мае Народнага Гімну?

Украінскага воіна, якога ўдалося вярнуць з палону, карэспандэнтка запытала, што найбольш яго ўсхвалявала на волі? Ён адказаў, што кожная хвіліна на волі, на роднай зямлі, сустрэча з роднымі неапісуема хвалюючыя і шчасьлівыя. Але, калі ўся сям’я села ў аўтамабіль, каб вяртацца ў родную хату, і раптам усе засьпявалі Гімн Украіны, то ён ня мог стрымаць сьлёз.

Справай Народнага Гімну неабходна тэрмінова заняцца і вырашыць яе станоўча. Гэта выклік "новай" апазыцыі.

Фэномэн Нацыянальнай сьвядомасьці не ўзьнікае адразу і не ва ўсіх слаях грамадзтва. Калі першапачаткова нацыянальная сьвядомасьць не заквітнее ў элітарных колах, то яна не пранікае ў нізы, куды яна можа пранікнуць толькі дзякуючы дзейнасьці прадстаўнікоў інтэлектуальнай і навуковай супольнасьці, дзеячаў культуры, мастацтва і палітыкі, або пад уплывам пэўных сацыяльных і

гістарычных падзей. Найбольш яскрава стан Нацыянальнай сьвядомасьці, нават у рэгіянальных лідэраў, характарызуюць неардынарныя незразумелыя факты. Вось публікацыя Свабоды ад 13 жніўня 2013:
" ЗА АДЗІНУЮ дзяржаўную МОВУ Беларусі!
Магілёў: Адзіная беларускамоўная вучаніца ізноў адна ў клясе.
Адзіная ў Магілёве беларускамоўная вучаніца Ялінка Салаўёва сёлета, як і ў папярэднія тры гады, у клясе будзе адна. Бацькі намагаюцца знайсьці дачцэ аднаклясьнікаў, аднак ахвочых вучыцца па-беларуску ў чатырохсоттысячным горадзе пакуль не знаходзіцца. Сёлета Ялінка Салаўёва пойдзе ў чацьвёртую клясу. Першага верасьня ёй уручаць дыплёмы за перамогі на алімпіядах па матэматыцы, расейскай ды беларускай мовах, а таксама па прадмеце "Чалавек і сьвет". Бацькі ж мантажуюць відэаролік са зваротам да магілёўцаў, якія, магчыма, хочуць аддаць дзяцей у клясу зь беларускай мовай навучаньня, але пакуль ніяк не наважацца. Відэаролік зьбіраюцца растыражаваць у сацыяльных сетках інтэрнэту".

У Магілёве з 380 тысячамі насельніцтва і мноствам сяброў апазыцыйных партый, таварыстваў, рухаў, НГА нацыянальна сьвядомых было тры чалавекі – Ялінка Салаўёва з маці Надзеяй і бацькам Зьмітром! Яны ў 2010 годзе ў 380-тысячным горадзе паспрабавалі аднавіць навучаньне ў мясцовых школах на беларускай мове. Ніхто не падтрымаў! У выніку зь дзевяці толькі адзін год у Ялінкі былі аднаклясьнікі. Ніякія апраўданьні на дыктатуру тут не праходзяць. Проста больш не знайшлося нікога, хто захацеў бы навучаць сваіх дзяцей на Беларускай мове і падаць для гэтага адпаведную заяву. 18 чэрвеня 2019 Ялінку прынялі ў "коласаўскі" ліцэй.

Яшчэ больш характэрны факт - амаль поўная адсутнасьць эпітафій на могілках на Беларускай мове. Тут і заяву падаваць ня трэба! І дамагацца нічога ня трэба, і нязручнасьцей ніякіх…

Узьнікае пытаньне, адкуль у 2020 такі магутны выбух нацыянальнай сьвядомасьці?
Справа ў тым, што на іншым нават радавым узроўні, як стыхійна так і мэтанакіравана, ішла праца па фарміраваньню Нацыянальнай сьвядомасьці. У якасьці пазытыўных прыкладаў можна казаць пра працу Таварыства Беларускай школы, Коласаўскага ліцэю, Праграмы імя Каліноўскага, заснаванай ў 2006 годзе ў выніку звароту Аляксандра Мілінкевіча да Польскага Ўраду, многіх НГА, мясцовых суполак, спартоўцаў, актывістаў адзіночак, пасыянарных патрыётаў, многіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі, дзеячаў культуры… Гэта яны засеялі грыбніцу, якая высыпала мільённымі "шчырымі" плёнамі па ўсёй Беларусі. Белы сьцяг Сьвятланы Ціханоўскай, паліты крывёй Беларусаў лукашысцкімі бандытамі, стаў Бел-Чырвона-Белай Паходняй Народу.

*"Так будуць апошнія першымі, і першыя апошнімі; бо шмат пакліканых, ды мала выбраных" (Паводле Мацьвея 20:16).*

Ролю замежнай апазыцыі ў фармаваньні нацыянальнай сьвядомасьці дазвольце мне прасачыць па дзейнасьці ў найбольш вядомай мною сфэры філятэліі. Эміграцыйны дасьледнік Вітаўт Тумаш у лісьце да ўладыкі Васіля (Тамашчыка) ад 10 траўня 1969 г. пісаў: "Як вядома, першая паштовая марка з партрэтам Скарыны была выдадзена Ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ ў 1918 годзе, ці першым годзе паўстаньня БНР, у сэрыі марак рэспублікі з надпісам "Беларусь Почта". Паколькі мне ведама, дзеля наступу Чырвонае арміі, маркі гэтыя ня было часу пусьціць у практычны паштовы ўжытак. Ды іх усё ж рэгіструюць некаторыя паважныя філятэлістычныя каталёгі, як, для прыкладу, Michel Briefmarken Katalog 1953. Munchen, 1953.b. 61. Другую марку з партрэтам Скарыны, не паштовага ўжо характару, выдаў у 1942 (?) годзе ў Бэрліне Бэрлінскі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне".

Для незаангажаванага чалавека такая падзея, як выданьне першай паштовай маркі краіны, выглядае нязначнай, бо ён ня ведае, што гэты маленькі кавалачак паперы – паштовая марка – уводзіць краіну ў каталёгі цэлага сьвету, становіцца сымбалем трываласьці народу, сьведчаньнем яго існаваньня. Таму зьяўленьне ў 1918 нават па-за межамі краіны першай беларускай маркі ёсьць сапраўды значнай падзеяй у складанай і трагічнай гісторыі нашага народу ў XX ст. Негледзячы на неспрыяльныя ўмовы, зьвязаныя зь нямецкай акупацыяй, Рада і Ўрад БНР засяродзілі сваю ўвагу на арганізацыі беларускіх дзяржаўных інстытутаў па ўсім абшары рэспублікі.

Сярод іншых была арганізавана й Палявая пошта БНР. У часе разгляду пытаньня пра стварэньне Беларускай дывізіі на Балтыцы на аснове Асобнага Атрада Булак-Балаховіча Езавітаў прыняў рашэньне арганізаваць для гэтага вайсковага падраздзяленьня ваенна-палявую пошту й вырабіць асобныя паштовыя маркі. Ён разьлічваў, што ад продажу часткі накладу марак можна будзе аплаціць выдаткі на іх выраб і атрымаць пэўны прыбытак. Папярэдне ўзгадніўшы пытаньне пра выданьне марак з генэралам Булак-Балаховічам, Канстанцін Езавітаў дамовіўся адносна праекту марак з Рыхардым Зарыньшам, латвійскім мастаком, аўтарам многіх расейскіх марак і банкнотаў, дызайнэрам латвійскіх банкнотаў. 14 лютага 1920 г. у Ваенна-дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі з Экспэдыцыі вырабу дзяржаўных папераў Латвіі прыйшла першая партыя (500 тыс. экз.) 15 кап. марак "Асобны Атрад Б.Н.Р". 27 лістапада 1920 году, распачаўся Слуцкі Збройны Чын. Падчас Слуцкага Збройнага Чыну 1 сьнежня 1920 г. штабам Беларускай слуцкай брыгады для сваіх паштовых патрэбаў былі выкарыстаны польскія маркі, на якіх

была зроблена ручная наддрукоўка наміналу, Пагоні й літараў "Ч. Р. Сл". (Часовая Рада Случчыны).

За час ад 1922 да 1941 г. у Савецкай Беларусі не было арганізавана ніводнай буйнай філятэлістычнай выставы (магчыма, мясцовыя праводзіліся, але й пра іх няма ніякіх зьвестак), не адбылося ніводнага адмысловага гашэньня. Да канца 1930-х – пачатку 1940-х гг. філятэлістычны і наогул калекцыйны рух у Беларусі, як і ва ўсім СССР, быў практычна зьнішчаны. Шматлікія калекцыянэры былі расстраляныя, сядзелі па лягерах ГУЛАГу, іншыя былі сасланыя ў аддаленыя месцы Сыбіры. Лёс канфіскаваных калекцыяў застаўся невядомы.

У гады СССР было выпушчана ў зварот 6380 паштовых марак Зь іх каля 90 толькі ўмоўна, можна аднесьці да беларускай філятэліі (дзяржаўныя знакі, гарады й архітэктура, героі Вялікай Айчыннай вайны, выбітныя дзеячы, прырода, мастацтва, культура, прамысловасьць...). У гэты ж час за межамі Беларусі, хоць і эпізадычна, але друкаваліся і ўводзіліся ва ўжытак маркі й іншыя паштовыя выданьні беларускай тэматыкі.

У студзені 1950 г. былі выдадзены маркі Рады БНР. Маркі выдалі ў двух сэрыях. На першай – Старшыні Рады БНР Пётра Крэчэўскі і Васіль Захарка, Дом Рады БНР. На другой сэрыі: Пагоня і мапа Беларусі. Пазьней, у 1971 г. яны выкарыстоўваліся Поштай ЗБВБ (Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі) і ганараваныя ангельскімі паштовымі ўладамі. Рыхтуючыся да 40-х угодкаў Слуцкага паўстаньня, што прыпадалі на лістапад 1960 г., Згуртаваньне беларускае моладзі Амэрыкі выдала адмысловыя юбілейныя маркі. Маркі выдадзеныя на аркушах па дваццаць штук. Аркуш пачынаецца гэткім тэкстам (па-беларуску й па-ангельску: "Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчьна – жывеце вы, каб Бацькаўшчына не памерла! Памажэце замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстаньня – злажэце ахвяру на выданьне Слуцкага Альманаху. Наклейвайце гэтыя маркі на лістох і пачках – пашырайце праўду аб Беларусі". І тут жа назоў ды адрас арганізацыі: Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn 17, N. Y. У пятым нумары часопісу "Беларуская Моладзь" (студзень–сакавік 1960 г.) кіраўніцтва ЗБМА зьвярнулася да беларускае моладзі на эміграцыі з заклікам памагчы распаўсюдзіць гэтыя маркі сярод сваіх і чужынцаў. Тут чытаем:
"Помнік слуцкім паўстанцам... На прапанову й просьбу Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі на сьвяткаваньні 39-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Нью-Ёрку час ад лістапада 1959 году да сьнежня 1960 году быў абвешчаны Годам Слуцкага Паўстаньня... ЗБМА, падтрымваючы свае словы канкрэтнай справай, выдала юбілейныя маркі да 40-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Галоўнае кіраўніцтва Згуртаваньня заклікае ўсю беларускую моладзь вольнага сьвету ўзяць на сябе

адказнасьць за распаўсюджаньне гэтых марак сярод сваіх суродзічаў і сярод чужынцаў. За здабытыя пры гэтым грошы ЗБМА плянуе выдаць Слуцкі Альманах, у якім будзе зьмешчана ўсё, што ёсьць у нашай літаратуры, мастацтве й музыцы пра Слуцкае Паўстаньне. Гэта будзе найлепшы й найтрывалейшы помнік Беларускім Гэроям, якія не пашкадавалі жыцьця свайго ў імя лепшае будучыні Беларусі. Няхай-жа беларуская моладзь вольнага сьвету станецца будаўнікам помніка Слуцкім Паўстанцам!"

Унікальнай ініцыятывай беларусаў Вялікабрытаніі стала арганізацыя ў часе страйку паштовай службы краіны ў 1971 г. афіцыйнай інстытуцыі "Пошта ЗБВБ". Атрымаўшы дазвол, сакратар Англа-беларускага таварыства брытанец Гай Пікарда сам зрабіў эскізы й надрукаваў аж пяць сэрый марак. Дзейнасьць "Пошты ЗБВБ" працягвалася да 10 сакавіка 1971, калі была адноўленая праца звычайнай паштовай службы. За гэты невялікі час некалькі соцень лістоў зь беларускімі маркамі былі дастаўленыя ў розныя гарады Вялікабрытаніі й за мяжу. "Пошта ЗБВБ" стала выдатнай магчымасьцю рэпрэзэнтацыі беларусаў у брытанскім грамадзтве. Акрамя падзякі ад мясцовых уладаў за цікавую й карысную ініцыятыву, Згуртаваньне атрымала ўнікальны шанец прапаганды беларускай культуры й гісторыі. Пасьля сканчэньня дзейнасьці паштовай службы, усе дакумэнты адносна яе, а таксама нявыкарыстаныя маркі ЗБВБ перадало ў Беларускую бібліятэку й музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Прыбытак ад продажу пазасталых камплектаў марак пайшоў на патрэбы бібліятэкі.

У 1973 г. у газэце "Беларус" зьявілася абвестка "Угодкі друку адзначаныя маркай" наступнага зьместу:
"Для ўшанаваньня 450-х угодкаў ад пачатку друку ў Беларусі Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку выдаў летась, у месяцы сьнежані, адмысловую юбілейную марку. Марка колеру вішнёвага, пасярэдзіне яе рэпрадукаваны партрэт Доктара Францішка Скарыны зь ягонае Бібліі. Партрэт абведзены арнамэнтаванай рамкай з надпісамі: "450-я ЎГОДКІ ДРУКУ Ў БЕЛАРУСІ. Др. Фр. СКАРЫНА, 1485? – 1540. МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА. ВІЛЬНЯ. 1522–1972". Графічнае афармленьне маркі мастака Барыса Данілюка. Марка выдадзеная лістамі, па 20 марак на кожным, з інфармацыйнымі даведкамі на лісьце пра ўгодкі друку ў Беларусі ў мовах ангельскай і беларускай. Тэкст даведкі:
"1522–1972. 450-я ЎГОДКІ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ. У 1522 годзе, у тагачаснай сталіцы Беларусі Вільні, з друку паявілася МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА. Гэта першая кніга надрукаваная на тэрыторыі Беларусі й усяе Ўсходняе Эўропы. Выдаў яе ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА З ПОЛАЦКА (1485?–1540), доктар навукаў вызваленых і мэдыцыны, выдатны вучоны гуманісты, перакладнік і выдавец

беларускае Бібліі. Патрэт Доктара Скарыны на марцы рэпрадукаваны з дрэварыту ягонае Бібліі.
Выдадзеная цяпер марка гэта ўжо трэцяя марка з партрэтам Доктара Скарыны. Марку першую, для паштовага ўжытку, у 1918 годзе выдаў у Менску ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі. Другую, у 1942 годзе надрукаваў у Бэрліне Беларускі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне. Ніякіх скарынінскіх паштовых марак не выдавалася ў Беларускай ССР. "Сувэрэннасьць" рэспублікі там гэткая, што выдаваць паштовыя маркі яна ня мае й права".

Аб скарынаўскіх марках, выдадзеных БІНІМам у 1972 да 450-х угодкаў пачатку друку на тэрыторыі Беларусі стараньнямі Вітаўта Тумаша, апошні пісаў у сваім лісьце да айца Лява Гарошкі ад 22 сьнежня 1972:
"Дарагі Войча!
Сёньня якраз пошта прынесла Ваш "калядны падарак" – кніжку Гарэцкага. Вельмі за яе дзякую, а разам з падзякай шлю адразу сяньня ж надрукаваныя на Скарынавы ўгодкі маркі. Паколькі за гэта не ўзяліся нашыя філятэлісты, давялося справу заініцыяваць і давесьці да друку самому. Пасьля розных нечаканых перашкодаў марка, якая мела быць гатоваю на час Сустрэчы ў Канадзе, надрукаваная была толькі сяньня. [...]

*З надпісаў на марцы лёгка зацеміць, што ўскладзена на яе колькі заданьняў. Першае і найважнейшае – адзначыць важныя культурна-гістарычныя ўгодкі. Рэч другая – адзначыць угодкі, дата якіх выяўленая працаю беларускіх навукоўцаў за межамі свайго краю. Трэцяе – прыгадаць, што дайшло да гэтага ў тагачаснай сталіцы Беларусі, у Вільні, ды што Вільня – беларускае места. Чацьвёртае – паказаць для "рэспублікі", БССР, што маркі ў патрэбе можа выдаць і эміграцыя, хоць сама рэспубліка з сваёй "сувэрэннасьцю" гэтага зрабіць ня мае й права, калі б і хацела б. Гэта мо змусіць дзеячоў БССР дамагацца ад Масквы, каб пры першай нагодзе Скарынаву марку ўсё ж выдалі б і ў СССР; Івану ж Фёдаравічу выдалі ўжо колькі. Пятае – на марцы даць рэпрадукцыю арыгіналу з партрэту Бібліі, а не яго прарысоўкі, як гэта зроблена на скарынінскай марцы БНР 1918 году.*
***Дык на марку ўскладзены вялікі ідэйна-прапагандовы нацыянальны "багаж". Тое-сёе з гэтага яна напэўна зробіць.*** (Вылучана Л.К.) Пра марку плянуецца перадача ў СССР праз радыё Свабода. Пра яе маюць друкавацца артыкулы ў чужамоўным, філятэлістычным і нефілятэлістычным друку.
У глыбокай пашане, Ваш".

Наступны этап гісторыі беларускіх марак на эміграцыі зьвязаны са сьвяткаваньнем 60-х угодак абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У Вялікабрытаніі яны былі адзначаныя ўрачыстым прыняцьцем у Палаце лордаў ды арганізаваньнем адмысловай

"Юбілейнай Пошты БНР" з галоўнымі яе паштовымі канторамі ў Лёндане (Вялікабрытанія), Парыжы (Францыя) і Дубліне (Ірляндыя). Беларуская замежная пошта выдала юбілейныя маркі чатырох наміналаў. Матывам марак стала Пагоня, надпіс "Беларусь" ды адна з лічбаў – 5, 10, 25 або 50. Колеры марак – чырвоны, сіні, жоўты й зялёны. Частка марак кожнай дэнамінацыі мае напіс: "Юбілейная Пошта Б.Н.Р. 1918–1978". Беларуская замежная пошта была афіцыйна зарэгістравана ў Лёндане пад нумарам РБН2305515. Ліцэнзію для арганізацыі "Юбілейнай пошты БНР 1918–1978" Старшыня Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч выдаў 30 траўня 1978 г. Неўзабаве ён атрымаў ад Гая Пікарды праекты марак з выявай Пагоні ў пяці колерах з надпісам "Юбілейная пошта Б.Н.Р. 1918-1978".

У 1983 г. украінскае філятэлістычнае таварыства ў ЗША (Бафала, штат Нью-Ёрк) з ініцыятывы вядомага філятэліста, найбуйнейшага калекцыянэра беларускіх марак у Амэрыцы Багдана Павука надрукавала марку з выяваю абраза Жыровіцкае Божае Маці.
У 1985 г. дзякуючы супрацоўніцтву Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка (ідэя маркі) й Багдана Павука ў ЗША была выдрукаваная марка да тысячагодзьдзя навяртаньня беларусаў у хрысьціянства. Побач з надпісам стаялі даты: 988–1988. Марка ўяўляла сабой ахопленую полымем цёмна-чырвоную выяву Эўфрасіньеўскага крыжа з датаю 988, а наўкола крыжа надпіс: Bielarusia’s Millennium Christianity. Марку надрукавалі з пэрфарацыяй і безь яе – на тысячу асобнікаў.

У параўнаньні з афіцыйнымі маркамі (хоць некаторыя зь пералічаных вышэй і нельга цалкам аднесьці да гэтае катэгорыі) значна больш было выдадзена віньетак (ад франц. vignettes, ці, як звычайна іх называюць на Захадзе, cinderellas). Яны наклейваліся на капэрты побач з афіцыйнымі маркамі і ўяўлялі сабой або копіі старых беларускіх марак (прыкладам, "Асобны Атрад"), або былі адмыслова зробленыя да ўгодак ці адлюстроўвалі пэўныя сымбалі (Пагоня (1975, 1980), Вітаўт і дата 1430, "Гадавіна 1-га сьцягу ў Ватэнштэце, 1945-1947", Анёл і словы "Раство", "Беларусь" (Чыкага, 1979), скаўцкі знак з словамі "Bielaruskija Skauty" (1984). Большасьць зь іх зрабілі згаданы вышэй Багдан Павук і Біл Леш з Каліфорніі, таксама зьбіральнік беларускай філятэліі. Акрамя марак былі выдадзеныя некалькі капэртаў Беларускай патрыятычнай тэматыкі. Убачыць іх можна тут: https://kamunikat.org/bek/kaperty.html

Прайшло больш за палову веку… "Старая" эміграцыя паступова адыходзіць у лепшы сьвет. Замежжа на вялікі жаль папоўнілася вялізарнай колькасьцю "новай" эміграцыі. Ніякіх філятэлістычных выданьняў "новая" эміграцыя не зрабіла. Хоць магчымасьцей яна мае на шмат больш і зрабіць такія выданьні ў сучасных умовах нашмат лягчэй. Хацелася б, каб новая хваля эміграцыі ў сучасных больш

спрыяльных умовах не пакідала справу выданьня беларускіх марак, паштовак, капэртаў, ды ладзіла б таксама філятэлістычныя выставы. Прайшоў незаўважаны беларускай філятэліяй юбілей Бітвы на Сініх водах. У 2014 було адзначана 500-годзьдзе Бітвы пад Воршай, у 2017 – 500-годзьдзе выданьня Скарынаўскай Бібліі, у 2018 – 100-годзьзе БНР, у 2020 адбылася Рэвалюцыя годнасьці… Дзяржаўная Белпошта, вядома, не "заўважае" гэтыя юбілеі. Гэта не дзіўна. Дзіўна, чаму "новая" эміграцыя гэтаксама, як дзяржаўная, гэтых юбілеяў не заўважае, у той час, як у самой Беларусі энтузіясты, як могуць, працягваюць традыцыю "старой" апазыцыі ва ўмовах тэрору. Вось некалькі прыкладаў.

Актывісты сталі рабіць і пасылаць па пошце самаробныя канвэрты з відарысамі Вялікіх князёў ВКЛ, знакамітых пісьменьнікаў, з Сымбалямі БНР, прысьвечаныя юбілейным датам гісторыі з адпаведнымі цытатамі і тэкстамі на тыльным баку. Друкаваліся паштоўкі патрыятычнага зьместу на аснове якіх філятэлісты рабілі картмаксімумы.

Калі Белпошта адмовілася прыняць да выданьня праект марачнага аркуша з гравюрамі Скарыны 23 чэрвеня 2017 – па ініцыятыве і праекту філятэліста Карповіча Лявона - Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне "Згуртаваньне Беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і Нью-Ёркскі Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ) выпусьцілі ліст налепак з трыццацьцю гравюрамі Францішка Скарыны, прысьвечаны пяцісотгодзьдзю перакладу і друку Бібліі Скарынам і пяцісотгодзьдзю Беларускага кнігадрукаваньня.

У Беларусі рэгулярна, што два гады, пачынаючы ад 1998, праводзяцца Нацыянальныя філятэлістычныя выставы. Але першыя тры Беларускія выставы былі арганізаваныя пад кіраўніцтвам вядомага філятэліста Фрэдэрыка Гушчы пры ўдзеле Аляксандра Сьцяпанчанкі зь Беластоку й Лявона Карповіча: першая – "Прырода й мы" адбылася 26 сакавіка 1995 г. у Скідзелі, другая – "Мой родны кут" – 6 ліпеня 1997 г. у мястэчку Луна, а трэцяя – "Наша спадчына" – 19 сьнежня 1998 г. у Гудзевічах у музэі Алеся Белакоза.

Тое, што паштовая марка не страціла таго, пра што пісаў Вітаўт Тумаш: *"Дык на марку ўскладзены вялікі ідэйна-прапагандовы нацыянальны "багаж""*, даказвае прыклад выданьня поштай Украіны мільённым тыражом маркі *"Російський військовий корабель, йди на …!"*. Каб купіць марку ўтварыліся вялізарныя чэргі, у якіх людзі стаялі па пяць гадзін. За суткі кошт аркуша (6 марак) скочыў з 69 грывен (3,5$) да 7000 грывен (350 $). Марка імгненна разышлася па ўсім сьвеце. Чым не прыклад да перайманьня! Не будзем губляць надзеі, што "новая" апазыцыя адродзіць набыткі "старой" апазыцыі ў філятэліі.

Роўна 2 гады таму Марыя Калесьнікава парвала свой пашпарт, калі яе гвалтам вывозілі з краіны. Тады яе пасадзілі за краты. Марыя напісала ліст з нагоды чарговай гадавіны свайго ўчынку. Урывак з гэтага ліста:
"За 2 гады шмат што зьмянілася – адбываецца катастрофа. Нас выкрадаюць адно ў аднаго, у нас выкрадаюць гісторыю і будучыню, у нас спрабуюць выкрасьці краіну. Нават у часы самага апраметнага жаху пачуцьцё ўласнай годнасьці, свабоду, дабро і любоў выкрасьці, адабраць або забіць немагчыма. Я дзякую і захапляюся ўсімі: маімі роднымі, блізкімі і беларусамі, зь якімі мы разам праходзім гэтае пекла. Нашы падтрымка, любоў, сьмех і ўсьмешкі – і ёсьць наша перамога! Сёньня я буду, як і заўсёды, гучна сьмяяцца і зь велізарнай любоўю думаць пра тату, сястру і ўсіх блізкіх! ***Любоў мацнейшая за страх!"***

*Лявон Карповіч, Луна-Воля, 19.09.2022*

**Ілюстрацыі да артыкула Лявона Карповіча "Нацыянальная самасьвядомасьць у сьвятле маралі, міласэрнасьці і любові"**




*Ялінка Салаўёва, якая з 2011 па 2019 была адзінай вучаніцай у Магілёве, якая вучылася на беларускай мове, з маці Надзеяй і бацькам Зьмітром*




*Першыя Беларускія маркі. "Як вядома, першая паштовая марка з партрэтам Скарыны была выдадзена Ўрадам Беларускай ароднай Рэспублікі яшчэ ў 1918 годзе, ці першым годзе паўстаньня БНР, у сэрыі марак рэспублікі з надпісам "Беларусь Почта". Вітаўт Тумаш*


Private Machwerke:

Anfang November wurde die Post von der Lettischen Selbstverwaltung übernommen.

*Першыя Беларускія маркі ў Каталёгу Michel*




*Ліст, аплачаны маркамі "Асобны Атрад БНР" з датай гашэньня 21.04.1920*




*Паштовая картка Баранавічы Вільня ад 21 студзеня 1921, аплачаная маркамі Слуцкіх паўстанцаў*




*Ліст сяброўскай легітымацыі сябра Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне (1943) з наклеенымі маркамі, выдаванымі за аплату сяброўскіх складак*




*Маркі Рады БНР (першая сэрыя), выдадзеныя ў 1950 годзе*




*Маркі Рады БНР (другая сэрыя), выдадзеныя ў 1950 годзе*




*Аркуш юбілейных марак, прысьвечаных 40 угодкам слуцкага паўстаньня, выдадзеныя ў 1960 Згуртаваньнем Беларускай моладзі Амэрыкі (ЗБМА)*




*Маркі з першай-чацьвёртай і другой сэрыяў "Пошты ЗБВБ" Згуртаваньня Беларусаў у Велікабрытаніі, выдадзеная ў 1971 г.*




*Маркі з трэцяй сэрыі "Пошты ЗБВБ"*




*Маркі з пятай сэрыі "Пошты ЗБВБ"*

 ISSN 2562-950




*Так выглядалі лісты "Пошты ЗБВБ" з Беларускімі паштовымі маркамі*




*Аркуш марак з партрэтам Францішка Скарыны, выдадзеных БІНІМам у 1972 да 450 угодкаў пачатку друку на тэрыторыі Беларусі*




*Ліст зь юбілейнымі маркамі, выдадзенымі "Юбілейнай Поштай БНР 1918-1978". Злева на капэрце зьмешчана налепка Газэтнай маркі Беларускай замежнай пошты*




*Налепка "Лятунская пошта", выдадзенач Беларускай замежнай поштай*




*Марка з выяваю Жыровіцкае Божае Маці, выдадзеная фірмай ZAZZLE ў 1983 з ініцыятывы сябра Украінскага філятэлістычнага таварыства Багдана Павука*




*Аркуш з маркамі да тысячагодзьдзя навяртаньня Беларусаў у хрысьціянства, выдадзены ў 1985, дзякуючы супрацоўніцтву Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка й Багдана Павука*




*Налепкі з розных гадоў*



*Першыя філятэлістычныя неафіцыяльныя выставы ў Незалежнай Беларусі*

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950




*Самавыдавецкія філятэлістычныя матэрыялы розных гадоў у ў Незалежнай Беларусі*




*Канверт, выдадзены філятэлістам Германіі*




*Гравюры з Біблії Скарыны. Ліст налепак, выдадзены ў 2017 годзе ў Беларусі на сродкі Міжнароднага грамадскага аб'яднання Згуртаванне Беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ) у Н'ю-Ёрку*

**Liavon Karpovich** (*Luna-Volja, Belarus*): **"National Self-Consciousness in the Light of Morality, Mercy and Love"** ***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 25-51, www.sakavik.net )***

*Abstract*. In the article the author expresses the opinion that national consciousness should be based on the foundation of morality, mercy and love, as this guarantees the democratic nature of the society being built. It is claimed that national consciousness does not arise by itself, but is formed as a result of the fruitful and sacrificial work by all interested persons and structures. Most of all it is realized through the collective work by societal elite and leaders. Thus, it is most important to have a leader be a creator, not a destroyer of social norms. Examples are given of both negative and fruitful work manifested in the 2020 revolution. The influence of the opposition in emigration towards the formation of national consciousness and self-awareness is considered using the area of philately (i.e. placing national symbols in postage stamps). This activity is illustrated by images of created philatelic materials of different years in the Appendix to the article.

**Лявон Карпович** *(Луна Воля, Беларусь)*: **«Национальное самосознание в свете нравственности, милосердия и любви»**
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 25-51, www.sakavik.net )***

*Резюме:* В статье автор высказывает мнение о том, что национальное сознание должно основываться на фундаменте нравственности, милосердия и любви, так как это гарантирует демократичность строящегося общества. Утверждается, что национальное самосознание не возникает само по себе, а формируется в результате плодотворной и самоотверженной работы всех заинтересованных лиц и структур, но прежде всего работы элиты и лидеров. Вот почему так важно, чтобы лидер был созидателем, а не разрушителем. Приводятся примеры как негативной, так и плодотворной работы, проявившейся в революции 2020 г. На примере деятельности в сфере филателии рассматривается влияние оппозиции в эмиграции в направлении формирования национального самосознания и самосознания. К статье приложены иллюстрации созданных филателистических материалов разных лет.

**Віктар Корбут** (*Варшава, Польшча*): **"Фарміраванне мадэлі нацыянальнай гісторыі і нацыянальнага пантэона на старонках газеты «Наша Ніва» ў 1906–1907 гг."**



*Пра аўтара*: Віктар Корбут, аспірант Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар некалькіх кніг і дзясяткаў навуковых артыкулаў па праблемах гісторыі Беларусі, беларуска-літоўска-польскіх адносін, гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Займаецца вывучэннем гісторыі Мінска, Вільні, працэсу фарміравання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, гісторыі беларускай нацыянальнай сімволікі, творчасці мастака XIX ст. Чэслава Манюшкі.

*About the author*: Viktar Korbut, graduate student of Warsaw University. The author of several books and dozens of scientific articles on the history of Belarus, Belarusian-Lithuanian-Polish relations, and the history of the Belarusian national movement. He studies the history of Minsk and Vilnius, the process of formation of the Belarusian national identity, the history of the Belarusian national symbols, the work of Czeslaw Manyushka, the artist of the 19th century.

*Анатацыя.* На старонках другой беларускамоўнай газеты "Наша Нива" ("Nasza Niwa") у 1906-1907 гг. з'явілася параўнаўча мала тэкстаў, прысвечаных гісторыі Беларусі. Сярод іх вылучаюцца нататкі Яна Луцкевіча пра замчышчы ў Лішкаве (Літва) і Навагрудку. Былі спробы таго ж аўтара ўключыць гісторыю Вялікага Княства Літоўскага ў беларускі кантэкст. Брат Яна, Антон Луцкевіч, выступіў на старонках газеты з публікацыяй пра аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гг. у Літве Шымана Канарскага, таксама спрабуючы надаць яму ролю ў "беларускай" гісторыі. Таксама А. Луцкевіч разглядаў наступствы паўстання 1863-1864 гг. для гаспадаркі і нацыянальных адносін у Беларусі. "Наша Нива" ("Nasza Niwa") у 1907 г. упершыню абгрунтавала ўключэнне асобы польскага паэта Адама Міцкевіча ў беларускі нацыянальны пантэон. Усе гэтыя разрозненыя публікацыі яшчэ не маглі стварыць ва ўяўленні чытача стройнай карціны мінуўшчыны Беларусі. Аднак можна зрабіць вывад, што ў значнай ступені гістарычная ідэнтычнасць беларускіх дзеячаў складвалася ў выніку "інтэграцыі" ў беларускі нацыянальны наратыў асоб і падзей ВКЛ і польскага нацыянальна-вызваленчага руху XIX ст., як ураджэнцаў Беларусі (А. Міцкевіч), так і не звязаных з ёю (Ш. Канарскі). Уключэнне ў беларускі нацыянальны пантэон асоб з польскай культурнай ідэнтычнасцю не было выпадковым, а было абумоўлена паходжаннем большасці дзеячаў беларускага руху і вядучых супрацоўнікаў "Нашай Нивы" ("Naszaj Niwy") з польскага культурнага асяроддзя.

Стварэнне нацыянальнай карціны мінулага з канца XVIII ст. было неабходнасцю для кожнай новай нацыі ў Еўропе. Як заўважыў Міраслаў Грох, „obraz nowoczesnego narodu był skierowany ku przyszłości, ale miał zawsze także swój historyczny aspekt. Wspomnienie o tym, „czym byliśmy”, „jak cierpieliśmy”, „czego dokonaliśmy” itd. było zawsze składnikiem narodowej agitacji i znalazło się bardzo szybko wsród stereotypów narodowych”[8].

Як адзначае мінская даследчыца Марыяна Сакалова, «вывучэнне нацыяналістычных праектаў, якія выпрацавалі пачынальнікі беларускай нацыянальнай ідэі, мае прынцыповае метадалагічнае значэнне. Менавіта яны, па-першае, пачалі канструяваць мінулае на аснове сацыяльна-гістарычнай рэчаіснасці, якая іх акружала і звязаных з ёй інтарэсаў; а, па-другое, абапіраючыся на гэтае пэўным чынам інтэрпрэтаванае мінулае яны прапанавалі праекты для будучыні»[9].

Як лічыць расійскі даследчык Леанід Гарызонтаў, у працэсе фарміравання нацый апеляцыя да мовы, этнаграфічнага субстрату была ўласціва нацыям з няпоўнай сацыяльнай структурай, а зварот да гістарычнай традыцыі — нацыям з поўнай структурай. Украіну і Беларусь Гарызонтаў у гэтым плане бачыць «гібрыдным варыянтам»[10]. І ў гэтым з даследчыкам трэба пагадзіцца, што будзе паказана далей на прыкладах. Аднак у беларускім выпадку, як мы ўбачым, накладаліся адна на адну дзве канцэпцыі гісторыі — уласна беларускі падыход і польскі, прыняты беларускімі дзеячамі як часткова «свой», што звязана з тым, што яны паходзілі з польскіх нацыянальна-культурных колаў.

«Гісторыя Беларусі — гэта гісторыя ўяўленьня. Мы ўяўляем беларускую гісторыю тады і там, калі і дзе ніякай Беларусі не існавала», — разважае даследчык беларускага нацыяналізму Валеры Булгакаў[11]. У другой палове XIX — пачатку XX ст. з’яўляліся гістарычныя працы па «гісторыі Беларусі», аднак яны датычылі перш за ўсё геаграфічнай тэрыторыі *Беларусь*. У ранейшы перыяд яна магла выступаць

---

[8] M. Hroch, *Małe narody Europy. Perspektywa historyczna*, Wrocław; Warszawa; Kraków: Zakład Narodowy im. Ossolińskich – Wydawnictwo 2003, s. 127.

[9] М. Сакалова, *Пра разуменне паняццяў «нацыя» і «этнас» у сучаснай айчыннай гістарыяграфіі*, «Гістарычны альманах» 2002, т. VI, с. 179.

[10] Л. Е. Горизонтов, *Механизмы формирования украинской и белорусской наций в российском и общеславянском контексте (дореволюционный период),* [в:] *На путях становления украинской и белорусской наций: факторы, механизмы, соотнесения*, отв. ред. Л. Е. Горизонтов, Москва 2004, с. 78.

[11] В. Булгакаў, *Гісторыя беларускага нацыяналізму*, Vilnius: Інстытут беларусістыкі 2006, с. 37.

пад іншымі назвамі. Інакш кажучы, «гісторыя Беларусі» — паняцце рэтраспектыўнае.

Калі беларуская нацыя пачынае фарміравацца ў пачатку XX ст., то чым з'яўляецца яе перадгісторыя? Гэта гісторыя мясцовага насельніцтва, незалежна ад яго паходжання і ранейшых назваў. Яе просты пераказ можа не несці ніякай ідэалагічнай нагрузкі. У той жа час дзеячы нацыянальнага руху вымушаны шукаць у мінулым папярэднікаў. І тады яны надзяляюць гістарычных асоб пэўнымі, выгаднымі ім характарыстыкамі, акцэнтуюць тыя або іншыя падзеі, даюць ім інтэрпрэтацыю.
Элементы такой сканструяванай нацыянальнай гісторыі пачалі з'яўляцца на старонках «Нашай Нівы» ў працэсе асэнсавання тых гістарычных падзей, якія маглі ўспрымацца як важныя для лёсу будучай беларускай нацыі.

***Папярэднікі беларусаў.*** Першай спробай інтэрпрэтацыі паходжання беларусаў можна лічыць публікацыю ў першым нумары „Naszaj Niwy" за 1906 г. фотаздымка замчышча ў Лішкяве (цяпер вёска ў Варэнскім раёне Літвы) з гістарычным каментарыем Ščastnaha[12], якім з'яўляўся Ян Луцкевіч[13]. У каментарыі сцвярджаецца, што „zamczyszcze" было насыпана ў сярэдзіне XI ст.: „Należało jano da biełoruskich – krywiczanskich, jak daůniej kazali, Kniazioů – haspadaroů tutejszaho kraju". Аднак гістарычныя і археалагічныя матэрыялы не сведчаць аб прысутнасці ў гэтым рэгіёне ў XI ст. крывічоў, а ў пачатку XX ст. — беларусаў.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне тэрміна „krywiczanski" як сіноніма паняцця „biełoruski", прычым да тэрыторыі этнаграфічнай Літвы. Луцкевіч, відавочна, запазычыў ад мясцовых польскіх аўтараў XIX ст. тэрмін „krywiczanski" ў адносінах да беларусаў, які ў форме „sławiano-krewicka", "krewicka" ў адносінах да беларускай мовы выкарыстоўваў ужо ў 1840-я гг. Ян Чачот[14]. Аднак досыць паказальна, што Луцкевіч не звярнуў увагу на размяшчэнне замчышча на літоўскай этнічнай і гістарычнай тэрыторыі. Магчыма, гэта адзін з першых прыкладаў канструявання ў асяроддзі беларускага нацыянальнага руху версіі «нацыянальнай» гісторыі, якая была абумоўлена не столькі рэальнымі фактамі, колькі ўяўленнямі аўтараў падобных канструкцый.

---

[12] Ščastny, [*Zamczyszcze Liszkoů*], „Nasza Niwa" 1906, Nr 1, 10 (23).11, s. 5.

[13] А. Адамовіч, *«Як дух змаганьня Беларусі» (да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча),* New York: Выданьне газэты «Беларус» 1983, с. 17.

[14] *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny z dołączeniem pierwotwornych w mowie sławiano-krewickiéj,* Wilno: Drukiem Józefa Zawadzkiego 1844; *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie Sławiano-Krewickiej, z postrzeżeniami nad nią uczynionemi,* Wilno: Drukiem Józefa Zawadzkiego 1846.

***Вялікае Княства Літоўскае.*** Канструяванне гістарычных міфаў, па-першае, з'яўлялася працягам той традыцыі, якую яшчэ ў XIX ст. заклалі мясцовыя польскамоўныя (Тэадор Нарбут, Адам Ганоры Кіркор, Уладзіслаў Сыракомля і інш.) і рускамоўныя (Павел Шпілеўскі, Восіп Турчыновіч, Міхаіл Без-Карніловіч і інш.) аўтары. Па-другое, як заўважыў Валеры Булгакаў, «тое, што рэгіён "Беларусь" не валодаў хоць якой значнай гістарычнай традыцыяй і адсутнічаў на мэнтальнай мапе Эўропы аж да другой паловы XIX ст., траўмавала сьвядомасьць новасьпечаных беларускіх нацыяналістаў і штурхала іх на спробы атрыбуцыі гісторыі альбо літаратуры ўсяго Вялікага Княства Літоўскага як беларускай»[15].

У каментарыі пра мясцовасць, адлюстраваную на здымку гарадзішча, якое было апублікаваны Ščastnym, сказана: "Zamczyszcze Liszkoů (raniej Nawahrudok)", што стварае ўражанне, быццам бы гэта сапраўды гістарычны горад Навагрудак. Аднак рэальны Навагрудак знаходзіўся ў Мінскай губерні, пра што Ян Луцкевіч ведаў. Тым не менш, ён пісаў, што "u trynadcatom wieku (XIII w.) haspadar Litwy i Biełoje Rusi, Kniaża Mendog karanawaůsia na litoůskaho Karala u hetym samym Liszkowie, jak ab hetym piszuć niekatoryje z wuczonych. Sześć sot hadoů tamu nazad da pietnacataho wieku (XV w.), hety haradok – Liszkoů nazywaůsia „Nawahrudkom". Луцкевіч, такім чынам, яшчэ раз сцвярджае непадмацаваную, аднак, гістарычнымі фактамі тоеснасць Лішкявы і Навагрудка. Гэтыя ўяўленні Луцкевіч мог запазычыць з выдадзенай у 1856 г. працы гісторыка Тэадора Нарбута "Wiadomość historyczna o Liszkowie niegdyś Nowogródku Nadniemnowym czyli Nauenpille"[16].

Цікава, што Луцкевіч гаворыць пра „Mendoga" не як пра ўладара Літвы, а як пра "haspadara", "Karala" "Litwy i Biełoje Rusi". Гэта тлумачыцца тагачаснымі поглядамі дзеячаў беларускага нацыянальнага руху на «свой» край як на «Літву і Беларусь» («Беларусь і Літву»), што выразна адлюстравана ў назве пастаяннай рубрыкі навін на старонках «Нашай Долі» і «Нашай Нивы» — «З Беларуси и Литвы».

Тэндэнцыя да ўспрымання літоўскай гісторыі як літоўска-беларускай, а то і беларускай, з адсылкай да пераемнасці паміж літоўскім і «крывічанскім» перыядамі мінулага стане пазней адной з галоўных тэндэнцый у інтэрпрэтацыі гісторыі ВКЛ у беларускім нацыянальным дыскурсе і захаваецца да нашых дзён, знайшоўшы

---

[15] В. Булгакаў, *Гісторыя беларускага нацыяналізму*, Vilnius: Інстытут беларусістыкі 2006, с. 294.

[16] K. Mekas, *Liškiavos pilis*, [in:] *Lietuvos pilys*, ats. red. J. Jurginis, Vilnius: Leidykla „Mintis" 1971, p. 241.

«абгрунтаванне» нават у акадэмічнай літаратуры[17]. Гэты погляд сфарміраваўся пад уплывам рускага (заходнерускага) навуковага і публіцыстычнага дыскурсу, паводле якога ВКЛ лічылася «літоўска-рускай дзяржавай», а ў 1920-я гг. у БССР тыя ж аўтары і іх вучні, паслядоўнікі (Мітрафан Доўнар–Запольскі, Дзмітрый Даўгяла, Уладзімір Пічэта, Матвей Любаўскі, Васіль Дружчыц і інш.) замянілі гэты тэрмін на «літоўска-беларуская дзяржава»[18].

Досыць сімптаматычным прыкладам таго, што ў дзеячаў беларускага нацыянальнага руху былі фрагментарныя і недакладныя ўяўленні пра мінулае свайго краю, з'яўляецца публікацыя ўжо ў другім нумары „Naszaj Niwy" за 1906 г. заметкі ўсё таго ж Szczastnaha — "[Zamczyszcze u Nawahrudku]"[19]. Публікацыя праілюстравана малюнкам адной з веж сярэдневяковай крэпасці ў Навагрудку, "pawietowym mieści Minskoj hubernii". Szczastny гэтай публікацыяй ставіў пад пытанне свае папярэднія сцвярджэнні аб гарадзішчы ў Лішкяве. Szczastny піша, што Навагрудак — гэта „kaliś stalica Nawahrudzkaho wojewodztwa, a jeszcze daůniej – Litwy i Biełoj Rusi. Ab hetym Nawahrudku piszuć wuczonyje, szto kniaža Mendog u 1252 hadu tutaka karanawaůsia na Karala Litwy; pa praudzi to niawiedama czy tutaka, czy ů Liszkawi, katory apisany u № 1 „Naszoj Niwy".

Тым не менш, невялікія заметкі па ранняй гісторыі Беларусі і Літвы ў першых двух нумарах „Naszaj Niwy" сталі першымі спробамі асвятлення гэтага перыяду гісторыі на беларускай мове, а таксама пацвярджэннем лініі газеты на тое, каб не толькі адлюстроўваць сацыяльныя праблемы беларусаў, але і займацца фарміраваннем іх нацыянальнай ідэнтычнасці праз адсылкі да падзей «іх» гісторыі.
Ян Луцкевіч у другой са сваіх заметак закрануў праблему захавання гісторыка-культурнай спадчыны: "Ciapier z wialikaho zamku kniazioů astałosia tolki toje, szto tutaka widać na rysunku". Яшчэ раз да гісторыі перыяду ВКЛ "Nasza Niwa" звярнулася ў чэрвені 1907 г. у матэрыяле пра паэта Адама Міцкевіча[20]. У рэдакцыйным артыкуле

---

[17] І. А. Марзалюк, *Міфы «адраджэнскай» гістарыяграфіі Беларусі: манаграфія*, Магілёў: Магілёў: Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова 2009; [І. А. Марзалюк], *Вялікае Княства Літоўскае — поліэтнічная феадальная дзяржава Усходняй Еўропы,* [у:] І. А. Марзалюк, А. Г. Каханоўскі, С. М. Ходзін, Д. У. Дук, С. М. Цемушаў, П. І. Брыгадзін, А. В. Бурачонак, В. Ф. Гігін, *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці*, аг. рэд. І. А. Марзалюк, навук. рэд. Г. Г. Краско, Мінск: РУП «Выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» 2022, с. 52-53; В. Ф. Голубев, *Образование ВКЛ,* [в:] *История белорусской государственности*. В 5 т. Т. 1. *Белорусская государственность от истоков до конца XVIII в.*, отв. ред. В. Ф. Голубев, О. Н. Левко, ред. кол.: А. А. Коваленя (гл. ред.) [и др.]; 3-е изд., Минск: «Беларуская навука» 2020, с. 232-248.

[18] „Arche" 2009, № 7. Беларуская гістарыяграфія 1920-х: Сярэднявечча і раньнемадэрны час.

[19] Szczastny, [*Zamczyszcze u Nawahrudku*], „Nasza Niwa" 1906, Nr 2, 17 (30).11, s. 1.

[20] *Z „Pana Tadeusza" A. Mickiewicza*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 23, 21.06, s. 1-2.

сказана: “Wialiki i sławny ziemlak nasz – paeta Adam Mickiewicz radziŭsia ŭ 1788 [sic!] hadu na Biełaj Rusi, u Nawahrudku (Minskaj hub.)”. Такім чынам, зноў была закранута гісторыя Навагрудка. Прычым беларуская газета яго аднесла свядома да «Белай Русі», хаця ў часы Міцкевіча горад належаў да тэрыторыі, якая часцей акрэслівалася як Літва. Гэту супярэчнасць “Nasza Niwa”, відавочна, усведамляла, паясняючы, што Міцкевіч “pisaŭ pra “Litwu”, nazywajuczy hetak uwieś nasz kraj Biełarusko-Litoŭski, katory kaliś stanawiŭ niezaležnaje Wialikaje Kniažestwa Litoŭskaje”. Тут упершыню чытачу прамым тэкстам тлумачыцца ідэнтычнасць беларуска-літоўскага краю і ВКЛ. Гэта ідэя адпавядала г. зв. “krajowej” ідэі мясцовага польскага соцыуму, аднак у беларускім варыянце яна набывала асобы беларускі акцэнт, у тым ліку ў выніку далікатнай падмены паняццяў, як, напрыклад, «Літвы» — «Белай Руссю».

Такім чынам, нягледзячы на арыентацыю «Нашай Нивы» ў кантэксце рэвалюцыйных падзей перш за ўсё на пытанні, звязаныя з сацыяльнымі праблемамі, у рэдакцыі разумелі патрэбу фарміравання нацыянальнай гістарыяграфіі. У першым нумары за 1907 г. рэдакцыя “Naszaj Niwy” са скрухай пісала чытачу — “P. Januku Biełamu, Simna, Suwał. hub.” [цяпер г. Сімнас у Аліцкім раёне Літвы]: “Pakul szto nima knižki da nawuki historji ŭ biełaruskaj mowi, dobrab było kab chto ŭziaŭsia napisać jaje”[21]. Задача напісання такой кнігі была адкладзена на некалькі гадоў, пакуль у 1910 г. не ўбачыла свет спачатку на старонках «Нашай Нівы», а потым асобным выданнем першая кніга па гісторыі Беларусі Власта (Вацлава Ластоўскага) — «Кароткая гісторыя Беларусі»[22].

***Паўстанні 1830–1831 і 1863–1864 гг.*** «Наша Нива» ў 1906–1907 гг. не звярталася да падзей паміж XIII і XVIII стст., калі існавала ВКЛ, затое прысвяціла ўвагу паўстанням XIX ст. за аднаўленне ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У чэрвені 1907 г. на старонках “Naszaj Niwy” ўпершыню з’явіўся нарыс пра аднаго з лідараў паўстання 1830–1831 гг. Шымана Канарскага аўтарства Н. (Антона Луцкевіча, які з падобным артыкулам яшчэ раз выступіў у 1924 г.)[23]. У ім, праўда, успамінаецца пра час, калі “narod Polszczy, Litwy i Biełaj Rusi; Polszcza, Litwa i Biełaruś nasza byli niezaležnym hasudarstwam”, аднак без тлумачэння чытачу, што тут маецца перыяд ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У гэтым артыкуле дадзена ацэнка паўстання 1830–1831 гг. і прычына

[21] *Pacztowaja skrynka*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 1, 6 (19).01, s. 8.

[22] Włast, *Karotkaja historyja Biełarusi (pa Kirkoru)*, „Naša Niwa” 1910, Nr 1, 1 (13).01; Власт, *Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі*, Вільня: Друкарня Марціна Кухты 1910; V. Korbut, *Etnogeneza Białorusinów w świetle ustaleń Wacława Łastowskiego*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne” = «Беларускі гістарычны зборнік» 2019, Nr 51, s. 27-38.

[23] Н., *Symon Konarski*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 21, 1 (14).06, s. 6; А. Луцкевіч, *Шыман Канарскі,* [у:] А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius: Інстытут беларусістыкі; Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne 2009, с. 479-480.

яго паражэння: „Paśla paŭstannia 1831 hoda ŭsie, chto naležaŭ da jaho, musili uciekać za hranicu: ŭ Rasiei czekali ich wielmi ciažkije kary. [...] Lepszyje i razumniejszyje s-pamież ich paniali, szto prahrali jany sprawu swaju, bo nia ŭwieś narod padniaŭsia".

У гэтым тэксце асноўная ўвага была прысвечана не столькі гістарычным аспектам паўстання 1830–1831 гг., колькі алюзіям да рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. — правам і свабодам «мужыка». Аўтар артыкула адзначаў, што ні да ўваходджання ў склад Расійскай імперыі, ні ў яе складзе «мужыку» не было добра, а ў сувязі з гэтым і ідэя незалежнасці Польшчы (а таксама Беларусі і Літвы пад яе эгідай) ад Расіі, якая прапагандавалася паўстанцамі, не звязвалася з сацыяльным вызваленнем ад паншчыны, таму: „Mužyku drenna žyłosia zaŭsiahdy: i raniej, – jak Polszcza, Litwa i Bełaruś nasza byli niezaležnym hasudarstwam, – mužyk harawaŭ pad panszczynaj, jak i pad Rasiejej. Woś i nie chacieŭ jon iści wajewać za swabodu i niezaležnaść Polszczy, bo nia wieryŭ, szto jamu tam lahczej stanie". Н. рэзюмаваў, што памылкі паўстанцаў 1830–1831 гг. былі асэнсаваны наступнымі дзеячамі вызваленчага руху: „Tady mnoha paŭstancoŭ zrazumieło i toje, szto kali ŭ toj Polszczy, za katoruju jany padnialisia, mužyk pa-staramu budzie skryŭdženy i prycisnieny, to nima szto jaje dabiwacca. I žmienia hetych wajakoŭ paczała dakazwać ludziom, szto ŭ swabodnaj Polszczy i ŭwieś narod pracoŭny musić być swabodny. [...] I tolki tady možna było czekać, szto ŭwieś narod Polszczy, Litwy i Biełaj Rusi patrapić pierastroić žyccio swaje na-nowo".

У іншым артыкуле Луцкевіча — Войцеха — «Зямельная справа у Беларуси»[24] — разглядаліся наступствы паўстання 1863–1864 гг. для гаспадаркі Беларусі. Відавочна, сацыяльныя аспекты гістарычных падзей для Антона Луцкевіча былі найбольш важныя. У гэтым плане ён адрозніваўся па сваім падыходзе да гісторыі ад свайго брата Яна, які звяртаў увагу на самакаштоўнасць помнікаў даўніны.

У адным з артыкулаў серыі «Беларуская народная школа» Дзядзька Карусь (Канстанцін Міцкевіч) у негатыўным святле ўпамінаў помнік душыцелю паўстання 1863–1864 гг. Міхаілу Мураўёву ў Вільні[25]. Але самі падзеі паўстання 1863–1864 гг. не знайшлі адлюстравання на старонках першых беларускіх газет у 1906–1907 гг.

Разгледжанымі фактамі абмяжоўваецца карціна гісторыі, прадстаўленая на старонках «Нашай Нивы» за першы год яе выхаду ў свет (у «Нашай Доли» гістарычных нарысаў не было). На фарміраванне беларускай нацыянальнай

[24] Войцех, *Зямельная справа у Беларуси (Прадаўжэнне)*, «Наша Нива» 1906, № 6, 14 (27).12, с. 3–4.

[25] Дзядзька Карусь, *Беларуская народная школа. 2. Беларуская мова у казенной школи*, «Наша Нива» 1906, № 7, 22.12, с. 4.

ідэнтычнасці гэтыя выпадковыя, вырваныя з кантэксту факты ў своеасаблівай інтэрпрэтацыі калі і ўплывалі, то, трэба меркаваць, у нязначнай ступені.

***Польска-беларускія пісьменнікі — першыя персанажы беларускага нацыянальнага пантэона.*** Большую ўвагу «Наша Доля» і «Наша Нива» прысвяцілі пісьменнікам XIX ст., якія бачыліся папярэднікамі беларускіх дзеячаў пачатку XX ст. Гэтыя літаратары могуць быць залічаны да своеасаблівага беларускага нацыянальнага пантэона, у якім яны засталіся і да сённяшняга дня. Гэта звязана з тым, што беларуская мова з'яўлялася галоўным фактарам фарміравання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, таму творчасць на ёй успрымалася як уласна беларускі нацыянальны рух. Калі Янка Купала ў канцы 1920-х гг. успамінаў пра фарміраванне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці і пра пачаткі творчасці, то адзначаў, што «попадаются мне в 1904 г. или в начале 1905 г. револ<юционные> прокламации на белор<усском> языке и книжки «Дудка беларуская» Богушевича и «Гапон» или какая-то другая книжка Марцинкевича, изданная за границей, и все мое польское писание пошло насмарку. С этого времени я начинаю писать только по-белорусски […]»[26]. Паэт таксама ўдакладняў: «Из белорусских писателей прошлого близки мне почти все — и Марцинкевич, и Богушевич, и Неслуховский, и Чечот и др.»[27].

Сапраўды, да з'яўлення беларускага перыядычнага друку беларускі данацыянальны рух у пісьменстве (зрэшты, толькі ў ім) увасабляўся ў творчасці вышэйназваных аўтараў, якія паходзілі з польскага культурнага асяроддзя, пісалі ў асноўным па-польску, але таксама часам і па-беларуску. Менавіта таму яны — пісьменнікі — склалі аснову таго пачатковага беларускага нацыянальнага пантэона, які склаўся на старонках першых беларускіх газет. У першым нумары за 1907 г. "Nasza Niwa" раіла чытачам сярод прац па беларусазнаўстве — работы фалькларыстаў Паўла Шэйна, Зінаіды Радчанка, Еўдакіма Раманава, Міхала Федароўскага, а таксама — "Czeczota "Pieśni z nad Niemna i Dżwiny [sic!]"[28].

У 1906 г. "Biełaruskaja Wydaunickaja Supołka "Zahlanie Sonce i u Naše Wakonce" ў

---

[26] Я. Купала, *Поўны збор твораў*. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. *Пераклады. Эпісталярная спадчына. Дарчыя надпісы. «Расейска-беларускі слоўнік». Калектыўнае. Службовыя і асабістыя дакументы. Дадатак*, рэд. кал.: С. А. Андраюк [і інш.]; рэд. тома М. І. Мушынскі, В. У. Скалабан, Мінск: «Мастацкая літаратура» 2003, с. 271.

[27] Я. Купала, *Поўны збор твораў*. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. *Пераклады. Эпісталярная спадчына. Дарчыя надпісы. «Расейска-беларускі слоўнік». Калектыўнае. Службовыя і асабістыя дакументы. Дадатак*, рэд. кал.: С. А. Андраюк [і інш.]; рэд. тома М. І. Мушынскі, В. У. Скалабан, Мінск: «Мастацкая літаратура» 2003, с. 276.

[28] *Pacztowaja skrynka*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 1, 6 (19).01, s. 8.

Санкт–Пецярбургу выдала і рэкламавала на старонках газет “Nasza Dola” і “Nasza Niwa” паштоўкі: “Wincuk Marcinkiewič – pieśniar Biełaruski”, “Janka Łučyna (Iwan Niesłuchoūski)”, “Prancišek Bohušewič (Maciej Buračok) Pieśniar Biełaruski”, а таксама “Dom Tadeuša Kościuški u Merečoūščyni”[29]. Акрамя таго, чытачам першых беларускіх газет прапаноўвалася кніга “Wiazanka – Janki Łuczyny”[30]. У маі 1907 г. на першай старонцы «Нашай Нивы» з’явіўся верш Янкі Лучыны[31].

На старонках першых беларускіх газет анансаваўся выхад серыі з васьмі кніг „Biełaruskije pieśniary” — у тым ліку трох з творамі Францішка Багушэвіча: “Dudka Biełaruskaja”, “Smyk Biełaruski”, “Skrypačka”; твораў Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча: “Hapon”, “Wiečernicy”, “Ščeroůskije dažynki”, “Staůry–Haůry”, “Kupałła” і яго перакладам пачатку паэмы Адама Міцкевіча — “Pan Tadeuš” (Dźwie pierszyje bylicy)”[32].

Як відаць з прыведзеных вышэй фактаў, асобае месца на старонках „Naszaj Niwy” займаў Ф. Багушэвіч. Ужо ў першым нумары яго вядомую прадмову пра беларускую мову са зборніка “Dudka białaruskaja” цытавала Алаіза Пашкевіч (Мацей Крапіўка)[33], а ў верасні 1907 г. Канстанцін Міцкевіч (Адзінокі) — верш «Не цурайся»[34]. Першы твор Багушэвіча цалкам быў апублікаваны ў „Naszaj Niwie” ў сакавіку 1907 г. — апавяданне “Świedka”[35]. Яно было падпісана і псеўданімам — Maciej Buraczok, і сапраўдным прозвішчам пісьменніка — F. Bohuszewicz. У наступным нумары за тым жа подпісам было апублікавана апавяданне Багушэвіча „Palasoŭszczyk”[36]. Яшчэ адзін твор гэтага пісьменніка з’явіўся ў ліпені 1907 г. — “Dziadzina. Narodnaje apawiedannie. Zapisaŭ F. Bohuszewicz”[37].

---

[29] „Nasza Dola” 1906, Nr 3, 20.09, s. 8; Nr 6, 1.12, s. 8; «Наша Нива» 1906, № 3, 24.11 (7.12), c. 8; „Nasza Niwa” 1906, Nr 4, 2 (15).12, s. 8.

[30] *Wydannie „Naszaje Niwy”*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 9, 2 (15).03, s. 8.

[31] Янка Лучына, *Роднай старонцы*, „Наша Нива” 1907, № 17, 4 (17).05, s. 1;

[32] „Nasza Dola” 1906, Nr 3, 20.09, s. 8; Nr 6, 1.12, s. 8; «Наша Нива» 1906, № 3, 24.11 (7.12), c. 8; „Nasza Niwa” 1906, Nr 4, 2 (15).12, s. 8.

[33] Maciej Krapiůka, *Jak nam uczycca*, „Nasza Niwa” 1906, Nr 1, 10 (23).11, s. 5.

[34] Adzinoki, *s. Mikałaeūszczyna Minskaj hub.*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 29, 14.09 (2.[10]), s. 6.

[35] Maciej Buraczok (F. Bohuszewicz), *Świedka*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 9, 2 (15).03, s. 4-5.

[36] Maciej Buraczok (F. Bohuszewicz), *Palasoŭszczyk. (Apawiedannie staroha laśnika)*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 10, 9 (22).03, s. 5-6.

[37] *Dziadzina. Narodnaje apawiedannie. Zapisaŭ F. Bohuszewicz*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 25, 20.07, s. 3.

У лістападзе 1907 г. “Nasza Niwa” спасылалася на надрукаваны ў газеце «Русь» “list “da biełarusoŭ”, у якім гаварылася: “Ŭsim, chto choć krychu znaje biełaruski narod (a jaho kale 8 ½ miljonoŭ). Wiedama, jakaja jość u jaho wialikaja patreba mieć drukowanaje słowa ŭ swajej rodnaj mowie”. Паведамлялася, што „horstaczka ludziej” злучылася ў „Biełaruskaje towarystwo” — “Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce”: “Peŭnie ŭ Piecierburhu znojducca intelihentnyje ludzi z Biełarusi, katoryje nia pojduć mima hetaj dumki, nie zabuduć pra biełarusa i jaho “mužyckuju mowu”. Chto z ich zachocze padtrymać hetu sprawu pracaju swajej, ci hraszyma, niachaj zapiszecca ŭ czleny towarystwa. Ciapier “lehalnym” (zakonnym) sposabam možna sabrać i złuczyć u adno mnoha paraskidanych kulturnych sił”. Паведамлялася, што таварыства выдала “twory biełaruskich pieśniaroŭ – “Dudka biełaruskaja” Macieja Buraczka, “Smyk biełaruski” i “Skrypka”. Nadrukowana knižka “Hutarki ab niebi i ziamli”; drukujecca “Žalejka” Januka Kupały i dr.”[38]. Пасля публікацыі гэтай інфармацыі ў газеце «Русь», паведамляла беларуская газета, у рэдакцыю «Руси» “i ŭ supołku pryjszło szmat listoŭ ad ludziej, katory [sic!] choczuć pracawać dla Biełarusi i biełarusoŭ”. На падставе гэтай публікацыі можна выказаць думку пра тое, што ўжо адбывалася далучэння да «сонму» беларускіх прарокаў-пісьменнікаў Янука Купалы, што ўрэшце неўзабаве і адбылося, аднак — ужо ў паслярэвалюцыйны перыяд, з 1908 г.

***Польскія пісьменнікі, ураджэнцы Беларусі, у беларускім нацыянальным кантэксце.*** У агульнабеларускі нацыянальны пантэон уключаліся, аднак, не толькі польска-беларускія, але і польскія пісьменнікі, якія паходзілі з беларуска-літоўскіх зямель. Адным з першых быў «адаптаваны» як беларус Адам Міцкевіч. Ян Луцкевіч пад псеўданімам Szczastny ў другім нумары “Naszaj Niwy” пісаў, што “dla nas Nawahrudak maje wialikoje znaczennie: tut paczaů uczycca wialiki pieśniar naszaho kraju Adam Mickiewicz, katory ů swaich pieśniach apisaů nam wielmi pieknie Nawahrudzkaje Zamczyszcze”[39]. Асаблівыя адносіны да Міцкевіча не былі чымсьці выпадковым — гэта былі адносіны ўсяго беларускага руху да паэта. У чацвёртым нумары за 1906 г. “Naszaj Niwy” Беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» анансавала выхад у серыі з васьмі кніг “Biełaruskije pieśniary” пачатку паэмы Адама Міцкевіча “Pan Tadeuš” (Dźwie pierszyje bylicy)” у перакладзе Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча (W. Marcinkiewicza)[40]. Бадай, пачаткі рэцэпцыі Міцкевіча ў беларускі нацыянальны пантэон трэба шукаць у перакладзе Дуніна–Марцінкевіча, які

---

[38] Chalimon, *Da biełarusoŭ*, „Nasza Niwa” 1907, Nr 34, 23.11 (6.[12]), s. 6. Псеўданім Халімон з-пад пушчы выкарыстоўваў Яўген Хлябцэвіч з в. Кленікі Бельскага пав.

[39] Szczastny, [*Zamczyszcze u Nawahrudku*], „Nasza Niwa” 1906, Nr 2, 17(30).11, s. 1.

[40] „Nasza Niwa” 1906, Nr 4, 2(15).12, s. 8.

ўпершыню быў апублікаваны ў 1859 г.[41] „Nasza Niwa" перадрукавала пачатак гэтага перакладу з партрэтам Міцкевіча і з прадмовай у чэрвені 1907 г.: "Pisaŭ Mickiewicz pa-polsku. Woś tut nadrukowanyje wierszy – paczatak „Pana Tadeusza" – pierałażyŭ na naszu mowu biełaruski paeta Marcinkiewicz. Dźwie pierszyje czaści "Pana Tadeusza" skora wyjduć z druku ŭ asobnaj knižcy pa biełarusku"[42]. Сапраўды, у 1907–1908 гг. пераклад паэмы Адама Міцкевіча, зроблены Дуніным–Марцінкевічам, убачыў свет у Санкт–Пецярбургу — брашурай, выдадзенай Беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў серыі "Biełaruskije Pieśniary"[43].

Пачатак «Пана Тадэвуша» фарміраваў у чытачоў „Naszaj Niwy", аднак, не вобраз бацькаўшчыны Беларусі, а Літвы:

*Litwa! – rodna ziamielka! Ty, maŭlaŭ, zdaroŭje!*
*Toj Ciabie aszancuje* [sic!], *kamu biezhałoŭje, –*
*Chto žyŭ kaliś na niŭce Twajoj, jak u raju*
*I woś krywawy ronić ślozki ŭ czužym kraju! –*
*Ciapier to, jak Ty krasna, ja czuju, ja baczu*
*I apiszu, bo horka ŭsciaž pa Tabie płaczu! –*
*Ty, Panna, szto ściaražesz jasnaj Czenstachowy,*
*Szto świecisz ŭ Wostraj-Bramie, szto horad zamkowy*
*Nawahrodzki* [sic!] *baronisz, jaho narod žyły,*
*Jak mianie Ty padniała, maŭlaŭ, iz mahiły,*
*(Woś Ciabie biedna maci ŭ waczach sa ślazinaj), –*
*I z niemaczy padniaŭsia, i pajszoŭ ŭ darohu,*
*Kab u Twaich kaściołach padziakawać Bohu.*
*Tak nas dziwam pawierniesz u ziamielku rodnu. –*
*Pakul že bliśnie szczaście, choć duszu niahodnu*
*Źwiarni da hor lasistych, – szyrokich prakosoŭ,*
*Szto dywanam pry Niemnie świeciać s-pad niabiosoŭ,*
*Da niŭ rodnych, kałośsiem jarka malawanych,*
*Załoczenych pszanicaj, žytam pasrebranych,*
*Hdzie žoŭtaja świrepka, hdzie hreczka bialeńka,*
*Hdzie dziacielina haryć – woś krasna panienka,*
*A ŭsio miažoj prybita, baczycca ustužkaj,*
*Tam-siam bytcam k adziežce pryszpilena hruszkaj.*

---

[41] *Pan Tadéusz. Dwanátcać szlachéćkich bylíc napisáu Adám Mickiéwicz. Piarawiarnùu na białarúśkuju hawórku Wincénty Dúnin Marcinkiéwicz*. Zeszyt pierwszy, Wilno: W drukarni A. Syrkina 1859.

[42] *Z „Pana Tadeusza" A. Mickiewicza*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 23, 21.06, s. 1-2.

[43] *Pan Tadeusz, pa polsku napisaŭ Adam Mickiewicz, na biełaruskuju hutarku pierawiarnuŭ Wincuk Marcinkiewicz*. Wydańnie druhoje, Pieciarburh: „Zahlánie sónce i ŭ násze wakónce!" 1907 (1908).

Складана ацаніць, які водгук меў гэты тэкст у чытачоў “Naszaj Niwy”. Але яго вобразнасць з каталіцкімі святынямі ў польскай Чанстахове і віленскай Вострай браме магла быць блізкая толькі частцы чытачоў — каталіцкага веравызнання. Аднак большасць беларусаў была праваслаўная.

Праўда, Міцкевіча ў беларускі наратыў спрабавалі ўпісаць яшчэ раней заходнерусы. «Беларускі» вобраз польскага паэта на старонкі «Нашай Нивы» мог быць запазычаны, такім чынам, часткова і з заходнерускага дыскурсу. Так, яшчэ ў 1864 г. дзеяч заходнерускага руху Міхаіл Каяловіч прапаноўваў погляд на польскага паэта, які сугучны з нашаніўскім: «В литовском Новгородке Минской губернии, в стране белорусского населения, родился поэт, признанный великим поэтом, — Мицкевич». Праўда, Каяловіч заўважаў, што «Мицкевич, увы, не видел, не понимал, не чувствовал больной стороны западнорусской жизни»[44].

“Nasza Niwa” спрабавала сфарміраваць у чытачоў вобраз Міцкевіча як песняра «роднай зямелькі», «роднай старонкі», «роднага краю», прама ці ўскосна маючы на ўвазе пад ім Беларусь, хаця бацькаўшчынай паэта была, як ён сам пісаў, Літва: “Ůsiu moładaść prawioŭ jon ŭ rodnym kraju, wuczyŭsia i skonczyŭ uniwersytet u Wilni. Alež nia doŭha pryszłosia jamu tutaka žyć: jaho arysztawali za “palitycznyje sprawy” i prysudzili da wysyłki ŭ Rasieju. Paźniej udałosia jamu wyjechać zahranicu; szmat biedy i hora praciarpieŭ jon tamaka. I, žywuczy ŭ czužynie, nie zabyŭsia Mickiewicz ab rodnaj staroncy: jon szczyra kachaŭ jaje i ŭ tworach swaich haraczymi sławami apiswaŭ jaje chorostwo”.

Цікава, што паэму Міцкевіча «Пан Тадэвуш» спрабавалі пакласці таксама ў аснову літоўскай нацыянальнай ідэнтычнасці. У рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Сейнах літоўцы яшчэ ў 1880 г. спявалі як свой нацыянальны гімн той самы пачатак паэмы, што пераклаў Дунін–Марцінкевіч: „Lietuva, mano tėvyne, tu esi kaip sveikata...” і г. д. Адсюль гэта традыцыя была перанесена ў 1887 г. у асяроддзе літоўскіх эмігрантаў у ЗША[45]. Аднак у літоўскім нацыянальным руху Міцкевіч не

[44] М. О. Коялович, *Чтения по истории Западной России*, Санкт–Петербург: «Наука» 2020, с. 13.

[45] V. Maciūnas, *Lietuvos himno istorijos bruožai*, [in:] *Lietuvos himnas*, sud. G. Česnys, B. Kulnytė, R. Treideris, red. L. U. Urbaitė, Vilnius: Lietuvos nacionalinis muziejus; Paramos ir labdaros fondas Vinco Kudirkos įamžinti; Vinco Kudirkos fondas 2005, p. 21; J. Bruveris, *Vinco Kudirkos giesmė*, [in:] *Lietuvos himnas*, sud. G. Česnys, B. Kulnytė, R. Treideris, red. L. U. Urbaitė, Vilnius: Lietuvos nacionalinis muziejus; Paramos ir labdaros fondas Vinco Kudirkos įamžinti; Vinco Kudirkos fondas 2005, p. 63.

прыняўся як «свой», хаця для гэтага былі не меншыя падставы[46], чым у «рэцэпцыі» яго ў беларускі гістарычны наратыў.

У сакавіку 1907 г. на старонках "Naszaj Niwy" з'явілася постаць яшчэ аднаго польскага літаратара, ураджэнца Беларусі — Элізы Ажэшка. У аб'яве пра кніжныя навінкі прапаноўвалася апавяданне Ажэшка „Giedali" "z rysunkami Bohusza–Siestrzencewicza", што, як анансавалася, "chutka wyjdzie z druku"[47]. У той жа час у „Naszaj Niwie" пачалася публікацыя гэтага апавядання[48]. У чэрвені 1907 г., як сведчыць чарговая аб'ява ў газеце, гэты твор выйшаў у кніжным фармаце[49]. Аднак Ажэшка ў „Naszaj Niwie" не была ўключана ў беларускі нацыянальны пантэон. Яе біяграфія чытачу не была прапанавана.

***Польскія нацыянальныя героі ў гісторыі Беларусі.*** У адрозненне ад польскіх пісьменнікаў, звязаных жыццём і творчасцю з Беларуссю, іншыя дзеячы польскай гісторыі, якіх можна было ўключыць у беларускі кантэкст, у першых беларускіх газетах абмяжоўваюцца асобай Тадэвуша Касцюшкі, дый тое — толькі згадкай. На старонках «Нашай Долі» і «Нашай Нивы» рэкламавалася паштоўка „Dom Tadeuša Kościuški u Merečoūščyni", выдадзеная пецярбургскай Беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца»[50].

Як ужо адзначалася, у „Naszaj Niwie" ў чэрвені 1907 г. ярка — на дзвюх старонках у васьмістаронкавым нумары — была прадстаўлена Н. (Антонам Луцкевічам) постаць аднаго з лідараў паўстання 1830–1831 гг. у Літве Шымана Канарскага (Symon Konarski) — з яго партрэтам, падпісаным: "Rysunak hetaho pierszaho u nas wajaki za ziamlu i swabodu"[51]. Луцкевіч прадставіў Канарскага як «нашага ваяку», што было адзінай спробай рэцэпцыі яго асобы ў беларускай гісторыі: "Samy śmieły u nas wajaka

---

[46] V. Mykolaitis–Putinas, *Adomas Mickevičius ir lietuvių literatūra*, Vilnius: Valstybinė grožinės literatūros leidykla 1955.

[47] *Wydannie „Naszaje Niwy"*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 9, 2 (15).03, s. 8.

[48] *Gedali. Apawiedannia Elizy Orzeszkowaj*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 11, 16 (29).03, s. 2-7; Nr 12, (23).03, s. 2-7; Nr 13, (30).03, s. 3-7; Nr 14, (6) 19.04, s. 3-7; *Gedali. Apawiedannie Elizy Ožeszkowaj*, Nr 15, 13 (26).04, s. 3-6; Nr 16, 20.04, s. 3-7.

[49] *Wydannia „Naszaje Niwy"*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 22, 8 (21).06, s. 8.

[50] „Nasza Dola" 1906, Nr 3, 20.09, s. 8; „ Nasza Dola" 1906, Nr 6, 1.12, s. 8; «Наша Нива» 1906, № 3, 24.11 (7.12), с. 8; „Nasza Niwa" 1906, Nr 4, 2 (15).12, s. 8.

[51] Н., *Symon Konarski*, „Nasza Niwa" 1907, Nr 21, 1 (14).06, s. 5-6; А. Луцкевіч, *Шыман Канарскі,* [у:] А. Луцкевіч, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius: Інстытут беларусістыкі; Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne 2009, с. 479-480.

za tyje swiatyje dumki i žadannia byŭ Symon Konarski. Jon naležaŭ da paŭstannia 1831 hodu, razam z tawaryszami nie raz byŭ u bitwach i z imi razam uciok za hranicu”. Але потым “pierabraŭsia praz hranicu rasiejskuju i paspieszyŭ da pracy pamiež swaich ziemlakoŭ. Praz dwa s pałowaj hody pracawaŭ jon u naszym kraju – ŭ huberniach Wilenskoj, Minskoj, Hrodzienskoj – na Wołyniu i Podolu”. Землі Беларусі, Літвы і Украіны, як бачым, “Naszaj Niwaj” разглядаюцца як адзіны «край», а яго жыхары — «землякамі» Канарскага. З гэтага вымалёўваецца састаўны трохслойны вобраз бацькаўшчыны Канарскага ў інтэрпрэтацыі беларускай газеты: Польшча; Польшча, Беларусь і Літва; Украіна, Беларусь і Літва. У канцы нарыса расказваецца пра тое, што расійская паліцыя спрабавала схапіць Канарскага, што ўрэшце ўдалося: “Ŭ 1839 hadu, paśla straszennaho katawannia, jazstrelali [sic!] jaho u Wilni pa pryhaworu wajennaho suda, jak hasudarstwiennaho prastupnika”.

Чаму менавіта Канарскі прыцягнуў увагу Луцкевіча, цяжка сказаць. Аднак далейшай папулярызацыі «беларускі» вобраз польскага паўстанца не атрымаў. Аднак падстаў «беларусізаваць» асобу Канарскага не было. Ён быў родам з-пад Аліты (літ. Alytùs). Вядома толькі, што ураджэнец Беларусі Францішак Савіч у 1836 г. стварыў Дэмакратычнае таварыства, якое ў 1837 г. увайшло ў кантакт з Канарскім, як эмісарам эмігранцкай арганізацыі «Маладая Польшча», што павінна была аб’яднаць у Саюз польскага народа студэнтаў і шляхціцаў з Літвы, Беларусі і Украіны, якія пачалі б партызанскую вайну супраць расійскіх улад. Аднак у 1838 г. арганізацыя была выкрыта ўладамі, а Канарскі, як і Савіч, быў арыштаваны. У 1839 г. Канарскі быў расстраляны ў Вільні. Мэтай жа Канарскага і яго аднадумцаў у той час было аднаўленне Рэчы Паспалітай у граніцах 1772 г.[52]

Асобы, якія са старонак «Нашай Нивы» ўвайшлі ў беларускі нацыянальны пантэон, пераважна з’яўляліся пісьменнікамі XIX ст. з польскага культурнага асяроддзя, якія пісалі па-польску і па-беларуску, сярод якіх асаблівай увагай і пашанай выдання карысталіся Вінцэнт Дунін–Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, якія з таго часу засталіся ў кананічным спісе «бацькоў» беларускага руху. Да іх далучаецца постаць Адама Міцкевіча, які таксама быў уключаны як «пясняр» у кантэкст беларускай гісторыі і літаратуры. Аднак спроба ўпісаць у беларускі нацыянальны пантэон Шымана Канарскага аказалася няўдалай: ён пасля 1907 г. быў забыты як «беларус». Можна зрабіць вывад, што ў значнай ступені гістарычная ідэнтычнасць беларускіх дзеячаў складвалася ў выніку «інтэграцыі» ў беларускі нацыянальны наратыў асоб і

[52] M. Jučas, *Visuomeninis judėjimas ir revoliucinės demokratinės ideologijos formavimasis,* [in:] *Lietuvos TSR istorija*. I t. *Nuo seniausių laiku iki 1861 metų,* red. kol.: J. Žiugžda (vyr. red.) [ir kt.], Vilnius: Politinės ir mokslinės literatūros leidykla 1957, p. 419-420; [V. Merkys], *Lietuvos socialinė-ekonominė ir politinė raida Rusijos imperijoje (1795–1861),* [in:] *Lietuvos TSR istorija*. T. I. *Nuo seniausių laiku iki 1917 metų,* red. kol.: B. Vaitkevičius (ats. red.) [ir kt.]; 2-as leid., Vilnius: „Mokslas” 1986, p. 259-260.

падзей ВКЛ і польскага нацыянальна-взываленчага руху XIX ст., як ураджэнцаў Беларусі (А. Міцкевіч), так і не звязаных з ёю (Ш. Канарскі).

Уключэнне ў беларускі нацыянальны пантэон асоб з польскай культурнай ідэнтычнасцю не было выпадковым, а было абумоўлена паходжаннем большасці дзеячаў беларускага руху і вядучых супрацоўнікаў першых беларускіх газет з польскага культурнага асяроддзя.

**Viktar Korbut** (*Warsaw, Poland*): **"The Formation of a Model of National History and National Pantheon on the Pages of *Nasha Niva* Newspaper from 1906-1907"** ***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 52-67, www.sakavik.net )***

*Abstract*. On the pages of the second Belarusian-language newspaper *Nasha Niva* in 1906-1907 relatively few articles were devoted to the history of Belarus. Among them, Jan Lutskievich's notes about castles in Lihskiava (Lithuania) and Navahrudak stand out. There were attempts by the same author to include the history of the Grand Duchy of Lithuania (Litva) within the Belarusian context. Jan's brother, Anton Lutskievich, appeared on the pages of the newspaper with an article about one of the leaders of the uprising of 1830-1831 in Lithuania by the name of Shymon Konarski. Lutskievich tries to give him a place in Belarusian history. A.  Lutskievich also examined the consequences of the uprising of 1863-1864, its effect on the economy and national relations within Belarus.  For the first time in 1907 *Nasha Niva* justified the inclusion of the personality of the Polish poet, Adam Mitskievich, as being a part of the Belarusian national pantheon. All these scattered publications could not yet create a coherent picture of Belarus's past in the reader's mind. However, it can be concluded that to a large extent the historical identity of Belarusian figures was formed as a result of "intigrating" them into the Belarusian national narrative of persons and events of the Great Duchy of Lithuania and the Polish national movement of the 19th century which included well-known individuals such as A. Mitskievich amd S. Konarski who were born in Belarus but were active in Belarusian movements. The inclusion in the Belarusian national pantheon of persons with Polish cultural identity was not accidental, but was determined by the origin of most of the figures of the Belarusian movement and leading employees siding with *Nasha Niva* within the context of Polish cultural environment.

**Виктор Корбут** *(Варшава, Польша)*: **«Формирование модели национальной истории и национального пантеона на страницах газеты «Наша Ніва» в 1906-1907 гг.».**
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 52-67, www.sakavik.net )***

*Резюме*. На страницах второй белорусскоязычной газеты «Наша Ніва» за 1906-1907 гг. Было сравнительно мало текстов, посвященных истории Беларуси. Среди них выделяются заметки Яна Луцкевича о замках в Лишкаве (Литва) и Новогрудке. Были попытки того же автора включить историю Великого княжества Литовского в белорусский контекст. Брат Яна, Антон Луцкевич, появился на страницах газеты с публикацией об одном из руководителей восстания 1830-1831 гг. в Литве Шимана Канарского, тоже пытаясь отвести ему роль в «белорусской» истории. А. Луцкевич

рассмотрел также последствия восстания 1863-1864 гг. на экономику и национальные отношения в Беларуси. «Наша нива» («Nasza Niwa») в 1907 году впервые обосновала включение личности польского поэта Адама Мицкевича в белорусский национальный пантеон. Все эти разрозненные публикации еще не могли создать в воображении читателя целостной картины прошлого Беларуси. Однако можно сделать вывод, что историческая идентичность белорусских деятелей во многом сформировалась в результате «интеграции» в беларусский национальный нарратив лиц и событий ВКЛ и Польского национального движения XIX века, как например, уроженцев Беларуси (А. Мицкевич), так и несвязанных с ней (Ш. Канарский). Включение в белорусский национальный пантеон лиц с польской культурной идентичностью не было случайным, а определялось происхождением большинства деятелей белорусского движения и ведущих сотрудников «Нашей Нивы» из польской культурной среды.

**Алена Лявончанка** *(Таронта, Канада)*: **"Практычны досвед развіцця арганізацый беларускай дыяспары"**



*Пра аўтара*: Алена Лявончанка ад 2008 году жыве і працуе ў Канадзе. Навучалася ў Ліцэі БДУ, скончыла хімічны факультэт БДУ, мае ступень PhD па малекулярнай біялогіі ад ўніверсэтыта Гётынгена. З'яўляецца сяброўкай Згуртаваньня Беларусаў Канады ад 2010 г, ад 2017 г на пасадзе старшыні ЗБК. Актыўна ўдзельнічае ў спеўным праекце “Яваровы Людзі”, каардынуе творчыя і фальклорныя імпрэзы ў беларускай суполцы Таронта. Цікавіцца праблемамі развіцця і ўзмацнення ўплыву беларускай дыяспары на грамадскія працэсы ў замежных краінах і на Бацькаўшчыне, пашырэння ўжытку беларускай мовы і развіцця нацыянальнай свядомасці ў сучасных асяродках беларускай дыяспары.

*About the author*: Alena Ljavonchanka has been living and working in Canada since 2008. She studied at the Lyceum of Bel State University, graduated from the Faculty of Chemistry of BSU, has a PhD in molecular biology from the University of Göttingen. She is the member of the Association of Belarusian-Canadian Association since 2010, and since 2017 she is the chairman of this Association. She actively participates in the singing project "Yavarovy Ludnoi", coordinates creative and folklore events in the Belarusian community of Toronto. He is interested in the problems of developing and strengthening the influence of the Belarusian diaspora on social processes in foreign countries and in the Motherland, expanding the use of the Belarusian language and developing national consciousness in the modern circles of the Belarusian diaspora.

*Анатацыя.* У гэтым артыкуле я хачу падзяліцца з чытачамі сваім досведам працы ў Згуртаваньні Беларусаў Канады, а таксама практычнымі высновамі з шматлікіх сустрэчаў і супольных праектаў з арганізацыямі беларускай дыяспары ў розных краінах. Падкрэсліваецца неабходнасць стварэння нізавых арганізацый для ўмацавання беларускай дыяспары, абмяркоўваюцца асноўныя этапы “жыццёвага цыклу” такіх арганізацый і даюцца практычныя парады для кожнага з этапаў.

На канец 2022 г. беларуская дыяспара ў свеце застаецца мала арганізаванай, пераемнасць пакаленняў і кантакты паміж рознымі сацыяльнымі групамі (навукоўцы, нацыяльна свядомыя актывісты, бізнес, IT, цэрквы, уцекачы 2020, палітычныя арганізацыі і г.д.) вельмі слабыя. Дыяспара не разглядаецца ні афіцыйным Менскам, ні беларускімі палітыкамі ў выгнанні як база выбаршчыкаў, фінансавых донараў, валанцёраў для рэалізацыі беларускіх праектаў за мяжой. Нажаль, мы не маем інстытутаў, якія б маглі забяспечваць сістэмную працу па

развіцці і ўзмацненні беларускай дыяспары. Мы як нацыя занадта лёгка аддаём з'ехаўшых з Радзімы беларусаў іншым краінам, маўляў, выехалі людзі ў лепшыя ўмовы, навошта ім думаць пра Беларусь, відавочна, што яны хочуць як мага хутчэй там уладкавацца і забыцца пра сваё мінулае. Але гэта ў большасці выпадкаў памылковае дапушчэнне, шмат паспяховых беларусаў са стажам эміграцыі 10-20 год расказвалі мне з сумам свае гісторыі вымушанага пераезду, спачуваючы хвалі ўцекачоў, што ўзнялася ў 2020 г. Трэба разумець, што большасць эмігрантаў ад сярэдзіны 1990-х і да сёння ўцякае з Беларусі ў выніку злачынных і некампетэнтных дзеянняў рэжыму, каторы пазбаўляе людзей магчымасцяў весці бізнес, развіваць крэатыўныя праекты, займацца незалежнымі даследваннямі, рэалізоўваць свой талент. І таму, што эміграцыя была вымушаным, а не дабравольным выбарам, многія з нас захоўваюць прыхільнасць да Беларусі, не пакідаюць надзеі вярнуцца і дапамагчы адбудаваць краіну.

Маё цвердае перакананне палягае ў тым, што дыяспара мусіць стаць значнай сілай, здольнай эфектыўна абараняць інтарэсы Беларусі за мяжой і ствараць тут прастору для развіцця нацыянальнай культуры. Бадай што самай важнай місіяй дыяспары я бачу захаванне цвёрдага намеру павярнуць Беларусь на дэмакратычны, праеўрапейскі шлях развіцця; у момант непазбежнага краху нелегітымнага рэжыму падтрымка дыяспары мусіць стаць адным з уплывовых фактараў кансалідацыі грамадства ўнутры Беларусі і станаўлення дэмакратычнага ўраду.

Шлях умацавання беларускай дыяспары палягае праз няспынныя кантакты і дыялог паміж рознымі рэгіёнамі свету і паміж рознымі сацыяльнымі групамі, з тым каб выпрацоўваць агульныя мэты, рэалізоўваць значныя праекты і эфектыўна размяркоўваць чалавечыя і фінансавыя рэсурсы. Непазбежнай умовай і адначасова вынікам гэтага працэсу з'яўлецца стварэнне арганізацый: грамадскіх аб'яднанняў, фундацыяў, даследчых інстытутаў, прафесійных суполак і г.д. Працэс стварэння новых беларускіх арганізацыяў у замежжы значна актывізаваўся ў выніку рэвалюцыі 2020 г., пры гэтым новыя арганізацыі рэгіструюцца як з нагоды забароны дзейнасці ў Беларусі і вымушанай рэлакацыі за мяжу, так і ствараюцца даўнімі эмігрантамі, каторыя з'ехалі з Радзімы да падзеяў 2020 г. і ўсведамілі неабходнасць аб'яднання і фармальнай рэгістрацыі сваіх суполак з мэтай дапамогі пацярпелым суайчыннікам. Стварэнне новых беларускіх арганізацый у замежжы трэба вітаць, бо арганізацыі ў параўнанні з дзеяннямі прыватных асобаў даюць наступныя перавагі:

1. Рэпрэзентацыя Беларусі ў замежжы вымагае пастаянных кантактаў з урадавымі арганізацыямі, мясцовымі палітыкамі, дыяспарамі іншых народаў. Безумоўна, такую працу могуць рабіць асобныя прафесійныя дыпламаты, эксперты, актывісты, грунтуючыся на персанальных сувязях і веданні палітычнага ландшафту

той ці іншай краіны. Але арганізацыі звычайна маюць большы давер ад іншых арганізацый, могуць працаваць на доўгую перспектыву, і таксама маюць большыя магчымасці па атрыманні фінансавай падтрымкі сваёй дзейнасці ад дзяржаўных і недзяржаўных установаў.

2. Арганізацыі даюць сваім сябрам непасрэдны досвед самакіравання, нізавой дэмакратыі. У заходнім свеце чалавек цягам жыцця пастаянна ўцягнуты ў арганізаваную дзейнасць: школьныя і ўніверсытэцкія клубы, прафсаюзы, рэлігійныя суполкі, прафесійныя асацыяцыі дактароў, інжынераў, юрыстаў і г.д. Усе гэтыя арганізацыі маюць акрэсленыя мэты, унутраны статут, праводзяць сходы, дэбаты, выбары кіраўніцтва, збіраюць і размяркоўваюць бюджэт. Таму для жыхара дэмакратычнай краіны Захаду палітычныя працэсы на ўзроўні дзяржавы часцяком маюць прамыя аналогіі з ягоным уласным досведам, а наяўнасць апанентаў і неабходнасць крытыкі, публічных дэбатаў з’яўляецца нормай жыцця. Прынцыпы выбарнасці, аўдыту, верхавентства сходу выбаршчыкаў над рашэннямі кіраўніцтва былі закладзеныя ў статуты арганізацый паваеннай дыяспары, такіх як Згуртаванне Беларусаў Канады, бо іх заснавальнікі збольшага вучыліся ў еўрапейскіх установах і добра разумелі базавыя дэмакратычныя працэдуры. Нажаль, культура нізавой дэмакратыі і самакіравання метадычна вынішчалася савецкай уладай, не менш заўзята працягвае яе вынішчаць лукашэнкаўскі рэжым. Таму сучасным беларускім эмігрантам бывае цяжка пазбавіцца ментальнай устаноўкі “зверху нехта вырашыць за мяне”. Удзел у беларускай арганізацыі дае магчымасць пераканацца ў дзейснасці супольных намаганняў, пабачыць жывыя вынікі сваёй ініцыятывы: беларускі канцэрт, выстава, паспяховы збор грошаў на патрэбы грамады. Вельмі часта можна пачуць ад саміх беларусаў: “Вось польская, або украінская дыяспары - гэта сіла, а беларусы не здатныя ні на што”. І даводзіцца тлумачыць, што не з неба ўзялася моц у дыяспараў іншых народаў, а толькі супольнай працай і клопатам аб заахвочванні як мага большага кола суачыннікаў да ўдзелу ў арганізацыях.

3. Любая некамерцыйная ініцыятыва, суполка існуе вакол сталага ядра актывістаў, творцаў, адмыслоўцаў, каторыя ствараюць прывабную прастору: лекцыі, гурткі, майстроўні, супольныя вандроўкі, медыйныя праекты і г.д. Напрыклад, у Таронта ўжо амаль 20 год існуе фолк-гурт “Яваровы Людзі” пад нязменным кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай. За гэты час у гурце спявалі і танчылі больш за 150 чалавек, стварылася некалькі сем’яў, вырасла і стала спяваць з бацькамі пакаленне дзяцей, сотні канадыйцаў пабачылі беларускія абрады і пачулі аўтэнтычныя спевы. І ўсё гэта трымаецца на творчай энергіі толькі адной таленавітай жанчыны. Асобныя творцы могуць прыходзіць і сыходзіць, накладаюцца жыццёвыя абставіны, але калі ёсць арганізацыя, то звычайна ёсць і мінімальная колькасць актыўных сябраў, якія з часам змяняюцца. З іх працы выбудоўваецца агульная прастора, “беларускі дом”,

№30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

каторы прываблівае новых эмігрантаў, і такім чынам суполка развіваецца. У самым найлепшым варыянце арганізацыя валодае сталым памяшканнем, будынкам, каторы перадаецца з пакалення ў пакаленне і становіцца гістарычнай каштоўнасцю для суполкі. Добрым прыкладам з'яўляюцца беларускія цэрквы ў Нью Ёрку і Таронта.

**Жыццёвы цыкл арганізацыі**




**Візія**. Любая арганізацыя пачынаецца з ідэі, візіі аднаго чалавека або групы людзей. Візія - гэта фундамент, на якім будзе будавацца арганізацыя, і на момант яе стварэння невядома, якога памеру дом вырасце на гэтым фундаменце. Таму падмурак мусіць быць трывалым, разлічаным на дзесяцігоддзі існавання, і ў той жа час візія арганізацыі павінна быць яснай і коратка сфармуляванай. Можна прывесці ўзорам мэты і задачы Згуртавання Беларусаў Канады, выкладзеныя ў Статутце ЗБК 1948 года - усе 6 пунктаў застаюцца нязменнымі і актуальнымі для сённяшняй працы ЗБК і беларускіх дыяспараў у свеце.

Фрагмент праекту Статуту ЗБК, 1948 г.



ПРАЕКТ СТАТУТУ

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ.

Н а з о ў.

I/Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе /ЗБК/.

М е с ц а  п о б ы т у  Г а л о ў н а й  У п р а в ы.

2/Торонто.

М э т ы.

3.ЗБК мае наступныя мэты:
а/згуртаваньне ўсіх беларусаў пражываючых на тэрыторыі Канаду;
б/маральная дапамога сваім сябром;
в/матар'яльная дапамога сваім сябром;
г/культурна-асьветная праца сярод беларускага грамадзтва ў Канадзе;
д/абарона палітычных інтарэсаў беларускага народу і беларускай эміграцыі;
е/дапамога беларускім уцекачом.

**Каманда.** Мала арганізацый ствараюцца і працуюць высілкамі адной асобы. А як толькі ствараецца калектыў, то самае галоўнае, што трымае калектыў разам, гэта людскія адносіны. Ні ў якім выпадку не варта ахвяраваць адносінамі, каштоўнасцямі на карысць вынікаў, гэтая старая, як свет ісціна, нажаль забываецца ў сённяшнім свеце адносных маральных крытэрыяў і панавання “адценняў шэрага” у інфармацыйнай прасторы.

Прыехаўшы на эміграцыю, людзі даволі доўгі час клапоцяцца аб уладкаванні свайго побыту, кар’еры, навучання дзяцей, і відавочна, што часу на грамадскія справы застаецца не шмат. Таму кожны актыўны сябра суполкі гэта сапраўдны скарб, асабліва калі яна або ён у дадатак да асноўнай працы бярэ на сябе ролю лідара або адміністратара, якая часта не прыносіць публічнага прызнання, але з’яўляецца крытычна важнай для дзейнасці ўсей арганізацыі як аднаго цэлага. Трэба ўсведамляць, што кожны сябра прыносіць ў каманду розныя кампетэнцыі, розныя погляды. Камерцыйныя і дзяржаўныя ўстановы могуць сабе дазволіць выбіраць кадры з пэўным досведам і характарам на кожную пазіцыю, што ў большасці нізавых арганізацый з’яўлецца недасяжнай раскошай, бо за валанцёрскую працу не бывае матэр’яльнай кампенсацыі або кар’ерных магчымасцяў, яна робіцца з ідэйных перакананняў і жадання дапамагаць людзям. Таму вельмі важна падтрымліваць матывацыю валанцёраў, перш за ўсё даючы кожнаму магчымасць абраць свой накірунак працы і творча яго развіваць, пры падтрымцы каманды.

У любой камандзе, нават самай прафесійнай, канфлікты непазбежныя, асабліва на этапе ўсталявання. У англамоўных бізнес-дапаможніках стварэнне каманды ў любым праекце апісваецца чатырма фазамі: forming-storming-norming-performing, то бок стварэнне-спрэчкі-нармалізацыя-плённая праца. Важная справа лідараў - правесці сваю каманду праз першыя дзве фазы, калектыўна выпрацаваць правілы гульні і стварыць атмасферу даверу і павагі ў камандзе, каб яна магла плённа працаваць. На гэты конт існуе вялікі пласт англамоўнай літаратуры як для пачаткоўцаў, так і для дасведчаных кіраўнікоў. Ідэальна, калі ў вашай камандзе будуць людзі з досведам мэнеджменту, падбору кадраў у заходніх кампаніях, каб ад самага пачатку ўсталяваць эфектыўныя працэсы камунікацыяў, прыняцця рашэнняў, крытыкі і аўдыту.

Часта кажуць, што канфлікты ў арганізацыях гэта адмыслова беларуская бяда. На самай справе ў некамерцыйных арганізацыях, дзе часта няма прафесійных спецыялістаў па кіраванню, канфлікты гэта норма. Вельмі важна заўсёды памятаць вашую візію і падчас спрэчак задаваць пытанне: а як аб’ект нашай нязгоды ўплывае на мэты арганізацыі? Ці есць тут карысць для беларускай справы, нашых працоўных задачаў, або гэта ўсяго толькі асабістыя непаразуменні? Спецыялісты па медыяцыі і

вырашэнню канфліктаў сталі даволі важнай галіной у кадравых раскладах буйных кампаніяў, таму з вялікай верагоднасцю ў вашай мясцовасці ёсць беларус або беларуска з такой кампетэнцыяй, і варта запрашаць іх у суполку, прасіць дапамогі ў складаных сітуацыях унутры арганізацыі.

**Рэгламент**. Арганізацыю ад сяброўскага кола аднадумцаў адрознівае наяўнасць фармальных працэдураў, унутранай "канстытуцыі". У сучасных умовах дзейнасць некамерцыйных арганізацый рэгулюецца дзяржавай, у большасці краінаў адпаведныя міністэрствы публікуюць узоры статутаў і тлумачэнні да рэгулятыўных нормаў. Звычайна статут вызначае пытанні сяброўства, структуры, арганізацыі сходаў, абрання кіраўнікоў, фінансаў і г.д. З досведу маёй грамадскай працы магу зазначыць, што калектыўная праца над статутам і яго шырокае абмеркаванне з сябрамі суполкі надае адчуванне прыналежнасці, і ў выніку такі супольна створаны закон усім хочацца выконваць, узнікае менш спрэчак і непаразуменняў.

**Рост і развіццё**. Як было сказана вышэй, беларускія арганізацыі ёсць неабходным складнікам узмацнення беларускай дыяспары. Вынікае лагічная выснова, што арганізацыі мусяць імкнуцца пашыраць кола сваіх прыхільнікаў, спрыяць распаўсюджванню пазітыўнага іміджу беларускай ідэнтычнасці і культуры. У практычным сэнсе гэта азначае доўгатэрміновую працу з людзьмі, пошук новых актывістаў і валанцёраў, новых ідэяў і праектаў. Уменне камунікаваць, слухаць, разумець розныя погляды і ідэі з'яўляцца ў гэтай працы ключом да поспеху. Ізноў жа, існуе шмат практычных трэнінгаў і літаратуры на тэму міжперсанальных камунікацыяў і выбудовы адносінаў з людзьмі. Зазначу толькі некалькі праверaных часам і гісторыяй парадаў:

- У размовах усміхайцеся, глядзіце суразмоўцу ў вочы
- Уважліва слухайце і старайцеся зразумець, якой ідэяй кіруецца чалавек, што ён хоча зрабіць, што для яго важна
- Прасіце пра дапамогу і звяртайцеся за парадай нават да малазнаёмых людзей. У беларусаў у зносінах часта пераважае сціпласць, нашыя таленты і ідэі хаваюцца за знешняй маўклівасцю, павагай і нежаданнем перабіваць іншых прамоўцаў
- Прымайце разнастайнасць поглядаў і творчых інтарэсаў як норму. Дзякуйце кожнаму валанцёру як за дапамогу, так і за крытыку
- Заўсёды нагадвайце пра мэты арганізацыі, каб людзі ганарыліся сваёй валанцёрскай працай і бачылі, што робяць дабро для Беларусі і для сваіх суайчыннікаў.

**Змена пакаленняў** з'яўляецца бадай што самай вялікай праблемай у беларускіх асяродках, як і ў любой арганізацыі або палітычнай сістэме. Я перакананая, што ў

плашчыні беларускай дыяспары, змена будзе адбывацца тым ці іншым чынам, пакуль будзе працягвацца масавы выезд беларусаў за мяжу і хаця б у частцы з іх будзе жаданне захаваць беларускую ідэнтычнасць. Самым вялікім дасягненнем было б захаванне беларускай ідэнтычнасці ў дзяцей, выхаваных за межамі Беларусі, што ў папярэдніх пакаленняў беларускай эміграцыі атрымлівалася не вельмі ўдала. Асноўным фактарам відаць з'яўляецца адсутнасць сталых беларускіх школаў у замежжы і моцны ўплыў рускай, украінскай, сербскай праваслаўных цэркваў, каторыя маюць нашмат больш рэсурсаў і актыўна падтрымліваюць школы выходнага дня ў сваіх парафіях, прынамсі ў Канадзе.

Цікавым і пакуль неасэнсаваным фактарам у працы з дзецьмі выглядае лічбавізацыя будзённасці, неверагодна лёгкі абмен інфармацыяй праз сацсеткі і відэасувязь, практыка онлайн школаў, узніклая падчас пандэміі. Пераемнасць у арганізацыях можна забяспечыць, трымаючы стратэгічным прыярэтатам далучэнне моладзі і магчымасць даць ёй прастору для творчасці, новых формаў працы.
Я гляджу ў мінулае з павагай да заснавальнікаў ЗБК і ў будучыню з надзеяй на тое, што новым пакаленням беларусаў за мяжой застанецца толькі творчая і культурная праца, а абарону незалежнасці і нацыянальных інтарэсаў ўжо ў хуткім часе возьме на сябе кіраўніцтва дэмакратычнай Беларусі.

**Тры пакаленні ЗБК**



1970

ISSN 2562-950




2010




2021

*Таронта, лістапад 2022 г.*

**Alena Liavonchanka** *(Toronto, Canada)*: **“Practical Knowledge for the Development of Organizations of Belarusian Diaspora”**
***(webzine “Kultura. Natsyja”, issue 30, November 2022, 68-76, www.sakavik.net )***

Abstract: In this article I attempt to share with readers my knowledge and experience gained in working with Belarusian Canadian Alliance and practical conclusions that have resulted from many meetings and cooperative projects enacted by Belarusian diaspora in various countries. I stress the need to create organizations at the grass-root level to strengthen Belarusian diaspora. I also discuss basic stages of “life cycles” for such organizations and present practical advice for every stage.

**Алена Лявончанка** *(Торонто, Канада)*: **«Практический опыт становления организаций белорусской диаспоры»** ***(веб-журнал “Культура. Нация” вып. 30, ноябрь 2022, 68-76, www.sakavik.net )***

*Резюме*. В этой статье я хочу поделиться с читателями своим опытом работы в Ассоциации белорусов Канады, а также практическими выводами из многочисленных встреч и совместных проектов с организациями беларусской диаспоры в разных странах. Подчеркивается необходимость создания низовых организаций для укрепления белорусской диаспоры, обсуждаются основные этапы «жизненного цикла» таких организаций, даются практические советы по каждому из этапов.

**Вольга Ермалаева Франко** (*Саўвадор - Баія, Бразілія*): **“Беларуская дыяспара ў Бразіліі: Трансфармацыя 2020”**
**Volha Yermalayeva Franco** (*Salvador - Bahia, Brazil*): **“Belarusian Diaspora in Brazil: Transformation 2020”**



*Пра аўтара*. Вольга Ермалаева Франко, прадстаўніца Народнай амбасады Беларусі ў Бразіліі і актывістка беларускай дыяспары ў Бразіліі, дзе жыве з 2011 года і арганізоўвае беларускія культурніцкія імпрэзы. Прайшла курс журналістыкі ў Беларускім калегіюме (2005 - 2007), у гэты ж час навучалася на факультэце журналістыкі БДУ, адкуль была выключана за супрацу з незалежнымі выданнямі. Скончыла бакалаўрскую праграму “Культурная спадчына і турызм” у Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце (2012) і працягвае вывучаць спадчыну ў магістратуры архітэктурнага факультэта Федэральнага ўніверсітэта Баіі (г. Саўвадор, штат Баія, Бразілія). Выкладае беларускую, партугальскую, расейскую і ангельскую мовы як замежныя. Перакладае на партугальскую мову беларускую паэзію і прозу.

*About the author*: Volha Yermalayeva Franco. Representative of the People's Embassy of Belarus in Brazil and an activist of the Belarusian diaspora in Brazil, where she has been living since 2011 and organizing Belarusian cultural events. She completed a journalism course at the Belarusian Collegium (2005 - 2007), at the same time she studied at the Faculty of Journalism of Belarusian State University, from which she was expelled for cooperation with independent media. Graduated from the Bachelor's program "Cultural Heritage and Tourism" at the European Humanities University (2012) and continues to study heritage at the Master's degree program in the Faculty of Architecture of the Federal University of Bahia (Salvador, State of Bahia, Brazil). Teaches Belarusian, Portuguese, Russian and English as foreign languages. Translates Belarusian poetry and prose into Portuguese.

*Анатацыя*. Бразілія - краіна, у якую жыхары Беларусі ад’язджалі прынамсі з пачатку XX стагоддзя, уцякаючы ад грамадзянскай і сусветных войн. Тыя плыні міграцыі сёння мала даследаваныя, нашчадкі тагачасных перасяленцаў гуртаваліся з прадстаўнікамі суседніх народаў - украінцамі і палякамі, а з часам і зменай пакаленняў асімілёваліся. Міграцыя беларусаў у Бразілію напачатку XXI стагоддзя не адзначалася масавасцю і аб’яднаннем. Выбарчыя участкі для беларусаў Бразіліі ніколі не ствараліся. Мабілізацыя дыяспары ў 2020 годзе, у разгар пандэміі, пачалася ў жніўні, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, з стварэння лакальных анлайн-суполак у сацсетках і абмеркавання навінаў з Радзімы. Пасля ўзмацнення рэпрэсій на радзіме, у Бразілію пачалі прыязджаць беларусы ў пошуках палітычнага прытулку. У снежні 2020 года была створана Народная амбасада Беларусі ў Бразіліі, у межах адпаведнага глабальнага праекта. Цягам двух год яна займаецца інфармаваннем мясцовых медыя, палітычнай, дыпламатычнай і грамадзянскай супольнасцяў пра актуальную сітуацыю ў Беларусі, праводзіць інфармацыйны і культурніцкія імпрэзы: Тыдні беларускай культуры ў 2021 і 2022 гадах, Вечарыны беларускай паэзіі і Мультымедыйныя выставы, прысвечаныя беларускім жаночым пратэстам.

Беларуская дыяспара ў Бразіліі не адносіцца да найбольш вядомых, традыцыйных ці масавых. Аднак нашыя суайчыннікі пачалі прыязджаць у далёкую паўднёваамерыканскую краіну прынамсі на пачатку XX стагоддзя. Пагромы, кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская, а потым Першая і Другая Сусветныя войны вымушалі многіх еўрапейцаў ратавацца і шукаць лепшай долі за акіянам. Беларусы тут не былі выключэннем. Значная колькасць людзей эміграваля ў перыяд 1924 — 1939 гадоў з Заходняй Беларусі, што знаходзілася пад уладай Польшчы. Даследчыкі мяркуюць, што колькасць мігрантаў з Беларусі магла складаць ад шасці да дзесяці тысяч чалавек[53]. Беларусы кампактна пражывалі ў штатах Парана, Рыу-Гранды-ду-Сул, Рыа дэ-Жанэйра, Санта-Катарына, Мінас-Жэрайс, Сан-Паулу.

Беларускія эмігранты не ўтварылі ў Бразіліі моцнай супольнасці, якая б існавала да сёння, і з часам асіміляваліся. Але прынамсі некаторыя спробы палітычнай самаарганізацыі зафіксаваныя дакументальна. Так, беларуска-ўкраінская рабочая арганізацыя “Асвета”, утвораная ў г. Порту-Алегры, у 1933 годзе выражала пратэст супраць судзілішча над Браніславам Тарашкевічам — адпаведная заява была апублікавана ў беларускамоўнай газеце ў Берліне “Барацьба” (1933, № 2). На жаль, да сёння гэтая пераемнасць не захавалася. Пры гэтым, украінская дыяспара ў Бразіліі дагэтуль захоўвае сваю мову і культуру, мае моцныя рэлігійныя супольнасці і вядзе сваю гісторыю ад 1891 года — найстарэйшага задакументаванага прыбыцця украінцаў у Бразілію[54]. Таксама важна ўлічваць, што частка эмігрантаў з Беларусі ў Бразілію былі габрэямі і, што лагічна, гуртаваліся тут па этнічнай прыкмеце. З іншага боку, традыцыйна ў Бразіліі нацыянальнасць сінанімічна грамадзянству краіны, і дзейнічае *jus soli* — права на грамадзянства па месцы нараджэння. Таму не дзіўна сустракаць такія сведчанні бразільянак ды бразільцаў, што толькі цяпер адкрываюць для сябе сваё беларускае паходжанне: “Мой тата нарадзіўся ў Расіі, у 1912 годзе, у Мінску, то бок, цяпер гэта Беларусь, а тады была Расія”.

Зменлівая палітычная ідэнтычнасць беларусаў у першай палове XX стагоддзя, а таксама ідэнтыфікацыя рэлігійная, звязаная з нацыянальнасцю (паляк-каталік або рускі-праваслаўны), уплывалі і на самаідэнтыфікацыю мігрантаў у далёкай Бразіліі: “Мой дзед быў з Польшчы, але казаў, што ён не паляк, а рускі, праваслаўны. Ён тлумачыў, што ‘белы рускі’, мы думалі, гэта значыць, што ён супраць бальшавікоў”.

---

[53] Коваль В. У. Эканамічная эміграцыя беларусаў у Бразілію, Парагвай, Уругвай (1918–1939 гг.) // Труды БГТУ. Сер. 6, История, философия. 2021. № 2 (251). С. 24–28. https://elib.belstu.by/bitstream/123456789/44092/1/5.%20%d0%9a%d0%be%d0%b2%d0%b0%d0%bb%d1%8c.pdf

[54] G1. Globo. Украінская супольнасць святкуе 120 гадоў іміграцыі ў Бразілію. 05.2011. https://g1.globo.com/pr/parana/noticia/2011/05/comunidade-ucraniana-comemora-120-anos-de-imigracao-para-o-brasil.html

ISSN 2562-950

Беларусь і Бразілія гістарычна маюць не самыя моцныя палітычныя і культурныя сувязі, таму не дзіўна, што нам і да сёння даводзіцца тлумачыць бразільцам, што Беларусь — гэта асобная незалежная краіна, і што яе афіцыйная назва ў партугальскай мове — “Belarus”, а не русіфікаваная “Bielorrússia”, скалькаваная ў часы СССР. Бразільцы ведаюць карціны Марка Шагала, вывучаюць (мабыць, актыўней, чым хтосьці яшчэ) набытак Льва Выгоцкага, чытаюць кнігі Святланы Алексіевіч, але пры гэтым не заўжды асацыююць іх з Беларуссю.

Пры гэтым пэўныя культурніцкія сувязі ў XXI стагоддзі паміж нашымі краінамі развіваліся. Так, пачынаючы з 2014 года ў Мінску праводзіўся фестываль вулічнага мастацтва “Vulica Brasil”, у межах якога мастакі з Беларусі і Бразыліі стваралі муралы ў беларускай сталіцы, а таксама праводзіліся карнавальныя шэсці і розныя капаэйры. Сёння традыцыю гэтых сувязяў працягвае Інстытут Vulica Brasil і аднайменная арт-галерэя[55] ў сталіцы, г. Бразіліа. Тэатральныя групы з Бразіліі неаднаразова ўдзельнічалі ў фестывалі “Тэатральны куфар”[56] у Мінску. Бразыльскія футбалісты й футбольныя трэнеры часта абіраюць Беларусь для пабудовы кар’еры. Пачынаючы з 2000 года, 35 бразыльскіх гульцоў удзельнічалі ў чэмпіянаце Беларусі па футболе[57].

У перыяд з 2000 па 2022 год Бразільская міграцыйная служба зафіксавала выдачу пастаянных віз (дазволу на пастаяннае пражыванне) 316 беларускім грамадзянам[58], з якіх 53,8% склалі жанчыны. Большасць — 58% — на момант атрымання візы мелі ад 25 да 40 гадоў. Каля паловы беларусаў (160) зарэгістраваныя ў штаце Сан-Паўлу, але ў асноўным можна адзначыць дастаткова вялікую разсяроджанасць беларусаў па рэгіёнах, штатах і гарадах краіны і адсутнасць сплочаных лакальных супольнасцяў.




*Колькасць беларускіх эмігрантаў у Бразілію кожны год з 2000 па 2022.*
*Крыніца: SINCRE/SISMIGRA, 2022*

[55] Вуліца Бразіл. http://vulica-brasil.by/

[56] Тэатральны Куфар. http://tkufar.by/

[57] Прэсбол. 22.05.2020 https://www.pressball.by/pbonline/football/87629

[58] SINCRE/SISMIGRA. Даныя на 28.11.2022: https://www.nepo.unicamp.br/observatorio/bancointerativo/numeros-imigracao-internacional/sincre-sismigra/

Дыпламатычныя стасункі між Беларуссю і Бразіліяй былі ўстаноўленыя яшчэ ў лютым 1992 года. У 2001 годзе было адкрыта консульства ў Рыа-дэ-Жанэйра, якое працавала да 2013 года. У 2011 годзе былі адкрытыя амбасада Беларусі ў Бразіліа і амбасада Бразіліі ў Мінску. За ўвесь час беларуская амбасада ў Бразіліі не адчыніла ніводнага выбарчага ўчастка на ніводных выбарах, уключна з прэзідэнцкімі выбарамі ў жніўні 2020 года, пазбавіўшы такім чынам дыяспару Беларусі ў Бразіліі права на галасаванне. У сувязі з канчатковай стратай легітымнасці ўлады дыктатара ў 2020 годзе, Беларусы замежжа заявілі, што Кансультацыйная рада беларусаў замежжа, МЗС і пасольствы Рэспублікі Беларусь не маюць дэмакратычнай легітымнасьці прадстаўляць інтарэсы Беларусі і беларусаў, якія жывуць за мяжой. 10 снежня 2020 года было абвешчана пра стварэнне Народных амбасадаў Беларусі у 20 краінах свету, у тым ліку ў Бразіліі[59].

Таксама, як і ў іншых краінах, актывізацыя беларускай дыяспары ў Бразіліі адбылася напярэдадні так званых прэзідэнцкіх выбараў у жніўні 2020 года. Праз пандэмію, якая моцна закранула Бразілію, і звязаныя з ёй абмежаванні на масавыя мерапрыемствы, а таксама праз геграфічную адлегласць між актывісткамі дыяспары, асноўныя формы сувязі і актыўнасці ад пачатку былі ў фармаце анлайн. Актывісткі знаходзілі адна адну праз сацыяльныя сеткі, утварылі групу, дзе дзяліліся навінамі, абмяркоўвалі сітуацыю на радзіме, а таксама планавалі акцыі салідарнасці з беларускім народам. “Так сама як у Беларусі, у Бразіліі жанчыны лідэруюць у пратэстах супраць Лукашэнкі,”[60] — гэтак адлюстравалася нашая актыўнасць у бразільскіх медыя. Напачатку наша згуртаванне актыўных беларускіх грамадзянак і грамадзянаў у Бразіліі налічвала калі дзесяці чалавек, цяпер — каля трыццаці. Некаторыя прыехалі сюды пасля 2020 году, у тым ліку папрасіўшы палітычнага прытулку, ратуючыся ад рэпрэсій.

Разумеючы сімвалічную важнасць Бразіліі, як далёкай экзатычнай для Беларусі краіны з станоўчым іміджам сонечнай зямлі футболу, кавы, самбы і карнавалу, мы лічым важным дэманстраваць сваю падтрымку беларускай дэмакратычнай супольнасці і ўдзельнічаць у разнастайных міжнародных акцыях салідарнасці. Дзякуючы паскоранай віртуалізацыі свету падчас пандэміі, стала магчыма ўдзельніцаць у Сусветным кангрэсе Беларусаў у 2020 і 2021 гадах, а таксама ў шматлікіх анлайн-мерапрыемствах, арганізаваных беларускай дыяспарай у ЗША і Канадзе, у тым ліку Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Канада). Акрамя таго, мы арганізоўваем супольныя анлайн-мерапрыемствы разам з Народнай

[59] Афіцыйны сайт Народных амбасадаў Беларусі: https://brazil.belarusabroad.org/

[60] Folha de São Paulo. Так сама як у Беларусі, у Бразіліі жанчыны лідэруюць у пратэстах супраць Лукашэнкі https://www1.folha.uol.com.br/mundo/2020/09/assim-como-na-belarus-mulheres-lideram-mobilizacao-contra-lukachenko-no-brasil.shtml

амбасадай Беларусі ў Партугаліі і Асацыяцыяй беларусаў Партугаліі “Прадмова”[61]. Гэткія мерапрыемствы разлічаныя таксама на ахоп партугаламоўнай аўдыторыі, якая цікавіцца Беларуссю.

Пакуль Беларусь была на першых старонках газет нават у далёкай Бразіліі, мы паслядоўна звязваліся з журналістамі, давалі каментары і дапамагалі шукаць актуальную і праўдзівую інфармацыю, кантакты з дэмакратычнымі сіламі Беларусі. Журналісты працягваюць звяртацца да нас, калі ўзнікаюць новыя інфармацыйныя нагоды, звязаныя з нашай радзімай. Удзельнічалі ў жывых эфірах і ладзілі свае жывыя эфіры з тлумачэннем сітуацыі ў Беларусі. Арганізоўвалі акцыі салідарнасці пэўных груп у Бразіліі — працоўных калійнай прамысловасці, журналістаў і студэнтаў.




*Адна з першых віртуальных акцый салідарнасці беларускай супольнасці ў Бразіліі*

З узмацненнем рэпрэсій, наша дыяспара далучылася да напісання лістоў палітзняволеным. Паштовае спалучэнне паміж нашымі краінамі адсутнічае з пачатку пандэміі, але дзякуючы анлан-сервісам письмо.бел і vkletochku.org, мы маглі дасылаць лісты, і нават атрымлівалі адказы, прынамсі ад аднаго палітзняволенага, Сяргея Ціханоўскага, які абяцаў, як толькі зможа, прыехаць да нас

[61] Асацыяцыя беларусаў у Партугаліі “Прадмова”. https://www.pradmova.org/

у госьці і папрасіў з гэтай нагоды навучыць яго танцаваць самбу. З лістоў Вітольда Ашурка, закатаванага ў шклоўскай калоніі ў траўні 2021 года, вядома, што ён паспеў атрымаць нашыя словы падтрымкі і напісаць адказ (якія да нас, на жаль, не дайшоў): "Мне вельмі актыўна лістуюць неабыякавыя беларусы (нават з Бразіліі!), і я лічу за гонар кожнаму адказаць хоць некалькімі радкамі"[62]. У апошнім лісце да маці ён таксама адзначаў: "Пішуць беларусы з Бельгіі, Фінляндыі, ЗША і нават беларусы Бразіліі!"[63].

Яшчэ адна нашая спроба падтрымаць зямлячак ды землякоў — распавесці ім бразільскую казку пра тырана. Мастак Габар Гэшці намаляваў апісанага аўтаркай Анай Марыяй Машаду тырана ў 1982 годзе, але, паглядзеўшы ілюстрацыі, а потым і прачытаўшы кнігу, немагчыма не заўважыць у гэтай гісторыі падабенства з падзеямі 2020 года ў Беларусі. Паводле сюжэту, тыран забараніў людзям весяліцца, марыць і нават глядзець на зоры, а таксама выкарыстоўваць любыя колеры, акрамя шэрага. Народ у казцы спрабуе перамагчы тырана менавіта гучным вясёлым пратэстам, расквечаным фарбамі. Мы атрымалі ад аўтаркі і ілюстратара дазвол на пераклад (на беларускую і рускую мовы) і бясплатны распаўсюд казкі[64], апублікавалі яе і прачыталі на відэа на канале Беларускай Рады культуры[65].




[62] Новы час. Вітольд Ашурак плануе напісаць у калоніі кнігу пра беларускія пратэсты. https://novychas.online/hramadstva/vitold-aszurak-planue-napisac-u-kalonii-knihu-pra

[63] Белсат. Апошні ліст Вітольда Ашурка да маці: "Мама, ты выхавала мяне правільна". https://belsat.eu/news/20-06-2021-aposhni-list-vitolda-ashurka-da-matsi-mama-ty-vyhavala-myane-pravilna/

[64] Ана Марыя Машаду. Жыў-быў Тыран. Пераклад на беларускую мову: Вольга Ермалаева Франко. Пераклад на рускую мову: Анастасія Голец. Тэксты: https://is.gd/tirano2021

[65] Відэа: https://www.youtube.com/watch?v=V9luzPnVd7E

Першы і другі Міжнародныя Тыдні Беларускай Культуры[66] (у ліпені 2021 і 2022 гадоў, адпаведна) таксама адбыліся пры актыўным удзеле беларускай дыяспары ў Бразіліі, а таксама неабыякавых бразільцаў. Да культурнікіх акцый далучыліся бразільскія музыкі, мастакі, паэты і навучэнцы курсаў беларускай мовы, арганізаваных у 2020 годзе пры школе Clube Eslavo (“Славянскі клуб”).






*Працы бразільскіх мастакоў @hyperaton (злева) і @speto (справа), прысвечаныя Беларусі ў 2020 г.*

Даносячы інфармацыю да мясцовых палітыкаў, журналістаў і грамадзянскіх актывістаў, мы заўжды рабілі акцэнт на жаночым лідэрстве і негвалтоўным характары беларускіх пратэстаў. Таму цалкам лагічна, што тэмай першай маштабнай мультымедыйнай выставы пра Беларусь у Бразіліі стала “Беларусь: У дэмакратыі жаночае аблічча”[67], з назвай-алюзіяй на сусветна вядомую кнігу Святланы Алексіевіч “У вайны не жаночае аблічча”.

Выставу арганізавалі актывісткі беларускай супольнасці Вольга Алешка-Лесселс і Анастасія Голец, сабраўшы грошы на краўдфандынгавай кампаніі і пры падтрымцы Амбасады Польскай Рэспублікі ў Бразіліа. Гэтая выстава, адкрытая 21 верасня 2021

---

[66] Вынікі I Міжнароднага Тыдня беларускай культуры ў Бразіліі. Сайт Народнай амбасады Беларусі ў Бразіліі. https://brazil.belarusabroad.org/2021/07/week_by_culture_2021/

[67] Відэа з адкрыцця выставы “Беларусь: У дэмакратыі жаночае аблічча” https://www.youtube.com/watch?v=CrRdv6apkxs

года, стала першай у культурным цэнтры Рэнату Русу пасля яго закрыцця падчас пандэміі. На адкрыцці прысутнічалі еўрапейскія дыпламаты і прадстаўнікі ААН, якія адзначылі важнасць даносіць інфармацыю пра змаганне беларускага народу супраць дыктатуры шляхам культурных мерапрыемстваў. У межах выставы 9 і 16 кастрычніка прайшлі паказы фільмаў "Сёстры пратэсту" і "Gaudeamus" з партугальскімі субтытрамі. Пазней былі арганізаваныя яшчэ дзве выставы ў гарадах Федэральнага округа, у планах прывезці яе ў іншыя рэгіёны краіны.




*На адкрыцці выставы "Беларусь: У дэмакратыі жаночае аблічча" у Бразілія.*
*Злева направа: куратар Лука Баначыні, арганізатарка Вольга Алешка-Лесселс,*
*актывістка Вольга Ермалаева Франко і арганізатарка Анастасія Голец. 21 верасня 2021 г.*

На нашай выставе былі прадстаўленыя працы фатаграфак Ірыны Арахоўскай, Караліны Паляковай, Юліі Саввіч, фатографаў Вадзіма Заміроўскага і Аляксандра Саенкі, а таксама відэаінсталяцыя мастака Андрэя Анро. Фота адлюстроўвалі перадусім жаночыя мірныя пратэсты ў Беларусі ў жніўні 2020 года і жорсткія затрыманні іх удзельніц.

У асобным памяшканні была створаная інсталяцыя "Камера", што паказвала наведнікам умовы ўтрымання ў беларускіх турмах. Побач з ёй месціліся фрагменты лістоў беларускіх палітзняволеных жанчын, перакладзеныя на партугальскую мову, з іх партрэтамі і кароткімі біяграфічнымі звесткамі. Тамсама быў арганізаваны куточак, дзе мы запрашалі падпісаць паштоўкі камусьці з гэтых жанчын. У інструкцыях тлумачылася, пра што можна пісаць у беларускую турму і як карыстацца гугл-перакладчыкам, бо цэнзура прапускае толькі лісты на беларускай і рускай мовах. Па заканчэнні выставы паштоўкі адправіліся адрасаткам, з дапамогай

беларускай дыяспары ў Польшчы (праз адсутнасць паштовага спалучэння Бразіліі з Беларуссю).




*Амбасадар Еўрасаюзу ў Бразіліі Ігнасіо Ібанэс падпісвае паштоўкі беларускім палітзняволеным жанчынам на адкрыцці выставы ў Бразіліа. 21 верасня 2021 г.*

Такая форма салідарнасці дужа спадабалася бразільскай публіцы, пісалі і малявалі свае паведамленні і дарослыя, і дзеці. Таму мы вырашылі працягнуць гэтую акцыю ў анлайн-фармаце, публікуючы ў інстаграме @belarusinbrazil гісторыі палітзняволеных беларусак, фрагменты іх лістоў, адрасы і інструкцыі па адпраўленні.

У сакавіку 2022 года, да Дня Волі, гэтая акцыя вырасла ў праект “Галасы супраціву”[68], сумесны з Мемарыялам Супраціву (Memorial da Resistência) ў горадзе Сан-Паўлу і з віртуальным музеем “Ляцяць лісты” (“Летят письма”[69]). Разам мы падрыхтавалі публікацыю[70], у якой знаёмілі бразільскую аўдыторыю з гісторыяй беларускага жаночага пратэсту, лістамі з турмы, умовамі ўтрымання палітзняволеных, а таксама з вершамі беларускіх палітзняволеных Ксеніі

[68] Галасы супраціву. Анонс праекту. http://memorialdaresistenciasp.org.br/vozes-da-resistencia/

[69] Летят письма. https://letters-museum.com/

[70] Галасы супраціву. Публікацыя. http://memorialdaresistenciasp.org.br/wp-content/uploads/2022/03/MemorialRecebe_Vozes_da_Resistencia.pdf

Сырамалот, Андрэя Аляксандрава і Максіма Знака — па-беларуску і ў перакладзе на партугальскую мову.

Тэма рэпрэсій паэтаў і культурных дзеячоў штогод актуалізуецца і ў канцы кастрычніка, калі ў памяць пра растраляных НКВД дзеячоў культуры беларусы ладзяць па ўсім свеце чытанні вершаў ахвяраў сталінскага рэжыму і нашых рэпрэсаваных сучаснікаў. Ноч (не)растралянай паэзіі, або Ноч паэтаў[71], разам з беларускамі Партугаліі мы ладзілі ў анлайн-фармаце на дзьвюх мовах — беларускай і партугальскай — ў кастрычніку 2021 года, і плануем зноў у снежні 2022 года, трохі пазней за звыклую дату. У кастрычніку 2022 года мы таксама правялі паліглоцкія чытанні беларускай рэпрэсаванай паэзіі ў Лінгвістычным інстытуце Федэральнага ўніверсітэта Баіі (г. Саўвадор), дзе бразільскія студэнты і выкладчыкі чыталі вершы беларускіх паэтаў, расстраляных у 1937 годзе і зняволеных у 2020 годзе, на беларускай, партугальскай, нямецкай, іспанскай, італьянскай і французскай мовах.

У 2022—2023 праводзіць штомесячныя сустрэчы Чытацкі клуб Святланы Алексіевіч[72], у анлайн-фармаце, на партугальскай мове. Гэтая ініцыятыва Народнай амбасады аб’ядноўвае бразільскіх і беларускіх даследчыц і шанавальнікаў творчасці Нобелеўскай лаўрэаткі і ставіць на мэце абмяркоўваць яе творы ў кантэксце актуальных падзей у Беларусі, Украіне і Расеі.

У кантэксце шырокамаштабнай вайны, распачатай Расеяй ва Ўкраіне 24 лютага 2022 года, беларуская дыяспара ў Бразіліі актыўна ўдзельнічала і арганізоўвала ў розных гарадах акцыі пратэсту супраць уварвання і выкарыстання для гэтага тэрыторыі Беларусі.

Ад пачатку масавага прыбыцця ў Бразілію ўцекачоў з Украіны, нашыя актывісткі займаюцца валанцёрствам, дапамагаючы прымаць і размяшчаць людзей, збіраць неабходныя рэчы, афармляць дакументы і вывучаць партугальскую мову. Таксама мы распаўсюджваем інфармацыю пра акадэмічны прытулак, які прадастаўляюць бразільскія ўніверсітэты. Так, прынамсі, адна з праграм, у Дзяржаўным Універсітэце г. Кампінас (штат Сан-Паўлу) абвясціла, што прымае заяўкі па спрошчанай праграме і ад беларусаў[73].

---

[71] Ноч паэтаў. https://nochpaetau.com/

[72] Чытацкі клуб Святланы Алексіевіч у Бразіліі. https://linktr.ee/aleksievitch

[73] Падрабязней пра праграму: https://www.instagram.com/p/Ca7fSR7IpeU/

 ISSN 2562-950




*Супольная акцыя украінскай, беларускай, грузінскай і расейскай супольнасцяў супраць расейскага ўварвання ва Ўкраіну.*
*Каля Нацыянальнага кангрэсу Бразіліі. 1 сакавіка 2022 г.*



*Беларуска-ўкраінскі “Парасонавы шпацыр” жанчын у БЧБ*
*у бразільскім горадзе Саўвадоры (штат Баія) 14 траўня 2022 года*

Як і ў іншых краінах, беларускі і беларусы ў Бразіліі гуртуюцца, падтрымліваюць адно аднаго, падтрымліваюць беларускі прытэст, і ў той жа час дапамагаюць

землякам інтэгравацца ў мясцовую супольнасць, а таксама апавядаюць пра сваю радзіму бразільскаму народу, развіваючы надалей нашыя культурныя сувязі. Ілюстрацыяй такога ўзаемадзеяння мы хочам завяршыць гэты тэкст, прывёўшы прысвечаны Беларусі англамоўны акраверш, напісаны бразільскім аўтарам Луізам Леалам, адмыслова для Міжнароднага Тыдня Беларускай Культуры ў 2021 годзе.

**ACROSTIC TO BELARUS**

*by Luiz Leal*

**L**ying in the center of Europe
**O**n the riverbanks of the Prypiać, Dniapro and
**N**ioman, a nation
**G**rows in its quest for freedom

**L**ove and peace don't seem to sensitize an
**I**mplacable dictatorship even on the
**V**erge of
**E**rasing itself from the map as the wind

**B**lows in favor of a brave people
**E**ars and mouths from all over can already
**L**isten and sing along
**A** glorious chant that despite being
**R**epressed by the frail and fleeting
**U**nwillingness of one, will soon be
**S**pread out by everyone

*Акраверш для Беларусі. Луіз Лэал.*

**Volha Yermalayeva Franco** (*Salvador - Bahia, Brazil*): **"Belarusian Diaspora in Brazil: Transformation 2020"**
***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 77-89, www.sakavik.net )***

*Abstract.* Brazil is a country to which Belarusians have fled from wars since at least the beginning of the 20th century. Those streams of migration are not well studied today, the descendants of the immigrants of that time mingled with representatives of neighboring nations, Ukrainians and Polish, and, with time and the change of generations, assimilated. The migration of Belarusians to Brazil at the beginning of the 21st century was not marked by mass and unification. Polling stations for Belarusians in Brazil were never created. The mobilization of the diaspora in 2020, at the height of the pandemic, began in August, on the eve of the Belarusian presidential elections, with the creation of local online communities in social networks and discussion of news from the homeland. After the intensification of repression at home, Belarusians began to come to Brazil in search of political asylum. In December 2020, the People's Embassy of Belarus was established in Brazil, within the respective global framework. For two years, it has been informing the local media, politic, diplomatic and civil communities about the current situation in Belarus, holding informational and cultural events: Belarusian Culture Weeks, Belarusian poetry recitals and multimedia exhibitions dedicated to Belarusian women's protests.

**Ольга Ермалаева Франко** *(Сальвадор - Баия, Бразилия)*: **"Беларусская диаспора в Бразилии: трансформация 2020"**
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 77-89, www.sakavik.net )***
*Резюме.* Бразилия — страна, в которую беларусы приезжали с начала 20 века, избегая гражданские и мировые войны. Те предыдущие миграции до сегодня мало изучены, потомки переселенцев того времени смешались с представителями соседних народов - украинцами и поляками, а со временем и сменой поколений ассимилировались. Миграция белорусов в Бразилию в начале XXI века не отличалась массовостью и объединением. Избирательные участки для белорусов в Бразилии так и не были созданы. Мобилизация диаспоры в 2020 году, в разгар пандемии, началась в августе, накануне президентских выборов в Беларуси, с создания локальных интернет-сообществ в социальных сетях и обсуждения новостей с Родины. После усиления репрессий на родине беларусы стали приезжать в Бразилию в поисках политического убежища. В декабре 2020 года в рамках соответствующего глобального проекта было создано Народное посольство Беларуси в Бразилии. На протяжении двух лет оно информирует местные СМИ, политическую, дипломатическую и гражданскую общественность о текущей ситуации в Беларуси, проводит информационно-культурные мероприятия, такие как Недели белорусской культуры в 2021 и 2022 годах, Вечера беларусской поэзии и мультимедийные выставки, посвященные беларусским женским протестам.

**Пётра Мурзёнак** *(Атава, Канада)*: **Дынаміка фактараў спрыяльнага ўплыву на нацыянальную свядомасць у пачатку XXI стагоддзя**



*Пра аўтара*: Пётра П. Мурзёнак, доктар медыцынскіх навук. Заснавальнік і рэдактар вэб-часопіса "КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ", http://www.sakavik.net. Трыццаты нумар вэб-часопіса выйдзе ў сьнежні 2022 года. Аўтар трох публіцыстычных кнігаў: "Шляхі да беларускай нацыі", Мінск, "Кнігазбор", 2016, 344с., "Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу", Мінск, "Кнігазбор", 2017, 96с., і "Belarus: Prospects of a Middle Power". Lexington Press, Lanham-Boulder-New York-London. 2022. 346pp. Аўтар чатырох зборнікаў вершаў "Быліна мая, Беларусь" (Атава, 2000), "Крыніца" (Мінск, 2011), "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам" (Атава, 2012), "Колеры" (Мінск, 2018). У 2014 годзе выйшаў у сьвет аўдыё-альбом "Дотык", які можна паслухаць на YouTube.  Займае актыўную пазіцыю ў беларускім жыцьці ў замежжы - старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Канадзе,  адзін з дырэктараў Управы Згуртаваньня беларусаў Канады.
*About the author*: Piotra P. Murzionak, Doctor of Medical Sciences. Founder and editor of the web magazine "CULTURE. NATION", http://www.sakavik.net. The thirtieth issue of the web magazine will be published in November 2022. Author of three non-fiction books: "Paths to the Belarusian nation", Minsk, "Knigazbor", 2016, 344 p., "What every Belarusian should be proud of", Minsk, "Knigazbor", 2017, 96 p., and "Belarus: Prospects of a Middle Power". Lexington Press, Lanham-Boulder-New York-London. 2022. 346pp. He is the author of four collections of poems: "My Past, Belarus" (Ottawa, 2000), "The Source" (Minsk, 2011), "While Our Angels Are Flying Over the Ocean" (Ottawa, 2012), "Colors" (Minsk, 2018). In 2014, the audio album "Touch" was released, which you can listen to on YouTube. Takes an active position in the Belarusian life abroad – he is the chairman of the Belarusian Institute of Science and Arts in Canada, one of the directors of the Board of the Unification of Belarusians in Canada.

Анатацыя. Аналізуецца дынаміка фактараў, якія станоўча ўплываюць ці могуць уплываць на ўзровень нацыянальнай свядомасьці беларусаў у XXI ст. У прыватнасці, робіцца спроба зразумець, што адбывалася за апошнія два з нечым дзесяцігоддзі з беларускім насельніцтвам і яго элітай, і як змяняюцца знешнія ўмовы існаваньня беларускай дзяржавы, якія, як і ў ранейшыя перыяды ў XX ст., былі ў значнай ступені вызначальнымі для паваротаў у лёсе беларускай нацыі. Праводзіцца аналіз магчымых  аптымальных шляхоў, якія б прывялі да жаданых  змен - змену аўтарытарнай ўлады і ўсталяваньня дэмакратычнай і вольнай нацыянальнай дзяржавы. Мы ўсведамляем, што працэсы, якія ўплываюць на нацыянальную свядомасць маюць аб'ектыўны характар,  і хіба што могуць нават толькі паскорыцца пасьля заканчэньня міжцывілізацыйнай вайны паміж Украінай і Расіяй  - паміж Заходне-рутэнскай (беларуска-украінскай) і Еўразійскай цывілізацыямі.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

Характарызуючы перыяды нацыянальнага будаўніцтва ў Беларусі ў XX-XXI ст.ст., мы падзялілі іх на спрыяльныя [1918-1930, 1941-1944 (часткова), і 1991-1995] і неспрыяльныя [1930-1941, 1944-1990, 1996-да цяперашняга часу]. Усведамляючы, што ў пачатку XXI ст. беларускае грамадства знаходзіцца ў неспрыяльных умовах для развіцьця нацыянальнай ідэі ды з улікам цыклічнага характара адзначаных перыядаў у XX ст., мы прагназуем, што наступны перыяд будзе спрыяльным для ўзрастаньня нацыянальнай сьвядомасці і ў канечным выглядзе для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы.[74, 75]

## Periods of nation-building in modern Belarus

| Period | Favorable/ unfavorable | Characteristics | |
|---|---|---|---|
| | | Internal factors | External factors |
| 1917–1930 | favorable | Formation of the BNR, BSSR, Slutsk uprising, development of national forces (including Western Belarus, as resistance to the Poles) | October revolution, Civil War, New Economic Policy, Polish occupation |
| 1930–1941 | unfavorable | Stalin's repressions of the 1930s in Eastern Belarus and oppression by Poles in Western Belarus | Ideas of world revolution (5, 6, and 7th Congresses of Communist International), Collectivization |
| 1941–1944 | not available | Development of schooling, formation of the Belarusian administration, SBM, BAK | German occupation, signs of civil war between Belarusian nationalists and Soviet partisans, Belarusians and Poles from the Krajova Army |
| 1944–1990 | unfavorable | Post-war reconstruction, Gradual replacement of all Belarusian and national by Soviet and international | The beginning of the Cold War, the strengthening of the socialist block |
| 1991–1995 | favorable | Revival | The collapse of the USSR and the socialist block |
| 1995 — up to nowadays | unfavorable | Dictatorship, Continuation of the ethnocide of Belarusians in favor of pan -Slavic and Eurasian ideas | Formation of new unions in the CIS: Customs Union, EEU, CSTO; Russia's war with Chechnya, Georgia, Ukraine |
| next | favorable | Revival of the national idea, ongoing Revolution of Hope 2020. Changes in attitudes to nation-building in the Belarusian leadership? | Continuation of the construction of the Ukrainian nation. Reduction of Russian influence? |

- *П.Мурзёнак Наступны перыяд развіцьця нацыянальнай ідэі будзе спрыяльным У кн.: Шляхі да беларускай нацыі. Мінск, 2016, “Кнігазбор”, с.184191;*
- *P. Murzionak “Belarus: Prospects of a Middle Power, Ch.8 “The Mentality of Belarusian Society”, p.128.*

2

Відавочна, што набліжэньне спрыяльнага перыяду будзе залежыць ад шэрагу складнікаў – як ад станоўчых фактараў, якія непасрэдна ўплываюць на развіцьцё беларускасьці – нацыянальнай свядомасці, так і ад адмоўных фактараў ці хутчэй ад ліквідацыі або змяншэньня уплыву апошніх. Асвятленьню неспрыяльных фактараў уплыву на нацыянальнае будаўніцтва прысвечаны шматлікія публікацыі – сюды можна аднесці як негатыўную антынацыянальную дзейнасць аўтарытарнага кіраўніцтва (рэпрэсіі, палітычныя зняволеныя, адсутнасць свабоды і дэмакратыі, ваенна-палітычны саюз з Расіяй, і г.д.), так і фактары, якія вызначаюцца паводзінамі беларускага насельніцтва (да нядаўняга часу нізкі ўзровень палітычнай культуры, невысокая талерантнасць да людзей іншых рас, рэлігій і паводзін, дзейнасць пятай

[74] П. Мурзёнак «Шляхі да беларускай нацыі”. Мінск: Кнігазбор. 2016. С.84-91.

[75] P. Murzionak “Belarus: Prospects of a Middle Power”. Lexington Press, Lanham-Boulder-New York-London. 2022. 346pp. pp.31-51, 262.

калоны, і інш.). Так думаецца, што многія з гэтых неспрыяльных фактараў перасталі б існаваць разам са знікненьнем дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі. Але як дасягнуць патрэбных зменаў?

**Беларускае грамадства**

Найпершае пытаньне, якое ўзнікае – гэта якім чынам беларусы вызначаюць сваю нацыянальную ідэнтычнасць, што ў сваю чаргу можа ў значнай ступені характарызаваць іх нацыянальную самасвядомасць. Калі браць за аснову дадзеныя апошніх перапісаў насельніцтва, то доля беларусаў, якія вызначаюць сваю нацыянальнасць як беларускую, адносна павышалася – 77.9% (1989), 81.2% (1999), 83.7% (2009), 84.9% (2019). Прычыны такіх дэмаграфічных змен абмяркоўваліся намі раней.[76] Такая высокая нацыянальная аднароднасць ёсць добрым грунтам для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы – калі ўзяць у якасці прыкладу многія дзяржавы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, якія развіваліся менавіта на монаэтнічнай аснове.

У той жа час, калі звярнуць увагу на другі важны складнік нацыянальнай самасвядомасці – родную мову - то ён не такі аптымістычны. Так, паводле тых жа перапісаў, доля беларусаў, якія вызнавалі беларускую мову як родную, хоць і складае вялікую частку, але яна даволі істотна зніжалася - з 85.6% у 1999 г. да 59.9% і 60.3% у 2009 і 2019, адпаведна. Прычынамі таму ёсць антынацыянальная палітыка лукашэнкаўскага ўрада, у першую чаргу  ў сферы адукацыі і ў сферы афіцыйнага ўжываньня роднай мовы “нямым” чынавенствам, а таксама уплыў культуры “русского мира”.

**Беларускае грамадства / Belarusian Society**

| | 1989 | 1999 | 2009 | 2019 |
|---|---|---|---|---|
| % of Belarusians | 77.9 | 81.2 | 83.7 | 84.9 |
| % of Belarusians recognizing Belarusian language as the native language | 77.7 | 85.6 | 59.9 | 60.3 |

**Revolution of Hope 2020**

| |
|---|
| For changes |
| Under white-red-white flag |
| Up to 600,000 per day |
| 1,200 political prisoners, ~400,000 in emigration |

**Ukraine-Russia War**

| |
|---|
| Anti-war sentiments of Belarusians (pickets, sabotage on the railway) |
| Armed formations, such as  Kalinovsky's regiment |
| 85% of Belarusians do not want the Belarusian army to participate in this war (while >80% of Russians are pros) |
| 2/3 of Belarusians are against Russia carrying out its deadly attacks from the Belarusian territory |

4

[76] P. Murzionak “Belarus: Prospects ... там жа, pp.99-104.

Ну дапусцім, 6 з 10 беларусаў называлі беларускую мову роднай, аднак, у рэальнасьці, яе сапраўднае ўжываньне ў будзённасці, асабліва ў гарадах, было і ёсць катастрафічна нізкім. Разам з ціскам антынароднай улады на праяўленьні беларускасці ў іншых галінах культуры (музыка, мастацтва, кіно, адукацыя), а таксама з фізічным і маральным прыгнётам нацыянальна-свядомых лідэраў, гэта дазволіла многім казаць пра існаваньне ў краіне "беларускага гета" ў пачатку XXI ст. Сярод "свядомых" нават пачаліся дыскусіі аб магчымасці падтрымкі і развіцьця беларускасці ў рускамоўным асяроддзі.

Пасля няўдач Беларускага Народнага Фронту, перад сваім далёкім ад'ездам з Беларусі ў 1998 годзе, я прагназаваў, што для падняцьця беларусаў з кален, да поўнай нацыянальнай перамогі, спатрэбіцца каля 50 год. Зыходзіў з таго, што для ўладкаваньня жыцьця пасля разбурэньня такой глабальнай палітычна-сацыяльнай сістэмы як Савецкі саюз, спатрэбіцца як мінімум два пакаленьні. Адно пакаленьне ўжо вырасла – і стала сведкам рэвалюцыі ў Беларусі (2020), і сведкам збройнага ахвярнага змаганьня за свабоду ва Украіне (2014-2022). І ўсё ж, Рэвалюцыя надзеі 2020, якая распачалася падчас чарговай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі ў Беларусі, стала даволі нечаканай для ўсяго свету. Асабліва, калі ўлічваць, што рэвалюцыйныя пратэсты праходзілі пад даўно забароненымі ўладамі бел-чырована-белымі нацыянальнымі сцягамі, хаця тыя і былі дзяржаўнымі сімваламі ў 1991-1995 гг. Магчыма не так і важна ці былі гэтыя колеры выбраны калонамі людзей асэнсавана як сімвал беларускай дзяржаўнасці з часоў БНР, альбо як пратэстныя, альтэрнатыўныя сцягі ў адносінах да афіцыйнага чырвона-зялёнага "лукашэнкаўскага" сцяга, які асацыяваўся з самім дыктатарам - рэвалюцыйна-настроеныя людзі патрабавалі зьмен.

Аднак, нельга і казаць, што гэтыя пратэсты былі зусім стыхійнымі. Відавочна, што яны былі вынікам шматгадовых высілкаў нацыянальна-сьвядомай эліты і недзяржаўных грамадскіх арганізацый. Шматмесячныя пратэсты, у якіх прымалі сотні тысяч людзей, мелі дэмакратычны характар. Аб гэтым сведчаць патрабаваньні лідэраў гэтых пратэстаў – вызваленьне палітычных вязьняў, адхіленьне ад улады Лукашэнкі, правядзеньне новых свабодных выбараў. На жаль, нацыянальныя лозунгі – будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, вызваленьне ад расійскай каланіяльнай залежнасьці – не рэялі над калонамі. Так, магчыма яны падразумеваліся, але не аб'яўляліся і не ставіліся на парадак дня, г.зн. нельга казаць, што адбывалася нацыянальна-вызвольная рэвалюцыя. Падчас рэвалюцыі было відавочна, што беларускі народ стаміўся ад аўтарытарнай улады; аднак, патэнцыял пратэстаў быў недастатковым каб дамагчыся карэнных зьменаў, як з прычыны адсутнасьці яркіх лідэраў, большасць якіх была загадзя арыштавана яшчэ перад рэвалюцыяй-2020, так і з прычыны адсутнасці ясных тактычных і стратэгічных планаў.

Вынікам гэтага сталася тое, што антынародны рэжым загнаў рэвалюцыю ў пад’езды, у турмы, у эміграцыю - больш 1.200 палітвязняў, больш 400.000 актывістаў пакінуўшых радзіму і загнаная на кухні частка актыўнага беларускага насельніцтва. Некаторыя прычыны паразы, зьвязаныя з лідэрствам і стратэгіяй, будуць абмеркаваны ніжэй. Ды ўсё ж, тое што адбылося - Рэвалюцыя надзеі 2020 – было не задарма. Яна падняла новы пласт беларусаў, не ангажаваных да гэтага ў якую б то ні было палітыку, але раптам захацеўшых зьмен у дзяржаве. Падчас Рэвалюцыі 2020 на вуліцы Беларусі выходзілі ў адзін дзень да 600.000 чалавек. Найбольш актыўныя апынуліся ў турме ці ў эміграцыі, аднак астатнія на волі, хоць і загнаныя на свае “кухні”.

Тым не менш, беларусы другога пакаленьня зараз моцна думаюць над сваім лёсам і дзейнічаюць! Сведчаньнем таму ёсць антываеныя настроі беларусаў, заўважныя па пратэстных пікетах, па сабатажу і дыверсіях на чыгунцы, па ўдзелу збройных фарміраваньняў, такіх як полк Каліноўскага, у змаганьні за свабоду Украіны ў вайне супраць расійскага агрэсара.[77] Паводле апытаньняў, больш як 85% беларусаў не жадаюць, каб беларускае войска ўдзельнічала ў гэтай вайне, у адрозненьне ад расійскага насельніцта, якое больш чым на 80% захоплена ідэяй перамогі над Украінай; больш таго, 2/3 беларусаў таксама супраць таго, каб з тэрыторыі краіны Расія ажыццяўляла свае смертаносныя атакі.

Думаецца, што ў цэлым, ад часоў Адраджэньня 90-х гадоў, нацыянальная сьвядомасць беларускага народа не зменшылася і нават вырасла. У якой ступені? – цяжка сказаць; кожнаму моманту ў гісторыі любой краіны трэба саспець.

**Эліты**

Лукашэнкаўскі рэжым у XXI ст. не зьмяніў свайго твару. Адносіны яго кіруючай эліты да нацыянальнага будаўніцтва нават пагоршыліся. У Беларусі будуецца рускамоўная цывільная дзяржава, што адпавядае даўняму курсу Лукашэнкі на

[77] A representative of Belarusian cyber-partisans informed the world of their number and described the nature of their operations. Part of that included activities on Belarusian rail lines: https://nashaniva.com/288926. Nasha Niva 26.04.2022. The majority of Belarusians feel compassion for Ukraine, not for Russia, as shown in: https://nashaniva.com/289029. Nasha Niva 27.04.2022.

Map of anti-war movement in Belarus. More that 1500 persons in Belarus are being repressed and experience violent beatings because their opposition to the war in Ukraine, as was reported by the Belarusian Service of Radio Liberty on the 15th of April 2022.

эканамічную інтэграцыю з Расіяй (зацверджанай праз год пасля яго абраньня на рэферэндуме ў 1995 годзе, 83.3% насельніцтва былі "за"). Спробы дыктатара балансаваць у гандлі паміж Расіяй, ЕС і трэцім сьветам усё роўна скончыліся амаль татальнай ваенна-палітычнай залежнасцьцю ад Расіі і ўцягненьнем Беларусі ў вайну Расіі супраць Украіны. У мінулым Лукашэнка абяцаў двум прэзідэнтам Украіны, П. Парашэнку і У. Зяленскаму, што ім не варта баяцца нападу з боку Беларусі. Ці вытрымае ён слова да канца (маецца на ўвазе прамы напад), невядома, бо ў лютым 2022 года, расійскія войскі заходзілі ў паўночныя вобласці Украіны - Чарнігаўскую, Кіеўскую, Жытомірскую, з Беларусі, ды з беларускай тэрыторыі Расія запускае ракеты і бомбіць авіацыяй украінскія гарады і сёлы. У дадатак, у кастрычніку 2022 года пачалося стварэньне аб'яднанай ваеннай групоўкі беларускіх і расійскіх войск.

## Эліты / Elites

| National-conscious elite | Ruling elite |
|---|---|
| Conditions: "Belarusian ghetto" | The Lukashenko regime in the 21st century. did not change his face |
| The influence of political parties has not increased.<br><br>Lack of unity among Belarusian national leaders before (1917-1923; 1988-1994) and now | Russian-speaking civilian state is being built in Belarus |
| S. Tikhanouskaya – National leader: creation of the transitional government (August 8-9, 2022) and the Coordination Council (115 people, until Dec 2022) | Military-political dependence on Russia and the involvement of Belarus in Russia's war against Ukraine |
| Change of the Lukashenka regime by armed means | As the Russian blitzkrieg has no success- back to "the games" with the EU |
| Consolidation (slow, leadership ambition) | |

5

Усё ж, заўважыўшы, што расейскі бліцкрыг не мае посьпеху і заходні сьвет увёў палітычныя і эканамічныя санкцыі не толькі супраць Расіі, але і супраць Беларусі, «хітры» Лукашэнка і ягоная эліта ўжо праз месяц пасьля пачатку вайны пачалі адступаць. Беларускія ўлады выступілі з новым зваротам да Еўрасаюза (прыкладна як пасля рэпрэсіўных дзеяньняў Лукашэнкі ў 2006 і 2010 гг.), выказваючы жаданьне супрацоўнічаць і, адначасова, прадстаўляючы сябе «ахвярамі цэлага шэрагу абставінаў, які пачаўся яшчэ ў 2020 годзе».[78]

Што тычыцца ўмоў, у якіх працавалі нацыянальна-сьвядомыя сілы у першыя два дзесяцігоддзі XXI ст., то многімі аналітыкамі яны характарызаваліся двумя словамі – "беларускае гета". Пасля параз апазіцыі ў 2006 г. (разгон удзельнікаў

[78] In a letter to Europe Makey complains about "the unfortunate flow of events following 2020" and calls for dialogue: . https://nashaniva.com/288346. Nasha Niva. 14.04.2022.

"Кастрычніцкай плошчы") і ў 2010 г. (арышты кандыдатаў у прэзідэнты - Р.Костусева, А.Міхалевіча, У. Някляева, А. Саннікава, Н.Статкевіча, і іншых) палітычная актыўнасць была амаль незаўважнай нават у сталіцы. Мужнаму змагару за вольную Беларусь, М.Статкевічу, пасля сваіх выхадаў з турмы (дзе адбываў незаконна прысуджаныя тэрміны ў 2005-2008 і ў 2010-2015 гг.) ўдавалася вывесьці на вуліцы 2-3 тысячы пратэстантаў. Выключэньнем быў пратэст у дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года, калі на вуліцах горада Мінска было каля 50.000 дэманстрантаў (як у лепшыя "БНФаўскія-часы" ў 90-я гады мінулага стагоддзя).

Станоўчы уплыў на нацыянальную свядомасць маглі б аказваць палітычныя партыі, аднак, ва ўмовах дыктатуры ён быў значна абмежаваны. На самой справе, колькасны склад палітычных партый нацыянальнай арыентацыі і іх уплыў на насельніцтва за аналізуемы перыяд значна не вырас. Так, паводле незалежных экспертаў, у 2008 годзе, падтрымка насельніцтвам Аб'яднанай грамадзянскай партыі складала 0.5%, партыі БНФ – 0.7%.[79] На парламенцкіх выбарах 2019 года, якія, як і папярэднія не былі прызнаныя як цалкам дэмакратычныя, кандыдаты ад АГП набралі 1,37% галасоў, ад Партыі БНФ - 1,56%, ад БСД «Грамада» — 0,44%, тады як Камуністычная партыя Беларусі з марксісцка-ленінскай платформай — 10,62%. У 2017 годзе, у Беларусі налічвалася 98,000 сяброў розных партый, з іх доля сяброў такіх праўладных партый як ЛДП (51,000), Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (9,800), Камуністычная партыя Беларусі (6,500), Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя (2,500), Беларуская патрыятычная партыя (1,500) агулам складала больш за 70% (для параўнаньня ў АГП было 3,668 сяброў або 3.7%, у БНФ – 5,000 або 5.1%).[80]

Мы адзначалі ўжо разрозненасць сярод беларускіх нацыянальных лідэраў у спрыяльныя перыяды развіцьця краіны ў XX ст. (1917-1923 і 1988-1994).[81] Такая ж разрозненнасць працягваецца сярод лідэраў "старэйшай генерацыі" і ў наш час (за

[79] Oksana Ivanjuto et al., *Transfarmatsyja mentalnastsi belarusau u XXI stahodzzi*, ed. Anatol Taras. (Ryga, 2013), 264. In 2008, the UCP had support of 0.5%, the BPF, 0.7%.

[80] Volha Charnysh and Tatsiana Kulakevich, "Belarusian Political Parties: Organizational Structures and Practices," in *Organizational Structures of Political Parties in Central and Eastern European Countries* (Krakow: Jagiellonian University Press, 2017).
The Liberal-Democratic Party has 51,000 members, the Republic Party of Labor and Justice 9,800, the Communist Party 6,500, the Belarusian Social-Sportive Party 2,500, Belarusian Patriotic Party 1,500, Belarusian People's Front 5,000, the United Civil Party 3,668, the Conservative Christian Party/Belarusian People's Front 3,000.

[81] P. Murzionak "Belarus: Prospects of a Middle Power". Lexington Press, Lanham-Boulder-New York-London. 2022. 346pp. pp.97.

выключэньнем становучых спроб яднаньня вакол новага нацыянальнага лідэра С. Ціханоўскай – аб чым чытайце ніжэй). Такія “кіты” беларускай апазіцыі, як З. Пазьняк, А. Санньнікаў, у мінулым прэтэндаваўшыя на самую высокую пасаду ў краіне, знаходзяцца ў эміграцыі і займаюць маргінальныя пазіцыі ў “беларускім палітычным полі” (калі мець на ўвазе, што гэта поле ўключае ў сябе колы дыяспары). Гэтая маргінальнасць заключаецца як у невысокай патрымцы падобных груп, так і ў нежаданьні многіх лідэраў з кім-небудзь аб’ядноўвацца, якое адлюстроўваецца ў неінтэлігентнай крытыцы сваіх апанентаў (“агенты КГБ”, “катлеты”, і г.д.). Прыблізна такую ж пазіцыю займае і В. Цапкала, нядаўні кандыдат у прэзідэнты-2020, які спрабуе весьці сваю лінію праз Дэмакратычны форум, што двойчы зьбіраўся ў маі і ліпені 2022 г. Нечакана, нават прадстаўнікі палка К.Каліноўскага, якія змагаюцца за свабоду Украіны, заявілі свае асобныя палітычныя прэтэнзіі.[82] Падаецца, што такі непрадуктыўны падыход сярод мноства лідэраў мог бы быць яшчэ апраўданым пры роўнасьці дэмакратычных умоў працы для ўсіх палітычных сіл на радзіме, а не ў рэальных умовах працы па-за яе межамі, дзе абсалютная большасць актыўных нацыянальных сіл апынулася ў выніку рэпрэсій у сваёй краіне.

Думаецца, што перш чым раз’яднацца – трэба спачатку з’яднацца (хаця б і за мяжой) для змены дыктатарскай улады і ўсталяваньня дэмакратыі ў краіне – інакш, як паказвае гісторыя развіцьця беларускіх нацыянальных элітаў, наўрад ці можна чакаць посьпеху. Можна думаць, што аднабокая палітычная “блізарукая” практыка шэрагу паважаных асоб з’яўляецца адлюстраваньнем і нізкай палітычнай культуры ўсяго беларускага народа, якая і не магла сфармавацца ва ўмовах таталітарнай савецкай сістэмы, традыцыі якой у значнай ступені ўжывае да сёньня дыктатарскі рэжым.

На сёняшні дзень нацыянальна-свядомым сілам варта было б згуртавацца вакол С.Ціханоўскай, якая ўзяўшы на сябе роль Нацыянальнага лідэра, безумоўна стала значнай фігурай у гісторыі беларускага руху. Мы ўжо абгрунтоўвалі становучыя моманты кансалідацыі вакол Нацыянальнага лідэра - беручы пад увагу яе мужнасць, адказнасць, істотную падтрымку сярод насельніцтва Беларусі і пазнавальнасць, ясную і адкрытую праграму, што тычыцца вызваленьня палітзняволеных і правядзеньня свабодных дэмакратычных выбараў у краіне, яе здольнасць сабраць

[82] Намеснік камандзіра палка Каліноўскага: У нас ёсць палітычныя амбіцыі, а Сахашчыку мы не давяраем

https://nashaniva.com/301456 20 кастрычніка 2022 года.

вакол сябе людзей, актыўна працуючых у беларускіх справах.[83] Сюды трэба дадаць значныя дасягненьні яе каманды ў міжнародных узаемаадносінах і нядаўняе стварэньне ураду пераходнага перыяду пад яе кіраўніцтвам (Вільнюс, 8-9 жніўня 2022 года). Відавочна, што на шляху сп. С. Ціханоўскай ёсць шмат складанасцяў – як у справах кансалідацыі нацыянальна-свядомых сіл: напрыклад, стварэньне Каардынайцыйнага савета са 115 чалавек да снежня 2022 года, ці узаемадзеяньне з кіраўніцтвам Украіны,[84] якое ўскладняецца з-за пазіцыі кіраўніцтва Беларусі - саўдзельніка расійскага агрэсара ў вайне супраць Украіны, так і вядзеньнем працы ва ўмовах вымушанай эміграцыі. Тым не менш, хочацца верыць, што першыя крокі па кансалідацыі нацыянальных сіл зроблены, крокі нават больш важныя і істотныя, калі параўноўваць іх з падобнымі спробамі на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, пры вызначэньні адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары (Мінск, 1-2 кастрычніка 2005 года; *гэта бадай адзіны прыклад удалай кансалідацыі за абмяркоўваемы перыяд*, П.М.).

Асобна трэба адзначыць дыскутуемую магчымасць змены лукашэнкаўскага рэжыма збройным шляхам - у першую чаргу маюцца на ўвазе беларускія фармаваньні, якія змагаюцца ў складзе Збройных сіл Украіны (полк К. Каліноўскага, полк “Пагоня”). Прыхільнікі гэтага падыходу (В.Сахашчык, В.Пракоп’еў, і інш.) лічуць, што сітуацыя ў Беларусі, з улікам акупацыі краіны расійскімі войскамі, не можа быць вырашана мірным дэмакратычным шляхам. Мірны падыход, які выкарыстоўваўся падчас “Рэвалюцыі надзеі-2020”, скончыўся фактычна паразай (аказалася, што нельга адабраць уладу ў антынацыянальных сіл “здымаючы шкарпэткі перад тым як стаць на скамейку”). Але і тут няма адназначнага адзінства. Прадстаўнікі палка К.Каліноўскага заявілі, што яны імкнуцца быць раўнапраўным суб’ектам у сучасным беларускім руху, а не проста быць выканаўцамі волі пераходнага ўраду С.Ціханоўскай, у прыватнасці падпадаць пад руку сп. Сахашчыка, “ваеннага міністра” ў гэтым урадзе.[85] На іх думку, менавіта яны, а не пераходны ўрад валодаюць магчымасцямі рэалізацыі ваеннага сцэнару. На сёньня, такі сцэнар выглядае малаверагодным з прычыны малалікасці гэтых ваенных фарміраваньняў (якія, відавочна, не будуць мець посьпеху пры прамым сутыкненьні з

[83] Пётра Мурзёнак Тэзісы да тактыкі і стратэгіі нацыянальнага будаўніцтва ў сучасных умовах “Культура. Нацыя”, №28, лістапад 2021, с.5-13.

[84] «Щодо Тихановської є сумніви». Мережко пояснив, чому Київ не хоче визнавати «перехідний кабінет». Радіо Свобода, 14 жовтня 2022 года. https://www.radiosvoboda.org/a/news-tykhanovska-ukraina-merezhko/32083904.html/

[85] Чаго хоча Полк Каліноўскага: Ціханоўская, хунта, зброя, палітыка

https://nashaniva.com/301549. 21 кастрычніка 2022 года.

лукашэнкаўскай арміяй) ці па прычыне іх магчымага разбраеньня пасля сканчэньня вайны паміж Украінай і Расіяй. Але сітуацыя змяняецца дынамічна і хутка. Пры пашырэньні радоў гэтых фармiраваньняў, дастатковай ваеннай дапамозе з боку міжнароднай супольнасці, як гэта зараз адбываецца ў адносінах да Украіны, а таксама, што вельмі важна, пры падтрымцы беларускага насельніцтва, іх роля можа аказацца нават адной з вызначальных у вызваленьні беларусаў з "цемры". Безумоўна, што тут будзе важнай каардынацыя і кансалідацыя ўсіх сіл, і роля пераходнага ўрада С.Ціханоўскай і аднаўляемага Каардынацыйнага савета, на нашу думку, можа быць галоўнай у гэтых працэсах.

Падаецца, што працэс кансалідацыі пачаўся, хаця ідзе ён даволі марудна па многіх прычынах унутранага характару ў самой камандзе сп. Ціханоўскай, так і з-за ўжо адзначанай амбіцыйнасці многіх асоб\актораў, якія знаходзяцца ў апазіцыйным беларускім асяроддзі.

**Знешнія фактары (войны, сусвет)**

Мы ўжо адзначалі раней, што найбольшага посьпеху ў беларускіх справах нацыянальныя сілы дабіваліся ў XX ст. пры спрыяльных знешніх умовах (аднак, на жаль, фінальнай рэалізацыі беларускай ідэі тым не менш не адбывалася, магчыма з-за адсутнасці адзінства ў іх радах).[86] Прыкладамі таму з'яўляюцца: стварэньне ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) ва ўмовах акупацыі нямецкімі войскамі; беларусізацыя 1920–30-х гадоў, якая адбывалася ва ўмовах няўпэўненасці савецкай улады ў правядзеньні новай эканамічнай палітыкі; стварэньне сучаснай Рэспублікі Беларусь, якое было хутчэй вынікам распаду Савецкага Саюза ў 1991 годзе, чым тое, што гэта было абумоўлена ўнутранымі фактарамі; хваля беларускага адраджэньня 1990-х гадоў мела значны посьпех з-за зьбянтэжанасьці і разгубленасьці тагачаснага наменклатурнага кіраўніцтва краіны і стратай Расіяй лідэрства для сваіх былых калоній.

Сёньня, абмяркоўваючы фактары спрыяльнага уплыву на нацыянальную свядомасць, мы безумоўна з надзеяй звяртаем свае погляды на Украіну. Менавіта падзеі вакол Украіны могуць стаць тым знешнім фактарам, які можа дапамагчы вырашыць і беларускае пытаньне. Па-першае, ад канечных вынікаў вайны Украіны з Расіяй залежыць не толькі свабоднае жыцьцё украінцаў, але і беларусаў, і ўвогуле жыцьцё ўсяго свету, які па сканчэньні гэтай вайны будзе вымушаны шукаць новыя

---

[86] П.Мурзёнак Наступны перыяд развіцьця нацыянальнай ідэі будзе спрыяльным. У кн.: Шляхі да беларускай нацыі. Мінск, 2016, "Кнігазбор", с.184-191;
P. Murzionak "Belarus: Prospects ... ibid, Ch.8 "The Mentality of Belarusian Society", p.128.

фарматы калектыўнай бяспекі. І Украіна, як персаможац, можа быць адным з дырыжораў гэтага працэса.

| Знешнія умовы / External factors |
| --- |
| • National forces achieved the greatest success in the 20th century. under favorable external conditions: |
| - creation of BNR in 1918 - under conditions of occupation by German troops |
| - Belarusianization of the 1920s and 30s - insecurity of the Soviet government, NEP |
| - the creation of the Republic of Belarus is more a result of the collapse of the USSR in 1991 than it was caused by internal factors |
| - the wave of Belarusian revival in the 1990s - due to the confusion of the then nomenclature leadership of the country and Russia's loss of leadership for its former colonies |
| • The final results of Ukraine's war with Russia depend not only on the free life of Ukrainians, but also of Belarusians, and in general the life of the whole world, including the idea that Belarus and Ukraine are an integral part of the Belarusian - Ukrainian \Western-Ruthenian civilization |
| • Ukraine is far ahead of Belarus in its civilizational development (and this despite the difficulties of economic development and the 8 -year war with Russia, 2014 -2022) |

7

Для Беларусі, нягледзячы на тое, што яна зараз выступае на баку агрэсара, гэта важна і з іншага пункту гледжаньня, звязанага з тым, што Беларусь і Украіна з’яўляюцца неад’емнай часткай беларуска-украінскай\заходне-рутэнскай цывілізацыі. Доказы існаваньня гэтай цывілізацыі, якія базуюцца на агульнай гісторыі, культуры, традыцыях Беларусі і Украіны, былі прадстаўлены навуковай і грамадзянскай супольнасці.[87] Даўнейшая гісторыя абедзьвюх краін, як і дзяржава-утваральныя працэсы ў XX ст. (абвяшчэньне БНР і УНР у 1918 г. і аднаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі і Украіны пасля распаду СССР у 1991 годзе) ішлі амаль паралельным курсам. Аднак, параўноўваючы дынаміку развіцьця гэтых краін у пачатку XXI ст., можна канстатаваць, што Украіна ў сваім цывілізацыйным развіцьці ідзе значна

[87] “Eastern-Slavic Belarusian-Ukranian Civilization. Hypothesis and Facts”. Web-magazine “SAKAVIK/CULTURE. NATION”, September 2013, issue 3, pp. 40-61. In Belarusian;

“Evidence for Belarusian-Ukrainian Eastern Slavic Civilization.” Comparative Civilizations Review. No 73: Fall, 2015, pp.51-76;

“The Ways to Belarusian Nation”. Minsk, “Knihazbor”, 2016. 344 p. In Belarusian. ISBN 978-985-7144-53-2. In Belarusian;

“Does Belarusian-Ukrainian Civilization Belong to the Western or the Latin Civilization?” Comparative Civilizations Review: Vol. 78, Spring 2018, pp.40-54;

“Belarus: Prospects of a Middle Power.” Lexington Press, 2022, 344 pp.

наперадзе Беларусі (і гэта нягледзячы на цяжкасці эканамічнага развіцьця і 8-гадовую вайну з Расіяй, 2014-2022). Віной таму прасавецкі (чытай пракамуністычны) светапогляд адзінага прэзідэнта Беларусі і яго прарасійскі курс, які ізноў зацягнуў беларускую краіну ў каланіяльныя расійскія путы. Беларусь адстае ў сваім развіцьці ад Украіны па многіх параметрах (у Табліцы ў калонцы “Каментарыі” мы ўмоўна праставілі гэта адставаньне ў балах).

**Табліца. Дынаміка развіцьця Беларусі і Украіны за апошнія 30 год**
**Table. Development dynamics of Belarus and Ukraine over the last 30 years**

| Беларусь | Украіна | Каментарыі |
|---|---|---|
| **Канстытуцыя** | | |
| 1996 і 2022 (Лукашэнка) | 1996 (Кучма) | **Лукашэнка**: "Я на коленях готов ползти в Россию", «Белорус – «это русский со знаком качества»<br>**Кучма** – кніга «Украина - не Россия»<br>*Умоўна: мінус 2 балы* |
| **Выбары прэзідэнта** | | |
| 1994 – Лукашэнка (II, 80.6%)<br>2001 – Лукашэнка (75.7%)<br>2006 – Лукашэнка (83.0%)<br>2010 – Лукашэнка (79.7%)<br>2015 – Лукашэнка (83.5%)<br>2020 – Лукашэнка (67.4%) | 1991 – Краўчук (61.6%)<br>1994 – Кучма (II, 52.2%)<br>1999 – Кучма (II, 56.3%)<br>2004 – Ючшанка (II, 52%)<br>2010 – Януковіч (II, 49%)<br>2014 – Парашэнка (54.7%)<br>2019 - Зяленскі (II, 73.2%) | Першы прэзідэнт у Беларусі быў абраны на 3 гады пазьней, чым ва Украіне.<br>*(- 3 балы)*<br>Толькі адны выбары ў Беларусі прайшлі з II-м турам, ва Украіне – пяць з сямі.<br>*(- 4 балы)* |
| **Значныя рэвалюцыйныя падзеі ў жыцьці краіны ў XXI ст** | | |
| 2006 – Кастрычніцкая плошча<br>2010 – пратэст пасля выбараў<br>2020 - Рэвалюцыя надзеі | 2004 – Памаранчавая рэвалюцыя<br>2013 – Еўрамайдан – Рэвалюцыя годнасці | Пратэстныя акцыі ў Беларусі ў сувязі з выбарамі скончыліся паразай нацыянальна-сьвядомых сіл.<br>Ва Ўкраіне адбыліся 2 пераможныя нацыянальна-вызвольныя рэвалюцыі.<br>*(- 2 балы)* |
| **Еўрапейскі Саюз (ЕС)** | | |
| Беларусь у 2020 годзе прыпыніла сяброўства у праграме Усходне Еўрапейскага партнёрства | 23 чэрвеня 2022 года Еўрапейскі савет даў Украіне статус кандыдата на ўступленьне ў ЕС | *(-2 балы)* |
| **Адносіны з сусьветнай супольнасцю** | | |
| Беларусь з'яўляецца суагрэсарам у вайне Расія-Украіна | Украіна, падтрымліваемая 53 краінамі, змагаецца за свабоду на пярэднім краі | Украіна, становіцца маральным лідэрам у свеце, тады як супраць Беларусі і Расіі міжнародная супольнасць ужывае рознага роду санкцыі. *(- 2 балы)* |

6

Так, напрыклад, варта параўнаць:

- рознамагнітныя пазіцыі Лукашэнкі і Кучмы (у часы кіраваньня якіх прымаліся дзеючыя канстытуцыі дзвюх краін) адносна Расіі – у выказваньнях Лукашэнкі: "Я на коленях готов ползти в Россию", «Белорус – «это русский со знаком качества»; і ў кнізе Кучмы «Украина - не Россия»,
- большую рашучасць украінскага народа ў выбарах прэзідэнта краіны – украінцы зрабілі гэта на 3 гады раней, чым беларусы (1991 і 1994),
- канкурэнцыю і дэмакратычнасць прэзідэнцкіх выбараў - толькі першыя выбары ў Беларусі прайшлі з II-м турам, тады як ва Украіне – пяць з сямі,
- значныя рэвалюцыйныя падзеі ў жыцьці краіны ў XXI ст. ў Беларусі скончыліся паразай, тады як ва Украіне прайшлі дзве пасьпяховыя дэмакратычныя рэвалюцыі – Памаранчавая рэвалюцыя (*у сувязі з недэмакратычнасцю выбараў*) і Рэвалюцыя Годнасці (*спыненьне Пагадненьня аб асацыяцыі Украіны з ЕС*),
- Беларусь у 2020 годзе прыпыніла сяброўства у праграме Усходне-Еўрапейскага партнёрства, дзе яна была там разам з Украінай, Азербайджанам, Арменіяй, Грузіяй, і Малдовай; тады як Украіна набыла статус кандыдата ў Еўрапейскі Саюз

(23.06.2022), што, дарэчы, было ў многім абумоўлена падрымкай Украіны у вайне з боку кіроўных структур ЕС,

- у сувязі з вайной 2022, на Беларусь накладзены рознага роды санкцыі з боку міжнароднай супольнасці, тады як Украіна становіцца маральным прыкладам для ўсяго сьвету ў сваім змаганьні як за сваю свабоду, так і за агульначалавечыя правы.

Такім чынам, калі спраецыраваць бліжэйшую будучыню Беларусі базуючыся на мінуўшым 20-гадовым досведзе Украіны і цяперашняй сітуацыі, то ўсё ж беларусы многага чакаць у бліжэйшы перыяд відавочна не могуць. Аднак, сітуацыя можа кардынальна змяніцца пры ўмове:

а) што Украіна атрымае адназначную перамогу ў вайне з Расіяй;
б) што краіны, якія зараз знаходзяцца ў кааліцыі з Украінай у барацьбе супраць расійскага агрэсара, акажуць выразную падтрымку (ваенную, палітычную, а пасля і эканамічную) нацыянальна-свядомым сілам Беларусі у іх барацьбе за зьвяржэньне дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі і ўсталяваньне дэмакратыі і свабоды ў краіне.

**У заключэньне**

1. Калі мець на ўвазе рэвалюцыйныя падзеі 2020 года, то можна даволі смела сказаць, што нацыянальная свядомасць беларусаў у пачатку XXI ст. расце.
2. Крокам наперад для нацыянальна-свядомых сіл з'ўляецца стварэньне пераходнага ўрада С. Ціханоўскай і запланаваная рэарганізацыя Каардынацыйнага савета (снежань 2022 года), што сведчыць аб пачатку кансалідацыі беларускіх сіл вакол Нацыянальнага лідэра. Па сваёй важнасьці і істотнасці гэта кансалідацыя выглядае нават значна большай у параўнаньні з іншай удалай кансалідацыяй, і бадай адзінай за абмяркоўваемы перыяд, на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, які вызначаў адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары (Мінск, 1-2 кастрычніка 2005 года).
3. Спрыяльны перыяд для росту нацыянальнай свядомасці будзе абумоўлены у значнай ступені перамогай Украіны, нашага партнёра па Заходне-рутэнскай цывілізацыі, у вайне з Расіяй, што можа адкрыць магчымасьці для выразнай падтрымкі нацыянальна-свядомых сіл Беларусі (ваеннай, палітычнай, эканамічнай) з боку міжнароднай супольнасьці ў іх барацьбе за зьвяржэньне дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі і ўсталяваньне дэмакратыі і свабоды ў краіне. Аднак ... Беларусам трэба быць гатовымі да гэтага.

| Заключэньне / Conclusions | |
|---|---|
| Калі мець на ўвазе рэвалюцыйныя падзеі 2020 года, то можна даволі смела сказаць, што нацыянальная свядомасць беларусаў у пачатку XXI ст. расце. | If we keep in mind the revolutionary events of 2020, we can quite boldly say that the national consciousness of Belarusians at the beginning of the 21st century is growing. |
| Крокам наперад для нацыянальна-свядомых сіл з'ўляецца стварэньне пераходнага ўрада С. Ціханоўскай і запланаваная рэарганізацыя Каардынацыйнага савета (снежань 2022 года). | The creation of the transitional government of S. Tsikhanouskaja and the planned reorganization of the Coordination Council (December 2022) are a step forward for nationally-conscious forces. |
| Калі праецыраваць бліжэйшую будучыню Беларусі базуючыся на мінуўшым 20-гадовым досведзе Украіны і цяперашняй сітуацыі ў Беларусі, то ўсё ж беларусы многага чакаць у бліжэйшы перыяд відавочна не могуць. Аднак, тэарэтычная магчымасць усталяваньня моцнай беларускай нацыі застаецца. | If we project the near future of Belarus based on the past 20-year experience of Ukraine and the current situation in Belarus, Belarusians clearly cannot expect much in the near future. However, the theoretical possibility of establishing a strong Belarusian nation remains. |
| Спрыяльны перыяд для росту нацыянальнай свядомасці ў значнай ступені можа быць абумоўлены перамогай Украіны, нашага партнёра па Заходне-рутэнскай цывілізацыі, у вайне з Расіяй.<br>Аднак ... Беларусам трэба быць гатовымі да гэтага. | A favorable period for the growth of national consciousness can largely be determined by the victory of Ukraine, our partner in the Western Ruthenian civilization, in the war with Russia.<br>However, Belarusians need to be ready for this. |

8

**Piotra Murzionak** (*Ottawa, Canada*): **"Dynamics of Factors Offering Positive Influence on National Consciousness at the Beginning of the Twenty First Century"** ***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 90-103, www.sakavik.net )***

Abstract. The dynamics of factors that positively influence or can influence the level of national consciousness of Belarusians in the 21st century is analyzed. In particular, an attempt is made to understand what has happened to the Belarusian population and its elite over the past two or so decades, and how the external conditions for the Belarusian state are changing, which, as in earlier periods in the 20th century, were to a large extent decisive for the changes in the fate of the Belarusian nation. An analysis of possible optimal ways that would lead to the desired changes - the change of authoritarian power and the establishment of a democratic and free national state - is being carried out. We are aware that the processes affecting the national consciousness have an objective nature and may even accelerate after the end of the inter-civilizational war between Ukraine and Russia - between the Western Ruthenian (Belarusian-Ukrainian) and Eurasian civilizations.

**Пётра Мурзёнак** *(Оттава, Канада)*: **«Динамика факторов оказывающих положительное влияние на национальное сознание в начале XXI века»** ***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 90-103, www.sakavik.net )***

*Резюме.* Анализируется динамика факторов, которые положительно влияют или могут повлиять на уровень национального самосознания белорусов в XXI веке. В частности, делается попытка понять, что произошло с беларусским населением и его элитой за последние два-три десятилетия и как меняются внешние условия для беларусского государства, которые, как и в более ранние периоды XX века, во многом определяли изменения в судьбе беларусской нации. Анализируются возможные оптимальные пути, которые привели бы к желаемым изменениям - смене авторитарной власти и установлению демократического и свободного национального государства. Подчёркивается, что процессы, затрагивающие национальное сознание, имеют объективный характер и могут даже ускориться после окончания межцивилизационной войны между Украиной и Россией - между западнорусской (беларусско-украинской) и евразийской цивилизациями.

<u>Даклады, секцыя Б</u> *(на старонках 104-174)*: **“Культура і гісторыя беларусаў на радзіме і ў замежжы ў сучасны перыяд”.** Вядучая – Наталія Баркар

**Ўладыка Сьвятаслаў Логін** (*Таронта, Канада*): **“Роля Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ва ўмацаваньні нацыянальнай свядомасці”**
**Uladyka Sviataslau Lohin** (*Toronto, Canada*): **“Role of the Belarusian Autocephalic Orthodox Church in Strengthening National Consciousness”**



Прамову можна праслухаць у Youtube https://youtube.com/@binimcanada

<u>*Пра аўтара*</u>: Уладыка а. Святаслаў (у міру – Вячаслаў Логін) – беларус, нарадзіўся ў 1964 г. у Чарнігаве. Род Логінаў паходзіць з Наваградчыны, дзед Андрэй і ягоны брат Язэп былі фальклырыстамі. Скончыў Кіеўскі палітэхнічны інстытут, Кіеўскую духоўную семінарыю і праваслаўны калегіум св. Андрэя ў Вініпэгу, Канада. Быў настаяцелем цэркваў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы у ЗША. У 2008 г. прыняў манаскі пастрыг. З 2008 года абраны Адміністратарам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

<u>*About the author*</u>: A. Svyatoslav (in secular life was known as Vyachaslau Login) is a Belarusian, born in 1964 in Chernihiv. The Login family comes from Novohradchyna, his grandfather Andrey and his brother Joseph were folklorists. He graduated from the Kyiv Polytechnic Institute, then from Kyiv Theological Seminary and the Orthodox College of St. Andrew in Winnipeg, Canada. He was the rector of Belarusian Autocephalous Orthodox Churches in the USA. In 2008, he took monastic vows. Since 2008 he has been serving as elected administrator of the Belarusian Autocephalous Orthodox Church.

**Дэвід Марплз** (*Эдмантан, Канада*): **“Амбівалентная роля ‘Вялікай Айчыннай вайны’ ў фармаванні гістарычнай памяці і нацыянальнай ідэнтычнасці ў сучаснай Беларусі”**
**David Marples** (*Edmonton, Canada*): **"The Ambivalent Role of the 'Great Patriotic War' in shaping historical memory and national identity in contemporary Belarus"**



Даклад можна праслухаць у Youtube https://youtube.com/@binimcanada

*About the author*: David Marples, Distinguished University Professor, Chair, Department of History & Classics, University of Alberta. Honorable President of BINIM, Canada. Well-known scholar in Belarusian issues. Author of such monographs as:

1. Understanding Ukraine and Belarus: A Memoir. Bristol, UK: E-International Relations, 2020, 191 pp.
2. Belarus: From Soviet Rule to Nuclear Catastrophe. Basingstoke, UK: The Macmillan Press in association with St. Martin's Press, New York, 1996. 200 pp.
3. Belarus: A Denationalized Nation. Amsterdam: Harwood Academic Publishers, 1999. 155pp.

*Пра аўтара*: Дэвід Марплз, заслужаны прафесар універсітэта, старшыня кафедры гісторыі і класікі Універсітэта Альберты. Ганаровы прэзідэнт БІНІМ, Канада. Вельмі вядомы вучоны ў беларускай праблематыцы. Аўтар указаных вышэй манаграфій.

**Алесь Сімакоў** (*Гомель, Беларусь*)**: "Беларуска-індзейская кампаратывістыка: найважнейшыя неэтнаграфічныя рубрыкі»**

**Ales Simakou** (*Gomel*, *Belarus*): **"Study of Belarusian-First Nations' Relationship: Most Significant Non-Ethnographic Categories"**



*Пра аўтара*: Алесь Сімакоў: Незалежны даследчык. Цікавіцца гісторыяй і культурай індзейцаў. Аўтар каля 165 тэкстаў, якія надрукаваны або рыхтуюцца да друку ў 10 краінах. Удзельнік (1989-2022) 29 навуковых канферэнцый. Асноўныя працы: агляды жыцця і дзейнасці беларусаў на Алясцы і ў Каліфорніі, манаграфіі па гісторыі беларуска-індзейскіх сувязей, «Беларуска-індзейская бібліяграфія».

*About the author*: Ales Simakou: Independent researcher. Interested in the history and culture of the First Nations in North America. He is the author of about 165 texts that have been published or are being prepared for publication in 10 countries. Participant (1989-2022) of 29 academic conferences. Main works: reviews of the life and activities of Belarusians in Alaska and California, monographs on the history of Belarusian-First Nations' relations, "Belarusian-First Nations' bibliography".

*Анатацыя*. Найважнейшымі ў беларуска-індзейскай кампаратывістыцы (скарочана БІП, "параўнанне") мы лічым агульныя ацэнкі са зближэннем становішча ў галіне захавання традыцыйнай і развіцця сучаснай культуры, мовы. Сярод прыярытэтных катэгорый - адносіны да (не)талерантнасці і іншых важных этнапсіхалагічных рыс беларусаў / індзейцаў і іх суседзяў, да заваявання, заняцця тэрыторый, передачы рэлігійных, адукацыйных норм, спроб сегрэгацыі, запавольвання развіцця (рэзервацыі). Ад С. Буднага і П. Скаргі да Я. Лёсіка, М. Танка, У. Караткевіча і С. Яновіча параўноўваліся практыкі ўздзеяння каланізатараў на абарыгенаў і веданне суседзямі Беларусі – з іх веданнем Амерыкі і індзейцаў. Важнае значэнне мае параўнанне ўніверсальных рыс (фізічная трываласць і ў той жа час абыякавыя, але прагматычныя адносіны да смерці, пасіўнасць, алкагалізм) і сімвалаў і іх спалучэнняў (арол / бусел, бізон / зубр, конь, меч / сякера, крыж – "індзейская" і "канкістадорская" "палітычная" трактоўка). БІП улічвае драматычнае і незваротнае "выміранне" многіх моў, племянных інстытутаў і традыцыйных каштоўнасцей ва ўмовах глабалізацыі і тэхнакратычнага супрацьстаяння ў свеце, часам "заклікае" да эскапізму. БІП – надзвычай папулярны метад: намі зафіксаваны тысячы асобных выпадкаў у друкаваных крыніцах (нашы неапублікаваныя тэксты, а таксама перапіска даюць параўнальна няшмат прыкладаў, але мы часткова ўлічваем і іх, як і "эксклюзіў" інтэрнэт-аўтараў).

У гэтым аглядзе мы не разглядаем параўнанні традыцыйнай і сучаснай культуры (якія не носяць палітычнага і сацыяльна-значнага характару), вызначаючы групу катэгорый або рубрык, узятых для аналізу, як неэтнаграфічныя. Але варта заўважыць, што яны часта пераплятаюцца з паняццямі, якія больш звязаныя з сацыяльна-эканамічнымі і сацыяльна-палітычнымі адносінамі больш уніфікаваных і глабалізаваных форм. (Параўнанні па этнакультурнай канкрэтыцы – вялікая катэгорыя, якая можа разглядацца асобна як адна з дзвюх вялікіх частак БІП – супастаўляльная па колькасці з "неэтнаграфічнымі" параўнаннямі.)

Прыкладам "мазаікі параўнанняў" можа служыць наступнае, якое аб'ядноўвае "этнаграфічны" і "неэтнаграфічны" элементы і адразу некалькі народаў: Я. Сіпакоў у нататках "Узятак з маўчання" (1989): "Аргенцінцы жартуюць: ‘Мексіканцы пайшлі ад ацтэкаў, перуанцы – ад інкаў, мы ж – ад караблёў. / А ад чаго пайшлі беларусы? Відаць, беларусы ўзяліся ад зямлі, а дакладней – ад любові да плуга і раллі". "Лёс беларускай **мовы**. Аб'яднацца з гэтымі, раз'яднацца з тымі. Узяцца за гэта, паспрабаваць тое. Адкрыць адну школу, адзін клас, а то і зусім паўкласа з беларускай мовай навучання – як для індзейцаў якой-небудзь **рэзервацыі**".

А вось матыў, які зноў падхопліваюць у афіцыйным друку Беларусі, па зразумелых прычынах, толькі пасля перабудовы, прычым А. Петрашкевіч распаўсюдзіў культываванне пэўных стэрэатыпаў і на савецкую эпоху: "Праўда, расейская, а затым і агульнасавецкая навука з прапагандаю дзесяцігоддзямі будуць сцвярджаць пасля, што Беларусь спрадвеку была краем гэткіх **іракезаў**-папуасаў ды непалоханых ідыётаў" (1994).

Нашай мэтай з'яўляецца агульны, але выбарачны агляд ключавых рэалій Беларусі на працягу стагоддзяў, якія падаюцца праз БІП. Закранаем некаторыя характэрныя паралелі, якія нараджаліся з сярэднявечча, але не маем магчымасці зрабіць падрабязны пералік савецкай і постсавецкай БІП. Апошняя цесна звязаная з контрпрапагандай – і яна сапраўды была ў многім валіднай з савецкага боку, калі не ўлічваць рэальны дзяржаўна-палітычны "**генацыд**" інтэлігенцыі народаў СССР. Пасля рэвалюцыі, пасля вайны, часткова ў "адлігу" і "застойныя" гады, у перабудову і некаторы час пасля перабудовы адзначаны непрацяглыя перыяды вялікага аптымізму і энтузіязму ў комплексе з больш разняволенай, смелай кампаратывістыкай, арыентаванай на пераадоленне хібаў.

Гістарыяграфічнае значэнне мае невялікая колькасць неапублікаваных ранніх нататак на БІП у архіве Беларуска-індзейскага таварыства (БІТ). Першыя з іх рыхтаваліся як рэакцыя на першыя беларускамоўныя знаёмствы аўтара – А. Бяляцкі, А. Сыс, С. Дубавец і іншыя даволі скептычна азнаёміліся з тэзісамі. Найбольш ранні – тэкст "Народ без культуры, як пясок на вятру [так!]… ‘Беларусы і індзейцы

(некалькі параўнанняў)" (у загалоўку гучаў матыў, які ўзяты з загалоўка артыкула ў "Вокруг света" – выказванне паводле індзейцаў) адносіцца да ідэятворчасці 1985-1986 гг.; рыхтаваўся, каб прадставіць погляды на сувязі паміж індзейскай і беларускай "справамі" Бяляцкаму, Сысу (найбольш выразны ўспамін – пра павярхоўную, насмешлівую рэакцыю апошняга – не па сутнасці, а па няўмелай мове); тэкст пісаўся ў Мінску і паказваўся ў інтэрнаце АН БССР; гэта не скразны чытэльны тэкст, а ўрыўкі думак на 15 старонках, на некаторых з якіх толькі невялікія фрагменты.

На стар. 6: "Найбольш цікавыя параўнанні можна зрабіць паміж такімі паралельнымі з'явамі як: 1. нацыянальнае самаўяўленне, свядомасць і этнапсіхалогія (уключаючы адносіны да культуры і мовы ўласнага народа); 2. міжнацыянальныя адносіны; 3. палітыка цэнтральнага і мясцовага ўрада ў адносінах да мовы і культуры; 4. білінгвізм, уключаючы адукацыйнае двухмоўе; 4. культурная асіміляцыя (акультурацыя); 4.1. дэмаралізуючае ўздзеянне з'яў (гвалтоўнай) асіміляцыі; 5[.1]. перасяленне моладзі з вёскі (рэзервацый) у горад; 5[.2]. традыцыйная культура ў сучасных умовах; 5[.3]. нацыянальныя грамадскія арганізацыі; 5[.4]. навуковыя цэнтры і іх дзейнасць па комплекснаму вывучэнню беларусаў і індзейцаў". "Мадэліраванне развіцця" павінна было з'явіцца як "(замест пасляслоўя)" у канцы тэксту.

Тэкст на шасці старонках "Індзейцы і Беларусь", у якім былі два важныя кампаратывістычныя моманты (абодва адносіліся да аспектаў місіянерскай дзейнасці езуітаў і ўвогуле католікаў), рыхтаваўся спецыяльна для Дубаўца, які пакінуў свае крытычна-скептычныя маргіналіі на машынапісе, у т.л. і агульную ацэнку, дапісаную пасля загалоўка: "(публіцыстычны блеф)".

Пра П. Скаргу: "Натхніцель [натхняльнік] і арганізатар абарочвання беларусаў і іншых народаў княства ў каталіцтва называў гэтую зямлю "Сапраўднай Паўночнай Індыяй", маючы на ўвазе перспектывы як у **каталіцызацыі**, так і ў **эксплуатацыі** гэтага краю польскімі "**канкістадорамі**". Гэты матыў вельмі часты ў гісторыі адносін паміж Польшчай і Беларуссю, а таксама Расіяй, прычым з польскага боку былі і прыхільнікі **каланіяльнай экспансіі** на ўсход, і яе праціўнікі, якія спасылаліся на "індзейскі аргумент"(с. 2).

Другі фрагмент тычыцца "айцоў-**езуітаў**, якія (і сапраўды) вельмі ўдала ўладкаваліся і на Беларусі, знайшоўшы месца, дзе можна было з такім жа поспехам, і нават большым, кантраляваць мясцовае насельніцтва, як і ў Парагваі або на Поўначы Мексікі. Беларусы былі не такія "ваяўнічыя" і свабодалюбівыя... У гэтым маглі спраўдзіцца і **езуіты**, што прыбылі ў Полацкую правінцыю ордэна пасля забароны яго ў Амерыцы" (с. 2-3).

Гісторыя або гістарыяграфія БІП уключае таксама даклад на І Заслаўскіх чытаннях Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства (13-14.05.1989); тэзісы апублікаваны ў 1990 г., а ўвесь тэкст (па машынапісе на 8 с. у архіве БІТ, раздзел "5. Кампаратывістыка") – у электронным часопісе "Культура. Нацыя" – у 2021 г.

Больш позняя група тэкстаў – пры падрыхтоўцы (1987-1988 гг.) устаноўчага з'езда Беларуска-індзейскага таварыства (БІТ). Яшчэ пазней уласныя, самастойныя назіранні мы амаль спынілі, арыентуючыся ў асноўным на БІП іншых. Аднак многія нашы артыкулы маюць кампаратывістычныя элементы, а некаторыя цалкам прысвечаны праблемам, якія разглядаюцца найперш праз кампаратывістыку (рэзервацыі, вайна, сімволіка, алкаголь, скаўтызм). Часам самі загалоўкі сведчаць, што тэма артыкулаў – БІП (гл. спіс у канцы).

Наш уласны кампаратывістычны прадукт даволі сціплы – сваёй задачай лічым галоўным чынам назіранне за параўнаннямі ў друку і інтэрнэце. Рыхтуючы гэта паведамленне, мы робім спробу сістэматызаваць БІП у нашай уласнай перапісцы за 1978-2022 гг., падлічыўшы частотнасць ключавых слоў. Перапіска носіць у асноўным характар руцінных запытаў, якія не звязаны з публіцыстыкай, але ўсё ж абмеркаванні такога роду адбыліся з карэспандэнтамі неіндзейскага і індзейскага паходжання С. Яновічам, Г. Энгелькінг, А. Мальдзісам, Я. Парэцкім, Т. Хвагінай, Б. Глябовічам, ВаБун-Ініні (В. Белекуртам), Л. Бурхансціпанаў, В. Цілер, Д. Велардэ, Дж. Беры, Р. Данбар-Ортыс, Х. Луз, Д. Чырко, Б. Джохансенам, А. Зюлкоўскай-Боэм, Дж. Калмакоф і іншымі. Д. Марплс у адказ на наша пытанне паведаміў (22.06.2004): "No, I never compared Belarusians and Indians", але гэтым быў створаны яго файл з патэнцыяльнай БІП, улічваючы яго жыхарства ў адной правінцыі з любіконамі, напрыклад. З боку індзейцаў па іх ініцыятыве тэма БІП амаль не гучыць, але К. Рыд (Су-Сент-Мары, Канада), Б. Каваш і некаторыя іншыя закраналі яе або набліжаліся да яе, стымуляваныя нашымі кантактамі з імі. Выглядае, што індзейцы мала цікавяцца гэтым. Дж. Форбс (Forbes), які аб'явіў пра свае індзейскія карані, заўважыў нашу актыўнасць у індзейскім друку, і яму належыць артыкул "Native Nations in the United Nations" са згадкай Беларусі, які з'явіўся ў некалькіх індзейскіх выданнях: Yakama Nation Review. 1998. March 27. P. 8; News From Indian Country. 1998. Mid-May, XII (9), P. 15A; Eyapaha. 1998. June-Aug. P. 8; Micmac-Maliseet Nations News. 1998. Aug. P. 22). У лепшым выпадку яны спасылаюцца на сваю некампетэнтнасць, але яўна вагаюцца прымаць тэзісы з "А хто там ідзе?" як свае нацыянальныя (носьбіт мовы кечуа, перуанец у ЗША, паставіцца да прапановы перакласці верш з вялікай перасцярогай, ведаючы гісторыю сваёй краіну і акадэмічныя парадкі ў ЗША).

Найбольшы ўклад у неэтнаграфічную кампаратывістыку ўнеслі С. Яновіч, М. Танк, У. Караткевіч; шырэй, чым беларускія, параўнанні рабілі У. Спасовіч, А. Адамовіч (больш агульнарасійскія або агульнасавецкія, чым беларускія). У перапісцы найбольш эмацыянальна акцэнтаваў увагу на БІП М. Купрэеў (Пружанскі раён) –

гэта тычылася яго паэзіі, выключна шчырыя заявы ў паэзіі зрабілі Л. Геніюш, Р. Барадулін, К. Шэрман.

Найважнейшыя параўнанні для нас – тыя, што адказваюць на пытанні пра важныя бакі жыцця беларускага народа. Іх шматразовы паўтор аўтарамі – найлепшы доказ таго, што яны не з'яўляюцца "выпадковымі". Але многія з іх мы адносім да менш важных – напрыклад, параўнанні знешнасці і некаторыя выпадковыя параўнанні, што звязваюцца з рысамі, звычаямі індзейцаў (выпадкі са скальпаваннем у Калінкавіцкім раёне або канібалізмам у Беларусі, напад на сястру з сякерай, пры якім брат параўноўваецца з індзейцам у вестэрне (экранізацыя твора Я. Купалы) і інш.).

Найбольшая колькасць – і найбольш цікавыя, палемічна асэнсаваныя і мэтанакіраваныя параўнанні, якія спрыяюць прапагандзе, – імкненне да незалежнасці, суверэнітэту, самастойнасці ў розных галінах; выміранне (магікане), заваяванне (канкіста, Дзікі Захад), партызанская вайна, увогуле супраціўленне, пэўныя ваенныя праявы і структуры – форт, тамагаўк і іншае, што адносяцца да тыпаў гвалту і абароны, вядзення вайны; паўстанні (асабліва "польскія" паўстанні) і анексія ў сувязі з імі (ацэнка бакоў), да блоку з анексіяй далучаюцца "добраахвотныя далучэнні"; місіянерства – міжканфесійная палеміка і крытыка рэлігіі атэістамі; параўнанні з мовай – распаўсюджванне двухмоўя і г.д.; параўнанні з рэзервацыямі, сабраныя і вывучаныя намі, апублікаваны, але колькасць іх надзвычай вялікая і працягвае павялічвацца; у палітыцы: "добры індзеец – мёртвы індзеец", "шмат правадыроў – мала індзейцаў"; жорсткасць; алкагалізм.

Практыка апелявання да індзейцаў пісьменнікамі і публіцыстамі ў разважаннях пра паходжанне, гістарычны лёс і будучыню народа пачалася "пасля **адкрыцця Амерыкі**", і з дапамогай адной толькі БІП можна напісаць цэлы том "Гісторыі Беларусі" або адной толькі "Гісторыі беларускай дзяржаўнасці".

С. Яновіч, які наведаў **рэзервацыю** чыпева (аджыбвэ) у Канадзе, паглядзеў на яе жыхароў з пункту гледжання жыхара сваёй польскай "сярмяжнай дзяржавы", таксама як і А. Адамовіч – у Канадзе ж – савецкай дзяржавы.

"Беларусы і індзейцы ці мала ў чым аналагічныя? Зведаным **паніжэннем, бязвыйсцем голаду, бяссільнасцю перад рабункамі і пагалоўнымі забойствамі, пазбаўленнем годнасці, безабароннасцю асабістага гонару, бацькаўшчыны**... Слабыя ўсюды падобныя". Падобным Яновічу паказалася і тое, як "чыпевы" пераключаюцца на англійскую мову, калі да іх падыходзіць чужы.

У паралель гэтаму выказваліся амерыканскія этнографы-антраполагі: "Эканамічныя і палітычныя адносіны з эксплуататарскімі еўраамерыканскімі сістэмамі прывялі індзейцаў да **адсталасці**, якая садзейнічала далейшаму **распаду ўнутраных сацыяльных і псіхалагічных адносін**. Вось чаму ў чыпева і іх суродзічаў часам

выяўляліся такія рысы, як **апатыя, падаўленне творчых здольнасцей**. У гэтым у іх ёсць большае ці меншае падабенства з некаторымі **каланіяльнымі народамі** ў іншых раёнах свету, якія па гістарычных прычынах былі няздольныя адстаяць сваё **самавызначэнне**".

У цязе параўноўваць беларусаў з **іракезамі** або **батакудамі** здзіўляе, што выказаліся вельмі многія: да рэвалюцыі і хутка пасля яе – Лёсік і Раманаў. Ідэі БІП накопліваліся стагоддзямі – і гэтая дэталізаваная дынаміка таксама для асобнай размовы.

**1492 Экспансія, заваяванне**

Паралелі паміж Беларуссю перыяду Вялікага княства Літоўскага і індзейскай Амерыкай паслякалумбаўскай эпохі неадназначныя. З аднаго боку беларусы, якія паспелі стаць "**абарыгенамі**" сваёй краіны, вымушаны былі абараняцца супраць варожай **экспансіі** суседзяў і прышэльцаў з больш аддаленых тэрыторый, цярпець усе вынікі **каланіяльнага стану краіны**, з другога – удзельнічаць у стварэнні **экспансіяністкай дзяржавы** (ВКЛ) і весці двухсэнсавыя войны **супраць суседніх народаў**. Тэрыторыі, далучаныя да Княства за некалькі стагоддзяў, калі Расія і Польшча былі ў цяжкім становішчы і не маглі дазволіць сабе **экспансіяністкую палітыку**, былі занадта вялікія, як і праблемы, якія ўзнікалі на іх.

Найбольш вядомыя кнігі пра Беларусь, створаныя яе ўраджэнцамі на розных мовах, маюць і ў назвах, і ў змесце нешта блізкае да індзейскіх рэалій. Таму зусім зразумелымі былі б цікавасць і асацыяцыя сучасных адукаваных індзейцаў, калі б яны чыталі "Песню пра **зубра**" Гусоўскага або "Пана Тадэвуша, або Апошні **наезд** у Літве" А. Міцкевіча. У першым выпадку відавочна тое, што адзіны ў Еўропе эпічны твор, прысвечаны еўрапейскаму бізону, звязвае эмацыянальна беларусаў з карэннымі жыхарамі Вялікіх раўнін, у жыцці якіх такое вялікае месца займаў **бізон**. "Шляхецкая гісторыя" збліжае беларусаў і індзейцаў тыповай формай вядзення баявых дзеянняў на "**памежжы**".

Элементы БІП знаходзіцца ў складанай сувязі паміж сабой і фонавым матэрыялам, цяжка арганізаваць яе – найлягчэй гэта зрабіць згрупаваўшы па храналогіі і вузлавых падзеях – такія як анексіі і паўстанні. Напрыклад, параўнанні закранаюць усе тры "польскія" **паўстанні**, якія важныя пры храналагічным дзяленні матэрыялу.

**1576 Заваяванне**

Першы прыклад палемікі, набліжанай да індзейцаў, у друку Беларусі – С. Будны (1576, Лоск) пра езуітаў сярод іншых місіянераў, якія "ўзяліся" за Амерыку.

Безумоўна, ордэн езуітаў быў дапаможным інстытутам як у **заваяванні** Амерыкі, так і ў "**заваяванні**" Беларусі.

Як беларусы, так і іх суседзі мелі немалую "індзейскую" кампаратывістыку, у якой пераважала жаданне не быць індзейцамі, г.зн. не быць ахвярамі, але гучала і сімпатыя да індзейцаў, "жаданне быць індзейцамі" як прывабным сімвалам, са сваёй адметнай культурай і імкненнем на свабоды.

Матывы **заваявання** або **мірнага далучэння**, якія знаходзяцца ў палемічных адносінах паміж сабой, сустракаем у творах многіх аўтараў польскай і рускай арыентацый, такіх як Г. Калантай і І. Сакольскі. Як адзначае Я. Тазбір, "Шмат хто з іх ставіў знак роўнасці паміж "загончыкамі" А. Лісоўскага і таварышамі Картэса". З. Красінскі лічыў іх "польскімі **канкістадорамі**". **Грабежніцтва** і **жорсткасць** лісоўчыкаў у адносінах да сваіх жа землякоў асуджаў арыянін А. Карманоўскі словамі: "Не ў Індыях, не ў краях заморскіх народжаны, ні ў лесе са звярамі, хоць лісамі празваныя". Тут жа дадаецца яшчэ і рэлігійны кампанент (**супрацьстаянне праваслаўя і каталіцтва**).

"Індзейскі аргумент" пачалі выкарыстоўваць польскія патрыёты, сярод якіх былі і беларусы па паходжанні, у сувязі з пагрозай з боку немцаў, якія імкнуліся **каланізаваць** і **анямечыць** частку Польшчы, асабліва разлічваючы на нямецкую адукацыю для "польскага мужыка". Вымушаныя пісаць пад цэнзурай або самацэнзурай, такія аўтары, як У. Спасовіч, могуць параўноўваць палякаў з індзейцамі, але як ахвяр, напрыклад, нямецкіх "**белых**", а не рускіх.

**1793 "Заваяванне і гасціннасць"**

Ф. Булгарыну вясной 1795 г., калі ён у маёнтку Маковішча Бабруйскага павета сутыкнуўся з рускімі, было каля 16 гадоў. Капітан Паліцын вельмі галантна і клапатліва паставіўся да яго сям'і. Пасля ўсмешак і пацалункаў, капітан сказаў Фадзею: "Я, дружа, толькі тады забіваю, калі на мяне нападаюць, і абараняю тых, каму патрэбна мая дапамога". "Тады так баяліся Рускіх, што матуля мая не верыла, каб капітан быў прыродны Рускі, і сказала: "На шчасце наша, гэта альбо Паляк, альбо Ліфляндзец, альбо Курляндзец!" Зрэшты, Капітан Паліцын вельмі нядрэнна размаўляў па-польску; ён правёў доўгі час у Польшчы, і як пасля казаў, меў шчырых прыяцеляў паміж палякамі. Яшчэ б такому чалавеку не мець прыяцеляў! Ды ён знайшоў бы іх і паміж іракойцамі [**іракезамі**]".

Цікава ў гэтай сувязі прывесці характарыстыку Булгарыным тых, сярод каго знаходзіў сяброў капітан Паліцын: "У Варшаве і Вільні была вытанчанасць Парыжа, а ў правінцыях, асабліва ў Літве і на Украіне панавалі фанатызм сярэдніх вякоў,

свавольства Арабскіх стэпаў, **п'янства** і **ненажэрнасць дзікуноў** Амерыкі. Тут было ў поўным сэнсе: хто каго змога, той таго ў рогі!"

**1831 Паланізацыя і русіфікацыя**

Ф. Урангель у дзённіку падарожжа з Сіткі ў Санкт-Пецярбург праз Мексіку (1836) не мог не згадаць тэхаскія падзеі (Тэхаская вайна, Тэхаская "народная" рэспубліка і яе **далучэнне** да ЗША), прыйшоўшы да высновы, што "ўсе ж такі, праблема Тэхаса для Мексікі зусім такая ж, як польскае пытанне для Расіі, таму што Тэхас і Мексіка дыяметральна процілеглыя". Не так проста зразумець гэтыя адрозненні – магчыма, Урангель меў на ўвазе і тое, што Беларусь – калісьці частка Рэчы Паспалітай – дыяметральна процілеглая Польшчы.

Падобны погляд знайшоў адбітак у разважаннях пра рэлігію "паўночнаамерыканцаў" вядомага падарожніка па Рускай Амерыцы Л. Загоскіна: "Немагчыма патрабаваць, каб дзікун адразу зразумеў усю высокасць шанавання праўдзівага бога; немагчыма патрабаваць, каб з першай пропаведдзю слова божага ён пакінуў усе свае забабоны, вераванні, звычаі, неўласцівыя з духам хрысціянства, але любіць бога і дзікун можа. Русь пры святым Уладзіміры, канешне, не была гэтак жа цвёрдая ў веры ў Хрыста, як у 1812 годзе, калі айцы нашы грудзьмі адстойвалі прастолы божыя і айчыну або калі каталіцтва цяжка налягло на верныя праваслаўю Маларосію і Беларусь!.." ("Пешаходны вопіс рускіх уладанняў у Амерыцы, зроблены лейтэнантам Лаўрэнціем Загоскіным у 1842, 1843 і 1844 гг.").

**1861 Паўторнае "адкрыццё" і "заваяванне"**

Нягледзячы на скасаванне уніі, разнастайнасць культурных і грамадскіх праяў, але галоўнае – народная "архаіка" заставаліся нязвыклымі для свежага вока расіяніна. У выніку наступных даследаванняў выявілася, што самабытнасць беларусаў большая, чым чакалася "рускімі адкрывальнікамі Амерыкі" ў Беларусі, і звязаная яна ў першую чаргу з захаванасцю архаічных звычаяў, асабліва дагістарычных вераванняў і абраднасці. Менавіта на прыкладзе рэлігіі этнаграфія, якая перажывае ў гэты час перыяд станаўлення, дзякуючы назапашванню ведаў як пра еўрапейскія, так і нееўрапейскія народы, дае падставы сцвярджаць: “беларус 60-х гадоў, як яго дняпроўскі продак VIII-IX стагоддзя, і як любы дзікун паўднёвых краін, хаваў з нябожчыкам прылады яго рамяства, прыносіў духам мёртвых ахвяры, прыбіраў бярозку, служыў святым камням і тысячам духаў", – пісаў М. М. Нікольскі.

У 60-я гады на заходніх межах успыхнула "польскае паўстанне", а ад Рускай Амерыкі вырашана было добраахвотна адмовіцца, верагодна, з-за пэўнай "нерэнтабельнасці", бесперспектыўнасці гэтай калоніі.

Пра выміранне палякаў – у Спасовіча, які быў выхаваны ў польскай традыцыі, але служыў у цэлым Расіі. Звяртае ўвагу наступнае месца, поўнае сарказму, у творы рускага і польскага публіцыста Спасовіча: "Мужык, праўда, анямечыцца, але не памрэ, як выміраюць чырванаскурыя: у чым жа бяда, калі ён увасобіцца ў культурна-вышэйшую нацыянальнасць?" "Немцам зручней каланізаваць Царства Польскае, чым Злучаныя Штаты. [...] Пачнецца барацьба ўпартая за існаванне, але без бачнага насілля, у межах законнасці і пры ўмовах фармальнага раўнапраўя, барацьба халодная, бясстрасная, сістэматычная, праз што нас, славян заходніх, чакае ад немцаў лёс чырванаскурых у Амерыцы".

Магчыма, на Спасовіча паўплывала тое, што аналогію "палякі-індзейцы" выкарысталі эзопавай мовай у гэтым жа кантэксце іншыя аўтары, напрыклад, Ц. Норвід і Г. Сянкевіч. Польскі публіцыст украінскага паходжання Л. Павідай напісаў эсэ “Палякі і індзейцы”. Пасля з'яўлення яго ў львоўскім "Дзённіку літэрацкім" у 1864 г. распачалася "ажыўленая дыскусія" (Я. Тазбір). Норвід у вершы “Праца” не згадзіўся з падыходам Л. Павідая, а Г. Сянкевіч у апавяданні “Сахем” недвухсэнсоўна асудзіў нямецкую **экспансію**. Увогуле ж "**іракезамі**" лічыў мясцовае насельніцтва Прусіі яшчэ Фрыдрых Вялікі, а "недабіткаў тых **іракезаў**, якія ўпіраюцца насіць арліныя пер'я", сустракаў там паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі М. Ванькoвіч.

У 1863-1864 гг. на тэрыторыі Беларусі паўстанцы вялі партызанскую вайну супраць царскіх войскаў; у ЗША разгортваўся "заходні фронт" індзейскага супраціўлення. Па глыбінным жа значэнні гэта нагадвае "змаганне паміж палякамі і рускімі" за "карэнныя беларускія землі".

У цэлым 60-я гады неслі прадчуванне змен. Аграрная рэформа, вызваленне сялян, "польскае" паўстанне нарадзілі "хваляванне ў народзе", ва ўсіх яго слаях, у прадстаўнікоў розных этнічных груп, што адлюстравалася і ў БІП.

З аднаго боку былі своеасаблівыя, так зразуметыя "прагрэсіўнымі" людзьмі "апошнія з магікан" эпохі прыгонніцтва, з другой – "Калумбы", "адкрывальнікі Амерыкі". Хаця ў такіх іх трактоўках спрэчнымі з'яўляюцца самі вобразы, якія паўставалі з выразаў "магікане" і "Калумбы", яны адлюстроўвалі рэальныя змены ў грамадскім жыцці.

У "скарыназнаўчай" кнізе "Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI – пачатку XX стст." (1989), А. Каўка "канкістадорамі з Санкт-Пецярбурга" называе тых, хто ў часы Мураўёва праводзіў праграму русіфікацыі –

замест "выкінутай" польскай "цывілізацыі". "Панаванне на беларускіх землях графа М. М. Мураўёва-вешальніка, галоўнага выканаўцы праграмы "русского дѣла", наглядна паказала, чым наважыліся канкістадоры з Санкт-Пецярбурга "запаўняць" беларускія абшары". Жонка В. Дуніна-Марцінкевіча ў звароце да прадстаўніка ўладаў дакарала іх у абыходжанні з іх дачкой горшым, чым у дзікіх гуронаў.

"Індзейскі аргумент" у сувязі з паўстаннем выкарыстаў і рускі бок. Паколькі паўстанне "паказала, што ў гэтых раёнах была значная колькасць асоб, якія спрабавалі шляхам узброенай барацьбы далучыць іх да Польшчы", а яго кіраўнікі "разгарнулі як у раёне паўстання, так і за граніцай энергічную прапаганду з доказам, што Польшча, Літва і Русь ... уяўляюць сабой адзінае цэлае і як такое павінны быць аб'яднаны ў адной (Польскай) дзяржаве. Рускі ўрад пры дапамозе Археаграфічнай камісіі пастараўся адказаць на гэта контрінфармацыяй, для чаго і быў выдадзены зборнік, усе дакументы якога, а таксама і прадмова, надрукаваны на мове арыгінала і ў перакладзе на французскую" (1865). (Такім чынам, зборнік "Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходне-Рускага краю і яго адносіны да Расіі і да Польшчы", рэдактарам і аўтарам прадмовы якога быў М. В. Каяловіч, "рускі гісторык" родам з Беласточчыны, мусіў "даказаць, што "Заходне-Рускі край" быў рускім, а не польскім, выданне падобнага роду спатрэбілася для чытача замежнага".)

"Ніколі падарожжа гасудара або дзяржаўнага чалавека ў якой-небудзь краіне і ў якую-небудзь эпоху не мела, мабыць, такіх велізарных вынікаў, як гэтая нядоўгая паездка некалькіх людзей" - "з паўэскадронам уланаў і паўсотняй казакоў", цытуе У. Спасовіч і працягвае праз некалькі старонак: "На паверхні цішыня ды спакой, а што пад імі адбываецца, тое вядома да таго мала, што патрабавала б новых разведак, новай экспедыцыі з мэтай адкрываць Амерыку, як у 1863 годзе, на якім і абрываюцца весткі аб унутраным стане краіны".

Беларусы і індзейцы яшчэ паспелі выступіць як народы адной краіны ў зводнай працы па этнаграфіі, складзенай членам рускага геаграфічнага таварыства Т. дэ Паулі (1862); гэтыя грунтоўныя нарысы з ілюстрацыямі і картай былі выдадзены на французскай мове. У змесце беларусы і ўкраінцы "схаваныя" ў "рускіх", а індзейцы (побач з алеутамі і эскімосамі – дэнаіна (кенайцы), тлінкіты (колашы, колюжы) і нават – як асобная адзінка – угаленцы – раздзел "Народы Рускай Амерыкі") "дэталізаваныя". Маларосы і "рускія Белай Русі" ўсё ж прысутнічаюць як раздзелы і падзяляюцца на сапраўдных і русінаў ("настоящие белорусы" і "россы", або русіны). Кніга была разлічаная, верагодна, толькі на замежнага чытача, і ў Расіі "яе ведалі мала".

Руская Амерыка мела своеасаблівы статус і называлася "калоніямі", але яна была часткай Расійскай імперыі, і ў 1867 г. пасля продажу Аляскі, гэты крытэрый, які аб'ядноўваў беларусаў і індзейцаў, перастаў мець значэнне: рускія "мирно ушли,

ушли с дружелюбием", як сказаў ураджэнцу Гомеля Л. Каравіну (кніга 1990 г.) індзеец Э. Савіла. Што тычыцца палякаў, то іх роля ў Беларусі ўвесь час заставалася дваістай: яны працягвалі быць актыўнай часткай "усходняга франціра" і не збіраліся "мірна пайсці".

**1867 Граница – kresy – frontier**

Адзін з ключавых у амерыканскай гісторыі і гістарыяграфіі тэрмінаў – менавіта франціp (frontier). Ужываецца і ў англамоўнай славістычнай літаратуры ў адносінах да ўсходнееўрапейскай сітуацыі з этнічнымі і палітычнымі межамі, хаця франціp як мяжа, якая рухаецца, не зусім адпавядае беларускім рэаліям, а лепш характарызуе польскую экспансію на Украіне і каланізацыю яе самімі ўкраінскімі казакамі.

У польскай літаратуры тэрмін "крэсы" ўжываецца і для амерыканскага франціра, і для "польскай" мяжы ў Беларусі.

З улікам паняццяў "карэннасці" і "крэсовасці" патрабуюць удакладнення марксісцкія і паслясавецкія ацэнкі ўдзелу беларусаў у паўстаннях, якія ахапілі "крэсы", як нацыянальна-вызваленчай барацьбы (і беларускага народа).

З сярэдзіны стагоддзя ўплывы Польшчы і Расіі ўраўноўваюцца. Як для рускіх, так і для палякаў у роўнай ступені гаворка можа ісці пра "франціp" – крэсы і паўночна-заходні край (ёсць сучасны "аналаг": Northwest Territories – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Канадзе).

Знакамітая Брэсцкая крэпасць, якая будавалася ў 1830-1842 гг., з'яўлялася чымсьці падобным на буйное ўмацаванне дзе-небудзь на амерыкана-мексіканскім пагранiччы (форт, прэсідыа): яна выконвала тую ж ролю на акупіраванай тэрыторыі. Дадатковыя паясы фартоў прыбудаваліся да цытадэлі ў пазнейшы перыяд, перад Першай сусветнай вайной.

Тэрмінам "карэнныя расы" (Native races) абазначаліся абарыгены Амерыкі і іншых кантынентаў, але "расы" – было, як і ў выпадку з рускім "племенем", не сціслa антрапалагічным тэрмінам, слова ўжывалася ў больш шырокім сэнсе. Такім чынам, станавіліся магчымымі назвы кніг Р. Г. Лэтэма "Карэнныя расы Расійскай імперыі" (Лондан, 1954) і Х. Х. Бэнкрафта "Карэнныя расы ціхаакіянскіх штатаў Паўночнай Амерыкі" (Нью-Ёрк, 1875).

Ва ўмовах лібералізацыі пад уплывам першай рускай рэвалюцыі, абуджэння нацыянальнай свядомасці, але недастатковай свабоды і адукаванасці народа, недахопу эканамічных магчымасцей, а таму і шырокіх эміграцыйных настрояў, мог з'явіцца наступны "індзейскі аргумент":

"Цяпер мяне спытаюцца, – пісаў з Гродна ў "Нашу Ніву" нейкі Дзед Міхась, – што трэба зрабіць, каб наш беларус быў чалавекам, каб ён умеў шанаваць сябе, свае дабро і каб з усяго ўмеў разумна карыстаць. На гэта я скажу вось што: навука. У навуцы ўся сіла. Яна дае багацтва, самапазнанне. Наш край ні так бедзен, каб мы за марамі ў чужой старане шукалі шчасця. Калісьці-ка тамтэйшыя амэрыканцы былі бедныя, пакуль не прыехалі да іх вучоныя эўрапэйцы і не аткрылі багацтва. У нас есці-ка не мала багацтва, але німа навукі, грамадзянскай свядомасці, ініцьятывы, без чаго ўсё спіць" (Наша Ніва. 1913. 26 крас.).

**1917 "Інкі", "іракезы" і "батакуды"**

Паводле Е. Раманава па ўражаннях у канцы грамадзянскай вайны, "вавілонскае стоўпатварэнне" несла гібель усяму беларускаму: "ад былой беларускай мовы засталіся адны шматкі", і ёй стаў пагражаць лёс "мовы старажытных інкаў ці сучасных іракезаў", "народная славеснасць таксама замерла, калі не памерла, песня пайшла ў казарму і азвярэла, казку замарыў голад, духоўны верш лічыцца злачынствам".

У Я. Лёсіка – асабліва дзіўная прывязанасць да параўнання з батакудамі, якое ён, з вялікай верагоднасцю, пазычыў з паэмы "Батакуды" (1884) І. Франко. Батакуды ў кампаратывістычным гучанні з'яўляюцца не менш чым у трох яго артыкулах. Цытуем цэлымі абзацамі.

"Украінска-беларуская вечарынка ў Сібіры" (1913): "Трэ сказаць агульна, што беларускія рэчы ўсіх вельмі зацікавілі і слухаліся з вялікай ахвотай. Усё гэта было першынкай, навінкай; мала хто чуў нашу мову, а што беларусы маюць сваю літаратуру, дык гэта даведаліся мо першы раз зроду. Ці мала было тут людзей і досыць асвечаных, але аб беларусах, як гэта вядзецца, мала хто ведаў; лёс батакудаў або гаттэнтотаў больш іх цікавіў, чым жыццё людзей, каторыя жывуць з імі поплеч. Гэтак ужо заўсёды, калі што пастаянна стаіць перад вачыма, дык робіцца звычайным, нецікавым і здаецца ўцямным. Шмат шкоды нарабляе школа, праводзячы погляд на беларусаў, як на «искони русских людей». Адзін расеец казаў, што ён запраўды думаў, што ўся розніца паміж намі ў тым і тоўпіцца, што жывём мы ў асобных месцах, быццам у розных губернях. Кожны, ведама, чытаў і ў школе вучыўся, што Беларусь - гэта нядаўна забраны край, ніколі раней да Масквы не належаў, а значыцца, меў іншую гісторыю і іншыя варункі жыцця, але ніхто на гэтым не спыняўся і не пакладаў увагі. Цікава, што нашу мову блытаюць з украінскаю, і адзін пан з Расеі памылкова лічыў ды другім казаў, што «Тарас на Парнасе» – украінскі твор. (Дарэчы сказаць: гэты пан прызнаваўся, што ён «аж спацеў», покі перачытаў два лісцікі «Гісторыі Беларусі» Власта. Які ж цяжар трэ здзержыць беларускім дзецям, каб навучыцца граматы па-расейску?!)"

"Вялікі дзень на Украіне" (1917): "Цэнтральны петраградскі Урад не згадзіўся здаволіць справядлівых жаданняў, ён адмовіўся прыйсці на дапамогу ўкраінскаму народу, пасуліўшы абяцанку праз Устаноўчы Сойм. Тады і толькі тады Цэнтральная Украінская Рада мусіла ўзяць справу адбудавання свайго жыцця ў свае ўласныя рукі. Польшчы і Фінляндыі можна ўсё даць і зрабіць без парады з Устаноўчым Соймам, але што можна і па часе для іх, тое не можна і не на часе для Украіны і Беларусі. Ён усё чакаў, усё спадзяваўся, вось «приедет барин – барин нас рассудит». Урад, бачыш, лічыцца «только с фактами», пацяшаючы сябе ў душы, што народ цёмны і несвядомы – самадзяржавіе аб гэтым парупілася – і, напэўна, выкажацца за мову й культуру расійскую. Але памыліўся. І многа неспадзёвак яшчэ чакаюць расійскую інтэлігенцыю. Бо да гэтага часу яна больш цікавілася батакудамі, як сваімі суседзямі, і ў гэтым сэнсе была адной думкі з ... самадзяржавіем".

"Пара звярнуць увагу" (1917): "Маскоўская, або велікаруская, інтэлігенцыя цікавілася ўсім, толькі не сваімі суседзямі, толькі не беларусамі і не ўкраінцамі. Бліжэйшая сястра наша па крыві, мове і гістарычнай доле – Украіна – наўмысля, дзеля інфармацыі (азнаямлення) выдавала асобны журнал, як бы кажучы: «Схамяніцеся, панове-брацця, мы ж тысячу раз цікавей готтэнтотаў і батакудаў, лёс каторых так пільна займае вашую думку!» І дапраўды, калі ўважна перагартаць маскоўскую літаратуру, дык нідзе не спаткаеш таго, каб яна сапраўды цікавілася тым: хто гэта беларусы, які іх край, што тут за людзі, якой мовай гавораць, чаго яны хочуць, куды ідуць, чаго дамагаюцца і чаму… маўчаць. У гэтым сэнсе маскоўская інтэлігенцыя моўчкі трымалася таго пагляду, які вытварыўся яшчэ з часоў маскоўскага князя Івана Каліты. Беларусь – гэта «вотчына», тая самая Яраслаўская губернія, толькі з асобнай назвай. І калі часам траплялі да нас гісторыкі ці лінгвісты, дык яны ўжо наперад пэўны былі, што стрэнуць тут сваіх «тульскіх мужычкоў», толькі з цікавымі асобнасцямі".

**1937 Цяжкія выпрабаванні і шмат цэнзуры**

Мы абмінаем тут усю заходнебеларускую БІП. Цяжка сумнявацца, што з яўным намёкам у газеце даваўся артыкул "Паўстаньне чырвонаскурых" (Чылі і Балівія) (Наша праўда. Вільня). 1927. 20 жн.; праз невялікі час цярплівасць улад скончылася – газету закрылі) – імкненне да ад'яднання ад Польшчы, прынамсі культурнае, было відавочным. Некаторым усход Польшчы нагадваў "Дзікі Захад" і – як мінімум на Палессі – царства індзейцаў уру возера Ціцікака.

Мы таксама не маем дастаткова месца для савецкай БІП. Яна часта мае контрпрапагандысцкі характар і адмаўляе падабенства становішча індзейцаў і беларусаў як аднаго з народаў СССР. І нават з Захаду, як, напрыклад, у кнізе М. Вакара (1956), гучалі галасы нібыта на карысць СССР: "Выглядала, што беларускі

народ вымірае з такой хуткасцю, якую дагэтуль ведалі толькі на прыкладзе лапландцаў і амерыканскіх індзейцаў. Аднак пасля ўключэння Заходняй Беларусі ў склад СССР (лістапад 1939 г.) тры мільёны беларусаў, якія зніклі ў Польшчы, раптоўна вярнулася да жыцця".

Другая сусветная вайна выклікала вялікую колькасць параўнанняў, якія закраналі канкісту і Дзікі Захад, генацыд і г.д. Непрыхільная да белай Амерыкі, такая БІП тым больш не выклікала ў амерыканцаў, што пісалі пра БССР, жадання лішні раз нагадваць, што яны самі зрабілі са сваім карэнным насельніцтвам.

Савецкая пазіцыя адносна амерыканізацыі, некалькі падобная на ўпартае індзейскае непрыняцце культуры белых, пастаянна выклікала "неразуменне" і "раздражненне" ў "амерыканскіх імперыялістаў". Амерыканізацыя "рускіх" стрымлівалася палітычна "жалезнай заслонай"; але тое, што ў аснове "савецкага ладу жыцця" ляжала не прыхільнасць народным традыцыям, пацвярджае развіццё падзей у перыяд перабудовы і пасля яе.

**1985 "Рэзервацыя" і "вымiранне"**

Яшчэ задоўга да "вакханаліі" ў выніку ўвядзення з сярэдзіны 1980-х гг. свабод ужывання слова рэзервацыя ў пераносным і кампаратывістычным сэнсе, адбыўся інцыдэнт, калі У. Караткевіч быў абвінавачаны ў тым, "што ён, маўляў, не ўбачыў на Палессі нічога новага, хоча з палешукоў стварыць нейкую ‘рэзервацыю’ ". Так ацаніў яго эсэ "Званы ў прадонняў азёр", накіраванае супраць меліярацыі "толькі як асушэння", С. А. Пілатовіч у выступленні перад камсамольцамі АН БССР у 1970 г.

У значэнні, якое ўкладваў А. Адамовіч і многія іншыя, у т.л. і ў "экалагічным", гэта адна з самых папулярных катэгорый або рубрык, з прыцягненнем рэалій як з сельскага жыцця, калгаснага, так і гарадскога. Усё змяніла перабудова, і "палітычныя" параўнанні сталі частымі і разнастайнымі, крытычнымі. Параўнанне з рэзервацыяй у розных аўтараў адбываецца з упамінаннем, што гэта індзейская рэзервацыя, але шмат выпадкаў – і без гэтага, але з алюзіяй на індзейцаў.

Уласна нашым падыходам было не тое, што маглі ўбачыць ідэолагі, з якімі мы размаўлялі (напрыклад, Э. Скобелеў), а добраахвотны выбар "рэзервацыі" ў пазітыўным сэнсе – для захавання тэрыторыі і норм, якія згадзілася б прыняць юрыдычна аформленыя і не аформленыя абшчыны.

Пасля атрымання Нобелеўскай прэміі (2016) яшчэ больш "гучным" стала выказванне фатографа В. Латуна, рускага з Бранска, ліквідатара, – з інтэрв’ю, выкарыстанага С. Алексіевіч для кнігі "Чарнобыльская малітва. Хроніка будучыні" (1997), – пра магчымае знікненне беларусаў. Яно недарэчнае тым, што да зніклых народаў

аднесены ў адным пераліку і той, што захаваўся значна больш, чым магіканы, а менавіта ўастэкі. Аналагічнае параўнанне прагучала некалькімі гадамі пазней у зборніках: "Калі гэтыя тэндэнцыі захаваюцца і не будзе прынята мер да іх устаранення, то праз 100 гадоў з твару Зямлі можа знікнуць апошні жыхар Беларусі, як некалі зніклі скіфы, хазары, сарматы, урартыйцы, кімерыйцы, майя, кічэ, мам, цонталь [чонталь або чанталь], цоль [чоль], хуастэкі і іншыя народы" (Беларусь: выбор пути. Национальный отчет о человеческом развитии, 2000; Проблемы экономической безопасности Беларуси, 2001). У выданні "Чарнобыльскай малітвы" на рускай мове 2007 г. "хуастэкі" з тэксту зніклі. Твор перакладзены на дзясяткі моў, але ў кожным выпадку трэба ўдакладняць, з якога (рускага або іншага) выдання рабіўся пераклад – ці не з версіі, дзе індзейцы (хуастэкі або ацтэкі – вядомы казус, калі ў англійскім выданні хуастэкі былі замененыя больш вядомымі і зразумелымі ацтэкамі) не згадваюцца.

**1998 "Выміранне" працягваецца**

Матыў "алкаголь горш за радыяцыю": "Калі ў мінулым годзе спажыванне алкаголю на душу насельніцтва ў Беларусі склала 20 літраў, то ў 1998 годзе можа перавысіць 25 літраў. Гэта пры тым, як лічаць навукоўцы, што ўжо пры спажыванні на душу 8 літраў у год пачынаецца незваротны працэс выраджэння народа і дэградацыі грамадства. "Рэспубліка Беларусь загіне не ад чарнобыльскай радыяцыі – народ Беларусі ўжо гіне, як індзейцы ў Амерыцы, ад алкаголю, тытуню і іншых наркотыкаў", – заўважылі арганізатары міжнароднай канферэнцыі па праблемах здароўя і цвярозасці народа, што нядаўна прайшла ў Мінску" (Газета Слонімская. 1998. 3 дек. № 78). Тое ж прагучала і для замежнага чытача: канферэнцыя "claims Belarusians are drinking themselves to extinction" (Minsk News. 1998. Dec. 1-7).

"Кампаратывістычныя" гонар, культура цесна пераплецены з мовай. Думка пра тое, што "беларусы – не абарыгены з Вогненнай Зямлі" і здолелі, "нягледзячы на 200-гадовую русіфікацыю", "уратаваць такі-сякі нацыянальны гонар ды і духоўнае багацце – нацыянальную культуру", гучыць у роздуме С. Роснага (Віцебск) у адказ на "прыклады", "калі абарыгены, якія насяляюць тую ці іншую краіну, лічылі за лепшае карыстацца не мовай, распаўсюджанай у іх мясцовасці, а выбіралі сабе ў якасці афіцыйнай тую ж англійскую ці французскую" (Наша слова. 1992. 8 ліп.).

"Дык мы ж не індзейцы і не эскімосы, якіх пазбавілі заваёўнікі не толькі **мовы**, а тэрыторыі і чалавечых правоў", заканчваў свой допіс у "Гомельскую праўду" настаўнік Сідаравіцкай СШ Чачэрскага раёна В. Патапенка (1993).

Намесніку галоўнага рэдактара "Народнай газеты" А. Класкоўскаму яго юны субяседнік-апанент 10-класнік С. Мудроў даводзіць, што "ў краінах Паўднёвай

Амерыкі карэннае насельніцтва зусім не пакутуе ад таго, што гаворыць па-іспанску" – але аглядальнік нагадвае пра рэзервацыі, і школьнік "замаўкае" (1992).

Акрамя палякаў, свае ўласныя паралелі з індзейцамі знаходзілі і іншыя суседзі беларусаў – у ўкраінцаў і ў пэўнай ступені літоўцаў "праіндзейскія". Рускім жа было даволі цяжка знайсці тут сваю "нішу" – цяжэй чым "польскім канкістадорам", якія прайгравалі. Але рускія ў імкненні ўтрымаць, замацаваць Беларусь у складзе імперыі спрабавалі зблізіць свой і беларускі народ па прыкметах веры, агульнага паходжання, аднолькавых каштоўнасцей і псіхалагічных характарыстык.

Член ЦК Ліберальна-дэмакратычнай партыі В. Падвойскі выказаў заклапочанасць лёсам "усяго" "рускага народа": "А лёс карэннага насельніцтва Амерыкі – бязлітаснае знішчэнне і рэзервацыі? Надзвычайна-павучальныя прыклады. Няўжо і з намі можа здарыцца падобнае?" (1993).

Увогуле ж, здаецца, абарыгены Беларусі і Амерыкі станавіліся ахвярамі барацьбы за панаванне, узаемных анексій паміж еўрапейскімі і новымі амерыканскімі дзяржавамі.

Значнае месца ў БІП заняла сімволіка. Арол цэніцца і індзейцамі і славянамі, але гэта розныя арлы, уключаючы адрозненне і паміж "польскім" і “рускім" арламі, а звычайныя спакойныя беларусы да таго ж маюць больш схільнасці да буслоў і зуброў як сімвалаў, "Пагоня" ж, на нашу думку, паводле камбінацыі конь – меч – крыж "збліжае" беларусаў з канкістадорамі, як бы гэты сімвал не спрабавалі трактаваць як абарончы. У гербе "Пагоня" – "канфлікталагічная" агрэсія, якая недарэчная пры імкненні беларусаў да міру, іх жаданні да апошняга пазбягаць канфліктаў, гвалту.

"Кампаратывістыка і індзеянізацыя – на карысць або на шкоду і ці мае сэнс?" – гэтае пытанне застаецца адкрытым. Ва ўмовах глабалізацыі і тэхнакратычнага, практычна "безыдэйнага" (псеўдаідэйнага) супрацьстаяння ў свеце яны маюць значэнне найбольш у прапагандзе эскапізму.

Хаця "становішча індзейцаў" мае дынаміку і ў многім паляпшаецца, негатыўныя стэрэатыпы, якія, як правіла, выкарыстоўваюцца ў публіцыстыцы, павінны служыць развіццю, у т.л. пазітыўнаму развіццю міжнацыянальных, міжнародных адносін. У гэтым мы бачым асноўны "ўрок" беларуска-індзейскай кампаратывістыкі.

Гэта тычыцца і дыяспары. Стэрэатыпы, якія звязваюць беларусаў і індзейцаў, – гэта стэрэатыпы, якія выходзяць і на міжнародную арэну. На гэта мы звярталі ўвагу ў дакладзе на канферэнцыю 1998 г. (курсівам – тэкст, выключаны пры публікацыі яго ў зборніку "Нацыянальная адукацыя", кн. IX, 1998):

"Старэйшае і сярэдняе пакаленне цяперашніх беларускіх амерыканцаў "прапусціла" важны момант у сваёй (сама)адукацыі: *іх увага да карэнных жыхароў Амерыкі не адпавядае кампаратывістычнай мадэлі* ***"карэнныя-карэнныя"****, якая добра прасочваецца на беларуска-індзейскім матэрыяле за некалькі стагоддзяў.*

*Значэнне і ўплыў карэннай абшчыны ў Амерыцы рэзка непрапарцыянальныя яе колькасці; прысутнасць беларусаў, нягледзячы на статыстыку, якую прыводзіць В. Кіпель, больш чым нязначная.* Сакрэт набыцця большай вагі ў амерыканскай культуры і палітыцы можа знаходзіцца ў сферы збліжэння і салідарнасці з Карэннай Амерыкай. Гэта забяспечыць і большае "паблісіці" для беларусаў у свеце".

Больш адрозненняў ад еўрапейскіх стандартаў, больш падабенства з "племяннымі" каштоўнасцямі, без страты сучаснай эфектыўнасці і прынцыпаў справядлівасці, – больш увагі з боку зацікаўленага чалавецтва.

**Бібліяграфія.** *Публікацыі аўтара са значнай беларуска-індзейскай кампаратывістыкай.*

Симаков А. Белорусская индеанистика (краткий обзор) // Томагавк. Альманах российской индеанистики (Сыктывкар). 1991. № 3. С. 62-66.

Симаков А. Белорусские апачи / интервью взял капитан А. Карлюкевич // Ленинец (газета Минского высшего военно-политического общевойскового училища). 1991. 12 дек. С. 3.

Симаков А. Ирокезы нам помогут? // Белорусская нива. 1994. 16 июня.

Симаков А. Память о Вундед-Ни (Исторические параллели: Вундед-Ни – Хатынь) // Ленинец (газета Минского высшего военно-политического общевойскового училища). 1991. 17 янв. С. 4.

Симаков А. "Резервация" // Гомельскія ведамасці. 1991. 30 марта. С. 5.

Сімакоў А. "Апачаўскія партызаны", або Як весці беларуска-індзейскую партызанскую вайну / гутарыў А. Карлюкевіч // Чырвоная змена. 1991. 11-17 ліст. С. 4.

Сімакоў А. Бадэн-Паўэл страляў індзейцаў... // Настаўніцкая газета. 1991. 21 снеж.

Сімакоў, А. Беларуска-індзейскія сувязі // Тэзісы дакладаў на I Заслаўскіх чытаннях Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства (13-14 траўня 1989 г.). Менск [Мінск], [1990]. С. 23-27.

Сімакоў А. Беларусы і індзейцы: Другая сусветная вайна // Беларускі гістарычны агляд. 2017. Т. 24. Сш. 1-2 (46–47). Снеж. С. 89-130.

Сімакоў А. Брэсцкая унія: "індзейскі аргумент" // Брэсцкая унія 1596 г.: гісторыя і культура: тэматычны зборнік навуковых прац / навук. рэд. С. А. Яцкевіч. Брэст, 1996. С. 9-11.

Сімакоў А. Еўрацэнтрызм і нееўрапейская альтэрнатыва // Літаратура і мастацтва. 1991. 2 жн. С. 6-7.

Сімакоў А. Злачынства супраць менталітэту // Гомельскі веснік. 1994. 28 мая. С. 3.

Сімакоў А. Зубр-бізон: Спроба вызначэння кірункаў этназаалагічнага і этнапсіхалагічнага даследавання беларускага пагранічча // Культура беларускага пагранічча. Тэматычны зборнік навуковых прац. Кн. VI : Культура беларуска-ўкраінска-расійскага сумежжа / рэд.: С. А. Яцкевіч, У. М. Ліўшыц. Горкі-Брэст, 1999. С. 93-94.

Сімакоў А. "Зубр" замест "Пагоні" / падрыхт. (уводзіны і P.S.) А. Агібалава // Чырвоная змена. 1991. 16-23 снеж. С. 3.

Сімакоў А. Зубр – сваяк бізона / публ. падрыхт. А. Ціхановіч і В. Жданко // Звязда. 1991. 12 вер.

Сімакоў А. Індзейцы і беларусы супраць "вогненнай вады" // Гомельскі веснік. 1996. 16-23 сак. С. 1.

Сімакоў А. Неэтнацэнтрычны курс гісторыі і этнаграфіі карэнных амерыканцаў для беларускай дыяспары ў ЗША // Нацыянальная адукацыя: тэматычны зборнік навуковых прац: Кн. IX. Адукацыя дыяспар / навук. рэд. С. А. Яцкевіч. Брэст, 1998. С. 102-104.

Сімакоў А. Пра "дзікунства" і "цывілізацыю". Або як іх разумее Беларуска-індзейскае таварыства // Рабочае слова (Гомель). 1991. 31 жн. С. 4.

Сімакоў А. Раздвоеныя языкі, раздвоеныя мовы // Збудінне. 1992. № 11. С. 4.

Сімакоў А. "Раздвоеныя мовы..." // Чырвоная змена. 1993. 12 студз. С. 2.

Сімакоў А. Рэзервацыі свядомасці // Arche. 2001. № 2. С. 58-62.

Сімакоў А. Рэзервацыі сумлення // Amnesty International у Беларусі (Гомель). 2001. Жн. № 4. С. 7-10.

Сімакоў А. Ці паганцы – камуністы? // Чырвоная змена. 1991. 5-11 жн. С. 16.

Simakou A. Byelorussians seek contacts (Letters to the Editor) // Tundra Times (Anchorage). 1990. March 19. P. 2-3.

Simakou A. [Letter] // Akwesasne Notes Magazine: A Journal of Native and Natural Peoples. New series. 1996. V. 2. № 1. Winter. P. 43.

Simakou A. Inforum // Cross-Cultural Psychology Bulletin: A Publication of the International Association for Cross-Cultural Psychology. 1998. March. V. 32. № 1. P. 22.

**Ales Simakou** *(Gomel, Belarus)*: **Belarusian-Indian comparative studies: the most important non-ethnographic rubrics** ***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 106-124, www.sakavik.net)***

*Abstract*. We consider general assessments with convergence of the situation in the field of preservation of traditional and modern culture, language as the most important categories in Belarusian-Indian comparative studies (abbreviated BIC, "comparison"). Among the priority rubrics are attitudes to (in)tolerance and other important ethnopsychological traits of Belarusians / Indians and their neighbors, to conquest, occupation of territories, transfer of religious and educational norms, attempts at segregation, slowing down development (reservations). From S. Budny and P. Skarga to Ia. Liosik, M. Tank, U. Karatkevich and S. Ianovich, the practices of the colonizers; influence on the aborigines and the the neighborы; knowledge of Belarus and their knowledge of America and the Indians were compared. A comparison of universal traits (physical endurance and at the same time a "indifferent", but pragmatic attitude to death, passivity, alcoholism) and symbols and their combinations (eagle / stork, bison / European bison, horse, sword / ax, cross – "Indian"; and "conquistadorial" "political" interpretation) is important. BIC takes into account the dramatic and irreversible "extinction" of many languages, tribal institutions and traditional values in the conditions of globalization and technocratic confrontation in the world, sometimes "calls" for escapism. BIC is an extremely popular method: we have recorded thousands of individual cases in printed sources (our unpublished texts, as well as correspondence, provide few examples, but we partially take them into account, as well as "exclusives" of Internet authors).

**Алесь Симаков** *(Гомель, Беларусь)*: **беларусско-индейская компаративистика: важнейшие неэтнографические рубрики** ***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 106-124, www.sakavik.net )***

*Резюме.* Наиболее важными в белорусско-индийских компаративистике (сокращенно БИП, «сравнение») мы считаем общие оценки при сближении ситуации в сфере сохранения традиционной и развития современной культуры и языка. Среди приоритетных категорий - отношение к (не)толерантности и другим важным этнопсихологическим чертам белорусов/индейцев и их соседей, к завоеваниям, оккупации территорий, передаче религиозных и образовательных норм, попыткам сегрегации, замедлению развития (резервации). От С. Будного и П. Скарги до Я. Лесика, М. Танка, В. Короткевича и С. Яновича практики воздействия колонизаторов на аборигенов и знание соседей Беларуси сравнивались с их знанием Америки и индейцев. Большое значение имеет сопоставление универсальных признаков (физическая сила и в то же время равнодушное, но прагматическое отношение к смерти, пассивность, алкоголизм) и символов и их сочетаний (орел/аист, зубр/бизон, конь, меч/топор, крест – «индейское» и «конкистадорское» «политическое» толкование). БИП учитывает драматическое и необратимое «вымирание» многих языков, племенных институтов и традиционных ценностей в условиях глобализации и технократического противостояния в мире, иногда «призывая» к эскапизму. БИП — чрезвычайно популярный метод: мы зафиксировали тысячи отдельных случаев в печатных источниках (наши неопубликованные тексты, как и переписка, дают сравнительно немного примеров, но мы их частично учитываем, как и «эксклюзивы» интернет-авторов).

**Віталь Зайка** *(Н’ю Ёрк, ЗША)*: **Янка Запруднік як гісторык і беларускі грамадзскі дзеяч у Эўропе і ЗША**



*Пра аўтара*: Віталь Зайка - дасьледнік беларуска-жыдоўскіх дачыненьняў. Супрацоўнік нью-ёрскага «Цэнтру габрэйскай гісторыі». Актывіст беларускага руху ў ЗША. Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня «ПАГОНЯ». Піша расказы, частка з якіх друкуецца ў Альманаху «Беларус».

*About the author*: Vital Zajka is a researcher of Belarusian-Jewish relations. Fellow of the New York Center for Jewish History. An activist for the cause of Belarusian movement in the USA. Chairman of the Belarusian-American Association "PAHONYA". He writes short stories, some of which have been published in the "Belarus" Almanac.

*Анатацыя.* У артыкуле разглядаецца дасьледчыцкая, навуковая і грамадская дзейнасьць адной з найбольш выбітных асобаў беларускай іміграцыі ў Паўночнай Амэрыцы другой паловы 20-га і пачтку 21 ст., гісторыка, публіцыста і грамадскага дзеяча, нядаўна адыйшоўшага ў вечнасьць - сп. Янкі Запрудніка (1926-2022). Спазнаўшы нялёгкую долю выгнанца з Бацькаўшчыны, Янка Запруднік прысьвяціў сваё жыцьцё дасьледванню беларускай культуры, а таксама як рэдактар Радыё Свабода—данясеньню ідэяў свабоды і незалежнасьці Беларусі на паняволеную камунізмам Бацькаўшчыну. Янка Запруднік прафэсыйна займаўся гістарычнымі досьледамі, браў удзел у розных беларускіх арганізацыях, і ў выданьні шэрагу беларускіх перыёдыкаў, і напісаў каля тузіну кнігаў і больш за 500 публікаваных артыкулаў і безьліч скрыптаў для радыё. Ён пражыў годнае, плённае і багатае падзеямі жыцьцё, якое можа быць прыкладам для новых пакаленьняў беларусаў.



*Янка Запруднік (1926-2022)*

Слынны дзеяч беларускай эміграцыі, гісторык, публіцыст і мэмуарыст Янка Запруднік (1926-2022) быў адным з тых нешматлікіх навукоўцаў-беларусаў, што прафэсыйна займаліся гісторыяй Беларусі, атрымаўшы гістарычную адукацыю ў Вольным Сьвеце. Запруднік пакінуў значную апублікаваную спадчыну, сьпецыялізуючыся найперш у палітычнай гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу. Ягоныя зацікаўленьні былі значна шырэй за гэтыя акрэсьленыя тэмы, і ён актыўна цікавіўся бягучымі падзеямі ў Беларусі, культурніцкімі навінамі й дасягненьнямі, а таксама рэлігійным жыцьцём сваёй Бацькаўшчыны.

Янка Запруднік (Ян Запруднік, імя пры народзінах Сяргей Вільчыцкі) зьявіўся на сьвет у мястэчку Міры ў сям'і настаўнікаў, 9 жніўня 1926 году. У дзіцячыя гады на хлопца шмат паўплываў дзед, які меў кузьню, вучыў касіць і араць, а яшчэ быў востра настаўлены супраць польскіх санацыйных уладаў і пераказваў унуку, што ён, маладзейшы, яшчэ дачакаецца вольнай, самастойнай Беларусі. Бацькі-настаўнікі мелі, акрамя абавязкавых польскіх выданьняў, добрую бібліятэку беларускіх кнігаў, якой карыстаўся і будучы гісторык Беларусі. У ягонай сям'і, дзе акрамя бацькоў быў малодшы брат Аркадзь, гутарылі па-беларуску, і мелі беларускае нацыянальнае ўсьвядомленьне. Бацькаў брат, Аляксандар Вільчыцкі, быў адным з галоўных дзеячаў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, рэдагаваў грамадоўскую газэту "Беларуская Справа", і загінуў у часы сталінскіх рэпрэсіяў. У Міры хлопчык скончыў пачатковую школу. Пасьля прыходу Саветаў ягоная сям'я была прызначаная да вывазу на ўсход, але дзеля памылкі міліцыянэраў замест іх перад самым пачаткам Савецка-нямецкай вайны вывезьлі сям'ю бацькавага брата, што жыла побач**.**

Падчас вайны юнак вучыўся ў прагімназіі, а затым у гандлёвай школе ў Баранавічах, дзе далучыўся да Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ). У 1944 годзе ён уступіў у дапамаговую службу Люфтвафэ і пасьля перад самым канцом вайны быў пераведзены ў створаную з розных паасобных адзінак дывізыю пад маркай СС (30-я, або 1-я Беларуская), дзе фактычна амаль не было дабраахвотнікаў. У красавіку 1945 году дывізія здалася ў палон амэрыканцам каля м. Цвізэль, Баварыя. Толькі значна пазьней юнак даведаўся, што ягоны бацька быў мабілізаваны ў Чырвоную армію і загінуў пад Бэрлінам у 1945 годзе.

Калі пасьля сканчэньня баявых дзеяньняў на абшары падзеленай на акупацыйныя зоны Нямеччыны сталі стварацца лягеры для перамешчаных асобаў (ДП, ды-пі), хлопец далучыўся да беларускай грамады лягеру Рэгенсбург. Каб зрабіць гэта, ён мусіў памяняць імя, бо ваеннапалонныя не дапускаліся да атрыманьня статусу ДП. У сьпісах насельнікаў лягеру заставаліся імёны асобаў, якія ўжо выехалі зь

Нямеччыны на працы ў Марока.Так Сяргей Вільчыцкі ўзяў імя Янкі Запрудніка зь Вільні, і захаваў новае імя праз далейшае жыцьцё.

У Рэгенсбургу Запруднік скончыў Беларускую гімназыю імя Янкі Купалы, атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі й думаў пра тое, дзе вучыцца далей. Менавіта гэтая гімназія дала станоўкі беларускі сьветагляд і заклала ўстаноўку на актыўную жыцьцёвую філязофію, скіраваную на мацаваньне беларускіх асяродкаў і дапамогу Бацькаўшчыне ў часы, калі незалежнасьць Беларусі здавалася недасягальнай марай. Янка Запруднік пачаў пісаць, апублікаваў першыя вершы ў гімназыяльным часапісе "У выраі", і даваў свае зацемкі ў беларускія скаўцкія публікацыі. Адначасна з канца вайны ён стаў пісаць вялікі празаічны твор пра свой досьвед і пра лёсы свайго пакаленьня, але выглядае, што рукапісу гэтага твору не захавалася. Ён браў актыўны ўдзел у скаўцкім руху, і стаў сьцяжным (кіраўніком сьцягу—групы ў 100 чалавек) скаўтаў лягеру Віндышбэргердорф. Запруднік з сябрамі браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцьці Гімназіі Янкі Купалы й беларускіх ДП-лягераў, дзе ён жыў.

Янка Запруднік цікавіўся беларускай мовай, асабліва ў паэзіі, і зьбіраў праз усё жыцьцё цытаты й выпіскі з паэтычных аўтараў, стварыўшы вялікую анталёгію, рукапіс якой ён перадаў за некалькі год да сьмерці ў выдавецтва "Тэхналёгія". З Бацькаўшчыны ён прывёз свой акардэон і выдатна навучыўся граць на ім, сур'ёзна думаў пра музычную дзейнасьць, але пазьней заняткі музыкай адыйшлі на другі плян. Запруднік з групай сяброў і аднадумцаў, што былі нацыянальна вызначаныя і марылі пра вольную Бацькаўшчыну, пастанавілі скарыстаць з мажлівасьці трапіць у Брытанію, калі пачаўся набор на працу ў шахтах, і пашырыць кансалідацыю беларускіх сілаў. Так утварылася "Дванаццатка", ядро моладзі, што была настаўленая на актыўную нацыянальную дзейнасьць, і Запруднік стаў адным з найбольш дзейных сябраў яе. Калі з дапамогай прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка былі здабытыя стыпендыі для беларускай моладзі на вучобу ў Лювэнскім унівэрсітэце ў Бэльгіі, Янка Запруднік з бліжэйшымі сябрамі Паўлам Урбанам і Ўладзімерам Цьвіркам паступіў на навучаньне на гістарычны факультэт. У Лювэнскім унівэрсітэце была ўплывовая і моцная медыевісцкая школа гісторыкаў, і гэта дапамагала інтэграваць студыі зь гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў шырэйшы эўрапэйскі кантэкст. Падчас вучобы шмат дапамагаў апякун беларусаў а. Робэрт ван Кавэлярт, ладзіліся імпрэзы для беларускіх студэнтаў, чыталіся рэфэраты з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Тэма дыплёмнай працы Янкі Запрудніка таксама тычылася Вялікага Княства Літоўскага. Там у Лювэне ён ажаніўся з Вольгай Харытончык зь Нясьвіжу, бацька якой, Юрка Харытончык, быў удзельнікам Слуцкага Збройнага Чыну.

Пасьля заканчэньня унівэрсітэту ў 1954 годзе Янка Запруднік пераехаў з Бэльгіі ў Нямеччыну, у Мюнхен, і пачаў працу на Радыё Вызваленьне, што пазьней стала называцца Радыё Свабода. Ён рабіў аналіз інфармацыі пра падзеі ў Беларусі й Савецкім саюзе, рыхтаваў перадачы пра культурнае і палітычнае жыцьцё беларусаў на чужыне, і адначасна актыўна супрацоўнічаў у газэце "Бацькаўшчына". Ён быў актыўным у грамадскай і культурніцкай дзейнасьці беларускай грамады ў Мюнхене і ў Нямеччыне. У гэты час ён бярэ таксама чынны ўдзел у дзейнасьці Рады БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка. У 1957 годзе ён пераехаў у Злучаныя Штаты, і стаў кіраўніком беларускай філіі Радыё Свабода ў Нью Ёрку. Яна стала ягоным асноўным месцам працы аж да 1991 году. Разам зь ім у Нью Ёрскай рэдакцыі працавалі Натальля Арсеньнева, Станіслаў Станкевіч, Антон Адамовіч, Ізыдар Плашчынскі, Вітаўт Кіпель, уладыка Васіль (Тамашчык), Андрэй Клёнаў, Яніна Каха్оўская. Запруднік працягваў публікавацца ў "Бацькаўшчыне", і ў газэце "Беларус", часта друкуючы артыкулы на гістарычныя тэмы.

У канцы 1950-х гадоў Янка Запруднік вырашыў працягнуць свае гістарычныя студыі, пачатыя ў свой час у Лювэнскім унівэрсітэце. Плянуючы напісаць дактарат па тэме, зьвязанай з найноўшай палітычнай гісторыяй Беларусі, ён зьвярнуўся да Міколы Абрамчыка з прозьбай азнаёміцца з дакумантамі Рады БНР, якія былі ў таго ў Парыжы. Спасылаючыся на розныя прычыны, адрасат усяляк адцягваў справу. У 1960 годзе Янка Запруднік пачаў навучаньне ў дактарантуры ў Нью Ёрскім унівэрсітэце (NYU) пад кіраўніцтвам прафэсара Джозафа Ліхтэна. Першапачатковай тэмай мелася быць "Беларусь у часе Першай сусьветнай вайны (1914-1921)", дзе асноўны фокус павінен быў быць скіраваны на падрыхтоўку і абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі, з разьлікам на арыгінальныя дакуманты з тых, што, як меркавалася, знаходзяцца сярод матар'ялаў у руках М. Абрамчыка. Пазьней Запруднік адмыслова закране пытаньне архіву БНР у Абрамчыка і ягоных спадчыньнікаў, робячы выснову, што там былі найхутчэй другасныя рэчы, цыркуляры й мэмарандумы, даступныя дзеінш. Не будучы ў стане далей чакаць на матар'ялы ад Абрамчыка, Янка Запруднік памяняў тэму сваёй дысэртацыі, і ёй стала "Палітычнае змаганьне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных Думах (1906-1917)" **(1)**.

Тэмай досьледаў стала сытуацыя на беларускіх землях у 1906-1917 гады. Яна уяўляла сабой больш-менш нармальнае паступовае разьвіцьцё нацыянальнага ўсьвядомленьня сярод беларускага насельніцтва, найперш праз пашырэньне агульнай адукацыі й цікавасьці да фальклору і традыцыяў, праз нацыянальную выдавецкую дзейнасьць, выступы тэатральных групаў і самадзейныя тэатральныя пастаноўкі. Беларусы бачылі падвышэньне нацыянальнай культурнай актыўнасьці этнасаў, што шылі побач зь імі: гэбраяў, палякаў, украінцаў і літоўцаў - што міжволі наводзіла на пытаньні пра ўласную культурную і нацыянальную тоеснасьць. Да

гэтага дадаліся захады мясцовых толькі пачаўшых сваё разьвіцьцё палітычных сілаў, у тым ліку і ў парляманце Расейскай імпэрыі - Дзяржаўнай Думе. Вынікі ўсяго гэтага, хай сабе самыя сьціплыя, мацавалі нованароджаную мадэрную нацыянальную ідэю, і прывялі пазьней да спробы стварэньня адмысловай беларускай нацыянальнай дзяржавы. Ужо дзеля аднаго гэтага перыяд Думскай актыўнасьці, як увасабленьне, канцэнтраваны выгляд, нацыянальных працэсаў у Беларусі, мусіў бы быць колькасна і якасна вывучаны. Але, нажаль, гэты перыяд і гэтае пытаньне не атрымалі належнай увагі дасьледнікаў ані на Бацькаўшчыне, ані па-за ёй.

Дзеля занятасьці працай і сямейнымі абавязкамі напісаньне дысэртацыі зацягнулася, але ў верасьні 1969 году яна была абароненая, і Янка Запруднік стаў доктарам гістарычных навукаў. Артыкулы па матар’ялах сваіх досьледаў ён публікаваў, між іншага, у “Запісах” і The Journal of Byelorussian Studies **(2)**. Праз шмат гадоў ягоная дысэртацыя была перакладзеная па-беларуску і выдадзеная рэдакцыяй часапісу “АРХЭ”. У прадмове да беларускага выданьня Янка Запруднік напісаў **(3)**:

Універсальная заканамернасць развіцця сусветнага грамадства - рост нацыянальных дзяржаваў і крышталізацыя этнічнай самасвядомасці ва ўмовах свабоднага інфаабмену - зрабілі свой уплыў і на ходу падзей у Беларусі. Пасля спробаў з усходу праглынуць яе і намаганняў з захаду «пераварыць» яе, у сутыку двух узаемна антаганістычных нацыяналізмаў нарадзіўся трэці - мясцовы, айчынны, больш маральны, бо не захопніцкі, як суседнія з усходу і захаду. **(3)**

Наагул, хоць глябальная сытуацыя за 100 год памянялася, аргуманты апанэнтаў беларускай незалежнасьці й беларускай нацыянальнай культуры за стагоддзе бадай не зьмяніліся, і таму, каб разумець істоту непрыняцьця беларускасьці, і супрацьстаяць ёй - трэба вывучаць і аналізаваць тыя ідэі й аргумэнтацыю, якія высоўвалі пра-расейскія сілы ў Беларусі на пачатку мінулага стагоддзя, у тым ліку і з трыбуны тагачаснай Дзярждумы. Асноўным дасягненьнем Янкі Запрудніка была спроба перанесьці кропку адліку і сістэму каардынатаў гістарычнага працэсу менавіта ў Беларусь, каб разглядаць беларусаў як суб’ект, а не аб’ект гістарычнага разьвіцьця.

У 1967—1976 гг. Янка Запруднік чытаў курсы з гісторыі Беларусі ў Кўынз-каледжы Гарадскога унівэрсітэту Нью Ёрку (Queens College-CUNY), а таксама чытаў курсы і праводзіў сэмінары ў Калюмбійскім унівэрсытэце і ў Ратгерскім унівэрсітэце (Нью Джэрзі). Ад самага заснаваньня Янка Запруднік быў чынным сябрам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ), браў актыўны ўдзел у ладжаных БІНМам імпрэзах і канфэрэнцыях, публікаваў свае артыкулы на старонках часапісу “Запісы БІНіМ”, які выдаецца дасюль. Як сябар управы, Янка Запруднік падтрымліваў і прапаноўваў разнастайныя праекты для Інстытуту, асабліва выдавецкую сэрыю,

Ангельска-беларускі слоўнік В. Пашкевіч, ды шмат іншых. Надзвычай шчыльнае супрацоўніцтва зьвязвала яго з Вітаўтам Тумашам і Антонам Адамовічам. Шматгадовым і плённым было таксама сяброўства і супрацоўніцтва Янкі Запрудніка зь Вітаўтам Кіпелем. Адначасна Запруднік зьяўляўся актыўным аўтарам, а ў 1981—1995 гг. таксама і галоўным рэдактарам, газэты "Беларус".

Янка Запруднік таксама быў ахвярным грамадскім актывістам, пачынаючы яшчэ ад часоў сяброўства ў СБМ на Бацькаўшчыне, у скаўтынгу і грамадскай дзейнасьці ў Нямеччыне, Брытаніі й Бэльгіі. Ён уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), у прэзыдыюм Рады БНР, ва ўправу Беларускай Фундацыі Крэчаўскага. Таксама ён быў сябрам Асацыяцыі славістыкі й вывучэньня нацыянальнасьцяў, браў удзел у такіх важных імпрэзах, як канфэрэнцыя па нацыянальнасьцях Савецкага саюзу ў Гараўгэйт, Англія (1990), і канфэрэнцыі ў Рыме пяці народаў-нашчадкаў Вялікага Княства Літоўскага ("Рым-І", 1991). Ён тасама быў сябрам Украінскай Вольнай Акадэміі Навук у Нью Ёрку.

У 1991 годзе Янка Запруднік пасьля доўгага расстаньня наведаў Бацькаўшчыну, узяўшы ўдзел у Першым Міжнародным Кангрэсе Беларусістаў, і затым стаў рэгулярна прыяжджаць у Беларусь. Ён быў сябрам Вялікай рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Разам з жонкай Надзеяй Запруднік ён уласнымі фінансамі падтрымліваў культурніцкія ўстановы і праекты, а таксама дапамагаў індывідуальным асобам у Беларусі, у тым ліку маладым навукоўцам. Па даручэньні БІНіМу Янка Запруднік перадаў у Беларускі дзяржаўны музэй Янкі Купалы адзін з аўтографаў клясыка быларускай літаратуры, што захоўваліся ў Інстытуце.

Па словах сп. Вітаўта Кіпеля, Запрудніка заўсёды прыцягвала літаратура, ён заўсёды прачытваў новыя творы па-беларуску, што траплялiся яму ў рукі, надзвычай добра арыентаваўся ў гісторыі беларускай літаратуры, і наагул, каб не грамадская і палітычная дзейнасьць, ён прысьвяціў бы сябе найперш дзейнасьці літаратурнай. Янка Запруднік ужываў у публікацыях псэўдонімы й крыптонімы: Я. З., З., Сяргей Ясень, С. Ясень, С. Я., Аркадзь Будзіч, А. Б., Арсень Загорны, А. З., Рыгор (Ягор) Ліцьвін, Р. Л., Т. Смаленскі, М. Беластоцкі.

Ён зьяўляецца аўтарам некалькіх дзясяткаў кніг і брашураў, і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Сярод іншага, ён выдаў кнігі: "Паўстаньне на Беларусі 1863 года: «Мужыцкая Праўда» і «Лісты з-пад шыбеніцы» = The 1863 uprising in Byelorussia: «Peasants' Truth» and «Letters from beneath the Gallows» / Тэксты і камэнтарыі" (разам з Т. Бэрдам, 1980); "Belarus: At Crossroads in history" (1993; беларуская версія "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", 1996); "Historical dictionary of Belarus" (1998; разам з В. Сіліцкім, 2007); "Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць аб

дванаццаці беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі і Бэльгіі (1946—1957 гг.)” (2002); “Беларускія фэстывалі і выстаўкі ў Нью Джэрсі: палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011 гг.)” (2013); “Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952—1959 гг: Універсітэт у Бельгіі, газета «Бацькаўшчына», радыё Вызваленне/Свабода ў Мюнхене і Нью-Ёрку” (2015); “Берагу майго зарніцы: паэзія (1946—2017): дзённік (1949—1954)” (2017). **(4)**

Яго аўтарству належыць велізарная колькасьць артыкулаў, крытычных аглядаў, зацемак ды іншых публікацыяў. Апублікаваная бібліяграфія ягоных публікацыяў займае каля 500 пазыцыяў і, па словах сп. Вітаўта Кіпеля, яна не зьяўляецца вычарпальнай **(5)**.

Янка Запруднік аддаваў належную ўвагу архівам, разумеў і цаніў іхную важнасьць для захаваньня для нашчадкаў гісторыі нашага народу і гісторыі эміграцыі. Ён перадаў матар’ялы са свайго архіву ў Беларускі Дзяржаўны Архіў-музэй літаратуры й мастацтва ў Менску, а таксама ў Беларускую Фундацыю Крачэўскага (Нью Ёрк), і ў бібліятэку А.С.Аляксандара пры Ратгерскім ўнівэрсытэце (Нью Джэрзі). Як зацяты кніжнік, Янка Запруднік сабраў вялізную кніжную калекцыю па беларусіцы, і пасьля перадаў яе ў Ратгерскі унівэрсітэт, дзе яна захоўваецца як асобны сэгмэнт, пад назвай The Zaprudnik Belarusica Collection **(6)**. Паасобныя рэдкія друкаваныя матар’ялы былі перададзеныя ім у Нью Ёрскую Публічную Бібліятэку і ў Цэнтар Вывучэньня Іміграцыі ў Мінэсоце.

Янка Запруднік быў адданым вернікам і сябрам беларускіх праваслаўных парафіяў у Нью Джэрзі, дапамагаў цэрквам у Беларусі. Ён быў сьціплым, інтэлігентным і абавязкавым чалавекам, асобай тактоўнай і дыпляматычнай, але разам з тым прынцыповай і да канца аддадзенай справе, пра якую ён між іншага сказаў:

“Высокія будынкі робяцца з дробнай цэглы. Вялікія гістарычныя падзеі, калі на іх прыходзіць час, вырастаюць з грунту малых канкрэтных учынкаў, якія чалавек бярэцца выканаць асабіста й дабраахвотна. Шэрасьць і будзённасьць гэтае штодзённае беларускае працы не абніжае ейнае высокае маральнае вартасьці, бо кожны канкрэтны грамадскі акт, якім бы нязначным ён ні здаваўся, мае таксама значаньне гістарычнае: яго асьвятляе Акт 25 Сакавіка, сьветлая ідэя Вольнае Беларусі”. **(7)**

І ён быў нястомным і адказным працаўніком, сам рабіў так, як заклікаў. Янка Запруднік быў сапраўдным, перакананым беларускім патрыётам, і ён з поўнымі на тое падставамі можа быць узорам для тых, хто прыйшоў і яшчэ прыйдзе на ніву працы ў галіне беларускай культуры.

СПАСЫЛКІ:
1. Янка Запруднік. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка.// Запісы БІНіМ №32, 2009, ст. 454.
2. Янка Запруднік. Беларусь у пару Дзяржаўных Думаў Расеі. // Запісы БІНіМ №13, 1975,ст. 30-44. Jan Zaprudnik. The Struggle for Byelorussia's Autonomy in the First State Duma (27 April/10 May—7/20 June 1906). // The Journal of Byelorussian Studies, Vol. II, No. 3, 1971; pp. 289-307.
3. Янка Запруднік. Палітычнае змаганьне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных Думах (1906-1917), Прадмова да беларускага чытача // АРХЭ №1-2, 2009.
4. In Memoriam Др. Янка Запруднік (1926-2022) // Запісы БІНіМ №42, 2022, ст. 10-11.
5. Бібліяграфія Янкі Запрудніка // Запісы БІНіМ №30, 2006, ст. 10-48.
6. Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША, "Кнігазбор", Менск, 2020, ст. 534.
7. Янка Запруднік. Гістарычнасьць будзённага. Слова на сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку ў сакавіку 1979 г. 61-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР // Запісы БІНіМ №30, 2006, ст. 82.

**Vital Zajka: "Yanka Zaprudnik as Historian and Belarusian Public Activist in Europe and USA"** ***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 125-132, www.sakavik.net)***

Abstract: In this article the author reviews the research work, academic and public activities of one of the most outstanding persons within Belarusian diaspora in North America in the 20th and 21st centuries – the work and life of historian, publicist and public activist, Yanka Zaprudnik, who recently has entered eternity (1926 – 2022). Having experienced the difficult fate of being banished from his homeland, Yanka Zaprudnik devoted his life to the study of Belarusian culture. As editor at Belarusian Service of Radio Liberty he laboured to share ideas of freedom and independence for Belarus with the people of his homeland which was enslaved by Communism. Yanka Zaprudnik was engaged professionally in historical research, took an active role in various Belarusian organizations and published a whole series of Belarusian periodicals. He wrote and had published some dozen books and wrote more than 500 public articles and a myriad of radio scripts. He lived an honourable, productive life filled with many activities which serves as an example for future generations of Belarusians.

**Виталий Зайка** (Нью Йорк, США): **Янка Запрудник как историк и белорусский общественный деятель в Европе и США**
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 125-132, www.sakavik.net )***

*Резюме*. В статье рассматривается исследовательская, научная и общественная деятельность одного из виднейших деятелей беларусской иммиграции в Северную Америку во второй половине XX века и начале XXI века, историка, публициста и общественного деятеля, недавно ушедшего из жизни - Янки Запрудника (1926-2022). Испытав тяжелую судьбу изгнания с Родины, Янка Запрудник посвятил свою жизнь изучению беларусской культуры, а як редактор «Радыё Свабода» — донесению идей свободы и независимости Беларуси на порабощённую коммунизмом родину. Янка Запрудник профессионально занимался историческими исследованиями, принимал участие в деятельности различных беларусских организациях и публикации ряда беларусских периодических изданий, написал около десятка книг и более 500 статей, автор множества радиосюжетов. Он прожил достойную, плодотворную и насыщенную жизнь, которая может быть примером для новых поколений белорусов.

**Радаслаў Калета** *(Варшава, Польшча)*: **Беларуская мова, літаратура і культура ў найноўшых падручніках для дзяцей беларусаў Падляшша (Польшча), выдадзеных Аб'яднаннем «АБ-БА»**



*Пра аўтара*: Радаслаў Калета – польскі беларусіст, паланіст, мовазнаўца, выкладчык, рэдактар, доктар філалагічных навук, прафесарpharynx and larynx hypoplasia Варшаўскага ўніверсітэта, загадчык кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (з 2019 г.), суарганізатар курсаў польскай мовы для беларусаў. На польскай мове выйшлі некалькі яго беларусазнаўчых кніг. Ён з'яўляецца заснавальнікам і рэдактарам часопіса «Беларуская мова як замежная» (http://kb.uw.edu.pl/bmz/ ). З 2014 г. сябра Таварыства беларускай мовы і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У 2019 г. узнагароджаны памятным знакам "У гонар 90-годдзя Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*About the author*: Radaslau Kalieta is a Polish Belarusian scholar, linguist, teacher, editor, holding a Doctor of Philology Degree, professor at the University of Warsaw, head of the Department of Belarusian Studies at the the same University of Warsaw since 2019 and co-organizer of Polish language courses for Belarusians. He is the founder and editor of the magazine "Belarusian as a Foreign Language" (http://kb.uw.edu.pl/bmz/). In 2019 he was awarded the commemorative recognition entitled "In honour of the 90th anniversary of the Institute of Linguistics of the National Academy of Sciences of Belarus". His Belarusian studies books were published in Polish under the titles of:

- Belarusian-Polish Intertwining Homonoymy, Warsaw, 2014,
- Polish-Belarusian Pronunciation of Letters in the Pharynx, Warsaw 2015,
- Mistakes in Belarusian Pharynx Pronunciation, Варшава 2018),
- Popular Belarusian Grammar for Foreigners, Варшава 2021.

*Анатацыя*. Артыкул «Беларуская мова, літаратура і культура ў найноўшых падручніках для дзяцей беларусаў Падляшша (Польшча), выдадзеных Аб'яднаннем „АБ-БА" паказвае дзейнасць і адукацыйныя дасягненні грамадскай арганізацыі «АБ-БА». Аўтар аналізуе таксама два апошнія падручнікі Аліны Ваўранюк — «Колазварот» (2021) для чацвёртага класа і «Блізкія словы» (2022) для пятага класа, — у якіх вялікая ўвага засяроджваецца на фарміраванні патрыятызму ў вучняў. Усе падручнікі Аліны Ваўранюк уводзяць у свет беларускай літаратуры, культуры, у рэаліі жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Фарміруюць пашану да роднай мовы і культурна-моўнай спадчыны Падляшша — малой айчыны вучняў.

У Польшчы беларускую мову вывучаюць дзве асноўныя групы. Першая — гэтак званую беларускую мову як успадкаваную, значыць мову продкаў, якой вучні не валодаюць актыўна, а другая група — асобы без беларускіх каранёў — гэтак званую беларускую мову як замежную[88]. Першая група неаднаразова аналізавалася ў артыкулах польскіх, а таксама беларускіх і польскіх даследчыкаў[89], у тым ліку Ніны Баршчэўскай, якая на Міжнародны кангрэс беларусістаў у 2010 годзе падрыхтавала даклад *Сітуацыя беларускай мовы ў Польшчы* (другі артыкул па-польску выйшаў з друку ў 2014 г.)[90]. У сваіх працах аўтарка падрабязна паказвае статыстыку, дае назвы падручнікаў і праграм па беларускай мове для нацыянальнай меншасці, якая жыве на тэрыторыі Польшчы[91].

Варта нагадаць, што беларуская мова на тэрыторыях некаторых падляскіх гмін мае асобы статус — была ўведзена ў якасці дапаможнай у зносінах паміж чыноўнікамі магістрата і насельніцтвам, як у вусным, так і ў пісьмовым варыянце. Менавіта на Падляшшы беларускую мову вывучаюць перш за ўсё прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці — у дзіцячых садках, пачатковых школах, гімназіях, агульнадукацыйных ліцэях у Гайнаўцы, Бельску-Падляскім і Беластоку. Але і ў Варшаве арганізуюцца беларускамоўныя дашкольныя і школьныя групы. Зразумела, беларускую мову вывучаюць толькі дзеці, бацькі якіх выказалі такое жаданне і адначасова маюць беларускія карані і польскае грамадзянства.

Трэба падкрэсліць факт, што польская адукацыйная сістэма даволі сур'ёзна адносіцца да права на адукацыю беларускай меншасці. У 2021 годзе Цэнтральная экзаменацыйная камісія ў Польшчы падрыхтавала і апублікавала ў інтэрнэце даведнік для абітурыентаў, якія ў 2023 годзе будуць здаваць экзамен на атэстат сталасці па беларускай мове як мове нацыянальнай меншасці[92]. Дарэчы, адным з

---

[88] ***Шырэй пра тэрміны гл.*** Р. Калета, *Беларусістычная глотадыдактыка як паўнавартасная галіна навукі*, «Беларуская мова як замежная» = Język Białoruski jako Obcy = Belarusian Language as a Foreign Language 3/2019, с. 7–18, http://kb.uw.edu.pl/bmz/.

[89] Гл. напр. М. Кавалевіч, *Беларускае школьніцтва ў Польшчы і польскае на Берасцейшыне*, «Беларусіка = Albaruthenica» 1994, т. 3, с. 309–312; W. Kajtoch, *Języki mniejszości narodowych w Polsce*, (w:) W. Pisarek (red.), *Polszczyzna 2000. Orędzie o stanie języka na przełomie tysiącleci*, Kraków 1999.

[90] Н. Баршчэўская, *Сітуацыя беларускай мовы ў Польшчы*, «Беларусіка = Albaruthenica» 2012, т. 32, с. 342–353; N. Barszczewska, *Zakres użycia języka białoruskiego na przełomie XX–XXI wieku*, Acta Albaruthenica 2014, t. 14, s. 87–98.

[91] Падобныя даныя можна знайсці таксама ў дакуменце *Strategia rozwoju oświaty mniejszości białoruskiej w Polsce*, Warszawa, Białystok 2014, file:///C:/Users/Rados%C5%82aw%20Kaleta/Downloads/strategia_rozwoju_oswiaty_mniejszosci_bialoruskiej_w_PL.pdf

[92] https://cke.gov.pl/images/_EGZAMIN_MATURALNY_OD_2023/Informatory/Informator_EM2023_jezyk_bialoruski.pdf

суаўтараў з'яўляецца супрацоўніца кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта Ірына Агеева. Варта яшчэ нагадаць, што кафедра беларусістыкі ВУ ўпершыню правяла алімпіяду па беларускай мове на Падляшшы ў навучальным годзе 1994/1995 і праводзіць яе штогод па сённяшні дзень.

Нягледзячы на ўсе спробы падтрымліваць вывучэнне беларускай мовы, усё часцей можна пачуць меркаванні, што ўзровень асіміляцыі моладзі на Падляшшы даволі высокі, і таму вывучае яна беларускую мову ўжо як замежную, а не як мову продкаў. Так каментуе гэтую з'яву Міхась Андрасюк — беларускі журналіст і пісьменнік, які жыве ў Гайнаўцы і Вайноўцы на Падляшшы, а працуе на Радыё Рацыя ў Беластоку: «І тут яшчэ выступае тая праблема, што беларуская мова для пакаленьняў, народжаных у 1980-х і пазьней, гэта ўжо другая мова, вывучаная пасьля першай — польскай. А вывучаная мова — гэта ня тое самае, што мова, засвоеная ад бацькі з маці»[93].

З другога боку, праграма навучання ў падляскіх школах была падрыхтаваная для вучняў, якія валодаюць беларускай мовай на добрым узроўні, каб маглі, напрыклад, не толькі чытаць вершы Янкі Купалы, але і падрыхтаваць самастойную інтэрпрэтацыю верша беларускага класіка. Такім чынам, ёсць вучні, якія не ўмеюць сфармуляваць пытанні, якія датычылі б штодзённых спраў, але ўмеюць зрабіць інтэрпрэтацыю верша. Гэтая праблема абмяркоўваецца настаўнікамі, якія разумеюць, што тут патрэбны іншы падыход да вучня і новая методыка працы з ім.
Беларуская мова, гісторыя і культура таксама выкладаюцца ў польскіх вышэйшых навучальных установах. У Варшаве беларуская мова выкладаецца з 1956 года на кафедры беларусістыкі факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, а з 2002 года - як неабавязковыя заняткі - выкладаецца і на кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Таксама студэнты-семінарысты Варшаўскай духоўнай семінарыі вывучаюць беларускую мову, каб рыхтавацца да служэння святарамі сярод беларускага насельніцтва ў Польшчы. Беларускую мову будучыя багасловы вывучаюць на працягу двух першых курсаў па дзве гадзіны штотыдзень. Заняткі заўсёды пачынаюцца малітваю па-беларуску. Беларусазнаўчыя адзінкі працуюць таксама ў Беластоцкім універсітэце і Універсітэце імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне, а спецыялісты з Беларусі выкладалі і выкладаюць ва ўніверсітэтах Кракава, Ольштына і Аполя. Курсы беларускай мовы для палякаў прапанаваў таксама Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча. Заняткі вялі супрацоўніцы кафедры беларусістыкі ВУ, але цяпер па зразумелых прычынах заняткі не праводзяцца.

- [93] Гл. Я. Максімюк, *Міхась Андрасюк — беларускі пісьменьнік з польскім акцэнтам*, https://www.svaboda.org/a/25089703.html.

Беларускую мову папулярызуе таксама грамадская арганізацыя Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АБ–БА»[94], якую зарэгістравалі ў 2006 годзе з мэтай дапамагаць як дзецям і моладзі, так і іх бацькам і настаўнікам. Старшынёй з'яўляецца Уршуля Іванюк. Гэта ўсялякага кшталту дапамога — не толькі адукацыйная, выдавецкая, але і болей глыбокая, якая мае на мэце падтрымліваць нацыянальную тоеснасць вучняў, дзейнічаць на карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польска-беларускай інтэграцыі. Акрамя гэтага, арганізоўваюцца адпачынкі вучням і заняткі па-за школай[95]. У «Склепе з культурай», які працуе з 2012 года і знаходзіцца ў памяшканні падвала Пачатковай школы № 4 у Беластоку, былі падрыхтаваныя «актавая зала», «беларуская хата», гардэроб і калідоры як выставачныя залы са здымкамі і тэатральным рэквізітам. Усё гэта зладзілі за кошт бацькоў, дзякуючы якім зрабілі вялікі рамонт. Цяпер там адбываюцца прэзентацыі спектакляў, рэпетыцыі тэатральнага гуртка, Студыі беларускага фальклору, сустрэчы Дыскусійнага клуба, час ад часу ўрокі беларускай мовы. «Склеп» адкрыты для гасцей[96].

Акрамя гэтага, аб'яднанне арганізуе:

1) майстар-класы для настаўнікаў;
2) этнаграфічныя летнікі «Я нарадзіўся тут» у розных рэгіёнах Беласточчыны, у якіх жывуць карэнныя беларусы (напр. у Белавежы (2004), Такарах і Сацах (2005), Ягуштове (2006), Семяноўцы (2007), Гарадку (2008), Тэрэмісках (2009), Крыўцы (2010), Бабіках (2011)). Падчас летнікаў вучні пазнаюць гісторыю, прыроду і культурную спадчыну мясцін, якія наведваюць, дзякуючы сустрэчам з народнымі мастакамі і адметнымі мясцовымі людзьмі, экскурсіям па наваколлі і майстар-класам па саломапляценні, вышыўцы, выцінанцы, пляценні паяскоў. Дзеці развучваюць народныя і сучасныя беларускія песні, ладзяць тэатральныя пастаноўкі. Вучні прэзентуюць на заканчэнне летніка атрыманыя веды і ўменні сваім сем'ям і мясцовым жыхарам[97];
3) экскурсіі ў Беларусь (першая адбылася ў 2004 г.), падчас якіх вучні і іх бацькі ездзяць у Гародню, Мір, Наваградак, вёскі і мястэчкі кожнай беларускай вобласці. Вучні і настаўнікі наведваюць музеі, помнікі архітэктуры, глядзяць тэатральныя

[94] ***«АБ–БА» расшыфроўваецца як аб'яднанне бацькоў.*** Поўная назва: Аб'яднанне бацькоў у карысць дзяцей і моладзі якія вывучаюць беларускую мову.

[95] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=48

[96] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=102

[97] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=41

пастаноўкі, сустракаюць шмат цікавых людзей, якія паказваюць ім сучасную Беларусь і яе прыгажосць. У 2007 годзе з'явілася новая традыцыя заказваць у царкве св. Юр'я ў Беластоку да завяршэння навучальнага года малебен на беларускай мове за дзяцей, моладзь, бацькоў і настаўнікаў. Такія малебны таксама пачынаюць навучальны год. Удзельнічаюць у іх выхаванцы садка і школ, дзе вывучаюць беларускую мову, а таксама бацькі вучняў і настаўнікі[98];

4) праект «Вялікае Княства Літоўскае — нашая супольная спадчына» — разам з Літоўскім домам культуры ў Пунску і Адукацыйным фондам Яцака Кураня. Праект быў рэалізаваны на працягу 2009 і 2010 гадоў і адрасаваны беларускай і літоўскай моладзі, якая жыве ў Беластоку і Пунску. Падчас супольных сустрэч моладзь знаёмілася з багатай спадчынай ВКЛ, удзельнічала ў майстар-класах па гісторыі, вывучала беларускія і літоўскія песні і танцы, вучылася народным рамёствам. У 2010 г. у рамках гэтага праекта беластоцкая моладзь мела нагоду і вялікі гонар удзельнічаць у майстар-класах з гуртом «Стары Ольса», а 11 ліпеня 2010 года вучні і «Стары Ольса» правялі супольны канцэрт у рамках святкавання 600-годдзя бітвы пад Грунвальдам[99];

5) тэатральны гурток «Гульня ў тэатр», які з 1997 года вядзе настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк, спектаклі ставяцца выключна на беларускай мове[100];

6) праект «Падляскія хронікі» — гэтая ідэя ўзнікла ў 2008 годзе і мела на мэце сабраць успаміны падляскіх беларусаў. Гісторыямі, пачутымі ад сведкаў падзей, што адбыліся на беластоцкай зямлі, вучні дзеляцца ў спектаклі «Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша», у якім можна пачуць расказы бабуль, дзядуляў, цётак і бацькоў вучняў. Кожны расказвае гісторыю сваёй сям'і на той мове, на якой яе пачуў;

7) Хрысціна Марчук напісала пра спектакль у «Слонімскай газеце»[101]. Апошні спектакль прайшоў у Тэатральнай акадэміі ў Беластоку ў сакавіку 2014 года[102];

8) «25 АБ–БА АРКЕСТР» узнік з нагоды юбілею — 25-годдзя Фестывалю Музыкі Маладой Беларусі «Басовішча»[103]. «25 АБ–БА Аркестр» — гэта 25 вучняў

[98] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=87

[99] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=43

[100] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=35

- [101] Хрысціна Марчук, *Па Падляшшы вандруе ўнікальны спектакль пра мясцовых беларусаў*, https://www.gs.by/2011/08/17/pa-padlyashshy-vandrue-unikalny-spektakl-pra-myastsovyh-belarusau/

[102] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=21

[103] «БАСовішча» — фестываль Музыкі Маладой Беларусі на Беласточчыне, які існуе з 1990 г. Ад пачатку арганізатарам з'яўляецца Беларускае аб'яднанне студэнтаў, потым у супрацы з

Пачатковай школы № 4 у Беластоку і музыкі з Гарадка і Міхалова пад кіраўніцтвам Паўла Азяблы. Мастацкім кіраўніком праекта з'яўляецца Лявон Вольскі — легендарны музыка, лідар такіх гуртоў, як «Мроя» і NRM, а апякункай дзіцячай групы — Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4. Задума праекта — Юрка Асеннік, вакаліст R.F. BRAHA і 0–85, суарганізатар многіх «Басовішчаў», аўтар шматлікіх графічных праектаў фестывалю. Кіраўнік праекта — Барбара Пякарская, суарганізатарка першых «Басовішчаў». «АБ–БА АРКЕСТР» выконвае песні-хіты апошніх 25 гадоў. З гуртом выступаюць: Лявон Вольскі, Ігар Варашкевіч, Аляксандр Памідораў, Юрка Асеннік і Хрыстафор Сяськевіч[104];

9) Беларускі ансамбль танца «Падляскі вянок», які ўзнік у кастрычніку 2015 г. Стваральніцай, інструктарам, харэографам і мастацкім кіраўніком гурта з'яўляецца Аксана Прус. Калектыў складаецца з трох узроставых груп: малодшай (дзеці 6–9 гадоў), старэйшай (дзеці 10–13 гадоў) і моладзевай (14–17 гадоў). Ансамбль налічвае каля 50 юных удзельнікаў, якія вывучаюць альбо вывучалі беларускую мову ў Пачатковай школе № 4 імя Сібіракоў у Беластоку. Штогод праводзяцца курсы і майстар-класы па класічным і народным танцы, сучасным танцавальным фальклоры, стрэтчынгу. На канцэртах адбываецца прэзентацыя традыцыйнай, рэгіянальнай беларускай культуры. Ансамбль атрымаў шмат міжнародных узнагарод у Польшчы, Беларусі, Балгарыі, Іспаніі, Італіі, Бразіліі, Украіне, Партугаліі, ЗША, Фінляндыі. У інтэрнэце ёсць спасылкі на запісы канцэртаў ансамбля[105].

Усе згаданыя вышэй праекты фінансуюцца рознымі ўстановамі і спонсарамі — напрыклад Міністэрствам унутраных спраў Польшчы, Упраўленнем Падляскага ваяводства, сродкамі ад войтаў, дырэктараў школ і фундатараў. Акрамя гэтага, «АБ–БА» — каардынатар ажыццяўлення стратэгіі развіцця асветы беларускай меншасці ў Польшчы (польск. *Strategia rozwoju oświaty mniejszości białoruskiej w Polsce*)[106], зацверджанай на ўзроўні Міністарства адукацыі Польшчы. У гэтым дакуменце можна знайсці статыстыку, гістарычныя факты і перспектывы развіцця беларускай асветы ў Польшчы.

---

Фондам Villa Sokrates. За час свайго існавання «Басовішча» стала месцам, дзе сустракаюцца маладыя людзі, для якіх важная добрая музыка і ідэя свабоды.

[104] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=113

[105] http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=141

[106] Гл. file:///C:/Users/Rados%C5%82aw%20Kaleta/Downloads/strategia_rozwoju_oswiaty_mniejszosci_bialoruskiej_w_PL.pdf

Прадстаўнікі Аб'яднання «АБ-БА» працуюць настаўнікамі ў пяці школах:

1) Самаўрадавае прадшколле № 14 з польскай і беларускай мовамі навучання, 15-466 Беласток, вул. Пілсудскага 20/4, e-mail: ps14@um.bialystok.pl;
2) Пачатковая школа № 4 імя Сібіракоў (тут знаходзіцца сядзіба Аб'яднання), 15-459 Беласток, вул. Чэнстахоўская 6а, e-mail: sp4@um.bialystok.pl;
3) Непублічная праваслаўная пачатковая школа імя Кірылы і Мяфодзія, 15-461 Беласток, вул. Варынскага 30, e-mail: sekretariat@szkolacim.pl;
4) Публічная гімназія № 7 імя кс. Станіслава Канарскага, 15-979 Беласток, вул. Столэчна 6, e-mail: pg7@um.bialystok.pl;
5) III Агульнаадукацыйны ліцэй імя К. К. Бачынскага, 15-042 Беласток, вул. Палацова 2/1, e-mail: 3lo@3lo.bialystok.pl.

Гэта не беларускамоўныя школы, а польскія школы з дадатковым вывучэннем беларускай мовы, значыць беларуская мова вывучаецца толькі як прадмет, а ўсе іншыя прадметы выкладаюцца на польскай мове. Напрыклад, Аліна Ваўранюк працуе ў школе ў Беластоку. Як яна сама сказала ў інтэрв'ю Радыё Свабода, «настаўнік беларускай мовы як мовы меншасьці — гэта чалавек, які працуе перш за ўсё сэрцам, а не галавою»[107]. Яна, несумненна, з'яўляецца менавіта такой настаўніцай. Аліна Ваўранюк — першая настаўніца, якая пачала вучыць беларускай мове дзяцей у школе з першага класа і вырашыла, што ў першым класе няма патрэбы і сэнсу пачынаць вучыць дзяцей кірылічнай азбуцы. Замест гэтага дзеці ў першым класе вучацца спяваць беларускія песні, развучваюць вершы, ладзяць розныя беларускія гульні і г. д. Паводле Аліны Ваўранюк, з аднаго боку, настаўнік павінен вялікую ўвагу ўдзяляць таму, чаму хочуць навучыцца самі дзеці, а з другога боку, вучыць дзяцей сучаснай беларускай мове, якой можна называць сучасныя з'явы, а не займацца толькі «земляробствам»[108]. У кожным класе на заняткі па беларускай мове адведзена 3 гадзіны ў тыдзень. У пятым і шостым класах можна яшчэ ўвесці прадмет пад назвай «гісторыя і культура нацыянальнай меншасці». Гэта 25 заняткаў у год. Няма строгай праграмнай рэгламентацыі таго, чаму настаўнікі павінны навучаць дзяцей на гэтых уроках, таму праграма навучання залежыць амаль выключна ад настаўніка[109]. Тры гадзіны беларускай мовы ў тыдзень — гэта няшмат, таму Аліна Ваўранюк адразу пачала весці заняткі ў тэатральным гуртку, бо яна лічыць, што самы эфектыўны мэтад працы з малодшымі дзецьмі — гэта якраз гульні

[107] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

[108] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

[109] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

і вучнёўскія тэатральныя пастаноўкі[110]. Апрача гэтага, яна даволі часта, як толькі надараецца нагода, водзіць вучняў на выставы сучасных беларускіх мастакоў у галерэі Arsenał у Беластоку, у гістарычны, або акруговы музей у Беластоку, або ў цэнтр імя Людвіка Заменгофа і там праводзіць урокі[111].

Дзякуючы Аб'яднанню «АБ–БА» вучні і настаўнікі могуць карыстацца рознымі цікавымі выданнямі, вокладкі якіх змешчаны ў сеціве[112]. Аліна Ваўранюк з'яўляецца аўтаркай падручнікаў па беларускай мове для вучняў пачатковай школы, але мусіць змагацца за кожнае новае выданне: «Выданне такіх падручнікаў фінансава падтрымлівае Міністэрства адукацыі і навукі. Але гэта складаны і доўгі шлях. Спачатку трэба такі падручнік напісаць ды знайсці выдавецтва, якое зробіць тэхнічны макет тэксту і ілюстрацый ды дашле праект падручніка ў міністэрства. Там да яго прыглядаюцца два рэцэнзэнты і пішуць свае заўвагі. Калі яны выданне ўхваляць, выдавецтва пачынае перамовы з міністэрствам наконт дафінансавання»[113].

Аднак у аўтаркі доўгі час былі сур'ёзныя праблемы знайсці выдавецтва, якое захацела б выдаваць беларускія падручнікі. Тады было прынята рашэнне, што такім выдаўцом будзе грамадская арганізацыя — Аб'яднаньне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АБ–БА». Яно выдала да 2022 г. дапаможнікі для 5-ці класаў[114]: «Сцэнар заняткаў па беларускай мове» для першага класа (які — паводле аўтаркі — не патрабуе падручніка), падручнік «Лемантар» і сшытак практыкаванняў для другога класа, падручнік «Кругагод»[115] для трэцяга класа, падручнік «Колазварот» для чацвёртага, падручнік «Блізкія словы» для пятага класа. Аўтарка мае намер атрымаць афіцыйную падтрымку польскага Міністэрства адукацыі і падрыхтаваць наступныя часткі гэтага падручніка для наступных класаў — у 2023 г. для 6-га, у 2024 г. для 7-га і ў 2025 г. для 8-га класа.

---

[110] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

[111] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

[112] Гл. http://www.ab-ba.com.pl/page.php?id=68

[113] https://www.svaboda.org/a/32015656.html

[114] У ***польскай адукацыйнай сістэме пачатковая школа ўключае класы 1–8***.

[115] Падручнік можна спампаваць на старонцы https://static.epodreczniki.pl/portal/f/res/R1Nit56UexVlO/1611742965/oumgMIHTf2PBCMq4Mp0d7bB8sRyAH4Rw.pdf

У гэтым артыкуле маецца на мэце коратка прааналізаваць два апошнія падручнікі Аліны Ваўранюк — «Колазварот» (2021) для чацвёртага класа і «Блізкія словы» (2022) для пятага класа.

Усе падручнікі маюць цікавае каляровае афармленне з малюнкамі, фотаздымкамі, якія адпавядаюць узросту вучняў. Ужо сам змест зроблены такім чынам, каб заахвоціць вучняў азнаёміцца з кніжкамі. Стуктура падручнікаў прадуманая і арыгінальная, бачна, што аўтарка рыхтавала матэрыялы не толькі галавою, але і сэрцам. Граматычныя дэфініцыі напісаныя простай мовай, зразумелай для дзяцей.

«Колазварот» (2021) «Блізкія словы» (2022)

Аўтарка выкарыстоўвае сучасныя матэрыялы, літаратурныя тэксты, казкі, апавяданні, песні і вершы як вядомых беларускіх аўтараў (сярод іх можна знайсці наступныя прозвішчы: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Паўлюк Трус, Змітрок Бядуля, Уладзімір Дубоўка, Алесь Якімовіч, Алесь Ставер, Ларыса Геніюш, Валянціна Пашкевіч, Клаўдзія Каліна, Рыгор Барадулін, Антон Бялевіч, Кастусь Цвірка, Леанід Дайнека, Васіль Жуковіч, Алена Церашкова, Мар'ян Дукса, Васіль Вітка, Васіль Зуёнак, Васіль Жуковіч, Анатоль Клышка, Юрась Свірка, Хведар Гурыновіч, Леанід Шырын, Іван Аношкін, Васіль Хомчанка, Мікола Чарняўскі, Станіслаў Шушкевіч, Мікола Гайдук, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк, Мікола Маляўка, Ганна Сілівончык, Артур Вольскі, Віктар Гардзей, Уладзімір Ягоўдзік, Міхал Анемпадыстаў, Людміла Рублеўская, Андрэй Федарэнка, Наталля Бучынская, Віктар Шалкевіч, Лявон Вольскі, Сяржук Сокалаў-Воюш, Зміцер Сасноўскі, Андрэй Хадановіч, Надзея Ясмінска і шмат іншых), так і прадстаўнікаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы (напр. Алесь Барскі,

Віктар Швед, Надзея Артымовіч, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк, аўтары «Нівы» — тыднёвіка беларусаў у Польшчы[116]) — усё гэта заклікана дапамагчы дзецям вучыцца і пазнаваць прыгажосць беларускай мовы і навакольнага свету. Акрамя гэтага, ёсць пераклады тэкстаў замежнікаў, напр. Януша Корчака (Польшча) або Юлія Ванага (Латвія).



Якуб Колас

За навуку

Заціхаюць гоні і даліны,
Павучкі наткалі павуціны

Ды развесілі на сонцы
Свае белыя красёнцы.

Кончыліся, дзеці, вашы гульні
Каля светлай рэчкі, каля пуні,

І на жоўценькім пясочку,
І ў зялёненькім лясочку.

Пахавайце вуды, стрэлы, лукі,
Прыступіце, дзеці, да навукі,

Каб было ўсё акуратна,
Каб вучыцца на "выдатна".

Дык павучымся ж мы зімку шчыра;
Вясна вернецца, а з ёю – вырай,

Зноў мы слаўна пагуляем,
Свежых ягад назбіраем.

1. Дзе ты правёў / правяла свае канікулы?
2. Чым ты займаўся / займалася ўлетку?

6



Вывучы словы песні

Віктар Швед

Мая маленькая айчына

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што праляглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты –даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе – сумую.
Убачу – дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

110

**«Колазварот» (2021)**

У падручніках вялікая ўвага засяроджваецца на фарміраванні патрыятызму ў вучняў — менавіта з гэтай мэтай выкарыстоўваюцца патрыятычныя вершы і песні пра Беларусь і малую айчыну Беласточчыну, напр. «Мой народ» (Алесь Ставер, «Колазварот», с. 106), «Мая маленькая айчына» (Віктар Швед, «Колазварот», с. 110), «Я — беларус» (Сяргей Законнікаў, «Колазварот», с. 111), «Песенька патрыятычнага Бусла» (Леанід Дранько-Майсюк, «Колазварот», с. 114), «Я нарадзіўся беларусам» (Віктар Швед, «Блізкія словы», с. 43), «Беласточчына» (Віктар Швед, «Блізкія словы», с. 44), «Беласток» (Віктар Швед, «Блізкія словы», с. 56), [«*Прысвячаю Бельску*»] (Надзея Артымовіч, «Блізкія словы», с. 52), «Пагоня» (Максім Багдановіч, «Блізкія словы», с. 138), «Белае Падляшша» (Міхась Андрасюк, «Блізкія словы», с. 188) і бел-чырвона-белая сімволіка (сцяг і Пагоня), «Колазварот», с. 106-107, 111.

Апрача патрыятызму, падручнікі папулярызуюць экалогію і здаровы лад жыцця, заахвочваюць вучняў клапаціцца пра прыроду і жывёл, пра свае рэчы (кніжкі,

[116] http://niva.bialystok.pl/

сшыткі), а таксама пра сваё здароўе, напр. паказваюць, як правільна харчавацца. Вучні могуць знайсці рэцэпты, як самастойна зрабіць натуральны здаровы напітак з фруктаў (рэцэпт яблычнага ўзвару, «Колазварот», с. 21), як садзіць расліны і высаджваць маладыя дрэўцы. У падручніках можна знайсці розныя парады, напр. «Чытай, вучыся і памятай: кожнае, нават найбольш захапляльнае падарожжа пачынаецца з самага блізкага: простых слоў, звычайных рэчаў, сістэматычнай працы» («Колазварот», с. 3). Тэмы ў падручніках вельмі розныя, напр. канікулы, поры года і надвор'е, святы (у тым ліку Каляды, Вялікдзень, Дзяды, Валянцінкі), малая айчына (Беласточчына, горад Беласток, Краснагруда, Белавежская пушча), інтэрнэт, жывёлы, прафесіі, адукацыя, вусная народная творчасць і песні, прыказкі, легенды, фальклор. Пры кожнай тэме ёсць тэксты, песні, казкі, якія дапамагаюць засвоіць матэрыял у сучаснай форме.


Алесь Ставер

**Мой народ**

Мой народ праз стагоддзі пранёс дабрату,
Да суседзяў-народаў павагу.
Знае свет навакольны яго прамату,
І любоў да жыцця, і адвагу.

І заўсёды ў віхурах вякоў і нягод,
У зямной непагодзе суровай,
Вылучыла між іншых мой мужны народ
Беларуская родная мова.

Мой народ зберагае сваю даўніну.
Кожны нашай гісторыі знаўца
Добрым словам успомніць не раз Скарыну
І пахваліць за мудрасць Мсціслаўца.

Каліноўскага імя навокал гучыць,
І Купалы і Коласа слова, –
Навучыла іх край беларускі любіць
Беларуская родная мова.

Дык чаруй жа людзей паміж моваў другіх
І гучы вечна ярка і нова,
Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх –
Беларуская родная мова!

106


Зміцер Сасноўскі

Вывучы словы песні

**Літвін**

Ехаў Літвін ды па Сініх Водах
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Меч крывавячы.

Ходзіў Літвін ой ды па Грунвальду
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Чэпам граючы.

Гойсаў Літвін ой ды па Крапіўне
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Дзідай джалячы.

Скокаў Літвін ой ды пад Смаленскам
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Шабляй рубячы.

Кляўся Літвін у святой Дуброве
На старым мячы,
На старым мячы
Чужынцаў сячы.

104

**«Колазварот» (2021)** **«Блізкія словы» (2022)**



Рыгор Барадулін

**Інтэрнэт**

Ёсць павук нябачны, быццам сон.
Павуцінаю няўлоўнай ён

Абвівае шар зямны з імпэтам.
Той павук завецца інтэрнэтам.

Што было, што ёсць,
Што будзе ў свеце –
Звесткі ёсць пра ўсё ў інтэрнэце.

З дому не выходзячы нікуды,
Можаш слухаць птушак, буццам цуды.

Ні пяра не трэба, ні паперы
Сябру ліст прыслаць. Нячутна ў дзверы

Грукнецца нябачны паштальён,
Ліст у той жа міг уручыць ён.

Слухай інтэрнэт, чытай, пішы –
Але й сам мазгамі варушы.



31



**Ткацкія вырабы**

Сыравінай для ткацтва здаўна служылі лён, воўна, радзей пянька. Усе працэсы, звязаныя з апрацоўкай сыравіны і падрыхтоўкай яе да ткання, выконваліся ўручную, у хатніх умовах. Звычайна гэта была жаночая работа. Кужэльнае палатно ткалі для вырабу адзення. Тканіны для інтэр'ера былі больш разнастайнымі.

Асаблівай прыгажосцю вылучаліся ручнікі, абрусы, макаткі, дэкаратыўныя посцілкі.

Ганна Кандрацюк



33

**«Колазварот» (2021)** **«Блізкія словы» (2022)**

Падручнікі Аліны Ваўранюк паказваюць вучням свет каштоўнасцяў, супрацоўніцтва, салідарнасці, патрыятызму і павагі да традыцый. Яны ўзмацняюць пачуццё індывідуальнай, культурнай, нацыянальнай, рэгіянальнай і этнічнай тоеснасці, развіваюць кампетэнтнасць, напрыклад, крэатыўнасць, інавацыйнасць, прадпрымальнасць, а таксама ўменні разважаць, аргументаваць, рабіць высновы на падставе фактаў, думаць лагічна і крытычна. Абуджаюць цікавасць да пазнання і матывацыю да навукі. Падручнікі ўводзяць у свет беларускай літаратуры, культуры, у рэаліі жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Фарміруюць пашану да роднае мовы і культурна-моўнай спадчыны Падляшша — малой айчыны вучняў. Дзякуючы гэтым выданням дзеці змогуць навучыцца не толькі гаварыць пра штодзённае жыццё (школа, дом і г. д.), але таксама ведаць і разумець беларускія літаратурныя творы і іншыя тэксты, важныя для фарміравання нацыянальнай тоеснасці, ведаць і разумець асновы нацыянальнай культуры (героі, падзеі, сімвалы, легенды і г. д.), а таксама асноўныя факты з жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Дзейнасць аб'яднання «АБ-БА» і падручнікі Аліны Ваўранюк, несумненна, не толькі даюць магчымасць атрымаць выдатныя веды, але таксама ўзбагачаюць вучняў духоўна, што паспрыяе таму, што ў дарослым жыцці яны будуць больш талерантнымі і творчымі, больш актыўнымі ды адкрытымі свету і ахвотнымі да працы. Яны ўжо ствараюць будучыню беларускага свету і стануць неад'емнай часткай новай беларускай нацыянальнай эліты.

**Radaslau Kaleta** (*Warsaw, Poland*): **“The Belarusian Language, Literature and Culture in Latest Textbooks for Belarusian Children of Padliasha (Poland) Published by the AB-BA Coalition”**
***(webzine “Kultura. Natsyja”, issue 30, November 2022, 133-145, www.sakavik.net )***

Abstract. The article "Belarusian language, literature and culture in the latest textbooks for children of Belarusians in Podlasie (Poland), published by the Association "AB-BA" shows the activities and educational achievements of the public organization "AB-BA". The author also analyzes the last two textbooks of Alina Vauranjuk - "Kolazvarot" (2021) for the fourth grade and "Blizkija slovy" (2022) for the fifth grade - in which a lot of attention is focused on the formation of patriotism in students. All textbooks by Alina Vauranjuk introduce you to the world of Belarusian literature, culture, and the reality of the life of the Belarusian national minority in Poland. Respect for the native language and cultural-linguistic heritage of Podlasie, the small homeland of the students, is formed.

**Радаслав Калета (Варшава, Польша): беларусский язык, литература и культура в новейших учебниках для детей белорусов Подлясья (Польша), изданных ассоциацией «АБ-БА»**
***(веб-журнал “Культура. Нация”, вып. 30, ноябрь 2022, 133-145, www.sakavik.net )***
*Резюме*. В статье «Белорусский язык, литература и культура в новейших учебниках для белорусских детей Подлясья (Польша), изданной Ассоциацией «АБ-БА», показаны деятельность и воспитательные достижения общественной организации «АБ-БА». Также автор анализирует два последних учебника Алины Вавранюк - «Колазварот» (2021) для четвертого класса и «Близкие слова» (2022) для пятого класса, в которых большое внимание уделяется формированию патриотизма у учащихся. Все учебники Алины Вавранюк знакомят с миром белорусской литературы, культуры и реалиями жизни белорусского национального меньшинства в Польше. Формируется уважение к родному языку и культурно-языковому наследию Подлясья, малой родины студентов.

**Paterson Franco Costa** (*Salvador - Bahia, Brazil*)**: Belarusian Studies in Brazil - Challenges and Perspectives**



*About the author:* Paterson Franco Costa is an adjunct professor at the Federal University of Bahia, Brazil, where he defended both his Master's and Doctor's dissertations about Belarus. He has several publications on Belarusian language, culture and politics. Together with Volha Yermalayeva Franco, he has organized events, created and translated content to raise awareness of the public on Belarus's struggle for freedom and democracy. His main interests are: Postcolonial Cultural Studies, Intersemiotic Translation, and Audiovisual Translation.

*Пра аўтара*: Патэрсан Франко Коста - ад'юнкт-прафесар Федэральнага ўніверсітэта Баія, Бразілія, дзе абараніў магістарскую і доктарскую дысертацыі пра Беларусь. Мае некалькі публікацый пра беларускую мову, культуру і палітыку. Разам з Вольгай Ермалаевай Франко арганізоўваў мерапрыемствы, ствараў і перакладаў кантэнт для прыцягнення дасведчанасці грамадскасці аб барацьбе Беларусі за свабоду і дэмакратыю. Асноўныя інтарэсы: посткаланіяльныя культуралагічныя даследаванні, інтэрсеміятычны пераклад і аўдыёвізуальны пераклад.

*Abstract*. This paper aims to summarize the academic, artistic and literary production that the author has produced on the theme of Belarus for Brazilian audiences, while reflecting on the challenges and the perspectives along the way. For this purpose, a corpus of 2 monographs, 2 books, including 1 translation, 4 articles, 6 presentations in scientific events, and 2 artistic/literary events was selected, covering a period of approximately 7 years (2015-2022). The main challenges are related to the cultural and political distance between Belarus and Brazil, which is deconstructed and analyzed from the viewpoint of Postcolonial Cultural Studies (PCS). As this is an interdisciplinary, multilateral field of research, the perspectives are equally rich and varied, especially: the inclusion of the post-Soviet space as an area of interest within PCS; lessons on coloniality and political backwardness; cultural appropriation within the same ethnicity; language and identity as means for civil resistance, among others. The theoretical framework includes sources from Belarus and beyond, such as Akudovich, Arlou, Bekus, Bykau, Bernardino-Costa, Bhabha, Fanon, Foucault, Franco, Grosfoguel and Oyewumi. The results thus far point to a breakthrough in Brazilian academic studies on Belarus, raising awareness on topics related to its language, culture and civil rights.

*Keywords*: Belarus, Brazil. Postcolonial studies, Translation, Intersemiotics

**Анатацыя**. Гэтая праца мае на мэце абагульніць акадэмічны, мастацкі і літаратурны набытак, створаны аўтарам на тэму Беларусі для бразільскай публікі, адначасова разважаючы пра праблемы і перспектывы на гэтым шляху. Для гэтага быў абраны корпус з 2 манаграфій, 2 кніг, у тым ліку 1 пераклад, 4 артыкулаў, 6 выступаў на навуковых мерапрыемствах і 2 мастацкіх / літаратурных мерапрыемстваў, якія ахопліваюць перыяд у прыкладна 7 гадоў (2015-2022). Асноўныя выклікі звязаны з культурнай і палітычнай дыстанцыяй паміж Беларуссю і Бразіліяй, якая дэканструюецца і аналізуецца з пункту гледжання посткаланіяльных культурніцкіх даследаванняў (ПКД). Паколькі гэта міждысцыплінарная, шматбаковая галіна даследаванняў, перспектывы аднолькава багатыя і разнастайныя, асабліва: уключэнне постсавецкай прасторы ў якасці вобласці інтарэсаў у ПКД; урокі каланіяльнасці і палітычнай адсталасці; культурнае прысваенне ў межах адной этнічнай прыналежнасці; мова і ідэнтычнасць як сродкі грамадзянскага супраціву, сярод іншага. Тэарэтычная аснова ўключае крыніцы з Беларусі і за яе межамі, такія як Айевумі, Акудовіч, Арлоў, Бекус, Бернардзіна-Коста, Бхабха, Быкаў, Грасфогель, Фанон, Франко і Фуко. Атрыманыя вынікі паказваюць на прарыў у бразільскіх акадэмічных даследаваннях Беларусі, падвышэнні дасведчанасці ў тэмах, звязаных з яе мовай, культурай і грамадзянскімі правамі.

Ключавыя словы: Беларусь, Бразілія. Посткаланіяльныя даследаванні, пераклад, інтэрсеміётыка

## 1. INTRODUCTION

*One of the ways to exercise autonomy is to have a discourse about oneself.*

*Neusa Santos Souza (1983, p. 17)*

Brazil and Belarus may seem like distant countries – which is true, geographically speaking – but they do share many similarities. Both have a colonial past which translates into current coloniality, that is, they predominantly speak the language of their former colonizers, profess their religion and, consequently, share their worldviews, at least to some extent. This situation often results in a colonial discourse that silences the voices of the colonized even after independence, that is, collective imagination tends to pull the former colony closer to its former metropolis. To fully exercise autonomy, then, a newly established country needs to craft its own narrative, a discourse about itself.

As we shall see in the next sections, one of the main challenges for Belarusian studies anywhere is to see the nation from its own perspective(s). Therefore, overcoming this scenario is crucial in the research conducted by the author, Paterson Franco Costa, with important contribution from Volha Yermalayeva Franco, who represents the Belarusian diaspora in Brazil and has conducted research on Belarusian heritage and discourse analysis. To reflect on the challenges and perspectives of Belarusian studies in Brazil, this paper primarily deals with the academic production I have published on Belarusian topics for the Brazilian audience, covering a period of approximately seven years (2015-2022). The corpus is composed of two monographs, two books, including one translation, four articles, six presentations in scientific events, and two artistic / literary events.

This paper was originally presented at the conference "Belarusian nation through the eyes of the diaspora and compatriots", held by the Belarusian Institute of Science and Art (BINIM, Canada) and the webzine "Culture. Nation", on Nov. 12, 2022. The slides from the presentation can be found in Attachment A.

## 2. CHALLENGES

A quick search on Lattes, an online platform maintained by CNPq – Brazil's National Council for Scientific and Technological Development – shows us a relatively small number of studies on Belarus conducted in the country, since the 1990s. Approximately 73, in total, most of which are dedicated to politics and international relations (Figure 1).

**Figure 1 – Studies on Belarus conducted in Brazil**. The keywords used were "Belarus" and the dated forms "bielorrussia", "bielorrusso" and "bielorrussa". Our own research, studies on Belarusian persons and related topics are not included. *Source*: own elaboration




It is worth pointing out that few of those studies are solely dedicated to the country of Belarus. Literature review and further research would be necessary to give precise numbers, but it is safe to say that most people outside Belarus, including researchers, are more concerned about the region, rather than the country individually. Furthermore, lack

of investments in education prevents additional research on Belarusian-related topics. As such, we can think of three main challenges for Belarusian studies in Brazil:

1. Political and historical distance. Contrary to what one might expect, I would argue that geography and culture are not the main divide between our countries. Internet, mass communication, and fast transportation have made geographical boundaries less relevant than ever. Nowadays it is cheaper and even faster to travel from Salvador to Paris than from Salvador to Belém, in northern Brazil. We may not speak a Slavic language, but hundreds of thousands of Brazilians, if not millions, share some degree of Slavic ancestry. Some notorious examples are former presidents Kubitschek and Rousseff. Politically and historically speaking, though, the divide set by the Iron Curtain is still somewhat felt, as we orbit different, opposing, spheres of influence.

2. Regional vs. National issues. As I mentioned before, research on Belarus quite frequently focuses on regional issues, not on the country itself. This translates into arguably superficial studies that reinforce stereotypes of Belarus as part of a larger entity, not a sovereign state, often ignoring what its people have to say. Even when the study concentrates on Belarus, the sources applied are usually from elsewhere. To make matters even more precarious, foreign sources are often related or even directly originated from the former metropolis, not to mention the lack of credibility that the regime itself has been experiencing, particularly after the 2020 electoral fraud protests.

3. Lack of investments in education. Brazil is an extremely unequal country. Higher education is still a luxury many cannot afford, a reflection of a colonial, racist agenda that serves the interests of a small elite. Therefore, as the socioeconomic gap has been growing in Brazil in the last decade, cuts in the state education budget are increasingly common. Consequently, partnerships and study programs with politically closer and wealthier nations are often prioritized. Points 1 and 2 also tend to play a role here, since they make it structurally more difficult to back research initiatives related to politically distant countries and unusual subjects.

## 3. THE CORPUS

Creating a discourse about oneself is to build a space for one's own identity to live on. As such, reflections on the corpus presented here draws inspiration from the concept of auto biogeography as a decolonial methodology proposed by Rodrigues (2017). This concept envisions the production of (counter) narratives that complement, question, and deconstruct the established discourses.

Belarus is a case in point. In a previous article (COSTA, 2021), I sustained that the central problem regarding Belarusian identity has to do with the coloniality of the current regime, which is itself based on a flawed discourse rooted in a distorted history written from the

perspective of a defunct state. Hence the idea of 'weakness' many scholars and laypeople often attribute to the Belarusian nation.

In this context, an auto biogeographic study of a corpus written / organized by a Brazilian scholar in partnership with a Belarusian scholar and activist out of the regime's reach may offer the audiences a unique perspective on how things could and certainly can be different. More than identifying the authors, though, this decolonial methodology points to the fragility of the so-called dominant discourses, as they are made by people, with their own interests and limitations, no matter how 'neutral' and 'truthful' they claim to be.

The corpus mentioned in section 1 is briefly presented in the next subsections. As the studies and events have been published / organized in Portuguese, most of the title translations are merely informative. Results and impacts caused are highlighted, providing some of the perspectives for future research debated later.

### 3.1 MONOGRAPHS

I have successfully defended one Master's Degree thesis (2017) and one Doctoral dissertation (2022) about Belarus, both at the Institute of Letters, UFBA – Federal University of Bahia, Brazil. The thesis, called *Cinema em exílio: Tradução e política na Belarus pós-soviética* (lit. 'Cinema in exile: Translation and politics in post-soviet Belarus') analyzes the intersemiotic relations between Franak Viachorka's *Армейскі Дзёньнік* (lit. 'Army Diary') and the film *Viva Belarus!* (2012). The analysis of both works provides a unique opportunity for the Brazilian audience to understand the political scenario of Belarus after gaining independence and how coloniality has made it lose much of the progress it had made in the first 4-5 years.

The dissertation, called *A tradução de múltiplas línguas de partida na legendagem de Viva Belarus!* ('The translation of multiple source languages in the subtitling of *Viva Belarus!*') concentrates on the translation of the film's subtitles, also an endless source of reflections on the history, culture and power dynamics that have shaped the country. As its narrative encompasses a total of eight languages, including Trasianka, we deemed it necessary to show which languages are being spoken by whom, where, and when, to facilitate comprehension. As a result, I devised a way to display the languages being spoken with reduced intrusion, relying on ISO 639-3 language abbreviations.

The discussion covered a wide range of topics, including history, linguistics, postcolonial studies, translation, philosophy, sociology, and economy, including sources from Belarus and beyond, such as Valiantsin Akudovich, Uladzimier Arlou, Nelly Bekus, Vasil Bykau, Joaze Bernardino-Costa, Homi Bhabha, Frantz Fanon, Michel Foucault, Volha Franco, Ramón Grosfoguel and Oyèrónkẹ́ Oyěwùmí.

3.2 BOOKS / PUBLICATIONS

In 2020, at the time of Belarus' largest protests against electoral fraud, I published my Master's Degree research as a book. *Cinema em Exílio* (COSTA, 2020a), which analyzed facts from a decade prior, was then earily relevant: a candidate who became famous as a blogger is persecuted by the regime. His companion then travels across the country in protest, generating even wider repercussions. That is the plot of both *Viva Belarus!* and the history of Siarhei Tsikhanouski and Sviatlana Tsikhanousaya. The protests made into worldwide news and the book served as a reference for several discussions and events in which Volha and I participated.

Flash forward two years and the situation in Belarus has mostly changed for the worse. This also means our work has increased. Translating news, articles and documents within initiatives related to the People's Embassies of Belarus worldwide has become one of our central occupations. In this context, I helped translate and review the ebook *Галасы Супраціву | Vozes da Resistência* ('Voices of the Resistance', GOLETS et al., 2022), in partnership with São Paulo state's Memorial da Resistência, member of the International Coalition of Sites of Conscience. The publication consists of poems written by political prisoners in Belarus and aims to raise awareness on the countless human rights violations perpetrated by Lukashenka's regime. The poems, translated into Portuguese, have reached a wider audience, amplifying the voice of those who the regime desperately tries to silence.

3.3 ARTICLES

As this paper focuses on Belarusian studies in Brazil, four articles were selected, all in Portuguese, published between 2021 and 2022:

- *Transliteração de topônimos e nomes próprios de belarusso para português* ('Transliteration of Toponyms and Proper Names from Belarusian into Portuguese');
- *A tradução da linguagem vulgar russa (mat) na legendagem do filme Viva Belarus!* ('The translation of Russian vulgar language (*mat*) in the subtitling of *Viva Belarus!*');
- *Rock como tradição e resistência em Belarus: tradução e legendagem de canções belarussas para português*, translated into English and published in Culture. Nation as *Belarusian rock in Portuguese: Translating protest and hope in the film "Viva Belarus!*;
- *Quem fala trasianka? Tradução e hibridismo linguístico em Belarus* ('Who speaks Trasianka? Translation and linguistic hybridism in Belarus').

Some of the highlights: Published in 2022 by one of the oldest and most renowned Brazilian journals in existence, the Brazilian Journal of Geography, maintained by the

Brazilian Institute of Geography and Statistics (IBGE), our article on the transliteration of toponyms and proper names from Belarusian into Portuguese brings a literature review on transliteration systems and proposes a standard for the Portuguese language, the first of its kind. Additionally, we also present an online tool (textmust.com/translit) which offers automatic transliteration from Belarusian into several European languages, including English, French, German, Italian, Polish (MSWiA and PWN) and Spanish, besides Belarusian Latin script (Łacinka) and the official standard adopted by the United Nations Group of Experts on Geographical Names (UNGEGN). The transliteration of Belarusian names into English in this paper is made using that tool.

Also published in 2022, the article on the use of *mat*, the Russian vulgar language, is the first of its kind in a Brazilian journal. Derived from my PhD research, it analyzes the use of foul language as a weapon of the regime, which utilizes it to accuse, arrest and demoralize civilians and dissidents, who are forbidden to speak it. In *Viva Belarus!*, *mat*, or what late Belarusian scholar Adam Maldzis would call *matatrasianka*, i.e., Russian *mat* with Belarusian elements, is extensively used by the army to bully and constrain soldiers, making the barracks a particularly hostile environment for Belarusian speakers. In this context, Belarusian rock 'n' roll is the main musical expression to protest the regime, for which I dedicated a whole article that I later translated into English and published at Culture. Nation as *Belarusian rock in Portuguese: Translating protest and hope in the film "Viva Belarus!"* (both in 2021).

Speaking of Trasianka, the mixture of Belarusian and Russian languages, the article published in 2021 also comes from my dissertation and deals with the social and political aspects of this linguistic phenomenon often marginalized and ridiculed. The apparently simple question 'Who speaks Trasianka?' has no easy answer. Depending on the criteria – which, as Belarusian philologists Nina Miachkouskaya and Tatsiana Ramza point out, do not really exist – everyone in Belarus speaks it or just a tiny fraction of its population does, especially rural residents with little education. As shown in *Viva Belarus!*, Trasianka is a sociolinguistic phenomenon that has potential to bring its speakers closer to Belarusian or Russian languages, the latter being favored by the regime, which has practically set a caste system, providing career opportunities and better pay to those who best parrot the language of the empire. In ideal conditions, though, the opposite should happen, as I argue in the article. In other words, the national language should be favored and Trasianka, identifiable as linguistic resistance towards colonization, means there is still hope.

### 3.4 PRESENTATIONS AT ACADEMIC EVENTS

The research mentioned in the previous sections has been presented to the Brazilian audience at the following events:

- II Pan-American International Symposium on Toponymy;
- UFBA Virtual Congress 2020 / 2021;
- XIII SEPESQ – Letters Students Research Seminar;
- Poliglotar – Polyglot conference;
- VIII SELLES – Foreign Languages and Literatures Seminar.

One notable exception is the video poster presented at UFBA's 2021 Virtual Congress, on the topic 'Polish mother and bureaucrat father: Sociolinguistic dynamics of Polish translation in Belarus' (*Mãe polonesa e pai burocrata: dinâmicas sociolinguísticas da tradução de polonês em Belarus,* in Portuguese). In that presentation, I spoke about the translation of Polish in *Viva Belarus!*, from which I made some reflections on the historical ties between Belarus and Poland. One particularly interesting aspect of my research points to the common idea that a Belarusian Pole is, in fact, a Catholic Belarusian and not a member of the Polish ethnicity. Nevertheless, as Belarusian-Polish activist Andrei Pachobut, one of the thousands of political prisoners in the aftermath of the protests of 2020, numbers in the census conducted by the regime are just as manipulated as the outcome of the so-called presidential elections.

## 3.5 ARTISTIC / LITERARY EVENTS

In 2015, Volha, her mother Yuliya Yermalayeva, and I organized an art exhibition called *Salvador de Belarús* (the accent was included as a way to reinforce adequate pronunciation). It showcased wood carvings inspired by Belarusian themes, such as seasonal festivals (see Attachment A) Belarusian dolls and gravures that played with motifs from both Belarus and Brazil. One of Volha Franco's wood carvings, in fact, has featured on the cover of "Culture. Nation" #28.

As adjunct professor at UFBA's Institute of Letters, I helped organizing the Night of Executed Poets 2022, in which we invited the public to read poems written by authors executed by Stalin's secret police agents in the night of October 29-30, 1937, in addition to poems written by current political prisoners, which point to the continuity of colonial oppression in the country even after the end of Soviet rule. The texts have been translated into all modern foreign languages offered in the Institute's undergraduate courses: English, French, German, Italian and Spanish, besides our translations into vernacular Portuguese. Such initiative has proven remarkably relevant in times of political crisis in Brazil, considering the outgoing government's close ties with the former Military dictatorship that ruled Brazil during most of the Cold War.

**4. PERSPECTIVES**

Having considered our research and participation / organization of events related to Belarusian issues in Brazil in the recent years, we can come up with some perspectives for future studies and projects, especially:

1. The inclusion of the post-Soviet space as an area of interest within Postcolonial Cultural Studies (PCS);

2. Lessons on coloniality and political backwardness;

3. Cultural appropriation within the same ethnicity;

4. Language and identity as mean for civil resistance.

As I argue in my dissertation, postcolonial cultural studies are an area that originated in the aftermath of decolonization and has since then been expanded to cover subjects even in countries such as Brazil, which has been formally independent for two hundred years. Having gained independence even more recently, the former 15 Soviet republics can be considered an enormous area of interest for PCS, just as regions such as the Caribbean, South Asia and Western Africa have already become. This has not been the case, however, mostly due to the common belief that those republics were not colonies, in the sense that they were not separated from the metropolis by oceans, like other parts of the world. Nonetheless, backed by the theory of scholars like Benedict Anderson, colonialism and imperialism can be considered the same phenomenon of global oppression, excluding geographical differences.

Concerning lessons on coloniality and political backwardness, Belarus is, in many ways, a cautionary tale to the rest of the world: democracy is fragile and progress in human rights should never be taken for granted. From an auto biogeographic standpoint, the Belarusian people has managed to achieve what many indigenous peoples in the Americas and elsewhere can barely dream of: gaining independence and establishing their own nation state with their language as the sole official. Nonetheless, the Belarusian language today has been labeled by UNESCO (2010) as threatened and census data show its use has plummeted to figures lower than those registered in Soviet times. The political scenario is a near-complete autocracy that has *de facto* reinstated Kremlin rule.

In relation to point 3, cultural appropriation within the same ethnicity is a phenomenon that may not be unique to Belarus but certainly offers its local nuances visible through discourse analysis. As I have argued in my monographs, the Belarusian dictator has all but formally banned his own mother tongue because he still needs it to remain the head of a sovereign state, if only nominally, rather than a provincial governor, at best. As such, the regime has a convoluted relation with dissidents, from whom they have taken ideas and initiatives related to preserving the national language, identity, and heritage, modifying them to fit

Капелан – вайсковы святар у арміі, святар пры капеле.
Кардынал – другі пасля папы пымскага тытул у іерархіі каталіцкай царквы. Кардыналы прызначаюцца папам.
Кашавы атаман – кіраўнік вайсковага атрада (каша) у казацкім войску.
Кашталян – прыдворная пасада. Загадваў замкам, выконваў пэўныя судовыя абавязкі.
Крайчы (каронны ці літоўскі) – прыдворны чын, ганаровая пасада.
Ксёндз – каталіцкі святар.
Лаўнік – службовая асоба ў магістраце.
Лоўчы – службовая асоба пры двары, які займаўся арганізацыяй паляваннаў.
Маршалак – вышэйшае прыдворнае званне, кіраваў дваром вялікага князя, загадваў прыдворнай вартай і каралеўскай гвардыяй, прызначаў дваран. Былі таксама маршалкі гаспадарскія, павятовыя, дворныя, сеймавыя, дворскія, трыбунальскія, Маршалкамі называлі нават старшых у класах езуіцкіх вучылішчаў. Выбіралі маршалкаў і канфедэраты.
Мечнік – прыдворная пасада ў Польшчы і ВКЛ, у час урачыстасцей нёс перад манархам аголены меч як сімвал вайсковай улады.
Нунцый – пастаянны дыпламатычны прадстаўнік папы рымскага ў другіх краінах.
Падскарбі – службовая асоба ў Польшчы і ВКЛ, дзяржаўны казначэй.
Падстолі – прыдворная пасада ў Польшчы і ВКЛ.
Падчашы – прыдворная пасада ў Польшчы і ВКЛ пры каралеўскіх і княскіх дварах, намеснік стольніка. У Х1Х ст. ганаровае званне. Падчашых прызначаў кароль. каштаваць стравы перад тым, як іх пададуць князю. Пасада лічылася надзвычай ганаровай, яе мелі права насіць толькі прадстаўнікі магнацкіх родаў. Да тытула падчашага дадавалася назва мясцовасці, часам не абавязкова з тагачаснай польскай дзяржавы, але і з яе ранейшых уладанняў.
Пісар – службовая асоба, кіраваў справаводствам, вёў дакументацыю ў судзе.
Пробашч – кіраўнік парафіі, настаяцель парафіяльнага касцёла. Парафія – ніжэйшая тэрытарыяльная адзінка, якая аб’ядноўвае каталіцкіх вернікаў, што належаць да пэўнага каталіцкага касцёла, тое, што і прыход. На тэрыторыі парафіі акрамя парафіяльнага (фарнага) касцёла існуюць і філіяльныя касцёлы, капліцы.
Прымас – тытул у каталіцтве, першы сярод біскупаў.
Прэлат – тытул арцыбіскупа, біскупа і канонікаў у каталіцтве.
Прэфект – вышэйшая ўрадавая пасада ў правінцыі, акрузе.
Радца – службовая асоба ў гарадскім самакіраванні.
Рэгент – службовая асоба ў судзе. У павятовым судзе рэгент займаўся разборам спраў, звязаных з уладаннем зямлёй. Другое значэнне гэтага слова – кіраўнік царкоўнага хору.
Рэгіментар – часовы кіраўнік войска, намеснік гетмана, камандуючы войскам шляхты ў часы канфедэрацый.

Сенатар – прадстаўнік невыбіраемай часткі сейму.
Сіндзік – член сінода.
Скарбнік – службовая асоба ў ВКЛ, памочнік падскарбія.
Солтыс – вясковы стараста, намеснік феадала ў вёсцы або памесці, займаўся зборам падаткаў.
Стольнік – прыдворная пасада ў ВКЛ. Загадваў сервіроўкай вялікакняскага стала, кіраваў падстоліямі.
Стражнік (польны, вялікі, павятовы) – прыдворная пасада, прызначаўся гетманам, зацвярджаўся каралём. Па службовай пасадзе павятовыя стражнікі выконвалі паліцэйскія функцыі ў павеце.
Суддзя земскі і градскі – службовая асоба, уваходзіў у склад судовых органаў, выконваў функцыі правасуддзя.
Суфраган – памочнік біскупа.
Харунжы (надворны, павятовы) – ніжэйшы афіцэрскі чын у ВКЛ, шляхецкая прыдворная пасада.
Цівун – служачы ў маёнтку.
Чарнец – тое самае, што і мніх.
Чашнік – прыдворная пасада. Павінен быў наліваць вялікаму князю пітво, якое падносіў падчашы.
Шамбелян – прыдворнае званне, службовая асоба пры двары караля.
Шатны – прыдворны або слуга, які апекаваўся адзеннем і ўзбраеннем свайго гаспадара.

*І яшчэ некалькі тлумачэнняў, важных для разумення твора:*

*Шляхціч* – прадстаўнік прывілеяванага саслоўя ў Польшчы, ВКЛ у 13 – пачатку 20 ст., дваранін. Кармазынавы шляхціч – выхадзец з найбольш старадаўніх магнацкіх родаў. Кармазынавыя (чырвоныя) жупаны насіла старая польская шляхта.

*Статут Вялікага Княства Літоўскага* – збор законаў Вялікага Княства Літоўскага, які складаў прававую аснову дзяржавы. Першы Статут, які складаецца з 13 раздзелаў (283 артыкулаў) быў выдадзены ў 1529 годзе. Статут рэгламентаваў пытанні грамадзянскага, крымінальнага і працэсуальнага права. Другі Статут быў выдадзены ў 1566 годзе і адлюстроўваў сацыяльна-эканамічныя і палітычныя змены. Трэці Статут быў выдадзены ў 1588 годзе і дзейнічаў на тэрыторыі ВКЛ да поўнай яго адмены ў 1840 годзе.

*Сейм* – вышэйшы прадстаўнічы орган у Рэчы Паспалітай, які вырашаў найбольш важныя дзяржаўныя справы, выбіраў караля. Сеймікі – мясцовыя сходы шляхты, для

абмеркавання спраў паветаў, а таксама для выбару дэпутатаў на агульны (вальны) сейм.

*Канфедэрацыя* – часовая вайсковая арганізацыя, кая ўтваралася для таго, каб падтрымаць пэўныя палітычныя патрабаванні. Барская канфедэрацыя, пра якую будзе далей часта згадвацца – ваенна-палітычнае згуртаванне шляхты і магнатаў, якое выступіла супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і царскай Расіі ў 1768 – 1772 гг., была заснавана 29 лютага 1768 года ў горадзе Бар на Украіне. Канфедэраты выступалі супраць ураўнення ў правах з католікамі так званых дысідэнтаў (праваслаўных і пратэстантаў), якое было зроблена па прапанове Расіі. Для падаўлення канфедэратаў былі ўведзены царскія войскі. Паўстанне канфедэратаў супала па часе з паўстаннем украінскіх сялян, названага пазней каліеўшчынай. Канфедэраты пачалі ўзброеную барацьбу, у якой яны спадзяваліся на дапамогу Францыі і Турцыі. Францыя пасылала сваіх ваенных саветнікаў і грашовую дапамогу. Турцыя абвясціла вайну Расіі. Кіраўнічым органам канфедэрацыі была Генеральная рада з цэнтрам у г. Прэшаў у Славакіі. У межах Вялікага княства Літоўскага як яе частка дзейнічала так званая літоўская канфедэрацыя, якую ўзначальваў маршалак Міхал Пац. У 1771 г. войска канфедэратаў пад кіраўніцтвам М. Агінскага было разбіта А. Суворавым пад Сталовічамі (каля Баранавіч). Барская канфедэрацыя садзейнічала першаму падзелу Польшчы паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Многія канфедэраты пасля падаўлення ўзброеных дзеянняў былі сасланы ў Сібір на катаргу. У тэксце згадваецца далей таксама і пра Таргавіцкую канфедэрацыю 1792 года, якая стала прычынай другога падзелу Рэчы Паспалітай (Польскай дзяржавы, у якую ўваходзіла так званая Карона – з польскімі і ўкраінскімі землямі, і Вялікае княства Літоўскае – з беларускімі і літоўскімі землямі).

*Радзівіл Караль Станіслаў* (Пане Каханку), (1734 – 1790), – князь, сын Міхаіла Казіміра Радзівіла (Рыбанькі) і Францыскі Уршулі, апошняй з князёў Вішнявецкіх. Прадстаўнік аднаго са старадаўніх магнацкіх родаў. Міфічным заснавальнікам роду Радзівілаў лічыўся язычніцкі жрэц Ліздзейка. Пане Каханку – мянушка, дадзеная князю, яна звязана з ягонай звычкай часта ўжываць у гаворцы ветлівы зварот “пане каханку”. Многія з Радзівілаў мелі такія мянушкі, якія дадаваліся да іх прозвішчаў, па іх князёў Радзівілаў адрознівалі аднаго ад другога. Звязана гэта з тым, што ў родзе Радзівілаў была традыцыя даваць першынцу ў сям’і імя Мікалай. Так аказалася, што ў іх генеалогіі аказалася некалькі Мікалаяў Радзівілаў. Таму кожны атрымаў нейкую мянушку: Чорны, Руды, Сіротка, Пярун ... Потым мянушку атрымалі Міхаіл, празваны Рыбанька, і Караль Станіслаў. Мечнік літоўскі з 1752 г, віленскі ваявода ў 1762- 1764 гг. Выступаў як праціўнік караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1769-72 быў генеральным маршалкам Радамскай канфедэрацыі, удзельнічаў у

Барскай канфедэрацыі, пасля яе быў у эміграцыі да 1777 г., пасля вяртання прымірыўся з каралём. Уладаў шматлікімі маёнткамі на тэрыторыі Польшчы, Украіны і Беларусі, сярод якіх Белая, Біржы, Капыль, Слуцк. Меў рэзідэнцыю ў Нясвіжы, заснаваў там прыдворны тэатр і аркестр. У летняй рэзідэнцыі Альба пад Нясвіжам пабудаваў бутафорскую вёску, у якой сам лічыўся войтам, а прыдворныя (альбанская кампанія) – сялянамі. Вызначаўся крутым норавам, але быў папулярны сярод дробнай шляхты. Заўжды стараўся паказваць сябе патрыётам Вялікага княства Літоўскага. Персанаж шэрагу літаратурных твораў, у тым ліку Г. Жавускага, І. Крашэўскага, Ю. Славацкага, І. Ходзькі.

*Панятоўскі* – апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1764-1798). Панятоўскі нарадзіўся ў маёнтку Воўчын пад Брэстам, паходзіў з са шляхты, з 1755 г. меў званне стольніка Вялікага княства Літоўскага. У 1764 г. абраны каралём пры падтрымцы расійскай імператрыцы Кацярыны II. Радзівілы былі супраць абрання Панятоўскага каралём, стаялі ў апазіцыі да яго. Стольнік у вуснах канфедэратаў – абразлівая мянушка. Панятоўскі паходзіў з роду на той час небагатай шляхты і стараўся схаваць гэта, хадзіла нават легенда пра італьянскае паходжанне Панятоўскіх ад роду Тарэлі.

*Міхась Кенька*

*Ад рэдакцыі: У 30-м нумары друкуецца заканчэньне рамана. І-шы і ІІ-гі тамы рамана апублікаваны ў 28-м і 29-м нумарах часопіса "Культура. Нацыя" (№28, лістапад 2021, с.184-238; №29, красавік 2022, с.252-411).*

**ТОМ III, раман Генрыка Жавускага “Лістапад”**
*(пераклад Міхася Кенькі)*



Porwanie króla Stanisława Augusta przez konfederatów barskich.

**I. Паездка ў Варшаву**

Атрад пад кіраўніцтвам войскага раніцой рушыў у бок Карэліч і быў там праз тры дні. Ім пашчасціла. Іх вітаў пан Павел Пжацлаўскі, слонімскі чэснік, сівы стары, які з-за ўзросту не мог быць з канфедэратамі, але служыў ім як мог. Адразу пасля разгрому пад Сталовічамі ён пасяліўся ў Карэлічах і, паводле дамовы з панам Мікалаем Анкутам, генеральным распарадчыкам гэтых радзівілаўскіх уладанняў,

спрыяў тым, хто выжыў, уцекачам, якія разбегліся па лясах, дапамагаў ім без рызыкі быць схопленымі дабрацца да сваіх дамоў, непрыкметна абмінуць пасткі, якія расставілі ім прыхільнікі караля. Такім чынам і харунжы, і спадарожнікі войскага вярнуліся ў свае гнёзды. Сам войскі, па-ранейшаму ўстойлівы ў сваім намеры далучыцца да канфедэрацыі, якая змагалася ў кракаўскім ваяводстве, склаў у Карэлічах завяшчанне, якое падпісалі пан чэснік і Анкута, а ў харунжага папрасіў дазволу назваць яго гарантам завяшчання. Маёмасць, атрыманую ад бацькі, без усялякіх юрыдычных фармальнасцей ён перадаў роднаму брату, свайму натуральнаму спадчынніку, заявіўшы, што ні пра што не шкадуе, нічога не мае супраць яго: нават калі б яго чым-небудзь пакрыўдзіў брат, ён бы прабачыў яму ад усяго сэрца, просячы яго дараваць адзін аднаму, калі і ён чымсьці пакрыўдзіў яго, чаго, аднак, не можа ўспомніць. А сваімі капіталамі, якія нажыў уласнай працай, ён распарадзіўся іначай, размеркаваў іх толькі па ўласных схільнасцях. Так, ён зрабіў значны падарунак пану Яну Вазгірду. Перадаў некаторыя сумы слонімскім даміНіканам і бернардзінам, каб яны клапаціліся пра яго душу. Скалубу забяспечыў прыстойны кусок хлеба. Не забыўся ні пра Буньчукевіча, ні пра іншых слуг. Вяртаючыся ў сваю вотчыну пад Слонім, у Гародні пан войскі склаў гэты свой запячатаны тэстамэнт. Заможны шляхціч, ён, акрамя капіталу, які меў у радзівілаўскім скарбе і якім распарадзіўся ў сваім тэстаменце, меў некалькі дзясяткаў тысяч. Гэтую суму ён сабраў і абмяняў на золата, дзеля таго, каб яе можна было ўзяць з сабой. Набіў ім тры кашалі, якімі падперазаліся Буньчукевіч і Скалуба. У сваім маёнтку ён знайшоў некалькі тысяч гатовых грошай у вернага аканома. Грошы ён забраў з сабой. А тым дабром, што было ў гаспадарцы, ён надзяліў арандаваную шляхту. Свайму аканому даў фальварак у пажыццёвае ўладанне, пакінуў падрабязнае распараджэнне, каб у выпадку смерці аканома, фальварак перайшоў да яго спадчыннікаў. На словах папрасіў аканома, каб ён працягваў даглядаць за маёмасцю з такой жа дбайнасцю. Такім чынам, выканаўшы абавязкі, зрабіць якія лічыў як хрысціянін і ўладар маёмасці, ён пачаў выпраўляцца ў далёкую дарогу.

Ён выбраў непрыкметную, але добра абладжаную брычку, загадаў запрэгчы ў яе чатырох коней, таксама нявідных з сябе, але цягавітых, і на трынаццатым тыдні пасля бою на Сталовіцкай зямлі пакінуў Літву. Скалуба і Буньчукевіч кіравалі па чарзе. Ехалі ўжо не па лясах, а па вялікай Варшаўскай шашы. Тыя, хто ехаў па вялікай дарозе, усё ж менш узбуджалі падазрэнне. Шкадуючы сваіх коней і баючыся паспешлівасці, каб не выклікаць падазрэнне, яны праязджалі толькі некалькі міль у дзень, каб коні не змарыліся. Апрануты ў сярмяжную світу, Міхал паўсюль змешваўся з гандлёвай шляхтай, якую можна было сустрэць на кожным кірмашы ў Кароне і Літве.

Яны былі ўсяго ў некалькіх мілях ад Варшавы, калі спыніліся заначаваць. Зайшлі ў прасторную карчму пры вялікай дарозе. Там стаяла шмат вазоў,

нагружаных рознай ежай, якія на наступны дзень павінны былі выехаць на Варшаву. Міхал у карчме завёў знаёмства з падляшскім шляхціцам, які гандляваў свіным тлушчам з Варшавай. У яго было з гэтым таварам дзесяць вазоў. Войскі параіўся са Скалубам, потым запрасіў шляхціца на куфаль піва, як літоўскі свіны гандляр свінога гандляра з Падляшша. Пагаманілі. Па часе войскі зрабіў яму такую прапанову:

– Брат мой, я лічу, што мы з адной гільдыі: я паслаў перад сабой дзесяць вазоў свінога сала, якія чакаюць мяне ў Варшаве. Іх у вас з сабой два: калі дамовіцца, што ты іх мне прадасі, то будзе круглы тузін, лічба шчаслівая, оптам можна прадаць лягчэй.

– Шаноўны мой, ты ж таксама купец, з вопыту ведаеш, што мы, гандляры, і кашулю скінем са спіны, пакуль нам за гэта добра плацяць. Скажу адкрыта, пане, што мне зручней пешшу вярнуцца напрасткі ў Мардаў, дзе ў мяне ёсць кавалак спадчыннай зямлі, чым ехаць у Варшаву. Забірай тады і вазы. Мая саланіна на тваіх вазах не змесціцца.

– І я згодны на гэта, калі за вазы і коней дарага не возьмеш.

– Васпан павінен ведаць гэтыя рэчы напамяць. Заплаці мне за кожны воз саланіны па восемсот злотых, а за чатырох коней па дзвесце злотых за кожнага. Коні не старыя, ад чатырох гадоў да пятага. Можаш паглядзець у зубы, каб напавер не браць. Усяго дзве тысячы чатырыста злотых. Як толькі я табе ўсё прадам, то са сваім чаляднікам, такім жа шляхціцам, як і я, з Мардава, з бізуном у руцэ вярнуся да сваёй бабы.

Тут Скалуба далучыўся да размовы:

– Акрамя таго, яшчэ невядома, як вам удасца добра прадаць саланіну ў Варшаве, яе шмат цяпер вязуць з Літвы.

– Васпан, калі добры тавар, то ён знойдзе пакупніка. І твой пан не будзе таргавацца са мной, бо ведае, што прадасць і сваё і маё. Што тычыцца прыбыткаў, то я загадзя вырашыў, што без гэтага не вярнуся з Варшавы.

Гандляваць дык гандляваць! Шляхціц скінуў сто злотых, але паставіў умову, што пачастунак на развітанне будзе за кошт купца. Войскі адлічыў падляшскаму купцу дзьве тысячы трыста злотых. Скалуба як памочнік адразу зацікавіўся коньмі і вазамі: паставіў іх да сваіх, а потым вярнуўся ў карчму. Войскі загадаў паставіць на стол анісаўку, гарнец піва і міску яечні. Гандляр з Падляшша паклікаў да стала сваіх чаляднікаў, а войскі сваіх двух слуг і ўсе яны пачалі гуляць. Усё ішло гладка, але пан Чэслаў піў толькі піва ды і яго не ўжываў занадта многа, таму па знаку, які яму даў Скалуба, пайшоў за ім у залу.

– Чэславе, – сказаў яму сам-насам Скалуба, – кладзіся спаць і спі, бо з досвіткам ты з гэтымі двума вазамі паедзеш наперад, а мы цябе дагонім. Добрай ночы, а я вярнуся, бо павінен дапамагчы частаваць падляшскіх братоў.

Так і сталася: Чэслаў лёг побач з коньмі, а Скалуба і пан войскі балявалі разам з купцамі. За размовай яны даведаліся, што шляхціц, якога звалі Ляхніцкі, быў кліентам пана Кучынскага, драгічынскага падкаморыя, гаспадара, якога вельмі паважаў князь ваявода Радзівіл. Ён спрыяў барскай канфедэрацыі. На світанні гулякі добра нападпітку пайшлі спаць. Скалуба дапамог войскаму распрануцца і легчы на брычку, а сам, успомніўшы сваё, разбудзіў Чэслава, пасадзіў яго на толькі што купленых коней і накіраваў на вялікую дарогу ў Варшаву. Потым лёг спаць на тым самым месцы, якое толькі што займаў пан Чэслаў.

І войскі, і Скалуба прачнуліся задоўга да дзесяці гадзін раніцы: хацелі развітацца з панам Ляхніцкім, але ён і яго чаляднік ужо дзве гадзіны ішлі ў бок Падляшша. Пусціліся ў дарогу і самі. Чэслаў апераджаў іх на некалькі гадзін, але ён ехаў паволі. Таму перад вечарам дагналі яго за вярсту ад Прагі, прадмесця Варшавы. Заначавалі там і зноў адправілі Чэслава ўперад, а самі, адпачыўшы некалькі гадзін, далучыліся да яго на ўскраіне Прагі. Разам пасяліліся ў яўрэйскай хаце. Паставілі на двары коней і брычку. Войскі даручыў продаж тавару Скалубе, узяў світку і дзесятак злотых у кішэню, і як звычайны гандляр пешшу перайшоў мост, што злучае Варшаву з Прагай. Рушыў па Беднарскай вуліцы ў тую сталіцу, дзе ён вучыўся два гады, і якую пакінуў у дзяцінстве.

Было ўжо пасля дзесяці. Войскі не баяўся ніякай непажаданай сустрэчы. У Варшаве не было нікога з тых, з кім ён быў блізкі, а што да тых, каго ён ведаў шмат гадоў таму, то ён быў такі сівы, такі стары, што яго пазналі б хіба пасля таго, як назваў бы сваё імя.

Ён увайшоў у Кракаўскае Прадмесьце. Убачыў мноства англійскіх карэт, мноства лёкаяў у раззалачоных ліўрэях, мноства гербаў на фасадах. Усё гэта ўразіла яго не столькі пышнасцю, колькі пераўтварэннем нацыянальных звычаяў на чужы ўзор. Ён з пагардай кінуў позірк на гэтую выставу раскошы, якая прадвяшчала падзенне краіны і спараджала няшчасце, якое заўсёды нараджаецца побач з раскошай. Нідзе болей ён не бачыў такой беднасці. Жабракі хадзілі не толькі ў лахманах. На кожным кроку ён сустракаў людзей, якія былі някепска апранутыя, але працягвалі руку за падаяннем.

Убачыў касцёл Святога Крыжа, дзе ўжо стаяла некалькі карэт. Ён увайшоў у касцёл і там, бедна апрануты, змяшаўся з сапраўды беднымі, якія, укленчыўшы перад галоўным алтаром, выказалі абыякавасць і пагарду магутным ля ног Таго, Хто называе сябе бацькам бедных і якому, знаходзячыся на зямлі, не было дзе прыхіліць галаву. Заглыблены ў малітву, ён не патрабаваў ад Бога нічога для сябе, уся яго малітва была цесным яднаннем уласнай волі з воляй свайго Творцы і яго Збаўцы. Ён адчуў спакой у сэрцы, нейкую асалоду душы, якую Бог рэдка дае нават сваім верным слугам. Неўзабаве нейкі шум абудзіў яго. Двое камердынераў, багата апранутых, пачалі расштурхоўваць людзей, хоць мітусні ў касцёле не было. Адзін з іх нёс невялікі дыван, другі – раскладное крэсла. Разгарнулі дыван і паставілі крэсла.

Войскі, зірнуўшы на іх, пазнаў колеры Стравіньскіх і герб свайго роду. Сэрца яго моцна забілася, калі ён убачыў тую самую Зосю, якую кахаў, на якую доўга глядзеў, як на дадзенаую яму Богам спадарожніцу жыцця, вобраз якой дагэтуль не згас у ягоным сэрцы. Вёў яе за руку нейкі прыдворны пан. Яшчэ малады а ўжо зорка Белага Арла зіхацела на яго грудзях, і вочы яго ганарліва пазіралі на людзей, якія саступалі яму дарогу.

Зося была прыгажэй, чым калі-небудзь, і ўсе, хто быў у касцёле, кідалі на яе захопленыя позіркі.

За ёй ішоў паж. Ён выступіў наперад і падаў пані малітоўнік для набажэнства. Яна, лёгкім кіўком галавы і ўсмешкай, поўнай любасці выказала падзяку свайму пажу, укленчыла перад вялікім алтаром, падняла ў неба свае сапфіравыя вочы. Потым села і пачала маліцца.

Яе кавалер, нават не перажагнаўся на ўваходзе, стаў за пару крокаў ззаду, дастаў з кішэні ларнет, праз яго кідаў погляды ва ўсе куткі касцёла да таго часу, пакуль не падышоў да яго малады чалавек, заслужаны, таксама з ордэнам, хоць і ніжэйшым, які яго вітаў ліслівым паклонам. Кавалер ордэна Белага Арла, абмяняўшыся з ім некалькімі словамі, абапёрся на яго плячо, абодва падаліся назад і пачалі размаўляць адзін з адным, перапыняючы дыялог частым і гучным смехам.

Зося шчыра малілася, і часам сляза набягала на яе вочы, кацілася па шчоках. Войскі не мог адарваць вачэй ад той, якая назаўжды пазбавіла яго шчасця. Уздыхнуў і так пра сябе сказаў:

– Божа мой! Брат забыўся на ўсе свае абавязкі, адабраў у Зосі брата, у бацькаў - гонар і пашану, і цяпер ён прыставіў да яе вяльможу, які непрыстойна паводзіць сябе перад Богам. Калі б, як бы там ні было, ты была маёй, хіба я ўсюды, і асабліва ў доме Божым не быў бы тваім неадступным спадарожнікам? Але, Зося! Я ўбачыў, як слёзы цякуць па тваім твары! Нягледзячы ні на што, ты павінна быць шчаслівай. Але не! Слёзы – гэта як мімалётны напамін аб тваім старым бацьку, тваім сямейным доме. Па той усмешцы, якой ты падзякавала свайму пажу, я бачу, што гэтыя слёзы высушыць вялікі свет. Але будзь шчаслівая, Зосю, ты ўжо страчана для мяне назаўжды. Мне ўжо нават думаць пра цябе нельга. Няхай Бог цябе ні за мяне, ні за твайго дабрачыннага бацьку не карае! Будзь шчаслівая, Зося!

Войскі таропка выйшаў з касцёла. Блукаў па горадзе без мэты, не звяртаючы ўвагі ні на заўсёдны шум горада, ні на глупства натоўпу, на нахабства слуг, на гэтыя замежныя касцюмы, якія панадзявалі моднікі сталіцы, якія забыліся пра сваю нацыянальнасць. Ён часам сустракаў і кунтушовых шляхціцаў, якія выглядалі як госці сярод пярэста апранутых жыхароў горада. З увагай разглядаў гербы на палацавых фасадах. Пастараўся ак мага хутчэй мінуць палац, які паводле герба з чорным арлом на ім мог быць Радзівілаўскім. Ён баяўся выпадкова сустрэць якога-небудзь слугу князя ваяводы. У Варшаве ён хацеў быць для ўсіх чужым. Але прыстанавіўся каля жалезнай брамы перад палацам, як відаць, нядаўна пабудаваным.

На ім былі злітыя гербы Стравіньскіх і Куніцкіх. Вось яно, – сказаў ён сабе, – жытло майго брата і ягонай жонкі. А што, каб я ўвайшоў у яго, даказаў брату, што супраць яго нічога не маю, што я забыўся пра шкоду, якую ён прычыніў мне? Гэта быў бы вельмі хрысціянскі крок з майго боку. Ён бы добра прыняў мяне. Але не, я буду для яго толькі падставай для згрызот сумлення, яму будзе непрыемна бачыць мяне. Гэта чалавек не без сумлення, заўсёды быў высакародным. Лепш абысці яго, ён, можа быць, сам больш няшчасны, чым я. Але я табе, брат, дарую ўсё - будзь шчаслівы!

Некалькі гадзін ён быў на нагах, стаміўся і збіраўся шукаць непрыкметнае месца, дзе можна было б пасядзець, падсілкавацца. Каля манастыра капуцынаў ён убачыў уперадзе нейкага шляхціца ў паношаным кунтушовым мундзіры. Ён ішоў, хістаючыся. Параўняўшыся з ім, ён убачыў, што ў яго на ілбе павязка. Войскі не мог зірнуць на яго твар, але ў яго рухах адчуў нешта знаёмае, Калі ж чалавек азірнуўся, войскі ўбачыў нейкае падабенства з Вазгірдам. Але ж у Вазгірда былі велізарныя вусы, з якімі ён ні за што ў свеце не расстаўся б. Войскі не адважыўся загаварыць, але тут незнаёмец сам падыйшоў да яго, узяў пад руку і прашаптаў яму на вуха:

– Ці не праўда, Міхась, мяне нялёгка пазнаць?

– Ах, гэта ты, мой дарагі Ясю!

– Якая шчаслівая выпадковасць! Як я бачу, ты вольна ходзіш па вуліцах сталіцы. Дзе ты начуеш?

– У Празе, дзе чакае твой Скалуба, які з ласкі тваёй выбавіў мяне ад бяды. Ён прадае сала. Я стаў гандляром для таго, каб дабрацца да сюды.

– Скажы мне, Міхась,што ты думаеш рабіць цяпер?

– Вось я пакутую ад голаду, бо абышоў нагамі ледзь не ўсю Варшаву. Шукаю сціплы абед, прыдатны для майго адзення.

– Я запрашаю цябе на вячэру.

– А куды?

– Да сябе: я ўжо тры дні жыву і абедаю у старой удавы капуцынскага бляхара, з сынам якой таксама сябрую. Сын яе, гэта шаноўны канфедэрат, шляхціц і нават таварыш па харугве літоўскага падкаморыя, ён даў мне ліст да сваёй маці, якая жыве ў гэтым Садоме. Ёй бы жыць у нас. Пойдзем, у нас будзе шляхецкі абед, і мы будзем есці яго без лішніх сведкаў.

Вазгірд прывёў Міхала да патрэбнага будынка, адкрыў дзверы. Яны падняліся на самы верх, на гарышча. Там Вазгірд прывітаў бабульку, якая сядзела і вязала панчошку, і сказаў:

– Пані, я хачу пазнаёміць вас з маім былым сябрам, такім самым ліцвінам, як і я. Ён гандлюе салам, першы раз у Варшаве. Яму далёка вяртацца ў Прагу і я запрасіў яго на абед да нас. Трэба пастарацца, каб ён не быў галодным. Вось некалькі злотых, але каб абед быў гатовы, таму што мы абодва галодныя.

– А ну, васпан мой, – адказала старая, – прапусціце госця сюды. Хай пан сядзе за стол на маё месца, а я дзе-небудзь прыткнуся.

– Мяне клічуць Порай, – сказаў войскі.

На самай справе гербам з такой назвай ён запячатваў свае пісьмы.

Старая, нізка кланяючыся, адкрыла шафу, дастала з яго бутэльку гарэлкі і талерку з вяндлінай, паставіла на стол, а сама выйшла разаграваць ужо гатовы абед.

Войскі за гарэлкай пачаў быў роспыты, але Вазгірд перапыніў яго:

– Пасля абеду бабця сыдзе адсюль. Мы ўсё раскажам адзін аднаму як застанемся адны.

Прыйшла старая з абедам, сябры селі за стол. Яна чакала, а госці, ветліва гаварылі толькі з ёю, не выяўлялі свайго нецярпення, каб застацца адным. Але калі старая вынесла недаедзенае, абодва госці, седзячы адзін каля аднаго пад акном на гарышчы, пачалі адкрываць адзін аднаму душы. Войскі расказаў пра ўсе падрабязнасці свайго амаль цудоўнага вызвалення, потым паходу па лесе, перш чым дабраўся да Карэліч, і не забыўся пра паездку ў Варшаву.

– Ну што? Хіба мой Скалуба не маладзец? Ён здорава ўсё зрабіў. Калі я яго ўбачу, то нап'юся з ім.

– Я прышлю яго табе сёння ўвечары.

– Добра, але я пасля світання адашлю яго назад. Я табе прызнаюся, што калі б я не ведаў, наколькі ты яму патрэбны, не адпусціў бы. Я сумаваў па ім. Тут у мяне слугі няма, а ў атрадзе ёсць. Той верна служыць і даглядае маіх коней, але чужы мне. Я не магу неяк здружыцца з ім. Ён робіць тое, што робіць, гэта праўда, але ён не гаваркі, і не разумее, калі я жартую, не так, як Скалуба, каторы нават рот не закрывае. А ці не надакучыў ён табе часам, пан Міхал?

– Куды там! Я люблю яго як сябра.

– Гэта добра! Той каштанавы конь, якога я займеў з тваёй ласкі і які вывеў мяне са Сталовічаў, аддзякаваў мне ў бітве пры Ланцкароне. Перад намі разарваўся снарад, мы абодва ўпалі, толькі я ўстаў, а ён застаўся ляжаць.

— Як ідуць твае справы ў Малапольшчы?

– Ці я ведаю? Разумныя людзі кажуць, што нашы справы дрэнь, але я гэтага не бачу. Праўда, многім давялося пакутаваць ад галечы. Пан Міхал, амаль дваццаць тыдняў, як мы рассталіся, ды яшчэ адкідаючы той тыдзень, што я жыву ў Варшаве, і падарожжа да яе, я на ўсім шляху ад Сталовіч да Непаломіцы амаль кожны дзень мог адправіцца да Святой Тройцы. Пан Сава быў забіты, пан Шыц трапіў у палон, але ў нас ёсць пан Валеўскі, пан Жэвускі, літоўскі харунжы, пан Дзяржаноўскі, пан Зарэмба, пан Дэмюлер, хаця і невядома, які з яго чорта шляхціц, бо ён француз. Але шляхетны! З шабляй абыходзіцца хвацка. А над усімі пан Казімір Пулаўскі, з якім і баязлівец павінен быць адважным. Дык навошта ж нам апускаць рукі? Толькі кепска, што нашага князя трымаюць у Прошовіцах. Ён хацеў бы ваяваць, а яму загадалі

служыць. А ты ведаеш, як нам, ліцвінам, без яго кепска. Што б ні здарылася, ён заўсёды кажа: – На лепшае, пане каханку!

– Навошта ты падаўся сюды, пане Яне?

– Навошта! А чаму ты не пытаеш, куды дзеліся мае вусы, якім уся Літва зайздросціла, якіх я за саноўніцтва не аддаў бы? Бо ты ведаеш, пан Міхал, як я іх шанаваў. Калі я іх зноў адгадую? І ўсё ж я паклаў гэтыя вусы, гэты мой скарб, на алтар Айчыны,

– Ты не паверыш, як я хачу пра гэта ўведаць.

– Вось генеральства вырашыла выклікаць караля да сябе, каб ён сам стаў на чале канфедэрацыі, з пагрозай, што, калі ён не стане, яго адлучаць ад кароны за невыкананне дамоўленасцяў канвентаў. Спачатку адвакатаў выклікалі, каб параіцца. І што аказалася? Выклік трэба ўручыць прама ў рукі, як каралю. Не мне табе казаць пра гэта, бо законы ты ведаеш напамяць.

– Што ж далей?

– Пачакай, зараз уведаеш! Пан Пулаўскі сабраў нас з дзясятак, але такіх, мужнасць якіх ён выпрабаваў, і такую завёў казань:

– Паны-браты, хто з вас хоча ўзяцца перадаць гэтую паперу ў рукі каралю? Але я не магу не сказаць, што, калі яго зловяць, то можна паплаціцца жыццём. Я быў адзіны ліцвін паміж імі. А з каронай шляхты ніхто не хацеў брацца. Зразумела, справа ненадзейная. Гонар правінцыі не даў мне адступіцца. – Я бяру гэта на сябе, – азваўся я.

Пан Пулаўскі сардэчна абняў мяне. Прызнаюся табе, пан Міхал, што пасля ў мяне была немалая спакуса неяк адступіць, але ж я даў слова. Ганьба ж будзе! Я пайшоў на споведзь да святара Марэка, і адразу супакоіўся. Вось табе той выклік, прачытай яго.

Войскі пачаў чытаць з найвялікшай увагай, потым сказаў:

– Усё так, прыгожы выклік, грунтоўны, заснаваны на законе, за ўсё сваё жыццё нічога прыгажэйшага ў сваім жыцці я не чытаў. Я пазнаю пяро пана Богуша, ён адзін у нас на нешта падобнае здатны. А якое глыбокае веданне нашага права! Калі ласка, кажы далей!

– Пан Казімір з вока на вока даў мне наказ і нават пісьмовы спіс грамадзян, да якіх я па дарозе павінен быў пад'ехаць, але напісаны на таемнай мове. Ён даў мне ключ да яе. Яны забяспечылі мой пераезд, таму што, як паказваюць падзеі, акрамя Варшавы, ва ўсіх правінцыях шляхта не падтрымлівае былога літоўскага стольніка. І тыя ж людзі, якія дапамаглі мне трапіць у сталіцу, дапамогуць і тады, калі мне пашчасціць вяртацца з галавой на плячах. Але, як бачыш, прыйшлося вусы згаліць, каб на мяне сустрэчныя ўвагі не звярталі, а свае падвойныя шрамы на лбе прыкрыць чорнымай павязкай.

- Усё гэта добра, пане Яне. Толькі ўся справа ў тым, што ў вас павінны быць тры сведкі са шляхты, калі вы падасце пазоў каралю, інакш яны могуць абскардзіць яго.

- Бач ты! Мне гэта і ў галаву не прыходзіла.

– Пане, неабходна, каб гэты пазоў быў ускладзены на караля, які б лёс ні спасціг яго. Няма сумневу, што кароль пазоў прачытае і неадкладна загадае схапіць нахабніка. Але тут гаворка ідзе не пра смерць, а пра тое, каб уручэнне пазова было даказана. Калі ж ты пойдзеш на эшафот, хто засведчыць твой пазоў?

– Можна ісці на заклад, што кароль гэтага пазову чытаць не будзе. Учора я быў сведкам таго, як на выхадзе з касцёла, каралю было пададзена шмат прашэнняў. Ён толькі некалькі прачытаў, а астатнія аддаў камергеру.

– Паслухай, пане , ты ж ведаеш, што я юрыст, мне гэтую рэч належыць ведаць. Прыдворнаму па законе не забароняць падаваць пазоў каралю, важна, каб ён быў пакладзены яму на стол. Я лепш, чым ты, падам пазоў каралю, і ў мяне будзе тры сведкі з радавітай шляхты: ты, Скалуба і Буньчукевіч. Кожнаму з вас я дам копію пазову, калі б, не дай бог, на мяне напалі. Між іншым, я ўручу каралю пазоў накшталт прашэння, а вы, калі мяне выкрадуць, бяжыце з усіх ног, да сваіх, каб даць паказанні пра тое, што вы чулі і бачылі.

– Я павінен падвяргаць цябе такой небяспецы?

– Справа не ўва мне, не ў табе, а ў тым, каб воля генерала была выкананая. Як грамадзянін я патрабую гэтага ад цябе, пакуль ты не стаў пярэчыць.

– У цябе больш розуму, пан Міхал. Але памятай: калі кароль забярэ ваш пазоў, а не прачытае і аддасць яго ў рукі свайго скарбніка, ты пашывайся ў народ і пешшу дабірайся да Фалента, гэта ў паўмілі ад Ерусалімскіх варот, да тамтэйшага пастара, куды і мы потым прыйдзем. Гэты святар, якога завуць Скшэпіцкі, забяспечвае ўсе сувязі пана Казіміра са сталіцай, і ў мяне быў ліст да яго. Гэта чалавек з талковай галавой. Як бы прыдворныя ні падазравалі яго, ніхто нічога не можа з ім зрабіць. Ім апякуецца каронная крайчына, сапраўдная фаварытка караля. І ён аблегчыць нам адступленне. У гэтым яго роля.

– Тады нечага часу губляць! Дзеля бога, дай мне ручку, чарніліцу і тры аркушы паперы, каб я напісаў для нас копіі пазову.

Вазгірд прынёс яму тое, што было трэба. Войскі не спяшаючыся і з майстэрствам дасведчанага юрыста хутка напісаў копіі. Адну з іх ён уручыў Вазгірду, а дзве іншыя і сам дакумент схаваў у кішэню сваёй світкі, у тую кішэню, што каля сэрца. Потым загаварыў:

– Пане Яне, сёння ты павінен аказаць мне яшчэ адну вялікую ласку.

– Загадвай.

– Сёння ў касцёле Святога Крыжа я бачыў сваю нявесту.

– Не называй яе так, Міхал, бо мне сорамна, што яе нехта можа лічыць маёй сястрой. Я не хачу бачыць яе!

– Сёння табе трэба пагаварыць з ёй.

– Ні адна чалавечая сіла не прымусіць мяне зрабіць гэта.

– Сілы няма, але сяброўства да гэтага абавязвае цябе: ты для мяне гэта павінен зрабіць. Яна была заручана са мной. Вось заручальны пярсцёнак, які я атрымаў з яе з рук. Не вярнуўшы мне знак майго абяцання, не адабраўшы свайго, яна паклялася другому і адважылася перад Богам зманіць, што нікому не абяцала шлюбнай веры.

Так што ідзі да яе, аддай ёй гэты пярсцёнак і папрасі вярнуць мой, каб яна больш не нагадвала мне пра сябе. Скажы ёй, што я вызваляю яе ад дадзенага мне слова і што ёй ад усяго сэрца дарую ўсё.

– Трэба быць такім жа, як ты, каб займацца падобным даручэннем. Што ты са мной робіш? Дзе яна жыве?

- У іх свой палац за жалезнымі варотамі. Гербы Стравіньскіх і Куніцкіх на ім ужо ёсць, але я сам завяду цябе туды і там развітаюся, таму што трэба спяшацца ў Прагу, каб падрыхтавацца да заўтрашняга паходу.

Ён змоўк, узяў сябра пад руку, і абодва выйшлі на вуліцу.

**II. Вялікі свет**

Вазгірд перад самымі варотамі палаца сустрэў старога, які выходзіў з двара. Стары трымаў у руцэ нейкі вандзэлак. Праходзячы каля Вазгірда, ён нізка пакланіўся і хацеў ісці далей, але той спыніў яго:

– Адкуль ты, добры стары?

– Ад маёй дабрадзейкі, старасціны Вялюньскай, хай яе Бог дабраславіць. Нас тут некалькі бедных, хто жыве з яе ласкі. Такая важная дама, а размаўляе з намі нібы з роўнымі. Мы, бедныя, ходзім да яе праз гардэробную. Там адна з яе фраў-цымер, пакаёўка па-нашаму, загадвае весці нас да яе, праз пакоі яна нас не прапускае.

– А муж вашай дабрадзейкі?

– І староста пан добры, слаўны; колькі разоў жабракі просяць у яго падтрымкі, і заўсёды ён што-небудзь дастане з кішэні. Але з ім не размаўляюць так, як з ёй, звычайна, ён жа вялікі пан. Няхай Бог дасць яму ўсё, што пажадае.

– А я заспею вашага старасту дома?

– Напэўна, васпан прыбыў з далёкіх краёў, яму невядома, што староста кожны дзень з каралём нешта піша, і толькі ў пяць гадзін дня вяртаецца да жонкі абедаць з ёй, а вячэрае ў сябе.

– Значыць, тут абедаюць толькі пасля пяці?

– А так прыдумалі тутэйшыя паны. Калі ў вас ёсць да старасты справа, то гадзіну і больш прыйдзецца чакаць; калі ж хочаце пані бачыць, то цяпер самы час. Але хай васпан ідзе там, дзе я хаджу, гэта ад правага крыла палаца, каб не сустрэцца са слугамі, таму што, хоць пан і шляхціц, як я бачу па яго шаблі, але думаю, што ў васпана не лепшыя часы. А слугі тут як звяры, не падступіцца.

– Ну-ну, дарагі мой, бедны я ці багаты, табе ўсё роўна. А я пайду прама ў палац, таму што не чакаю, што тутэйшыя слугі захочуць са мной жартаваць. Ты не пашкадуеш, што пагутарыў са мной. У мяне ёсць сярэбраная капейка, якую ты можаш прапіць за маё здароўе.

Ён развітаўся і наўпрост пайшоў у палац, не азіраючыся на швейцара. Ён падняўся па лесвіцы, якую бачыў перад сабой, але, таму што швейцар ужо пазваніў у званочак, дзверы ў пярэднім пакоі адчыніліся, каля якіх стаялі некалькі лёкаяў.

– Дома старасціна? - спытаў ён лёкаяў, гледзячы на іх зверху ўніз.

– А якая ў васпана справа да яе? - спытаў адзін з лёкаяў.

– Гэта табе не трэба ведаць, я сам з ёй пра справу, якая ў мяне ёсць, пагавару, а ты мяне да сваёй пані праводзь.

Лакеі пераглянуліся; адзін з іх, самы высокі ростам, загаварыў:

– Трэба, каб я паведаміў ёй, што вы за чалавек і чаго хочаце, і, толькі вярнуўшыся, скажу васпану, прыме яна вас або не.

– Дакладвай трутням, падобным на цябе, селяніну або абывацелю ў карчме, а я шляхціц, які ўсюды сам пра сябе дакладвае. Адчыні мне дзверы, гультай!

Лёкаі адкрылі дзверы, таму што слугі тады, хоць і вельмі дзёрзкія, усё ж баяліся запальчывасці кунтушовай шляхты. Часта бывалі прыклады, што слугі мелі непрыемнасці з-за непавагі да шляхціца.

І пайшоў горды шляхціц, дзверы за дзвярыма адкрываючы перад сабой, праз прасторныя салоны, якія пышнасцю убраньня зусім яго не здзіўлялі, пакуль не наткнуўся на закрытыя знутры дзверы. Спыніўся перад імі. Яны адкрыліся, і маладая дзяўчына ўстала на парозе і сціпла спытала, чаго ён патрабуе і як яна павінна прадставіць яго перад гаспадыняй?

– Панна, я здагадваюся, што ты служанка пані старасціны, а я літоўскі шляхціц. Калі ласка, скажы сваёй пані, што ў мяне да яе важная справа, якая датычыцца яе самой, і што больш чвэрці гадзіны я заставацца не магу.

Пакаёўка знікла, а неўзабаве з'явілася сама гаспадыня.

Як бы ні быў Вазгірд непрыхільна настроены супраць сястры, у яе твары, у яе поглядзе было штосьці настолькі лагоднае, настроенае на добразычлівасць, што ў яго раптам растала сэрца.

– Ты мяне пазнаеш? – спытаў ён .

Па голасе старасціна пазнала яго.

– Ах! Гэта ты, дарагі брацік! Якое шчасце, што я магу прыняць цябе ў сваім доме. Я чакаю, што пасля таго, як ты будзеш пастаянна ў Варшаве, гэты дом ты будзеш разглядаць як свой, і пачнеш з таго, што пераедзеш да нас.

Вазгірд пакланіўся.

– Дзе ўжо мне, захудаламу шляхціцу, жыць у гэтых вашых пакоях?

– Ну вось! Ты забываеш, што ты мой брат? Што мы разам пражылі частку жыцця, што ты заўсёды быў для мяне самым блізкім сябрам? Ты ўжо забыўся пра гэта, але я заўсёды захоўваю гэта ў памяці.

– Не мне быць у вашай кампаніі. Каб мяне тут сустрэў пан стараста, сумняваюся, што ён пахваліў бы тваю дабрыню да мяне.

– Дарэмна ты так, братка, ты не ведаеш майго мужа. Ён ледзь не загінуў ад тваёй рукі, і ўсё ж ён не толькі супраць цябе нічога не мае, але і ўспамінае цябе заўсёды з найвялікшай павагай, і ты не можаш быць яго ворагам.

– Я сябар пана Міхала і ніколі не перастану ім быць.

Старасціна апусціла вочы і задумалася. Потым, падымаючы вочы, збянтэжана прамовіла:

– Брат, дарагі, – можа быць, што табе лёс не спрыяе. Да мяне дайшла навіна, што ты прыстаў да барскай канфедэрацыі, але калі лёс пераменіцца, калі табе што-небудзь спатрэбіцца, будзь упэўнены, што момант, у якім ты папросіш маёй дапамогі, будзе адным з самых шчаслівых для мяне. Усё, што ў мяне ёсць, усё, што я магу, зраблю, толькі пакліч.

– Мне пашанцавала, што я змог паўстаць перад табой. Я – барскі канфедэрат, як, напэўна, быў бы і мой дзядзька, і твой бацька, калі б Богу не захацелася паклікаць яго да Сябе. Калі б у гэтай сталіцы мяне пазналі, я б адразу пазбавіўся свабоды. І ўсё ж здрады я не баюся. Нягледзячы на ўяўную маю беднасць, грашовая падтрымка мне не патрэбна, але ў мяне да цябе іншая важная справа.

Тут у пакой увайшла нянька з дзіцем, якое выглядала як анёл. Дзяўчына ўзяла дзіця з рук нянькі.

– Не бойся, братка, – загаварыла яна – гэта швейцарка толькі што прывезеная, не разумее па-нашаму.

І, наблізіўшыся з дзіцем да Вазгірда, загаварыла:

– Глядзі, братачка, як мая дачка табе ўсміхаецца! А што? Прыгожая дзяўчынка? Людвіся мая, гэта твой дзядзька, прасі яго за сваю маму, каб ён не злаваўся на яе, яна і так бедная. Брат мой дарагі, патрабуй ад мяне чаго-хочаш, каб я ўпэўнілася, што ты вяртаеш мне ранейшую дабрыню. Не бойся нікога ў мяне тут няма, ніякая сіла з дому майго цябе не выбавіць. Дай мне руку, брат, у знак таго, што ты мной не пагарджаеш.

– Не, сапраўды, з гэтымі жанчынамі з глузду з'едзеш! Я салдат, а ты мяне расчуліла. Што здарылася, тое здарылася, і я, хоць ні ў чым не змяніўся, а вось жа, праяўляю да цябе слабасць. Ты мяне з розуму зводзіш, і без патрэбы, таму што нашы светы процілеглыя, што, калі я апынуся за парогам, то, мабыць, толькі ў Ёсафацкай даліне мы зноў убачым адзін аднаго. Я лепш займуся справай, таму што час ідзе. Вось пярсцёнак. Яго ты дала Міхалу, паабяцаўшы яму вечную дружбу. Ты не забрала гэты заклад, не атрымала дазволу ад таго, каму ты дала слова. Даверылася іншаму. Прашу цябе па просьбе Міхала, а гэта ён паслаў мяне сюды, вазьмі яго. Ён прасіў сказаць, што ад усяго сэрца даруе вам, што ўсякага дабрабыту вам жадае. Гэта ён

ясна сказаў мне, і ты ведаеш, што азначае яго слова. Яшчэ ён просіць вярнуць пярсцёнак, які даў табе.

Старасціна, узяўшы пярсцёнак, аддала дзіця няньцы і сышла, але неўзабаве вярнулася з пярсцёнкам войскага. Нянька з дзіцем выйшла, так што яны былі ў пакоі адны.

– Брат, – сказала старасціна, – я аддаю табе гэты пярсцёнак. Бог чуе нас, клянуся Яго вялікім імем, што я не так вінаватая, як ты думаеш. Можа быць, ты ўжо так пагарджаеш мной, што і гэтая мая клятва не заслугоўвае тваёй веры, але я павінна прызнацца табе, што, як бы сэрца маё не было здольнае супрацьстаяць Людвіку, я з адданасцю свайму шчасцю хацела быць годнай сябе, годнай майго бацькі. Я ж якраз развітвалася з Людвікам назаўжды, калі Міхал застаў брата на каленях перад мной. Я была без прытомнасці. Але я была нявінная. Але чым я магу пераканаць яго ў маёй невінаватасці? Міхал размаўляцьса мной не захацеў. Ён сышоў, а што са мной здарылася потым, што са мной зрабілі, я не ведала. Аддай, брат, гэты пярсцёнак Міхалу і скажы яму...

Тут з яе зрэнак выступілі слёзы, як два струменьчыкі, і ў Вазгірда таксама слёзы выступілі ў вачах. Раптам дзверы рэзка расчыніліся, і перад імі ўстаў нейкі пан у сурдуце звышыўкай , з блакітнай стужкай праз плячо..

– *Belle comtesse,* – сказаў ён, нізка кланяючыся, – Я пасланы да пані ад яе мужа паведаміць ёй, каб вы сёння яго не чакалі, таму што кароль на цэлы дзень затрымлівае яго ў сябе. *Il dîne avec le Roi en tete a ' tete (*ён вячэрае з каралём адзін на адзін*, франц.)* і староста загадаў мне замяніць яго каля стала маёй гаспадыні. *Quoique premier sujet du Roi (*хоць я і першы падданы караля*, франц.)*, але сёння я ўдастоены большага гонару, чым той, які сёння сустрэў ваш муж. Mais que Je vois есць? (але што я бачу? *франц.),* тут *romps un tete a ' tete fort sérieux (*у вас сур’ёзная размова адзін на адзін*, франц.)*. Вы плачаце, *ce quidam (*гэты незнаёмец*, франц.)* таксама ўзрушаны, у вас пярсцёнак у руцэ, тут нейкая сентыментальная таямніца. Я не магу выйсці са здранцвення.

– Ваша мосць , князь, – сур'ёзна адказала старасціна, выціраючы слёзы хусткай, – дагэтуль я не давала вам права ні цікавіцца маімі ўчынкамі, ні ўваходзіць да мяне без майго дазволу.

– А гэты пан, як я бачу, шчаслівейшы за мяне, і калі вы крыўдзіцеся, comme une coupable (нібы вінаватая*, франц*.) ...

– Богу і майму мужу я абавязаная тым, што раблю, і больш нікому.

– *Quelle noble fierté (*які высокі гонар*, франц.),* мадам! Думаю, ад гэтага пана я сёе-тое празнаю. – Хто ты?

– Шляхціц, роўны васпану па нараджэнні,– адказаў Вазгірд.

– Ты ведаеш, з кім гаворыш?

– Не ведаю, і мне гэта нецікава, а калі ты хочаш здзівіць мяне сваім ордэнам, то я скажу, што мне аказваюць гонар і сяброўства паны і больш высокага рангу.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

– Напрыклад, - адказаў князь, – ты ведаеш многіх паноў, якія былі вышэй роднага брата вашага караля?

– Ваша мосць, у Рэчы Паспалітай мы не ведаем князёў каралеўскай крыві: як шляхціц, я магу быць заўтра тым, чым сёння з'яўляецца святлейшы брат вашай мосці. І калі князь звяртаецца да мяне, то я скажу яму адкрыта, што князь Карл Радзівіл, ваявода віленскі, з'яўляецца вялікім панам, большым, чым каралеўскія браты, і ўсё ж гаворыць са мной з пачцівасцю.

– *Mais c'est unique!* (Неверагодна! *франц.)* Дом пані старасціны – прытулак бунтаўнікоў! У жонкі начальніка каралеўскага кабінета, у прысутнасці брата святлейшага караля ён асмельваецца хваліцца пратэкцыяй Радзівіла.

– Ваша княская мосць, *szlachcic na zagrodzie, równy wojewodzie*. Ты ведаеш, што, калі б не павага, якую я маю да гэтай дамы, я мог бы навучыць цябе павазе, якая мне належыць. Таму, ваша мосць, будзьце асцярожныя з пагрозамі. Я нашу з сабой тое, што ўжо не ад адной небяспекі засланіла мяне. І хоць я не маю гонару быць каралеўскім братам, я не нарадзіўся такім, каго можна пакрыўдзіць.

Тут старасціна ўзяла брата за руку і, правёўшы ў свой пакой, стала перад князем на парозе, горда мераючы яго поглядам, поўным гневу.

– Ваша княская мосць, – сказала яна, - мне не належыць больш заставацца з госцем, які ў маёй прысутнасці асмельваецца абражаць маіх сяброў. Я пакідаю вашу княжацкую мосць, а далейшыя ўчынкі князя пакажуць мне, ці магу я яго прымаць надалей у маім доме, як раней, ці раз і назаўжды адмовіць яму.

Потым яна зачыніла за сабой дзверы і пакінула князя аднаго. Ён застаўся на месцы, сканфужаны, не ведаючы што рабіць.

**III. Кароль Станіслаў Аўгуст**

На наступны дзень каля адзінаццаці гадзін раніцы перад фарным касцёлам была вялікая мітусня. Кожны хацеў паглядзець, як кароль вяртаецца з імшы ў палац. Шмат было шляхты. З-пад крыса кунтуша ў некаторых выглядалі паперы з прашэннямі. Шмат было рамеснікаў, а больш за ўсё было гультаёў, яны заўсёды і ўсюды збіраліся, дзе толькі можна ўбачыць натоўп людзей. Станіслаў любіў прымаць прашэнні на людзях. Тым самым ён паказваў сваю ролю валадара, таму што просьбы, дадзеныя яму, былі прызнаннем яго валадарання над тымі, каму ён нядаўна быў роўны. Але мала хто прасіў, бо рэдка калі з гэтага быў толк. Аднак кароль



кожнага ўмеў суцешыць "шаўковымі словамі", тым не менш ухіліцца ад просьбаў не мог.

У гэты натоўп уціснуліся Вазгірд, Скалуба і Буньчукевіч, але не разам. Першага цяжэй, чым каго-небудзь, можна было пазнаць, таму што ён быў у нямецкім касцюме, на галаве парык, густа напудраны, ён хаваў шрамы на яго твары. Двое іншых былі апрануты як звычайная служылая шляхта. Ніхто з іх з вачэй не спускаў з войскага, які выступіў наперад. Быў ён апрануты ў куртку і шаравары зялёнага колеру, стаяў, трымаючы ў руцэ складзеную паперу.

Раптам воклічы – Няхай жыве кароль! – пачуліся ў натоўпе, яны абвясцілі, што кароль вось-вось выйдзе. І неўзабаве кароль ужо стаяў на цвінтары, а за ім шамбяляны, ад'ютанты, прыдворныя і некаторыя паслы.

Да яго падышла нейкая маладая і прыгожая жанчына, укленчыла перад ім, аддала прашэнне. Кароль хутка прабег вачыма паперу, суцешыў жанчыну пяшчотнымі словамі і гэтую паперу ўручыў шамбяляну Гінтаўту, які стаяў ззаду. У той дзень ён быў на службе. Многія іншыя, у сваю чаргу, падавалі прашэнні. Адны кароль чытаў, іншыя, не чытаючы, аддаваў шамбяляну, але з кожным больш-менш размаўляў, нікога без якога-небудзь слова не пакідаў Але было відаць, што ён ужо некалькі стаміўся, паўтараючы адно і тое ж. І тут якраз войскі наблізіўся, апусціўся на калені перад каралём, аддаў яму паперу. Кароль лагодна спытаў яго, што ён за чалавек і чаго хоча.

– Шляхціц, падданы і слуга вашай вялікасці, – адказаў войскі. – Мяне клічуць Парай, і я дзесятак гадоў служыў егерам у Белавежскай пушчы. За тры гады даслужыўся да падлясніцтва. Цяпер, не ведаю з якой прычыны, мяне звольніў дырэктар Белавежскай эканоміі. Я нічога не прашу, акрамя як зрабіць дазнанне, таму што я не магу абараніць сябе сам. Я ведаю, што дазнанне пераканае ў маёй невінаватасці, і я спадзяюся, што я зноў буду есці смачны хлеб майго ласкавага пана.

Гэтых слоў не маглі не пачуць Вазгірд, Скалуба і Буньчукевіч. Няцяжка зразумець, як біліся іх сэрцы, калі кароль з абыякавым выглядам пакруціў у руках скрутак. І якая была іх радасць, калі яны ўбачылі, што ён, не адкрываючы, уручыў паперу шамбяляну, пры гэтым рог на прашэнні загнуў. Гэта было знакам таго, што кароль будзе разглядаць прашэнне з асаблівай дбайнасцю.

Войскі тут жа адступіў назад, зашыўся ў просты люд, каб адтуль дабрацца да плябаніі, дзе яго будуць чакаць таварышы. Туды яшчэ ноччу Скалуба даставіў ягоную брычку.

Кароль даў аўдыенцыю народу перад домам Госпада, дзе па звычцы аказваўся даступным для гараджан і для шляхты. Асаблівую ўвагу аддаваў жанчынам. Затым вярнуўся да сябе ў палац. Пасля імшы ён заўсёды пераапранаўся. Ён прайшоў праз прасторны пакой, гардэробную, дзе было поўна дамачадцаў і гараджан. Кожны дзень яны паклонамі віталі святлейшага пана. Было прынята, што кожны жыхар правінцыі

па прыездзе ішоў у гардэробную, упэўнены, што там знойдзе знаёмых і дазнаецца патрэбных яму навін.

Кабінет, дзе пераапранаўся кароль, быў аддзелены ад гардэроба невялікім пакоем. Калі шляхта ў гардэробной перагаворвалася, часам узнікалі нараканьні, што ў каралеўскім кабінеце немагчыма нічога пачуць. Тады шамбялян выходзіў у гардэробную і пачынаў трэсці хусткай над клеткай з канарэйкамі, якая вісела каля акна, прыгаворваючы:

– Ціха, канарэйкі! Вы так шуміце, што перашкаджаеце каралю чытаць прашэнні, пададзеныя яму!

Шляхта на нейкі час заціхала, але ненадоўга. Часам шамбялян у адну раніцу пяць ці шэсць разоў выходзіў махаць хусткай перад канарэйкамі.

Калі кароль праходзіў праз гардэроб, усе галовы, аголеныя і ў парыках, нахіляліся ледзь не да самай зямлі. Кожны з пажадлівасцю чакаў з яго вуснаў хоць нейкага слова, і гэтае слова, якое б абыякавае ні было, з бясконцымі каментарамі разыходзілася па сем’ях і сябрах шчаслівага мужа. У гэты дзень кароль быў незвычайна вясёлы, таму што кур'ер з-за мяжы прывёз яму лісты, якіх ён з нецярпеннем чакаў. Адзін быў ад місіс Джэфрын, напоўнены версальскімі плёткамі, другі – ад іншай шляхетнай дамы, чыё сэрца калісьці належала выключна яму і якой ён не пераставаў пісаць любоўныя лісты. Трэці ад Карцічэлі, свайго агента ў Рыме, які яму паведамляў, што некалькі карцін лепшых мастакоў італьянскай школы і некалькі камей узросту Перыкла ён набыў для яго за шэсць тысяч злотых у нейкага Антаніні. Кароль быў вядомы па ўсёй Еўропе як найлепшы знаўца прыгожых мастацтваў. Ён зразумеў, што за бесцань атрымаў шэдэўры і што ніколі б ён не зрабіў такую паспяховую здзелку, калі б гэтаму Антаніні не было абяцана выпрасіць у караля зорку Святога Станіслава. Чацвёрты ліст быў ад Вальтэра, з Фернэй. Гэты ліст прывёў караля ў захапленне. Ён быў адказам на каралеўскі ліст на чатырох старонках. Адказ быў напісаны не менш доўгі. У гэтым лісце Вальтэр называў караля Саламонам поўначы, гледзячы на тое, як калісьці царыца Саўская прыйшла да яго з-за мора вучыцца кіраваць сваёй дзяржавай, а потым атрымлівацъ асалоду ад таго, што ўбачыла яго самога. У гэтым лісце ён пажартаваў над палякамі як над п'яніцамі і варварамі, і дадаў: – Яны праявілі сябе больш разумна, чым само Наканаванне, калі выбралі караля, якому не было роўных па нараджэнню. Калі б права абрання свайго кіраўніка было доляй усіх народаў, ён бы ўвасобіў мару імператара Карла аб усеагульнай манархіі, бо ўсе народы хацелі б мець яго сваім каралём.

Такую пахвалу Станіслаў Аўгуст прымаў за праўду. Аднак, гэта абыходзілася яму ў штогадовую выплату трох тысяч злотых.

Акрамя гэтых пасланняў ён атрымаў яшчэ некалькі лістоў ад розных дам свайго двара, дам, з якімі ён кожны дзень сустракаўся, але з імі, аднак, перапісваўся. Сярод іх крайчына, князёўна стражнікава, князёўна генералава, а таксама мадам Люлье, французскаяі авантурыстка, якая яму дапамагала ў розных інтрыгах.

Кароль проста ззяў, калі праходзіў у кабінет праз гардэробную. Некалькіх асоб, якія прыбылі з правінцыі, цёпла прывітаў, сказаў кожнаму пару прыемных слоў.

Калі ён праз гардэробную прайшоў у кабінет, там яго чакаў цырульнік-англічанін Філіпсборн, які, акрамя роднай, ніякай мовы не ведаў. Каралю ён падабаўся таму, што той быў дасканалым у сваім рамястве. Кароль любіў пагутарыць з ім на яго роднай мове, найбольш любімай ім сярод тых моў, якімі ён валодаў. А трэба сказаць, што кароль гаварыў на васьмі мовах як на родных: лацінскай, фанцузскай, нямецкай, англійскай, італьянскай, іспанскай, рускай і турэцкай. Брат яго цёткі, князь-генерал падольскіх зямель, акрамя гэтых моў яшчэ выдатна ведаў арабскую, іўрыт і шведскую.

Райкс, каралеўскі дварэцкі з немалым умельстствам распрануў караля, а Філіпсборн пачаў старанна прыбіраць каралеўскую галаву. Было шмат прыдворных, таму што кароль любіў памочнікаў, а Філіпсборн звычайна шчыраваў каля двух гадзін, і гэты час праходзіў часта ў навуковых гутарках, а яшчэ кароль любіў чытаць што-небудзь з навінак, дасланых з Парыжа.

У той дзень было больш народу, чым звычайна, таму што менавіта Ксаверы Браніцкі, каронны лоўчы, быў у караля на развітальнай аўдыенцыі, збіраючыся ў той жа дзень выехаць на Падолле. Сярод многіх іншых прыдворных былі князь-падкаморый, брат караля, ксёндз Красіцкі, Бышэўскі, Арлоўскі, Нератаў, ад'ютанты, Панінскі каронны кухмістр, мастак Бачыярэлі, прыдворны доктар Сіа, граф Сядльніцкі; шамбялян Гінтаўт і каралеўскі сакратар, а яшчэ драматург, паэт, перакладчык і гісторык Станіслаў Трамбецкі, Бяляўскі, прыдворныя Баскамп і Камеллі, каронны бунчужны Галееўскі.

Кароль сядзеў у крэсле, трымаючы ў руках ручное люстэрка, у якое ён часта зазіраў. Шамбялян Гінтаўт раскладаў на стале прашэнні, пададзеныя ў гэты дзень каралю. Кароль першым звярнуўся да пана Браніцкага:

– Эх, лоўчы, ты ацаліўся зусім ад той раны, што табе нанеслі, ты ж Казанова, але дай Бог, каб ты так жа шчасліва пражыў і тыя небяспекі, якім ты павінен падвяргацца пасля ад'езду, бо на Падоллі ты павінен сустрэцца з моравым паветрам і з мяцежным сялянствам.

– Так, учора я адпраўляў туды Стэмпкоўскага, а сёння ўвечары сам з'язджаю. Я прыйшоў развітацца з вашай вялікасцю і папрасіць блаславення!

– А рана ўжо загаілася, не дае пра сябе знаку?

– Сама мала, святлейшы. Пернет, доктар вашай вялікасці, за мой кошт праславіўся, але француз хлусіць, што я нездаровы. А ўсе яго лекі я выкінуў у акно, лячыўся сам – па-свойму.

– Я сам быў сведкам гэтага, – загаварыў святар Красіцкі ,– як пан лоўчы, якога толькі што адпусціла гарачка, замест кашы, на якой Пернет хацеў яго трымаць, з'еў цэлага каплуна.

– Але дадайце, ваша вялікасць, што гэтага каплуна я запіў двума квартамі свайго дэкокта.

– Які такі дэкокт? - спытаў кароль. Звычайны дэкокт гэта адвар з лекавых раслін. А ў вас ён нейкі асаблівы?

– Дэкокт венгерскі – адказаў пан лоўчы.–- Пернет хацеў напаіць мяне пярцоўкай, але я толькі пасмяяўся, калі ён згадаў пра гэты слабенькі напой. Чорт бы мяне пабраў, святлейшы, у гэтых дактароў нехапае клёпак у галаве. Калі б у мяне не было столькі вопыту, а я іх паслухаў, мне не хапіла б фурманкі для перавозкі гэтых сродкаў ад мору, якімі яны хацелі мяне надарыць на дарогу. Але я ўжо ўзяў з сабой лепшае лякарства ад усіх хвароб: некалькі бочак венгерскага віна “Маслач”. Стэмпкоўскі, як і я, верыць у маю медыцыну: нічога не бойся, нікога не бойся, а добра пі, і будзеш жыць, пакуль сам хочаш.

– Шчаслівы той, у каго такі вясёлы гумар, як у вас, – сказаў кароль, уздыхнуўшы, – аднак не злоўжывайце адвагай: смерць прыходзіць нечакана.

Пакуль яны так весела гутарылі, Гінтаўт рэзка ўстаў з-за стала і, трымаючы ў руцэ нейкую паперу, наблізіўся да караля ў найвялікшым замяшанні. Кароль сказаў яму:

– А што гэта здарылася з васпанам, ваша мосць шамбялян, што вы ўскочылі, як апараны?

– Жах, найяснейшы, жах! Паміж просьбамі нейкі лотра, нейкая пачвара, адважыўся падсунуць пасквіль супраць вашай вялікасці!

– Ці не вершамі ён напісаны? - сказаў кароль, усміхаючыся. – Калі пасквіль дасціпны, дык мы яго паслухаем, калі разумны, будзем ім карыстацца.

– Куды там вершамі! – адказаў шамбялян, – не менш, не больш, як толькі пазоў, па ўсёй форме выкладзены, да вашай вялікасці, каб вы паўсталі асабіста перад канфедэрацыяй.

Кароль выхапіў паперу з рук Гінтаўта і стаў чытаць. Прысутныя ўбачылі, што ён збялеў. Не дачытаўшы, ён устаў, моцна ўсхваляваны, і пачаў хадзіць па кабінеце. Потым спыніўся і загаварыў:

– Глядзіце, паны, на абразу, нанесеную вашаму каралю: які цярновы вянок вы надзелі мне на галаву. Вы загадалі мне кіраваць, каб я нават не меў гэткага спакою, якім самым бедным грамадзянам законам забяспечаны. Мая крыўда – гэта ваша крыўда, таму я звяртаюся да вас.

– Ваша мосць, – павярнуўся кароль да Гінтаўта, – прачытайце ўслых гэты ўяўны пазоў. Хай іх мосці ведаюць, што я зношу.

Гінтаўт пачаў чытаць той пазоў, але кожны сказ перарываўся крыкамі прысутных, крыкамі абурэння і падтрымкі манарха.

– Святлейшы васпан, – азваўся Панінскі, – няма паміж намі такога вылюдка паляка, каб ён не мог адчуваць шкоды ўсяму народу, нанесенай у асобе яго памазанца. Калі б хоць найменшы намёк на тое, хто ж адважыўся стаць

крыўдзіцелем! Мы будзем перасследваць нахабніка, які замахнуўся на веліч нашага караля.

– Я не магу прыгадаць, хто ў гэтым натоўпе просьбітаў аддаў мне гэты пасквіль. Вам, паны, трэба шукаць яго ў горадзе. Гэта павінен быць нейкі змоўшчык, барскі канфедэрат, яго трэба выявіць абавязкова.

Кароль адпусціў гасцей, але некалькі прыдворных засталіся і пачалі вырашаць, як знайсці таго, хто асмеліўся пакласці пазоў.

Кароль адразу паслаў за прыдворным маршалкам, які кіраваў гарадской паліцый. Бялінскі, вялікі каронны маршалак, так добра яе зладзіў, што ніякае злачынства доўга схавацца не магло. І яго пераемнікі ішлі тым жа шляхам.

Кароль спадзяваўся з дапамогай маркграфа Велькапольскага, цяперашняга прыдворнага маршалка, і сваіх памочнікаў выявіць вінаватага. Ён займаўся пошукамі з такой стараннасцю не таму, што хацеў наталіць прагу помсты. Ён быў упэўнены, што супраць яго існуе нейкая шырокая змова, і падазраваў, што да яе мелі дачыненне некаторыя блізкія да яго асобы. Ён быў даволі баязлівым, не мог падумаць, што нехта зойдзе так далёка, пойдзе супраць яго, не разлічваючы на яго падтрымку.

**IV. Чэнстахова**

У той час як кароль са сваімі прыдворнымі яшчэ нічога не рабілі каб адшукаць таго, хто яму так адважна перадаў пазоў, войскі выслізнуў з натоўпу, зайшоў у кватэру Вазгірда, дзе застаў Скалубу.

– Пане, – сказаў верны слуга, – табе трэба, не губляючы часу, скінуць куртку і шаравары і надзець сваю світку. Мой слуга ўжо павінен чакаць нас у у пастара.

Войскі пераапрануўся, знятае з сябе адзенне запхнуў нагой пад ложак гаспадыні, паклаў ёй пад падушку некалькі манет, выйшаў са Скалубам і накіраваўся да Ерусалімскай брамы.

Бабка не здагадвалася, што сваіх гасцей яна губляе назаўсёды.

Войскі са Скалубам без перашкод дабраліся да Фаленцкай плябаніі, дзе ўжо засталі Вазгірда, Бунчукевіча і фурманку, толькі што імі запрэжаную.

Войскі ледзь паспеў павітацца са святаром і падзякаваць яму, таму што святар сам прасіў іх, каб яны неадкладна з'ехалі бо ў любую хвіліну можа быць пагоня.

А тымчасам пры двары пачалі думаць, хто б мог падаць каралю прашэнне. Пан Гінтаўт ўспомніў, што быў нейкі ляснік з Белавежскай пушчы, у зялёнай куртцы, які гаварыў з каралём пра сваю справу. Нібыта ён хацеў вярнуцца да той пасады, якой быў пазбаўлены, і падаў прашэнне. А тое, што гэтага прашэння сярод іншых не аказалася, наводзіла на думку, ці не ён, замест яго, уручыў пазоў каралю.

Было распаўсюджана апісанне больш ці менш дакладнае, і маршалковы паліцэйскія і агенты тайнай паліцыі забегалі па Варшаве з такой шпаркасцю, што гэта доўга не магло ўтаіцца.

Як толькі разнёсся слых, што шукаюць чалавека “сярэдняга росту, валасы светлыя, кранутыя сівізной, у светлазялёнай куртцы з чорным каўняром і шараварах такога ж колеру”, і за што аб’яўлена ўзнагарода тым, хто паведаміць што-небудзь пра яго, як у паліцыю пачалі паступаць звесткі. Не было ні адной вуліцы, на якой яго не бачылі; многія прызнаваліся, што размаўлялі з ім. Адна баба сказала, што нейкі чалавек, зусім такі, як апісалі, купіў у яе каўбас за дзве сярэбраныя капейкі. Другі чалавек бачыў, як у чатыры гадзіны раніцы чалавек якраз так апрануты пераходзіў Віслу з боку Прагі. Іншы сведчыў, што пасля набажэнства ў фарным касцёле, вяртаючыся дадому, заўважыў на купале лютаранскага касцёла чалавека, менавіта такога, якім яго апісвае паліцыя. Ён сядзеў і, гледзячы зверху на горад, завязваў вузельчыкі на белай хустцы. Калі ж, уражаны гэтым відовішчам, ён склікаў іншых паглядзець на яго, зялёны чалавек знік.

Увогуле, паліцыя спачатку нічога не магла зрабіць.

Аднак, у сваю чаргу, прыйшлі і больш важныя паведамленні. Адзін гандляр прызнаўся, што пасля ўзыходу сонца прыйшоў да яго малады чалавек, гадоў дваццаці, купіў у яго куртку і шаравары светла-зялёнага колеру, і скураны пас, што, хоць сам быў апрануты па сялянску, але заплаціў яму тое, што, ён прасіў, хаця каб ён патаргаваўся, мог бы купіць тую адзежыну за паўцаны. Многія сведчылі, што бачылі перад касцёлам чалавека, апранутага ў зялёную вопратку, які хадзіў задуменны, а потым той жа чалавек гаварыў з каралём і працягнуў яму нейкую паперу.

Але галоўнай сведкай аказалася старая, у якой спыняўся Вазгірд. Спалоханая жанчына прызналася, што яшчэ за некалькі дзён нейкі шляхціц, сярэдняга ўзросту, у кунтушы і з павязкай на ілбе, начаваў у яе, і што ўчорашняга дня ён прывёў з сабой нейкага незнаёмца ў світцы.Той назваўся ёй як Парай. Абодва ў яе з'елі абед, а потым, яны выйшлі разам у горад. Толькі ноччу вярнуўся да яе той пан, што ў яе жыў, а другі толькі на наступны дзень, і што ён быў апрануты так, як яго апісала паліцыя. Што з нейкім іншым чалавекам, правёўшы ў яе, можа быць, два дні, ён выйшаў, але адчувалася, што ў невясёлым настроі. Бабулька знайшла вопратку свайго госця, знойдзеную пад яго ложкам, якую гандляр адразу апазнаў. Не забылася старая і пра тое, што знайшла пад падушкай грошы, што гэта быў падарунак у сто разоў больш каштоўны, чым простая плата за пастой.

Пазней паявіўся і святар, які засведчыў, што да яго пад'ехалі чатыры незнаёмых чалавекі, з выгляду не пазнаць, паны ці слугі, і што праз паўгадзіны яны з'ехалі ў добрай павозцы. Ён апісаў і коней, і знешнасць гэтых незнаёмцаў.

Пасля гэтага паведамлення не было сумненняў у тым, што агенты барскай канфедэрацыі былі знойдзены, стала зразумела, чаму яны так лёгка праніклі ў

Варшаву. Але калі гэтыя паказанні запісвалі, прайшло больш за суткі пасля падзей, і нашы сябры ўжо мелі дастаткова часу, каб з'ехаць.

Калі ў гарадах паліцыя яшчэ магла штосьці выведаць, то па вёсках ніводзін шляхціц, які жыў на сваёй зямлі ці нават на зямлі іншага шляхціца, ніякай паліцыі не паддаваўся. Нельга было звяртацца да шляхціца, толькі хіба афіцыйна пазовам або загадам, а ніякай іншай юрысдыкцыі, яны не падпарадкоўваліся, толькі суду, і ні на якія пытанні яны не абавязаны былі адказваць.

Паліцыя здагадвалася, куды па шляху заязджалі тыя, каго пераследвалі, але не спрабавала рабіць пошукі па дамах, выдатна ведаючы, на якія непрыемнасці, і нават гвалт наткнулася б.

У Варшаве таксама гублялася надзея знайсці таго, каго шукалі, спрабавалі толькі даведацца яго сапраўднае імя. Але і гэта было сумніўна, таму што толькі ў стане канфедэрацыі можна было даведацца пра гэта, а доступ у гэты стан быў немагчымы: канфедэраты былі асцярожныя. Дзе б ні знаходзіўся атрад барскай канфедэрацыі, любы чалавек, нават шляхціц, які спрабаваў далучыцца да яго, правяраўся ёю. Калі паміж канфедэратамі не знаходзіў некалькіх даручэнцаў, то як шпіёна яго на першым жа суку чаплялі за шыю. І габрэі ў гэтай грамадзянскай вайне былі самымі няшчаснымі: і адна, і другая партыя без міласэрнасці іх вешала. Дайшло да таго, што нельга было сустрэць габрэя на вялікім тракце, таму што габрэй, які вандраваў дзеля ўласных інтарэсаў, на кожным кроку сустракаў небяспеку. Пры такім становішчы краіна нямала пакутавала, таму што ніякага гандлю быць не магло ў тых раёнах рэспублікі, дзе партыі сутыкаліся паміж сабой. Гэта асабліва паслужыла на карысць каралю, які хацеў выклікаць у народзе непрыхільнасць да канфедэрацыі, якая нарабіла столькі шкоды.

Таму, калі нашы сябры пасля таго, як нарабілі столькі клопатаў у сталіцы, спакойна ехалі "ад коміна да коміна", паводле наказу, дадзенага Вазгірду, то без прыгод прыехалі ў Чэнстахову, на Ясную Гару.

Ясная Гара, на якой стаяў Чэнстахоўскі манастыр, падпяразаная Траецкім валам, забяспечаная боепрыпасамі, абаранялася адважным гарнізонам, была цэнтрам усіх дзеянняў, апорным пунктам канфедэрацыі. Авалодаць ёю было немагчыма, патрэбна была толькі рэгулярная аблога, але для гэтага трэба было мець гарматы вялікага калібру, а іх было мала. Праўда, кароль з немалой цяжкасцю знайшоў шэсць такіх гармат і адправіў пад Чэнстахову, але ў некалькіх мілях ад яе іх сустрэў пан Францішак Дзержаноўскі, адзін з найадважных партызан канфедэрацыі. Ён напаў на ахову, якая гэтыя гарматы везла, рассеяў яе, гарматы забраў, і, не здолеўшы везці іх з сабой, загадаў іх заклінаваць і патапіць. Такім чынам, аблога ішла даволі марудна. Вылазкі партызан з Чэнстаховы часам на некалькі міль аддалялі аблогу, часта партызаны не дазвалялі каралеўскім войскам спакойна адступіць. Чэнстахова сапраўды была не абложанай крэпасцю, а велізарнай плошчай баёў, сутычак, паміж якіх былі такія, што нагадвалі гамераўскі эпас. Бывала, з аднаго боку нейкі рыцар

выклікае на бой рыцара з процілеглага боку. Двубой адбываецца ў прысутнасці абодвух войскаў, і пераможца вяртаецца пад крыкі захаплення абодвух лагераў. Нават сам камандуючы крэпасцю, атрымаўшы выклік ад кірасіра падмацавання каралеўскіх войскаў, прыняў выклік і забіў суперніка, які вызначаўся высокім ростам і велізарнай сілай.

Падобныя двубоі часта паўтараліся. З гэтых сутычак часам нараджаліся нават моцныя сяброўскія адносіны. Князь Далгарукі, асаністы малады чалавек, калі быў паслом у Варшаве, зацікавіўся адной прыгожай і знакамітай польскай князёўнай, заўзятай прыхільніцай караля Станіслава. Калі князь пачаў дамагацца яе ўзаемнасці, яна яму адказала, што ён можа заслужыць яе добразычлівасць толькі пад Чэнстаховай. Закаханы доблесны юнак на другі дзень пайшоў добраахвотнікам да абложаных і ўзнагародзіў сябе цудамі мужнасці. Нарэшце малады граф Вельгорскі з гарнізона Чэнстаховы, выклікаў яго на двубой. Абодва біліся пешшу, на шпагах, на вачах у двух войскаў. Яны біліся больш за гадзіну, з такім роўным спрытам, што, хоць некалькі разоў адпачывалі, перарывалі жорсткую бойку, але адзін другому нічога не мог зрабіць. Абодва лагеры аднадушна загадалі ім спыніцца: высакародныя фехтавальшчыкі абняліся некалькі разоў, абмяняліся адзін з адным зброяй і на развітанне далі адзін аднаму пярсцёнкі. Пазней князь Далгарукі патрапіў у рукі канфедэратаў, і граф Вельгорскі сам дапамог яму ўцячы. А яшчэ пазней, калі большая частка Польшчы ўвайшла ў склад Расіі, князь Далгарукі пасябраваў з графам, граф ажаніўся на рускай сваячцы князя, і яны праз гэта нават парадніліся (аўтар кнігі сведчыць, што гэта сапраўдны гістарычны факт).

Аднак вайскаводы з каралеўскага боку пераканаліся, што ў падобных баях перамога часцей за ўсё была на баку канфедэратаў. І, нягледзячы на ўсеагульнае непадпарадкаванне, яны забаранілі сваім прымаць падобныя выклікі. Неўзабаве вайна стала зусім празаічнай і сцёрла памяць аб гэтых паэтычных падзеях.

Нашы літоўцы ехалі да Чэнстаховы ў такім парадку: войскі з панам Вазгірдам сядзелі на возе, Бунчукевіч кіраваў, Скалуба сядзеў побач з ім. Але ён часта паварочваўся спіной, і так седзячы, звесіўшы ногі над пярэднімі коламі, размаўляў з панамі. Але, ледзь заўважыўшы, што ўдалечыні падымаецца пыл, ён хутка вяртаўся на ранейшае месца.

Як бы шчасліва яны ні выбраліся з Варшавы, як бы ласкава яны ні былі прынятыя па шляху, яны яшчэ не былі ў поўнай бяспецы. Яны маглі па шляху быць атакаваныя якім-небудзь атрадам каралеўскіх або дапаможных войскаў. У іх нават бывалі падобныя сустрэчы, але хітрасць Скалубы бараніла ад нападу. Таму што на пытанне: хто яны такія? куды яны едуць? і як справы ў Варшаве? Скалуба адказваў заўсёды так дасціпна, з гумарам, і з такой прастадушнасцю, што атрад пакідаў іх ва ўпэўненасці, што гэта людзі, адданыя каралю.

Толькі пад Скалмежам яны напаткалі атрад пана Зарэмбы, аднаго з вядомейшых правадыроў канфедэрацыі. Тут ужо яны адчулі сябе зусім у бяспецы і

адтуль без перашкод адправіліся ў Чэнстахову. Якраз за некалькі дзён да гэтага стараста Варэцкі са сваім атрадам, зрабіў вылазку, прычым настолькі паспяхова, што пасля бою войску караля давялося адступіцца ад аблогі. Яна пачалася нанова толькі праз два месяцы.

У Чэнстахове было шмат правадыроў канфедэрацыі, чыя апошняя перамога была самай бліскучай. Надзеямі суцяшала не толькі яна, але і сам вайскавод, пан стараста Варэцкі. Але ён сам не падзяляў такой радасці. Ён адчуваў хісткасць становішча канфедэрацыі. Хай сабе Францыя і Аўстрыя ёй спрыялі, але ён справядліва лічыў, што гэтыя дзяржавы палохае партыя, якая змагаецца супраць свайго караля, прызнанага ў Еўропе, аднагалосна абранага.

Пан стараста Варэцкі і пан Богуш, генеральны сакратар канфедэрацыі абдумвалі, як бы яны маглі б выманіць караля пад Чэнстахову, таму што яны справядліва прадказвалі, што, хоць пасланы пазоў і трапіў у каралеўскія рукі, кароль добраахвотна не пакіне Варшаву.

Паміж імі пачалася бурная спрэчка. Яе перапыніў прыезд палкоўніка Верашчакі, які быў у гэты дзень на дзяжурстве ў крэпасці. Ён увайшоў і далажыў камандзіру, што пан Вазгірд, вярнуўшыся з Варшавы, хоча з'явіцца да яго з дакладам; што ў яго з сабой другі ліцвін, які разам з ім прыехаў, і што ў яго таксама ёсць нейкая важная прычына для сустрэчы.

– Хай увойдуць, - сказаў пан Казімір, – мы высветлім, што добрага яны нам прынеслі.

Як толькі яны пераступілі парог стараста спытаў:

– А што вы нам скажаце, пане Ян?

– Пан стараста - адказаў Вазгірд – загад генерал-лейтэнанта я ўжо выканаў, але то была не мая справа. Усё зрабіў пан Міхал Стравіньскі, слонімскі войскі.

– Пан войскі – наш знаёмы і вельмі заслужаны канфедэрат. Як пан трапіў сюды? Як казаў нам генерал Бяляк, ты трапіў у палон пад Сталовічамі?

– Так і было, – адказаў войскі, – але я тут з ласкі пана Вазгірда, які свайму слузе даручыў адшукаць мяне. Гэта шляхціц, яго завуць Скалуба – смелы, разумны, талковы. Ён мяне з дзесяткамі палонных вызваліў сапраўды цудоўным чынам. Ён напаіў нашых вартаўнікоў, і калі тыя, не прыходзячы ў прытомнасць ляжалі ў двары, ён нас вывеў з турмы. Мы разжыліся зброяй нашай варты, і на яе конях нам удалося выслізнуць.

– Скалуба! Скалуба! – задумаўся стараста, – гэтае імя мне знаёмае, бо, калі мы перапраўляліся праз Збруч, Скалуба захапіў варожую гармату.

– Так яно і ёсць, — адгукнуўся Вазгірд, – яшчэ тады пан хацеў прызначыць яго харунжым у сваёй харугве, але мой Скалуба адмовіўся ад гэтага гонару таму, што ні пісаць, ні чытаць не ўмее.

– Памятаю, памятаю; ён не ўмее ні пісаць, ні чытаць, але ўмее дзейнічаць. Такія нам патрэбныя.

№30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

– Ну, пане войскі, раскажыце, як вам атрымалася падабрацца да караля?

– Сціпласць пана Міхаіла, – працягваў Вазгірд, – так вялікая, што я павінен гаварыць за яго. Ён пераканаў мяне, што яму, як адвакату, больш дарэчы прад'явіць пазоў каралю, а нам даць паказанні па пазове, і нас было трое шляхціцаў для пасведчання: я, Скалуба і Бунчукевіч. Пан войскі падаў пазоў каралю, а я, апрануты як гільдэрмайстар, глядзеў. Маё сэрца білася так, што ледзь не выскачыла, калі кароль размаўляў з войскім. Шчасце наша, што кароль так замучыўся з просьбамі, што ўжо пад канец, не адкрываючы пададзеных папер, уручыў іх свайму шамбяляну. Такая доля спасцігла і наш пазоў. І такім чынам мы паспелі збегчы, скінулі ўсё гэтае нямецкае поскудства і апрануліся па-чалавечы. Потым ад коміна да коміна патрапілі ў Чэнстахову. Мы заўсёды гатовыя да новых загадаў пана генерала.

– Пан войскі, – сказаў Пулаўскі, – вы выканалі свае абавязкі як рыцар і шляхціц. Ад імя канфедэрацыі я абвяшчаю вам падзяку. Можа быць, хутка канфедэрацыя, аб'яднаная з каралём, ператворыцца ў сейм, і я адразу ж перад тварам усяго народа напомню пра гэты ўчынак. Сёння я толькі скажу, што вы так праявілі сябе, што з гэтага часу ў любым важным і небяспечным прадпрыемстве я заўсёды буду на вас разлічваць.

**V. Вылазка ў Варшаву**




Пазоў, пасланы каралю і абвешчаны універсалам генеральніцтва, не атрымаў тых наступстваў, якіх ад яго чакаў пан Пулаўскі.

Прыхільнікі караля палалі гневам за абразу, нанесеную валадару. Нават людзі, неабыякавыя да тагачаснага раздваення народа, гэты крок аднадушна асуджалі.

Кароль атрымаў з правінцыі мноства лістоў, у якіх гаварылася аб непахіснай вернасці каралю і яго падтрымцы.

Праціўнікі караля, нават звязаныя з канфедэрацыіяй, стомленыя большай часткай безвыніковым і доўгім супрацівам, даволі абыякава ўспрынялі гэты заклік. Мала засталося на свеце такіх душ, чый запал, пасля стольких няўдач, не астыў бы.

Кароль, кіруючыся разумнай палітыкай, якая натхняла яго пры падтрымцы дружалюбных двароў, усіх канфедэратаў, змучаных пяцігадовым супрацівам, сам рабіў усё, каб памірыць праціўнікаў. Калі да яго прыходзіў хтосьці з з канфедэратаў з просьбай аб прабачэнні, то кароль не адштурхоўваў яго, пераконваў, абсыпаў ласкамі. Да гэтага далучаліся незадаволеныя, якія не падтрымалі Пулаўскага.

Так яшчэ ўсяго тры месяцы прайшло з часу вяртання нашых літоўцаў, а ўжо і Квілецкі, якому некалі ўдалося адстаяць для канфедэратаў тэрыторыі ў Вялікай Польшчы, уступіў у пагадненне з камандзірам каралеўскай арміі, склаў зброю і адступіўся ад канфедэрацыі. Яшчэ прыйшло важнае паведамленне аб тым, што каралю здалася крэпасць Ланцкарона. Адважны Віяменіль абараняўся ў ёй да апошняга. Ужо былі з’едзены нават пацукі, голад ўсё больш мучыў, калі пан Зарэмба, адзін з самых знакамітых правадыроў, якому пан Пулаўскі асабліва давяраў, адпраўляючы яго на дапамогу абложаным, таксама перайшоў на бок караля пад самай Ланцкоронай. Яму ўжо не было магчымасці адмовіцца ад капітуляцыі. Ён нічога не мог больш зрабіць, бо ўжо два дні ў людзей, якія знаходзяцца ў гарнізоне крэпасці, нічога не было ў роце.

Усе незадаволеныя зусім супакоіліся, скарыліся каралю. Вядома, канфедэрацыя яшчэ трымалася ў Чэнстахове і ў яе ваколіцах, ды яшчэ былі жменькі партызан, якія заселі ў Карпацкіх гарах, рабавалі сялян, каб пракарміцца, і тым самым пазбавіліся іх падтрымкі.

Не, падобна было на тое, што канфедэрацыя ўжо дагарала.

Становішча пана Пулаўскага было незайздроснае: і іншыя вайскаводы маглі чакаць, што пры паўсюдным заспакаенні ў рэспубліцы, з надзеяй на прабачэнне караля, яны могуць вернуцца да той жа пазіцыі, на якой яны стаялі перад пачаткам грамадзянскай вайны. Ці не ў кожнага з іх былі сваякі ў стане караля, якія змаглі б іх абараніць перад каралём. Адзін Пулаўскі нічога чакаць не мог. Трое яго братоў загінулі смерцю храбрых. Чацвёрты, трапіў у палон, невядома дзе быў. Кароль гаварыў аб усіх сваіх суперніках з памяркоўнасцю. Ён заяўляў, што нічога не жадае, як абняць у бацькоўскім доме блудных дзяцей. Аднаго толькі пана Казіміра Пулаўскага, выключаў ён са сваёй міласці, імя яго ён не мог успомніць без абурэння і пастаянна паўтараў, што яму аднаму як самаму вінаватаму з усіх, ён ніколі не даруе. І не прамінаў дадаць: Пулаўскі змагаецца як чалавек у роспачы, ды яшчэ іншых хоча сілком пацягнуць з сабой у прорву. І гэтыя словы даходзілі да канфедэратаў. Становішча Пулаўскага рабілася безвыходным.



Аднак у адчай ён не ўпадаў. Так, ён не пераставаў жыць надзеяй, у якую ўжо і сам не верыў. Сярод непрыемнасцей, якія сыпаліся на пана Пулаўскага, адной з самых горшых для яго была хвароба пана Жавускага – вялікага літоўскага харунжага і генерал-палкоўніка барскай канфедэрацыі. Гэта было дужа дрэнна для Пулаўскага, бо ён якраз адкрыў перад харунжым свой намер выкрасці караля, каб ён мог паўстаць на чале канфедэрацыі, таму што бачыў гэта як выратаванне, стрэл з апошняга патрона. Харунжы не толькі ўхваліў гэты намер, але прыняў рашэнне правесці ў адзіночку гэтую задуму.

Ды вось толькі пакуты пана харунжага ўзмацніліся да такой ступені, што ён ляжаў у кляштары айцоў паўлінаў у Чэнстахове. Яго лячыў брат Рэмігій, манах і выдатны хірург.

Ужо тады пан Пулаўскі, страціўшы надзею выкарыстоўваць таварыша, здаў гэтую экспедыцыю, якая патрабавала самай стараннай падрыхтоўкі, палкоўніку Лукаўскаму, воіну, поўнаму мужнасці і запалу. Ускладаў на яго вялікую надзею.

Стан здароўя пана харунжага нічога суцяшальнага не абяцаў. Жар у яго быў такі моцны, што ён часам траціў прытомнасць, з цяжкасцю варочаўся на ложку. Брат Рэмігій заявіў, што некалькі тыдняў харунжы яшчэ будзе хварэць.

Лекар якраз скончыў перавязваць хвораму нагу, калі пан Пулаўскі прыехаў наведаць сябра і таварыша па зброі.

Харунжы паспрабаваў падняцца, але пан Пулаўскі тут жа ўпрасіў яго адмовіцца ад усялякіх цырымоній, прысеў на край ложка і загаварыў:

– О, пан Станіслаў, якім ударам стала для нас твая хвароба! Замест вацпана палкоўнік Лукаўскі узначаліць экспедыцыю, якая павінна пакласці канец грамадскім пакутам. Лукаўскі шырока вядомы па мянушцы «Запал», і доблесцю і розумам не раз, як вядома, праслявіўся. Ён, так бы мовіць, быў той воссю, на якой абарачалася наша канфедэрацыя ў Вялікай Польшчы. Паколькі пан Квілецкі здаў зброю каралю, і ягоныя падначаленыя выпрасілі для сябе прабачэнне, ён адзіны з вайскаводаў не хацеў парушыць клятву, і з дзесяткам вершнікаў праз Каліш здолеў прарвацца да нас. Ён узяўся прывезці караля ў Чэнстахову і запатрабаваў даць яму ў дапамогу ўсяго дваццаць чалавек выключнай адвагі. Я выбраў для яго тых, хто ёсць у мяне ў лагеры. Мы ўгаворым караля, каб ён быў з намі. У яго будуць не злыя прыдворныя, а верныя падданыя. Ён не знойдзе паміж намі такіх, якімі ён цяпер акружаны. Не такіх, што ўвесь час кажуць: – дай. дай! – але такіх, што свае маёнткі і жыццё сваё будуць аддаваць службе.

– Дык хай дапаможа ім Бог, пан Казімір, – хворым голасам адказаў пан Жэвускі, – каб гэтая няшчасная грамадзянская вайна скончылася. Я спадзяюся ўбачыць тут караля, і, хутчэй за ўсё, больш адданага сабе падданага ён нідзе не знойдзе. Але хоць сам гэты крок я высока ацаніў, хоць і ўзяў на сябе смеласць асабіста ўзначаліць гэтую задуму, прызнаюся, пан Казімір, што адчуваю нейкі неспакой, якога ніколі не адчуваў.

– Не дзіўна, што калі ўсё пастаўлена на адну карту, неспакой павінен мучыць нас, але іншага сродку выратавання ў нас не засталося. Мы б'ёмся кожны дзень, але да чаго гэта прыводзіць нас? Нам цяжка ўтаіць ад саміх сябе, што мы стаім над прорвай. Дух ва ўсіх альбо астывае, альбо ўжо астыў. Хто можа, той ад нас адступаецца, а тая жменька, якая да гэтага часу не адчайваецца, кожны дзень скарачаецца, павінна сысці на нішто. На працягу некалькіх тыдняў пратрымацца яшчэ магу, але не болей. Бог сведка, пан Станіслаў, што мы ўжо вычарпалі ўсе сродкі выратавання. Адно ў нас засталося, цяжка не ўхапіцца, як тапельца за саломінку.

– Праўду кажаш, пан Казімір, але адно мяне палохае. Калі наша задума праваліцца, якая пляма на нас упадзе! Калі хто з тых, каго вы пасылаеце, патрапіць у рукі каралеўскіх прыхільнікаў, калі ён прызнае, што ён зрабіў гэта па загаду генерал-маёра, тады ты ведаеш, што будзе далей? Будзь ўпэўнены, яны абвесцяць па ўсім свеце, што мы здзейснілі замах на жыццё манарха, і наша імя з жахам будзе згадвацца паўсюль. Баюся, каб нашы імёны не неслі ганебнага кляйма царазабойства. Гэта злачынства, нечуванае ў гісторыі нашай!

– Не, пан Станіслаў, калі экспедыцыя і не ўдасца, чаго я не магу дапусціць, – хоць бы ўсе, каго пасылаю, трапілі ў рукі ворагаў нашых, як бы там ні спрабавалі выставіць гэта перад Еўропай за царазабойства, нашы імёны не будуць зняслаўленыя, слава нашай канфедэрацыі будзе выратаваная. Я выслаў дваццаць

 ISSN 2562-950

доблесных вояў, а паміж імі чацвёра і такіх, перад якімі я ўжо адкрыўся: палкоўнік Лукаўскі як начальнік экспедыцыі і трое ліцвінаў: Стравіньскі, Вазгірд і Скалуба. Я ведаю гэтых людзей, пан Станіслаў, і таму адкрыўся перад імі з усёй упэўненасцю; іншыя толькі ведаюць, што едуць у паход да Мазавіі, як звычайныя партызаны. Але куды, навошта, яны нават не здагадваюцца. Пан Касінскі, які з імі ідзе, здабыў ўсеагульную вядомасць як адзін з лепшых нашых партызан, ён па некалькі разоў мог наязджаць у сталіцу, ён мае з ёй адносіны, аднак і яму цалкам я не хацеў бы даверыцца. Усё, што ён ведае, гэта тое, што ён павінен падпарадкоўвацца начальніку. Але я, хоць і давяраю яго мужнасці, ведаю, што ён не набожны, і таму ў мяне няма ніякіх гарантый, каб ён валодаў тым сталым духам, які можа даць толькі гарачая вера, і з дапамогай якой чалавек безабаронны, зняволены ў турму, на пакуты, не перастае быць адважным. Але што тычыцца тых, каму я даверыўся, будзь ўпэўнены, пан Станіслаў, што кожны з іх тысячу смерцяў у пакутах вытрымае, а не выдасць таямніцу. Сёння ў манастырскай капліцы яны спавядаліся і, прыняўшы плоць і кроў Збавіцеля, далі клятву. Акрамя іх, ксяндза Марэка і мяне, нікога не было. Пасля кароткай пропаведзі ксяндза Марэка, кожны з іх, прыступаючы да святога прычасця, сказаў такія словы:

– Калі, бронь, Божа, траплю ў рукі ворагаў, прыму пакуты, але не аддам ворагам таямніцу, давераную мне: — калі хоць адно прозвішча назаву, хай гэтая кроў Збавіцеля майго, на мяне ўпадзе, хай навекі буду пракляты!

– Я не мяккага сэрца, пане Станіславе, так, як і васпан, я вырас у лагерах, але пры гэтых словах стрымаць слёзы я не змог. На іх тварах выяўлялася такая адданасць, такая самаахвярнасць! Нешта настолькі нагадвае першыя стагоддзі хрысціянства, што вымавіць гэта я не магу. Будзь спакойны, пан Станіслаў! Наша слава ў бяспецы, ніякія злыдні не змогуць яе пахіснуць. Можа быць, Бог увянчае поспехам наша прадпрыемства. Інакш мне няма чаго будзе прыдумаць. Ты ж сам бачыш, што некалькі тыдняў пратрымацца я не магу. На што мы абапіраемся? Францыя, якая пастаянна падтрымлівала нас, як толькі мы падняліся, нам не дапамагла. Якая цана была яе абяцанням? Некалькі жменяк злотых і дзесяткі два афіцэраў. Ды і гэтая малая дапамога ёй цяжкая. Шоазель сышоў, а яго пераемнік чакае толькі абставінаў, каб урачыста адмыць рукі ад нашай справы. Не! Выкраданне караля дасць іншае. Бог чуе нас, пан Станіслаў! Яго ў сведкі бяру, што ніякая зацікаўленасць, нават імкненне да асабістай славы мной не кіравалі: я ішоў за перакананнем і ніколі не азіраўся. Калі кароль будзе з намі, усё ў нас атрымаецца; калі гэтая апошняя надзея збудзецца, вы ўсе нічога не страціце, кароль даруе вам усім. Сам бачыш, той, хто здаўся яму, не меў прычын шкадаваць пра гэта. А што са мной будзе, да гэтага я абыякавы: я добра ведаю, што на мяне аднаго ўскладуць усю віну. Я пакіну зямлю маіх продкаў: на іншай палове свету ёсць народ, які ўступае ў бой: там пайду шукаць сабе прытулак, туды славу племя майго панясу. Апошні барскі канфедэрат папоўніць шэрагі амерыканскіх змагароў.

Пан Жавускі ўзяў яго за руку і, з хваляваннем сціснуўшы яе, адказаў:

– Пазнаю цябе, пан Казімір! Ты заўсёды адважны, заўсёды бясстрашны. Што ж тычыцца мяне, калі нашы надзеі падвядуць нас, будзь ўпэўнены, што ніякага прабачэння я не прыму. Добра раскаяцца ў грахах перад святаром, бо таямніцы ён не выдасць. А чалавек перад іншым роўным сабе чалавекам ні пра што не павінен шкадаваць. Жыццё наша занадта кароткае, каб мы дзеля яго ўсю славу прыносілі ў ахвяру. Мне не трэба пераязджаць за мора. У мяне ёсць суседні манарх; у яго лагеры я набыў сякія-такія заслугі, сведчанне якіх я нашу на грудзях. Яму я прапаную свае паслугі. Італія мяне, спадзяюся, прыме, рымскі імператар мной не пагрэбуе.

*Тут аўтар, забягаючы наперад, хоча паведаміць, што пасля роспуску барскай канфедэрацыі была аб'яўлена амністыя. Толькі трое не хацелі прыняць яе. Гэта былі: пан Міхаіл Пац, генеральны маршалак Літвы, які памёр у Страсбургу ў 1787 годзе, у добраахвотным выгнанні, пан Казімір Пулаўскі, які загінуў ў Амерыцы ў баі пад Саваннай у 1779 годзе, пан Станіслаў Жавускі, які стаў фельдмаршал-лейтэнантам імператарскіх войскаў у аўстрыйскага імператара Іосіфа II, памёр у 1786 годзе.*

Пан Пулаўсцкі развітаўся з харунжым, пайшоў займацца выправай у дарогу тых, на каго ўскладаў свае надзеі. Сумневаў не заставалася, што ўсё, раней прадуманае, павінна даць жаданы вынік.

У самой Варшаве ў яго быў свой чалавек – пан Пжышыхоўскі, які пастаўляў коней для конніцы саксонскага курфюрста. Ён пастаянна трымаў ўпотай сувязь з панам Пулаўскім, і быў вольны ад усялякіх падазрэнняў, бо варшаўская моладзь брала ў яго коней часцей за ўсё ў доўг, чым ён заслужыў у яе давер. А ў князя падкаморыя, брата караля, ён бываў ці не кожны дзень. Некалькі дзясяткаў коней, якія ён заўсёды меў у сваёй стайні, былі да паслуг Пулаўскага.

Акрамя таго, у нейкай мілі ад Варшавы жыла ў сваім замку пані ваяводзіна Раўская, багатая ўдава, якая была ў самых цесных сяброўскіх адносінах з фаварытамі караля. Пані крайчына кожны тыдзень прыязджала да яе летам, каб падыхаць вясковым паветрам. Часта бывалі ў яе баляванні, дзе можна было бачыць увесь вялікі свет сталіцы. У яе завязваліся любоўныя інтрыгі першых залётнікаў двара. Інакш яе не называлі, толькі: наша мілая ваяводзіна. Кароль сам заслужыў яе давер. Хто на свеце асмеліцца западозрыць яе? А між тым жанчына, душой і целам прывязаная да саксонскага дому, пастаянна перапісвалася з панам Пулаўскім і яму пра ўсё апавядала.

Войскаў у Варшаве не было, акрамя пешай гвардыі і палка Міроўскіх, на які кароль не шмат мог разлічваць, бо палова гэтага палка яшчэ ў пачатку канфедэрацыі, будучы падбухторана ротмістрам таго ж палка, Францыскам Дзержаноўскім, перайшла на бок канфедэрацыі. Адзіны полк, на чыю вернасць кароль мог разлічваць, была каралеўская харугва, якая была ў Варшаве пад камандаваннем пана

старасты Вялюньскага. Ён яе нядаўна сам стварыў, атрымаў за гэта званне генерал-маёра.

Некалькі дзясяткаў вершнікаў, ды і то раскіданых па горадзе, не былі гэтак страшныя, каб з'явілася падазрэнне пра выкраданне караля ў начную пару, у неасветленым горадзе, дзе ўжо ў дзевяць гадзін вечара вуліцы былі пустыя.

Ніколі абставіны не здаваліся больш спрыяльнымі для таго, каб ажыццявіць задуманае.

Людзі пана Пулаўскага, апранутыя хто па-вясковаму, хто як шляхціцы, якія вандруюць у сваіх інтарэсах, рознымі шляхамі злучыліся ў маёнтку пані ваяводзіны Раўскай, дзе ўжо былі для іх падрыхтаваны коні.

Нашы ліцвіны ехалі разам на адной брычцы, якой кіраваў Скалуба. Ехалі з асцярожнасцю, стараліся, каб іх нідзе ніхто не затрымліваў. Вазгірд і Скалуба былі вясёлыя, а войскі больш, чым калі-небудзь, здавалася, быў пагружаны ў сумны настрой.

Вазгірд, які сядзеў побач з ім, паспрабаваў разгаварыць яго. Убачыўшы яго панура маўклівым, ён нецярпліва загаварыў:

– Пан Міхал, я б не хацеў, каб ты сядзеў моўчкі, як звычайна. Нам даручана тое, што прынясе нам несмяротную славу, а краіне мір і шчасце, а таму не след сумаваць. Калі б я цябе не ведаў, далібог, пачаў бы сумнявацца ў поспеху, таму што твой смутак нібы вяшчуе нейкае злавеснае прадчуванне.

– Не, пане Яне, у мяне няма ніякіх прадчуванняў, я спадзяюся, што справа ў нас атрымаецца. Мае прадчуванні – гэта толькі маё. Бог дапаможа нам, але я хутка буду не рады гэтаму.

– Ат, кінь ты гэтыя дурныя думкі! Лепш думай; што цябе і нас чакае. Зрэшты, я цябе не пазнаю: ты заўсёды з добрай надзеяй ішоў на самыя рызыкоўныя справы, а зараз расстроены. І што цябе збіла з панталыку?

– Смейся з мяне, пане Яне, здзекуйся над маімі забабонамі, над глупствамі. Але я ў адным павінен прызнацца, што калі б наша выправа была тыдзень таму, ці ва ўсякім выпадку, за чатыры тыдні, я быў бы цалкам спакойны. Але цяпер лістапад, месяц для мяне самы нешчаслівы.

– Табе было б сорамна, пан Міхал, верыць у такое глупства. Кожны месяц знаходзіцца пад апекай Усявышняга. Што можа быць страшней у лістападзе, чым у снежні?

– Для васпана нічога, але для мяне... Бо ты выдатна ведаеш, пане Яне, што я ніколі не быў шчаслівы, але самыя страшныя няшчасці заўсёды здараліся са мной у лістападзе.

– А гэта што яшчэ?

– Няйначай, так. Памяркуй сам! Я нарадзіўся ў Дзень усіх Святых, але мне далі імя анёла, таму што айцец мой не хацеў рабіць выбар паміж святымі, каб не падвяргаць сябе небяспецы. Вось першае маё няшчасце. У лістападзе маці мая мяне,

дзіця сваё, пакінула. А памятаеш, якая бяда была ў мяне ў лістападзе, калі на Нёмане пад Сверbegin Сверджанем брычка, коні і скрыня, ўсё, што я князю ваяводзе адаслаў, сышлі пад лёд. А ці не ў гэтым месяцы я прывёз у Нясвіж майго брата, дзе ён пазнаёміўся з маёй нявестай? Павер, я не перажыву гэтага лістапада. У мяне ёсць нейкае прадчуванне, якое я не магу растлумачыць. Учора, спавядаўшыся з вамі, я распараджаўся сабой да смерці і Цела Гасподняе прыняў як прычасце. Калі я к памру, ты не забудзешся пра душу сябра?

– Пан Міхал, ці ведаеш ты, што такія думкі – цяжкі грэх?

– Не, дарагі Яне, гэта не грэх, гэта моцнае прадчуванне, таму што яно ад Бога. Нябожчык мой бацька не месяц, не дзень, а гадзіну да сваёй смерці прадчуваў, і ты ведаеш, што гэта быў муж па сэрцы Богу. Ты не паверыш, ад многіх грахоў гэта прадчуванне маё раней абараняла мяне, а вось сёння я гатовы паўстаць перад судом Божым. І ўсё ж, што гэта за свет! Ён не мог прывязаць мяне да сябе: розум і сумленне пераконваюць мяне, што мне больш выгадна памерці, чым жыць. Ты бачыў мяне не ў адной сутычцы, скажы: я схіліў галаву, калі вакол свісталі кулі? Але я веру, што набліжаецца момант растання маёй душы з целам, мне нават сорамна, што я адчуваю нейкае трапятанне.

– Будзь разумнейшы, пан Міхал: усё так добра, так па-боску прадумана, што павінна атрымацца. Васпан яшчэ шмат гадоў будзе атрымліваць асалоду ад свету садружнасці і падбярэ сабе жоначку, якая будзе лепшай для васпана. Мы будзем жыць шчасліва, і яшчэ шмат ласёў і мядзведзяў заб'ем у Алесіне.

– Не, не, пан Ян, ты кажаш гэта, каб ажывіць ўва мне дух, але гэта лішняе: хто ўпэўнены ў смерці, той у мужнасці не саступіць, не падвядзе таго, хто спадзяецца на яго. Я сто разоў адчуў гэта, абараняючы падсудных: яны спадзяюцца, пакуль ім не зачытаюць смяротны прысуд. Ты толькі паглядзі на мяне: я ўжо пражыў сваё жыццё. Прырода трымціць, але вера бярэ верх над ёй. Як бы тое ні было, я прашу цябе, калі я памру, памятай пра душу аднаго са сваіх сяброў.

– А я паўтараю, пан Міхал, што ў Бога верыць трэба, а ўсе гэтыя забабонныя страхі адгані знакам Святога Крыжа. Бог з табой, Міхал, я ўпэўнены, што ўсё добра пойдзе, і што ты выйдзеш жывым і цэлым з непрыемнасці, што, хоць я не адчуваю ў сабе паклікання да стану святара, я даю табе слова шляхціца, што, калі ў гэтым лістападзе ты памрэш, я пайду ў манастыр. А як толькі стану святаром, то спачатку імшу адпраўлю за тваю душу, а потым раз на тыдзень буду чытаць малітву за цябе.

Усміхнуўся Міхал на гэтыя словы, якія так красамоўна сказаў пан Вазгірд, і абодва змоўклі.

Я не буду распавядаць чытачу аб тым, як яны даехалі. Дастаткова таго, што ўсе, каго паслаў пан Пулаўскі, сабраліся ва ўмоўленым месцы, у мястэчку Закрочым, і там, ублытаныя ў службу шматлікага двара, чакалі загадаў пана Лукаўскага. Той кожны дзень, а часам і два разы на дзень бываў у Варшаве, вяртаўся заўсёды з добрай надзеяй, і нашы ліцвіны нецярпліва чакалі, калі і яны адправяцца ў Варшаву.

**VI. Прадчуваньне**

Дзень 17 лістапада 1771 года быў прызначаны для выкрадання караля, і менавіта па такой прычыне. Ён некалькі гадоў не бачыўся з дзядзькам, князем канцлерам. Князь-канцлер не раз бываў у святлейшага пляменніка, але стаў часта хварэць. Таму кароль вырашыў праведаць яго якраз 17-га, і правесці з ім увесь дзень і вечар. Ягоны намер быў таямніцай, але ніякай таямніцы пры двары захавацца не магло.

Ужо напярэдадні гэтага дня пані ваяводзіна пра гэта ўжо ўведала і ў адпаведнасці з гэтым план быў складзены панам Лукаўскім.

Ён, войскі, Касінскі і чацвёрты салдат, набліжаны Лукаўскага, на мужнасць якога ён ускладаў найбольшы давер, у той жа дзень з самай раніцы павінны былі аказацца ў Варшаве. У пана Пжышыхоўскага было падрыхтавана чатыры кані, а пяты – для караля. Ноччу і задумалі зрабіць напад на караля, калі ён паедзе ад дзядзькі ў замак, пасадзіць яго на каня, з ім прайсці праз браму і стаць на заезным двары, на паўдарозе да замка ваяводзіны, адкуль Вазгірд, Скалуба і яшчэ шаснаццаць вершнікаў павінны былі прывезці караля ў Чэнстахову. Скрасці караля хацелі каля паўночы, каб не спахапіліся, што яго няма ў горадзе. Маючы некалькі гадзін у запасе, яны спадзяваліся, што паспеюць уцячы. Аднак жа на выпадак пагоні пан Лукаўскі меў намер напалохаць караля пагрозай зброі. Калі б гэтую пагоню за імі паслалі, то Лукаўскі пайшоў бы і на такое.

Дарэмна Вазгірд патрабаваў, каб яго ўзялі з сабой. Пан Лукаўскі, аднак даручыў яму камандаванне атрадам, які павінен быў рушыць ім насустрач, і ад свайго не адступіў. А Пулаўскі загадаў ім усім падпарадкоўвацца Лукаўскаму. Вазгірд не адважыўся не паслухацца.

**************************************************

У дзень 17 лістапада, паміж дзесяццю і адзінаццаццю раніцы стараста ў халаце сядзеў на канапе ў кабінеце. Ён піў чай, які стаяў на століку каля канапы, на якой ляжала некалькі лістоў спісанай паперы і стос замежных газет.

Толькі што ад яго выйшаў намеснік атрада, якім Людвік камандаваў. З ім стараста размаўляў больш за гадзіну. Ён вельмі дбайна займаўся новай справай, яму хацелася, каб харугва, якую ён атрымаў ад караля, стала ўзорнай і ён хацеў навесці ў ёй парадак і дысцыпліну на замежны ўзор. Дапіў чай, разгублена пагартаў толькі што атрыманыя пісьмы. У адным яго прасілі пазычыць некалькі сотняў злотых на некалькі дзён; у другім прасілі прабачэння, што не могуць заплаціць у тэрмін, апраўдваліся сотняй прычын, з якіх, аднак, ён нічога зразумець не змог. У трэцім у імя дружбы і таварыства прасілі, каб ён даслаў адной даме тысячу злотых, але пад

вялікім сакрэтам, каб яе муж пра гэта не даведаўся, бо пані была ў вялікай пашане ў караля. Чацвёрты быў самым прыемным, таму што з ім было даслана некалькі дзясяткаў злотых ганаровага доўгу за пройгрыш у карты. Гэта быў ліст ад падстолія, на якога на працягу двух гадоў бясплатна працавалі варшаўскія рамеснікі, але за гэта ён не плаціў. Ды вось жа стараста атрымаў за дваццаць чатыры гадзіны плату за пройгрыш у карты. Пяты – ліст, які Людвік атрымаў ад юрыста, ён даў яму параду ў справе багатага памешчыка з Валынскай губерні. Шосты, сёмы, да дванаццатага, былі просьбы, каб ён папрасіў чагосьці ў караля. Каб стараста нічога іншага не рабіў, толькі адказваў на лісты і квіткі, якія ён атрымліваў кожны дзень, часу на што іншае ў яго ўжо не хапала б.

Ён выйшаў з-за стала ў задуменні. Яму надакучыла чытаць лісты, на якія не варта было адказваць, чытанне іх нават было для яго цяжкім. І тут у кабінет увайшла яго жонка. Гэта была рэч нечуваная, якая выходзіла са звыклага ладу яе жыцця - бо яна ніколі не ўваходзіла ў кабінет. Стараста ўстаў, зрабіў некалькі крокаў насустрач жонцы, пацалаваў ёй руку і пасадзіў побач з сабой, прыгаворваючы: - якое шчасце, што вядзе цябе, анёл мой, у мой пакой?

Зося была ў халаце белага колеру, з жоўтымі стужкамі, на галаве ў яе была карункавая шапачка. Гэта было ранішняе негліжэ, але так з густам падабранае, так ёй да твару. Яна і сама была такая свежая і прыгожая, нешта такое анёльскае было ў яе поглядзе, што не толькі паэт, але і любы, у каго былі вочы, пагадзіўся б, што яна выглядала як зара ў майскую раніцу.

Стараста ніколі не бачыў яе больш прыгожай. Нейкі час ён знаходзіўся ў захапленні, ён ледзь мог паверыць, што яна ягоная жонка.

– Зося, - сказаў ён, – паўтараю табе пытанне: за што мне такое шчасце? Ты адчуваеш, што кожнае імгненне, не пражытае з табой, для мяне страчана. Але ты думаеш, што можаш перашкаджаць мне выконваць абавязкі маёй службы, і не хочаш перарываць маёй працы, таму што ведаеш, што з табой я магу быць заняты толькі адным. Таму я здзівіўся, што ты да мяне зайшла. Скажы мне, свайму сябру, які абагаўляе цябе, скажы, што прывяло цябе ў кабінет? Мая Зося, я бачу, што ўжо некалькі дзён цябе штосьці мучыць.

– Ты не памыліўся, мой дарагі. Нейкі час страх, які я не ўмею вытлумачыць сабе, нейкія трывожныя сны, нейкія прадчуванні не даюць мне спакою. Калі я бачу цябе, я спакойная, але ты ледзь знікаеш з маіх вачэй, мне здаецца, што я страціла цябе назаўсёды. Людовік, ты добры, ты не сумняваешся ў маёй прыхільнасці; дзеля цябе я ахвяравала ўсім, і ў мяне няма іншага жадання, толькі каб ты быў са мной шчаслівы. Ты стаў для мяне бацькам, братам, сям'ёй. Ты кахаеш мяне, ты кожнае імгненне майго жыцця стараешся зрабіць шчаслівым. Тады чаму я не шчаслівая?

– Дарагая Зося, скажы мне, чаго ты патрабуеш, што я, па твойму, не так раблю, чым я магу развеяць твой смутак? Я ахвярую ўсім, абы ні адно воблачка не

азмрочыла надвор'я твайго жыцця. Скажы, ці бачыш ты ў маіх учынках нешта такое, што трэба выправіць. Скажы, і адразу воля твая споўніцца.

– Людвік, што я табе скажу? Я кахаю цябе больш за жыццё, і я бачу, што маёй прыхільнасці да цябе недастаткова, што ты не можаш быць шчаслівым.

– Божа мой, Зося, што ты такое кажаш?  Цябе мне недастаткова! Не кажы так! Я кахаю цябе больш за ўсё на свеце, а ты лічыш, што мне гэтага недастаткова?

– Людовік, калі ты хочаш кахаць мяне, калі мой спакой табе дарагі, пакінь Варшаву, пакінь гэтую мітусню здрадніцкага вялікага свету. Утаймуй сваю прагу свецкіх забаў.  У нас ёсць значныя ўладанні ў Літве, у нас ёсць многа падданых,  у нас ёсць сваякі, суседзі, якія добра адносяцца да нас. Жывучы паміж імі, мы пастараемся заваяваць іх дабрыню. Я сялянка, мне гэты свет спачатку вельмі спадабаўся, але ўжо стаў настолькі агідны, што без нейкага прымусу ў ім я жыць не магу. Грамадства тутэйшае, яго размовы, яго весялосць, гэтыя нахабныя заляцанні мужчын, гэтыя інтрыгі жанчын –  усё гэта невыносна для мяне. Ты прывык да гэтага, ты без вялікага свету абысціся не можаш, ты прэтэндуеш на захапленне, на цацанкі двара, і ты хочаш, каб я верыла, што табе дастаткова таго, што я з табой.

– Зося, анёл мой, якая ж ты несправядлівая! Ці думаеш ты, што ёсць на свеце такая пустыня, у якой я не быў бы шчаслівы з табой? Але скажы, ці магу я жыць толькі для цябе? Хіба маё існаванне не належыць радзіме, якой я служу? Ці магу я пакінуць свайго караля, караля, гэтак адданага няўдзячнаму народу, у разгар публічных беспарадкаў, каб, пазбавіўшыся ад усякай небяспекі, думаць толькі аб уласным шчасці? Зося, калі б я сказаў каралю: ты заўсёды быў для мяне бацькам і сябрам, даў мне багацце, калі я быў яшчэ нічым, а цяпер, калі ў мяне ёсць жонка, анёл прыгажосці і дабрыні, хатняе шчасце, дабрабыт, я развітваюся з табой, таму што ўсё, што ты для мяне зрабіў, ужо знікла з маёй памяці. У цябе ёсць свае клопаты, падданыя твае бунтуюць, самыя злыя на цябе нападаюць. І ўсё ж, шукай каго хочаш, каб ён суцяшаў цябе, таму што ты мне больш не патрэбны.  Каб я паступіў так, Зося, хіба ты магла б далей паважаць мяне?

–  Што я табе на гэта адкажу, Людвік?  Усё яно так. Але хіба ты не падманваеш сябе, думаючы, што ты так патрэбны каралю? Колькі разоў ты шкадаваў аб тым, што тут жаночыя інтрыгі так усё перакрэсліваюць, што табе служыць каралю не пад сілу. Дарагі Людвік, калі ў цябе ёсць абавязкі перад каралём, хіба ты адзін у яго? Вер мне, што тысяча знойдзецца такіх, што тваё месца могуць заняць; хіба мала іх? Аддай у рукі караля тое староства, якое ты атрымаў ад яго.  Хай каму  іншаму яго падаруе. А сам пажыві як незалежны шляхціц. Што табе прыдасца ад таго, што станеш сенатарам, як табе абяцае кароль? Няўжо гэта  з'яўляецца мэтай тваіх жаданняў? Ах, мой мілы, павер маім прадчуванням, паміж табой і гэтымі сенатарамі ляжыць прорва.

– Дарагая мая, ты мяне яшчэ мала ведаеш. Не сакрэт, што я змагу дамагчыся сенатарскага крэсла, што яно мне будзе дадзена. Як толькі адбудзецца бліжэйшы

сейм, я павінен атрымаць яго. Кароль даў мне слова. Але хіба я прагну гэтага для нейкага асабістага ўзвышэння? Што можа дадаць гэтая сенаторыя? У маладосці маёй, у Францыі, сярод самага першага двара ў свеце, я быў у такой ступені велічы, што ніякая польская годнасць не можа з ёй параўняцца. Але я хачу атрымаць гэтае званне толькі дзеля цябе, Зося мая дарагая. Акрамя хатняга шчасця, якім ты мяне радуеш, ты яшчэ сыпеш шчодрай рукой усе дарункі, якія толькі можа пажадаць самалюбства. Калі я з табой паказваюся пры двары і чую, як увесь натоўп, захоплены табой, вітае цябе воклічамі хвалы, я думаю, што я з'яўляюся ўладальнікам гэтых чароўных дароў, што спробы прыдворнай моладзі, пакарыць тваё сэрца, марныя, таму што гэта сэрца мне аддадзена назаўжды. Ах, мой анёл! Ты ўявіць сабе ніяк не можаш, што гэта за захапленне для мяне! Ці ёсць ва ўсім свеце штосьці такое, што магло б парадаваць мяне болей. Быць каханым самай прыгожай, самай добрай, самай разумнай істотай, таму што ўсе прызнаюць гэта ў табе ва ўсёй Варшаве, гэта шчасце такое вялікае, такое цудоўнае, што яно не мае ні на адной мове слоў, якія маглі б апісаць яго. Але калі я хачу, каб мяне ўзвялі ў вышэйшы сан, то толькі таму, што я не магу выносіць, каб якая-небудзь жанчына па якіх-небудзь прычынах лічыла сябе вышэй маёй Зосі.

– Хіба ад гэтага залежыць шчасце! Калі б я была для цябе вышэй за іншых, што мне яшчэ трэба?

— Не, не! Не кажы мне гэтага! Ты не паверыш, колькі пакут я зношу, калі бачу, як гэтыя бабы, надзьмутыя сенатарскай годнасцю, сядзяць вышэй за цябе. Зося, будзь паблажлівая да маёй невылечнай слабасці, таму што гэтая слабасць зыходзіць з маёй прыхільнасці да цябе.

Тут, напалову абняўшы яе, ён пасадзіў да сябе на калені і пачаў лашчыць; вусны ягоныя ляглі на яе вусны, і з гэтых вуснаў пілося захапленне. Зося не адштурхоўвала яго; твар яе пакрыўся колерам сораму і любові, а на вачах паказаліся слязінкі. Гэта быў момант, які кожны быў бы рады выкупіць нават гадамі горычы.

– Зося, дарагая! – усклікнуў Людовік, любоўна гледзячы на жонку. Нешта было ў ёй такое анёльскае, такое цнатлівае, такое чароўнае, што Людвік не мог насыціцца яе выглядам. – Зося мая, клянуся табе, што, сабраўшы сейм, які адзіны ацаліць раны нанесеныя Айчыне, як толькі я атрымаю ад караля крэсла, мне публічна абяцанае (а ў нас ёсць некалькі вакантных), я адразу ж пакіну і двор, і сталіцу; паеду з табой за мяжу. Хай лепей у Версалі я буду хваліцца сваім анёлам, хай ты, Зося, гэтак жа прыцьміш парыжскіх прыгажунь, як прыцьміла варшаўскіх. Але мы ненадоўга спынімся там. Мы вернемся і пасялімся ў вёсцы, дзе з гэтага часу будзем жыць для сябе. Ці то ў маёй Айчыне, ці то ў вашых уладаннях, дзе ты загадаеш. Пабудуем вясковы палац. Мы самі будзем сачыць за яго будаўніцтвам. Калі мы яго заселім, я аб'еду з табой увесь раён, і пасябрую з тваімі сваякамі, з панствам акругі. Мы будзем весці гаспадарку, мы створым англійскі сад, звярынец, цяпліцу, і мы будзем прыкладаць усе намаганні, каб выхаваць нашу дзяўчынку, якая будзе такой жа

прыгожай, як і ты, мая дарагая. Ці, можа быць, Бог дабраславіць нас і дасць яшчэ дзяцей, ці ж няпраўда, мая Зосю?

– Людвік, – прамовіла Зося, прыціскаючы галаву мужа да грудзей, – я кахаю цябе, ты ведаеш пра гэта, таму ўсе, што ты захочаш, зможаш зрабіць. Але я павінна выказаць тое, што пазбаўляе мяне спакою, што з'яўляецца прычынай слёз, якія часта праліваю. Людвік, ты не набожны, я нават не ведаю, ці верыш ты ў Бога.

– Я, мая любая? Чаму ты так дрэнна пра мяне думаеш? Хіба я не павінен пакланяцца таму Богу, які дараваў мне цябе? Хіба ж я калі буду за гэта няўдзячным?

– Не, Людвік, я ніколі не бачыла, каб ты слухаў імшу, я ніколі не бачыла, каб ты маліўся. Як жа я не павінна баяцца за сваю будучыню?

– Ты памыляешся, мая дарагая. Я пакланяюся Богу і часта ўзношу да яго мае малітвы. Пакланенне Богу узвышэннем духу, вось рэальнасць веры, а абрады – гэта толькі прынятыя формы, якія ў залежнасці ад часу і месца мяняюцца. Пакланенне Богу з самага пачатку існавання роду чалавечага захоўваецца, а рэлігійныя канфесіі пастаянна мяняюцца. Турак паварочваецца тварам на ўсход, паўтарае, што няма Бога над Богам, а Мухамед – Яго Прарок. Насельнік берагоў Ганга пабожна паміpae, трымаючыся за каровін хвост, аддаючы такую ж пашану Вярхоўнаму суддзі, як і ты, мая дарагая, калі стаіш на каленях перад алтаром. Бог ёсць дом, а споведзі і абрады – гэта сродкі наблізіцца да яго. Мала хто можа аб'яднацца з Богам, пакланяючыся яму ў ім самім. Людзі шукаюць яго ў нейкіх формах, таму што ён стваральнік ўсіх формаў і ў іх ён праяўляецца. Адны бачаць яго ў сонцы і зорках, другія – у зямных тварэннях, іншыя – у самім чалавеку; і кожны мае права, бо ўсякае тварэнне ёсць яго адкрыццё. Я пакланяюся Богу ў табе, мая Зосю, таму што ты – самае патаемнае тварэнне прыроды, а прырода – яго першынец. Ці ведаеш ты пра тое, што калі я любуюся тваім целам, калі я насаладжаюся ім, то гэта і ёсць малітва, можа быць, самая добрая для Бога?

– Ах, Людовік! Ты не паверыш, які боль ты прычыняеш мне, калі кажаш гэта! Ты падманваеш сябе сваім розумам. Я не магу паказаць табе, што ёсць няслушнае ў тваіх развагах, але ад яго ў мяне мурашкі прабягаюць, я адчуваю, што кожнае слова тваё – грэх.

– Не, мой анёл, я зусім чысты ў сваім сумленні. Хоць ты ніколі не бачыла, каб я маліўся па-твойму, скажы мне, я калі-небудзь спрабаваў адцягнуць цябе ад тваіх рэлігійных звычаяў? Я паважаю любую форму прынятую народам для выяўлення найшчырэйшых пачуццяў, глыбокай павагі, падзякі і даверу Творцу. У той сферы, у якой я цяпер жыву, мужчыны разам з жанчынамі падпарадкуюцца нацыянальным абрадам, будзь ўпэўненая, я іх паважаю за іх набожнасць. Але цяпер гэта было б з майго боку дзівацтвам: нават прыдворныя біскупы не паверылі б, што я раблю гэта з пераканання. Па ўсім горадзе мяне б абвясцілі крывадушнікам, а па меншай меры гаварылі б, што я спрабую дагадзіць якой-небудзь прыгожай маладой дзяўчыне і таму малюся. Але я даю табе слова, што, пасяліўшыся ў вёсцы, буду ва ўсім

прытрымліваацца звычаяў тых, з кім буду жыць. Буду перабіраць пацеркі ружанца, біць паклоны ў касцёле ў бернардзінцаў, не прапушчу ніводнага паста.

– Ты ўсё, што для нас святое, ператвараеш у насмешку.

– Даю табе слова, што не. Хто жыве ў грамадстве, а яго рэлігійных звычаяў не падзяляе, той варты калі не пагарды, то хаця б спачування. Я заўсёды буду старацца ва ўсім выконваць звычаі тых, з кім мне давядзецца жыць. Калі неглыбокія розумы адрозніваюцца ад усіх павярхоўнасцю, то толькі таму, што нічым іншым вызначыцца не здольныя.

– Людовік, спыніся! Я з табой спрачацца не збіраюся, але я ў пастаянным страху. Мой дарагі муж, я не ведаю, чаму мне здаецца, што Бог злуецца на цябе. Калі мой спакой табе дарагі, дай мне слова, што ты выканаеш тое, аб чым я цябе папрашу.

– Добра, анёл мой дарагі! Кажы, што рабіць, а я за шчасце палічу, калі зраблю для цябе што-небудзь добрае.

Зося выслізнула з абдымкаў Людвіка, пабегла ў свой пакой і неўзабаве вярнулася, трымаючы іконку Маці Боскай Вострабрамской, адлітай са свінцу і ў срэбным акладзе. Яна трымалася на залатым ланцужку. Падала яе Людвіку і сказала:

– Муж мой мілы, бачыш гэтую ікону. Маці Боская надарыла мяне дзіцем, дала мне яго пад дабраславеньне. Прашу цябе, надзень яго на шыю. Я буду спакайнейшая, калі ты мяне запэўніш, што не знімеш яе.

– Добра, дарагая мая, будзь спакойнай. Я клянуся табе, што калі ты надзела яго на мяне, то ты і здымеш яго сама. Я даю табе на гэта сваё цвёрдае слова.

Зося павесіла абразок на шыю Людвіку і абняла яго.

– Дарагі муж, – - загаварыла яна,– яшчэ аб адным я буду прасіць цябе: настолькі я неспакойная, так заблыталася ў прадчуваннях, што ты павінен паабяцаць быць са мной сёння неадлучна. Заўтра я не буду пярэчыць, калі ты пакінеш мяне адну, але сёння не адступай ад мяне. Павер мне, Людвік, гэтая мая настойлівасць – голас Божы, папярэджанне, што над намі навісла нейкая небяспека. Ты ж не будзеш такі жорсткі, каб пакінуць мяне сам-насам з маімі думкамі? Хачу, каб да заўтрашняга дня ты быў толькі маім. Паабяцай, што нават калі кароль пашле па цябе, ты скажаш, што хворы і не пакінеш мяне.

– Добра, мая дарагая. Ты для мяне даражэй за славу, за ўсе мае высокія мары. Увесь гэты дзень будзе прысвечаны табе. Сёння раніцай мы разам паедзем на санках ва Ўяздоўскія казармы, каб паглядзець на маю харугву. А потым у нас будуць госці. З намі абедае твая стрыечная сястра, і яна шчаслівая, таму што яе Гінтаут ўсё ж такі стаў прыдворным. Ён даў сто тысяч Струцінскаму за тое, каб ён склаў з сябе званне чэсніка літоўскага, і вось кароль яму гэтае званне ўчора перадаў. Сёння павінен наш Гінтаўт з'ехаць у вёску, а жонку сваю аддаў на апеку князю Варагіну, які, напэўна, з новай пані чэснікавой да нас і прыедзе.

– Ах, мой Людвік, ты не паверыш, як мне шкада, што ты прымушаеш мяне весці сяброўскія адносіны з маёй стрыечнай сястрой. У мяне ёсць слабасць да яе, але яна

такая безразважная, такая вольная ва ўчынках, што я папракаю сябе ў тым, што, жывучы з ёй узгодзе, я падтрымліваю яе ўчынкі.

– Не забывайся, што ёй я абавязаны шчасцю майму, таму што без яе ты ніколі не была б маёй жонкай. На ўсё, што яна зробіць, я заўсёды буду закрываць вочы, таму што няўдзячным быць не ўмею.

– Людовік, дарагі, калі ж мы гэтую гідкую сталіцу пакінем?

– Я табе яшчэ раз паўтараю, што пасля склікання сейма мы будзем жыць толькі дзеля сябе. Такім чынам, сёння я цалкам твой, я ні на крок не адступлю ад цябе. У нас сёння будуць госці. Будзь з імі вясёлай і ветлівай, таму што я хачу, каб усе ведалі, што я шчаслівы.

Зося зноў кінулася ў яго абдымкі і новай ласкай выказала падзяку за дабрыню мужа. Потым яна вырвалася з яго абдымкаў, знікла, але праз некалькі імгненняў вярнулася з дачкой на руках. Любячы бацька, узяўшы дзіця на рукі, глядзеў на немаўля, гушкаў яго, слухаў тое, што зыходзіла з вуснаў гэтага мілага закладу агульнай любові. Бацька і маці плакалі ад радасці: як яны былі шчаслівыя!

Праз пэўны час Зося апранулася, каб суправаджаць Людвіка. А ён апрануў мундзір каралеўскай гвардыі, які так пасаваў яму, пасадзіў жонку ў санкі, сам кіраваў імі замест лёкая.

Яны прыехалі да казармаў. Стараста аддаў павады лёкаю, а сам, лёгка саскочыў, узяў жонку ў абедзве рукі і паставіў яе на зямлю. Уся харугва выбегла вітаць свайго правадыра, з захапленнем глядзела на ягоную жонку. Выглядала яна сапраўды асляпляльна. Жадаючы дагадзіць таварышам па зброі, стараста папрасіў яе апрануць сабалінае футра. Зося была ў ім, калі стараста прадставіў яе салдатам. Усе яны любілі свайго камандзіра, таму што ён умеў пранікаць у іх сэрцы і стараўся без зламыснасьці караць, калі было трэба. Але яму нават не трэба было быць строгім, таму што яны баяліся засмуціць яго.

Калі ён увайшоў з ёй у стайню, каб агледзець коней, стары харунжы сказаў:

– Пан генерал, вы лепей прыходзьце да нас адзін, таму што мне трэба паказаць вам коней, а я не магу адвесці вачэй ад пані генералавай.

Зося пачырванела, апусціла вочы, і прыкрыла твар каўняром футра, на вялікае шкадаванне і харунжага, і ўсіх ваяроў.

Стараста акінуў стайню позіркам дасведчанага знаўцы. Выказаў харунжаму сваё задавальненне і наказаў яму, каб палова харугвы заўсёды была напагатове, каб сесці на коней па пюбому загаду, таму што, жывучы ў неспакойны час, у кожны момант можна чакаць чагосьці неспадзяванага.

У знак таго, што ён быў рады таму, што ўбачыў, стараста паабяцаў даць салдатам шэсцьдзесят бутэлек віна, пасля вярнуўся з жонкай да сябе. Салдаты развіталася з ім пад воклічы:

– Няхай жыве наш добры камандзір! Няхай жыве наша выдатная пані генералава!

**VII. Вечар у вялікім свеце**

Вялюньскі стараста трымаў дом на высокім узроўні, у адпаведнасці са сваімі прыбыткамі. Хаця пасля жаніцьбы ён аддаў сваё пазнанскае камендорства, але захаваў пасаду пры каралі, і як начальнік кабінета атрымліваў трыста злотых у месяц. Дадаць да гэтага пасаг жонкі. Па сваіх прыбытках ён мог знаходзіцца паміж багацейшымі жыхарамі сталіцы, тым больш, што прыбыткі значна пераважалі над выдаткамі. Зрэшты, більярд і азартныя гульні таксама былі для старасты невычарпальнай крыніцай прыбытку. Гуляў разумна, быў, як гэта французы кажуць: *un bean joueur* (памяркоўны гулец), ён умеў своечасова спыніцца, лёгка перажываў пройгрышы, радаваўся выйгрышам...

Дом яго быў адкрыты, абеды і вечары ладзіліся часта. У Варшаве ведалі, што ў яго ёсць лепшы кухар, што палац з такім густам абладжаны, што ніводная дама не магла супернічаць з пані старасцінай ні ўборамі, ні прыгажосцю. Была вядомая ўсёй сталіцы закаханасць старасты. Шлюбнае жыццё часта бывае прадметам кпінаў, але стараста быў настолькі модным і адважным, а жонка яго такая прыгожая і знакамітая, дом іх такі багаты і добры, што ніякая насмешка да іх не прыставала. Калі нехта і адносіўся да іх непрыхільна, то, напэўна, маўкліва, таму што ўсе баяліся падвергнуцца небяспецы, ды яшчэ не хацелі, каб іх не прымалі ў такім прыемным доме.



Дамы, гэта іншае: яны не шкадавалі Зосю ў сваіх размовах. Ніхто з іх не мог дараваць ёй менавіта таго, што яна кахала аднаго мужчыну, і, больш таго, што яна, прывязаная да мужа і да сваіх абавязкаў, была абыякавай да іншых мужчын. Спачатку яны спрабавалі накіраваць яе на шлях ім звыклы, пераконваючы яе, што гэткая шлюбная вернасць – вясковая недарэчнасць, што жанчына вялікага свету без палюбоўніка то самае, што касцёл без святара. Зося пераўзыходзіла іх не толькі вытанчанасцю, але і розумам, жартам адказвала на іх парады з такой годнасцю, што і гэта ўзмацняла іх непрыязнасць, так што ёй выпаў гонар быць ненавіснай усяму слабаму полу двара. Яна адчувала пагарду для ўсіх тых прывілеяваных куртызанак, ды не магла не прымаць іх у сваім доме. Зося была з імі ў добрых адносінах, але ўмела пазбягаць цеснай блізкасці з тым тактам вялікага свету, які, так бы мовіць, сама па сабе набыла. З жанчын гэтага роду, толькі калісьці кашталянава лівонская, а цяпер чэснікава літоўская была з ёй у добрых адносінах. Зося яе не адштурхоўвала, хоць часта на яе злавалася. Яна была яе стрыечнай сястрой; зноў жа, стала галоўнай прычынай яе сувязі з Людвікам.

Калі стараста прывёз жонку з прагулкі, ён вельмі ўзрадаваўся, знайшоўшы ліст ад пані Каменскай, у якім гаварылася, што яна хоча прыехаць да іх на абед. У той дзень ён чакаў некалькіх гасцей, не лічачы пані чэснікавой, якую лічыў сваёй у доме; а пасля абеду, як было абвешчана, палац быў адкрыты для гасцей.

Зося апранула сукенку з блакітнага аксаміту, абцягнутага брусельскімі карункамі. Яна была без пудры, густыя чорныя косы змацавала венецыянскай шпількай велічынёй з кінжал, у форме залатых стрэл, упрыгожаных багатай бірузой. Блакітныя туфлікі сціскалі яе маленькую ножку, а галоўным яе ўпрыгожваннем было калье з трох нітак жэмчугу памерам з гарошыну, такіх роўных, такой надзвычайнай чысціні, што маглі ўвесці ў адчай усіх модніц. Яшчэ не прайшло некалькі тыдняў, як Зося стала іх уладальніцай: графіня Мысельская, былая пані дэ Вермонт, даслала ёй гэтыя жамчужыны на памяць. Яны яшчэ ні разу не бачыліся, але былі ў пастаяннай перапісцы; кожны месяц яны двойчы перапісваліся. Зося, па настойлівых просьбах нявесткі, даслала ёй свой партрэт пэндзля Бачыярэлі, і графіня ў лісце падзякавала ёй і між іншым напісала:

– Твая карціна, дарагая сястра, цяпер прыцягвае да мяне ўвесь Версаль. Усе кажуць, што не можа быць, каб такая прыгажосць была тварэннем прыроды, што гэта павінна быць задумка генія. Я заклікаю ўсіх святых сведчыць аб тым, што ты яшчэ прыгажэй, а ў доказ гэтага прыношу ліст твайго мужа майму Бертрану. Многія тутэйшыя прыдворныя едуць у Варшаву толькі для таго, каб паглядзець на цябе: я іх заахвочваю, каб не выдаць сябе за манюку. Пасылаю табе свой партрэт майго сябра, таксама вельмі падобны: ты будзеш ведаць, што, хоць з табою параўнацца не магу, усё ж такі я не горшае боскае тварэнне. Я прымацоўваю да яго тры ніткі жэмчугу. Зрабі ім гонар насіць іх часам на тваёй белай шыі, каб яны нагадвалі табе сястру. Я

разбіраюся ў гэтых рэчах, таму што ў мяне многа жэмчугу і брыльянтаў, але я табе скажу: ніякія жэмчугі і брыльянты не могуць параўнацца з рысамі твайго твару.

Стараста якраз напярэдададні выйграў дзве тысячы злотых у вялікага кароннага падскарбія, купіў за іх заколку з вялікім сапфірам, акружаным дыяментамі, якая калісьці служыла падскарбію, і гэтую заколку загадаў перарабіць на фермуар з жамчужын. Старасціна праз тыдзень ў першы раз з'явілася ў тых жэмчугах у караля, і яны так усім спадабаліся, што некаторыя модніцы сталі прыдумляць, што яны не сапраўдныя.

Першымі гасцямі, што з'явіліся, былі пані чэснікава літоўская і князь Варагін, яе мілоснік. Князь, пасля этыкетных прывітанняў са старастам, з абыходлівасцю чалавека, знаёмага са звычаямі вялікага свету, пайшоў са старастам да акна, і яму, як блізкаму сябру, пачаў расказваць пра свецкія навіны. Абедзве дамы, сеўшы на канапу, перагаворваліся паміж сабой.

– Сястрычка дарагая, – пачала пані чэснікава, – Навучы нас апранацца. Ты не апранаешся ў модных салонах, ты сама займаешся сваім адзеннем, а умееш выбраць сабе такія плацці, што здаецца, нібы нейкая фея кранае цябе сваёю чароўнай палачкай. Які густ у аздабленні галавы! І ні пудры, ні румянаў у цябе няма! Хто з нас адважыцца на гэта? Якая прыгажосць у тваёй сукенцы! І як гэтыя карункі адлюстроўваюць яе блакіт! Праўда, мы побач з табой падобныя на качэўнікаў. Але як я рада, што на табе гэтыя жамчужыны – ні аб чым іншым не гавораць у Варшаве; ўжо некаторыя твае сяброўкі пачынаюць плявузгаць, што гэта імітацыя. Ці ведаеш ты, што крайчына павінна быць у цябе сёння ўвечары; яна хоча параўнаць свае жамчужыны з тваімі. А на самай справе хоча зняважыць цябе. Ёй ужо ўвялі ў вушы, што твае жамчужыны фальшывыя, і яна думае, што ёй удасца зганьбіць цябе. Скажыце, як у вас хапае на ўсё?

– Стараюся як магу жыць па сваіх сродках.

– Але тут не без цудаў: дом адкрыты, шыкоўная карэта, багатая вытанчанасць ва ўборах, а яшчэ і бедныя з ласкі тваёй жывуць. Праўда, вы, багатыя, але ёсць людзі багацейшыя за вас, і не жывуць так шыкоўна. Да таго ж пра вас не чуваць, каб вы мелі многа прыбыткаў.

– Павер мне, сястрычка мая, што ў нас няма нічога асаблівага; ёсць прыстойнасць, ашчаднасць і нічога больш. За кожную рэч наяўнымі плацім, прычым стараемся на траціну, па меншай меры, купляць танней.

– Ты ж на ўсё здольная, мая Зосю, таму і шчаслівая. Што тычыцца мяне, то гэтага пра сябе сказаць не магу. Я не асабліва багата жыву, здаецца, на сябе мала што выдаткую. Кажуць, што маё дабро – залаты яблык, і ўсё ж злоты сустрэцца з капейкай не можа. Мы з Альбертам стараемся ашчаджацца, але адчай часам бярэ мяне. Мяркуй, Зосю, што мінуў тыдзень, як сам кароль даў нам літоўскае чэснікоўства, гэта нам сам лёс падараваў, але ж трэба было аддаць тры тысячы злотых, а я апошняе аддала на параненых барскіх палонных, якіх да нас прывезлі.

Калі б князь Варагін, не паспяшаўся на наша выратаванне, уся праца прапала б, а да цябе я не пасмела б ісці. І так больш за год прайшло, як я табе вінна некалькі сотняў злотых, а я не ў сілах расплаціцца. Учора я выгнала Альберта ў Літву і сказала яму: давай, закладвай маёмасць, бяры, адкуль можаш, а без грошай не паказвайся. Калі ён вернецца, я расплачуся з усімі вамі. Ты не паверыш, як мы запазычыліся ў купцоў.

Тут увайшлі пан каронны стольнікавіч з панам Трамбецкім, а за імі граф Доршпінг, затым герцагіня кашталянова віленская, і нарэшце пані кашталянава Каменская. Пані старасціна гэтую апошнюю пачціва пацалавала ў руку, а кашталянаву – у абедзве шчокі і, павярнуўшыся да старасты, сказала:

– У цябе, васпан, павінна быць, ёсць перад Богам нейкія вялікія заслугі, што ён даў табе такога анёла ў жонкі. Глядзі, каб яе тут не сапсавалі.

Стараста пакланіўся і адказаў:

– Калі хто і мог сапсаваць маю жонку, то, мабыць, пані кашталянава – ты заўсёды да яе так міласцівая, што і за вочы і ў вочы хваліш. Але яна не няўдзячная. Напэўна, каб у яе была яшчэ маці, усё роўна яна б так яе не любіла. Калі даведалася, што пані ў гэтым годзе ў Варшаве будзе зімаваць, не магла апомніцца ад радасці.

– Што? – адгукнулася княгіня кашталянава віленская, – ты з намі зімуеш? Як жа я рада, што ты, гэтак неахвота для сябе, змірылася са сталіцай.

– Не, княгіня, – адказала пані Каменская; – я заўсёды адно кажу пра Варшаву. У ранейшыя часы яна была – рай, а сёння – пекла, абраза Госпада Бога. О, мне і кароль выказаў здзіўленне, што я ў ёй зімую, а сваё вяртанне на Падолле адклвадаю да будучай, дасць Бог, вясны. Але я адказала каралю: – Літасцівы васпан, ужо чацвёрты год у нас няма сейма: абжорства Рэчы Паспалітай зацягваецца. Каб часам не нарадзілася якая-небудзь пачвара. А я тут як бабка-павітуха чакаю родаў…

Тут увайшоў маршалак двара пана старасты з аб'явай, што пара да стала.

Стараста быў некалькі збянтэжаны тым, каго весці да стала першай, ці то княгіню кашталянаву, ці то кашталянаву Каменскую. За першую казалі і нараджэнне, і высокая пасада мужа, за другую – узрост і ўласнае шляхетнае нараджэнне. Але княгіня кашталянава, жанчына, поўная такту, выручыла старасту з бяды. Яна сказала з грацыёзнай усмешкай:

– Мой стараста, прызнайся, што не ведаеш, каму з нас аддаць перавагу. А мы абыдземся без гаспадара; можа, ён і памыліўся б, і мяне перад пані кашталянавай павёў, а я ўсё жыццё сабе не даравала б, калі б жанчына з дому Патоцккіх за мной ішла. Дазвольце мне праводзіць вас да стала.

Гэтым крокам яна супакоіла гордую старую і, паціснуўшы адна другой рукі, яны разам ўвайшлі ў залу. За імі пайшлі і іншыя госці. Стараста вёў чэснікаву літоўскую, старасціна падала руку князю Варагіну, а астатнія кавалеры ўжо без усялякіх цырымоній рушылі ўслед за імі да стала.

Пасля першай стравы прынеслі свечкі, і размова пачала ажыўляцца. Гутарылі аб апошнім балі княгіні Сапежынскай, смаленскай ваяводзіны, на якім адразу

дзесяць тузінаў пар пайшлі ў скокі, аб уборы пані старасты Апескай на каралеўскай асамблеі, аб грацыі, з якой панна Пернет танчыла казака ў пані гетманавай Агінскай.

– Але, – загаварыў граф, – вы ведаеце, якая прыгода адбылася ў пані гетманавай у гэты дзень? Вы часта бываеце ў пані гетманавай, ведаеце, якая гэта святая і прыкладная дама. У яе ў глыбокай пашанотнасці жыве з дзясятак шляхетных дзяўчат, якіх яна з малютак выхоўвае, потым выдае замуж. Паміж імі гэтая панна Пернет, дачка маршалка яе двара, паненка прыгожая, стройная і зусім не блага танцуе казака. Колькі разоў, бывала, збяруцца ў гетманавай, яна ёй загадвае паказаць сябе ў гэтым танцы, А там можа прывяжа да сябе якога-небудзь кавалера. *La pauvre fille Danse quelque fois a ' perdre l'ame (*Бедная дзяўчынка часам танчыць да ўпаду. *франц.).*У апошні раз пан каронны лоўчы прыйшоў вечарам да пані гетманавай, але трохі пад мухай, па звычаі, ён пагульваў са сваімі. Яму спадабаўся казак панны Пернет, і пасля танца ён стаў рабіць ёй кампліменты, а потым адкрыта выступіў з прапановай перабрацца ад пані гетманавай да яго, што на шпількі ёй будзе даваць пяцьдзесят злотых у месяц, а калі яна яму надакучыць, выдасць яе за якога-небудзь мачыляпу. *La demoiselle a manqué de se trauver mal* (панна ледзь не самлела, *франц.*). Гетманавай перадалі пра гэта; *mais quand elle eut appris ce de quoi il s' agissait (* яна даведалася, у чым справа, *франц.),* было чуваць, што яна яму за гэта выгаворвала.

– А што ён сказаў? - спытаў стараста, смеючыся.

– *Il a pris cela tre ' s philosophiquement (*ён успрыняў гэта вельмі па-філасофску, *франц.).* Ён сказаў – Будзь я пракляты, гэтай бабе, павінна быць, прысніўся чорт, што яна так узбурылася. Ці я яе паненку замуж браў? Гэта была прапанова, не больш. Хочаш – добра, а не хочаш – ніхто цябе не прымушае. І ці варта ладзіць такія сцэны?

І ён выйшаў ад гетманавай са сваімі сябрамі, падаўся ў салон пані Піскавай, дзе яны сустрэліся з Дубскім, з кашталянам Длузскім, са старастам Лукоўскім. Там да пяці гадзін ракаў елі і пілі да ўпаду.

– Пан каронны лоўчы – хам, – загаварыла княгіня кашталянава, – я скажу так: *Afficher un goût humiliant pour toutes les femmes, ne sentir d'amour veritable pour aucune (*са знявагай выказваецца пра ўсіх жанчын, а ні да якой не адчувае сапраўднай страсці, *франц.)* – вось асаблівасць нашага стагоддзя.

– Мне вельмі шкада княгіню, – азваўся пан стольнікавіч. – Але і цяпер ёсць такія, хто ўмее кахаць па-сапраўднаму.

– О! – я цябе выключаю, мой стольнікавіч – адказала княгіня. – Але як можа цяперашняя любоў параўнацца з тымі, што былі ў ранейшыя стагоддзі, калі высакародныя рыцары перасякалі свет са зброяй у руках, прымушаючы ўсіх прызнацца, што дама іх сэрца – самая прыгожая жанчына ў свеце? Як гэта ўсё здаецца халодным побач з тым, што адбывалася тады.

– На гэта,– сказаў граф, – з вашага дазволу, княгіня, я скажу, што павінен стаць на абарону нашага часу, і я пакажу вам якую галантнасць да адной дамы, некалькі дзён таму выказаў адзін з ашых гасцей і якой ні адзін рыцар не мог бы пахваліцца.

– Калі ласка, пакажыце нам гэтага героя і раскажыце, што ён такога зрабіў?

– Я вам раскажу, калі вы дазволіце.

– Дазваляем, дазваляем, - ускліктула княгіня, - я бяру на сябе, што вы ўсе дазволіце.

– Не, княгіня, - сказаў граф - я не загавару, пакуль яна не скажа мне – кажы.

– *Ne nous faites pas languir* (не прымушай нас чакаць, *франц.),* скажы яму, каб ён расказаў.

– Калі вы гэтага хочаце — сказала чэснікава, – гаварыце, граф.

Граф, павярнуўшыся да князя Варагіна, загаварыў:

– Памятай, князь, што я падпарадкоўваюся загадам пані чэснікавай. Вось я вам скажу, што некалькі дзён таму мы былі на вечары ў пані чэснікавай. Нас было каля пятнаццаці чалавек, і ўсіх нас князь Варагін запрасіў на заўтра да сябе на абед на сцерлядзь, якую яму прыслалі з Расіі. На гэтай вячэры пані чэснікава ўзялася быць гаспадыняй. За гарбатай гаварылі аб гастранаміі. Князь распавядаў, што ў Чачні ў час апошняй турэцкай вайны на працягу двух тыдняў нельга было атрымаць іншае мяса, толькі конскае. А па сваім звычаі ў яго быў з сабой цудоўны кухар, той яму каніну так запраўляў пад рознымі формамі, што ні адзін ёй не пагарджаў. Пані чэснікава на гэта сказала: калі б я ведала, што тое, што мне падаюць гэта конскае мяса, я б ніколі не адважылася дакрануцца да гэтай стравы. Але каб хто мяне накарміў канінай, а я пра тое не здагадалася, то дазволіла б сабе пацалаваць. Мы ўсе казалі, што, калі ўжо такая ўзнагарода прызначаецца, то ніхто з нас з гэтага часу не будзе думаць пра нешта іншае, як толькі яе накарміць канінай. На другі дзень у князя быў абед. Калі ён скончыўся, мы паклікалі нашага кухара. Ён стаў на калені перад чэснікавай і сказаў ёй, што прыдзецца стрымаць дадзенае слова.

– Якое слова?–- спытала яна.

– Вы абвясцілі,– сказаў князь, – што, таго, хто вас канінай накорміць, вы дазволіце сябе пацалаваць. Ну дык вось, сёння ў вас іншага мяса не было, акрамя конскага.

Спачатку мы смяяліся, лічачы гэта жартам, але самі, праверыўшы гэта на кухні, пераканаліся і павінны былі прызнаць, што гэта так, а не інакш. І што ж, чэснікава *présenta de bonne grâce ses deux loues, sur lesquelles le prince imprima deux baisers, qui retentissent au fond de nos coeurs (*без вагання падставіла яму абедзьдзе шчакі, і князь двойчы пацалаваў яе. Гэтыя пацалункі адбіліся ў нашых сэрцах. *франц*.).

– І што ж тут такога? - спытала княгіня.

– А вы ведаеце, якой канінай князь нас накарміў? То была яго Бетсі, гэтая знакамітая англійская кабыла, любіміца ўсёй Варшавы, за якую ён не хацеў узяць дзве тысячы злотых, адправілася на наш абед. *Le coeur me saigne, quand ix y pense, que j'ai dévoré une si belle créature* (у мяне сэрца крывёю абліваецца, як падумаю, што я зжор такое цудоўнае стварэнне. *франц.).* А цяпер скажыце, княгіня, ці мог рыцар сярэдніх вякоў зрабіць падобную ахвяру для дамы свайго сэрца?

– Гэта праўда, – адказала княгіня, – Такая рыцарская галантнасцьпавінна перамагчы любое супраціўленне. Але хіба можна было прыгаворваць да смерці такое тварэнне прыроды, якім была Бетсі!

– Пані княгіня – адказаў князь - паколькі пані чэснікава дазволіла сабе гэты жарт, я хацеў хаця б дакрануцца да яе вуснаў, наколькі яна была вартая яе. Бетсі была для мяне самай дарагой з рэчаў, якія я меў; таму я і зрабіў з яе ахвяру. Хто ведае пані чэснікаву, таму здзіўляцца нельга.

І на самай справе, задаволенасць перамогай зрабіла такой прыгожай гэтую пагардлівую жанчыну, што, гледзячы на яе, гэтаму нельга было здзіўляцца.

– Ну што? – дадаў граф, паварочваючыся да княгіні, – хай княгіня скажа, ці ўмеюць кахаць у нашым узросце?

Кашталянава Каменская не падзяляла запалу княгіні.

– Вар'яты вы, – сказала яна, – каб я была маладая і прыгожая, і хто дзеля прыхільнасці да мяне загадаў бы забіць нявінную істоту, таго б, верагодна, я не пакахала б. Але такі цяперашні і свет.

– Мяне гэта не здзіўляе, – сказаў пан Трамбецкі, умяшаўшыся ў размову. – Расія пазней за іншых ўступіла ў еўрапейскую цывілізацыю, але на гэтым не прайграла – *elle n'a reculé quel pour mieux sauter* *(*яна адступіла назад, каб лепей скокнуць. *франц.).* Я спасылаюся ў гэтым на сведчанне вашага старасты. Вы не паверыце, як рускія памешчыкі, блукаючы па Францыі, узбуджаюць зайздрасць тамтэйшых прыдворных! Я склаў пра іх верш:

“Гэта людзі нібыта з грэчаскіх міфаў –

Лучаць ветласць версальцаў з доблесцю скіфаў!”

– Брава, пан шамбялян, – усклікнуў гаспадар дома. – Нікому лепш не ўдавалася сказаць; да таго ж паэт можа быць разам і вялікім, і праўдзівым. Вып'ем жа за здароўе найвялікшага польскага паэта, які так прыгожа выказаў нашы пачуцці.

– Ваша Вялікасць староста, – адказаў Трамбецкі - уласна кажучы, мы п'ем за здароўе князя, які натхніў мяне на гэтыя два радкі.

*– Et haec facienda, et illa non omittendai* *(*можна зрабіць і тое, і гэта*. лац) ,* – зазначыў стольнікавіч. – *Я* яшчэ не забыў сваю латынь нават паміж прыгожымі дамамі. І прадэкламаваў:

*„Podaj, chłopcze, za dawnych Konsulów chowany Falern,*

*co dymek puszcza z iskrzącemi piany".*

(Падай, хлопча, старое віно Фалерна!

Яно дым пускае з іскрыстай пенай!)

– Жудасць! – усклікнуў Трамбецкі. – Пан стольнікавіч хлеб у мяне адымае – адразу ж мае вершы перакрыў сваімі. Ды яшчэ так хвацка пераклаў вершы рымляніна Катула на польскую мову!

– Паны і пані, – сказаў гаспадар, – Фалернскага віна ў мяне няма, але ёсць шампанскае, таксама вельмі старое.

Ён падняў чару з напоем, які так бадзёрыць розум і сэрца. Дамы таксама ўзнялі свае чаркі, і  нават Зося, па вялікай просьбе мужа, выпіла палову чаркі.

Было ўжо каля васьмі, калі гулякі ўсталі з-за стала. Увайшоўшы ў гасціную, яны заспелі ў ёй некалькіх новых гасцей.

На вялікі жаль Зосі пані кашталянава Каменская развіталася з ёй, таму што заўсёды ў восем гадзін заканчвала вечарыны, каб мець час памаліцца Богу.

Але калі вечар для яе заканчваўся, як раз для іншых ён толькі пачынаўся. З'язджаліся госці, так што неўзабаве прасторны салон быў імі запоўнены.  Сабраліся ўсе славутыя людзі сталіцы. Якія мілыя кавалеры, якія чароўныя прыгажуні, якія багатыя і з густам падабраныя сукенкі!

Калі было абвешчана аб прыбыцці паныні крайчынай, усе ўсталі з канапаў і крэслаў, а гаспадыня выйшла да дзвярэй насустрач ёй. Яна пацалавала старую, нібыта тая была яе самай вялікай сяброўкай. Крайчына холадна пакланілася яе мужу, які падвёў яе да канапы, прызначанай для яе. Крайчына была жанчынай дзіўнай прыгажосці. Апранутая яна была без арыгінальнасці: у яе была чорная  сукенка, на галаве яна насіла гірлянды з дробных руж, на шыі жэмчуг, які да гэтага часу ў Варшаве лічыўся  самым прыгожым. А на спіну яна закінула кашэміраваю хустку, чорная сукенка крайчыны адцяняла алебастравы тон яе скуры.  Нельга было знайсці талію больш тонкую, гарсэт прывабнейшы, нагу і ручку арыстакратычней, і яшчэ было нешта больш прывабнае у яе ўсмешцы і поглядзе. Варшава тады асабліва славілася прыгажосцю сваіх дам, і яны амаль усе аказаліся ў гэты вечар у доме старасты. Там было з дзясятак жанчын, такіх прыгожых, такіх мілых, што паміж імі цяжка было зрабіць выбар. Аднак барацьба за першынство паміж крайчыной і старасцінай вырашалася паміж нямымі ваганняім шаляў, але яны, здавалася, схіляліся да старасціны.

Размова аднавіліся, як толькі крайчына заняла сваё месца, а лёкаі безупынку разносілі марозіва, фрукты і садавіну.  Крайчына, заўважыўшы жамчужыны на шыі гаспадыні, загаварыла:

– Дарагая, прашу цябе, здымі сваё калье, я параўнаю твае жамчужыны з маімі.

Абедзве дамы знялі свае ўпрыгожанні, але калі іх паклалі побач, самы высакародны ліслівец пані крайчынай не мог не прызнаць, што яе жамчужыны і вадой і роўнасцю не маглі адпавядаць жамчужынам старасціны. Крайчына так расстроілася, што больш не хацела надзець свой жэмчуг на шыю, каб пазбегнуць параўнання, ды і Зося, як ветлівая гаспадыня, свае каштоўнасці загадала вярнуць панне з фраўцымера, які ў яе тут з’явіўся. Да фраўцымера ў Варшаве адносілі вышывальшчыц, гардэробшчыцу, над якімі старшай была пакаёўка.

Аднак крайчына не пераставала дзьмуцца, што моцна турбавала старасту, бо менавіта непавага крайчыны моцна паўплывала на настрой усяго грамадства. Размова пачала кульгаць. На шчасце, яго ажывіў малады князь Сапега, начальнік літоўскай гвардыі, кавалер, поўны какецтва і дасціпнасці.

– Ваша мосць, пан Трамбецкі! Добра, што я ўспомніў аб вашым заданні. Я павінен вывесці яго на суд тутэйшай такой светлай і выдатнай кампаніі. Успомніце, што ўчора мы былі разам, абедалі ў караля. Вы шамбялян, такі аповяд нам пераказалі: нібыта некалькі сотняў гадоў назад адзін кавалер вялікага свету зрабіў нейкую важную паслугу варажбітцы Манто, а яна яму аддзячыла так: прапанавала на выбар: мець жонку, якая ўсім бы здавалася настолькі брыдкай як пані каронная рэгентаўна, а яму самому такой прыгожай, як старасціна вялюньская, ці наадварот.

– Ваша мосць, – перабіла старасціна, - вы павінны ведаць, што ва ўсіх гісторыях, якія расказваюцца ў свецкіх размовах, нельга ўпамінаць пра прысутных, тым больш гаспадароў.

– Прабачце, васпані, – адказаў князь, я павінен расказаць вам усё, як было. Я паўтараю словы пана Трамбецкага. Калі б я іх скажаў, ён мог бы сказаць, што гэта хлусня ці, па меншай меры, недакладнасць. Паўтараю: яна дала яму на выбар жонку з падвойным характарам – для ўсіх падобную на пані рэгентаву, а для сябе аднаго – на нашу выдатную гаспадыню, ці наадварот.

І спытаў:

– Як вам здаецца, што ён абраў?

Стольніковіч. Я ўжо выбраў першае; бо кожны жэніцца для сябе, а не для іншых.

Князь Сапега. Кароль быў такога меркавання, мой Вацлаў, таму што ў яго таксама ёсць прэтэнзіі на сентыментальнасць. Зрэшты, ён мае права меркаваць пра гэта, а ты не, таму што праз некалькі тыдняў ажэнішся на маёй стрыечнай сястры. Калі халасцяк рыхтуецца да гэтага небяспечнага кроку, ці можа ён валодаць стрыманасцю, свядомасцю розуму, якія патрабуюцца ад суддзі? У цябе няма голасу паміж намі, сядзі ціха!

Князь Варагін. Я, які ўжо тры гады таму назад прарабіў гэты небяспечны крок, і таму ў мяне ёсць голас, не разумею, як тут можна вагацца. Якое мне справа да таго, што тая, якую я люблю, здаецца камусьці выродлівай?

Граф. З тых часоў, як ты, мой князь, накарміў нас сваёй прыгожай кабылай Бетсі, я пераканаўся, што ты пад уплывам пачуцця, якое выклікае ў цябе сумнеў. Што тычыцца мяне, то я маю бясспрэчнае права абвясціць сябе бестароннім, бо маё сэрца зусім свабоднае. І я адкрыта прызнаюся, што не падзяляю вашага меркавання, хоць за яго галасаваў мой кароль.

Чэснікава. *Ce n ' est pas a vous a le dire (не табе гэта казаць, франц.)*. Нядзіўна, бо ты ніколі не кахаў па-сапраўднаму і нават не ўмеў кахаць.

Граф. Вы выдатна ведаеце, што я ўмею кахаць.

Чэснікава. Адкуль мне ведаць?

Граф. *C ' est vrai, que vous avez fait semblant de l'ignorer (* гэта праўда, вы зрабілі выгляд, што ігнаруеце гэта, *франц.).* Але вернемся да справы – па-мойму, жаданне самалюбства мацней пачуццяў сэрца.

– Ах, які ты злы, – адгукнуліся разам княгіня кашталянава, пані чэснікава і яшчэ некалькі галантных жанчын.

Граф. Я злы, таму што праўду кажу. З дамамі, па-мойму, нельга быць сумленным.

Князь Сапега. А што скажа пані крайчына?

Крайчына (са жвавасцю, гледзячы на старасту). Мужчыны так нясталыя, так крывадушныя, так хутка забываюць свае клятвы, што ні адной нашай ахвяры яны не заслугоўваюць.

Стараста падышоў да крайчыны, нешта ціха сказаў ёй. Потым сеў побач з ёй, яны аб нечым ціха гаварылі, але ніхто не чуў іх, толькі было бачна, што крайчына мацней, чым звычайна, абмахвалася веерам.

Князь падкаморый увесь вечар быў сумны, не падтрымліваў размовы. Раптам ён сарамліва наблізіўся да старасціны, а княгіня, якая сядзела побач, з тактам жанчыны вялікага свету, нібы выпадкова, устала, і сапраўды, каб не перашкаджаць іх размове, падыйшла да князя Сапегі і сказала яму:

– *Cher Prince*, мне так горача, што вытрымаць не магу – праводзь мяне ў залу, па якой мы пашпацыруем, калі ты не баішся засумаваць са мной.

Князь пакланіўся ёй, узяў яе пад руку, вывеў у залу, дзе слугі рабілі падрыхтоўку да вячэры. Князь Сапега, ведучы пані па шырокай зале, гаварыў ёй кампліменты, княгіня іх слухала, і, здавалася, заахвочвала князя. Але калі той, ужо падрыхтаваўшыся да гэтага належным чынам, пачаў заяўляць ёй аб сваёй прыхільнасці і прыняўся патрабаваць яе ўзаемнасці, княгіня, не даўшы яму дагаварыць, сказала:

– Мой князь, я гатова думаць, што ў гасцінай палічаць, нібы мы імі пагарджаем, вернемся, каб не даць ім нагоду так думаць.

Вярнуўшыся, яны знайшлі адны і тыя ж пары, якія сядзелі і размаўлялі адзін з адным.

Веданне свецкага жыцця да драбніц панавала ў варшаўскіх салонах, яно замяняла ім усе цноты. Найвялікшая ганьба спачатку нападала на чалавека без такту. Чалавек, які спалучае такт і ветлівасць у зносінах, мог дазволіць сабе ўсё, таму гэта надавала асаблівую салодкасць у гутарках. Кашталянава, абапіраючыся на князя Сансі, нешта апавядала яму. Граф пачаў заляцацца да графіні Апескай, якія з цікавасцю слухала яго жартаўлівыя апавяданні. Князь падкаморый, заўсёды засмучаны, гаварыў штосьці гаспадыні дома. Але яна слухала яго абыякава. Пасярод гасцінай утварылася невялікая група аматараў паэзіі Трэмбецкага, гаварылі пра літаратуру.

Калі абвясцілі, што кампанію чакае вячэра, усё ўсталі, стараста падаў руку крайчыне, кожны ўзяў сваю даму пад руку, і ўсе пайшлі ў залу.

Яны сядзелі за сталом, багата сервіраваным, асветленым кандэлябрамі і святлом ад люстраў. Падалі вустрыц. Адны кінуліся да іх з непадробнай цікавасцю,

іншыя іх не хацелі есці, апошніх была нераўнамерна больш. Аднак каштаваць давялося, бо страва была модная. Адна Зося толькі не магла пераадолець сваёй агіды да гэтай хвалёнай ежы.

Калі смачнае і навамоднае неўпрыкмет знікла са сталоў, а пеністае шампанскае пачало кружыць галовы, да старасты спешна прыбыў яго сакратар з паперай у руцэ. Стараста сышоў у іншы пакой, каб прачытаць яе. Пасля чаго даў загад сакратару, вярнуўся ў залу з тварам, як заўсёды, спакойным, і сказаў:

– Самае мілае для мяне задавальненне я павінен перапыніць. Я паслаў па музыкаў, каб імправізаваць вам баль, але ў момант, калі неабходна пачаць, вымушаны пакінуць вас. Але праз гадзіну-паўтары я разлічваю вярнуцца да вас. Мая гаспадыня застаецца з вамі, а князя Варагіна прашу да майго вяртання заняць маё месца.

– Што здарылася? – пыталіся ўсе.

– О, нічога незвычайнага – адказаў стараста, – кароль паслаў за мной: у яго ёсць нешта важнае.

– Ах, як я з нецярпеннем буду чакаць раніцы, каб даведацца пра гэта, – сказала кашталянава.

– І княгіня будзе пакарана за сваю цікаўнасць, бо час пакажа, што нічога вельмі цікавага не здарылася – адказаў стараста. – Што верагодней за ўсё, гэта можа быць навіна пра здачу Чэнстаховы або пра смерць якога-небудзь еўрапейскага манарха.

– А кароль жа сёння ўвечары павінен быў гасцяваць у князя канцлера, – успомніла пані крайчына.

– Ён ужо даўно павінен быў вярнуцца ў замак, – запярэчыў стараста, – бо князь-канцлер заўсёды ў дзевяць кладзецца, а зараз (дастаўшы гадзіннік), глядзіце, як хутка ў прыемнай кампаніі час мінаецца, ужо каля двух гадзін ночы. Але паколькі музыка гатовая, забаўляйцеся і чакайце майго вяртання. Вы даведаецеся, для чаго ён мяне кліча. Прашу князя Варагіна адкрыць баль і правесці дам у танцавальную залу.

І, наблізіўшыся да жонкі, сказаў ёй ціха: – Я стрымаў дадзенае табе слова, анёл мой дарагі! Я не адыходзіў ад цябе ні на крок увесь дзень. Цяпер мне трэба бегчы да караля, а ты забаўляй гасцей да майго вяртання.

Ён пацалаваў жонку ў руку і ў лоб.

Калі кампанія пусцілася ў скокі, ён выйшаў, прайшоў у сваю гардэробную, пераапрануўся ў форму сваёй харугвы, і, так апрануты, загадаў везці сябе ў Уяздоўскія казармы, дзе заўсёды стаяў прыгатаваны для яго верхавы конь.

## VIII. Карчма пад Марымонтам

У паўмілі ад Марыманцкіх рагатак стаяла карчма варшаўскага староства. Гэтая карчма не так прыгожа выглядала, як сёння; сцены ў яе былі крывыя, комін,

здавалася, кланяецца тым, хто прыязджае павесяліцца, вокны як вочы – касавокія. І, аднак, карчма прыносіла больш даходу, чым двухпавярховыя каменныя корчмы сталіцы, таму што таннасць гарэлкі, асабліва ў святочныя дні, прываблівала натоўпы простага народа, у тым ліку і жыхароў Варшавы. Гаспадара звалі Яўсей Кесьць. Доўгі час ён быў гайдуком ва ўсемагутнага кааралеўскага фаварыта пана Бруля, старасты варшаўскага. Калі Кесьць зрабіўся карчмарам, ён так урос у сваю карчму, што хоць іншы стараста змяніў Бруля, ён утрымаўся на ранейшым месцы.

Ён ні аб чым не думаў, толькі аб памнажэнні свайго багацця, якое пакрысе расло. Зрэшты ён разлічыў, што, хоць шынкару можа быць нядрэнна без гаспадыні, усё ж такі далёка бяспечней з гаспадыняй, і стаў разважаць, дзе б яму выбраць сабе памочніцу шынкарскага побыту. Нарэшце ў адной забягайлаўцы ў Варшаве, дзе ў яго былі цесныя адносіны са старой гаспадыняй, як потым аказалася, наткнуўся на маладую дзяўчыну, бойкую, сімпатычную, якая, служачы ў закусачнай, дзе харчаваліся салдаты гвардыі і гарадскія слугі, была ўжо знаёма з усімі таямніцамі шынкарскай справы. Кесьця не абыходзіла тое, што яна была падатлівай на заляцанні. Ён заўважыў, што салдатам яна адмаўляла, але для слуг была больш даступная, асабліва калі яны служылі ў багатых дамах. Грошы адразу змякчалі яе сэрца. Да грошай яна была такая ашчадная, што назапасіла ў сваёй скрыні трохі талераў. І не было дня, каб які прыезджы пан не памнажаў іх суму. Кесьць пра сябе падумаў: хоць я і маю пяцьдзясят сем гадоў, але я здаровы: мне патрэбна жонка, а гэта як раз гаспадыня для мяне. Яна пойдзе за мяне, таму што ў яе ёсць розум, яна ведае, што ў мяне капейка водзіцца: гэта відавочна – яна для мяне створана.

Падумаў так, і пайшоў у шынок да Еўкі. Пачаў з таго, што захацеў пацалаваць Еўцы руку. Яна падумала, што гэта быў пачатак звычайных заляцанняў, таму накрычвлв на яго:

– Ідзі адсюль, стары скнара, са сваімі любошчамі! Нашто мне твой пацалунак! Ты хутчэй дазволіш, каб тваё сэрца вырвалі, чым талер даць, а ты хочаш дагадзіць дзяўчатам.

– Слухай, Еўка, у мяне ў галаве не тое, што ты думаеш. Я не жанаты, але жонка мне патрэбна. Хочаш быць маёй? Ты будзеш гаспадыняй, у Брулюўцы. Гэта, здаецца, лепш, чым служыць у шынку, хоць бы і на цэнтаральнай вуліцы Варшавы.

– Пан жартуе ці сур'ёзна? – адгукнулася Еўка, апусціўшы вочы.

– Я? Не дай бог! Я не ўмею жартаваць. Ад дабра дабра не шукаюць. Думаеш, я лайдак, каб спаборнічаць з гарадскімі кавалерамі? У мяне няма часу на гэта. Каб кожны дзень меў яшчэ па дваццаць чатыры гадзіны, я б сказаў, што і гэтага часу мала. Я вось тут сяджу, а ў мяне аж у галаве трэскаецца: я не ведаю, што робіцца ў Брулюўцы. Ці там ёсць жонка, на якую можна ўсё пакінуць? Там жа ў мяне адна чэлядзь: слуга, які ператварыўся ў лёкая, што дровы сячэ, баба, што есці рыхтуе, і хлопец-недаростак, якога я некалі падабраў на вуліцы, з гразі выцяг, навучыў рабоце, так што цяпер ён мне крыху дапамагае, хаця ўся яго дапамога, што віно пераліць з

бочкі ў бутэлькі. Ці ж на гэтым заканчваецца шынкарства? Як я з хаты, то ўсё ідзе цераз пень калоду. У карчме ж трэба і гаварыць з людзьмі, супакоіць іх, калі яны пасварацца, памірыць, улагодзіць, падсунуць выпіўку, разлічыць, а як бог дасць, часам і аблічыць. Ды што мне гаварыць? Цябе, Еўка, вучыць не трэба, ты гэтыя рэчы лепш за мяне ведаеш. Дастаткова таго, што мне не абысціся на старасці гадоў без сапраўднай гаспадыні; не такой, што я магу выняць яе з кішэні, а такой, якую я выведу з касцёла.

– Можа быць, пан будзе жорсткі, калі яму прыйдзе ў галаву рэўнасць?

– Я – ды раўнаваць? Смяешся, дарагая! За каго ты мяне прымаеш? Я ажанюся, каб кахацца табой? Я ж у дварах з дзяцінства служыў, пра гэтыя рэчы ведаю, і мне ўсё роўна. Што гэта? Я не таракан у запечку, і не гляджу на жонку, як квактуха на свае яйкі: у мяне ўсё яшчэ ёсць розум. Я хачу, каб ты шмат працавала, як будзеш маёй. А хочаш сваволіць з мужчынамі, то гэта твая справу, мне галоўнае, каб нічога ў гаспадарцы не прападала, таму што ў такім выпадку я не ўмею жартаваць. Што ж, панна Ева, вырашай сама. Калі не згадзішся, то што ж, пайду шукаць іншую.

– Калі такая воля Божая, каб я стала тваёй жонкай, то што трэба рабіць?

- Тады давай разабудзім старую і папросім у яе благаслаўлення.

Яны разбудзілі гаспадыню, апавядалі ёй пра ўсё, аб чым гаварылі. Старая не хацела адпускаць дзяўчыну, таму што Еўка была ёй вельмі патрэбна, але ўсё ж дала ім благаславенне.

Яны пайшлі да святара. Быў прызначаны дзень шлюбу.

За гэтыя дні шынкар, упэўнены ў сабе, у Варшаве не з'яўляўся, толькі прыглядаў за сваёй харчэўняй, каб чэлядзь без яго сабе нічога не дазваляла. А Еўка тым часам развітвалася з усімі сваімі палюбоўнікамі, збірала з іх апошнюю даніну, каб потым пахваліцца перад мужам, што хоць ён і багаты, але бярэ яе не зусім голай.

Нарэшце адбылася вяселле. На наступны дзень Кесьць пасадзіў жонку на параконны вазок, пагрузіў яе скрыню і адвёз да сябе.

Яны пражылі адзін з адным ужо тры гады, вельмі добра жылі, без непрыемнасцяў, без сварак.

Кесьць з гэтага часу быў паслухмяным слугой жонкі, але ў той жа час як турэцкі султан толькі курыў трубку і аддаваў распараджэнні, а яго візір у спадніцы кіраваў шынком.

У ноч з 17 на 18 лістапада гаспадары былі ў ложку, і толькі свечка асвятляла залу. Слуга і хлопец спалі ў стайні, а старая служанка ляжала на печы, гатовая адразу ж ўсхапіцца, калі яе паклічуць. У карчму ніхто не ўваходзіў, што здаралася рэдка. Рабіць было няма чаго, таму ляглі раней звычайнага: зрэшты, шынкар і яго жонка па звычцы не спалі, таму што звычайна ніхто з шынкароў ноччу сапраўды не мог заснуць.

– Еўка, – загаварыў карчмар, – ніхто нас сёння не парадуе. Сумна, таму што кожны дзень мы занятыя, а ў гэтую ноч ніхто не прыходзіць.

– Ляжы ціха, стары. Сапраўды грэх жаліцца Госпаду Богу. Учора з вечара такая бура пранеслася, якой я ў жыцці не памятаю. Дзіўна было б, каб з горада хто да нас трапіў. Хочаш кожную ноч мецъ гасцей, то трымай карчму ў Варшаве. Зрэшты, бываюць ночы, калі адна за дзве можа стаць, напрыклад, учорашняя.

– Гэта праўда, мая Еўка, учора ў нас усё прайшло добра. Мы сабралі тры талеры, а дробяззю сорак адзін грош. Ды акрамя таго, яны выпілі ў нас чатыры гарнцы, забыліся забраць дзве сырыя цялячыя шкуры, дзве кнігі для набажэнства, адну новенькую спадніцу, тры насоўкі, шыдэлак, ды яшчэ засталіся рэшткі васковых свечак. Бачыш, хоць я і стары, але ніколі не забываюся пра тое, што можа патрапіць у скрыню.

– Скажы, стары, ці можна пасля такога прыбытковага дня адпачыць два дні?

– Ты малайчына, мая ненаглядная карчмарка. Я хоць і многа пажыў, і ўжо ў мяне можна пытацца не пра тое, што я ведаю, а пра тое, чаго я не ведаю. Але я прызнаюся перад табой, і перад іншымі, што пры табе я падобны на хлопца, хоць мне ўжо шасьцьдзесят стукнула. У тую нядзелю ты засталася дома, а я пайшоў у касцёл маліцца за нас дваіх. І вось калі святар сказаў з амбона, што добрая жонка нясе ў дом дабраславенне Божае, я адразу падумаў пра цябе, аж ледзь слёзы на вачах у мяне не выступілі. Ты мой анёл, мая Еўка, дай я цябе пацалую.

– Яшчэ чаго! Што гэта табе, старому, любошчаў захацелася. Ляжы спакойна. Ты сам мне перад вяселлем сказаў, што не для забаў, а дзеля гаспадаркі мяне бярэш. У мяне ў галаве вось што: трэба яшчэ трохі назапасіць грошай ды і адмовіцца ад гэтай карчмы. А потым купіць дом у Варшаве і жыць у ім, як наказаў Бог. Мы будзем жыць, як людзі шаноўныя: падпанкам займаць грошы пад працэнты, з іншых браць грошы на заклад, проста каб людзям смела ў вочы глядзець, не так, як сёння. Я і так ужо не ў сабе ад гэтага шынкарства. На апошняй споведзі святар казаў мне такія рэчы, што ў мяне на галаве ўстаюць валасы. Табе, старому, нічога, смерць на носе: ты за сто злотых душ д'яблу прадаў бы, а я тут свету не бачу. Я не ведаю, чаго я баюся. Пакуль я гуляю з хлопцамі, мне здаецца, што я вясёлая, але як адна, хоць і з табой, гэта такі сум, такі сум... Ат, што табе казаць, ты гэтага не зразумееш; ты да ўсяго благога мяне падбухторваеш, выдатны ты мой муж.

– А ты ж баялася, што буду цябе раўнаваць.

– Ціха ляжы, стары, ніякага кахання ў нас не будзе. Ты аддаеш перавагу сну, калі сумленне цябе не коле. А я чакаю, што ў такую завіруху цябе ніхто не разбудзіць.

Наступіла цішыня. Але неўзабаве Кесьць пачаў будзіць жонку..

– Еўця – загаварыў ён, – Еўця, здаецца, у нас госці.

– Гэта табе так наснілася, – адказала Еўка.

Але не, у старога слых быў чуйны, нехта сапраўды стукаў у аканіцу.

– Хто там ёсць, адкрывайце, а то, да ста пар чарцей, карчму вашу загадаю падпаліць! – пачуўся голас, хрыплаваты, але гучны.

у ахвяру Богу. Дзіўная справа, ён, які ў ранейшым жыцці так і не змог вызваліцца ад нейкага смутку, ад нейкіх меланхалічных разважанняў, на мяжы апошняй бяды вельмі змяніўся. Ён стаў вельмі даступным для тых нявінных задавальненняў, з якімі чалавек становіцца прыемным у зносінах. У тыя часы, калі ён не маліўся, то рабіўся больш гаваркім, чым звычайна. Часта суцяшаў генерала, бачачы яго засмучаным. Ён стараўся разгаварыць яго, развесяліць. Часта на яго твары з'яўлялася ўсмешка непрыхаванай весялосці, і што яшчэ больш дзіўна, азмрочаны твар яго часам асвятляўся нейкай своеасаблівай прыгажосцю. Штосьці ў ім было не ад гэтага свету, амаль анёльскае. Нават вартаўнікі турмы, кожны раз, калі бачылі яго на прагулках у турэмным двары, казалі:

– Вось святы чалавек ідзе, будзем прасіць у яго блаславення.

Ледзь яго пасадзілі ў турму, ён адразу падзяліў свой час паводле пэўнага раскладу, і ні ў чым яго не парушаў. Уставаў у пяць. Прачнуўшыся, апранаўся і маліўся да шасці, па чым ішоў у капліцу турмы, слухаў імшу. У сем гадзін яму прыносілі сняданак. Затым ён чытаў пропаведзі, або “Жыція святых” Пятра Скаргі, знаходзячы ў гэтым чытанні і вялікае суцяшэнне, і нагоду для роздуму. З дзевяці да адзінаццаці, калі яго не выклікалі на суд, ён шпацыраваў па двары. У адзінаццаць гадзін да яго прыходзіў святар Белабжэскі, турэмны капелан, муж, вядомы ва ўсёй Польшчы сваёй святасцю, і які вызначыў сабе жыццё, сапраўды пакутніцкае. Ён праводзіў у іншы свет усіх асуджаных. З гэтым шаноўным святаром Міхал праводзіў цэлую гадзіну ў набожным размовах і раскрываў перад ім душу. Белабжэскі казаў, што пасля кожнай гадзіны, праведзенай з войскім, ён адчуваў сябе лепш, чым да таго.

Апоўдні быў сціплы абед. Пасля першай да яго прыходзіў генерал Карыцінскі, яны разам каля гадзіны гулялі. Войскі прымаў яго як гаспадар госця, за спакойным тварам, за размовай. Стараўся яго не засмучаць, апавядаў яму штосьці такое, што не тычылася будучага. Генерал сыходзіў ад Міхала з акрываўленым сэрцам, бо моцна да яго прывязаўся. Шкадаваў, што не можа праводзіць з ім больш часу. Суцяшаў сябе думкай, што войскага памілуюць, таму што гэтае рашэнне будзе адной з умоў замірэння з Барскай канфедэрацыяй.

Пасля сыходу генерала Міхал некалькі гадзін адпачываў. Прачнуўшыся, ён некалькі гадзін важдаўся з такарным станком, які па яго просьбе генерал загадаў паставіць у ягоную камеру, на ім выразаў на памяць генералу шашкі з самшыта і чорнага дрэва. У пяць гадзін ён чытаў ні з чым не параўнальны твор, прыпісваемы вядомаму філосафу Фаме Кемпейскаму “Аб перайманні Хрысту”, які ў вялікай горычы сэрца так добра кладзецца на душу. Чытаў і рабіў выпіскі. У сем зноў хадзіў на прагулку, у восем яму прыносілі вячэру, а палове на дзевятую ён станавіўся на вячэрнія малітвы. У дзесяць гадзін ён клаўся спаць, і сон не бег ад яго вачэй, як гэта часта бывае паміж шчаслівымі людзьмі.

Тым часам суд прасоўваўся наперад. Суддзі, не ўступаючы ў спрэчкі з войскім, бачачы, што ён ім не падпарадкоўваецца, адмовіліся ад любых роспытаў. І абвясцілі

яму смяротны прысуд, як небяспечнаму злачынцу з пакараннем смерцю праз тры дні, каб яму заставалася дастаткова часу для прымірэння з Богам. Такі ж прысуд вынеслі і Лукаўскаму. Калі іх абодвух прывялі выслухаць прысуд, Лукаўскі махнуў рукой у знак пагарды і ні слова не сказаў. Войскі ў заключным слове сказаў, што як шляхціц можа абскардзіць гэтае рашэнне, але ён гэтага не робіць, каб тым не прызнаваць над сабой гэтага суда, таму што толькі на справядлівы суд можна падаць абскарджанне, а ў тым, што яму толькі што прачыталі, сапраўднага прысуду ён не бачыць, гэта хутчэй нейкі пасквіль на яго. Яшчэ раз нагадаў пра незаконнасць суда, але заявіў, што ва ўсім згодны з воляй Госпада Бога і што сваім суддзям ён ад усяго сэрца даруе.

Староста, са свайго боку, рабіў усё, што мог, для выратавання брата, паўтараў сваю просьбу да караля, але яму было адмоўлена. Напісаў каралю вялікі ліст, дзе, нагадваючы яму пра самыя сціплыя свае заслугі, прасіў прабачэння перад ім, калі ў яго з-за клопату пра становішча брата аднялася свядомасць, і ён сваімі словамі мог яго пакрыўдзіць. Ён упрошваў караля памілаваць брата, прапанаваў яму свае паслугі на любы выпадак, спадзяваўся, што яму ўдасца выклікаць у караля літасць і спагаду. Ліст старасты быў вельмі прачулы, але і на гэты ліст адказу яму не было суджана атрымаць.

Староста звярнуўся да ўсіх сваіх сяброў, просячы іх заступіцца за яго перад каралём, і тут ён змог пераканацца ў тым, што значыць падзяка і сяброўства ў вялікім свеце. Як толькі з'явілася навіна, што староста раззлаваў караля, яны не толькі не прыйшлі на дапамогу, але і далі яму ўведаць, што не жадаюць падтрымліваць з ім ніякіх адносін. Яны нават праявілі ўсё сваё старанне, каб яшчэ мацней распаліць раз'юшанага караля супраць яго былога фаварыта.

Староста, вычарпаў ўсе сродкі угаварыць манарха, і тут нарэшце ў роспачы і ад прыроднай польскай дзёрзкасці, зло ўзяло ў ім верх над усякай прыстойнасцю, набытай замежным выхаваннем. Паслаў каралю прашэнне аб адстаўцы, далучыў да яе ліст, у якім ён заявіў, што гонар і сумленне не дазваляе яму больш заставацца на службе каралеўскай уладзе. Кароль, абражаны да вышэйшай ступені, паслаў да яго свайго шамбяляна Камелі, каб ён заявіў ад яго імя, што ён прымае адстаўку, патрабуе таксама яго адстаўкі ад ваеннай службы і ад пасады камандзіра каралеўскай харугвы. Але як толькі Камелі загаварыў пра гэта, староста адказаў:

– Пане шамбялян! Я падаў прашэнне звольніць мяне з пасады загадчыка кабінета, таму што каралю я не думаю служыць, але да смерці хачу быць верным слугой як звычайны чалавек і харугву я не здам. Скажыце яму гэта ад мяне.

Камелі пайшоў, а староста загадаў адвезці сябе ў казарму і там пагутарыў з салдатамі. Яны любілі яго, як бацьку, таму што ён жыў з імі і іх патрэбы забяспечваў з уласнай шкатулкі, і таму смела мог спадзявацца на іх у любым пачынанні. І калі ён заявіў ім, што кароль патрабуе, каб ён склаў з сябе абавязкі іх камандзіра, яны на каленях прасілі яго не пакідаць іх.

Яны сказалі яму, што ніхто не мае права прымушаць яго да гэтага і што калі ім дадуць іншага камандзіра, яны яго не прымуць.

Тут наступаў самы страшны момант для старасты: трэба было, каб ён абавязкова ўбачыўся з братам, якому знарок калісьці здрадзіў, і якога нядаўна, хоць і па недасведчанасці, захапіў і аддаў у рукі няпрошаных гасцей. Ён палічыў бы за лепшае сустрэць тысячу смерцяў, чым з позіркам брата, аднак, вырашыў пабачыцца з ім, таму што толькі ад гэтага залежыла яго выратаванне.

І ён пайшоў у турму, пераадолеў у душы ўсе перашкоды, поўны раскаяння. Прыйшоў, загадаў адвесці сябе да войскага. Спачатку дзяжурны афіцэр вагаўся, але на грозны загад, аддадзены яму афіцэрам гэткага высокага рангу, з вышэйшым ордэнам краіны, быў вымушаны паслухацца.

Войскі як раз даточваў на станку цыбук для люлькі, прызначаны на памяць Вазгірду, калі дзверы яго камеры адчыніліся. Людвік устаў, як укапаны, на парозе. Але Міхал адразу пазнаў яго, падбег з працягнутай рукой, сціснуў яго ў сваіх абдымках і, некалькі разоў пацалаваўшы, сказаў:

– Ах, брат, я цяпер зусім шчаслівы. Я нічога так не хацеў, як бачыць цябе перад смерцю, каб прымірыцца з табой і заявіць, што люблю цябе ўсім сэрцам і ні найменшай крыўды, ні на цябе, ні на маю нявестку я не маю. Будзьце шчаслівыя абодва на самыя доўгія гады і трымайце мяне ў памяці, а часам маліцеся за маю душу.

Людвік нейкі час слова вымавіць не мог, адчуваў, як нешта сціскаецца ў грудзях. Па шчаках пакаціліся слёзы. Міхал стараўся супакоіць яго з такой пяшчотай, нібы не ён сам, а брат ягоны быў прысуджаны да смерці.

– Я братазабойца! – ўсклікнуў стараста, – я пракляты богам і людзьмі!

– Што ты кажаш, дарагі Людвік? Супакойся! Хто табе такі папрок зробіць? І калі б які безразважны асмеліўся на цябе накінуцца, скажы сабе, што тваё сумленне чыстае. Хіба ты вінаваты ў тым, што, верны абавязку твайму, пераследуючы тых, хто са зброяй у руках напаў на караля, якому ты служыш, між іншым, узяў у палон і свайго брата? Калі паглядзець на гэта з другога боку, то і я ж страляў у цябе, не ведаючы, што гэта ты. І мог забіць цябе. І ўсё ж і ў гэтым выпадку братазабойства я б сабе не прыпісаў, як Бог пажадаў, так атрымалася, а ты быў сляпой прыладай яго прысудаў. Паўтараю, ні ў чым ты не вінаваты, і ты можаш не верыць словам таго, хто хутка паўстане перад Богам. Я развітваюся з табой, дарагі брат, і прашу цябе толькі аб тым, каб ты быў спакойны.

– Ах, брат, я прыйшоў прасіць у цябе прабачэння, і дабрыня твая забівае мяне. Але я хачу, каб і я не быў злачынцам, я прынамсі, дастаткова моцны, каб перашкодзіць таму, каб гэтае беззаконне адбылося. Я прыйшоў ратаваць цябе. Бяжы, я цябе адсюль выведу. Я камандую атрадам адважных воінаў, на якіх я спадзяюся. З іх дапамогай, я цябе выведу адсюль. Ідзі са мной, брат! Што? Ты вагаешся? Няўжо ўжо ты настолькі пагарджаеш мной, што не прымаеш руку, якую я табе падаю?

– Дарагі Людвік, не кажы мне гэтага. З найвялікшай удзячнасцю, з брацкай пяшчотай я прымаю тваю ахвяру, але скарыстацца ёю не магу.

– Не можаш? Ты хочаш быць пакараным як злачынца? Ты павінен скарыстаць апошні сродак выратавання! Мілы Міхал, я заклінаю цябе імем твайго бацькі, ідзі са мной!

– Не, брат! Ад ганебнага прысуду, уцёкамі я сябу не ачышчу. І калі б я нават схіляўся да гэтага, адна акалічнасць заўсёды гэтаму перашкодзіць: Я даў хрысціянскае і шляхецкае слова, што не ўцяку з турмы. Я пытаюся ў цябе, што ты падумаеш пра мяне, калі б я, баючыся смерці, так ганебна абцяжарыў і мой гонар, і маё сумленне?

– Ні адно абяцанне не можа быць вышэй за абавязак перад Айчынай. А ты ж для яе выратавання супраць нас выступаў, і я цяпер пераканаўся ў правільнасці вашых намераў. Я пайду з табой, побач з табой, біцца буду, павяду ў Чэнстахову маю харугву, маленькую, але бясстрашную. Была яна пад маім камандаваннем сродкам забойства, з гэтага часу хай будзе саюзнікам дабрачыннасці. У мяне ёсць сякі-такі вопыт у ваенным рамястве. Мы пераможам тых, хто захоча нам супрацьстаяць. Паміж мной і каралём з гэтага часу не можа быць нічога агульнага. Мы ўмацуем у Чэнстахове сілы канфедэрацыі, падтрымаем яе барацьбу за гонар і веру. Хто ведае, наколькі гэты мой крок павялічыць яе шэрагі. Як ты думаеш, калі кіраўнік каралеўскага кабінета далучыцца да вас, хіба тысячы не рушаць услед гэтаму прыкладу? Больш таго, я ведаю: нам дапаможа цяперашні міністр, які ў Францыі сапхнуў Шуазеля, ён быў маім самым блізкім сябрам. Ты не можаш уявіць, колькі паслуг я ў стане аказаць вашай справе.

– Людвік, калі па сумленні тваім ты бачыш, што той бок, да якога да гэтага часу я адносіўся, цяпер здаецца табе больш справядлівым, не саромейся далучыцца да яго, не думаючы, ці прынясеш ты шчасце краіне. Ты пойдзеш на вялікія пакуты, ты падпадзеш пад небяспекі. А што тычыцца мяне, я магу служыць радзіме толькі адной смерцю. Я не ўмею складна сказаць, але ў мяне ёсць цвёрдае перакананне, што толькі з вызваленнем ад таго, што чакае мяне цяпер, я магу цалкам выканаць свой абавязак. І калі б я парушыў абяцанне, якое я даў, калі б я падвёў чалавека, які паверыў мне, я быў бы самым жорсткім з людзей, і нават магчыма, я не быў бы рады свайму жыццю.

– Але ты ж не кляўся, брат: якое значэньне ты можаш надаваць абяцанню, дадзенаму ў няволі. Кожны разумны чалавекён павінен быў бы адпусціць цябе.

– Абяцанне хрысціянскае і шляхецкае і ёсць клятва, а той, хто на яе паспадзяваўся, інакш яе не разумее. Зразумей мяне: я не магу здрадзіць свайму слову.

– Ты не маеш права, Міхал, распараджацца сабой, ты не можаш падаваць прыклад іншым сваёй ахвярай. Хто даў табе права пазбаўляць дапамогі тым, хто

змагаецца за Радзіму? Хто даў табе права ганьбіць твайго брата, тваё імя? Да сумлення твайго я звяртаюся.

– Калі я заслужыў смяротнае пакаранне, будзе яно выканана або не, дзея ўжо зганьбіла маё імя. Калі я невінаваты, дык маё імя яна выратуе.

– Брат, – сказаў Людвік у найвялікшым узрушэнні, падаючы яму ў ногі – гэтага не можа быць, каб ты пайшоў на эшафот! Бо падобнай ахвяры ад цябе патрабаваць нельга. Гэта не ўкладваецца ў мяне ў галаве! Ні перад кім я не стаяў на каленях, а вось зараз каля ног тваіх я малю цябе, не забівай брата твайго, не выракай яго на адчай.

– Брат, што ты робіш?–- адказаў войскі, падымаючы старасту. – Чаму апошнія імгненні майго жыцця ты атручваеш, раздзіраючы маё сэрца? Гонар, сумленне, вера не дазваляюць мне паслухацца цябе. Як жа ты можаш мяне падахвочваць да ўчынку, ад якога душа мая скаланаецца? Пакінь гэта, брат! Ты ведаеш мяне дастаткова, каб зразумець, што ад майго рашэння я ніколі не адступлюся. Падумай і пра тое, што дапамога, якую ты мне прапануеш, гэта ж таксама злачынства. Хіба ты не здраджваеш гэтым свайму каралю, каму ты служыш, і ці можаш ты дазволіць мне стаць саўдзельнікам здрады толькі дзеля майго выратавання?

– Я перастаў быць каралеўскім слугой. Яшчэ ўчора я падаў у адстаўку, а як грамадзянін я маю права ісці па тым шляху, які мне падказвае розум.

– Не, Людвік, ты падманваеш сябе! Розум тут ні пры чым. Толькі твая любоў да мяне і адданасць таму бажаству, якое называецца гонарам, прымусіла цябе зрабіць гэта. Калі б кароль па тваёй просьбе згадзіўся выратаваць мяне, ты б не вагаўся і далей выступаць супраць нас. Ты расстаешся з каралём толькі таму, што ён не палічыўся з тваімі заслугамі і адхіліў тваю просьбу. Не грамадскі інтарэс цябе вядзе, але справа, якая ўзнесла б твой гонар, дзякуючы тваёй абароне брата, а гэта рэч асабістая. Апамятайся, брат! Будзь верны тваім абавязкам перад каралём, ён зразумее, што ты хацеў мяне выратаваць, таму толькі ты расстаўся з ім. А мяне пакінь, з Богам я правяду апошнія імгненні жаласнага жыцця, падрыхтуюся да падарожжа, у якое мне хутка трэба будзе выпраўляцца.

– Жорсткі ты, Міхал! Ты дзеля забабонных уражанняў ахвяруеш жыццём, гонарам брата, усім, што магло прымірыць цябе са светам. Я зараз пайду, але не надоўга. Мы хутка ўбачымся. Нягледзячы на караля, нягледзячы на тваю варту, нягледзячы на тое, што ты адзін, я павінен выратаваць цябе, ці памру!

І ён выйшаў за дзверы.

…………………………………………………………………………….

Калі абвяшчаўся прысуд, у зале было шмат людзей. Гэта было заўважна. Такое вялікае спачуванне войскаму ў народзе прымушала асцерагацца смуты ў дзень яго пакарання, які быў прызначаны на 1-га снежня. Таму было вырашана прыспешыць яго на адзін дзень - у апошні дзень лістапада.

**XIII. Нечаканая падзея**

Стараста пайшоў ад брата, але ні аб чым не думаў, толькі аб яго выратаванні. Ён првык аддаваць сябе без разважанняў сваім пачуццям, так, што ніякая перашкода ўтрымаць яго не магла. Вось і зараз ён безразважна хацеў узяць сваю харугву, з ёй напасці на турму, адбіць брата і з ім пайсці хоць на край свету. Але нервы яго не вытрымалі. Ён вярнуўся ў свой палац і ў роспачы застыў на парозе. І такая сумятлівасць была бачна на яго твары, што старасціна, якая выбегла састракаць мужа, спалохалася яго погляду. Яна кінулася ў яго абдымкі. Ён прыціснуў яе да сябе, але нічога сказаць не мог, толькі раптам адчуў, як моцна разбалелася галава. Такога болю ён ніколі раней не адчуваў. Лёг на канапе.

Зося выйшла на хвілінку, вярнулася, трымаючы на руках сваю Людвіку. Села каля яго, працягнула яму дзіця і паклала руку на яго лоб. Галава была такой гарачай, што здавалася лава з сотні вулканаў засяродзілася ў ёй. Стараста лашчыў малую, павярнуўся да жонкі. У яе вачах засохлі слёзы, у іх бачылася нейкае страшнае гора. Ён нічога не мог вымавіць, толькі паказваў пальцам на лоб.

– Дарагі Людвік, – сказала Зося тым серабрыстым голасам, які заўсёды абуджаў у ім салодкія адчуванні, – ты захварэў, кладзіся у ложак!

Стараста хацеў ёй нешта сказаць, нейкія незразумелыя словы застылі у яго на вуснах. Ён узяў руку жонкі, паклаў яе на сэрца, пасля хацеў падняцца, але тут жа асунуўся. Пачаў нешта няўцямна казаць. Зося сачыла за кожным рухам мужа. На жаль, зразумела, што яна нічым дапамагчы не можа, а таму, засмучаная, паслала за лекарам.

Прыбыў Сіо, доктар яго вялікасці, ён быў знакамітым лекарам у Францыі, але ўжо некалькі гадоў быў і простым лекарам, і сябрам старасты. Зося давярала яму. Сіо застаў Людвіка ў ліхаманцы, у надзвычай небяспечным стане. Стараста яго ўжо не пазнаў. Сіо перш-наперш зрабіў яму кровапусканне. Гэта быў адзін са сродкаў яго лячэння. Ніякімі іншымі сродкамі ён таксама не занядбаў, лячыў як мог і ўмеў.

Ад аўтара рамана: *Сіо сапраўды быў каралеўскім доктарам на працягу больш за дваццаць гадоў. Толькі ў год Французскай рэвалюцыі, якой ён быў дбайным прыхільнікам, вярнуўся на сваю радзіму, дзе яго брат быў членам заканадаўчага сходу. У яго былі цесныя адносіны з самымі выбітнымі членамі Канвента, бо ён ніколі не пераставаў быць добрым чалавекам. Я бачыў яго ў Парыжы ўжо немаладога, але яшчэ жвавага, ён не забыўся польскай мовы і любіў размаўляць з палякамі, якія прыязджалі ў Францыю.*

Сіо праявіў цуды настойлівасці і майстэрства лекара, але і цуды дабрыні і сяброўства. Пры двары ён расказваў пра хваробу старасты, і, на дзіва, іскры дабрыні да старасты, пакрытыя ў сэрцах прыдворных попелам зайздрасці і эгаізму, здавалася, былі раздзьмуты ў полымя. Спачатку яны пачалі, па меншай меры, пытацца пра яго

здароўе. Як бы там ні было, а староста многім з іх дапамагаў. Каля палаца старасты паяўлялася нямала карэт. Двор яго быў напоўнены рамеснікамі і жабракамі, якія памяталі пра яго дабрадзействы. Слугі заліваліся слязамі бо для слуг сваіх ён быў добрым і даступным. Нават у разгневанага караля прачнулася ягоная ранейшая прывязанасць да старасты. Як толькі ён даведаўся, што перад старастам, магчыма, ужо адчыніліся дзверы ў вечнасць, ён загадаў адвезці сябе да яго палаца, дзе сам спытаў пра стан хворага. Старасціна спусцілася з лесвіцы да карэты караля, каб падзякаваць яму за добрую памяць пра мужа. Бессань і трывога пакінулі на яе твары такія сляды, што кароль спалохаўся, убачыўшы гэтую жанчыну, яшчэ некалькі дзён таму такую свежую, такую цудоўную, поўную прыгажосці. Ён з цяжкасцю пазнаў Зосю. Вочы караля завільгатнелі. Гэтая каралеўская сляза абяцала старасце вярнуцца да ранейшых абавязкаў, зноў стаць фаварытам пасля выздараўлення.

Больш за два тыдні Людвік праляжаў без прытомнасці і надзеі на жыццё. Жонка ні на крок не адыходзіла ад яго, праводзіла каля яго бяссонныя ночы.

Якраз тады, калі хворы староста змагаўся са смерцю, пакуты войскага скончыліся. У апошні дзень лістапада, таго заўсёды для яго злавеснага месяца, ён быў выведзены на пакаранне разам з палкоўнікам Лукаўскім. Ксёндз Белабжэскі суправаджаў іх да эшафота, каб падбадзёрыць іх мужнасць рэлігійным суцяшэннем. Але рабіць гэтага не было патрэбы: у Лукаўскага адвагі было нямерана, а Міхал ўжо быў напоўнены адчуваннем таго, што ён прыносіць жыццё ў ахвяру.

Напярэдадні смерці ён уручыў Белабжэскаму два лісты з просьбай, каб яны былі адданыя ў адпаведнасці з іх прызначэннем. Адзін быў для Людвіка, другі – Вазгірду. Брата заклінаў, каб ён ніколі сабе не папракаў, што нібыта стаў прычынай яго смерці, бо гэта зусім не залежыла ад яго волі. Напомніў яму пра абавязкі да жонкі і дачкі, якім паслаў сваё блаславенне. Ён заклікаў яго з усёй стараннасцю ніколі не ставіць свой розум вышэй веры, прасіў, каб ён любіў Бога над усімі рэчамі зямнымі, каб ён заўсёды быў гатовы ахвяраваць усім дзеля Яго.

Гэты ліст быў аддадзены старасціне. Яна схавала яго з намерам аддаць яго мужу, калі ён будзе зусім здаровы.

Вазгірда ён заклінаў, каб ні пра якую помсту за яго смерць ён не думаў: ніхто не быў на самай справе вінаватым у яго смерці, бо ў тым была воля Боская, і, такім чынам, з гэтым трэба пагаджацца. А ён спадзяецца сустрэць яго калі-небудзь у царстве вечнага шчасця, і просіць яго як лепшага свайго сябра, каб пакуль той будзе жывы не забываў аб ягонай душы.

Праз увесь шлях ад турмы да плошчы пакарання Міхал чытаў са святаром малітвы. На эшафоце ён пацалаваў ката ў знак пакоры і аддаў яму залаты гадзіннік на памяць. У апошні раз перахрысціўся, падняў вочы да неба і спакайна падставіў шыю пад меч.

Калі ўсё гэта дзеялася, староста яшчэ быў у непрытомнасці, ён нікога не пазнаваў. Але ў той момант, калі ягонага брата вялі на эшафот, Людвік трызніў,

пранізліва крычаў, і паўтараў імя Міхала жаласным голасам. Ён зрываўся з ложка, размахваючы рукамі, і так калаціўся, што некалькі чалавек ледзь трымалі яго. Потым, стомлены, ён упаў без сіл, нерухома ляжаў на спіне, толькі вусны варушыліся, але ніводнага слова ён не мог вымавіць. Калі ён прыйшоў у сябе, то ні аб чым не пытаўся. Ён не меў у тым патрэбы: усе падрабязнасці смерці брата так адбіліся ў яго свядомасці, як быццам ён сапраўды ўсё бачыў. Больш таго, ён прасіў перадаць яму ліст ад брата, сцвярджаючы, што бачыў, як ён пісаў яму. Сіо задумаўся над гэтым псіхалагічным феноменам, але ён не ўмеў яго вытлумачыць.

Сіо рэкамендаваў, каб хвораму не пярэчылі, каб яго ўлагоджвалі. Ён лічыў, што Людвік ужо выйшаў з небяспечнага стану, але нервовая сістэма хворага настолькі напружаная і ўзбуджаная, што любое бурнае хваляванне магло б пазбавіць яго розуму.

Зося спакойна сачыла за выздараўленнем мужа, яна спрабавала падбадзёрыць яго музыкай, прыносіла дзіця, была шчаслівая, калі ўсмешка хоць ненадоўга з'яўлялася ў яго на вуснах.

Людвік нібы ачнуўся ад моцнага сну, у якім трызненні і жудасныя сны раздзіралі яго. Ён загаварыў з жонкай, і першымі былі словы любові і падзякі. Ён прамовіў некалькі слоў і зноў упаў у нейкае здранцвенне. Здавалася, што ў ім як бы прапалі ўсе спружыны, якія падтрымлівалі яго дух і цела. Цэлымі днямі ён быў нерухомы і маўклівы.

Да ўсяго праяўляў абыякавасць. Зося карміла яго, як дзіця. Ён з'ядаў некалькі лыжак, потым знакам, толькі жонцы зразумелым, дзякаваў, але нічога не прасіў. Князь Варагін і пані чэснікава былі адзінымі, чый прыезд здаўся яму прыемным. Толькі ім падаў руку з сяброўскай усмешкай. Яны гадзінамі сядзелі каля яго ложка, стараліся заняць яго расповедам пра тыя гарадскія і прыдворныя падзеі, якія раней так займалі яго. Ён слухаў пра гэта абыякава. Але калі пані чэснікава, жадаючы яго суцешыць, расказала, што кароль з сяброўскай чуласцю кожны дзень пытаецца пра яго здароўе, і што да гэтага часу ягонае месца нікому аддаваць не хоча, Людвік павярнуў да яе галаву з выразам агіды на твары. Больш пра караля пасля гэтага не ўспаміналі.

Але што было больш за ўсё балюча Зосі, дык гэта тое, што думкі яго ніяк, нават мімалётна, не спрабавалі звярнуцца да рэлігійных пачуццяў. Погляд яго, блукаючы па ўсіх прадметах у пакоі, толькі да неба ніколі не падымаўся. Яна ўпрасіла нарэшце святара Чычыёцці, італьянца, вядомага знаўцы навук і абыходлівага ў гутарках, каб ён зрабіў ласку наведаць яе мужа, з якім яго раней звязвалі адносіны ўзаемнай павагі. Але як толькі Людвік ўбачыў яшчэ здалёку чорную сутану, то так спалохаўся, што разумны святар палічыў за лепшае павярнуць назад. Праўда, Зося патлумачыла гэта сабе вялікай нервовай раздражняльнасцю хворага.

Адзін раз, седзячы побач з мужам, як звычайна, Зося паспрабавала загаварыць з ім. Ён рэзка перапыніў яе, сказаў:

– Анёл мой дарагі, загадай прынесці люстэрка, мне цікава паглядзець на сябе.

Зося загадала прынесці люстэрка. Людвік паглядзеў на сябе, уздрыгнуў. І не дзіўна: ён быў зарослы, злыселы, бледны, у ім было цяжка пазнаць ранейшага маладзёна, які выклікаў захапленне жанчын і зайздрасць мужчын. А вось што было дзіўна: жонка заўважыла, як рысы яго твару, пазбаўленыя свежасці і самазадаволенасці, надалі яму падабенства з Міхалам, якога раней у яго не было.

– Ах, мой дарагі анёл, – усклікнуў Людвік, – як жа ты магла паказваць людзям гэткае пудзіла?

Ён загадаў неадкладна пабрыць сябе, палыселую галаву накрыў парыком і нават бледнасць спрабаваў падфарбаваць штучнай чырванню. Зося, гледзячы на гэта, адчувала вялікую радасць, бо ў гэтым павароце да ранейшай элегантнасці бачыла гарантыю выздараўлення.

І сапраўды, Людовік паступова вяртаўся да ранейшай сілы і рухавасці, хоць выраз глыбокага смутку яшчэ не пакідаў ягонага твару. Старасціна пачала маляваць перад ім карціну шчасця, якое будзе ў іх за мяжой, у Францыі, на зямлі заўсёды ім любімай.

– Ты правільна кажаш, анёл дарагі, нам у Польшчы больш не жыць. У Парыжы, у Версалі я ачуняю. А пакуль што займуся распрадажай нашай маёмасці.

Ён прывык аддавацца нястрымнай энергіі, калі браўся за справу. Прыняў намер сысці назаўжды са сваёй Радзімы і са звыклым запалам аддаўся гэтаму пачынанню, ні на што не азіраючыся. А Зося радавалася, таму што ў гэтым ён знайшоў выйсце, перастаў пакутваць ад думак, якія яго мучылі.

У Польшчы становішча змянілася. Пасля тых апошніх няшчасцяў, якія абрынуліся на краіну, Барская канфедэрацыя сышла на нішто. Акрамя трох яе правадыроў, якія адправіліся ў добраахвотнае выгнанне і не папрасілі прабачэння, усе астатнія адступілі ад гэтага саюза і памірыліся з каралём. Станіслаў Аўгуст пажадаў набыць нерухомую маёмасць для любімага сына, маладога князя Станіслава. Ён даведаўся, што Стравіньскія шукаюць купца на свае маёнткі, і рэкамендаваў сыну набыць іх для сябе, прапанаваў яму ўсе сродкі на гэта. Пан Анкута, давераная асоба караля, блізкі сваяк пані Стравіньскай, дамовіўся з імі аб цане, заключыў з імі кантракт, па якому на князя Станіслава была перапісана ўся іх маёмасць. Маёмасць была немалая. Плату за яе Стравіньскія перавялі ў Гамбург, Парыж і Лондан. Людвіку нічога не заставалася, як толькі пазбавіцца свайго палаца і здаць сваю харугву, за камандаванне якой ён яшчэ нядаўна так настойліва выступаў. Што ж тычыцца першага, то князь Варагін, які толькі што стаў паслом у Варшаве, быў рады купіць яго для свайго пасольства у свайго строгага сябра. Ён набыў палац, але дазволіў старасце займаць яго да ад'езду. А што тычыцца Вялюньскага староства, аддаў яго пані чэснікавай, з удзячнасцю за столькі доказаў яе сяброўства.

За тры дні да ад’езду прыйшлі ў госці пані чэснікава і князь Варагін. Калі пачалі гаварыць пра ад'езд, пані чэснікава спытала:

– Людвік, ты ж будзеш развітвацца з каралём?

– Я зусім пра тое не думаў.

– Людвік, – адказала чэснікава, – а ты ўсё ж падумай! Ці можа чалавек такога значэння, як ты, непрыкметна знікнуць? Кароль заўсёды кароль.

– Але ўжо не мой, я цяпер падданы французскага караля.

– А ты спытай князя, ён скажа, у цябе няма больш надзейнейшага сябра, чым ён. Што ён табе скажа, што б ён сам падумаў пра цябе, чалавека добрага выхавання, прыстойнасці.

– Я не лічу справядлівым тое, што кажа наш староста, – прамовіў пасол. – У ім гаворыць не інакш як яго гора. Калі б у яго былі справядлівыя адносіны да караля, каб ён ведаў пра тую клапатлівасць, якую праявіў святлейшы падчас яго хваробы, то, мабыць, ён передумаў бы. Але я пакідаю гэта ўбаку, скажу пра іншае. Тут справа не ў парыванні сэрца, а ў выкананні абавязку. Я ўпэўнены, што мой дарагі староста па-ранейшаму ўзор добрага тону і выдатнага выхавання, ён не пажадае запляміць сябе ўчынкам, якога не дапусціць нават у вёсцы выхаваны, і які ў Версалі ўсіх уразіў бы, бо, верагодна, і там хутка пра гэта даведаліся б. Я не губляю надзеі, што заўтра буду бачыць яго на аўдыенцыі ў караля, і калі ўжо сам ён вагаецца, то яго жонка зможа яго прымусіць быць тактоўным.

– Дарагі князь, – сказаў староста, беручы яго за руку. – Дзякуй за павучанне, якое я заслужыў. Заўтра я буду ў караля. Я выкажу яму маю павагу, нават падзяку. Па сутнасці, у мяне ёсць шмат прычын адчуваць да яго ўдзячнасць. Развітаюся са святлейшым, паслухаю, што ён скажа, што ён пажадае мне ад Бога ўсіх выгод, а я папрашу яго, каб ён зрабіў ласку даць мне даручэнне ў Парыж. Можа быць, ён захоча даверыць мне якую-небудзь важную справу, напрыклад, купіць які-небудзь рэдкі падарунак для пані крайчыны.

Пасол ад душы засмяяўся, ён радаваўся, што яго сябар зробіць так, як таго патрабуе сама прыстойнасць.

Калі добрыя госці з'ехалі, Людвік выглядаў вясёлым і размаўляў з жонкай аб маючай адбыцца развітальнай аўдыенцыі. Калі на наступны дзень жонка сыходзіла ў царкву, ён праводзіў яе да дзвярэй, пацалаваў яе некалькі разоў з запалам палюбоўніка і расказаў ёй некалькі жартоўных рэчаў аб будучай сустрэчы, да якой ён рыхтаваўся. Старасціна пасля набажэнства наведалася пра падарунак для чэснікавой, якая жыла непадалёк ад касцёла Святога Крыжа; там яна з ёй пагаварыла пра будучы ад'езд, паслухала парады кузіны, якая прывыкла ездзіць за мяжу. Падчас іх размовы прыбыў пан чэснік прама з каралеўскіх пакояў і далажыў дамам аб прыёме старасты.

– Я скажу сваім дамам, што пан староста, нягледзячы на гэткую доўгую хваробу, выглядаў вельмі добра і свежа. Ніхто не заўважыў, што ён быў у парыку.

Першы раз яго бачылі са стужкай ордэна Белага Арла. Блакітная стужка прыгожа адцяняла цёмна-сіні колер французскага мундзіра. Кароль напоўжартам сказаў яму, што пан стараста занадта спяшаецца стаць французам, а між тым ніхто не пазбаўляе яго права нашэння польскага мундзіра. Пан Стравіньскі на гэта нізка пакланіўся, спытаў караля, ці няма якіх загадаў у Парыж? Кароль адказаў:

– Ніякіх загадаў, але просьба не забываць пра нас. Спадзяюся і там мець сябе вашым сябрам; і што тычыцца іншага, то я ведаю, што для сябе вы нічога не просіце. Але калі вы зацікавіцеся кім-небудзь, ці чым-небудзь, калі ласка скажыце, і мне будзе прыемна публічна даказаць, наколькі я паважаю вас.

Вы не паверыце, пане, якое ўражанне зрабілі гэтыя царскія словы на ўсіх, хто там быў. Затым кароль павёў Людвіка ў васьмікутны кабінет, які выводзіць з залы на тэрасу. Мы ўсе чакалі, а яны больш за гадзіну размаўлялі адзін з адным, і размова была ажыўленай. Дастаткова сказаць, што, развітаўшыся з каралём, муж пані вярнуўся праз залу з урачыстым выразам твару; кожны з набліжаных набліжаўся да яго з пачцівай ветлівасцю, але ён ні на каго не глядзеў, толькі зрабіў ласку паціснуць мне руку і некалькі хвілін размаўляў з князем Варагіным, так ціха, што з іх размовы нічога ў двары не ўведалі.

Соф'я спешна вярнулася да мужа, каб падбадзёрыць яго пасля расстання з каралём, цешачы сабе думкай, што гэта развітанне змагло развеяць ў ім рэшткі смутку і трывогі. Але якое ж было яе здзіўленне, калі, ёй паведамілі, што стараста, вярнуўшыся ад караля, зноў страціў прытомнасць.

Зося тут жа паслала яшчэ не адасланую карэту па доктара. Сіо застаў яго вельмі нездаровым, але не знайшоў нічога небяспечнага. Ён выпісаў яму заспакаяльны напой, на наступны дзень рэкамендаваў прыняць негарачую ванну. Сказаў Зосі:

– Пані, будзьце спакойныя, – ніхто лепш за мяне не ведае тэмпераменту вашага мужа. Любая рэч робіць на яго моцнае ўражанне, але ненадоўга: гэта сапраўдная натура француза. Ён расхваляваўся, але ўжо пачаў супакойвацца. Месье з'язджае заўтра. Калі ён дазволіць, я сам праводжу яго да Парыжа.

Людвік падаў яму руку і з пяшчотай сціснуў яе.

— Ну! – дадаў Сіу, – дамовіліся: заўтра раніцай купанне, пасля абеду я пераязджаю да вас са сваім начыннем, а паслязаўтра, у дзесяць раніцы, рушым у дарогу! Я думаю, што мы даедзем без прыгод, а як толькі на яго падзьме ветрык Францыі, ён забудзе пра свае згрызоты.

Старасціна ненадоўга сышла, вярнулася, трымаючы ў руцэ мяшэчак злотых.

– Мой дарагі Сіо, можа, у цябе ёсць якія выдаткі перад ад'ездам, вось вазьмі гэта.

– І я не падвяду; слова француза – клятва. Паслязаўтра мы з'язджаем. А як пан убачыць берагі Сены, то яшчэ не хутка ўспомніць аб сваёй радзіме. Кожная краіна мае сваю прыгажосць, але Францыю трэба абавязкова бачыць.

Людвік пасля прыёму лекавага зелля, здавалася, паспакайнеў. Загадаў прынесці дзіця, забаўляўся з ім больш за гадзіну: па чарзе лашчыў дачку і цалаваў рукі жонкі. Часам слёзы пяшчоты з'яўляліся ў яго на вачах, часам удзячная ўсмешка. Ён радаваўся поспехам дачкі, таму што Людвія ўжо выразна вымаўляла: тата, мама, умела цалаваць і браць за шыю.

Аднак неўзабаве нейкі дзіўны выраз смутку затуманіў твар Людвіка. Відаць было, што гэтая бацькоўская пяшчота змарыла яго.

Неўзабаве пасля гэтага пані чэснікава прыехала да іх на вечар. Людвіка яна некалькі ўразіла: здавалася, што яна здзяцінела.

Напрыклад, яна распавядала розныя французскія казарменныя анекдоты, часам даволі слізкія. І ён паддаўся гэтаму настрою. Звычайна ў размовах ён не пераходзіў межаў прыстойнасці, а тут, чаго таксама ніколі з ім не бывала, ён з усімі падрабязнасцямі распавядаў пра свой раман з маркізай дэ Пампадур. Між іншым расказаў пра выпадак, калі ў час іх спаткання зайшоў кароль, ды так нечакана, што ў яго не было іншага спосабу схавацца, як толькі забрацца ў камін, дзе ён прабыў больш за гадзіну без руху, у самым жудасным становішчы і ледзь не задыхнуўся.

Толькі пасля таго, як кароль выйшаў, Людвік вылез, ён быў так вымазаны, расхрыстаны, валасы так растрапаныя, што маркіза пры выглядзе яго зарагатала. Ён не мог ні пераапрануцца, ні выйсці на вуліцу, яму давялося чакаць у яе кабінеце да начы. Толькі з цёмным ён патрапіў да сябе ў кватэру, і вельмі напалохаў слуг сваім прыходам.

Было ўжо добра пасля паўночы, калі гэтая невялікая кампанія разышлася, таму што колькі разоў ці то чэснікава, ці то Сіо хацелі развітацца з ім, ды Людовік іх не адпускаў, пакуль сам не адчуў вострай патрэбы ў спакоі. Чэснікава сказала Сіо, спускаючыся з лесвіцы:

– Кажыце, што хочаце, доктар, а я турбуюся за Людвіка. Я ўпэўненая, што яму зноў стане горш. Ён увесь гэты вечар быў нібы ў непрытомнасці. Заўтра раніцай я прыеду да іх.

Людвік лёг на ложак жонкі і адразу заснуў так моцна, што было ўжо дзесяць гадзін раніцы, калі ён ачуўся. Расплюшчыў вочы і ўбачыў Зосю, якая сядзела каля ложку і чакала яго абуджэння. Людвік накінуў халат, падышоў да жонкі і сказаў ёй:

– Даўнютка я не адчуваў сябе так добра.

Аднак яна заўважыла, што ён быў бялейшы, чым учора.

– Дарагая мая, – сказаў ён, – я збіраўся сёння раніцай прыняць ванну, ці сказалі падрыхтаваць яе?

– Так, ванна чакае цябе ў тваім кабінеце, усё зроблена, як ты загадаў.

– Мой дарагі анёл, ты памятаеш, як ты павесіла мне на шыю іконку? Я даў табе слова, што акрамя цябе самой, яе ніхто не здыме. Вазьмі яе, дарагая. Калі я выйду з ванны, ты зноў надзенеш яе на мяне.

Зося зняла іконку Вострабрамскай Маці Боскай і машынальна павесіла яе сабе на шыю. Людвік прыціснуўся ілбом да яе вуснаў і, выйшаўшы, пакланіўся ёй. У яго позірку было нешта такое дзіўнае, што Зося ўздрыгнула, сама не ведаючы чаму, і нейкі час не магла зрушыцца з месца. Потым пабегла ў кабінет мужа. Там яна заспела Людовіка каля  канторкі. Ён якраз складваў нейкія паперы, пакуль слугі астуджалі ваду, якая падалася яму занадта гарачай.

Калі яна ўвайшла, Людовік гучна засмяяўся, сказаў:

– Ведаеш, мой дарагі анел, што мне ўспала на розум? У шаноўнай чэснікавай муж такі  страсны карцёжнік, што староства, якое я ім адпісаў, не будзе тым аўсом, які падкорміць каня, але толькі шпорай, якая падгоніць яго на некалькі хвілін. Мне шкада яе, таму што хоць у яе галава пустая, але ў гэтай жанчыны ёсць сэрца. У няшчасці яна табе можа быць вельмі карысная.

Тут пачуўся грукат колаў па бруку. Людовік падышоў да акна.

– А! вось і карэта пані чэснікавай!  Ідзі, сустрэнь яе, а я прыду да вас пасля ванны. І вазьмі з сабой майго Медора, бо сабака слухаецца толькі мяне і цябе.  Баюся, што як убачыць мяне ў ванне, то захоча заскочыць да мяне і ў кабінеце ўсё запаскудзіць. Да сустрэчы,  дарагая!

Зося не без цяжкасцей пацягнула за сабой Медора, таму што сабака з упартасцю не хацеў пакідаць гаспадара. Зося спусцілася ў свой пакой, дзе заспела пані чэснікаву. Пажадала ёй добрага дня.

– Ведаеш, мая Зося, – сказала чэснікава, – я так хвалююся за твайго мужа, што, не выспаўшыся, прыбегла да вас. Учора ўвечары мне здавалася, што ён як у ліхаманцы. Як ён пачуваецца сёння?

– Вельмі добра, мая сястрычка. Ён купаецца, а як выйдзе з ванны то  неўзабаве прыйдзе сюды.

Тут Медор пранізліва завыў.  Зося паклікала дварэцкага.

– Выведзі адсюль сабаку, – сказала яна.

Тут пачуўся гучны стрэл. Абедзве дамы сарваліся з месцаў.

– Што гэта? – крыкнула Зося.

Праз некалькі імгненняў дзверы са стукам расчыніліся. Убег слуга старасты і сказаў:

– Наш гаспадар застрэліўся!

Зося ўпала без прытомнасці.

**XIV. Апошні**

Жанчыны, якія прыехалі з пані чэснікавай, пачалі ратаваць Зосю, а пані чеэснікава паспяшалася ў кабінет яе мужа. Божачкі! Што яна ўбачыла! Людвік сядзеў у ванне мёртвы. Твар яго быў заліты крывёю. Аказалася, што Людвік выстраліў у сябе з кішэннага пісталета. Канторка была расчынена. На ёй ляжалі

векселі, усё запісаныя на імя яго жонкі. Яшчэ там ляжала пісьмо, а пад ім нумар французскай газеты. У газеце пані чэснікавай кінуўся ў вочы артыкул. Яна прачытала яго і зразумела, што было прычынай самагубства. Вось яго змест:

“Ліль, 10 студзеня. Наш горад былў некалькі дзён таму сведкам вельмі сумнай падзеі. У рэстаране “Пад аленем” звычайна збіраюцца афіцэры Наварскага палка, які тут кватаруе. У ім заўжды поўна народу. Афіцэры завялі гаворку пра выратаванне польскага караля. Уся наша публіка цяпер толькі пра гэта і гавораць. Выратаванне прыпісваюць графу Стравіньскаму, які пасля дзесятка гадоў ганаровай службы ў французскім войску па закліку польскага караля вярнуўся на сваю радзіму і стаў дзяржсакратаром. Кажуць, што кароль папрасіў захапіць роднага брата Стравіньскага, за што кароль абяцаў зрабіць свайго сакратара сенатарам. Гэты брат быў адным з самых смелых праціўнікаў караля і аказаўся ўцягнутым у змову ў Чэнстахове. Змоўшчыкі хацелі захапіць караля, вывезці яго з Варшавы і даставіць у канфедэрацыю. Яго і яшчэ некалькіх змоўшчыкаў злавілі, асудзілі на пакаранне смерцю. Прысуд быў прыведзены ў выкананне ў апошнія дні лістапада. Але гэты брат-вырадак не атрымаў чаканай ўзнагароды. Сенатары прыйшлі да караля з просьбай да яго аб тым, каб той адмяніў сваё абяцанне, бо яны не хочуць сядзець побач з братазабойцам. Па гэтай прычыне кароль са сваім дзяржаўным сакратаром даволі дрэнна рассталіся. Пішуць з Варшавы, што той пакідае Польшчу і хоча зноў пасяліцца ў Францыі. Аднак, нічога добрага тут чакаць яго не можа.

Афіцэры заспрачаліся. Многія з іх асуджалі Стравіньскага, гаварылі аб ім з пагардай. Гучней за ўсіх гучалі галасы братоў Мантыны, нашчадкаў вядомага роду. Аабодва былі афіцэрамі ў Наварскім палку, іх усе любілі. Як на тое, іх размову пачуў граф Мяцельскі, капітан каралеўскай гвардыі, блізкі сваяк пана Стравіньскага, які якраз праязджаў праз Ліль і зайшоў у рэстаран. Не ў сілах стрываць абразы, нанесенай сваяку гэтымі двума маладымі афіцэрамі, ён кінуў ім у вочы абвінавачванне, што толькі подлыя людзі могуць асуджаць чалавека заслужанага, не выслухаўшы таго, што ён скажа ў сваё апраўданне.

Адбылася дуэль, абодва браты Мантыны былі забітыя, а граф Мяцельскі вельмі небяспечна паранены”.

У лісце да жонкі Людвік напісаў:

“Прабач, дарагая той удар, які я нанёс твайму сэрцу. Гэта ахвяра, якую я павінен быў прынесці дзеля цябе і нашага дзіцяці. Жыццё маё, перапоўненае горыччу і ганьбай, было б для цябе невычэрпнай крыніцай пакут, а нашаму дзіцяці наканавала б нешчаслівы лёс. На вас паказвалі б пальцамі як на жонку і дачку чалавека, які страціў гонар. Я не маю права на тое, каб істоты нявінныя, а для мяне такія дарагія, аказаліся асуджанымі на пакуты.

Прачытайце газету побач з гэтым лістом, і з яе вы ўбачыце, якім быў бы мой лёс. Нельга больш праяўляць да мяне дабрыню, не падвяргаючы рызыцы сваё

здароўе. Мой дарагі Бертран, магчыма, ужо заплаціў жыццём за тое, што ён мой брат.

Уся наша агульная маёмасць цяпер належыць вам. Пакіньце гэтую краіну і перасяліцеся у якую-небудзь далёкую зямлю, дзе б маё імя не так часта згадвалася, як польскае або французскае. Калі наша дачка вырасце, то ўжо ўсюды забудуць пра яе няшчаснага бацьку, а з маёмасцю тваёй табе не складзе цяжкасці знайсці для яе падыходзячага мужа. Раскажы ёй, што бацька яе ніколі не быў злачынцам, ён быў проста ахвярай нешчаслівага лёсу. Калі на ім і была нейкая віна, то ён змог пакараць сябе за яе. Будзь шчаслівай, дарагая жонка, я развітваюся з табой і прашу апекавацца нашай дачушкай".

Быў знойдзены таксама запячатаны пакет для караля. Пазней стала вядома, што ў ім ніякага ліста не было, толькі знакі адрознення ордэнаў, якія былі атрыманы па яго міласці.

** *

Такі быў канец братоў Стравіньскіх. Ніякіх заўваг з нагоды завяршэння іх жыцця я не дазволю сабе, пакіну гэта чытачу. Калі ён будзе мець карысць для сябе з гэтага сачынення, то мая праца акажацца не марнай, а для мяне будзе найлепшая ўзнагарода.

**XV. Эпілог (ад аўтара)**

Пані старасціна перанесла свае няшчасці з цярплівасцю і мужнасцю, якія ёй дала вера. Цела мужа яна перавезла ў Сілезію, там справіла па ім і памінкі.

Надалей яна занялася выхаваннем дачкі. Хаця жыццё яе склалася як бы і няблага, але перанесеныя пакуты паклалі адбітак на яе твары. Яна неяк раптоўна пастарэла, пасівела, зрабілася бледнай, маладосць сышла з яе твару. Яна пераехала ў Італію, набыла значную маёмасць у ваколіцах Ларэта, пасялілася каля манастыра сясцёр-ларэтанак, служыла Найсвяцейшай Багародзіцы, сваёй нязменнай святой апякунцы. Дагэтуль у скарбніцы кляштара паказваюць каралі з каштоўных камянёў, якія некалі падараваў ёй Людвік, калі яна збіралася стаць нявестай яго брата. Яе дачка атрымала добрае выхаванне. Яна выйшла на сямнаццатым годзе жыцця замуж за графа Бевілаква, юнака са знатнага італьянскага роду. Калі Зося забяспечыла далейшае жыццё Людвікі, то сама пасялілася ў Рыме ў кляштары манашак-урсулінак, стала паслушніцай, даверыла жыццё Богу. Сустракалася з сябрамі, якія прыязджалі ў Рым, была заўсёды ветлівая з вандроўнымі суайчыннікамі, якія наведвалі яе.

У 1819 годзе і я пабываў у Рыме, убачыў яе жывой і часта наведваў, любаваўся яе прыгажосцю ў старасці: твар бледны, але без змаршчакоў, вялікія вочы. Яна не

забывалася пра сваю родную гаворку, любіла гаварыць па-польску. А яе дачка Людвіка, якая ў маленстве пакінула радзіму, на чужой зямлі і вырасла, і пастарэла, так добра гаварыла па-польску, нібы заўсёды жыла ў гэтай мове. На гэтай мове пісала маці і ад яе атрымлівала лісты.

Зося ніколі не забывалася пра сваю радзіму. Прыслухоўвалася да гаворкі пілігрымаў, якіх я прыводзіў да яе. Аднойчы я спытаўся ў яе, ці не сумуе яна часам па нашай радзіме? Яна, паказваючы пальцам на неба, адказала мне сур'ёзна:

– Там мая Радзіма, і я па ёй не сумую.

Дачкі яе ўжо тады не было на свеце, але яе ўнукі часта наведвалі бабулю ў Рыме. Я атрымаў з яе рук падарунак, які захоўваю з найвялікшай пашанотнасцю – партрэт князя Караля Радзівіла, віленскага ваяводы у авальнай аправе. Гэта была спадчына генерала Куніцкага.

І мае частыя размовы з гэтай высакароднай старой паслужылі мне вельмі дарэчы. Калі я ў другі раз прыехаў у Рым праз дзесяць гадоў пасля гэтага, я ўжо не застаў яе, я толькі ўшанаваў яе памяць, пастаяў каля багатай грабніцы ў кляштары урсулінак, у якім яна пражыла апошнія трыццаць гадоў жыцця.

Графіня Бевілаква, наколькі я пра яе мог штосьці дазнацца, таму што яе асабіста не ведаў, была жанчына набожная, светлая, прыкладных паводзін, і хоць яна не мела чароўнай прыгажосці сваіх бацькоў, але была мілая і дабразычлівая. Яе муж падчас войн у Паўночнай Італіі быў на баку Францыі: калі ўтварылася Цызыльпінская Рэспубліка, ён быў прызначаны прэфектам ў Фарлі. Калі генерал Дамброўскі, камандзір польскіх легіёнаў, праходзіў праз Фарлі, то з групай афіцэраў наведаў прэфекта. Той прыняў іх у вялікай гасцінай, дзе паміж іншымі карцінамі віселі два партрэты, на якія яны звярнулі ўвагу. На адным малады чалавек у польскай прыдворнай сукні з ордэнам Святога Станіслава, на другім – стары ў мундзіры польскай нацыянальнай кавалерыі. Першы партрэт павіннен быць знаёмы чытачу, другі патрабуе тлумачэння. Ксёндз Навахацкі быў не толькі святаром. Ён намаляваў генерала Куніцкага сваім пэндзлем. Але пані старасціна загадала перамаляваць карціну, папрасіла зрабіць гэта аднаго з найпершых тамтэйшых жывапісцаў. Так яна стала упрыгожваннем гасцінай. Падзівіліся госці, гледзячы на партрэты, якія нагадалі ім пра Польшчу. Але якое ж было іх здзіўленне, калі гаспадыня дома, якая прыйшла на іх прыём, пачала да іх гаварыць на найчысцейшай польскай мове. Яна і апавядала ім, што гэта партрэты яе дзеда і бацькі.

Граф Мяцельскі вылечыўся ад атрыманай раны на той дуэлі, калі так высакародна абараняў гонар брата. Аднак і ён не дажыў да паважнага веку. Як вайсковец ён, несумненна, дасягнуў бы вышэйшых пасад і чыноў, але на вайне, распачатай паміж Францыяй і Англіяй за незалежнасць амерыканцаў, будучы на той час палкоўнікам, загінуў у пераможным паходзе на востраў Табаго, не пакінуўшы ніводнага нашчадка.

Пані чэснікава нягледзячы на тое, што была лёгкадумнай, лічылася добрай жанчынай. Яна захавала да канца добрыя адносіны з пані Зосяй. Калі яе дачка выходзіла за графа Бевілаква, чэснікава прыехала на вяселле, аж на бераг Адрыятычнага мора, каб у апошні раз убачыць стрыечную сястру, і правяла ўвесь год з ей. Яе сувязі з князем Варагіным спыніліся. Не было ні разводу, ні сварак, але, захоўваючы пры гэтым ўзаемную павагу, яны мірна расталіся адзін з адным.

Калі кароль Панятоўскі перанёс сваю кватэру ў Пецярбург, пані чэснікава была адной з нямногіх людзей яго двара, якія з'язджаць з Варшавы не захацелі. Кароль прызначыў ёй пажыццёвы пенсіён у шэсцьсот злотых у год, які пасля смерці караля новы ўрад таксама выплочваў ёй. Старыя яшчэ памятаюць, як у першыя гады XIX стагоддзя збіраліся ў яе на вечары суайчыннікі з правінцыі, якія прыехалі па справах. Ніхто з іх не застаўся без яе дапамогі і заступніцтва, калі бываў у сталіцы.

Князь Варагін, як і яна, пастарэў, але іх узаемная любоў ператварылася ў самую шчырую прыязнасць, і гэта яны захавалі да смерці. Чэснікава ў апошнія гады жыцця стала вельмі набожнай, і ў яе можна было сустрэць мноства святароў, якія імкнуліся ў сталіцы атрымаць духоўную дапамогу. Да апошняга дня яна захоўвала свой вясёлы досціп і паблажлівасць да чалавечых слабасцяў, таму яе вельмі шкадавалі, калі яна пайшла з жыцця. У Кранштаце ў лацінскай царкве можна ўбачыць помнік ёй, пастаўлены за кошт князя. Яе муж пасля развалу краіны, не маючы магчымасці жыць без двара, пасяліўся ў Пулавах пад апекай генерала падольскіх зямель. Невялікая кампенсацыя, якую ён атрымліваў ад прускага ўрада на Вялюньское староства, і шчадроты князя былі адзінай яго падтрымкай да самай смерці.

Вазгірд пасля падзей, якія супакоілі краіну, вярнуўся ў Літву. Бываў у гасцях у князя ваяводы, але ўжо нічога не было ранейшага ў гэтым некалі вясёлым і дасціпным шляхціцы, душы нясвіжскіх забаў. Хмурны, пануры, ён разумеў, што грамадства людзей не любіла яго, ды і ён быў для яго невыносны. Закапаўся ў вёсцы са сваім Скалубам, ні ў кога не бываючы, а часта нават хаваючыся ад тых, хто прыязджаў да яго і хацеў сустрэцца. Нават запал да палявання пакінуў яго, што ўразіла самога Скалубу. Нарэшце, ахоплены змрочнымі думкамі, праз два гады нечакана паехаў у Вільню і там ўступіў у брацтва бернардынцаў, жыў там пад кіраўніцтвам айца Клеафаса, якога вельмі паважаў. Айцец Клеафас ужо каля трох гадоў быў магістрам. Бернардынцы прынялі Вазгірда ў свае шэрагі, далі яму імя Міхаіл, што ён прыняў з вялікай радасцю. Некалі ў час вучобы ён не адрозніваўся вялікай стараннасцю, нават не вывучыў ніводнай малітвы. А цяпер ён настолькі захапіўся манаствам, што неўзабаве стаў святаром. У гэта цяжка паверыць, і ўсё ж сумневаў няма, што, ледзь ён стаў манахам, як яго перасталі мучыць змрочныя думкі, ён стаў сапраўдным бернардынам, набожным, але вясёлым, часам да грубасці. Калі айцец Міхаіл, першы раз пабываў у Нясвіжы, князь Пане Каханку спачатку яго не пазнаў, але потым не было мяжы ягонай радасці. Цэлы тыдзень не адпускаў яго ад

сябе, зрабіў вялікае ахвяраванне на Віленскі манастыр. Не адступіўся пакуль не ўгаварыў яго пераехаць у Нясвіж.

Час ад часу айцец Міхаіл праводзіў імшу па свайму сябру, пры гэтым ён заліваўся слязамі.

Успамінаць пра ранейшае ён не любіў. Хаця і быў яшчэ здаровым і дужым, але не дажыў да позняй старасці.

Кузьма Касінскі ў вельмі старым узросце памёр у Сенегале, дзе атрымліваў пенсіён на чатыраста скуда, які яму штогод плаціў князь Станіслаў Панятоўскі, сын караля. Калі я пабываў у Сенегале, то, даведаўшыся, што ён яшчэ жывы, захацеў пазнаёміцца з ім, каб распытаць пра яго жыццё.

Фліч ажаніўся на аўдавелай шынкарцы. Так, як яны і задумалі, купілі сабе дом у Варшаве, і былая прыслужніца пачала сама гаспадарыць, але што яна ні заробіць, то ўсё муж прап'е. Ён так распусціўся, што з амаль не выходзіў з п’янага стану. Дзеля гарэлкі выкрадаў з дому ўсё, што трапіцца пад руку. Справа дайшла да таго, што куфар жонкі апусцеў. Дадаць да таго частыя сваркі каханкаў, якія звычайна заканчваліся тым, што Кубусь неміласэрна збіваў Еўку. У рэшце рэшт, гаспадарка была разбурана, муж з жонкай збяднелі. У Фліча ад выпіўкі пачалася белая гарачка, яго нішто не магло выратаваць. І Еўка, зусім страціўшы здароўе, да самай смерці, якая надарылася пасля пахавання мужа, жыла на невялікі пенсіён, які кароль загадаў ёй выплачваць.

Чэслаў Буньчукевіч, пасля таго, як атрымаў адпісанае яму ад свайго гаспадара, падабраў сабе прыстойную гаспадыню ў жонкі, узяў маёнтак у арэнду, і пры стараннасці і дбайнай працы зарабляў добрыя грошы. Але яму было маркотна ў Літве, дзе яго называлі “пан шатны”, выехаў на Падолле, там разбагацеў. Яго нашчадкі цяпер знатныя грамадзяне.

Айцец Клеафас, *satiatus annorum* (задаволены стары, *лац.*) ужо даўно памёр, як і святар Навахацкі, і іншыя. Як сказаў ксёндз Нарвойш у развітальнай казані на пахаванні княгіні Таіды Вішнявецкай: "Свет – гэта магіла, дзе пакаленні ляжаць пластамі, пакуль не паўстануць па голасе трубы”.

КАНЕЦ

**Эпілог (ад перакладчыка)**

Шкада было развітвацца з героямі твора, з якімі пражыў амаль паўгода падчас працы над яго перакладам. Асабліва шкада яшчэ і таму, што фінал у ім не тыповы для цяперашніх мастацкіх твораў са шчаслівым канцом. Можа для таго, каб хоць крыху суцешыць засмучаных чытэльнікаў, хачу дадаткова распавесці пра лёс аднаго з галоўных персанажаў гэтага твора – Міхала Стравіньскага. Аўтар вывеў яго як літаратурнага персанажа. Але ў яго быў рэальны прататып. Толькі звалі яго

Станіслаў Стравінскі. Ён на самай справе прымаў удзел у выкраданні караля. Але далейшы лёс яго быў іншы. Вось якія звесткі ёсць пра яго ў інтэрнэце. Прозвішча далей усюды без мяккага знака, як у тэксце:

"Станіслаў Стравінскі, сын Францішка Тадэвуша Стравінскага, унук Лявона Базыля Стравінскага (*1699; † 1736), троцкага мечаносца і спадчынніка Тшэцякішкаў у Літве і Катажыны Вайдзевіч, належаў да роду Стравінскіх, верагодна, герба Суліманскіх, які ўзнік пад Трокамі ў Літве, дзе сваякі згадваюцца ў дакументах з сярэдзіны XVII ст. (прозвішча паходзіць верагодна ад ракі Стравы, што працякае непадалёк ад Коўна і Трокаў).

Быў (тытулярным) кавалерыйскім капітанам павета Старыя Дубы былога Смаленскага ваяводства, якое канчаткова падпала пад Расію ў 1654 годзе. Калі яму было каля трыццаці гадоў, ён уступіў у Барскую канфедэрацыю і стаў арганізатарам і камандзірам кароткага і амаль бяскроўнага выкрадання паўстанцамі польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў ноч з 3 на 4 лістапада 1771 г. у Варшаве.

Стравінскі не трапіў у палон, яму ўдалося ўцячы. Паводле непацверджаных звестак, ён паехаў у Рым і паступіў у манастыр пад выдуманым імем. У Польшчу вярнуўся ў часы Варшаўскага княства і стаў парафіяльным святаром у адной з парафій Аўгустоўскага ваяводства, дзе і памёр.

Часам ён згадваецца як прадзед кампазітара Ігара Стравінскага, але ў вельмі падрабязным артыкуле ў Polski Słownik Biograficzny пра гэта ўвогуле не гаворыцца. Акрамя таго, што яго блытаюць з іншым Станіславам Стравінскім, ён выклікае сумневы і як прадзед кампазітара".

У інтэрнэце таксама апавядаецца, што толькі вясной 1773 г. адбыўся суд над 34 змоўшчыкамі, якія трапілі ў палон. Прыгаворам сеймавага суда ад 2 верасня 1773 г. яны былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Адзіны прысуд, які быў прыведзены ў выкананне, тычыўся Лукаўскага, якому публічна адсеклі галаву на гарадской плошчы Старога горада.

Браты Міхала, Людвік і Бертран, персанажы выдуманыя, звестак пра іх знайсці не ўдалося. Відаць, і ўсё, што апісваецца ў кнізе, акрамя гісторыі з выкраданнем караля, нішто іншае, як аўтарскі вымысел. Гісторыя жыцця братоў Стравіньскіх дазволіла Жавускаму разгарнуць у сваім рамане панарамную карціну жыцця ў даўнія часы, пра якія ён дасканальна ведаў і здолеў апісаць з мноствам падрабязнасцей, якія цяпер выклікаюць цікавасць, захапляюць сваёй яскравасцю і праўдзівасцю.



**Змест**

**Michas Kenka: Translation of Henyrk Zhavuski's Novel "*November"*, Vol.III.**
***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 221-319, www.sakavik.net )***

I hereby present to the readers of *Kultura. Natsyia* the final chapters of translation of Polish writer Henryk Zhavuski's (1791-1866) novel entitled "*November"*. This is a piece of writing dealing with historical themes during the time of the last Polish king, Stanislav Avgust Paniatouski. The book's subject material relates to the span of years from 1760 to 1780. It is of interest to any Belarusian reader because the narrative takes place on Belarusian soil that include geographical places such as Niasvizh, Slutsk and their surrounding territories. It describes to the reader the lives and times of two nobleman who happen to be brothers, Mikhal and Liudvik. One of them was raised according to ancient Polatsk (sometimes called "Sarmatski") traditions while the other was raised under the influence of western culture which had entered Poland from France and Germany.

**Михась Кенька: Перевод романа Генрика Жавуски «Листопад», т. III** *(резюме)*
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 221-319, www.sakavik.net )***
Предлагаю читателям журнала «Культура. Нация» заключительные главы перевода романа «Листопад» польского писателя Генрика Жавуски (1791-1866) (*Том III: Главы I-XIV)*. Это историческое произведение времен последнего короля Польши Станислава Августа Понятовского. Сюжет разворачивается в 1760-1780 годах. Роман интересен белорусскому читателю тем, что действие разворачивается на белорусских землях - в Несвиже, Слуцке и их окрестностях, повествует о двух местных дворянах - братьях Михаиле и Людвике. Один из них вырос в старых польских, так называемых «сарматских» традициях, другой вырос под влиянием западной культуры, которая была привезена в Польшу из Франции и Германии.

**Сянкевіч Генрык – “Казкі і легенды”**

*Пераклад з польскай мовы Міхася Кенькі*



Пераклад зроблены з выдання Henryk Sienkiewicz: *Baśnie i legendy* w cyklu *Dzieła wybrane*. Wybór, wstęp i przypisy Tomasz Jodełka-Burzecki.Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1991.

Анатацыя да зборніка навел Генрыка Сянкевіча “Казкі і легенды”
Генрык Сянкевіч – сусветна вядомы польскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Яго творы здаўна перакладаюцца, чытаюцца па ўсім свеце. Але толькі нядаўна былі сабраны і выдадзены ў Польшчы пад адной вокладкай навелы, якія пры жыцці Сянкевіч друкаваў у часопісах і зборніках. І яны ў большасці не былі вядомымі пазнейшым пакаленням. Гэта алегарычныя, сатырычныя і проста пазнавальныя творы, напісаныя на гістарычным фоне, звязаныя з міфалогіяй Індыі, Егіпта, старажытных Грэцыі і Рыму, Бібліяй. Ні па-руску, ні па-беларуску яны дагэтуль не перакладаліся, не друкаваліся. Між тым яны ў’яўляюць не толькі чыста пазнавальную, але і і навуковую каштоўнасць як сведчанне яшчэ адной, дагэтуль нават сучаснаму польскаму чытачу не вядомай грані таленту Генрыка Сянкевіча.

**Прадмова ад перакладчыка**

Польскі пісьменнік Генрык Сянкевіч вядомы як аўтар захапляючых гістарычных твораў – “Крыжакі”, “«Quo vadis?», трылогіі «Агнём і мячом», многіх раманаў, аповесцей, апавяданняў і публіцыстычных артыкулаў. Трэба зазначыць,

што ўсё яго жыццё прайшло ў Царстве Польскім, якое тады ўваходзіла ў межы Расійскай імперыі. Як і ўсе палякі ў той час, Сянкевіч марыў пра незалежную Польшчу. І сваю творчасць ён прысвяціў ідэі "dla pokrzepienia serc" - «для суцяшэння сэрцаў» — у гэтых заключных словах трэцяй часткі трылогіі аўтар раскрыў думку, якой кіраваўся пры напісанні цыкла гістарычных раманаў: садзейнічаць абуджэнню патрыятычных пачуццаў у польскім грамадстве. Гэтая ідэя не пакідала яго і ў позні перыяд творчасці, калі ён пісаў пераважна алегарычныя апавяданні, якія друкаваліся ў перыёдыцы і зборніках. Іх упершыню сабраў і выдаў у 1967 годзе вядомы польскі вучоны, выдавец Томаш Ёдэлка-Бужэцкі Ён аб’яднаў сабраныя ім легенды і казкі ў трох цыклах. Першы – **“Са старажытнай гісторыі, з далёкіх краін”** – складзены з навел, у якіх скарыстаны легенды і паданні Індыі, Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, сюжэты, звязаныя з Бібліяй. Гэта не пераказ старадаўніх паданняў, а самастойныя аўтарскія навелы, пададзеныя на іх фоне. Напісаны яна часам з гумарам, а часцей з падтэкстам, з прыхаванай сатырай. Так, у навеле “Суд Асірыса”, тагачасны чытач мог лёгка ўгадаць у асобе егіпецкага міністра Псунабуда дзяржаўнага дзеяча царскай Расіі, рэакцыянера Канстанціна Пабеданосцава. Двойчы (у навелах “Вяселле” і “Легенда пра паруснік”) Сянкевіч у закамуфляванай форме згадвае патрыятычную песню “Jeszcze Polska nie zginęła” (“Яшчэ Польшча не загінула”), якая была створана яшчэ ў XVIII стагоддзі, змянялася разам з гісторыяй Польшчы, была забароненая ў Расійскай імперыі, была і застаецца галоўным музычным сімвалам мільёнаў палякаў. Сянкевічу ўдалося ўсыпіць пільнасць царскіх цэнзараў і захаваць у публікацыях навел празрыстыя намёкі на польскія справы, выказаць думку ад тым, што не трэба жыць пасіўна, што за нацыянальную незалежнасць трэба змагацца.

У другім раздзеле “**Польская доля і нядоля”** згадваюцца падзеі ў Польшчы. Сюжэт навелы “Тост” звязаны з трылогіяй “Агнём і мячом”, на гэта празрыста намякае тое, што адзін з персанажаў носіць імя Заглоба – адзін з герояў трылогіі. Навела “З кроплямі крыві братняй...” мае падзагаловак “Урывак з рамана ‘Пан Валадыеўскі", што прама ўказвае на сувязь з гістарычнымі раманамі пісьменніка. Тагачасны польскі чытач лёгка разгадваў “эзопаву мову” аўтара, намёкі на сучаснае. Амаль у кожным з гэтых апавяданняў Генрык Сянкевіч звяртаецца да сітуацыі ў Польшчы, праз простыя асацыяцыі апавядае пра радзіму.

У трэцяй частцы – “**З краіны казак” –** укладальнік сабраў навелы пераважна маралізатарскага зместу, дзе апавядаецца про неабходнасць кіравацца ў жыцці высокімі маральнымі прынцыпамі: дабрыні, спагадлівасці, любові да людзей. Сённяшні чытач міжволі зверне ўвагу на адну з іх,“Каля брамы Раю”, дзе аўтар па-свойму прароча папярэджваў пра шкоду маралі свабоднага рынка для чалавечых адносін.

Чым цікавыя навелы Генрыха Сянкевіча сёння? Перш за ўсё сваёй пазнавальнай каштоўнасцю. Генрык Сянкевіч у сваіх казках.і легендах вельмі

даходліва знаёміў чытачоў са старажытнай культурай і традыцыямі, асабліва часоў Антычнасці, а таксама з польскімі традыцыямі і культурай. Ён адзін з першых польскіх пісьменнікаў увёў у мастацкую літаратуру гаворку польскіх горцаў (гуралёў), жыхароў горных Татраў у «Казцы пана Сабалы” – казцы, запісанай ад вядомага знаўцы фальклору Яна Кшэптоўскага (Сабалы). На жаль у перакладзе перадаць яе немагчыма.

Акрамя таго, чытачам прадстаўляецца магчымасць уведаць пра яшчэ адну праяву таленту Сянкевіча: яго майстэрства апавядальніка.

Знаёмства са зборнікам запатрабуе ад чытачоў таксама і некаторай эрудыцыі, дасведчанасці ў гісторыі і культуры старажытных Індыі і Егіпта, Антычнасці, ведання Бібліі, гісторыі Польшчы, а таксама жыццёвага і творчага шляху вялікага польскага пісьменніка, нобелеўскага лаўрэата Генрыка Сянкевіча. Сённяшні час, які дазваляе знайсці любыя патрэбныя для разумення тэксту звесткі ў электроннай сетцы, дазваляе перакладчыку частку тлумачэнняў пакінуць на дапытлівага чытача. Часткова вытлумачаны ў тэксце некаторыя назвы прадметаў, імёны і прозвішчы.

Гэтае выданне, падрыхтаванае укладальнікам, панам Тамашом Ёдэлка-Бужэцкім, было ў 70-я гады мінулага стагоддзя адкрыццём, магчыма, нават сенсацыяй, для цяперашніх палякаў, якія не знаёміліся з творамі Сянкевіча па ягоных прыжыццёвых публікацыях. Спадзяюся, што яно будзе адкрыццём і для беларускага чытача, які ведае творчасць Генрыка Сянкевіча па яго творах. Навелы Генрыка Сянкевіча са зборніка “Казкі і легенды” упершыню перакладзены на беларускую мову. Спадзяюся, што іх публікацыя прынясе чытачам задавальненне і асалоду.

*Міхась Кенька*

**Пералік зместу**

**2. Польская доля і нядоля**

– Як пан Любамірскі вярнуўся і царкву ў Тарнове пабудаваў па народным указанні
– Тост
– З кроплямі крыві братняй... (урывак з рамана "Пан Валадыеўскі")
– Легенда пра паруснік
– Н. К. Т.
– Агеньчык
– У тумане

**3. З Краіны Казак**

– Казка
– Казка пана Сабалы
– Каля брамы Раю
– Ты самы добры?

**Два лугі**

Былі на свеце дзве краіны, яны ляжалі побач, як два вялізныя лугі, якія падзяляў толькі светлы ручай. Берагі гэтага ручая спадзіста разыходзіліся ў адным месцы на абодва бакі, утвараючы неглыбокую затоку, падобную на возера, са спакойнымі і празрыстымі водамі. Пад блакітнай глыбінёй было залатое дно, з якога ўздымаліся сцябліны ружовай і белай лотаці, якія расцвіталі над шклом; авадні і матылькі віліся вакол кветак, а сярод прыбярэжных пальмаў і вышэй у зіхатлівым паветры, птушкі перазвоньваліся як срэбныя званочкі.



Тут быў пераход з адной краіны ў другую.

Першая называлася Луг Жыцця, другая — Луг Смерці.

Найвышні і ўсемагутны індыйскі бог Брахма стварыў абедзьве краіны, адной з іх загадваў добры бог Вішну ў краіне Жыцця, і мудры бог Шыва ў краіне Смерці.

І сказаў ім:

— Кіруйце так, як вы самі лепей разумееце.

У краіне, якая належала Вішну, завіравала жыццё. Пачало ўзыходзіць і заходзіць сонца, мяняліся дні і ночы, пачалі ўздымацца і апускацца марскія прасторы; па небе ішлі хмары, яны неслі  моцныя дажджы, зямля зарастала лясамі, мітусіліся людзі, звяры і птушкі. А каб усе жывыя істоты маглі пладзіцца і размнажацца, стварыў Брахма  добрага бога Каханне, якому загадаў быць адначасова і Шчасцем.

Неўзабаве Брахма паклікаў да сябе Вішну і сказаў:

— Ты не зможаш прыдумаць нічога больш дасканалага на зямлі, таму што я стварыў спачатку неба, так што адпачывай. Няхай тыя істоты, якіх ты назваў людзьмі, працягваюць без якой-небудзь дапамогі ткаць ніць свайго жыцця. Вішну выканаў загад Брахмы, і людзі пачалі клапаціцца пра сябе самі.

Добрыя думкі нараджалі ў іх радасць, а дрэнныя – смутак. Яны былі здзіўлены, убачыўшы, што жыццё – гэта не бесперапынная радасць, але што тая ніць, пра якую казаў Брахма, якая тчэцца, развінаючыся  нібы на дзве пасмы - адна з якіх з усмешкай на твары, а ў другой  слёзы на вачах.

Тады  яны прыйшлі да трона Вішну і пачалі скардзіцца:

– Госпадзе, цяжкае жыццё ў смутку.

І ён сказаў:

– Няхай Каханне суцешыць вас.

Пачуўшы гэта, яны адышлі супакоеныя, бо Каханне сапраўды адцягнула іх смутак, які, зважаючы на шчасце, якое яно дало, здаваўся такім дробязным, што не варта звяртаць на яго ўвагу.

Але Каханне адначасова з'яўляецца і вялікім бацькам жыцця, таму, якой бы вялікай ні была тая зямля, дзе панаваў Вішну, неўзабаве нарадзілася столькі людзей, што натоўпу ўжо не хапала лясных ягад, мёду  пчол у скалах і пладоў на дрэвах.

Тады тыя, хто былі найбольш разумнымі, узяліся за расчыстку лясоў, апрацоўку палёў, сяўбу збожжа, уборку ўраджаю.

Так нараджалася на зямлі Праца. Неўзабаве ўсім прыйшлося перайсці да гэтага, каб яна стала не толькі асновай Жыцця, але амаль самім Жыццём.

Але з Працы нарадзілася Цяжкасць, а з Цяжкасці – Стома.

Натоўпы людзей зноў сталі перад тронам Вішну.

– Госпадзе! – усклікнулі яны, працягваючы рукі – Цяжкасць аслабіла нашы целы, Стомленасць зайшла ў косці і хочацца адпачыць, а жыццё прымушае нас увесь час працаваць!

Вішну адказаў:

— Вялікі Брахма не дазволіў мне далей развіваць Жыццё, але мне дазволена стварыць тое, што будзе яму перапынкам, а значыць, і адпачынкам.

І ён стварыў Сон.

Людзі віталі гэты новы дар і неўзабаве прызналі яго адным з найвялікшых, якія яны атрымалі з рук Бога. У снах сцішыліся клопаты і расчараванні, у снах

умацоўваліся сілы стомленых, сон, як добрая маці, высушыў слёзы тугі і нібы маўклівым туманам забыцця агарнуў галовы спячых людзей. Так людзі славілі Сон, кажучы:

— Дабраслаўляем цябе, бо ты лепшы за будзённае жыццё.

І папракалі яго ў адным, што гэта не вечна, што наступала абуджэнне і, прачнуўшыся, пачыналася праца — а з ёй новыя нягоды і стома.

Гэтая думка так занепакоіла іх, што яны пайшлі да Вішну трэці раз.

– Госпадзе, казалі яны, – Ты даў нам вялікае і невыказнае, але няпоўнае дабро. Зрабі сон вечным.

Вішну спахмурнеў, насупіў боскія бровы, нібы раздражнёны іх назойлівасцю, і адказаў:

– Я не магу больш даць вам гэтага, але ідзіце да пераправы, і на тым беразе вы знойдзеце тое, што шукаеце.

Людзі прыслухаліся да голасу свайго бога, дружна падаліся да берага і, стоячы над ім, пачалі глядзець на той бок.

За ціхай і чыстай глыбінёй, пакрытай кветкамі, раскінуўся Луг Смерці, або Зямля Шывы. У ім не ўзыходзіла і не заходзіла сонца, не было дня і ночы, але ўвесь абшар быў прасякнуты бэзавым аднастайным бляскам.

Ні адзін прадмет не адкідваў там ценю, таму што гэтае ззянне пранікала ўсюды, так што здавалася, нібы яно стварала істотны змест усіх рэчаў.

Зямля не была пустыняй: наколькі сягала вока, былі даліны і пагоркі, пакрытыя прыгожымі купкамі дрэў, вакол якіх звіваліся павойныя расліны, клубкі плюшчу і ліяны, якія звісалі са скал. Але камяні, ствалы дрэў і тонкія сцяблiны раслін былі амаль празрыстымі, нібы зробленыя са згушчанага святла.

Лісце плюшчу было светлым, ружовым водбліскам ранішняга святла, і ўсё было цудоўна, супакоена нейкай палёгкай, невядомай на Лузе Жыцця, чыстае, нібы пагружанае ў светлую задуму, нібы соннае і дрэмлючае ў блажэнным, бясконцым сне. У светлым паветры не было ні найменшага ветрыку, ніводная кветка не варушылася, ніводны лісток не здрыгануўся.

Людзі, што шумна і з гучнымі размовамі выходзілі на бераг, змаўкалі пры выглядзе гэтых бэзавых, нерухомых прастораў і толькі шэптам пачалі паўтараць:

— Як там ціха і як усё спачывае пры святле!

— О так, ёсць спакой і вечны сон...

Ды некаторыя, найбольш стомленыя, праз некаторы час казалі:

— Пойдзем шукаць вечнага сну!

І яны пайшлі ў ваду. Вада, граючы вясёлкай, расступалася прама перад імі, нібы імкнучыся палегчыць ім пераход. Тыя, што засталіся на беразе, ахопленыя раптоўнай тугой, пачалі крычаць на іх – але ніхто з іх не павярнуў галавы і пайшоў далей лёгка і прагна, відаць, усё больш прыцягнуты чароўнасцю цудоўнага краю.

Натоўп, які назіраў з краю Жыцця, таксама заўважыў, што іх целы, аддаляючыся, робяцца размытымі, празрыстымі, усё святлейшымі і святлейшымі, усё больш святлеючымі, усё больш зіхатлівымі і нібы растаючымі ў той сусветнай яркасці, што напаўняла Луг смерці.

Калі яны праходзілі далей, то кладліся сярод тых кветак і дрэў, або каля падножжа скал. Вочы ў іх былі заплюшчаны, але на тварах быў выраз не толькі невымоўнага спакою, але і такога шчасця, якога не давала нават Каханне на Лузе Жыцця.

Убачылі гэта тыя, хто стаяў на беразе, сказалі адзін аднаму: – саладзей і лепей у краіне Шывы ...

Тады і іншыя  пачалі пераходзіць на другі бок. Нібы ўрачыстыя шэсці старых і людзей сталага веку, і мужоў і жонак, і маці, якія трымаюць за рукі маленькіх дзетак, і юнакоў і дзяўчат, а потым тысячы і мільёны людзей пачалі тоўпіцца на водмелі,   пакуль, нарэшце, Луг Жыцця амаль цалкам не абязлюдзеў. Тады Вішну, бог жыцця, справай якога было абараняць жыццё,  напалоханы ўласнымі парадамі, дадзенымі ў гневе, і, не ведаючы, што рабіць, пайшоў да вярхоўнага  бажаства Брахмы.

– Творца, — сказаў ён, — выратуй Жыццё! Гэта царства Смерці ты зрабіў такім ясным, такім прыгожым і такім шчаслівым, што ўсе пакідаюць маё каралеўства.

— Ты хоць з кім застаўся? — спытаў Брахма.

— Засталіся толькі адзін юнак і адна дзяўчына, пара, якая, спазнала бязмернае каханне і хутчэй адмовіліся б ад вечнага суцяшэння, чым хацела б заплюшчыць вочы і больш не глядзець адзін на аднаго.

— Дык чаго ж ты хочаш?

– Зрабі краіну Смерці менш прыгожай і шчаслівай, інакш і гэтыя двое пакінуць мяне сярод іншых, калі скончыцца вясна іх кахання.

Пры гэтым Брахма на хвіліну задумаўся, потым сказаў:

– Не! Я не буду прымяншаць прыгажосці і шчасця Краіны Смерці, але я зраблю нешта іншае, каб ратаваць Жыццё. З гэтага часу людзі павінны пераходзіць, але яны ўжо не будуць ісці добраахвотна.

Сказаўшы гэта, ён выткаў з цемры густую непранікальную заслону, а затым стварыў дзве жудасныя істоты, адну назваў Боль, а другую Страх, і загадаў ім павесіць заслону каля праходу.

І з гэтага моманту Луг Вішну зноў квітнеў жыццём, бо хоць краіна смерці заставалася такой жа светлай, ціхай і шчаслівай, як і раней, людзі баяліся Пераходу.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

**Будзь дабраславёная** (*Індыйская легенда*)

Аднойчы ў ясную месяцовую ноч мудры і вялікі Крышна глыбока задумаўся і сказаў:

– Я думаў, што чалавек – самая выдатная істота на зямлі, – і памыліўся. Вось я бачу кветку лотаці, разгойданую начным ветрыкам. Наколькі яна выдатнейшая ад усіх жывых істот: лісточкі яе раскрыліся якраз у серабрыстым святле месяца – і я вока не магу адарваць ад яе... Няма паміж людзьмі нічога падобнага – – паўтарыў ён з уздыхам.

Але праз некаторы час ён падумаў:

– Чаму б мне, Богу, не мець сілы слова, каб стварыць істоту, якая была б тым паміж людзьмі, чым лотаць паміж кветкамі? Хай будзе так на радасць людзям і зямлі! Лотаць, ператварыся ў жывую дзяўчыну і ўстань перада мной!

Задрыжала хваля, нібы страціўшы крыло ластаўкі, ноч пасвятлела, на небе мацней заззяў месяц, гучней заспявалі начныя дразды, а потым раптам змоўклі. І замова спраўдзілася: перад Крышнам паўстала лотаць у чалавечым абліччы.



Сам Усемагутны здзівіўся.

– Ты была кветкай возера, — сказаў ён, — з гэтага часу будзеш кветкай думкі маёй і – кажы, чаго ты хочаш?!

І дзяўчына стала шаптаць так жа ціха, як журчаць белыя пялёсткі лотаці, калі яны цалуюцца з летнім ветрыкам:

— Госпадзе! Ты ператварыў мяне ў жывую істоту; дзе ж мне цяпер жыць? Памятаеш, уладар, калі я была кветкай, я дрыжала і абдымала лісце пры кожным уздыху ветру. Я баялася, госпадзе, праліўных дажджоў і навальніцы, баялася громаў і маланак, баялася нават пякучых прамянёў сонца. Ты сказаў мне быць увасабленнем лотаці, таму я захавала ранейшую прыроду і цяпер баюся, Госпадзе, зямлі і ўсяго, што на ёй ... Дзе ты мяне паселіш?

Крышна падняў мудрыя вочы да зорак, на імгненне задумаўся, потым спытаў:

– Ты хочаш жыць на вяршынях гор?

– Там снег і холад, о ўсемагутны; мне страшна.

—Тады... я пабудую табе палац з крышталя на дне возера.

— У глыбінях вод слізгаюць змеі і іншыя пачвары; я баюся, госпадзе!

– Хочаш жыць сярод бясконцых стэпаў?

— О, госпадзе! Буры і навальніцы гуляюць па стэпе горш за дзікіх звяроў.

– Што з табой рабіць, кветка, увасобленая ў дзяўчыне?... Ха! У пячорах Элоры жывуць святыя пустэльнікі... – Ты хочаш жыць удалечыні ад свету, у пячоры?

– Цёмна там, уладар; мне будзе страшна.

Крышна сеў на камень і апусціў галаву на руку. Дзяўчына стаяла перад ім дрыготкая, усхваляваная.

Тым часам Зара пачатку асвятляць неба на ўсходзе. Яна асвяцілася тонамі возера, пальмаў і бамбука. Хорам галасоў адгукнуліся ружовыя чаплі, блакітныя журавы і белыя лебедзі на вадзе, паўліны і тыгры ў лясах, ім уторылі гукі струн і словы чалавечай песні.

Крышна ачуўся ад задуменнасці і сказаў:

– Гэта славуты індыйскі паэт Вальмікі, аўтар “Рамаяны”, ён вітае ўзыход сонца.

Праз некаторы час рассунуліся фіранкі пурпуровых кветак, якія пакрывалі ліяны, і над возерам з’явіўся Вальмікі. Убачыў увасобленую кветку, перастаў іграць. Жамчужная ракавіна выслізнула ў яго з рук на зямлю, рукі апусціліся, і ён замёр, нібы вялікі Крышна ператварыў яго ў дрэва.

А ўладар узрадаваўся гэтаму захапленню над уласным тварэннем і сказаў:

– Прачніся, Вальмікі, і скажы хоць што-небудзь!

І Вальмікі загаварыў::

— ...Я кахаю!...

Гэта адно слова ён толькі і ўспомніў, і гэта адно змог вымавіць.

Твар Крышны раптам прасвятлеў.

– Цудоўная дзяўчына, я знайшоў годнае табе месца ў свеце: жыві ў сэрцы паэта.

А Вальмікі паўтарыў другі раз:

— ...Я кахаю!...

Воля магутнага Крышны, воля бажаства, пачала вабіць дзяўчыну да сэрца паэта. Крышну зрабіў сэрца Вальмікі празрыстым, як крышталь. Ціхамірная, як летні дзень, спакойная, як хваля Ганга, увайшла дзяўчына ў прызначаную для сябе святыню. Але раптам, калі яна зазірнула глыбей у сэрца Вальмікі, твар яе пабялеў і страх ахутаў яе, нібы халодны вецер. Крышна здзівіўся.

– Кветка ўвасобленая, – спытаў ён, – ці ты і сэрца паэта баішся?

– Госпадзе, – адказала дзяўчына, – дзе ж мне жыць? У гэтым адзіным сэрцы ўбачыла я і снежныя вяршыні гор, і глыбіні вод, поўныя дзіўных істот, і стэп з бурамі і віхурамі, і цёмныя пячоры Элоры; так я зноў баюся, праўда, госпадзе!

Але добры і мудры Крышна сказаў::

– Супакойся, кветка увасобленая! Калі ў сэрцы Вальмікі ляжаць гурбы з снегу, то будзь цёплым дыханнем вясны і растапі іх; калі глыбіня палохае, ты

будзеш пярлінай у гэтай глыбіні; калі і ёсць пустата ў стэпе, пасей у ёй кветкі шчасця; калі там цёмныя пячоры Элоры, ты станеш там у цемры промнем сонца...

А Вальмікі, у якога хоць і адняло мову, дадаў:

– І будзь дабраславёная!

**Суд Асірыса** *(Пераклаў з егіпецкага папірусу Генрык Сянкевіч)*

(містыфікацыя Сянкевіча з мэтай увесці ў зман царскую цэнзуру. На самай справе гэта не пераклад, а арыгінальны твор аўтара)

Калі памёр у Егіпце сын Псунабуда, таксама Псунабуд, вялікі міністр нейкага там Тутмеса, з кіруючай егіпецкай дынастыі да аднаго з нападаў варожага племя гіксосаў, заспрачаліся дзве несмяротныя Ідэі аб яго душы, ды так горача і шумна, што парушылі цішыню і спакой бясконцага неба вечнасці настолькі, што Усемагутны Асірыс загадаў ім стаць перад ім і спытаў першую:



– Хто ты, Ідэя, якая судзіць грэшнікаў? Ястрабіным вокам бачу, што сярод вас, Ідэй, нязгода, і чаму вы спрачаецеся і нагадваеце мне двух гандляроў на рынку ў Мемфісе?

А на гэта так адказала першая Ідэя:

– Глупства я, уладар, несмяротнае Глупства. Я даглядала за сваім цяперашнім нябожчыкам Псунабудам, як любячая маці. Я дыктавала яму ўсе яго словы, я была яму правадніцай ва ўсіх справах. Не адставала ад яго ні на хвіліну, і таму, што ён трымаўся за мяне пастаянна і нязменна, таму што ўсё жыццё быў, паводле егіпецкай прыказкі, тупы, як ножкі стала, таму я хачу забраць яго душу і пакласці яе ў гэтай надземнай краіне, якой я валодаю, і якая разлічана на адвечнае месца пражывання дурняў.

Асірыс звярнуўся да другой Ідэі:

— А цяпер гавары ты, – сказаў ён, узяўшы ў рукі шалі, на якіх ўзважваў усе думкі, словы і справы.

– Я, о, уладар, несмяротнае Паскудства. Я зусім не адмаўляю, што яго правасхадзіцельства Псунабуд часта здзяйсняў на сваёй высокай пасадзе памылкі,

годныя асла, але сцвярджаю, што перш за ўсё ён быў нягоднікам. Калі вы дазволіце, уладар, я прывяду вам тысячу доказаў, якія Глупства, хоць бы таму, што яна Глупства, ніколі не можа абвергнуць.

– Глупства, – перабіў Асірыс, падняўшы ўверх свой празорчы палец — – не ўмее толькі будаваць, часта, наадварот, умее абвяргаць. Я пытаюся ў цябе, чаго ты патрабуш?

– Я хачу, спадар, адабраць гэтую душу і змясціць яе ў гэтую зямную зямлю, якой валодаю я, і якая прызначана для пасмяротнага пражывання нягоднікаў.

З гэтымі словамі яна схапіла за руку Псунабуда, але ў той жа момант Глупства схапіла яго за другую, і абедзве, затаіўшы дыханне, чакалі прысуду праведніка.

Праведнік упіўся сваім птушыным позіркам у Псунабуда і доўга глядзеў на яго, і нарэшце сказаў:

– Я бачу, што вы абедзве маеце на яго права, так што я б з задавальненнем выслухаў вас і ўзважыў, але, сапраўды, становішча дзіўнае. Вось твае доказы, пра глупства, будуць дурнымі, а твае, пра бязбожнасьць, несумленнымі. Таму я не магу іх разглядаць, і таму ні адна з вас не можа пераканаць мяне. Але як жа вырашыць вашу спрэчку? Вось што, я паклічу Мудрасць, якая ўсё пранізвае, і загадаю ёй выкласці мне ў кароткіх і мудрых словах пра жыццё Псунабуда, і ваша справа вырашыцца.

– О, госпадзе, – прашаптала Глупства, – Мудрасць – мой асабісты вораг.

Праведнік зноў падняў уверх свой празорчы палец.

– Павер мне, Глупства, што сапраўдная мудрасць – і вораг беззаконня, і твой.

І ў той жа міг ён паклікаў Мудрасць. Тая адразу ж з'явілася і, паглядзеўшы на Псунабуда, не здзівілася, бо мудрасць нічому не здзіўляецца, але ўсміхнулася як бы з некаторым задавальненнем і сказала:

– Ах, гэта той правіцель, які таемным цыркулярам да губернатараў забараніў мне заставацца ў Егіпце!…

– На карысць дзяржавы, слова гонару... – пачаў апраўдвацца Псунабуд.

Але Асірыс загадаў яму маўчаць, а сам спытаў:

– Скажы мне, мудрэц, гэты забарона была дурной або злой?

– Зусім усё роўна, зусім аднолькава! – адказала Мудрасць.

Такім чынам, праведнік паклаў роўныя грузы на шалі вагаў, што стаялі каля яго трона.

– Працягвай, – сказаў ён, – каб стала нарэшце вядома, хто з гэтых дзвюх Ідэй павінен думаць аб самым прыдатным для гэтага чалавека вечным паселішчы.

Мудрасць згадала пра ўсё жыццё Псунабуда, ад ранняга юнацтва да апошняй хвіліны яго зямнога быцця. Згадала, як у акадэміі, у стабрамных Фівах, ён быў лютым лібералам, як пайшоўшы затым на службу, здекваўся над прынцыпамі, якія засвоіў са студэнцкіх часоў, як пад лозунгам: “Егіпет для егіпцян!" ён працаваў над аб'яднаннем дзяржавы пад уладай бюракратыі Мемфіса, як, нарэшце, на працягу

доўгай сваёй службы пастаянна кагосьці падазраваў, нешта правяраў, супраць кагосьці пасылаў даносы, пра нешта папярэджваў, нешта не дапускаў, нешта закрываў, нешта хаваў — і замест таго, каб паляпшаць чалавечую дзейнасць і чалавечае жыццё, ён увесь час псаваў іх, паскудзіў і абмяжоўваў.

– Табе не здаецца, што гэта шальмаванне? – перабіў Асірыс, кідаючы гіру на шалю беззаконня.

— Я не адмаўляю, о, Усемагутны — адказала Мудрасць — але я дазволю сабе заўважыць, што была карысць у тым ліку і ад ягонага глупства, настолькі вялікая, як піраміда Хеопса, бо Псунабуд, працуючы дзеля магутнасці Егіпта, па сутнасці, працаваў як для яго славы, у канчатковым рахунку, яе дасягнуў, працуючы нібыта дзеля парадку ў дзяржаве, займеў шмат унутраных ворагаў, і пры гэтым ніколі ў яго абмежаванай галаве не прастаяла ні на хвіліну думка, што ўся яго праца можа прынесці толькі шкоду і бедствы.

– Калі так – сказаў праведнік, – то трэба пакласці штосьці і на шалю глупстваў.

– Трэба! – паўтарыла Мудрасць, – але паслухай мяне, госпадзе, я працягваю. Затым Псунабуд стаў губернатарам паўночнай правінцыі Птах, населенай пераважна фінікійцамі і грэкамі, і як адных, так і другіх стаў дбайна пераўтвараць у егіпцян. Ён забараняў ім гаварыць і пісаць на папірусах на сваёй роднай мове, пераследваў іх веру і закрываў іх школы, і, перш за ўсё, прымушаў іх насіць шапачкі, якія, як вядома, з'яўляюцца нацыянальным егіпецкім покрывам для галавы. Па яго перакананні, гэты каптур сімвалізаваў сабой егіпцяніна, а якія думкі кіпелі ў тых галовах, каму ён навязваў чапцы, пра гэта ён не мог дбаць. Бо тыя, хто не хацеў насіць каптуры, маглі вызваліцца ад іх хабарам, і такім чынам паляпшаўся дабрабыт губернатара.

Асірыс падняў палец уверх у трэці раз і сказаў з поўнай сур'ёзнасцю:

– Хабар не даказвае глупства.

– Магчыма, Уладар, але не кідайце гэта на шалю беззаконня, таму што ў Егіпце ўсе саноўнікі лічаць хабар звычаем, гэтак распаўсюджаным і гэтак сумяшчальным са старой егіпецкай традыцыяй, што бяруць яго з цалкам чыстым сумленнем.

– Твая праўда, і як егіпецкі бог, я не павінен быў забываць пра гэта. І я нічога не дадам ні на адну чашу вагаў, пакуль ты не распавядзеш, як паступіў Псунабуд у якасці міністра фараона?

– Егіпет, як вам вядома, Справядлівы, меў патрэбу ў вялікіх і глыбокіх рэформах. І Псунабуд, стаўшы міністрам, пастараўся перш за ўсё зрабіць рэформы не вялікімі і глыбокімі, а нязначнымі і дробязнымі. Егіпет меў патрэбу ў новых і мудрых людзях, якія былі б сябрамі вышэйзгаданых рэформаў, а Псунабуд даверыў іх выкананне старым дурным чыноўнікам, якія былі іх ворагамі. Якая з гэтага была шкода і якая бяда для Егіпта, лёгка ўсвядоміць не толькі такі пранізлівы розум, як

твой, госпадзе, ці як розум кракадзіла, ката ці мангуста, але нават звычайны, нікчэмны розум чалавечы. Псунабуд быў занадта тупы, каб разумець, што дзяржава павінна быць перабудавана ад зямлі да вяршыні, і недастаткова сумленны, каб добрасумленна праводзіць нават тыя змены, неабходнасць якіх прызнаваў і разумеў сам фараон.

– Я не разумею, – сказаў Асірыс, кідаючы гіры на абедзьве шалі, – якая ў рэшце рэшт пераважыць!

А словы Мудрасці цяклі далей:

– Ён падмануў і фараона, і народ. Фараону ён пагражаў бунтам народа, народу падсоўваў перакананне, што фараон хоча трымаць яго ў палоне. Ён перахапіў уладу фараона, а не пашырыў свабоду. У яго час голад у Егіпце павялічыўся, краіна напоўнілася разбойнікамі.

– Ну, хоць гэта зразумела і мне самому! – усклікнуў Асірыс, – тут ужо няма, па крайняй меры, сумневаў, што гэта мярзоцце чыстай вады!

— О! Не толькі мярзоцце, – мякка запярэчыла Мудрасць, – бо Псунабуд праявіў пры гэтым менш розуму, чым бурбалка ў вярблюджай мачы. Учынкі яго былі злавесныя, але сам ён быў дурнем, і глупства яго была тым большае, што ён лічыў сябе мудрым. Ён не мог зразумець, што там, дзе патрэбна вялікая і творчая палітыка, там хітрасці не можа хапіць, і ён махляваў, махляваў без канца.

— Так! Гэта праўда, як заўсёды, і толькі такія дакладныя шалі, як мае, могуць паказаць нам, што з ім рабіць.

– Яшчэ некалькі слоў трэба дадаць, о, Усёмагутны! Псунабуд насміхаўся над Егіптам, не клапаціўся пра фараона, думаў заўсёды толькі пра сябе, так што можна было падумаць, што ён усяго толькі блазан. Але ... Але, госпадзе, што, калі б Псунабуд правіў мудра і сумленна, то выйграў бы ў тым ліку Егіпет, а ён сам не толькі нічога б з уласнай выгады не страціў, але ён стаў бы яшчэ больш магутным і суд гісторыі сказаў бы пра яго інакш.

– Значыць, ты зноў хочаш сказаць, што дурань усё ж такі пераважаў у ім над нягоднікам?

– Падымі, праведнік, шалі, і мы адразу даведаемся.

Асірыс падняў шалі і трымаў іх, пакуль яны не супакоіліся. Пасля чаго паглядзеў і здзіўленне, але разам з тым і разгубленасць адбіліся на яго чароўным твары.

– Клянуся святым хвастом Апіса! – усклікнуў ён, – глупства і паскудства не пераважваюць адзін аднаго ні на адзін валасок з маёй барады. Што цяпер рабіць? Што рабіць?…

Асірыс адставіў шалі ўбок, абхапіў галаву рукамі і заплюшчыў вочы.

Аднак праз некаторы час твар яго азарыўся прамяністай усмешкай, і, павярнуўшыся да Псунабуда, ён загаварыў задаволена і ўрачыста:

– Шаноўны! Ніякі суд каго-небудзь з грэчаскіх, фінікійскіх, ні з тутэйшых маладых багоў, не ведаў бы, што з табой зрабіць, таму што бачыш: нават і Мудрасць нам нічога не падказала... Але, не дарма называюць мяне багі і людзі Ўсемагутным, таму што ўсе цяжкасці я рассякаю нібы мячом фараона, і я абвяшчаю табе такі прысуд:

– Вяртайся да жыцця, вяртайся на зямлю. Будзь да канца свету міністрам фараонаў і розных народаў: займайся іх справамі, круціся, кіруй, старшынствуй, валодай… Калі ж мінуць стагоддзі, ты павінен нарэшце паказаць сябе, будзеш ты вялікім нягоднікам або аслом… Тады і я буду ведаць, хто з гэтых двух Ідэй павінен падрыхтаваць табе вечны супакой.

З гэтымі словамі ён павярнуў Псунабуда тварам да сіняй лесвіцы і раптоўным штуршком сваёй чароўнай ногі паскорыў яго вяртанне на зямлю.

У безданях вечнасці наступіла глыбокая цішыня. Егіпет жа, як аказалася, радаснымі воплескамі сустрэў уваскрослага правіцеля. Аж да брамы нябёсаў даляцелі галасы, чулася, як там радасна крычалі:

– Псунабуд! О, Псунабуд!…

Мудрасць ціха засмяялася.

**Прысуд Зеўса** *(Грэчаская казка)*

Аднойчы ўвечары сустрэліся Апалон – сын Зеўса і Латоны, брат–блізнюк Артэміды, бог святла, мастацтваў і навук, і Гермес – сын Зеўса і Маі, бог гандлю і мораплаўства, апякун купцоў і злодзеяў. Стоячы на краі абрыву, яны глядзелі з гары на Афіны.

Вечар выдаўся цудоўным; сонца ўжо кацілася з архіпелага да Іянічнага мора і апускала сваю зіхоткую галаву ў бірузовую прастору мора. Але вяршыні гор Гімета і Пентэліка яшчэ ззялі, нібы аблітыя расплаўленым золатам, і, акрамя таго, у небе было вячэрняе ззянне. У ззянні тануў увесь Акрапаль. Белыя мармуры палацаў – Прапілей, Парфенона і Эрэхціёна здаваліся ружовымі і такімі лёгкімі, нібы камень страціў ўсякую вагу ці як быццам яны былі спараджэннем сноў. Лязо дзіды гіганцкай дванаццацімятровай статуі багіні Афіны на Акропалі гарэла ў ззянні, нібы запалены над Атыкай факел.

У небе кружляла на распасцёртых крылах некалькі ястрабаў, якія ляцелі на начлег да гнёздаў, схаваных у скалах.

Людзі вярталіся групамі з палявых работ у горад. Шляхам ад порта Пірэй ішлі мулы і аслы, несучы прывешаныя на баках кошыкі аліўкаў або залацістага вінаграду; за імі, у чырвоных аблоках пылу, цягнуліся статкі коз, перад кожным статкам белабароды казёл, па баках вартаўнічыя сабакі, ззаду пастух, які грае на дудачцы.

Паміж статкамі рухаліся вазы, якія везлі чароўны ячмень, ледзь цягнуліся гультаяватыя валы; тут і там праходзілі атрады воінаў, гатовыя доблесна абараняць свой край, цяжкаўзброеныя пехацінцы - гапліты, якія ішлі на начную варту ў Пірэй або Афіны.

Унізе горад яшчэ кіпеў жыццём. Каля вялікага фантана ляжалі дзяўчаты, апранутыя ў белыя строі, некаторыя набіралі ваду, спявалі, гучна хахочучы ці абараняліся ад хлопцаў, якія надзявалі на іх вянкі, сплеценыя з плюшча і кветак бружмелі. Іншыя ўжо набралі вады, ішлі па дамах з амфарамі на плячы, і з рукой, паднятай ўверх, лёгкія і зграбныя, падобныя да німфаў.

Мяккі ветрык, што дзьме з раўніны, даносіў да вушэй двух багоў гукі смеху, спеваў і пацалункаў.

"Той, хто бачыць далёка"(мянушка Апалона), для вачэй якога не было нічога пад небам мілей жанчыны, звярнуўся да Аргацыда (мянушка Гермеса) і сказаў:

– О, брат мой, якія прыгожыя Афіны!

– І цнатлівыя, мой Прамяністы (яшчэ адна мянушка Апалона, як і Срэбны Бог, Срэбралукі), – адказаў Гермес, – таму што пад наглядам Афіны яны і цяпер застаюцца.

Срэбны Бог змоўк і глядзеў, слухаў далей. Тым часам ззянне павольна гасла, рух паступова сціхаў; скіфскія рабы зачынілі вароты, і нарэшце стала ціха. Духмяная ноч, прапахлая амброзіяй, кінула цёмную, абсыпаную зоркамі заслону на Акропаль, горад і наваколле.

Але змрок трываў нядоўга. Неўзабаве з-за архіпелага вынырнула бледная Селена і стала плыць, як сярэбраная лодка, па блакітным небе. І зноў заззялі мармуры палацаў на Акропалі, толькі ззялі цяпер ярка-зялёным святлом і былі яшчэ больш дрымотныя.

— Трэба прызнаць, – сказаў Апалон, – што Афіна, апякунка нашага горада, цудоўным чынам выбрала мясціну для яго.

– Ха! Яна ж самая разумная! Хто мог бы выбраць за яе лепш? – адказаў Гермес. – Яна ж багіня мудрасці. Пры гэтым Зеўс адчувае да яе дзіўную слабасць. Абы толькі ён, папрасіўшы яе аб чым-небудзь, пагладзіць яе па падбародку (цяпер ён заве яе сваёй Трытагенеяй, дачкой, каханай), як ва ўсім ёй паклянецца і на ўсё пагаджаецца кіўком галавы.

– Трытагенея мне часам надакучае, – прамармытаў сын Латоны.

– Я заўважыў і тое, што ёй цяпер становіцца сумна, – адказаў Гермес.

– Яна як стары філасаф-перыпатэтык. А пры гэтым і дабрадзейная да брыдоты, зусім як мая сястра Артэміда, багіня палявання.

– Ці як яе ўласныя служанкі, афінянкі.

Прамяністы павярнуўся да Аргацыда:

– Другі раз ты ўжо згадваеш, як бы знарок, пра цноту афінянак. Няўжо яны так недаступныя?

– Казачна, клянуся, або я не сын Латоны!

– Калі ласка! – сказаў Апалон. – А ты думаеш, што ў гэтым горадзе ёсць хоць адна жанчына, якая б магла супраціўляцца мне?

– Думаю, што так.

– Мне? Апалону?

– Табе, мой Прамяністы!

– Мяне, апантанага імі, таго, хто зачароўвае песняй і музыкай?

– Табе, мой Прамяністы!

– Будзь  жа ты сумленным Богам. Я гатовы быў бы пабіцца аб заклад. Але ты, Аргацыд, калі прайграеш, неадкладна сыйдзеш разам са сваімі крылатымі сандалямі, з кіем, і я цябе не ўбачу!

— Не. Я пакладу адну руку на зямлю, другую на мора і паклянуся падземным царствам, Аідам. Такую клятву трымаю не толькі я, але нават члены магістрата ў Афінах.

— Ну! Ты зноў перабольшваеш. Але добра! Калі ты прайграеш, ты павінен даць мне за Трынакію статак даўгарогіх валоў, якіх ты скрадзеш у каго хочаш, як у свой час, будучы яшчэ хлапчуком, ты скраў мой статак.

– Дамовіліся! А што я атрымаю, калі выйграю?

– Ты выбірай, што хочаш.

– Слухай мяне, "той, хто глядзіць удалячынь", я буду з табой шчыры, што, як ты ведаеш, са мной здараецца нячаста. Аднойчы пасланы Зеўсам, не памятаючы ўжо пра якую справу, я толькі што праляцеў над тваёй Трынакіяй і ўбачыў там дачку Геліаса, бога сонца – Лампецыю, якая разам са сваёй сястрой  Феатузой ахоўвае там твае статкі. З таго моманту ў мяне няма спакою. Лампецыя не сыходзіць з маіх вачэй, з маёй памяці, Я кахаю яе і ўздыхаю па ёй днём і ноччу. Калі я выйграю, калі ў Афінах знойдзецца жанчына, гэткая дабрадзейная, што будзе супраціўляцца табе, ты дасі мне Лампецыю. Я больш нічога не патрабую.

Срэбралукі пачаў ківаць галавой.

– Што ж,  каханне можа гнездавацца нават у сэрцы апекуна  купцоў. Але з задавальненнем прымаю твой выклік. Я дам табе Лампецыю, тым больш што яна цяпер ніяк не можа памірыцца з Феатузай. Дарэчы, абедзве закаханыя ў мяне і таму сварацца.

Радасць заззяла ў  вачах Аргацыда.

– Значыць, вырашана, – сказаў ён. – Толькі адно: жанчыну, на якой ты хочаш паспрабаваць сваю боскую сілу, я табе выберу сам.

– Толькі б яна была прыгожай!

– Яна будзе вартая цябе.

– Прызнайся, ты ўжо сёе-тое прыдумаў.

– Прызнаюся.

– Нявінніца, замужняя жанчына або ўдава?

– Зразумела, замужняя жанчына. Дзяўчына ці ўдава адпадаюць, ты мог бы даць ім абяцанне ажаніцца.

— Як яе завуць?

– Эрыфіла. Гэта жонка пекара.

– Пекара? – спытаў, моршчачыся, Прамяністы. – Мне гэта менш падабаецца.

– Што ты хочаш! Я ў гэтых колах часцей за ўсё кручуся, як-ніяк бог гандляроў... Мужа Эрыфілы цяпер няма дома; ён паехаў у Мегару. Гэтая жанчына – самая прыгожая з тых, што калі-небудзь ступалі па маці-зямлі.

– Цікава.

– Яшчэ адна ўмова, мой Серабрысты. Пакляніся мне, што ты будзеш выкарыстоўваць толькі спосабы, годныя цябе, і ні ў якім выпадку не зробіш так, як паступіў бы такі гнус, як бог вайны Арэс, або нават, кажучы між намі, як паступіў бы бацька наш агульны, Зеўс.

– За каго ты мяне прымаеш! – сказаў Апалон.

– Тады ўсё дамоўлена, і я магу паказаць табе Эрыфілу.

Парывам ветру тут жа вынесла абодвух багоў з гары, і праз некаторы час яны павіслі над адным з дамоў горада. Гермес падняў магутнай рукой ўвесь верх дома гэтак жа лёгка, як гаспадыня здымае накрыўку з пасудзіны, калі збіраецца падаць яе да стала. Ён паказаў жанчыну, якая сядзела ў закрытай ад вуліцы меднымі кратамі і ваўнянай фіранкай краме, і сказаў:

– Глядзі!

Апалон зірнуў і скамянеў.

Ніколі Атыка, ніколі ўся грэчаская зямля не нараджала больш прыгожай кветкі. Пры святле трайнога свяцільніка яна сядзела, схіліўшыся над сталом і нешта старанна запісвала на мармуровых таблічках. Доўгія вейкі былі апушчаны ўніз, адкідвалі цень на шчокі, аднак часам яна падымала галаву і вочы ўверх, як быццам нешта нагадваючы сабе, і тады былі відаць яе выдатныя зрэнкі, настолькі блакітныя, што на іх бірузовы колер мора здаваўся б цьмяным і бляклым. Гэта быў проста твар Афіны-Кіпрыды, белы, як пена марская, заружавелы, як ранішняя зорка, пурпурны, як сірыйскі пурпур, рот і залатыя хвалі валасоў – прыгожая, самая прыгожая на зямлі–выдатная, як кветка, як святло, як песня!

Калі яна апускала вочы, яна здавалася ціхай і мілай, калі яна падымала іх у задуменнасці – пад прамяністай скурай дрыжалі боскія ікры. Апалон раптам абапёрся галавой на плячо Гермеса і прашаптаў:

– Гермес, я ўжо кахаю ю яе! Ці яна ці больш ніводная!

Гермес хітра ўсміхнуўся і пацёр бы ад радасці рукі пад складкамі хітона, калі б не трымаў кій у правай руцэ.

Тым часам Златавалоска ўзяла таблічку і пачала на ёй пісаць. Пры гэтым яе боскія вусны растуліліся, і голас яе загучаў, падобны на голас любімага музычнага інструмента Апалона – ліры:

– ... з члена савета старэйшын, арэапага Меланокла за хлеб, за два месяцы: драхмаў сорак пяць і чатыры аболы... напішам лепей драхмаў сорак шэсць... Клянуся Афінай! Нават напішам пяцьдзесят – для круглага рахунку. Ах, гэты Меланокл... калі б ты не прывязаўся да нас за падман пры ўзважванні тавару, я б дала табе крэдыт... але з такой саранчой трэба быць асцярожнай…

Апалон слоў не слухаў, ён толькі прыслухоўваўся да гуку голаса, зачараваны абаяннем яе фігуры і шаптаў:

-Яна ці больш ніводная!

Златавалоска пачала пісаць далей: Вайскавод Алківіяд, – за прэсныя піражкі на мёдзе для гетэры Хрызаліс. Міны тры з яго. Гэты салдафон ніколі не правярае рахункі, прытым ускубнуў мяне аднойчы за сраку... так – давай напішам: чатыры міны. Калі дурань, няхай плаціць ... але і гэтая Хрызаліс – таксама штучка!... Напэўна, корміць пірагамі сваіх карпаў у сажалцы або, можа быць, Алківіяд наўмысна адкормлівае яе, каб потым прадаць фінікійскім купцам за кольцы са слановай косці для збруі.

Апалон на словы не звяртаў увагі, толькі упіваўся яе голасам і шаптаў Гермесу:

– Яна ці больш ніводная!

Але сын Маі раптам зноў накрыў дом, і цудоўная з'ява знікла, а Прамяністаму здалося, што разам з ёй знікаюць зоркі, чарнее месяц і ўвесь свет ахутваецца цемрай.

– Калі справа будзе вырашана? – спытаў Гермес.

– Сёння, неадкладна!

– Яна пад наглядам мужа, спіць у краме. Ты можаш стаць там, на вуліцы, перад гэтай крамай. Калі яна адкіне фіранку і вакно табе адкрые, я прайграю.



– Лічы, што ты ўжо прайграў! — усклікнуў Апалон.

І не так хутка летняя маланка прабягае ноччу паміж Усходам і Захадам, як ён пранёсся над салёнымі хвалямі мора. Там выпрасіў у царыцы мора Амфітрыты пусты панцыр чарапахі. Ён навёў на яго сонечнае святло і з гатовай лірай вярнуўся ў Афіны.

У горадзе было ўжо зусім ціха, агні патухлі, толькі дамы і храмы бялелі ў ззянні месяца, які ўжо высока падняўся ў неба.

Лаўка знаходзілася паміж двух гарадскіх сцен, а ў ёй, за кратамі і фіранкай спала цудоўная Эрыфіла. Апалон, стоячы на вуліцы, пачаў перабіраць струны ліры. Жадаючы

паступова абудзіць сваю каханую, ён іграў спачатку гэтак жа ціха, як ціха вясновым вечарам гудуць раі камароў над рэчкай. Але песня нарастала паступова, нібы горны паток пасля праліўнога дажджу, і ўсё магутней, саладзей, ап'яняюча напаўняла ўсё паветра, прымушаючы лісце дрэў трымцець. Таямнічая птушка Афіны – Сава – прыляцела ціха з боку Акропаля і села на бліжэйшую калону.

І тут аголеная рука, вартая работы скульптараў Фідзія і Праксіцеля, бялейшая за мармур, адсунула фіранку. У Апалона замерла ад хвалявання сэрца.

Пачуўся голас Эрыфілы.

– Што гэта за памаўза блукае тут сярод начы і гудзе?! Мала чалавек днём напрацуецца, дык яшчэ яму і ноччу спаць не дадуць!

– Эрыфіла! Эрыфіла! – усклікнуў Прамяністы.

І зачаў співаць:

З Парнаса ўзнёслых вяршыняў,
Дзе ў бляску нябеснай сіні
Натхнёны музай, з адчаем
Натхнёныя песні спяваю.
Я Бог! Табе шчасце нясу я.
Раскрый абдымкі, красуня!
І вечнасць акажацца хвіляй
На грудзях тваіх, Эрыфіла.

– Клянуся ўсімі багамі! – усклікнула жонка пекара. – Гэты мярзотнік спявае для мяне і хоча, каб я была тут! – А ці не пайшоў бы ты… дадому, няшчасны?!

Прамяністы, жадаючы пераканаць яе, што ён не просты смяротны, засвяціўся так, што ад яго ззяння заззялі зямля і паветра – але Эрыфіла, убачыўшы гэта, усклікнула:

– Ён схаваў ліхтар пад хітонам і за нейкага бога сябе тут выдае! Клянуся Афінай! Падаткамі нас умеюць ціснуць, а ў горадзе няма нават прыстойнай варты, якая б такіх забірала!

Апалон не адставаў і працягваў спяваць:

*Ах, адкрый свае плечы белыя,*
*Прымі маю ласку нясмелую.*
*Над усімі нябёс багінямі*
*Узвысішся ты сваім іменем*
*Зраблю я цябе неўміручай*
*Толькі мяне ты не мучай.*
*Сілай чароўнага слова*
*Малю і прашу цябе знову.*
…. . . . . . . . . . . . . . . .

*Ах, раскрый мне свае абдымкі!*
*…. . . . . . . . . . . . . . . .*
*З блакітных бурштынаў мора,*
*З пурпуру і золата зорак,*
*З расы цудоўных ружаў*
*Спраду зіхатлівы кужаль,*
*Вясёлкавую тканіну*
*Сатку для маёй адзінай!*

І голас бога паэзіі гучаў так цудоўна, што гэта выклікала сапраўдны цуд! Вось сярод прапахлай амброзіяй начы задрыжала залацістая дзіда ў руцэ Афіны на Акропалі, мармуровая галава гіганцкай статуі павярнулася трохі, каб лепш пачуць словы песні. Слухалі неба і зямля; мора перастала плёскаць хвалямі і заціхла; нават бледная Селена перапыніла сваю начную вандроўку па небе і нерухома стала над Афінамі.

Калі Апалон скончыў, падняўся лёгкі ветрык і панёс песню праз усю Грэцыю, і дзе б ні пачуў хоць адзін яе гук дзіцёнак у калысцы, там з гэтага дзіцяці пазней вырас паэт.

Але яшчэ да таго, як сын Латоны скончыў, раз'юшаная Эрыфіла пачала крычаць:

– Дурань ты нейкі! Бач, ружу ён купіць і зоркі! Калі мужа няма дома, думаеш, табе ўсё дазволена? Эх, шкада, што слуг у мяне няма пад рукой, навучылі б цябе розуму! Але я ўсё роўна адвучу цябе, мазгляк, блукаць па начах!

З гэтымі словамі яна схапіла стаўбун з хлебнай рашчынай і выліла яго праз краты, абліла прамяністыя плечы, прамяністую шыю, прамяністую адзежыну і ліру.

– Прастагнаў Апалон і, накрыўшы сваю натхнёную галаву крысом мокрага хітона, сышоў у сораме і гневе.

А на Пніксе чакаў Гермес, хапаўся за бакі, куляўся праз галаву і рагатаў.

Але калі засмучаны сын Латоны наблізіўся да яго, хітры апякун гандляроў спачувальна вымавіў:

– Мне шкада, што ты прайграў, Апалон!

– Ідзі прэч, хітрун! – злосна адказаў Апалон.

– Я пайду, толькі Лампецыю аддай.

– Ды ты што, жулік! Я не дам табе Лампецыю і кажу: ідзі прэч! А то я зламаю твой кій на тваёй галаве!

Аргацыд ведаў, што калі Апалон злуецца, то з ім жарты дрэнныя, таму ён прадбачліва адсунуўся і сказаў:

– Калі ты хочаш падмануць мяне, то будзь ты яшчэ Гермесам, а я стану Апалонам. Я ведаю, што ты смяешся з мяне і што ты можаш пакрыўдзіць мяне, але,

на шчасце, ёсць хтосьці, хто мацнейшы за цябе, і ён нас рассудзіць. Я заклікаю цябе, прамяністы, на суд Зеўса!... Пойдзем са мной!

Ён кляўся імем Зеўса, таму Апалон не адважваўся адмовіць, і яны пайшлі.

А тым часам стала брацца на раніцу. Атыка высунулася з ценю. У неба з боку архіпелага ўзышла ружова-блакітная Зара.

Зеўс правёў ноч на вяршыні сваёй свяшчэннай гары Іды. А спаў ён ці не спаў і што ён там рабіў, ніхто не ведаў, таму што гару ахутаў туман настолькі густы, што нават ягоная жонка, багіня Гера нічога скрозь яго разглядзець не магла. Гермес трохі дрыжаў, набліжаючыся да бацькі багоў і людзей.

"Правата на маім баку – думаў ён,– але, магчыма, Зеўс прачнуўся не ў гуморы. Раптам, раззлуецца, схопіць кожнага за нагу, раскруць над галавой і кіне на якія трыста стадый ад Афін. Яшчэ да Апалона ён мае нейкую ласку, але са мной, хоць я і сын ягоны, ён цырымоніцца не будзе".

Але дарэмны быў страх сына Маі. Зеўс сядзеў на зямлі вясёлы, таму што ноч яго прайшла весела, і ў радаснай славе ён ахопліваў светлымі вачыма зямную прастору. Зямля, узрадаваная добрым настроем бацькі багоў і людзей, нараджала каля яго светлую майскую траўку і маладыя гіяцынты, а ён, абапёршыся на яе рукамі, перабіраў пальцамі кветкі і атрымліваў ад таго асалоду. Убачыў гэта сын Маі і супакоіўся, пакланіўся і смела пачаў вінаваціць Прамяністага – і не так густа падаюць сняжынкі падчас снегападу, як густа падалі яго красамоўныя словы.

Скончыў, а Зеўс некаторы час маўчаў, потым звярнуўся да Апалона:

– Праўда ўсё гэта, Прамяністы?

– Дакладна так, бацька, – адказаў Апалон — – але калі пасля ганьбы, якая напаткала мяне, ты яшчэ загадаеш мне заплаціць, то я сыду ў Аід і буду свяціцца паміж ценямі.

Зеўс зноў задумаўся, разважаў.

– Значыць, гэтая жанчына, – спытаў ён напрыканцы, – засталася глухой да тваёй музыкі, да тваёй песні і адпрэчыла цябе з пагардай?

– Яна выліла мне на галаву рашчыну, о, Грамавержац!

Зеўс нахмурыўся, і ад гэтага нахмуранага позірку Іда здрыганулася. Аскабалкі друзу пачалі з грукатам каціцца ў мора, а лясы загойдаліся, як каласы, над якімі праносіцца вецер.

Збаяліся абодва і з трапяткім сэрцам чакалі прысуду.

– Гермес, – сказаў ён, – падманвай, колькі хочаш, людзей, людзі часам і хочуць падмануцца. Але багоў не чапай, бо калі я ўзгаруся гневам то скіну цябе з гары, і зваліўшыся, ты пагрузішся так глыбока ў тоўшчу вод акіяну, што нават брат мой, уладар падводнага царства Пасейдон не вылавіць цябе адтуль сваім трызубцам.

Жудасны страх ахапіў Гермеса, але ён працягваў казаць усё больш ціхім голасам:

– Дабрадзейная жанчына, асабліва калі кахае іншага, можа супрацьстаяць і Апалону…

...але, вядома, што заўсёды яму будзе супрацьстаяць жанчына дурная… А Эрыфіла якраз і дурная, і дабрадзейная, а таму і супраціўлялася яму.

– І ўсё ж... ты падмануў Прамяністага ... і Лампецыі ў цябе не будзе... а цяпер – ідзіце адсюль абодва!

Багі сышлі.

Зеўс застаўся сам насам са сваім радасным настроем. Некаторы час ён моўчкі глядзеў услед адыходзячаму Апалону, потым ціха прамармытаў:

– О, так! Яму можа супрацьстаяць толькі дурная жанчына.

І адразу пасля гэтага, паколькі ён быў крыху не ў сабе, паклікаў Сон, які сядзеў на дрэве і чакаў загаду бацькі багоў і людзей.

**Дыёкл (Афінская казка)**

Чароўны сон ахінуў Афіны, і ў глухой цішыні можна было чуць толькі дыханнея спячага горада. Ззянне месяца апускалася як бы ў разлітую серабрыстую і сонную купелю прасторы - Акропаль, храмы, лясы і аліўкавыя шаты чорных кіпарысаў. Заціхлі фантаны, заснулі скіфскія вартавыя каля брамы, горад заснуў, заснула наваколле.

Сярод глыбокай начы не спаў толькі юны Дыёкл. Прыхінуўся ілбом да ног статуі Афіны-Паллады ў садзе Акадэміі, абняў рукамі ногі багіні і маліў яе:

– Афіна, Афіна! Ты, якая некалі паказвалася жывой перад чалавечымі вачыма, пачуй мяне! Злітуйся нада мной! Пачуй маю малітву!

І, адарваўшы лоб ад мармуровых ног Афіны, узвёў вочы да яе твару, які асвятляў у гэтую хвіліну вузкі прамень месяца, але яму адказала маўчанне. Нават звычайны ў начныя гадзіны лёгкі ветрык з мора заціх, і ні адзін ліст не варушыўся на дрэвах.

Сэрца хлопчыка напоўнілася невымерным горам, і гора стала сцякаць па яго цудоўным твары слязьмі.

– Цябе адну я хачу ўшаноўваць і праславіць над усімі багамі – працягваў ён маліць, – цябе адну, заступніца мая! Ты сама ўліла ў маю душу гэтую тугу і гэтую пажаднасць, якая паліць мяне, як агонь. Пагасі яе ці наталі, о Боская! Дай мне спазнаць Вышэйшую Ісціну, ісціну ісцін, душу Усявышняга, і я прынясу ў ахвяру маё жыццё і ўсе яго асалоды. Я адмоўлюся ад багацця, аддам маладосць, прыгажосць, каханне, шчасце і нават славу, якую людзі шануюць за найвялікшае дабро і найвялікшае дабраславенне багоў.

№30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

І ён зноў біўся ілбом аб мармур, і малітва цякла ў яго з глыбінь душы, як ахвярны дым струменіцца з кадзільніцы. Усё яго існаванне ператварылася ў сілу малітвы. Ён забыўся пра сябе каля ног багіні, забыўся, дзе ён, што з ім адбываецца, яго ахапіў нейкі паўзмрок, у якім засталася адна адзіная свядомая і ў той жа час непераадольная думка, што на такое маленне павінен прыйсці адказ.

І ён прыйшоў. Галіны алівы і вяршыні кіпарысаў раптам завагаліся і сталі нахіляцца, быццам якраз узняўся начны вецер, і шум лісця і кіпарысавых іголак ператварыўся ў чалавечы голас, які прагучаў зверху на ўвесь сад, як быццам многа людзей загаварылі адначасова з усіх бакоў:

— Дыёкл! Дыёкл!…

Хлопчык здрыгануўся, ачухаўся і стаў азірацца вакол, думаючы, што, можа быць, таварышы шукаюць яго сярод начы.



– Хто мяне кліча? – спытаў ён.

І тут мармуровая далонь лягла яму на плячо.

— Гэта ты клікаў – сказала багіня, – таму я выслухала цябе і вось я побач з табой.

Чароўны голас падняў валасы на галаве юнака, ён упаў на калені і пачаў паўтараць адначасова ў жаху і захапленні:

– Ты пры мне? О, неспасціжная, таямнічая, мудрая!…

Але яна загадала яму падняцца і сказала:

– Ты хочаш спазнаць Вышэйшую Ісціну, адзіную, якая ёсць душа свету і сутнасць усяго існага. Але ведай, што ніхто з людзей не бачыў яе да гэтага часу без пакроваў, якія хаваюць яе ад вачэй чалавечых і будуць хаваць заўжды. Дорага табе, можа быць, прыйдзецца заплаціць за дзёрзкую тваю пажаду, але ты мяне зачараваў сваімі словамі, калі дзеля яе адракаешся ад багацця, улады, любові і славы, якая, як ты сказаў, з'яўляецца найвялікшым дабраславеннем багоў.

– Я адракаюся ад усяго свету і нават ад сонца! – з запалам усклікнуў Дыёкл.

Кіпарысы і аліўкі па-ранейшаму схіляліся над дачкой Зеўса.

– Але – сказала яна праз хвіліну, – і ты не ўбачыш яе адразу. Кожны год я буду весці цябе да ісціны ў падобную ноч, і ты адкінеш не адну заслону і пакінеш яе за сабой. І сілай маёй несмяротнай клянуся, што ты не памрэш, пакуль не адхінеш апошнюю. Ці згодны ты на гэта, Дыёкл?

– Хай спраўдзіцца і збудзецца заўсёды твая воля, Прамудрая! – адказаў юнак.

Тады багіня скінула сваю мармуровую вопратку, ператварылася ў новую форму, зіхатлівую, як святло, пасля чаго, узяла Дыёкла на рукі, узнялася над зямлёй і пачала разразаць у шпаркім палёце чароўны эфір, падобная адной з тых зорак, якія ў летнія ночы пралятаюць так часта над дрымотным архіпелагам.

Яны ляцелі, як думкі, пакуль не спыніліся ў невядомай краіне, на завоблачнай гары, вышэй, чым горы Алімпа, Іды, Пеліёна і Оса. Там, на стромкім піку Дыёкл убачыў нешта накшталт няяснай фігуры, захутанай так шчыльна ў шматлікія апраткі, што сапраўдных яе формаў было не распазнаць. Вакол гэтай фігуры дрыжала нейкае дзіўнае, таямнічае святло, непадобнае да усіх зямных агнёў.

– Вось і Праўда, – сказала Афіна. – Ты бачыш, як прамяні яе, хоць і засланяюцца тканінамі, усё ж пранікаюць праз іх і свецяцца. Калі б не слабое іх ззянне, якое падае на зямлю і якое зловяць зрэнкі мудрацоў, людзі, як жыхары кімерыйскіх зямель, блукалі б у бясконцым змроку і ночы.

– Блакітная, – адказаў Дыёкл, – калі я сарву першую заслону, Праўда засвеціцца ярчэй.

— Разгарні! – сказала багіня.

Тады Дыёкл схапіў тканіну і сцягнуў яе з Праўды. Жывое святло заззяла яму прама ў вочы, і ўвесь захоплены зіхатлівай постаццю, ён не заўважыў нават, што заслона, якую выпусціў з рук, ператварылася ў белага лебедзя і паплыла ў цёмную далеч.

І ён доўга стаяў перад Праўдай – зноў як бы ў паўсне – адарваны ад жыцця, узнесены ў нябесную вышыню, пазбаўлены ад зямных думак, пазнаючы невядомую сілу, чэрпаючы і ўбіраючы яе ў сабе.

- О, ясная! – усклікнуў ён – о, вячыстая! О, душа свету!

Ён стрымаў клятву перад бажаством. Ён быў багаты, і калі не раз шпацыраваў з аднагодкамі ці то ў садзе Акадэміі, ці то па дарозе, якая вядзе на Акропаль, ці то сярод аліўкавых лясоў паміж горадам і портам сябры звярталіся да яго са здзіўленнем і папрокам.

– Дыёкл! – казалі яны – бацька твой назапасіў скарбы без меры, а ты імі распараджаешся бяздумна. Чаму б табе не зладзіць нам баль, такі, які для маладых афінян ладзіў багам падобны Алківіад? Чаму ты пазбягаеш балявання, размоў, танцаў, голасу ліры і цытры? Ты што, запісаўся ў цынікі, што не клапоцішся нават пра ўласны дом і пакоі не ўпрыгожваеш, якія, такі чалавек, як ты, павінен упрыгожваць? Лічыцца ж, што багацце – гэта дар багоў, якім нельга пагарджаць.

І Дыёкл адказваў ім пытаннем:

– Скажыце, ці можна купіць Праўду нават за ўсе скарбы персідскага цара?

Таму некаторыя шкадавалі яго, але былі і такія, якія думалі, што з яго вырасце мудрэц вялікі, большы, можа быць, за славутага Платона.

Ён жа заставаўся абыякавым да багацця.

Але вось аднойчы светлай ноччу другая заслона зноў паляцела ў яго з рук у цёмнае неба, і Ісціна з ісцін заззяла яшчэ мацней перад ягонымі вачыма.

Ён быў мілым маладым чалавекам. Першыя саноўнікі ў Афінах, філосафы, сафісты і паэты прасілі яго аб дружбе, каб, гледзячы на яго прыгажосць, наблізіцца да прыгажосці прадвечных ідэй.

Але ён не прымаў іх просьбы, прапановы і сяброўства …

Дзяўчаты, якія збіраліся ля фантанаў, аплятали яго косамі і замыкалі ў танцавальных колах. Звабныя, на німфаў падобныя, гетэры не раз кідалі яму пад ногі прысвечаныя Адонісу галінкі кропу або спрабавалі нашаптаць яму на вуха праз чары квітнеючых лілей і павою словы ласкавыя і салодкія, як музыка аркадскіх флейтаў.

Усё дарэмна!

– Увайдзі да мяне, – казала яму калісьці самая прыгожая з афінскіх дзяўчат, праўдзівае увасабленне Харыты, – вочы мае свецяцца як зоркі, валасы як духмяныя гіяцынты, а лона як лона Елены Прыўкраснай. Ідзі да мяне, Дыёкл! Нават багі на нябёсах не ведаюць большай асалоды чым каханне.

Але Дыёкл толькі сумна ўсміхнуўся і адказаў:

– І гэтая птушка боская, паляцела ўжо далёка ад мяне.

Трэці лебедзь сапраўды паляцеў ад яго ў трэцюю чароўную ноч.

Пачалі плыць гады, як аблокі, якія над Афінамі бурны Барэй нясе зімой ад прорваў фракійскіх гор да мора. Дыёкл з юнака стаў спелым мужам. Ён рэдка прымаў удзел у дыспутах філосафаў, рэдка браў слова ў грамадскіх справах, аднак у горадзе задумваліся над яго размовамі і мудрасцю. Не раз грамадзяне прапаноўвалі яму высокія пасады, а знаёмыя і сябры ўгаворвалі яго ўзяць у свае рукі стырно карабля дзяржаўнай улады і вывесці яго з водмеляў і віроў у спакойныя воды. Але ён бачыў, як ужо ў Афінах распадаецца грамадскае жыццё, як сярод нянавісці і міжусобнай барацьбы гіне любоў да Радзімы, як яго засцярогі, нібы зерне, падаючае на камень, асуджана на гібель, тым больш адштурхоўваў ад сябе тую ўладу, якую яму абяцалі. І аднойчы, калі гараджане хацелі амаль што прымусіць яго ўстаць на чале іх, ён сказаў ім:

– Шаноўныя афіняне! Вы самі сабе ворагі. Як чалавек, я плачу над вамі, але калі б я быў нават богам, я б не змог кіраваць вамі.

Пасля пачатку вайны ён пайшоў разам з іншымі абараняць родны горад і вярнуўся, пакрыты ранамі. Але калі самым адважным раздавалі вянкі на Акропалі, яго не было ў шэрагу ўслаўленых воінаў, і ён не дазволіў выгравіраваць сваё імя на меднай дошцы, якую павесілі ў храме.

Ён пагарджаў, нарэшце, яшчэ большай вядомасцю, якую мог атрымаць на алімпійскіх гульнях. Пад старасць ён зрабіў з вярбовых галінак хаціну каля кар'ераў Пентэлікона і, пакінуўшы горад, пайшоў далей ад людзей. У Афінах пра яго таксама забыліся. Калі ён прыходзіў часам на рынак, каб купіць хлеба і масла, сябры перасталі яго нарэшце пазнаваць.

І так ён доўга жыў адзінокім, пагардлівым, замкнёны ў сабе і пагружаны ў нейкі велізарны, хоць і ціхі, і рахманы, смуткак.

Прайшло яшчэ некалькі алімпіяд. Валасы збялелі на галаве Дыёкла, фігура схілілася да зямлі, вочы праваліліся ў чэрап, і старасць высмактала ў яго сілы. Яго мучыла толькі думка пра тое, што, калі хутка яму наканавана будзе пакінуць сонечную зямлю, то перш-наперш ён яшчэ павінен убачыць Ісціну вышэйшую, прадвечную аснову ўсіх ісцін ў свеце. А часам яму здавалася, што калі Парка, багіня лёсу, не перарэжа нітку яго жыцця, то, можа быць, ён вернецца ў горад, да людзей і прынясе ім нешта большае, чым агонь, які прынёс некалі Праметэй.

Нарэшце наступіла вялікая Містычная ноч, калі багіня зноў схапіла яго ў абдымкі і, падняўшыся на завоблачную гару, паставіла перад Ісцінай.

– Глядзі, яна ўжо слаба свеціцца. Але перш чым працягнуць да яе рукі ў апошні раз, спачатку выслухай мае словы. Гэтыя заслоны, якія за доўгія гады ляцелі ад цябе, як лебедзі, былі ілюзіямі твайго жыцця. Калі ты шкадуеш аб ім, або калі страх напаўняе тваё сэрца, то адступіся, пакуль яшчэ ёсць час, і я вынесу цябе з гэтых вышынь, каб ты, як і іншыя людзі, скончыў на зямлі дні свае.

– Жыццё я ахвяраваў дзеля гэтага імгнення - усклікнуў Дыёкл.

Потым з трапяткім сэрцам наблізіўся да зззяючай постаці, прыжмурыўшы павекі, схапіў дрыготкімі рукамі апошнюю заслону, сарваў яе і шпурнуў прэч.

Але раптам здарылася нешта жудаснае.

У той жа момант яго нібы асляпіла маланка – і яго ахапіла цемра такая жудасная, што самая чорная ноч Аіда магла здацца пры ёй белым днём.

І сярод такой вось начы пачуўся поўны невыказнага жаху і бязмежнага болю голас Дыёкла:

— Палада! Палада! Пад заслонай нічога няма, і я нічога не бачу!!!

Але на гэты крык адчаю яму адказалі суровыя словы багіні:

– Аслеплі ад ззяння Ісціны твае зрэнкі, і знікла апошняя ілюзія, што смяротны можа ўбачыць яе.

Запанавала маўчанне.

— Ты заўсёды падманваеш тых, хто табе давярае, — прастагнаў Дыёкл, – так ты падманула мяне, бажаство жорсткае і хлуслівае. Але раз ужо я больш ніколі не ўбачу Галоўнай Ісціны, то пашлі мне хоць бы смерць–выратавальніцу.

І такое нялюдскае шкадаванне прагучала ў яго словах, што кранула нават Афіну. І, паклаўшы руку яму на няшчасную галаву, яна мякка сказала:

– Вось я  пасылаю табе яе, Дыёкл, а з ёй і тое Апошняе суцяшэнне, што калі яно супакоіць цябе, то ты ўбачыш тую яснасць, ад якой пры жыцці аслеплі твае вочы.

Ноч бляднела і слабела, але світанак ўставаў шэры, халодны, сумны. З аблокаў, якія сабраліся на небе, сыпаліся густыя белыя сняжынкі і засыпалі смяротныя парэшткі Дыёкла.

**Прыгода Арыстокла**

Акрызіёна, жонка Кцэзіпа, цырульніка з вострава Эгны, была дбайная гаспадыня, але жанчына некалькі наравістая, якая моцна трымала ў руках рабоў і мужа. Убачыла яна  аднойчы, як муж вяртаўся даволі няроўным крокам з порта ў суправаджэнні незнаёмага чалавека,  тут жа выскачыла з дому  і, узяўшы рукі ў бокі, прынялася распытваць:

– Што гэта за валацугу ты за сабой вядзеш? Трымаю заклад на дзве драхмы, што ты зноў купіў раба.

– Крыся, супакойся! – адказаў пакорлівы Кцэзіп. – Ты ж ведаеш, што для абслугоўвання гасцей мне патрэбныя тры чалавекі, а наш раб Каліяс жудасна пастарэў. Учора ён укалоў нажніцамі кліента ў левае вуха, у выніку чаго той не захацеў плаціць за стрыжку. Так нельга... прыйшлося купіць кагосьці на дапамогу, таму я купіў і ... танна купіў…

– І дзеля таго, каб заключыць здзелку, ты напіўся з тым, хто цябе падмануў?…

– У мяне невялікая ікаўка, але мяне ніхто не падмануў. Мне яго прадаў нейкі вельмі прыстойны спартанец... Поліс... так! Поліс! Не хто-небудзь, бо ён сказаў, што вяртаецца з Сіракузаў, дзе быў паслом да тырана Дыянісія, які толькі што падарыў яму гэтага чалавека.

– Дурноцце было б, каб ты яго  бясплатна ўзяў, а яшчэ дурней, што ты за яго заплаціў. Дастаткова зірнуць, каб зразумець, што гэта нейкая дрэнь.

– У яго была марская хвароба, але паглядзі на яго твар і плечы. Мужчына, як дуб.  Няхай толькі трохі падкорміцца ў нас…

– Так, падкорміцца! Чацвёра будуць цяпер, дзякуючы тваёй мудрасці, дармаедамі, якія за тыдзень зжаруць і вып'юць больш, чым за месяц запрацуюць.



Тут, сустрэўшы гнеўны погляд раба, яна раптам спытала:

– Што ты глядзіш на мяне, як казёл?

Раб пакланіўся і адказаў:

– Я выкуплюся,  гаспадыня... я з добрай сям'і і ў мяне ёсць знатныя сябры.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

Рабства, багацце, колькі разоў я пра гэта чула, клянуся Афінай! – усклікнула Акрызіёна. – Мы ведаем адзін аднаго ў гэтых добрых сем'ях і ўсіх гэтых сяброў. Кожны новаспечаны раб так кажа, каб набіць сабе цану і не ўлягаць у працу. Хто ты такі?

– Я афінянін, гаспадыня, сын Арыстона з Коліту. Маё імя – Арыстокл, а мянушка, якая, можа быць, трапіла табе ў вушы... Платон…

– Платон? Упершыню чую! Ты ўмееш стрыгчы і галіць?

– Не, гаспадыня.

На гэта яна зноў павярнулася да мужа:

– Я загадзя ведала, што толку з яго не будзе!

(*Ад перакладчыка*: славуты грэчаскі філосаф Платон прыбыў у Сіцылію па запрашэнні тырана Сіракузаў Дзіянісія, аднак неўзабаве той пасварыўся з філосафам і прадаў яго ў рабства. Яго выкупіў знаёмы афінянін).

**Са старажытнай гісторыі**

Жыхары горада Месіны, што на поўдні Пелапанеса, на думку грэкаў, змагаліся нават лепей за спартанцаў. Але пасля Другой месінскай вайны яны канчаткова саступілі сваю колькасную перавагу. Ні да чаго не спатрэбіўся гераізм іх вайскавода Арыстамена, ні да чаго перамогі, здабытыя да прыходу паэта Тыртэя ў Спарту, ні да чаго мора пралітай крыві. Пераможаным пагражала рабства, захоп зямлі. Але доля спартанскіх рабоў-ілотаў была занадта страшная, каб на яе мог пагадзіцца гэты свабодны і адважны народ. Такім чынам, жыхары Месіны, Меноты, Піласа і іншых гарадоў няшчаснай пелапанескай зямлі, забраўшы жонак і дзяцей, селі на караблі і аселі на Сіцыліі, у горадзе Занклі (*у перакладзе з грэчаскага – серп*), які яшчэ да гэтага выбраў сабе для жылля іх суайчыннік Анаксілас.



Гэта была невялікая да гэтага часу калонія, размешчаную па берагах глыбокай і адасобленай марской затокі, падобнай на серп. Аднак першае пакаленне выхадцаў зведала шмат нягод, беднасці. Горад быў занадта цесны, і наваколле не магло пракарміць жыхароў. У іх не было даху над галавой, не было хлеба, не было месца пад сонцам. У некаторых туга па страчанай радзіме высмоктвала сілы і жыццё. Затое значна лягчэй было ўжо іх дзецям, а ўнукам то і зусім нядрэнна. Занклі з часам

прыняў зусім іншае аблічча. Насельніцтва павялічылася ў дзесяць разоў; горад шырока разкінуўся ўздоўж ўзбярэжжа. Раслі з году ў год шыкоўныя дамы, а як прайшло гадоў пяцьдзесят, то цудоўныя будынкі, навакольныя горы сталі выклікаць захапленне прыезджых з Сіракузаў, з Палерма і з Агрыгенту, якія ў справах купецкіх або дзеля цікаўнасці наведвалі новае паселішча. Жыхары ўмацавалі бераг і паглыбілі бухту. Грэчаскія караблі з грэчаскіх азіяцкіх паселішчаў, караблі з Ціра, з Сідона і Картахены паспяшаліся запоўніць зацішную і бяспечную гавань. Лес мачтаў засланяў жыхарам блакіт мора. Расквітнелі гандаль і прамысловасць. Занклі называлі другой Месенай (цяпер гэта горад Месіна). Вопытнае насельніцтва некалькі разоў адбівала напады сіракузскіх тыранаў, і прагных і жорсткіх карфагенян. Для прыкрыцця горада была пабудавана на мысе крэпасць, якая адначасова абараняла ўваход у гавань. Прыйшло багацце, прыйшоў супакой, і ўсеагульнае жыццё стала біцца роўным і магутным пульсам. А з гадамі расцвілі і навукі. Месенскія лекары праславіліся па ўсёй Сіцыліі і часта нават асядалі ў чужых гарадах, дзе насельніцтва сустракала іх з радасцю і натоўпамі шукала іх парад. У сіракузскія каменяломні заклікалі інжынераў і шахцёраў з Месены, аплачваючы на вагу золата іх працу. Будаўнікі садзілі сады ў грэчаскіх паселішчах, якія ляжаць на поўдні Італіі. Сельская гаспадарка квітнела так, што алею і месінскай пшаніцы шукалі на ўсіх кірмашах Вялікай Грэцыі. Караблі месенскіх купцоў кружлялі ад Геркулесавых слупоў (Гібралтарскі праліў) да архіпелага і азіяцкіх берагоў. Багацце расло з кожным годам.

А за багаццем прыйшла і сіла. Некалькі тысяч воінаў-пельтастаў і пехацінцаў-гаплітаў ахоўвалі горад і краіну, сто галер — прыстані. Спарта, якая калісьці нашкодзіла без меры народу, збянтэжылася перад сілай горада і адправіла таемных паслоў на Сіцылію, каб яны наглядна пераканаліся, што флот і фалангі месенцаў могуць быць небяспечнымі для іх.

Але калі паслы вярнуліся, калі аддалі належнае велічыні горада, яго багаццю, прыбыткам, якія туды паступалі з усіх бакоў, дастатку і выгодам, у якіх жывуць мясцовыя жыхары, то мудрыя старцы з савета супакоіліся, казалі адзін аднаму:

– Сапраўды, ім там занадта добра, настолькі, што яны могуць забыць былую радзіму.

Але памыляліся старыя, бо ўспаміны пра ранейшую радзіму ні на імгненне не згубіліся ў душах месенцаў. Не засыпаліся гэтыя ўспаміны золатам, не зводзілі іх на нішто прыбыткі купцоў, ні заробкі лекараў, інжынераў і будаўнікоў. Пакаленне перадавала пакаленню любоў і тугу. Каб думкі ні на хвіліну не адварочвалася ад зямлі, дзе ляжаць парэшткі бацькоў, і каб любоў да яе была такой жа трывалай, як бронза і камень, увайшло ў звычку выгнаннікаў выразаць на храмах, на сценах грамадскіх будынкаў, на крэпасцях і вежах наступныя словы:

"Памятайце пра старую зямлю!”

І памяталі. Яны памяталі нават тады, калі па волі лёсу пачаліся няшчасці, калі афіняне ненадоўга авалодалі паселішчам і калі карфагенянін Гімількан разбурыў горад амаль дадашчэнту. Людзям здавалася, што Месены больш няма, але яны забыліся, што ёсць месенцы, якія, блукаючы сярод абломкаў, чыталі на развалінах храмаў і рэштках будынкаў словы, якія былі глыбока выразаныя ў іх сэрцах: "Успамінайце старую зямлю!”

Іх памяць перажыла пакуты. Час ішоў. Горад быў адноўлены з дапамогай суседзяў. Прыстань зноў зарасла мачтамі. Зіхацелі ў паветранай сіні пад сонцам мармуры адбудаваных храмаў і палацаў. Вярнуўся ранейшы дабрабыт.

Але вось аднойчы багіня вестак і плётак Оса прыляцела праз мора з Элады і прынесла навіну: Фівы ўступілі ў смяротны бой са Спартай, якая калісьці заваявала Месену. Імёны вайскаводаў Эпамінаіда і Пелапіда праславіліся ад межаў Фесаліі і Эпіра да Скалістых гор Пелапанеса і ад берагоў Азіі да Геркулесавых слупоў. За Фівамі паўсталі і іншыя элінскія гарады. Грэцыя разарвала саюз са Спартай.

І вестка бегла за весткай, і кожная да грому падобная. Бітва пад Лейктрамі!... пад Манцінеяй!... Непераможная да гэтага часу Спарта разбітая, войскі яе рассеяны, сіла назаўжды зламана, краіна абязлюдзела, пакінуты суседнія, некалі захопленыя зямлі!…

У Занклі загарэліся сэрцы, разбудзіліся галавы. Натоўпы народу ўзбурыліся, як марскія хвалі, і як хвалі залівалі горад і берагі, выглядаючы ганцоў з Пелапанеса. На рынках і вуліцах, перад храмамі і на прыстанях і ў гарадскіх садах разносіліся песні ў гонар Арыстамена, у гонар былых бітваў і былой Радзімы.

І нарэшце прыбылі ганцы са свежай весткай, што спартанцы, абараняючы з апошніх сіл сваю краіну, пакінулі іх родны горад і што ўся зямля там ператварылася ў пустыню.

Тады народ сабраўся на вялікую сходку, і старэйшыны склікалі савет, які складаўся са старых і ўплывовых грамадзян.

А праз месяц дробныя і буйныя караблі пакрылі тысячамі мора і, павярнуўшы насы на ўсход, выцягнуліся ў адзін бясконцы ланцуг на ціхіх пратоках Іанічнага мора. На караблях было амаль усё насельніцтва Месіны. Жыхары квітнеючага паселішча пакінулі свае дамы, пакінулі крамы, выгадную працу, вялікія заробкі і вярталіся да закінутай ранейшым часам радзімы, да Месены, Піласа, да Меноты, да старажытных замкаў, вёсак, схаваных у горных далінах, да пашы ў горнай даліне Тайгета, да старажытных могілак, да праху бацькоў.

Яны вярталіся ў менш урадлівую краіну, на бясплодныя палі, на новыя гады ў галечы і нястачы, але вярталіся туды, адкуль ніколі не сыходзілі іх сэрцы. Таму калі пасля доўгага плавання яны нарэшце высадзіліся ў Пелапанескіх гаванях, яны падалі на калені і, абняўшы рукамі старую зямлю, плакалі са слязамі, як дзеці, якія пасля доўгага расстання абдымаюць маці, каханую:

– Зямля-маці, мы пра цябе не забыліся!

Так шмат стагоддзяў таму любілі месенцы сваю спрадвечную Радзіму.

**Што аднойчы адбылося ў Сідоне**?

Абдаланім упаў на калені перад Мархабалам, багатым купцом з грэчаскага горада Сідона, і ляжаў доўга, аж пакуль Мархабал не спытаў: што б гэта значыла. Тады ён паўстаў і загаварыў:

– Пане! У мяне ёсць толькі невялікі агарод, дзе я вырошчваю радыску, цыбулю і ружы. Але я малады, працавіты і сумленны. Я ведаю, што тое, што я скажу, можа здацца вам вар'яцтвам або, па меншай меры, дзёрзкасцю. Аднак, паколькі вас называюць у Сідоне "разумным", я спадзяюся, што вы не будзеце злавацца. Вось, пакахаў я вашу дачку, цудоўную Талестрыс, і яна мяне кахае. Малю вас, пане, аддаць яе мне ў жонкі.




Мархабал хацеў у першы момант аперазаць Абдаланіма кіем са слановай косці, які ён трымаў у руцэ, або паклікаць рабоў, каб яны скінулі яго з лесвіцы; але ён стрымаўся, бо не прывык нічога рабіць без роздумаў. У Сідоне яго называлі не толькі "разумным", але і "памяркоўным", бо ён любіў разважаць, любіў выкладаць свае думкі шырока і паказваць усё як на далоні: наколькі здаровы і сталы купецкі розум пераўзыходзіць любое іншае мысленне. З-за гэтага ён змоўк на нейкі час, гэтак доўга, колькі патрабуецца для засыпання пяску ў пясочныя гадзіннікі, а потым пачаў павольна гаварыць:

– Абдаланім! З дачкой маёй, калі пах тваіх руж ап'яніў яе да поўнай страты розуму, я пагавару асобна і спадзяюся выбіць з яе галавы дурныя думкі. Што тычыцца цябе, то мы вырашым наступным чынам. Я заўсёды цаніў цябе за твой сад. Рэдзька, якую ты мне прадаеш, ніколі не бывае гнілаватай, а твая цыбуля не толькі смачная, але і такая прыемная, што купцы не раз пыталіся ў мяне, у каго я яе купляю. Гэта значыць: тое, што ты робіш, робіш правільна. З-за гэтага я не разгневаўся, бо, зрэшты, ніколі не бачыў, каб гнеў прыносіў камусьці нейкі прыбытак! Але падумай аб тым, што ты ўздумаў! Ты ведаеш, што я, Мархабал, належу да Сідонскіх старэйшынаў; пяць маіх караблёў кружаць па моры паміж Фінікіяй, астравамі і Грэцыяй; два наведваюць берагі Сіцыліі і Карфагена. У мяне сто трыццаць рабоў, вось гэты палац у Сідоне, дом у Ціры і два вялікіх склады тавараў, не лічачы шкляной

і фарбавальнай фабрык. Гэта маё багацце, якое з часам пяройдзе да маёй дачкі, таму што яна – адзінае маё дзіця. А цяпер я пытаюся ў цябе: чым ты займаешся? што ў цябе за душой? колькі твая гародніна прыносяць табе і наколькі вялікі гэты сад, які ты вырошчваеш?

– Сад мой, – адказаў Абдаланім, – крыху большы, пане Мархабал, чым той пакой, у якім я стаю перад табой! Але акрамя таго, у мяне ёсць асёл і сэрца, поўнае любові.

– Сярэдні асёл каштуе пяцьдзесят фінікійскіх драхмаў, гэта ў тры разы менш, чым той кій, які я трымаю ў руцэ і якім я хацеў цябе ў першы момант пабіць, што, аднак, не зрабіў, бо ад прыроды ўмераны, і таму, што не хачу яго паламаць. Што тычыцца любові. Каханне – гэта агонь. У каго ёсць мука і патэльня, той можа спячы на ім нешта смачнае. Але скажы мне, Абдаланім: дзе твая мука і патэльня?

Абдаланім апусціў галаву і прамаўчаў.

А Мархабал, бачачы ў яго маўчанні пацвярджэнне слушнасці сваіх развааг, самаздаволена ўсміхнуўся і загаварыў:

– Дачка мая валодае значным багаццем, у яе многа адзення і каштоўнасцяў, але валодае яна ўсім гэтым таму, што ў бацькі яе была галава на плячах і ён умеў круціцца ў жыцці. Але калі б ты сустрэў Талестрыс голай на адной з тых пустынных скал, якіх шмат на нашым узбярэжжы, што б ты зрабіў у такім выпадку?

Абдаланім пачырванеў да вушэй.

– Пане Мархабал, як жа мне на гэта адказаць?…

– Я не пра тое кажу, пра што ты падумаў, – з'едліва перабіў купец. – Я проста хачу даказаць табе, што калі б ты сустрэў яе голай, то з ўсёй тваёй любові не было б за што купіць ёй не толькі каралі і кольцы для ног, але нават фартух. У рэшце рэшт, у тваёй ўласнай адзежыне ёсць адтуліны, праз якія праглядаюць калені, забітыя зямлёй і зелянінай пры праполцы гародніны. На шчасце, мая дачка не жыве на пустыннай скале і не такая голая, як грэчаскія багіні. Але няшчасныя выпадкі здараюцца ў людзей. Каб ты лепш мяне зразумеў, я прывяду табе прыклад. Вось горад наш і краіну занялі македонцы, іх манарх Аляксандр перавярнуў з ног на галаву персідскую дзяржаву і ўвесь свет. Цара нашага, Стратона, прагнаў на чатыры вятры адзін з яго правадыроў, Гефестыён, і, па чутках, ён павінен даць нам іншага кіраўніка... ён ужо разрабаваў маёнткі некалькіх купцоў, якія да прыходу македонцаў выступалі супраць яго. Спадзяюся, мой не канфіскуе. Я чалавек цвярозы і ўмею лічыцца з рэальнасцю. Фінікія сёння без улады. Хай абараняецца Цір, калі яму так хочацца – у Сідона ёсць свае інтарэсы, і ён павінен думаць пра іх. Я выказаў такі пункт гледжання і паспрабую, каб словы мае дайшлі да Гефестыёна. Але выкажам здагадку, што ўсё можа здарыцца інакш і што ў выніку непаразумення або ілжывай скаргі маёмасць мая будзе канфіскаваная. Чым жа тады нам дапаможа твая любоў? Ці хопіць нам грошай на дах над галавой і ці зможа яна нас накарміць? Што ты можаш даць нам, акрамя рэдзькі і любові? Ты малады? — добра! Але хіба ў цябе ў

Сідоне ёсць склад з таварам? Ты кажаш, што ты працавіты? – добра. Але і кожны раб, хоча ён ці не хоча, павінен быць працавітым. Чым ты лепшы за раба? Ты сумленны? Выдатна! Два дні таму ты атрымаў драхму, якую я табе дадаткова за гэта заплаціў, таму што думаў, што і ты мяне зразумееш. Але давай памяркуем – сумленнасць гэта што? Чаму я павінен шанаваць больш сумленных пакутнікаў, чым сумленных багацеяў? Чалавек сумленны і ў той жа час багаты пахне эфірным маслам-нардам, бо ён павінен кожны дзень памазваць сябе ім, а сумленнасць твая патыхае ўгнаеннем, якое ты перакідваеш, бо нічога іншага не ўмееш.

– Я ўмею іграць на цытры! – усклікнуў няшчасны Абдаланім.

– Лепш бы табе пра гэта не казаць, – адказаў Мархабал. – Гэта можа спадабацца маёй дочцы, а не мне. Я ведаю, што ў грэкаў, хто не іграе на цытры, той лічыцца прасцяком і варварам. Ёсць людзі, якія нічога іншага не робяць, і ўсё ж іх акружае слава, і, хоць у гэта цяжка паверыць, іх акружае павага больш, чым цесляроў, якія будуюць караблі, і нават чым гандляроў. Але грэкі – народ дзіцячы, а наш Сідон – горад сур'ёзны і населены людзьмі разумнымі. Што тычыцца мяне, я лічу, што чалавек малады, здаровы і моцны, які, замест таго каб працаваць, іграе на музычным інструменце або піша вершы — таму што і такія бываюць у грэкаў — заслугоўвае роўнай пагарды, як і верабей, які скача на даху без якой-небудзь для каго-небудзь карысці. Так што, будзь ты проста музыкам ці паэтам, я б цябе адразу скінуў з лесвіцы, бо разумнымі словамі не размаўляюць з паўдуркамі.

– Тады я не магу спадзявацца! – усклікнуў Абдаланім.

– Спадзявайся, калі табе так падабаецца, надзею ты можаш мець або не можаш мець, але ў цябе не будзе маёй дачкі. Ты сам сказаў, што твая просьба вар'яцкая, а я даказаў табе, як двойчы два – чатыры, што яна, акрамя таго, недарэчная і нават дурная, а значыць, чаго вы яшчэ чакаеце?

– Пане, — сказаў хлопец – я не хацеў казаць пра тое, што не з'яўляецца маёй заслугай, але, можа быць, чулі, што, хоць так, я амаль убогі, як раб, аднак, я з роду старажытных сідонскіх цароў, і што ва ўсёй Фінікіі няма чалавека, у якім бы цякла менш старадаўняя кроў, чым мая.

Тут Мархабал на секунду задумаўся, потым сказаў са звычайнай асцярожнасцю:

– Я чуў, і як бы я не лічыў гэта зусім пэўным, але я прызнаю, што гэта нешта ды значыць. Гэта тлумачыць тваю дзёрзкасць, і ў той жа час гэта другая прычына, па якой я не загадаў цябе скідаць з лесвіцы. Сапраўды, у Сідоне шмат купцоў, якіх уразіла б тваё царскае паходжанне. Але я, хоць сам не належу да гарадскога кіраўніцтва і паважаю традыцыю (прыстойныя людзі павінны яе заўсёды паважаць), у справах, як я ўжо згадваў, у першую чаргу я практычны. Таму я скажу табе, што калі б ты паходзіў з роду садоўнікаў і стаў царом, я без ваганняў аддаў бы табе маю дачку, бо, па-першае, ты мог бы зрабіць мяне прыдворным, пра што я дарэмна стараўся яшчэ пры цары Стратоне, а па-другое, я павінен быў бы прызнаць, што той,

хто ўмее мяняць матыку на скіпетр, мае галаву лепшую, чым мая. Але калі ты, які з роду цароў, пакутуеш такой жа беднасцю, як твой бацька, і ты ўсяго толькі садоўнік, то што мне тады думаць пра гэта? Вось: што сярод продкаў тваіх былі цэлыя пакаленні няўдачнікаў, і што ты таксама няўдачнік, раз ты прымірaешся са сваім лёсам. Па ўсіх гэтых прычынах я яшчэ раз паўтараю табе, што не дам табе дачкі – і больш таго, прашу, каб ты больш не з'яўляўся ў маім доме. А з-за ўдзячнасці за тое павучэнне, якое я табе даў, ты скінеш мне хаця б дзесяць адсоткаў на рэдзьцы і цыбулі.

Пачуў гэта Абдаланім, разарваў сваю і так ужо парваную адзежыну, быў гатовы пасыпаць сваю галаву пылам і попелам, калі б не тое, што ў доме прыстойнага сідонскага купца не было на падлозе ні пылу, ні попелу.

У Сідоне зайшоў месяц, а сабакі заснулі, ружачка Талестрыс паўстала раптам у абліччы маладога еўнуха перад Абдаланімам, які плакаў у сваім садзе, іграў на гуслях і, заломваючы рукі, загаварыла:

– Абдаланіме! Усё прапала, уся надзея прапала!

—Прапала! – застагнаў малады чалавек.

І, здабываючы жаласны гук са струн цытры, ён адвёў яе ўбок і тут жа схапіў у абдымкі дзяўчыну і пачаў цалаваць яе нафарбаваныя хной павекі.

Калі слодыч ласкі трохі супакоіла іх хворыя сэрцы, ён спытаў:

– Ты гаварыла з бацькам, Талестрыс, і ці не паў гнеў ягоны на тваю любую галаву?

– Бацька не злаваўся – — адказала яна – але паклаў мяне на калені і адлупцаваў да крыві сцебламі тваіх ружаў, каб я даведалася, што ў дарах тваіх ёсць не радасць для мяне, а боль!…

– О, багі! – усклікнуў з адчаем і адначасова з запалам Абдаланім, – дазволь мне пацалаваць твае раны!

Але панна апусціла вочы.

– Не, Абдаланім, я не магу гэтага дапусціць.…

Наступіла хвіліна маўчання, толькі сідонскія салаўі ў кіпарысах, засыпалі нібы градам жэмчугу сад і абодвух закаханых.

– Абдаланім... – прашаптала панна.

– Я слухаю цябе, Лілія ліванская.

– Вось я падкупіла стражнікаў і выслізнула з дому, каб сказаць табе, што без цябе смерць будзе мілей майго жыцця.

– Тады давай памром разам, Талестрыс!

– Атруцімся, Абдаланім!

– У мяне ў склепе аладкі, прыгатаваныя з балігалову і пацучынага мёду. Давай з'ядзім іх і разам спусцімся ў краіну ценяў!

– Хай так і будзе, – адказала Талестрыс.

І Абдаланім устаў, каб пайсці за смяротнымі піражкамі, але дзяўчына паклала яму руку на плячо.

– Вячэрняе ззянне патухла нядаўна, – сказала яна, – да світання далёка, а ноч такая душная і цудоўная. Хутка вечная цемра закрые нашы вочы, так што давай паглядзім на гэтыя блакітныя агні, якія мігцяць над намі.

Яна паклала галаву яму на плячо і, павярнуўшы вочы да Месяца, пачала гаварыць з ім, як з Таніт, багіняй Месяца, урадлівасці, і вайны; самай папулярнай багіняй у Карфагене, падобнай да Астарты, шанаванай ва ўсёй Фінікіі, голасам ціхім і сумным:

– Таніт, Таніт, бледная і чыстая багіня, якая плыве зараз, як у сярэбранай лодцы над сонным Сідонам, чаму ты ззяеш нам у апошні раз?

А Абдаланім:

– Ты, якая кожны месяц паміраеш і ўваскрасаеш, усыпляеш нас, а потым абуджаеш да новага жыцця. Абдымі нас срэбнай сеткай тваіх прамянёў і прыцягні нас да сябе.

– Ці ператвары нашу любоў у тваё ўласнае ззянне, каб яна не памерла разам з намі, бо не жыцця нам шкада, а кахання…

– О, Таніт!

– О, Таніт!

Зноў наступіла цішыня, толькі кіпарысы дрыжалі ад салаўіных песень.

Талестрыс некаторы час сядзела нерухома з закінутай назад галавой і адкрытым ротам, пазіраючы на Месяц, але раптам здрыганулася і прачнулася, нібы ад сну.

– Дзе я? – спытала яна.

– Каля майго сэрца, – адказаў юнак.

– Няўжо мы павінны памерці, Абдаланім?

– Так, сапраўды, прыгажуня мая!

– Ці кахаеш ты мяне?

Абдаланім прыцягнуў яе да сябе, упіўся вуснамі ў яе вусны, і яны заставаліся так, пакуль у іх не скончылася дыханне.

Затым зноў пачуўся голас Талестрыс, падобны на цурчанне ручая:

– Абдаланім, хіба смерць усё вырашае і ад усяго вызваляе?

– Вызваліць... – пацвердзіў юнак.

А яна казала далей:

– Значыць, калі смерць усё вырашае і вызваляе ад усяго, то ... тады што? Абдаланім?…

– Што ты хочаш сказаць, любая мая?

Талестрыс прыкрыла вочы далонню, такой жа белай, як кветка язміну.

– Ах! Не думай нічога дрэннага!…

Тады ён паглядзеў на яе, і хоць яны хутка павінны былі памерці, ён, мабыць, усё ж клапаціўся пра яе здароўе, таму што сказаў:

– Раса ападае.…

– Раса ападае, – паўтарыла, як рэха, Талестрыс.

– І прахалода ночы ўжо наступіла. Ці бачыш ты гэтую халупу, каханая, якую хаваюць плюшч і кветкі? Ідзем, мая прыгажуня! Ідзем туды, сяброўка мая! Там дрыжыкі не ахопяць твае цела, і паміраць нам будзе спакайней.

І яна, падпарадкоўваючыся словам каханка, устала і, абапіраючыся на яго плячо, падалася да будана, паўтараючы нейкім дзіўным, сонным, паўсонным голасам:

– Раса пала, Раса пала.

І яны зніклі пад плашчом плюшчу. Салаўі змоўклі. А верны асёл, на якім Абдаланім развозіў гародніну па Сідоне, невядома чаму зароў сярод ночы сваім пранізлівым, да смеху падобным ровам:

– Хай–гаў, хай–гаў, хай–гаў!

Месяц, які незаўважна кудысьці падзеўся, доўга шукаў іх у дварышчы. Пашукаў на дарозе, збочыў з яе, асвятліў плюшч і кветкі, зазіраў у разоры паміж градамі рэдзькі і лука, азіраў сцены шалаша, хацеў нават зазірнуць унутр, але не ў сілах прарвацца праз зараснікі плюшча і бружмелі, стаміўся нарэшце, дарэмнымі пошукамі і паплыў у бок Ціра, да мора.

А яны, лежачы сярод пучкоў пахучага шафрана, рыхтаваліся да сумеснай смерці – і рыхтаваліся моўчкі, пакуль іх не абудзілі крыкі, якія пачуліся раптам перад варотамі саду.

Тады яны выбраліся з хаціны і жах, а разам з тым і здзіўленне ахапілі іх пры відовішчы, якое паўстала перад іх іх вачыма.

Чырвонае ззянне паходняў асвяціла вуліцу, агароджу саду, пальмы, кіпарысы, а перад варотамі раіўся і калыхаўся натоўп людзей.

– Гэта бацька паслаў мяне шукаць! – у жаху ўсклікнула Талестрыс.

–Хаваемся, бяжым назад да будана! – усклікнуў Абдаланім.

І, схапіўшы рыдлёўку, якая аказалася ў яго пад рукой, устаў, гатовы абараняць дзяўчыну.

Між тым, частка натоўпу напоўніла сад, але спынілася на некаторай адлегласці, як быццам праніклася страхам пры ваяўнічым выглядзе хлопца – і толькі дзесяць чалавек, у высокіх мітрах і ўрачыстых тогах, прайшлі наперад. Здзіўлены Абдаланім убачыў каля іх дзесяць самых маладых сідонскіх юнакоў. А яны, наблізіўшыся да яго, упалі на калені і нейкі час ляжалі без руху, потым падняліся, і адзін з іх, трымаючы у руках пурпурную мантыю, загаварыў:

– Добры дзень, Абдаланім, першы нашчадак каралеўскай крыві, кіраўнік Сідона і Лівана, і ўсіх нас, гаспадар і цар!

Тут яны зноў апусціліся на калені, і па іх прыкладу натоўп, які стаяў непадалёк, таксама ўпаў на калені, паўтараючы:

– Добры дзень, добры дзень, Абдаланім Першы!

Абдаланім глядзеў нейкі час здзіўленымі вачыма то на іх твары, на іх мітры, то на палаючыя паходні, пакуль, нарэшце, агоўтаўся трохі, падумаў, што гэта, верагодна, сідонскія хлопцы выпілі залішне на нейкім свяце, і вырашылі сабе зладзіць пацеху з небаракі, таму ён спытаў з горыччу і гневам:

– Што вы шукаеце і чаго хочаце, о шляхетныя, у маім садзе?

– Уладар наш, – адказаў той, што гаварыў і раней, – Аляксандр, манарх свету, загадаў Гефестыёну пасля выгнання Стратона прызначыць новага цара ў Сідоне. І так як паводле адвечных законаў Сідона ён можа кіравацца толькі тымі, у чыіх жылах цячэ кроў ранейшых кіраўнікоў, то, знаходзячыся ў лагеры ў Гефестыёна, мы паказалі на цябе, бо і род твой, і твая сціпласць, і твае вялікія цноты робяць цябе годным Сідонскага скіпетра і пасады.

Але Абдаланім, яшчэ не верачы словам прамоўцы, адказаў:

– Род мой сапраўды царскі, таму дрэнна і несумленна робіце вы, калі прыйшлі да небаракі, які, ведайце гэта, трымае смерць у сэрцы і рыдлёўку ў руцэ.

На гэта пасланец працягнуў да яго пурпурную мантыю і сказаў з вялікай сур'ёзнасцю:

– Абдаланім, абудзі ў сваёй душы годныя цара пачуцці; пакінь сумневы і кінь сваю брудную апору! Абмый, гаспадар, рукі і твар ад пылу зямлі – і надзень тую мантыю, якую я табе ад імя Аляксандра і ўсяго Сідонскага народу прыношу. А калі ты будзеш сядзець на сідонскім троне як гаспадар жыцця і смерці ўсіх грамадзян, успомні часам на стан свой папярэдні, не дай усяліцца ў сябе ганарыстасці і захавай усе гэтыя цноты, якія сёння цябе пасадзілі на трон. Жыві і валадар над намі, і хай заўтрашняе сонца ўжо не ў гэтым убогім садзе, а ў тваім царскім замку асвятліць цябе!

– Жыві на радасць нам! – пачуліся галасы з натоўпу. - Ты наш правадыр!

– Жыві і валодай!

– Уладар, карай і ўзнагароджвай!

Абдаланім вымушаны быў паверыць.

Аднак ён не адразу адправіўся ў палац, бо заявіў, што перш жадае памаліцца хатнім багам і пагаварыць у цішыні і адзіноце са сваім сумленнем. Але калі вуліца і дарожкі саду апусцелі, ён адклаў на час размову з багамі і сумленнем і крыкнуў два разы прыглушаным голасам:

– Талестрыс! Талестрыс!

Дзяўчынв выбегла з будана.

- Я, тут, дарагі!

– Ты чула?

– Я чула і ... падаю ніц перад маім царом.

Але ён спыніў яе і сказаў:

– Дарагая Талестрыс! Нам больш не патрэбныя пірагі з балігаловам.

– Табе, уладар, – адказала яна, – нельга паміраць, бо лёс Сідона ў тваіх руках, але калі ты не дасі і мне памерці, то што цяпер ты зробіш са мной, няшчаснай?

Абдаланім пасадзіў яе побач і пачаў гаварыць з вялікай саладосцю ў голасе, але ўжо і з царскай сур'ёзнасцю:

– Слухай, Талестрыс. Купецкі розум твайго бацькі аказаўся сляпым і дурным, але любоў твая была мудрай і бачыла скрозь заслону лёсу. Перш чым ты скажаш бацьку свайму гэтыя словы і перш чым скажаш яму, што цар Сідона дарue яму, ведай, што ты жонка цара.

Пачуўшы гэта, дзяўчына схілілася, як падрэзаная кветка, на руках каханка, бо яе далікатнае сэрца, не вытрымаўшы лішку шчасця, на імгненне зусім перастала біцца.

І Абдаланім зноў занёс яе ў будан, каб прыкласці там усе намаганні, якія маглі б вярнуць яе да прытомнасці.

Мархабал, які, як чалавек разумны, цаніў сваё здароўе, а таму рана клаўся спаць, то ён нічога не ведаў пра тое, што адбылося за ноч у Сідоне. Але калі багіня вестак Оса, якая звеставала на досвітку ўвесь горад пра новага цара, пастукалася з весткай і ў яго палац, ён так засмуціўся ад здзіўлення і жаху, што сеў на зямлю, абхапіў далонямі пальцы ног і заставаўся ў гэтай позе столькі часу, колькі трэба звычайна каб апрацаваць пяцьсот мяшкоў з поўсцю.

Калі ён нарэшце агоўтаўся, то перш за ўсё спытаў сябе:

– Што цяпер будзе?

Паколькі ён меў звычку разважаць над кожным становішчам глыбока і ясна ўсведамляць яго, то, ачомаўшыся цалкам, пачаў разважаць так:

– Абдаланім адпомсціць мне за тое, што я назваў яго рабом і загадаў яму выбірацца з хаты. Ён прысудзіць мяне да смерці, разрабуе маю маёмасць. Калі Талестрыс не выветрыла ў яго з галавы пачуцці, ён возьме яе рабыняй у свой палац. І дарэмна я думаю, што ён не зробіць гэтага, таму што ён стаў царом і можа зрабіць гэта. Гэта жудасная рэч, але непазбежная. Жыццё без маёмасці горш за смерць, калі ж наступаюць такія часы, калі развагамі здаровага розуму нельга вымераць ні няшчасных выпадкаў, ні людзей, то ад мяне ў свеце нічога не застанецца. Таму што адкуль я мог прадбачыць, што садоўнік стане царом? Ніадкуль. Такога можа чакаць толькі той, каму не хапае клёку ў галаве. Усё гэта праўда, а таксама і тое, што кожны чалавек павінен памерці. І ўсё ж смерці я баюся, і нават вельмі баюся. Інакш я б не адчуў гэтых мурашак, якія ходзяць у мяне па спіне, і не пачуў бы гэтых глухіх гукаў у кішках. Але ці ёсць ратунак ад гэтага? Не. Ёсць розныя віды смерці. Напэўна, больш ганарова быць засмажаным у алеі, чым прыбітым да крыжа, бо алей каштуе пяць фінікійскія драхмаў, а крыж можна збіць з двух старых бэлек. Але смерць на

крыжы лягчэй, і я хутчэй буду ўкрыжаваны, чым засмажаны. А яшчэ як тут не ўспомніць тое, што я нешта казаў Абдаланіму пра патэльню. Але хто мог здагадацца, што ўчарашні дзень будзе такім як гэты дзень? Учора я ледзь не скінуў Абдаланіма з лесвіцы за тое, што ён хацеў ажаніцца на маёй дачцы, а сёння мне здаецца, што я павінен прасіць багоў як мага хутчэй узяць яе ў рабства, таму што, можа быць, яна знойдзе магчымасць заступіцца за мяне. Ва ўсякім выпадку, мне цяпер трэба пайсці да яе, каб развітацца з ёй і навучыць, што яна павінна сказаць цару. Я, праўда, учора адлупцаваў яе сцяблінамі руж даволі балюча, але калі яна атрымала ў спадчыну ад мяне хоць крыху здаровага сэнсу, то павінна разумець, што бацька, які незадаволены выбарам дачкі, мае права і абавязак неяк ёй гэта паказаць. Так! Я не хачу падманваць сябе, але ўся мая надзея на Талестрыс, і трэба як мага хутчэй пагаварыць з ёй.

І, звярнуўшыся такім чынам да ўласнай душы, ён адправіўся ў пакой дачкі, якая пасля ўражанняў мінулай ночы спала так моцна, што яму ледзь удалося яе разбудзіць.

– Талестрыс, дзіця маё, – урачыста сказаў ён, – адкрый вочы і вушы, бо няшчасны твой бацька, які знаходзіцца перад тварам смерці, прыходзіць развітацца з табой і даць табе апошняе дабраславеньне.

Тут ён распавёў ёй вялікую начную вестку і пераказаў усё тое, пра што раней разважаў у душы. Але яна слухала яго адным вухам, сонна і ляніва, і, нарэшце, прачнуўшыся, схавала раптам свой светлы твар у падушку і залілася смехам такім звонкім, нібы хтосьці рассыпаў шкляныя каралі на мармуровай падлозе.

– Няўдзячная дачка! – абурана ўсклікнуў Мархабал. – Ты смяешся, калі твой няшчасны бацька, якому пагражае смерць, прыходзіць развітацца…

Але не паспеў ён дагаварыць, як Талестрыс сарвалася з пурпурнай пасцелі так жа хутка, як птушка зрываецца з кветак, і, абняўшы шыю бацькі, уся ружовая, на адным дыханні загаварыла:

– Бацька, цар дараваў табе ўчора, а мне сказаў, што я цяпер жонка цара!

Мархабал нібы ператварыўся ў каменную статую – і толькі пасля доўгага маўчання сказаў:

– Вяртайся ў ложак, Талестрыс, бо ногі ў мяне так саслаблі, што я вымушаны сесці.

Талестрыс зноў завінулася ў прасціну, а ён сеў побач з ёй, правёў рукой раз другі па паголенай галаве і спытаў:

– Значыць, ты бачыла цара?

– Так, бачыла.

— Калі?

– Учора ўвечары.

– Ён быў у цябе?

Дзяўчына зноў уткнулася тварам у падушку.

– Не, я была ў яго!

Новае маўчанне.

– Да абеду або пасля абеду? – спытаў змененым голасам Мархабал.

– І да абеду, і пасля абеду.

— Вух!… – Талестрыс!

– Я слухаю, бацька…

– І ты ... і ты кажаш, што манарх быў міласэрны да цябе?…

— О! І як яшчэ!

– Не хавай твар у падушкі.... Быў ён ласкавы да абеду або пасля абеду?

– І да абеду, і пасля абеду.

— Вух!

Талестрыс перастала ўтыкацца тварам у падушкі, бо заўважыла, што твар бацькі святлее ўсё больш па меры размовы і становіцца проста вясёлым.

Мархабал усміхнуўся нарэшце не толькі весела, але нават гулліва. Пагразіўшы дачцы пальцам, ён злёгку схапіў яе за вуха і, нахіліўшыся да яе, спытаў:

– А як ты думаеш, хто будзе пастаўшчыком вашага двара?…

Гэтая навела з'яўляецца амаль дакладным перакладам з Квінта Курцыя Руфа, рымскага гісторыка, які ў працы “De rebus gestis Alexandri” апісвае пакліканне на сідонскі трон маладога і беднага садоўніка Абдаланіма *(аўтарская зноска)*.

**Вяселле**

Неяк аднойчы сябры арэапагу (так называўся орган дзяржаўнай улады ў Афінах), з архонтамі (прадстаўнкамі вышэйшай улады) на чале, а разам з імі і самыя знакамітыя сафісты, філосафы, самыя багатыя купцы, мастакі і дэлегаваныя горадам уласнікі паўсталі перад Маркам Антоніем, пасля чаго так званы эпонім, гэта значыць першы архонт, звярнуўся да яго:

– Багам падобны і багам роўны Антоній! Не скарыстацца тваім знаходжаннем у Афінах і не пакланіцца табе – было б з нашага боку злачынствам, якое душы нашы не змаглі б загладзіць усю вечнасць у Аідзе.Таму мы стаім перад тварам тваім і з тым вялікім задавальненнем, што ў асобе тваёй, о чароўны, мы можам ушанаваць адначасова Дыянісія, увасабленнем якога ты з'яўляешся, і цябе, марк Антоній, уладара Рыму, які з'яўляецца і нашым уладаром, кіраўніком і дабрадзеем. Бо ўсе разумныя і памяркоўныя людзі – усе, для каго дарагія мір і парадак, разумеюць, якую падзяку мы павінны выказаць Рыму не толькі за тое, што ён у свой час вызваліў нас ад Македонскага панавання, але і за тое, што, захапіўшы пад сваё крыло ўсю Эладу, ён пазбавіў нас у наступныя гады лішняй для нас незалежнасці і паклаў канец нашым унутраным нягодам. Калі ж здараліся пры гэтым

некаторыя непрыемныя інцыдэнты - стаўленне Ахейскага саюзу, а раней Карынфу, калі пазней і нас, афінян, караў дыктатар Сулла ў часы Мітрыдата, то прычынай гэтага была наша бестурботнасць, а не рымская строгасць. Але ўспаміны Мумія і Суллы пакрыты ўжо пылам мінулых гадоў, а свежую памяць бязмежнай міласэрнасці чароўнага Цэзара і тваёй, о, шаноўны Дзіянісій-Антоній, бо ты сам застаешся паміж намі, новай славай пакрываеш наш знакаміты старажытны горад. Вы маглі б адабраць у нас усё, і вы былі б цалкам справядлівым, робячы гэта, але з ласкі сваёй вы пакінулі нам столькі свабоды, колькі трэба для нашага шчасця і спакою. Ёсць, праўда, падрыўныя элементы паміж намі, ёсць, на жаль, людзі, якія, не ў сілах забыць часы Мільціяда і Фемістокла, мараць аб поўнай незалежнасці і поўнай свабодзе — ёсць дэмагогі, якія не разумеюць, што будучыня наша можна сцвердзіцца толькі пад дэвізам: "Рымская дзяржаўнасць пры мясцовым самакіраванні", — але мы, пасланцы, якія ў дадзены момант тут сабраліся, падымаем рукі ўверх і схіляем перад вамі, як перад Зеўсам, нашы галовы, мы не падзяляем і асуджаем іх і вуснамі, і сэрцам. Ацані, чароўны, нашу вернасць і даруй нам, як ты дараваў раней, што знайшлося некалькі вар'ятаў, якія ў часы знаходжання ў нашым горадзе Брута і Касія ўзвялі ім статуі побач са старымі статуямі Арыстагітона і Гармадыя. Ні ўсе за адных, ні добрыя за дрэнных, ні разважлівыя за дурных адказваць не павінны. Таму, калі ты нядаўна загадаў тваім ліктарам адлупцаваць дэбашыраў, якія адважыліся праспяваць на плошчы непрыемную, і недарэчную песню: "Яшчэ Грэцыя не згіне, пакуль мы жывыя" — мы ўбачылі ў гэтым тваю мудрасць, якая ўмее адрозніць вінаватых ад нявінных, і міласэрнасць тваю, якая не дазволіла з-за свавольства купкі баламутаў абкласці кантрыбуцыяй сур'ёзных і законапаслухмяных грамадзян. Але менавіта па гэтай прычыне любоў і падзяка так бязмежна пранікла ў нашы сэрцы, што некалькі дзён і начэй мы разважалі, як бы выказаць яе вам – і вось мы ўзвялі дзве вялікія бронзавыя статуі, адну з якіх паставілі на плошчы, другую на Акрапалі. Я буду вітаць іх, о, чароўны, кожны дзень, а тым часам народ наш ужо збіраецца перад імі натоўпамі і з раніцы да вечара, уладар, шануе цябе крыкам: – Evoe saboi Dionisos! (Хай жыве Дыянісій).



– Evoe saboi Dionisos! – паўтарылі члены арэапага, сафісты, мастакі, купцы і ўладальнікі нерухомасці.

смажанай бараніны і дзве ці тры кварты гарэлкі некалькі падвысілі настрой старога палкоўніка, аднак ён незадаволена бурчаў, што ў цяперашнія часы сярод паважнага людства амаль звялася ўжо шляхецкая годнасць і ніхто з-за яе не адважваецца ўступіць у зацяты двубой.

Так вось яны сядзелі за чаркай, і якраз у гэты час з начнога неба над прысакам сарвалася зорка і, цягнучы за сабой светлы след, пагасла ў цемры, не даляцеўшы да зямлі.

Выпрабаваны ваяр пан Плюта, мазур з харугвы Збаінскага, праводзіў знічку паглядам, перажагнаўся і прамовіў:

– Не мая.

– Чаму?

– У мазураў зоркі цёмныя, а гэта была светлая.

– У тых, хто гадае па зорках, свечкі ў вачах стаяць.

– Свечкі не для таго, хто сляпым нарадзіўся…

– Не ўспамінай ты, пане Плюта, сваіх мазураў, – азваўся пан Скупскі, родам з Ленчыцы, ад даўна ўжо іх баявы сябра.

– Мазур нараджаецца сляпым, але так добра бачыць, што нават за сцяной разгледзіць таго, хто насміхаецца над ім.

Усе думалі, што пан Заглоба не знойдзе чаго сказаць на гэта, але той паківаў галавой і зазначыў:

– А як жа! А як жа! Вядомая рэч! Свой свайго і за сцяной убачыць.

Каля вогнішча разлёгся вясёлы смех, гучней за ўсіх рагатаў пан Сіпайла з пад Ашмян.

– Напраміlы бог! – усклікнуў ён, – Ну і язычок! А вось я такога жарціка не дараваў бы і пану Заглобу. Падумаеш! Хай толькі…

Пан Заглоба, хаця і адчуваў, што закранулі ягоную годнасць, аднак глянуў на Скупскага неяк спагадліва, але тут пан Плюта, узрадаваўшыся, што можа на кімсьці сарваць злосць, выгукнуў:

– А ты б маўчаў лепей, боўдзіла! Яшчэ пораху не нюхаў, а туды ж, у гутарку старых ваяк умешваешся.

– Нюхаў ці не нюхаў, але можа не меней за вашу мосць спатыкаўся з ворагам – абыякавым тонам заўважыў Сіпайла.

– Праўду кажаш! – усклікнуў Заглоба. – Ты ж ашмянскі шляхціц, а яны ў адным боце і ў адным лапці ходзяць. У такім абуванні, ды яшчэ па слізгаце, можна не толькі спатыкнуцца, але і вобзем грымнуцца.

Тут усе зноў пачалі рагатаць, а Сіпайла, не столькі крыўдлівы, колькі зюклівы, шматзначна дакрануўся да шаблі і адказаў:

– Таму, хто мяне папросіць, не адмоўлю.

Памяркоўны шляхціц з Віцебска пан Партанты, прымірэнча ўставіў :

– Не сварыцеся, кіньце дурныя жарцікі!

– Лепей абувацца, як ашмянцы, чым мець чорнае паднябенне, як віцябляне, – тут жа знайшоўся Сіпайла.

– Лепей мець чорнае паднябенне, чым дурную галаву!

– Ну, хопіць, хопіць, перасталі! – умяшаўся пан Траццяк, украінец з пад Умані. – Не варта сварыцца перад выправай!

– А ты, васпан, чаго ўточваешся? – запытаўся пан Скупскі, той, што з Ленчыц.

– А вось мне так хочацца!

– Ці мала каму чаго хочацца! Бач ты яго! Панок з пад Умані… І на вас ёсць прыслоў'е…

– Якое?

– А такое. Уманцы з тых дурняў, хто з чужога воза *бэрэ, і на свій кладе,* – наварочваючы на ўкраінскі лад ядавіта вымавіў Скупскі.

– Закрый зяпу, прыдурак! Качка сем разоў пёрнула, а за сёмым разам ты вылузнуўся!

– Ты ў мяне зараз вылузнешся! Сатысфакцыя! (Задавальненне. франц.) Выклікаю цябе на двубой!

– Калі ласка! Заўтра раніцой я цябе задаволю!

– Раз так, то і я каго-небудзь на двубой выклікаю!

– Лепш за ўсё – маіх унукаў! – з'едліва адказаў пан Заглоба.

– А чым я горшы? – спытаўся пан Сіпайла.

– Каго ж ты выклікаеш?

– Ат, што там выбіраць… – усіх!

– Згода! – адрэзаў Заглоба.

І тут якраз да цяпельца падышоў афіцэр з харугвы пана Радражэўскага, а здалёку данёсся гук трубы.

– Па конях! – скамандаваў афіцэр.

– Ад вашай разведкі многа будзе залежаць, таму пастарайцеся абавязкова здабыць языка, нават калі дзеля гэтага давядзецца пакласці палову вашага атрада!

- Споўнім, – запэўніў стары рыцар, − А ўсё ж скажу, што такі загад лепш даць некаму, чым самому выканаць.

Афіцэр перасмыкнуў плячыма і павярнуў назад, а яны паехалі.

Ноч была зорная, але месяца на небе не было. За палянай быў невялічкі лясок, а далей цягнуліся палі, а над імі, як звычайна і бывае ўлетку, навісаў белы туман, здавалася, што гэта мора без канца і краю. Вузкая, прапахлая пылам дарога вілася сярод палёў аж пад тыя лясы, дзе мог хавацца вораг.

У тумане коннікі ледзьве маглі згледзець адзін аднаго, а ўдалечыні нельга было хоць што-небудзь убачыць.

– Туман, хоць сякеру вешай! – бурчаў Заглоба.

Так яны праехалі вярсту-другую. У тумане не было чутно нічога, апроч пырхання коней.

Раптам трое дазорных, што ехалі крыху наперадзе, павярнулі назад, крычучы:

– Уперадзе вораг!

І тут жа за імі пачуўся тупат коней. Заглоба прышпорыў свайго каня і крыкнуў:

– Да бою!

Праз хвіліну пачалася зацятая бойка. У імгле чуліся толькі крыкі змаганцаў, бразгат шабляў, іржанне коней, часам разлягаліся стрэлы.



Заглоба налятаў у цемры на ворагаў з зубрыным рыкам, хвастаў іх шабляй – са сваёй непамернай сілай ён быў страшны ў баі.

Пан Скупскі сек шабляй злосна, па-ленчыцку, побач з ім біўся пан Траццяк.

Пана Партантага шабляй хвасянулі па шчацэ, ён мог бы і загінуць, калі б пан Сіпайла, не адбіў другі ўдар, а потым ён ударыў ворага дзідай у горла.

Пан Плюта, стары і вопытны ваяка, круціўся ў віры бітвы як вуж у мурашніку – адзін нападаў на некалькіх, як ястраб на стаю дзікіх качак. Кожны стараўся дапамагчы, выратаваць адзін другога.

Тут якраз падзьмуў вецер, ён разагнаў туман, можна было лепей разгледзецца.

Іх сэрцы напоўніліся адвагай. І яны пачалі клікаць адзін другога, каб кожны мог ведаць, што сталася з таварышамі, хто з іх застаўся жывы. Спачатку Сіпайла, той самы, хто выратаваў Плюту, у сардэчным парыванні выгукнуў у тумане:

– Трымайцеся, мазуры!

– Жывем, ашмянцы! – адгукнуўся Плюта.

Услед за імі і іншыя пачалі адклікацца, адзін за адным:

– Слава Ленчыцы!

– Хвала віцяблянам!

– Ура, Умань!

– Віват Рэчы Паспалітай!

Але тут на іх наваліліся зусіх бакоў, нават з тылу, і яны нібы трапілі ў пастку. І кожнаму, з якіх бы мясцін ён ні быў, не хацелася пакрыць сябе ганьбай, каб было сорамна перад іншымі, таму ніхто не здаваўся, біліся да апошняга дыхання, без усялякай надзеі, на смерць.

Яны б так і палеглі ўсе, як адзін, але пан Збаінскі, ведаючы, што іх мала і ноччу можа здарыцца любая нечаканасць, прыслаў ім на дапамогу трыста мазураў, дужых і спрытных хлопцаў. Яны адагналі супраціўнікаў, разбілі іх, скрышылі, частку ўзялі ў палон, частку рассеялі. Байцы перадавога атрада былі выратаваны.

Збаінскі не мог стрымаць свайго здзіўлення, калі ўбачыў, колькі людзей яны пабілі – нібы капусты нашынкавалі.

– Тут, мабыць, не абышлося без умяшання нябеснай сілы, – прамовіў ён.

І ўсе яны разам вярнуліся ў лагер.

Тымчасам якраз развіднела, але, вярнуўшыся, ніхто не пайшоў на спачын, у вялікім узрушэнні ўсе селі за стол і пачалі баляваць. Яны пілі, елі і хвалілі адзін другога, ды слухалі Заглобу, а ён сціпла гэтак параўноўваў іх сутычку з геройскай бітвай старажытных грэкаў пад Фермапіламі.

Калі ўжо добра падвыпілі, пан Партанты прыставіў палец да вуснаў і прамовіў:

– Хлопцы, а як жа з нашымі паядынкамі?

– Што там ужо ўспамінаць? Мы перанеслі свой гнеў на ворагаў.

– І ім гэта прышлося дужа недаспадобы. –заключыў Заглоба.

А потым пан Плюта, які быў больш цвярозы, чым астатнія, ударыў сябе кулакамі ў грудзі, аж рэха разлеглася па хаце, і сказаў са скрухай у голасе:

– Я адчуваў бы сябе Каінам, калі б ні з таго ні з сяго праліў нявінную кроў. І гэта на старасці гадоў! Я, Плюта?

І ён заплакаў, ды так гучна і жаласна, што воіны з другіх харугваў заўважылі гэта, акружылі іх, пачалі пытацца, што здарылася.

Тут устаў пан Заглоба, і ўзняўшы высока гарнец з медавухай, загаварыў:

– Сябры мае, дзеці Божай Маці! Адно слова скажу, але такое, якое любы з вас гатовы паўтарыць. Нагадаю вам наш вядомы польскі заклік – КАХАЙМАСЯ!

– Кахаймася! – падхапілі ўсе астатнія.

І якраз ў гэтую хвіліну яны пачулі, што ў лагеры голасна затрубілі ў рог, то быў сігнал да вялікай бітвы.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

**Агеньчык**

Калі наёмныя рабочыя скончылі капаць бульбу на палях, ім выплацілі заробак за ўвесь час палявых работ. Яны ўзвалілі на спіны ўжо прыгатаваныя раней вузлы і рушылі пад вечар да бліжэйшай чыгуначнай станцыі. Адзін з іх не пайшоў за імі. Гэта быў Войцах Ліпецкі, селянін з-пад Касцян, ён выпадкам далучыўся разам з некалькімі іншымі да зарабітчан, якія ездзілі ў прускую Сілезію з Царства расійскага і працаваў разам з імі. Ён не пайшоў, па-першае, таму, што днём напрацаваўся з бульбай і адчуваў сябе незвычайна слабым, а па-другое, па той яшчэ прычыне, што хацеў зайсці ў барак, дзе ўвесь час жылі людзі, і забраць адтуль ікону Маці Божай Чанстахоўскай і алавяную лампадку. Ён сам іх вешаў, як набожны селянін, у куце над сваім ложкам, і, вядома, яму было шкада святых рэчаў, і гэта тым больш, што мясцовыя немцы-лютаране іх не маглі паважаць. Таму з гэтым намерам, атрымаўшы аплату ў канцылярыі, ён паплёўся да барака, узведзенага на краі прасторнага поля пад лесам, угаворваючы сябе па дарозе, што выспіцца, адпачне, а заўтра скончыць збірацца і пацягнецца за іншымі.




Ішоў ён неяк дзіўна – адчуваў, што ногі ў яго як саламяныя, што паясніца ў яго баліць і што ў грудзях у яго нібы цвікі, якія колюць яго пры кожным руху. Яму рабілася то горача, то холадна. Перад самым баракам яго ўжо моцна прыхапіла. Толькі ён увайшоў, ледзь-ледзь запаліў лямпу перад іконай і тут жа ўпаў, як падкошаны, на тапчан. Толькі пасля гэтага ён зразумеў, што на яго навалілася цяжкая хвароба, гэтак жа раптоўна, і з такой сілай, як улетку прыходзіць бура.

Ён адразу знясілеў. Хацеў перахрысціцца, але з цяжкасцю падняў руку да ілба, потым прыціснуў яе да грудзей, але да левага пляча не дакрануўся. І ляжаў так нейкі час, нерухомы, як пень. Аднак, паколькі свядомасць яшчэ не пакінула яго, то яго спачатку ахапіла велізарная туга і шкадаванне, што людзі ўжо сышлі, а ён застаўся гэтакі ж адзінокі, як святы Лазар на чужыне. Бог ведае, ці завітае цяпер хто ў гэты барак, і за гэты час ніхто яму і збана з вадой не падасць. А што тут было

заўсёды пад вечар – і людскія галасы, і размовы, і скаргі, і спрэчкі, і смех, і спевы! А цяпер ціха. Мышы, якія восенню уцякаюць з палёў ад холаду, гойсаюць паўсюль і злосна грызуць дрэва, а каля згаслага вогнішча, у кучы бульбоўніку, ціўкаюць палявыя цвыркуны. Ён глядзіць на тапчаны, якія стаяць ля сцен, нібы ў надзеі, што, можа быць, хто праспаў і застаўся; глядзіць на дзверы: можа быць, хто што забыўся і вернецца, але нічога не відаць і не чуваць. Барак здаецца яму зараз такім велізарным, як ніколі, і ў глыбіні зусім запоўнены цемрай, таму што толькі адна лампадка перад іконай асвятляе яго. Селяніну становіцца неяк дзіўна няўтульна і проста страшна. Каб хоць адна чалавечая душа пры ім – каб хоць адно польскае слова зазвінела за сцяной – каб хоць адно! Нічога няма! Не дай Бог хварэць у такой пустаце – а тым больш паміраць без святара, споведзяў і сакрамэнтаў! Яму прыйшло ў галаву, што калі б ён так памёр, то прусакі пахавалі б яго на лютаранскіх могілках, а можа быць, нават закапалі б дзе-небудзь у полі каля лесу, як здохлую скаціну або сабаку.

– Абарані ад такого, Матухна адзіная, і ты, святая Варвара, апякунка добрай смерці!

У Ліпецкага ад бяссілля, шкадавання і тугі навярнуліся слёзы на вачах. Ён падняў вочы да полымя, якое свяцілася пад іконай, сказаў: "На тваю абарону спадзяюся, святая Божая Маці" – і маліўся бязмерна старанна, бо адно добра разумеў, што калі яна не падтрымае яго, то з ім будзе дрэнна. Але ўжо ў час малітвы ў яго так закружылася галава, што ён не мог скончыць. Спачатку да яго падступілі слабасць і дрыжыкі, а потым ахапіла такая гарачка, нібы яму хто насыпаў у галаву і ў грудзі распаленага вуголля. І відаць, што станавілася ўсё горш і горш, і ён усё больш губляў розум, таму што яму раптам здалося, нібы тапчаны сталі хадзіць адзін за адным па палаце, як гусі, і што з кроквaў барака звісаюць нейкія доўгія пасмы, да зямлі аблепленыя раямі чорных вялікіх мух. Ён заплюшчыў вочы, каб не бачыць, бо ў гэтым было нешта настолькі агіднае, што ён здрыгануўся. Але ён усё яшчэ быў прытомным, сказаў сабе, што яму гэта толькі здаецца і што гэтага на самай справе няма. Калі ён зноў адкрыў вочы, тапчаны стаялі па-ранейшаму пад сценамі, ні адна чорная пачвара не звісала са столі, і полымя лампады спакойна гарэла над ім. Але ён адчуваў сябе жудасна хворым, і яму было дзіўна, што ўсё здарылася так хутка. Ён даволі доўга ляжаў без руху, толькі вусны ў яго дрыжалі, таму што яго час ад часу ахоплівалі дрыжыкі. Але потым яго акаціла новая хваля гарачкі, і думкі зноў паблыталіся. У ліхаманцы, як на яве, ён бачыў усё больш і больш рэчаў, часам жудасных, а часам прыемных, таму што цяпер на яго прыйшло блажэннае бачанне.

Было такое ўражанне, што яму ўжо не хапіла духу сказаць сабе, што гэта ілюзія, але ён быў упэўнены, што Маці Божая сапраўды стварыла цуд і загадала анёлам перанесці яго ў імгненне ў родны Касцян. Вось ён ідзе шырокімі ліпавымі прысадамі ад горада да сваёй сядзібы... там восень і цудоўнае надвор'е. Лісты, адны чырвоныя, як полымя, іншыя жоўтыя, ціха сцякаюць з дрэў на зямлю, таму што ветру няма. На дахах дамоў залаціцца сонечнае святло. Ліпецкаму неяк не па сабе на душы,

і радасць залівае яму сэрца. Ён памятае, што быў хворы, але цяпер адчувае сябе здаровым і вяртаецца дадому. Ужо бачна яго хаціна за вішнёвым садам справа ад дарогі. Тым часам праходзіць ён каля сажалкі, па якой, нягледзячы на восеньскую прахалоду, рыбакі з сеткамі, а на беразе стаіць стары святар і ахоўвае ўлоў. Падходзіць да яго селянін, цалуе яму руку, а святар, паглядзеўшы яму ў твар, кажа:

– Пабойцеся Бога, пан Ліпецкі, дзе вы так схуднелі?

– Дабрадзей, – адказвае ён, – я захварэў у Саксоніі, але з Божай дапамогай ачуняў.

А на гэта святар:

– Так! Дзякуйце Багародзіцы, бо смерць на чужыне – пагібель не толькі для цела, але часта і для душы.

– Праўда, праўда, праўда!

Сярод гэтых відзенняў ён ненадоўга заснуў. Але праз гадзіну–другую ён раптам здрыгануўся і прачнуўся. Цяпер яму здалося, што свядомасць цалкам вярнулася да яго. Толькі лоб яго быў заліты халодным потам, і ў яго зацяклі рукі, ногі і нос. Яго ахапіла невымоўная слабасць. Ён чуў як быццам далёкія званы, хоць нават мышы перасталі скрэбсціся, і наступіла поўная цішыня. Тады ён падумаў, што пачынае паміраць.

Ён яшчэ раз хацеў перажагнацца – і не змог. Далёкія званы стагналі ўсё жаласней і жаласней. Ліпецкі глядзеў, лежачы на спіне, ашалелымі вачыма ў цемру, якая ў глыбіні барака згушчалася, станавілася ўсё цямней і, здавалася, кацілася як воблака ад дзвярэй да праходу паміж тапчанамі.

Аднак праз імгненне нерухомыя ўжо амаль зрэнкі селяніна пашырыліся ад жаху, і твар яго збялеў, як палатно, бо ў бараку адбылося нешта незвычайнае і злавеснае адначасова.

Жахлівы змрок пачаў зліваецца, сціскацца, і ўтварыў як бы постаць: яна акруглілася зверху, паявілася нібыта жахлівая галава, пашырылася ніжэй у велізарны торс, і ад гэтага тулава працягнуліся дзве доўгія цёмныя палосы, як рукі.

У Ліпецкага валасы ўсталі дыбарам на галаве, а зубы пачалі ляскаць, бо цяпер ён ясна бачыў, што з усяго гэтага змроку, які залягаў у глыбіні барака, выпаўз чорны, страшны здаравяка – і што волат гэты ідзе да яго.

Нейкі неймаверны, безжыццёвы жах напоўніў паветра. Як ад крыгі лёду, павеяла холадам.

А пачвара набліжалася, але рухалася павольна, як сляпая. Як ні дзіўна, у агіднай галаве зусім не было вачэй – і толькі рукі яна выцягвала ўсё далей і далей перад сабой, праводзіла раўнамерным, жахлівым рухам па тапчанах, нібы шукала, дзе тая жывая чалавечая душа, па якую яна прыйшла.

– Езус, Марыя!... – ускрыкнуў Ліпецкі. – Смерць! Смерць!

І ў гэты момант яшчэ адна, яркая, як маланка, думка асвяціла яго амаль згаслы мозг: што гэта не польская смерць пры яркім хатнім святле, пры заплаканых тварах,

пры грамнічнай свечцы і малітве, а чужая, чорная і ледзяная пруская смерць, якая душыць чалавека гэтак жа неміласэрна, як кат, і якая ёсць гібель без надзеі і ноч без святла, бездань без Бога.

І з апошніх сіл, у роспачы ён усё ж звярнуў погляд да іконы і пачаў клікаць ужо ледзь чутным, ціхім, са смяротнай ікаўкай голасам:

–Дзева Найсвяцейшая!!…

– Ратуй!…

– О, Божа!…

– Ратуй!…

Чорныя, страшныя рукі ўжо гладзілі бліжэйшы тапчан.

Але потым здарылася нешта такое, чаго не скажуць словы чалавечыя.

Агеньчык над лампадкай перад іконай раптам адарваўся і пачаў плыць, як залатая пчолка, па паветры – да пачвары.

Агеньчык рос з кожным імгненнем; у адно імгненне стаў полымем, разгарэўся, пабялеў. З бакоў у яго ўзляцелі крылы, над крыламі прыўзнялася галава, нібы ў кроне, і, ператварыўшыся ў бялявую птушку, маланкай кінулася на страшнага Чарнабога. І ўбачыў Ліпецкі вялікую бітву святла з цемрай.

Пачвара закруцілася, нібы змяя, у якую уткнулі жалеза. У цёмным целе зашыпела нешта накшталт распаленай сталі ў вадзе, пачуліся сіпенне і хрып. І вось ужо жудасная пачвара выгінаецца, разрываецца, і Арол дзяўбе яе, губіць, знішчае, выпальвае. Нарэшце чорны прывід паваліўся, трэснула галава, раскалоліся агідныя плечы, а потым усё развалілася і рассыпалася.

Увесь барак заліло святло, такое ж яркае, як сонечнае.

Тады серабрыстая птушка зноў ператварылася ў агеньчык і зноў прыляцела, як залатая пчолка, пад ікону. Ліпецкі ўжо спаў глыбокім сном і ў цішыні, якая залягла ў бараку, чулася толькі яго спакойнае роўнае дыханне.

Праз некалькі дзён вярнуўся селянін у добрым здароўі ў родную вёску і ўсю зіму – і ў горадзе, і па хатах – распавядаў, што з ім здарылася ў тую ноч. Пры гэтым некаторыя дзівіліся вялікаму цуду, іншыя ж думалі, што ўсё гэта ён бачыў у ліхаманцы або ў сне. Адзін стары святар глыбока верыў, што гэта быў сапраўдны цуд. Аднойчы ў нядзелю ён нават сказаў людзям у касцёле з амбона, што агеньчык прад лікам Багародзіцы можа па яе загадзе і ў Арла ператварыцца і што, магчыма, ён яшчэ не раз абароніць польскага селяніна ад не аднаго Чарнабога і не аднаго смяротнага праклёну.

№.30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

**У тумане**

Пасля бурнага рэвалюцыйнага 1905 года ў Варшаве пану Завадскаму прыйшоў ліст, гэткі ж бязмерна сумны і бязладны, наколькі сумнае і поўнае клопатаў беднае жыццё ўдавы. Вось што ў ім было:



*"Дарагі Мар'ян!*

*Пішу пану Мар'яну з вялікай і нясмелай просьбай, ці не будзе ён так добры, замест тых ста пяцідзесяці рублёў, якія мне пан выплачвае з капіталу, узяць маіх хлопцаў на нейкі час у ваш маёнтак Заваду. Бачыць Бог, я рабіла ўсё, што магла, але рукі ўжо апускаюцца. Забастоўка пастаянна працягваецца ў дзяржаўных школах, а аб прыватных, якія каштуюць дорага, я не магу і думаць. Пан Мар'ян ведае, з якімі намаганнямі я зводзіла канцы з канцамі пасля смерці мужа, але ўсяму ёсць мяжа. Калі б мне патрэбы не было думаць пра хлопцаў хоць да лета, то за тыя чатырыста рублёў пенсіі, якія мне выплачваюць па мужу, я б яшчэ неяк з Юлькай пажыла, але ўчатырох – ні ў якім разе! Тут з кожным імгненнем усчынаюцца новыя забастоўкі, а за гэта я асабліва перажываю, як яшчэ ніколі не бывала. Пасля ад'езду хлопчыкаў я арандавала б у доме адзін пакойчык з плітой, гэта б адразу на паўсотню аплаты за кватэру паменшала. Кажуць, што з лета і дзяржаўныя школы будуць польскімі, і я думаю, што, можа быць, Бог памілуе нас. Габрыэль вельмі здольны, а Феліксу засталося ўсяго год вучыцца. Абодва зараблялі трохі ўрокамі, але цяпер гэта рашуча абарвалася. Я ведаю, што падумае Мар'ян: што хлапчукі сапсуюцца ў вёсцы. Але яны возьмуць з сабой кнігі, і, зрэшты, ці не горш можна сапсавацца і ў Варшаве? Калі дзяржаўныя школы будуць з лета польскімі, то лягчэй будзе клапаціцца аб вызваленні ад запісаў і аб стыпендыях, таму што ў рэшце рэшт сваё ён зразумее і падтрымае. Адвакат Красуцкі, якога Мар'ян ведае, казаў некалькі дзён таму, што хутка ўсё зменіцца. Даруй жа, Божа літасцівы, бо сапраўды ўжо цяжка дыхаць.*

*Хлопчыкі тымчасам маглі б у Завадзе дапамагаць ці то з разлікамі, ці то з доглядам людзей. Можа быць, і ў ваколіцах знойдзецца для іх які занятак, а калі не, то ў любым выпадку ім будзе здаравей, чым тут – і бяспечней. Маладым патрэбна паветра, сытная ежа, і сон, і спакой – асабліва Габрыэлю, які вельмі далікатны і нервовы, а ў горадзе ўсяго гэтага яму не хапае, таму што лепшай кухні я не магу сабе дазволіць, а што тычыцца спакою, то тут яшчэ горш. Яны абодва пастаянна ходзяць на нейкія нарады з аднакласнікамі, з якіх часта вяртаюцца вельмі позна. У Завадзе яны змогуць хоць добра выспацца, таму што наконт таго, што мне хтосьці казаў, нібы дома ў Мар'яна пачаліся нейкія страхі, то хлапчукі над гэтым смяюцца. Фелікс не вельмі моцны, але асабліва Габрыэля трэба глядзець. Я прашу прабачэння ў мілага Мар'яна, што, не ведаючы яшчэ, ці задаволіцца мая просьба, ужо загадзя так усё выпісваю, але асмельваюся паверыць у добрае сэрца Мар'яна і яго дабрыню да нас. Што тычыцца адсотка, то мне яго дакладна не трэба дасылаць, таму што я ўсё ж разумею, што ў злотых пан не купаецца. Хай толькі пан Мар'ян зараз прытуліць хлопчыкаў, і я буду ўдзячная яму да самай смерці.*

*Нарэшце, я скажу ўжо адкрыта, што, хоць нам ёсць на што жыць, я ўсёроўна была б радай, калі б хлопцы цяпер з'ехалі з Варшавы. Тут нейкія дзіўныя вятры дзьмуць – Бог ведае, што яны надзьмуць, асабліва ў маладыя галовы. Я вагалася, ці варта ўсё адкрыта пісаць, каб гэта пана Мар'яна не палохала, але трэба сказаць праўду. Хлопчыкі пачцівыя і маюць залатыя сэрцы, але з вялікім болем прызнаюся, што яны неяк інакш ужо думаюць, і, здаецца, нават па-іншаму адчуваюць, чым мы. Я на іх не скарджуся, барані мяне Бог, толькі распавядаю, як цяжка даводзіцца жыць сённяшняму пакаленню, якое павінна было хадзіць у дзяржаўныя школы. Яны ўсёй душой супраціўляюцца ўплыву школы, і ўсё ж нешта ў іх ўвабралася як бы чужое. А як потым прыйшлі яшчэ гэтыя няшчасныя падзеі і ўсе гэтыя паняцці і перакананні, навязаныя Бог ведае адкуль і кім, то людзі зусім ашалелі. Я ведаю, што разумней стрэсці з сябе ўсё гэта рана-позна, асабліва такім здольным хлопчыкам, як мае. Але між тым хай пан Мар'ян не злуецца, калі яму часам здасцца, што ім ужо не да таго, што мы мелі на ўвазе і за што пралілося столькі крыві і слёз. Калі паміж намі паўстане такая размова, то і я буду пераконваць, колькі змагу, а потым ноччу памалюся за іх і трохі паплачуся ў падушку. Але пан Мар'ян – гэта іншая справа. Пан Мар'ян быў у Чэхіі на практыцы, ён бачыў свет і людзей, таму ён можа пераканаць іх і зрабіць на іх уражанне – толькі цярпліва, толькі мякка, таму што гэта дзеці. Ох, якія жудасныя часы наступілі, мой Мар'ян, якая галеча! І раней было дрэнна, але раней, калі і здарылася няшчасце з дзецьмі, то хаця б для Радзімы, а цяпер іх можна страціць дзеля чаго заўгодна – і тады ўжо ніякага суцяшэння няма. Таму я таксама і па гэтай прычыне прашу, пане Мар'ян, каб Фелікс і Габрыэль на гэта самы горшы час пажылі не дома – і каб іх па-бацькоўску адукавалі ў тым, што трэба. Дабрыня можа прывесці іх да ўсяго, і я буду маліцца, каб Бог даў Мар'яну лепшае здароўе. Маленькая Юлька рукі*

*дзядзечкі цалуе, а я яшчэ прашу, на выпадак калі будуць маразы, даслаць якія-небудзь цёплыя рэчы, таму што ў хлопчыкаў толькі школьныя шынялі. Я загадзя дзякую Мар'яна за ўсё, і застаюся з удзячнасцю.*

*Прывязаная да пана*

*Соф'я Навіцкая.*

*P.S. Хай Габрыэль прачытае ў Завадзе пану Мар'яну свае вершы. Я, як маці, не магу меркаваць пра іх, але Красуцкі таксама кажа, што ў хлопчыка вялікі талент.*

Мар'ян Навіцкі, уладальнік маёнтка Завада, быў немаладым халасцяком, які засядзеўся ў вёсцы, заняты толькі домам, трохі эгаістам і, зрэшты, нядрэнным чалавекам, але і нямоглым. Да нявесткі, аб якой ён гаварыў: "добрая, але экзальтаваная жанчына", — меў у глыбіні душы незвычайную любасць, нейкую інстынктыўную павагу, а пра яе цяжкае жыццё і пра яе самую думаў заўсёды з некаторай пашанотай. Ён, магчыма, нават ажаніўся б на ёй пасля смерці брата, калі б не тое, што ён ужо быў занадта хваравіты і баяўся цяжару пад пераменамі жыцця і нават тымі працэдурамі, якія неабходныя перад шлюбам. Ён таксама рэдка бываў у Варшаве, трохі з-за выдаткаў, а крыху з-за страху, каб фігура яго нявесткі, якая валодала яшчэ, нягледзячы на сіваватыя валасы, нейкім дзявочым абаяннем, не ўвяла яму ў галаву "непрактычныя" думкі. Аднак ён шчыра любіў маленькую Юльку. Да хлопчыкаў ён быў даволі абыякавы.

Прачытаўшы ліст, ён то моршчыўся, то занепакоіўся, а ў рэшце рэшт расчуліўся – і пачаў хадзіць па пакоі, разважаючы, згаджацца на прыезд хлопцаў, ці то, знайшоўшы прыстойную прычыну, адмовіцца. Але ён не адказаў у той жа дзень, бо яго паклікалі да фурманак, на якіх ён адпраўляў бярвенні на суседнюю фабрыку гнутай мэблі. Наступны дзень таксама пайшоў на абдумванне справы і развагі – і толькі на трэці ён адказаў наступнае:

*"Дарагая нявестка!*

*Хай прыязджаюць Фелікс і Габрыэль. У наступны чацвер коні будуць на станцыі. Што тычыцца адсотка, пра які піша нявестка, то я ўсё ж такі тут за кватэру не плачу, так што і браць плату за яе не магу – а за харчаванне таксама не вазьму, таму што Завада – гэта не рэстаран. У доме досыць месца, і чым я сам сілкуюся, тым і падзялюся з імі. У мяне не было б і сумлення, калі б я так разлічваўся з каханай нявесткай. Праўда, наконт наяўнасці цяжка, але ў горшым выпадку прышлю вам нешта з правіянту. Добра будзе хлопцам на самыя цяжкія часы даць прытулак, а яшчэ мілую нявестку парадаваць.*

*Зімой па гаспадарцы работы амаль няма, а ў акрузе распытаю, але таксама сумняваюся, таму што цяпер ужо і тут з'яўляюцца нейкія падазроныя фігуры, якія людзей баламуцяць і пра забастоўкі ім распавядаюць. Вечары зараз доўгія, так што хай хлопцы возьмуць кнігі і самі навучаюцца, а калі прыйдзе час, то змогуць здаць*

*экзамены. Я падумаю і пра тое, каб адкрыць ім вочы на некаторыя рэчы, але гэтак я кажу і сабе, скажу і ім, каб ні мяне, ні людзей не баламуцілі, таму што ў вёсцы ў нас ёсць чым заняцца. Хай мілая нявестка будзе спакойная, што яны знойдуць тут клопат і сэрца, а што тычыцца здароўя, то ў доме суха і цёпла. Аб страхах таксама няпраўда, таму што страхі не дома, а хутчэй у лесе, ды і то здаюцца толькі людзям, якія вераць у забабоны. Зрэшты, такім лібералам у страхі верыць не варта. Снегу ў нас многа  і ім усё ўкрыта, але паколькі  снег упаў на незамёрзлую зямлю, ёсць апасенне, як бы азімыя не сапрэлі. Дай Бог ранняй вясны, тады і нявестку з Юлечкой запрашу ў Заваду, а тымчасам цалую рукі каханай нявесткі, а маю маленькую гаспадыню сардэчна абдымаю.*

*Адданы вам*
*Мар'ян Навіцкі".*

На наступны дзень пасля гэтага адказу Фелікс і Габрыэль былі ўжо на чыгунцы, па якой і паехалі ў Заваду. Час быў позні, бо цягнік выходзіў амаль апоўначы. Аднак у зале быў вялікі натоўп, і вагон трэцяга класа, у які трапілі хлопчыкі, быў забіты падарожнікамі, па большай частцы габрэямі. Абодва Навіцкія адправіліся ў шлях з найвялікшай неахвотай, якая выразна адлюстроўвалася на  іх стомленых тварах. Яны аддалі б перавагу сто разоў магчымасці застацца ў Варшаве, каб працягваць раіцца і дзейнічаць. Але яны разумелі, што гэта была неабходнасць, аб якой жорстка заяўляў выгляд змардаванага і спакутаванага твару маці. Пры гэтым, ужо некалькі дзён нейкія дзіўныя і падазроныя фігуры сталі хадзіць за імі па горадзе і праходжвацца пад іх кватэрай. Таму маці стала так адчайна настойваць на гэтым ад'ездзе, і марудзіць больш было нельга.

Але менавіта гэта супадзенне хатняй беднасці з небяспекай звонку і гэты прымус, якому трэба было пасіўна падпарадкоўвацца, былі для іх ранімых душ чымсьці накшталт знявагі. Кампанія, з якой яны ехалі, зусім не раздражняла іх, аднак яны адчувалі, што паміж іх уласнай унутранай экзальтацыяй і гэтым напаўняючым вагон агідным збродам, сутнасць якога магла быць толькі ў грашовым прыбытку, ляжыць прорва. Патрапаны і брудны вагон, цьмянае святло абкурадымленых алейных лямпаў і душная атмасфера напаўнялі іх падсвядомым, але панурым пачуццём бесталковасці жыцця. Па ўсіх гэтых прычынах ноч абяцала ім быць гнятучай і невыноснай. У цеснаце, шуме і задусе не магло быць і гаворкі пра сон. Таму яны загаварылі пра тое, што будуць рабіць у Завадзе паўгода, і ў размове гэтай горыч змяшалася з іроніяй. Дзядзька ж загадаў не трывожыць ні яго, ні людзей, і ўсё ж сам не праміне абавязкова развесіць перад імі разнастайныя палінялыя сцягі і бясплодныя ідэалы. Пры гэтай думцы ў іх зарадзіўся бунт, нястрымны і тым раздражняльны, што ў той жа час падобны як бы на згрызоты сумлення, бо яны памяталі, што такія ж сцягі развешвала са слязамі на вачах перад імі іх маці. Яны любілі яе бязмерна, і ім здавалася, што, паўстаўшы за справядлівасць, яны паўстаюць

супраць гэтых слёз. І гэта была новая, невымоўная горыч. І акрамя таго, не толькі іх мазгі пад віхурай новых дактрын пазбаўляліся ад ранейшых ідэалаў, але дзесьці там, у глыбіні і на дне сэрца, была схаваная, як казурка ў кокане, міжвольная для гэтых ідэалаў ганарлівасць і нейкая прыхаваная трывога ў адносінах да іх, падобная на страх, які людзі адчуваюць у адносінах да замагільных духаў або святатацтва ноччу ў царкве. І ад гэтага яны не маглі вызваліцца. Яны таксама не адчувалі сябе шчаслівымі. Ім здавалася, што ў галовах іх гарыць святло яркае і выключнаісцінае, але што яно не выпраменьвае, не асвятляе іх жыццё і што яны ходзяць як бы ў прыцемках. У рэшце рэшт, яны бачылі сваіх равеснікаў з такімі ж ліхтарыкамі ў галовах, але гэта былі збольшага тупіцы – сапраўдныя грамафоны, у якіх былі нагавораныя радыкальныя клішэ, – і збольшага персанажы бязмерна ліхія. Праўда, і ў іх абодвух гэтыя станы душы былі настолькі смутныя і невыразныя, што яны не ўмелі нават гаварыць пра іх адзін з адным – яны адчувалі нейкі вялікі непакой, які не пакідаў іх ні на хвіліну, а цяпер суправаджае іх на шляху да Завады.

Ноч цягнулася гадзіна за гадзінай. Пагружаныя ў паўзмрок, чалавечыя фігуры пачалі апускаць галовы. Шум заціх і замёр. Ён абуджаўся толькі на імгненні, калі скрозь запацелыя вокны мільгалі станцыйныя ліхтары, калі адны падарожныя выходзілі з вагонаў, іншыя, якіх падганялі хвалі халоднага паветра, уваходзілі і займалі месцы. Гэтыя хвалі працверазілі хлапчукоў, якія не маглі, праўда, спаць, але і іх пачуцці пад уздзеяннем стомленасці і раўнамернага ходу машыны прыгаслі. Такім чынам, яны праехалі вялікую колькасць станцый, вялікіх, поўных мітусні, і меншых, настолькі ціхіх, што, акрамя воклічаў чыгуначных служачых, якія хадзілі па пероне, і свісту кандуктара, нішто не парушала цішыні. Нарэшце, чорныя вокны сталі сінець, а затым бляднець. Настаў млявы зімовы невыразна змрочны дзень. У вагоне высвеціліся цёмныя куты, дзе сядзелі, схіліўшы галовы, людзі. Цьмяныя лямпы патухлі.

– Габрыэль, ужо развіднела! – усклікнуў Фелікс.

– І ехаць ужо недалёка, – адказаў малодшы.

– Ты вельмі стаміўся?

—Так. А ты?

– Было цесна і нязручна.

Яны сталі праціраць павекі, а потым глядзець то адзін на аднаго, то на свае рэчы ў сетках над галовамі. У абодвух твары былі пакамечаныя, вочы акругліліся і ліхаманкава блішчэлі, як звычайна бывае пасля бяссоннай начы. Аднак, калі яны мінулі перадапошнюю станцыю, вагон амаль апусцеў. Толькі на супрацьлеглай лаве сядзеў нейкі стары з тварам сухотніка, які ўсю ноч жорстка кашляў, а цяпер страсянуў з сябе здранцвенне і стаў з імі размаўляць. Пасля звычайных пачатковых пытанняў і адказаў размова неўзабаве перайшла на нядаўнія варшаўскія і нацыянальныя падзеі. Стары асуджаў некаторыя падзеі вельмі сурова, і хлопчыкі сталі іх абараняць, у выніку чаго адкрылася іх мысленне. Але яны не ўстрывожыліся

гэтым, бо з запалых містычных вачэй сухотніка глядзела не здрада, а як бы глыбокая меланхолія чалавека, які знаходзіцца каля краю жыцця і які ў далёкі, невядомы шлях адпраўляецца ў клопаце і трывозе. Зрэшты, сам ён праз некаторы час змяніў прадмет размовы – а потым, даведаўшыся, куды едуць хлопчыкі, заявіў ім, што пана Навіцкага і Заваду ведае даўно, а яшчэ лепш Завадаўскі лес, дзе ў тысяча восемсот шэсцьдзесят трэцім годзе адбылася бітва, дакладней, гібель паўстанцаў, акружаных сіламі дзесяціразова большымі.

Хлопчыкі ў школе не раз чулі пра гэтую бітву, але дрэнна, таму што дзядзькі іх тады не было дома. Тады разам з бацькамі ён быў у эміграцыі ў Чэхіі, працаваў на гаспадарцы. Цяпер яны многа пачулі пра яе, і з-за гэтага падрабязнасці, якія распавядаў падарожнік, здаліся ім чымсьці надзвычай жывым. У іх адчуваўся пах пораху і крыві. Ён казаў, што з-за золку ружэйныя і гарматныя стрэлы тады так задымілі ўвесь Барок, што ў ім стала цёмна. Паўстанцы хаваліся і, блукаючы паасобку або невялікімі купкамі вобмацкам, па крыках толькі даведваліся, дзе каго забівалі. У рэшце рэшт, яны таксама былі выбітыя амаль усе. На хлопчыкаў дзіўнае ўражанне зрабіла тое, што падарожнік, які, мабыць, удзельнічаў у бітве, хоць пра гэта відавочна не згадваў, распавядаў аб усёй гэтай трагедыі спакойна, голасам зусім абыякавым, без скаргі на камандзіра, які дазволіў акружыць сябе, і без шкадавання, і нават як бы з сумам па рэчах, якія прайшлі і якія пайшлі ў цень мінулага. Здзіўленне іх узрасло яшчэ больш, калі ён нарэшце заявіў, што для яго гэта былі, аднак, лепшыя і асабліва высакародныя часы.

– Чаму? – спытаў Фелікс.

– Найперш  таму, – павольна і з націскам адказаў падарожнік , – што дрэва не гніло знутры, па-другое, таму, што ты ведаў, хто свой, хто чужы. І, нарэшце, што людзі ведалі, за якую справу і ад чыіх рук яны гінуць.

Хлопцы хацелі пачаць спрэчку, але ён пасля новага прыступу кашлю толькі махнуў рукой у знак таго, што загадзя ведае, што яны хочуць сказаць, а потым глыбока ўздыхнуў, паглядзеў на іх нейкім асаблівым поглядам і, панізіўшы голас, спытаў:

– Скажыце, вы не баіцёся?

– Каго?

– А тых, што ляжаць па ўсіх палях, лясах вось тут, каля  Завады, пад елкамі?

Наступіла маўчанне. Фелікс і Габрыэль здзіўлена пераглянуліся, затым вочы іх павярнуліся да спадарожніка, але ён, мабыць, вычарпаў сябе кашлем і размовай, бо адкінуў галаву на мех, які стаяў у куце,  і апусціў павекі. Змардаваны і скамечаны твар яго быў падобны на твар мерцвяка. Непрыемнае і дзіўнае ўражанне, якое зрабілі на хлопцаў апошнія яго словы, развеяў толькі свісток паравоза.

Хворы дзядзька, мабыць, ехаў далей, ён не варушыўся і не адкрываў вачэй, таму яны выйшлі, не развітаўшыся. На станцыі ўжо чакалі коні з Завады. Але аказалася, што стары возчык пана Мар'яна прыехаў з вялікім рэестрам даручэнняў, і

пры гэтым яму давялося прыглядаць за фурманкамі, якія прывезлі дрэва на фабрыку гнутай мэблі. Па гэтай прычыне ён прапанаваў хлопцам пачакаць "гадзіну-дзве" або каб, як яны ўжо не раз рабілі, самі адвезлі сябе ў Заваду, а ён, выканаўшы даручэнні, вернецца з фурманкамі пасля разгрузкі бярвенняў. Панічы зусім не спяшаліся ў Заваду, але пасля ўсяночнай валтузні ў вагоне яшчэ менш хацелася ім бясконца чакаць ва ўбогім мястэчку, і яны абвясцілі, што аддаюць перавагу таму, каб ехаць самім. Праз чвэрць гадзіны, выпіўшы чаю, яны рушылі ў шлях.

Каля станцыі і завода было няшмат руху, але сам гарадок, які ляжаў у вярсце ад станцыі, яшчэ не зусім прачнуўся, бо час быў ранні. На рынку яны праехалі міма некалькіх сялянскіх фурманак, запрэжаных худымі коньмі з мяшэчкамі, прывязанымі да іх мордаў; пад сценамі дамоў слізгалі дзе-нідзе асобныя фігуры, дзе-нідзе яшчэ толькі адкрываліся рыпучыя дзверы дамоў і аканіцы магазінаў. У сонную шэрасць дня і вільготнае паветра ўрываўся голас фабрычнай трубы – настойлівы, але як бы занепакоены беднасцю змрочных дамоў і мітуснёй таго жыцця, да якой ён будзіў сонны гарадок.

На вуліцы, на якую заехалі з рынку маладыя Навіцкія, пустэча была яшчэ большая, там бадзяліся сабакі, як у вёсцы. Неўзабаве яны мінулі яе і апынуліся на гасцінцы, які вёў да Завады. Снегу ляжала многа на палях і на дарозе, але ўсё ж такі была адліга, таму ён памякчэў, і санныя палазы слізгалі без шоргату. Ужо зусім развіднела, але дзень быў мглісты. Паблізу можна было добра бачыць прыдарожныя дрэвы, у той час як далеч маячыла нібы заслоненая фіранкай. Месцамі густыя туманы паўставалі на бязмежных белых палях і цягнуліся да дарогі. Доўгія, лянівыя, яны паўзлі, нібы іх  падпіхвала невядома якой сілай, бо ветру не было. Яны то хавалі наваколле, то зноў адкрывалі яго. Тады можна было бачыць снежныя гурбы, засыпаныя снегам кусты і палявыя грушы, якія спалі недзе ўдалечыні. Часам зверху раздаваўся прыглушаны, сумны крык крумкачоў, якія ляцелі ад лесу да пасёлка.

Смутак быў, аднак, не толькі ў гэтых галасах, але і ўсюды – у змрочным святле дня, у снежных маўклівых палях, у тумане і ў душах хлопчыкаў. Ім падалося, што з кіпячага жыццём, барацьбой і ап'янёнага надзеяй на перамогу горада іх адправілі ў нейкую бязмежную краіну здранцвення і смерці, якая ап'яніць іх, адолее, заб'е і ўсыпіць. Але менавіта таму гэты пранізлівы сум ператварыўся ў той жа горкі ўнутраны пратэст, з якім яны з'язджалі з Варшавы, а затым у такі ж рэзкі мяцеж супраць тых умоў, у якіх ім даводзілася жыць – і супраць той неабходнасці, якая цягнула іх туды, куды яны не хацелі ісці. Імі авалодала мацней, чым калі-небудзь, думка, якая захрасла ў іх галовах, што калі ўсё, што называецца сённяшнім жыццём чалавецтва і яго пуцяводным святлом, нельга перавярнуць і змяніць, то лепш хай само жыццё знікне. Акрамя гэтай думкі, існавалі ў іх паняцці толькі нікчэмныя або вымучаныя рэчы, раўназначныя цвілі і гнілі. Пасля бяссоннай ночы яны ўпалі ад стомы, нібы ў ліхаманку, якая пагаршала гэтае  ўнутранае замяшанне. Яны спрабавалі гаварыць аб гэтым, але ў іх нічога не атрымлівалася. Фелікс сядзеў

уперадзе як фурман і павінен быў сачыць за дарогай. Аднак гэта не перашкаджала яму ўнутрана тузацца і пратэставаць супраць любых сувязяў, якія так трымаюць чалавечую душу ў пэўных берагах, як трымае якарны ланцуг лёгкую лодку каля прыстані.

Гэта было тым цяжэй, што ад гэтых зімовых палёў, ад гэтай туманнай прасторы, ад гэтай белай пустэчы, ад груш, спячых сярод імглы, і ад гэтага вакольнага суму нешта ішло і клікала абодвух хлопчыкаў як бы па імёнах, нешта вітала іх як сваіх, нешта паглынала іх у сябе. Габрыэль, які быў больш уражлівы, чым Фелікс, адчуваў гэты містычны закон прыналежнасці мацней, і, не ўсведамляючы гэтага ясна, змагаўся з ім, аднак мучыўся яшчэ больш і супраціўляўся. Нарэшце і ён выдахся. Думкі і ўражанні бязладна ліліся яму ў галаву, тузаліся, сыходзіліся і разыходзіліся, змешваліся і пераскоквалі адна на другую. У вушах у яго гудзеў стук колаў вагона, дыханне паравоза, гоман падарожнікаў, і ў гэтыя галасы ўпляталася размова са старым сухотнікам. Цяпер ён выразна чуў яго кашаль і ягоны аповед. Вось яны заязджаюць менавіта ў гэты Завадскі лес – Барок – калісьці задымлены ад стрэлаў, поўны воклічаў, крыкаў і стогнаў. А цяпер як тут ціха і туманна! Здавалася б, тут ніхто ніколі не крычаў, акрамя крумкачоў і пастухоў, – і ніхто б не здагадаўся, што тут ляжаць паўстанцы.

І ўсё ж дзіўны сухотнік казаў, што гэта былі высакародныя часы, што людзі ведалі, за што іх забіваюць. А сёння што? – хіба яны не ведаюць, ці душа чалавечая змянілася? То была вайна за даволі вузкую справу, а цяпер гаворка ідзе аб усім свеце і аб свабодзе, такой ж паўсюдна разлітай і бязмежнай, як мора. Гэй! Старыя гісторыі хай спяць, а старыя ідэі хай не блукаюць, як праклёны, па свеце. "З жывымі трэба крочыць нам, каб новага шукаць жыцця..." гэта ж словы з верша “Марнымі шкадаваннямі” паэта Адама Асныка, таксама ўдзельніка студзеньскага паўстання 1863 года, партызана! Дзіўны гэты чалавек, ён аж закашляўся, калі задаваў сваё пытанне: "Ці не баіцеся вы тых, што там ляжаць пад хвоямі”. Якая дурасць! Бываюць часам уражанні невытлумачальныя і пакутлівыя. Ад чагосьці не так лёгка нешта прырослае адразаць, гэта заўсёды балюча, асабліва калі ад гэтага пакутуе і нехта іншы. Ва ўсіх таксама бываюць моманты нейкай трывогі – і... добра, што гэты Барок ужо канчаецца, таму што такія ўспаміны, якія з ім звязаныя, таксама свайго роду праклён.

Тут ён раптам прачнуўся, таму што сані сталі.

– Фелікс, ты чаго стаў? – спытаў ён.

Але голас яго прагучаў у тумане неяк дзіўна, нібы казаў нехта чужы і здалёк.

Брат павярнуў да яго твар і адказаў такім жа спакойным, заіклівым голасам:

– Не ведаю... конь...

Наступіла хвіліна маўчання, толькі коні сталі прысядаць на крупы і гучна храпці.

Яны былі ўжо каля самага месца, каля Завадскага Барка і ў першы момант не ўбачылі нічога, што магло б даць падставу для турботы, а тым больш для страху, і ўсё ж у імгненне вока валасы ў іх зліпліся пад шапкамі, зубы заскрыгалі, а зрэнкі пашырыліся ад спалоху.

Нейкі неймаверны жах напоўніў лес, паветра і туман, белаватае выцягнутае воблака якога слізгала папярок дарогі, уздоўж соснаў. Наступіла хвіліна застылай мёртвай цішыні.

І тут з туманнай імглы выйшаў атрад паўстанцаў-касінераў.

Ішлі сяляне ў сукманах, з косамі, насаджанымі на касавілы, на плячах. Яны ішлі па полі, прама па ўскрайку лесу і недалёка ад саней. Але крокі іх, вельмі натруджаныя і цяжкія, не рабілі аніякага шуму. Не было чуваць ні звону косаў, ні галасоў. У першым радзе ішоў святар у башлыку на галаве і з крыжам у руцэ. І ён, і тыя, каго ён вёў, схілілі галовы на грудзях і цягнуліся не як салдаты ў шэрагу, а хутчэй як людзі, што ідуць у пахавальнай працэсіі. Здавалася, яны зусім не бачаць санак і не чуюць захроплых коней, бо ніхто не павярнуў да іх твару. І ў гэтай абыякавасці, у гэтых схіленых постацях, у гэтым замагільным маўчанні было нешта такое мёртвае, што глядзелі на іх хлопчыкі, і ім ні на хвіліну не прыходзіла ў зледзянелыя мазгі думка, што гэта могуць быць жывыя людзі, а не прывіды мёртвых, якім нейкая таямнічая сіла загадала вярнуцца ў свет і ісці па снезе — у пасмяротнай задуменнасці.

І ўсё ж прывіды валодалі пранізлівым падабенствам рэальнасці. Адразу пасля касінераў праехаў мёртвы вайсковец на кані, мабыць, камандзір. Хлопчыкі ўбачылі, што побач з ім бег сабака, які, здавалася, слаўся па снезе. Пасля пачаў цягнуцца атрад стралкоў са штыкамі на ствалах вінтовак і са сцягам, у складках якога праглядваў белы арол. Тыя ішлі таксама павольна, пагружаныя ў цішыню і смяртэльны смутак. Шэраг за шэрагам перасякалі яны лясную дарогу, і разам з імі каціўся ціхі празрысты туман, ён хаваў абрысы людзей. Дайшоўшы да краю Барка, наперад выйшлі касінеры, а потым ваяры разгарнуліся на шырокім полі і сталі аддаляцца, а заадно і паступова размывацца. Туманы, шчыльней згусціліся над зямлёй, пакрывалі знізу іх фігуры, так што неўзабаве над белай заслонай віднеліся толькі плечы і галовы; потым водсвет жалеза штыкоў і кос пацямнеў, цёмныя рысачкі пачалі гаснуць у далёкай прасторы, і нарэшце іх узяла ў сябе далеч, маўклівая снежная прастора і пустата палёў.

Парыў ветру разбудзіў хлопчыкоў, як ад сну. Ветру не было зусім, але коні панеслі і паімчалі ў шалёным, дзікім бегу да Завады. Фелікс таму толькі не адпусціў павады, што яго рукі сутаргава сціснуліся. Але ён не змог стрымаць парыву і, нахіліўшыся на козлах, напоўбезсвядомы, вырачыўшы вочы, слухаў Габрыэля, які, схапіўшы яго за плечы, паўтараў задыханым, хліпкім голасам:

– Фелікс!... ты бачыў?…

– Фелікс! гэта кроў кліча!…

І раптам выбухнуў гучным плачам.

Толькі перад самай Завадай змог Фелікс спыніць узмыленых коней. Хлопцы прыехалі бледныя, маўклівыя, з запалам і таямніцай у вачах. Але дарэмна пан Мар'ян распытваў, што з імі і чаму коні прыйшлі ў пене. Ён пачуў толькі адказ, што яны спалохаліся чагосьці ў лесе і панеслі. Браты некалькі дзён не гутарылі пра з'яву нават адзін з адным. Фелікс, які валодаў розумам больш цвярозым і дапатлівым, хадзіў некаторы час глыбока задуменны і нарэшце прыйшоў да пераканання, што гэта, верагодна, былі іх уласныя ўражанні і пачуцці, якія нейкім таямнічым і недаследаваным яшчэ навукай шляхам выйшлі з іх іператварыліся ў бачную знешнюю з'яву. Але ў той жа час ён думаў, што пралітая кроў, абуджаючы такія пачуцці і прымхі, можа быць, сапраўды кліча так, што пра яе нельга забываць.

Але відзенне пранікла яшчэ глыбей ва ўразлівую душу Габрыэля. Таму, калі яго крыху супакоіла зімовая цішыня Завады, ён пачаў пісаць верш: "Да Маці Божай", пад загалоўкам жа ён паставіў у якасці дэвізу наступныя словы з біблейскага псалма нумар 137, аўтарства якіх прыпісваецца цару Ізраіля Давіду:

«Калі я забудуся  на цябе, Ерусаліме, няхай забудзецца на мяне правіца мая!»

**З краіны казак.**
**Будзь добрай!  Казка**

За гарамі, за морамі, у далёкай краіне цудаў, каля калыскі малой прынцэсы сабраліся добрыя феі на чале са сваёй каралевай.

Яны атачылі прынцэсу, глядзелі на сонны дзіцячы тварык і тут каралева сказала ім:

– Хай кожная з вас адорыць яе якім-небудзь каштоўным падарункам у адпаведнасці са сваёй воляй і жаданнем!

На гэта першая фея, схіліўшыся над спячай, вымавіла наступныя словы:

– Я даю табе чары прыгажосці і сілы, каб той, хто ўбачыць твой твар, падумаў бы, што ўбачыў цудоўную веснавую  кветку.

– Я, – сказала другая, – дам табе вочы ясныя і глыбокія, як вада.

— Я дам табе грацыёзнасць  і стройную постаць маладой пальмы  – прамовіла трэцяя.

— А я, — сказала чацвёртая, – дам табе вялікі скарб золата, якое да гэтага часу схавана ў зямлі.

Каралева на імгненне задумалася, потым, павярнуўшыся да феяў, загаварыла:

– Чалавечы стан непастаянны. Прыгажосць людзей і кветак вяне. Чароўныя вочы гаснуць з юнацтвам, да таго ж у юнацтве яны часта напаўняюцца слязьмі. Вецер ламае пальмы, і вецер жа згінае стройныя фігуры. Золата, калі не падзяліць яго паміж людзьмі, абуджае ў іх нянавісць, а хто хутка  скарыстае яго, у таго  ў куфры застанецца пустата. Нясталыя вашыя дарункі.

– Што ж ёсць у чалавеку даўгавечнае, і чым жа ты адорыш яе,  царыца наша? – спыталіся феі.

А на гэта каралева:

– Я дам ёй дабро. Сонца пышнае і зыркае, але калі б яно не сагравала зямлю, яно было б усяго толькі мёртвым камяком. Дабрыня сэрца – гэта тое, што цеплыня сонца: яна дае жыццё... прыгажосць без дабрыні – як кветка без паху або як храм без бажаства. Вочы могуць любавацца такім храмам, але душа не знойдзе ў ім заспакаення. Багацце без дабрыні – гэта прыступка да эгаізму. Нават каханне без дабрыні – гэта проста агонь, які спальвае і разбурае. Ведайце, што вашы дары праходзяць, а дабрыня доўжыцца; яна падобная да крыніцы, з якой чым больш вады вы вычарпаеце, тым больш яна будзе  служыць вам. Так што дабрыня – гэта адзіны невычэрпны скарб.

Сказаўшы гэта, Каралева фей схілілася над спячай малой і, крануўшы рукамі яе сэрца, сказала:

– Будзь добрай!

**Казка пана Сабалы**

Мы сядзелі каля вогнішча, прыслухоўваючыся да цішыні ў Татрах, якая аж у вушах звініць. Набліжалася ўжо і гадзіна спакою, як раптам пан Сабала, ён жа  Ян Кшэптаўскі – гураль (горац) з Падгалля, вядомы гід-праваднік па горных Татрах, паляўнічы, апавядальнік і музыка, падняў свой маршчыністы твар, падобны адначасова і на галаву старога ястраба, і на твар вядомага англійскага паэта Мільтана. Імгненне ён глядзеў шклянымі вачыма ў агонь – а потым пачаў распавядаць:



Вось што я вам раскажу. Аднойчы ехаў селянін са свярдлом і тапаром у Новы тарг на заробкі. Недзе за Пароніным да яго прыбілася старая. Селянін, будучы мудрым, пазнаў у ёй, пшапрашам  пана,   смерць, і пачаў  думаць,

як ад яе пазбавіцца. Спыніўся і ўзяўся свідраваць дзірку ў пні прыдарожнай вярбы. Свідраваў, пакуль не прасвідраваў, а потым зазірнуў у яе.

– Што ты там убачыў? – пытаецца смерць.

– Калі хочаш ведаць, то сама зазірні.

Смерць амаль уся ўплішчылася ў дзірку, нічога не бачыць, а тым часам селянін высек тапаром кол з маладога бука.

– Я нічога не бачу – кажа смерць.

– Залазь у дзірку ўся, тады ўбачыш.

Ледзь смерць улезла зусім, заткнуў яе селянін, пшапрашам пана, букавым калом, асадзіў кол абухом і пайшоў далей. І тут год за годам пайшоў, селянін жыве і жыве; і людзі перасталі паміраць; іх у Закапане, у Белым Дунайцы, у Рагалове, у навакольных вёсках, стала дужа многа. Селянін пастарэў, галеча адолела яго, жыць ён ужо не хацеў. І тут якраз нейкі дрывасек і патрушчыў тапаром той пень і вызваліў смерць. І смерць – пшапрашам пана – як скокне, як возьмецца касіць – у Закапане, у Белым Дунайцы, у Касцёлісках, у Хохалове, дашчэнту людзей памарыла, хаваць не было дзе. Прыходзіць, нарэшце, смерць да адной удавы – сямёра сірот у яе – і хоча забраць яе. А тут дзеці пачалі ўпрошваць:

– Не бярыце маці, не бярыце маці!

Смерць злітавалася над дзецьмі, але ўсй ж пайшла да Госпада Бога і кажа:

– Госпадзе Божа, як жа мне маці браць, яе дзеці так прасяць, так галосяць, што мне стала жудка.

І кажа так Господзь Бог:

– Я ў гэтых рэчах не разбіраюся, а вось мой сын Ісус – тое ведае. Ідзі да Ісуса, няхай ён скажа табе, як павінна быць.

Прыходзіць смерць да Ісуса і кажа::

– Госпадзе Ісусе, як жа мне быць? – сямёра сірот у хаце, ды просяць, ды так лемантуюць, што са мной нешта здарылася.

А Ісус смерці загадвае:

– Нырай у мора, прынясі камень!

Скокнула смерць у мора, на самае дно, прынесла кавалак скалы, падобны на бохан хлеба, і кажа ёй Ісус:

– Кусай!

Кусае смерць, кусае – зубы ў яе баляць. Раскусіла ў рэшце рэшт камень – і глядзіць: а ў сярэдзіне чарвячок малюсенькі сядзіць. А Ісус пачаў яе лаяць:

– Ці бачыш, – кажа – я і пра гэтага маленькага адважнага чарвячка на дне марскім ведаю і памятаю; а ты думаеш, што я пра сірот не ўспомню? Ідзі і забяры маці!

***Заўвага перакладчыка.*** *Гэтая казка ўся перасыпана словамі з закарпацкага дыялекту, які немагчыма перадаць у перакладзе. Каб паказаць далікатнасць*

*апавядальніка, пакінута толькі прыслоў'е-прабачэнне "пшапрашам пана", якое ён час ад часу ўстаўляў у сваю гаворку.*

**Каля брамы Раю**

Тук, тук!

– Святы Пётра! Адчыніце!

– Хто там?

– Гэта я, Любоў.

– Якая любоў?

– Хрысціянская.

Святы Пётр прыадчыніў райскую браму, бо ўжо з вопыту ведаў, што трэба быць асцярожным. А таму хуценька спытаў:

– Чаго ты хочаш?

– Прытулку.

– Як гэта – прытулку?

– Мне болей няма куды падацца.

– Табе ж загадана жыць на Зямлі.

– Але ж людзі мяне выгналі.

– Пабойся Бога! З-за некалькіх злых чалавек ты адраклася ад сваёй святой місіі і свайго перадвызначэння?

– Мяне выгналі не асобныя людзі, а ўсе народы Зямлі.

Святы Пётр адчыніў райскую браму, выйшаў на панадворак перад Раем і сеў на камень каля сцяны.

– Дык што там з табой здарылася? – занепакоена спытаў Пётр. О! Што я бачу! Ты прыйшла не адна? Хто гэта з табой?

– Мае дочкі: Справядлівасць, Літасць і Праўда.

– Іх таксама прагналі?

– Так! Для нас ужо няма месца паміж народаў Зямлі.

– Ты кажаш пра ўсе народы Зямлі, але ці так яно на самай справе? Людзі заўжды грашылі, заўжды вялі між сабой жорсткія войны, але ж ты ад іх не ўцякала?

– Так, людзі грашылі, людзі вялі жорсткія войны, аднак у глыбіні душы яны верылі і спадзяваліся, што хаця б з-за мяне трэба жыць. Цяпер гэтая вера згарэла датла. Не засталося ад яе аніякага следу, Святы Пётра, а таму мне болей няма чаго рабіць на Зямлі.

– А ў якім месцы ўсё пачалося? – запытаўся Святы Пётр.

– Хрыціянская Любоў апусціла руку долу, туды, дзе ў прасторы павольна паварочваўся Зямны шар, і паказала пальцам на цёмную пляму:

– Вунь там!

Святы Пётр угледзеўся ў тую цёмную пляму, доўга ўзіраўся, нарэшце сказаў:

– Бачу... горад, а ў ім мноства помнікаў...

– Гэта ўсё помнікі таму, чыё імя было – Нянавісць.

– Так. Я пазнаў яго... Гэта ён... Я ўсё зразумеў...

– Тады пусці мяне, Святы Ключнік.

– Зараз. Але скажы мне яшчэ, ці не спрабавала ты пайсці яшчэ куды?

– Пайшла на захад, але там уся краіна варагуе, нават брат брата ненавідзіць, там для мяне зусім не было месца.

– Ты магла б падацца яшчэ далей, за мора.

– У мяне грошай не было.

– Ну, а ў другі бок ад Горада Нянавісці?

– У мяне... пашпарта не было.

– І нікуды ты не пайшла?

– Нікуды.

– Ну, а каб наш Гасподзь распяты захацеў бы зноў вярнуцца на зямлю?

– Яго не пусцілі б, або прагналі.

Запанавала маўчанне. Святы Пётр падняў галаву, з нявесёлым здзіўленнем паглядзеў на Хрысціянскую Любоў і запытаўся:

– А ўсё ж скажы мне, што ім заменіць Яго навуку і цябе?

Яна адказала:

– Кажуць, што свабодны рынак…

**Вы самы добры?**



...Удалечыні віднелася цёмная стужка бору, перад борам возера, а сярод засеянага пшаніцай лугу стаяла хата, пакрытая саломай, зарослая мохам. Бярозы віселі над ёй зялёнымі пасмамі, на ельніку ў гняздзе стаяў бусел, а ў вішнёвым садзе чарнелі вуллі.

Праз адкрытыя вароты ў двор увайшоў вандроўнік і сказаў жанчыне, якая стаяла на парозе.

– Свет гэтай ціхай хаце, гэтым дрэвам, траве і ўсяму наваколлю, і табе, матухна!

Яна гасцінна прывітала яго, сказала:

– Хлеба і малака я табе прынясу, вандроўнік, а пакуль сядзь і адпачні, а то бачна, што ты з далёкага шляху вяртаешся.

– Я нібы той бусел ці ластаўка блукаў; я вяртаюся здалёк і ад дзяцей тваіх вестку прынёс.

Яна тут жа спытала вандроўніка:

– Ці ведаеш ты што-небудзь пра сына майго, Яську?

– А табе ён так падабаецца, што ты пытаеш спачатку пра яго? Вось адзін твой сын у непралазных лясах з сякерай працуе і апускае ў возера сетку, рыбачыць; другі - коні ў стэпе пасе, песні спявае і на зоркі глядзіць; трэці ў гарах падымаецца на скалы і там з авечкамі ночы праводзіць, слухае клёкат арлоў. Яны ўсе табе кланяюцца і прывітанне табе пасылаюць…

– А Яська? – спытала яна заклапочана.

– Сумную вестку я хаваю да апошняга. Дрэнная яму доля дасталася: зямля ў яго не ўрадзіла, беднасць і голад мучаць, у беднасці цякуць дні і месяцы. Сярод чужакоў і галечы, гаворку родную нават забывае, так і ты пра яго, бо ўжо не твой ён, забудзься!…

Калі ён сказаў гэта, жанчына, узяла яго за руку, павяла ў каморку ў хаце і, зняўшы з паліцы бохан хлеба, сказала:

– Вандроўнік, аддай гэта Яську.

Потым яна развязала прыгожую хустку, зняла яе і дрыготкім голасам сказала::

– Не пабагацела і я сама, але і гэта для Яські.

– Жанчына! – здзіўлена сказаў вялікі вандроўнік – сыноў у цябе шмат, а ты ўсё аднаму аддаеш. Ты любіш яго больш за ўсіх? Ён для цябе самы добры?

Яна ж, падняла вялікія сумныя вочы, залілася слязьмі, і сказала так:

– Дабраславеньне маё ўсім, але ахвяраванні гэтаму аднаму, бо я маці, а ён найбяднейшы.

*Міхась Кенька, лістапад 2022 года*

**Siankievich Henryk (Sienkiewicz Henryk) – “Fairy tales and Legends”. *Original translation from Polish by Mikhas Kenka***
*(webzine* **“Kultura. Natsyja”***, issue 30, November 2022, 320-423, www.sakavik.net )*
*Translation from published work of Henryk Sienkiewicz: Baśnie i legendy w cyklu Dzieła wybrane. Wybór, wstęp i przypisy Tomasz Jodełka-Burzecki.Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1991.*
*Abstract*: regarding the collection of short stories by Henryk Siankievich “Fairy Tales and Legends”. Henryk Siankievich is a world-famous Polish writer, a Nobel Laureate. His works have been translated for some time and are read worldwide. Yet his collected works were only recently gathered and published in Poland under one book title of short stories, which had been originally published piecemeal in journals and collections. For

the most part they were unknown for most later generations. His works consisted of allegorical, satirist and simply educational works written on the historical background and tied in with mythology of India, Egypt, ancient Greece, Rome and the Bible. Until recently they had not been translated and published neither into Russian nor Belarusian. In the meantime, they posses and present not only educational but also scholarly value as a testimony of still another largely unknown, yes – even to today's Polish readers, of Henryk Siankievish's tremendous literary talent.

**Генрик Сенкевич: Сказки и легенды. Перевод на беларусский Михася Кеньки.** *Перевод сделан с издания - Генрик Сенкевич: Сказки и легенды в цикле Dzieła wybrane. Wybór, przyszt i przypisy Tomasz Jodełka-Burzecki, Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1991.*

***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 320-423, www.sakavik.net )***

*Резюме.* Генрик Сенкевич – всемирно известный польский писатель, лауреат Нобелевской премии. Его произведения давно переведены и читаются во всем мире. Но только недавно были собраны и изданы в Польше под одной обложкой рассказы, которые Сенкевич публиковал в журналах и сборниках еще при жизни. И большинство из них не были известны последующим поколениям. Это аллегорические, сатирические и просто познавательные произведения, написанные на исторической подоплеке, связанной с мифологией Индии, Египта, Древней Греции и Рима, Библией. Они еще не переведены и не напечатаны ни на русском, ни на белорусском языке. В то же время они представляют не только чисто познавательную, но и научную ценность как свидетельство еще одной грани таланта Генрика Сенкевича, до сих пор неизвестной даже современному польскому читателю.

**ТАМ, ДЗЕ ДОЛЯ І СПАТОЛЯ**

*Развагі ў вершах Сяргея Жыценя (С. Панізьніка)*

1.

Там, дзе Доля і Спатоля, -
ёсць і тля…
Там ад Бэндэ
вырывалася сваволя,
дзе спустошана ім Воля –
сірацела і зямля.
…………………………..
Нашу Будучыню рвалі,
шкамуталі – а пасля
баранілі, гадавалі,
прыкладалі да брыля…

2.
Ад рамонту да пачынак
СВЕТЛЫ маем адпачынак!

3.
Не вяжыце мяне -
даражыце, -
восень зыркую
лепш падлажыце.
Пагуляю я смела па жыце…
А лісточкамі вы даражыце:
са смятанкаю іх пакрышыце.

4.
Каб зьвінела жэсць
і не злятала шэрсць -
нам не трэба везьці
сталяванне з клеці…

5.
Дзяды не ведалі бяды,
таму і ўнукі
не зазналі мукі…

Хай злыя слугі
і неслі слухі:
раструшвалі шляхі дакукі.

6.
Ну й раздухорыліся!
Нязмораныя ў добрасці -
у няспыннай хадзе:
толькі т э р ту с ідзе ! (тэртус – *цыганскае азначэнне*).

7.
Дзе ваду – есю!—не сплавіў
Пільны Вадзянік Някляеў?
- Не бяру бярэма з Крыма,
з Беластока, нават з Рыма…
Падказалі:
- Рабі пільна,
то і дома будзе Вільня.
Крыж Вякоў – на пераменку -
кіну Лабадзенку ў Менку,
каб з ім Славу пераймаць,
пра Бярэма Волі знаць.

8.
Канём аб'ехаўшы прычыну,
тузануў я за ляйчыну, -
каб траплялі пад ляйчыну
Веды новаму Зачыну!

9.
З першабытнай чысьцінёй -
босая вада…
Ну а ты сваёй гайнёй
што мыў, б а р а д а?

10.
Камяні на пні…
Іх нагамі не пні!
Просьба: кроны не крані…
Іх бароняць карані.

11.
Зоры з Чарамі ў спатканні -

для кахання ў калыханні:
- Зноў Парада: рубі кон, -
і пяройдзеш Рубікон!

12.
Усёй гамэрняй на мяне
навалілiся…
Толькі ў праўдзе сваёй
не паявiлiся.

13.
Вось такія мае датычнасці
і да вечнасці, і да звычнасці:
- Кожная Надзея
са мной толькі маладзее!

14.
Не аскудзела тут зямля:
Жыўнасьці – нямала!
Беларуская Сям'я
Шчасьце ўзгадавала!

15.

Нацягвае Аснову – Паніза Ткач.
А дзе? У кроснах!
- О, справа тут не простае:
Паніза – Ткач…
Гучанне – вострае!
Таму й прашу:
- Ты не лайдач:
разгортвайся
для ўсіх задач!
А што я зычу?
Толькі ўдач!

16.
На посьцілцы сухой, на дыване
сапраўдны беларус не ўздрымане, -
бо я хачу атавы саскубнуць
і з "коцікам-наркоцікам" прыснуць.

17.
Хто плыў верхам,
хто плыў нізам, -
усе лезлі ў камунізм.
Ды прастора пахавала,
што гадамі закавала.
Гонару было навалам,
ды Сумленне шчыт кавала,
для нашчадкаў мацавала.
… Ветравей магутны быў.
Гнуткі мацярык той – збрыў.
Памятаем наш парыў.

*2 жніўня 2022 года. Сяргей Жыцень*

**THERE WHERE IS FATE AND DESTINY**
*Thoughts in verse from Sjarhej Zhyten (S. Paniznik)*
***(webzine "Kultura.Natsyja", issue 30, November 2022, 424-427, www.sakavik.net )***

**Там – где судьба и умиротворение**
*Размышления в стихах от Сергея Жытеня (С. Панизник)*
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 424-427, www.sakavik.net )***

*З жыцьця беларускіх суполак*

**Пётра Мурзёнак: Дзень Чорнай стужкі - 2022 у Атаве**
*August 23, 2022, In front of Russian Embassy in Ottawa*

23 жніўня 2022 года прадстаўнікі дыяспар у Аттаве па традыцыі сабраліся разам, каб ушанаваць памяць ахвяраў камунізму і таталітарызму, і выказаць таксама сваю падтрымку украінскаму народу ў яго барацьбе супраць расійскай агрэсіі. На дэманстрацыі каля Расійскай амбасады ў Атаве сабраліся беларусы, латышы, літоўцы, палякі, украінцы, эстонцы. Прайшоў флэш-моб, які сімвалізаваў пахаваньне расійскай дыпламатыі. Выступілі з прамовамі сп. А.Кестэрыс (ад Латвійскай дыяспары і Асацыяцыі Балтыйскіх краін), Сябра парламента Канады сп.Чандра Арыя. Ад беларускай дыяспары з прамовай, якая падаецца ніжэй, выступіў старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтваў, доктар Пётра Мурзёнак.



**Dear friends!**
I wanted to say good evening, but it's not good one. We are here today to honor victims of totalitarianism and aggression.

The dark days continue in Eastern Europe. Today, more than ever, we face the global threat of the 3rd World War. Eurasian Russia continues its imperial colonial policy of capturing peoples, especially its neighbors, trying to turn them into its slaves.
Putin stop the war!
We, free Belarusians, like many people of the world, express our unconditional support for Ukraine, which is at the forefront of the struggle between good and evil, light and darkness. Many Belarussians these days are fighting shoulder to shoulder with Ukrainians against Russian aggressor.
We hope that Ukraine, and then Belarus, will achieve victory and enter the open space of freedom and democracy.
Glory to Ukraine! Слава Украіне!
Long live free Belarus! Жыве Беларусь!

**Дарагія сябры!**
Хацеў сказаць добры вечар, але ён не добры. Мы сёньня тут, каб ушанаваць ахвяраў таталітарызму і агрэсіі. Чорныя дні ўсё яшчэ працягваюцца ва Ўсходняй Еўропе. Сёння мы як ніколі стаім перад сусветнай пагрозай 3-й сусьветнай вайны. Еўразійская Расія працягвае сваю імперскую каланіяльную палітыку па захопу народаў, асабліва сваіх суседзяў, спрабуючы ператварыць іх у сваіх рабоў.
Пуцін стоп вайну!
Мы, вольныя беларусы, як і многія людзі свету, выказваем безумоўную падтрымку Украіне, якая знаходзіцца на пярэднім краю барацьбы паміж дабром і злом, святлом і цемрай. Многія беларусы ў гэтыя дні плячом да пляча з украінцамі змагаюцца з расейскім агрэсарам.
Мы спадзяёмся, што Украіна, як і Беларусь дамогуцца перамогі, выйдуць на адкрыты прастор свабоды і дэмакратыі.
Слава Украіне!    Жыве вольная Беларусь!
*23 жніўня 2022 года*

**Piotra Murzionak: Black Ribbon Day - 2022 in Ottawa**
*August 23, 2022, In front of the Russian Embassy in Ottawa*
***(webzine "Kultura. Natsyja", issue 30, November 2022, 428-429, www.sakavik.net )***
On August 23, 2022, representatives of the diasporas in Ottawa traditionally gathered to honor the memory of the victims of communism and totalitarianism, and also to express their support for the Ukrainian people in their struggle against Russian aggression.

**Пётра Мурзёнак: День черной ленты - 2022 в Оттаве**
*23 августа 2022 г., перед посольством России в Оттаве.*
***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 428-429, www.sakavik.net )***
23 августа 2022 года представители диаспор в Оттаве традиционно собрались вместе, чтобы почтить память жертв коммунизма и тоталитаризма, а также выразить поддержку украинскому народу в его борьбе против российской агрессии.

**Вечарына, прысвечаная "(Не) растралянай паэзіі"**

29 кастрычніка 2022 года адбылася вечарына онлайн, прысвечаная "(Не) растралянай паэзіі". Вечарына была ініцыявана актывістамі Беларускага Інстытута навукі і мастацтва Канадзе і Згуртаваньня беларусаў Канады. Гэта вечарына ў апошнія гады стала традыцыйнай як на радзіме, так і па-за яе межамі. У такі дзень 1937 года савецкімі катамі былі растраляны сотні нацыянальна-свядомых беларусаў, уключаючы і лепшых з лепшых беларускіх паэтаў. Падчас вечарыны прадстаўнікі з Атавы, Эдмантана, Манрэаля, Таронта чыталі вершы беларускіх паэтаў з 30-х гадоў мінулага стагоддзя, распавядалі пра свае адносіны да іх і да таго часу. У часопісе "К.Н.", №30 за лістапад 2022 г., падаюцца матэрыялы з выступленняў Ю. Шамецькі "Міхась Чарот - Гісторыя легенд. 1896 -1937" і П. Мурзёнка "Тры вершы да вечарыны "(Не) растраляная паэзія".

**Event dedicated to "(Un)shot poetry"**

***(webzine Culture. Nation, issue 30, November 2022, p.430, www.sakavik.net)***

On October 29, 2022, an online party dedicated to "(Un)shot poetry" took place. The party was initiated by activists of the Belarusian Institute of Science and Arts in Canada and the Association of Belarusians in Canada. In recent years, this party has become traditional both at home and abroad. On such a day in 1937, hundreds of nationally conscious Belarusians, including the best of the best Belarusian poets, were executed by Soviet regime. During the party, representatives from Ottawa, Edmonton, Montreal, and Toronto read poems by Belarusian poets from the 1930s, and talked about their relationship to poets and to that time. In the magazine "K.N.", No. 30 for November 2022, materials from the speeches of Yu. Shametka "Mihas Charot - History of legends. 1896 -1937" and P. Murzionka "Three poems to the party "(Not) executed poetry" are published.

**Вечер, посвященный «(Не)растрелянной поэзии»**

***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, с.430, www.sakavik.net )***

29 октября 2022 года состоялась онлайн-вечер, посвященный «(Не)расстрелянной поэзии». Инициатором вечера выступили активисты Белорусского института науки и искусства в Канаде и Ассоциации белорусов Канады. В последние годы такой вечер стал традиционным как на родине, так и за рубежом. В подобный день в 1937 году советскими палачами были расстреляны сотни национально сознательных беларусов, в том числе лучшие из лучших беларусских поэтов. Во время вечера представители Оттавы, Эдмонтона, Монреаля и Торонто читали стихи беларусских поэтов 1930-х годов и рассказывали о своём отношении к поэтам того времени. В журнале «К.Н.» №30 за ноябрь 2022 г. опубликованы материалы выступлений Ю. Шамецьки "Михась Чарот - История легенд. 1896 -1937" и П. Мурзёнка "Три стихотворения к вечеру "(Не)растрелянной поэзии".

№30, лістапад 2022 ISSN 2562-950

**Юрась Шамецька: "Міхась Чарот - Гісторыя легенд. 1896 -1937"**



*Нашы патомкі складуць шмат прыгожых легенд аб днях, у якія гарэла святая нянавісць і морам лілася кіпучая кроў.*

*Міхась Зарэцкі* [1]

*Анатацыя*. Міхась Чарот, як і ўсе "(не)расстраляныя" у ноч 29 кастрычніка 1937 года паэты, – яскравы ўзор вяртання літаратурнай спадчыны з нябыту бязпамяцтва, пацвярджэнне магчымасці аднаўлення са смерці ў жыццё, прарастанне беларускага слова, беларускай мовы праз тоўшчу небыцця. З Міхасём Чаротам звязана некалькі легендарных гісторый, якія сёння можна ўжо лічыць міфамі, настолькі нечаканымі і таямнічымі яны падаюцца. У артыкуле прыводзяцца сем з іх.

## Гісторыя 1 – Дзень Кастрычніка

Міхась Чарот (Міхась Кудзелька) нарадзіўся ў мястэчку Рудзенск, Ігуменскі павет, Мінская губерня, ў 1896 годзе, дакладней 25 - га кастрычніка па старому стылю, ці 7 - га лістапада па новаму, у дзень, калі адбылася кастрычніцкая рэвалюцыя 1917-га года. У дзень рэвалюцыі Чароту споўніўся 21 год, і ён заўсёды ганарыўся фактам, што яго дзень нараджэння супадае з "вялікай" – як тады лічылася – рэвалюцыяй. Чарот казаў, што лёс аб'яднаў яго з "кастрычнікам" назаўсёды і ўсё сваё дзейнае жыццё прысвяціў ідэям бальшавіцкай рэвалюцыі, шчыра верыў у яе ідэалы.

*Дык шумі, як шумеў, велікан-ясакар,*

*Шапаці, спелы колас, у полі...*

*А я песню сваю буду пець - я бунтар!*

*Буду клікаць народ свой да Волі.* [2].

Праўда, рэвалюцыя ж мела і прамое дачыненне да яго трагічнай смерці: ён быў арыштаваны і расстраляны.

**Гісторыя 2 – "Купалінка"**

Чарот супрацоўнічаў з тагачасным тэатрам Ўладзіміра Тэраўскага: іграў ролі, спяваў у хоры (меў цудоўны барытон), пісаў п'есы для тэатра. Самай вядомай п'есай у той час сталася п'еса Чарота "На Купалле" (1921). У ёй гучалі некалькі песень, напісаных Чаротам на музыку Ўладзіміра Тэраўскага. Тэкст п'есы быў знішчаны ў рэпрэсіях 30-х, але засталася адна песня – знакамітая "Купалінка", цяпер найбольш вядомая беларуская песня, якая доўга лічылася народнай. Але ў песні ёсць аўтары – Міхась Чарот і Уладзімір Тэраўскі.

**Гісторыя 3 – Чарот і Ясенін**

Калі п'есу "На Купалле" у 1923 годзе павезлі ў Маскву, Чарот сустрэўся з Сяргеем Ясеніным, знакамітым расійскім паэтам. З успамінаў Міхаіла Лойкі:

«Аднойчы ўвечары мы з Міхасём пайшлі ў клуб імажыністаў «Стойла Пегаса». Узялі піва, Ясенін прысеў і зазначыў, што яшчэ да рэвалюцыі чуў імя Янкі Купалы, нядаўна чытаў яго зборнік, перакладзены Іванам Белавусавым, а беларускіх вершаў ніколі не чуў, і папрасіў Міхася прачытаць што-небудзь сваё. Міхась пачаў сваіх «Босых на вогнішчы». Ясенін слухаў уважліва і позіркам як бы гаварыў: чытайце, вельмі цікава. Калі ж падбадзёраны Міхась дайшоў да радкоў «І аб лепшай, вольнай долі // Стаў ля рэчкі пець чарот», Марыенгоф перабіў буркліва: — Нічога не разумею.— А я ўсё зразумеў! — усклікнуў Ясенін і паўтарыў апошнія радкі. Асабліва яму спадабаўся прыметнік «лепшы», які ён паўтараў некалькі разоў запар. Ясенін засмяяўся, а пасля, кіўнуўшы на Чарота, сказаў Марыенгофу: — Толя, ён хоць і не імага, як мы з табой, але сапраўдны паэт і, значыць, брат нам."[3]

**Гісторыя 4 – Старшыня літаратурнага аб'яднання "Маладняк"**

Гады з 1921-га да 1927-га можна назваць гадамі беларускага адраджэння, калі паверыўшы ленінскім ідэям аб самавызначэнні нацый, шмат дзеячаў беларускай інтэлігенцыі далучыліся да хвалі адраджэння беларускай мовы і культуры. Міхась Чарот у той час лічыўся адным з самых важкіх беларускіх паэтаў: пісаў шмат вершаў і п'ес, актыўна друкаваўся. Выходзяць кніжкі паэзіі «Завіруха» (1922), паэма «Босыя на вогнішчы» (1922), зборнік апавяданняў «Веснаход» (1924), «Выбраныя вершы» (1925). Таму не дзіўна, што ў лістападзе 1925 года, на Першым Усебеларускім з'ездзе «Маладняка» Чарот быў абраны старшынёй новага літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Паэту заставалася роўна 12 год жыцця.



*Літаратурнае аб’яднаньне «Маладняк».*

*Сядзяць: Язэп Падабед, Алесь Якімовіч, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Язэп Пушча. Стаяць: Адам Бабарэка, Нічыпар Чарнушэвіч, Паўлюк Трус, Анатоль Вольны, Андрэй Александровіч, Кузьма Чорны. 1924 — 1925 гг.*

Пазней Міхась Чарот стаўся галоўным рэдактарам газеты “Савецкая Беларусь” і партыйным функцыянерам.

**Гісторыя 5 – “Лясная быль”**

Міхась Чарот – сцэнарыст першага беларускага фільма “Лясная быль”. Рэжысёр Юры Тарыч. Фільм выйшаў на вялікі экран у 1926 годзе. Падчас прэм'еры фільма ў кінатэатры "Культура" стаўся аншлаг.



*Кадр з фільма “Лясная быль”*

**Гісторыя 6 – Любоўная**

Чарот быў жанаты на актрысе Ганне Савіч. Анатоль Вольны, беларускі паэт і сябра Чарота, разам з Валерам Мараковым быў частым госцем у сям'і Чарота на Ленінскай вуліцы. Паэты разам выпівалі, чыталі вершы і весела бавілі час. Увагу паэтаў прыцягвала перадусім жонка Чарота, Ганна. Калі здымаўся фільм «Хвоі гамоняць», дзе Анатоль Вольны ўдзельнічаў як сцэнарыст, паміж Ганнай і Вольным узнік раман. У выніку Ганна пакінула мужа і звязала свой лёс з Анатолям Вольным.

Чарот вельмі перажываў гэты момант жыцця і знік з публічнага жыцця ў 1932 годзе. Пра яго лёс мала вядома да снежня 1937, калі ён быў арыштаваны і абвінавачаны, як кіраўнік "контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі". 29 кастрычніка 1937 года Чарт быў расстраляны разам з іншымі 102 дзеячамі беларускай культуры і навукі. Расстраляны быў таксама і яго былы сябра Анатоль Вольны.



*Паэты Анатоль Вольны і Міхась Чарот*

**Гісторыя 7 – Апошні верш паэта**

З успамінаў беларускага паэта Міколы Хведаровіча:

«У 1939 годзе я быў пераведзены ў адзіночную камеру. Уважліва агледзеў сцены, шукаючы надпісаў, і вось у кутку прачытаў тэкст верша, выкалупаны нечым вострым на сцяне. Гэта была апошняя сустрэча з маім любімым паэтам і другам Міхасём Чаротам. Гадамі я захоўваў гэтыя яго словы ў сэрцы" [4].

*Я не чакаў*

*І не гадаў,*

*Бо жыў з адкрытаю душою,*

*Што стрэне лютая бяда,*

*Падружыць з допытам,*

*З турмою.*

*Прадажных здрайцаў ліхвяры*

*Мяне заціснулі за краты.*

*Я прысягаю вам, сябры,*

*Мае палі,*

*Мае бары, —*

*Кажу вам — я не вінаваты!*

**Літаратура**


1. Міхась Зарэцкі. “Паэма пра чорныя вочы”, 1927.
2. Міхась Чарот. Верш “Бунтар”, 1922.
3. Рыгор Хацкевіч. Знаёмства ў «Стойле Пегаса». Успаміны Міхаіла Лойкі. // «Лім» 1975, № 41, 10 кастрычніка.
4. Леанід Маракоў. “Ахвяры і карнікі”, — Мн., 2007.


**Yuras Shametska: “Mikhas Charot – History of Legends, 1896 – 1937”**
***(webzine “Kultura.Natsyja”, issue 30, November 2022, 431-435, www.sakavik.net )***
Abstract: Like all poets, who “were supposedly not shot” on the night of October 29, 1937, Mikhas Charot appears as a brilliant example of a person who has been recalled from our forgotten past literary heritage. His case confirms the possibility of reawakening works like his from death to life, the further development of our Belarusian literature and language despite its past forced eradication from our memory. Several legendary histories which today can be considered as myths turn out to be so unexpectedly surprising and mysterious. In this article we discuss seven of them.

**Юрась Шамецька: «Михась Чарот – История легенд, 1896 – 1937»**
***(веб-журнал Культура. Нация», вып. 30, ноябрь 2022, 431-435, www.sakavik.net )***
*Аннотация*: Михась Чарот, как и все поэты, расстрелянные в ночь на 29 октября 1937 года, — яркий пример возвращения литературного наследия из забвения, подтверждение возможности возвращения из смерти в жизнь, прорастание беларусского слова, беларусского языка сквозь толщу небытия. С Михасём Чаротом связано несколько легендарных историй, которые сегодня уже можно считать мифами, настолько неожиданными и загадочными они кажутся. В статье представлены семь из них.

**Пётра Мурзёнак: Тры вершы да вечарыны "(Не) растраляная паэзія",**
*29 кастрычніка 2022 года*

*Анатацыя*. У кароткай прамове на вечарыне "(Не) растралянай паэзіі, 29 кастрычніка 2022 года, прыводзяцца разважаньні аб лёсе загубленых паэтаў і прадэкламіраваны тры вершы аўтара, прысвечаныя Курапатам, нястомнаму змагару З. Дашкевічу, і Нацыянальнаму генію Я. Купале.

Добры вечар!
Сёньня, калі мы ушаноўваем жыцьцё маладых паэтаў, загубленых сталінскім рэжымам, я прачытаю тры вершы, якія, на мой погляд, маюць непасрэднае дачыньньне да гэтай падзеі. Пачну я з напаміну пра ўрочышча "Курапаты", якое, дзякуючы працы Зянона Пазьняка, найперш стала вядомым для беларускіх людзей, з публікацыі ў 1988 годзе артыкула "Курапаты – дарога жыцьця" (З.Пазьняк, Я.Шмыгалёў).

У 2013 годзе падчас свайго візіту ў Беларусь, я яшчэ раз наведаў народны мемарыял. Але ў гэты раз, дзякуючы працы сп. Леаніда Маракова (сына растралянага паэта Валерыя Маракова), які адкрыў імёны тысяч і тысяч ахвяр сталінскіх рэпрэсій, я ішоў туды пакланіцца роднаму брату майго дзеда, Сяргею Ігнатавічу Мурзёнку, бо ведаў, што мой дзядзька, у 20-гадах мінулага стагоддзя, пайшоў з Пастаўскага раёна, што ў Заходняй Беларусі, у Мінск, вывучыўся на судздзю, але аднойчы знік ад сям'і ў жніўні 1937 года, а ўжо 15 лістапада 1937 года ён быў асуджаны на смерць як польскі шпіён, а 22 лістапада, праз пяць дзён пасля прыгавора, растраляны. Няма сумневу, што яго шлях перасякаўся са шляхамі маладых паэтаў і многіх іншых беларусаў, як у засценках НКВД, так і магчыма па дарозе ў Курапаты.

КУРАПАТЫ
Там дзе паэты -
там і мае дзяды!
Не ўсе там разам спрычыніліся,
ды ўсё ж -
пад хвоямі спачылі
некаторыя
за кальцавой дарогай.
Не ведала
затраўленае пакаленьне многа -
калі было б то сёньня
за вамі пэўна ж людзі прасачылі,
тады ж вас нелюдзі
за клас гуманны не лічылі ...

Пяюць ім ціха, так як могуць сосны ...
Плывуць бясконцыя над Мінскам -
без пакаяньня -
восеньні і вёсны!
*30 кастрычніка 2020 года, Атава*

Савецкія ўлады, як і лукашэнкаўскі рэжым ніколі не пакаяліся ў здзейсненых зладзействах. І толькі памяць людзей і наша з вамі памяць сёньня, гарантуе, што гэта калісьці будзе зроблена. Таму асаблівую ўдзячнасць мы таксама выказваем абаронцам Курапатаў - якія ПОМНЯЦЬ. У 2002 годзе мы з Атаўскага аддзела ЗБК высылалі каля 200 даляраў маладым людзям, якія ўзімку жылі ў намётах і перашкаджалі ўладам рушыць тэрыторыю мемарыяла – бо бачце гэтыя антынародныя ўлады вырашылі лажыць там дарогу. Сярод маладых людзей быў і Дзмітры Дашкевіч, чалавек, якога я глыбока паважанаю за яго перакананьні і яго дзеі – ён нават у адзіночку выходзіць на пікеты ў абарону народнага мемарыяла. Адзін раз на талаку ў Курапаты на жаль прыйшло не шмат людзей, дык сп. Дашкевіч публічна выбачаўся, што ён не мог быць там, бо знаходзізся на той час у турме. Верш “Прарок”, прысвячаецца Змітру Дашкевічу.

ПРАРОК

*З.Дашкевічу*

Так выйшла. Ясна неўзнарок.
І не сябры ў тым вінаваты,
І не народ, што ў Курапатах
Не вывучыў патрэбны так урок.

Так выйшла. Зроблены паважны крок,
Што прывядзе праз пакаяньне
Да згоды, праз ахвяраваньні
Да дня, калі заўважыць нас прарок.
*Аттава, 5 лістапада 2014 г.*

І яшчэ адзін верш. Я не прыхільнік адзначаць сумныя даты, па мне, напрыклад, дык лепей святкаваць дзень нараджэньня, чым дзень, калі чалавека не стае на зямлі. Усё ж сёньня, думаю важна ўспомніць вялікага паэта Беларусі Янку Купалу, лёс якога склаўся не менш трагічна, чым лёс “(не)растраляных паэтаў”. Уявіце, калі Купалы яму было ўсяго толькі 60 год. Гэты мой верш быў напісаны 10 год таму да 130-годдзя з дня нараджэньня Янкі Купалы. Сёлета, мы адзначаем 140 год з дня нараджэньня паэта, які зрабіў аграмадны ўклад ў станаўленьне беларускай нацыянальнай свядомасці. Верш называецца “Пясьняру”.

ПЯСЬНЯРУ

*Да 130-годдзя з дня нараджэньня*

Не скарыўся нікому пясьняр,
Да апошняга дня быў змагар,
Гора й шчасце з народам дзяліў,
Каб забраным край родны ня быў.

Ён народу свайму перадаў
Веру й мову – каштоўнейшы дар.
Цемру вершамі
нішчыў ваяр,
Вызваляючы сонца ад хмар.

Нам застаўся апошні іспыт –
Духа злога сагнаць у нябыт.
Як ні душыць чужынец-махляр
Пераможа Купала-пясьняр!

*Аттава, 16 жніўня – 14 кастрычніка 2012 года*

Дзякую.
Добрага ўсім вечара.

**Piotra Murzionak: “Three Poems for a Party of “(Not Shot) Poetry”,** *October 29, 2022*
***(webzine “Kultura.Natsyja”, issue 30, November 2022, 436-438, www.sakavik.net )***

Abstract: In the short introduction for a party of “(Not) Shot Poetry” related to the date of October 29, 2022 we discuss the fate of poets who were shot and killed on that night and we present three poems of the one person who has dedicated himself to keeping before the public’s memory today’s Kurapaty Forest Burial Ground, i.e. to the untiring fighter for this cause, namely – Zmitser Dashkievich, and to our national genius, Yanka Kupala

**Пётра Мурзёнак: Три стихотворения для вечера "(Не)расстрелянная поэзия",**
*29 октября 2022 г.*
***(веб-журнал “Культура. Нация”, вып. 30, ноябрь 2022, 436-438, www.sakavik.net )***
*Резюме*. В коротком выступлении на вечере «(Не)расстреленная поэзия» 29 октября 2022 г. автор размышляет о судьбах замученных поэтов и представляет три своих стихотворения, посвященные Куропатам, неутомимому борцу З. Дашкевичу и народному гению Янке Купале.

**Канферэнцыя “Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыннікаў”,**
*12 лістапада 2022 года*

12 лістапада 2022 года прайшла канферэнцыя "Беларуская нацыя вачыма дыяспары і суайчыннікаў". Канферэнцыя была арганізавана Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Канада) і вэб-часопісам "Культура. Нацыя", і праходзіла ў віртуальным фармаце. Яна была прымеркавана да 55-годдзя інстытута і 10-годдзя часопіса. На двух секцыях канферэнцыі і падчас круглага стала разглядаліся пытанні нацыянальнай свядомасці, гісторыі і культуры беларусаў на радзіме і ў замежжы ў сучасны перыяд. На канферэнцыі выступілі даследчыкі з шасці краін, у праграму было ўключана 15 дакладаў. Матэрыялы канферэнцыі апублікаваны ў гэтым нумары часопіса. Падчас дыскуіі на круглым стале былі напрацаваны рэкамендацыі, якія вырашана накіраваць Нацыянальнаму лідару – Святлане Ціханоўскай. У прыватнасці: сумленным беларусам - працягваць працаваць у беларускіх справах – кожнаму на сваім месцы; лічыць неабходным на ўсіх урачыстых мерапрыемствах выконваць дзяржаўны гімн – “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”; накіраваць высілкі на ўзмацненьне кантактаў паміж дзецьмі замежжа і дзецьмі на радзіме; арганізоўваць у беларускіх суполках таварыствы па пашэрэньню ўжываньня і веданьня роднай мовы (ТБМ); і інш.

Усю канферэнцыю можна прагледзець на Youtube https://youtube.com/@binimcanada

**Conference "Belarusian nation through the eyes of the diaspora and compatriots"**
*November 12, 2022* ***(webzine “Kultura.Natsyja”, issue 30, November 2022, 439-440, www.sakavik.net )***
On November 12, 2022, the conference "Belarusian nation through the eyes of the diaspora and compatriots" was held. The conference was organized by the Belarusian Institute of Arts and Science (Canada) and the web-magazine "Culture. Nation" and took place in a virtual format. It was timed to the 55th anniversary of the Institute and the 10th anniversary of the Magazine. In two sections of the conference and during the round table, issues of national consciousness, history and culture of Belarusians at home and abroad in the modern period were discussed. Researchers from six countries spoke at the conference, 15 reports were included in the program. The materials of the conference are published in this issue of the magazine. During the discussion at the round table, recommendations were developed, which were decided to be sent to the national leader - Svjatlana Tsikhanouskaja. In particular: to honest and real Belarusians - to continue working in Belarusian affairs - each in his own place; considers it necessary to perform the national anthem at all solemn events - "We will march out in strong ranks"; direct efforts to strengthen contacts between children from abroad and children at homeland; to organize societies for expanding the use and knowledge of the native language (TBM) in Belarusian communities; etc.

The entire conference can be viewed on Youtube https://youtube.com/@binimcanada

**Конференция «Беларусская нация глазами диаспоры и соотечественников»,** *12 ноября 2022 г.*

***(веб-журнал "Культура. Нация", вып. 30, ноябрь 2022, 439-440, www.sakavik.net )***

12 ноября 2022 года состоялась конференция «Белорусская нация глазами диаспоры и соотечественников». Конференция была организована Белорусским институтом науки и искусства (Канада) и интернет-журналом «Культура. Нация» и прошла в виртуальном формате. Она был приурочена к 55-летию института и 10-летию журнала. В двух секциях конференции и в ходе круглого стола обсуждались вопросы национального самосознания, истории и культуры беларусов в стране и за рубежом в современный период. На конференции выступили исследователи из шести стран, в программу вошли 15 докладов. Материалы конференции опубликованы в этом номере журнала. В ходе обсуждения за круглым столом были выработаны рекомендации, которые решено направить Лидеру нации - Светлане Тихановской. В частности: честным белорусам - продолжать заниматься беларусскими делами - каждому на своем месте; считает необходимым на всех торжественных мероприятиях исполнять государственный гимн - "Мы выйдем сильными рядами"; предпринять усилия по укреплению контактов между детьми из-за границы и детьми на родине; организовывать общества по расширению использования и знания родного языка (ТБМ) в белорусских общинах; и др.

Всю конференцию можно посмотреть на Youtube https://youtube.com/@binimcanada

**Сустрэча беларускай дыяспары са Святланай Ціханоўскай у Атаве**
*22 кастрычніка 2022 года*

Святлана Ціханоўская са сваімі паплечнікамі знаходзілася ў сталіцы Канады з афіцыйным візітам з 20 па 23 лістапада 2022 года. Апроч сустрэчы з І. Сурвілла і афіцыйных сустрэч у парламенце і з Прэм'ер-міністрам Канады, С. Ціханоўская сустрэлася з беларусамі Атавы, Таронта, Манрэаля. Сустрэча была арганізавана сябрамі Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК) і Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ, Канада). Сустрэча адбылася ў гатэлі "Лорд Элгін", на якую прыйшлі звыш 100 чалавек. Па даручэньню беларускай грамады выступіў Пётра Мурзёнак, доктар мед. навук, старшыня БІНІМ Канады, рэдактар часопіса "Культура. Нацыя" (кароткая прамова прыкладаецца). Ён падарыў Нацыянальнаму лідэру цыкл вершаў "Рэвалюцыя надзеі 2020", прысвечаны Святлане, Марыі і Вераніцы, а таксама сваю новую кнігу "Belarus: Prospects of a Middle Power". На сустрэчы выступілі таксама госьці: Барыс Генгало, старшыня Атаўскага аддзела Канадыйска-Украінскага Кангрэса і Андрыс Кестэрыс, старшыня Канадыйска-Латвійскай Асацыяцыі. С. Ціханоўская адказала на некаторыя пытаньні. Пасля цёплая сустрэча, якая доўжылася каля трох гадзін, праходзіла ў нефармальнай абстаноўцы – здымкі, аўтографы, падарункі.



*У прэзідыуме сустрэчы (злева направа): Дзяніс Дудзінскі – дыпламатычны дарадца, Святлана Ціханоўская – Нацыянальны лідар, Валеры Кавалеўскі – намеснік старшыні пераходнага кабінета і адказны за міжнародныя адносіны, Алена Лявончанка – старшыня ЗБК (здымак А. Каралькевіча)*

ISSN 2562-950



*Калектыўны здымак (здымак А. Каралькевіча)*



*П. Мурзёнак уручае кнігі сп. С. Ціханоўскай (здымак А. Каралькевіча)*



*Прамаўляе Б. Генгало (здымак А. Каралькевіча)*




*Прамаўляе А. Кестэрыс (здымак А. Каралькевіча)*

.

*Выступленьне П. Мурзёнка на сустрэчы беларусаў Атавы з камандай С. Ціханоўскай*, Лорд Элгін, *22.11.2022, 18.00-21.00*

Добры вечар паважаныя сябры!

Сёння мы маем вялікую прыемнасць вітаць сп. С. Ціханоўскую, нашага Нацыянальнага лідэра і кіраўніка беларускага аб'яднанага пераходнага кабінета. Яна прыехала да нас у Канаду з афіцыйныі візітам са сваёй камандай: Калі ласка, сп. Валеры Кавалейскі – намеснік кіраўніка пераходнага кабінета, у дадатак, ён адказвае за міжнародныя справы, Францішак Вячорка – галоўны дарадца офіса сп. Ціханоўскай, Дзяніс Кучынскі – дыпламатычны дарадца. Іх суправаджаюць – журналіст БелСата – Сяргей Падсасонны і аператар Белсата – Павел Навіцкі.

Сп. Св. Ціханоўская на палітычнай арэне Беларусі адносна нядаўна, з 2020 года. Аднак, зараз яна адзін з самых распазнаваемых і вядомых людзей у беларусаў на радзіме і за мяжой, ды і не толькі сярод беларусаў. Варта зрабіць пару клікаў у інтэрнэце, каб зразумець, што гэта на самой справе так.

Святлана Ціханоўская ўзваліла на сябе велізарны цяжар Нацыянальнага лідарства. Падаецца, што асноўная цяжкасць заключаецца ў аб'яднанні вакол сябе па магчымасці большай колькасці нацыянальна-свядомых сіл з мэтай зрабіць нашу краіну дэмакратычнай і вольнай. На самай справе справа архі-цяжкая. Адсутнасць адзінства ў 1918 годзе пры стварэнні БНР і ў 90-я гады сярод БНФ выліліся ў паразу. Магчыма скажу банальнасць - "кожны беларус сам па сабе занадта разумны" каб яднацца. Тым не менш мы бачым, што сп. Св. Ціханоўская з яе камандай паступова рухаюцца наперад і набываюць усё больш і больш прыхільнікаў. На маю думку вы,

Святлана, на сёння адзіная наша надзея, якая можа рэалізавацца праз кансалідацыю і аб'яднанне - у перамогу. Да вас ёсць велізарны давер. Асабіста я, а магчыма і многія прысутныя ў гэтым зале, гатовы далучыцца да вас і падтрымаць у рэалізацыі вашых планаў.

Мы усведамляем канешне, што сёння вельмі важным фактарам, які можа паўплываць на далейшы лёс Беларусі ёсць знешні фактар, які заўжды спрыяў беларусам у розныя перыяды іх гісторыі ўздыхаць значна лягчэй, вызваляючыся, хаця б часткова, ад каланіяльнага гнёта. Сёння такім знешнім фактарам для Беларусі з'яўляюцца ЗС Украіны. Відавочна, што перамога украінцаў над агрэсарам адкрые новые магчымасці для рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі.

Выказваючы свае цёплыя пачуцці хачу прэзентаваць вам Альманах "Беларус" за 2021 год, дзе змешчаны цыкл вершаў пад назвай "Рэвалюцыя надзеі 2020". Вершы пісаліся падчас рэвалюцыі і яны прысвечаны трыумвірату неверагодных жанчын – *Святлане, Марыі і Вераніцы.*

У дадатак, хачу вам прэзентаваць сваю новую кнігу "Belarus: Prospects of a Middle Power", апублікаваную ў гэтым годзе. Кніга пра мінулае, сёняшні дзень і будучыню нашай радзімы. Вельмі спадзяюся, што вы выкраіце час і прачытаеце яе.

Хачу пажадаць вам і вашай камандзе, каб усё што задумана вы зрабілі найлепшым чынам і з найменшымі ахвярамі.

**Meeting of the Belarusian diaspora with Svjatlana Tsikhanouskaja in Ottawa**
*"Lord Elgin" hotel, November 22, 2022*
***(webzine "Kultura.Natsyja", issue 30, November 2022, 441-444, www.sakavik.net)***
Svjatlana Tsikhanouskaja and her associates were in the capital of Canada on an official visit from November 20 to 23, 2022. In addition to the meeting with I. Survilla and official meetings in the parliament and with the Prime Minister of Canada, S. Tsikhanouskaja met with Belarusians from Ottawa, Toronto, and Montreal. The meeting was organized by members of the Association of Belarusians of Canada (ZBK) and the Belarusian Institute of Arts and Science (BINIM, Canada). The meeting took place in the "Lord Elgin" hotel, which was attended by more than 100 people. Piotra Murzionak - Doctor of medicine, the chairman of BINIM, Canada, and editor of the magazine "Kultura. Nation" - spoke on behalf of the Belarusian community (a short speech is attached). He presented the National Leader with the cycle of poems "Revolution of Hope 2020" dedicated to Svjatlana, Maryja, and Veranika, as well as his new book "Belarus: Prospects of a Middle Power". Guests also spoke at the meeting: Barys Gengalo, chairman of the Ottawa branch of the Canadian-Ukrainian Congress and Andris Kesteris, chairman of the Canadian-Latvian Association. S. Tsikhanouskaya answered some questions. Afterwards, a warm meeting, which lasted about three hours, took place in an informal atmosphere - pictures, autographs, gifts. Images by A. Karalkevich are attached.

**Встреча беларусской диаспоры со Светланой Тихановской в Оттаве.**
*22 ноября 2022 г.* ***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 30, ноябрь 2022, 441-444, www.sakavik.net)***

*Наступны 31-шы нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў красавіку 2023 г.*